# Змітрок Бядуля

## ЗБОР ТВОРАЎ У ПЯЦІ ТАМАХ

Рэдакцыйная калегія:

У. В. Гніламёдаў, В. А. Каваленка, М. І. Мушынскі, І. Я. Навуменка

Рэдактар тома:

В. А. Каваленка

Падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі

Р. І. Гульман і В. Ю. Дэконскай

# САЛАВЕЙ

## ЧАСТКА I

### 1

### СПЕВЫ САЛАЎЯ

Вясна.

Дазваляецца чытачу маляваць вясну па свайму густу.

Салоўка спявае.

Ці варта чапаць гэту маленькую шэрую птушачку?

Яна сваімі спевамі давала натхненне (як даўней гаварылі) песнярам усіх краёў зямлі.

Пакаленне за пакаленнем ткала шматмільную плахту вякоў, а салоўка ўсё спяваў ды спяваў, дыктаваў вершы рамантычна настроеным юнакам. Істужкаю гэтых вершаў можна аплятаць галу зямлі, як гліняны гляк дротам. Калі не верыце — папрабуйце!

Ці варта чапаць гэту маленькую шэрую птушачку?

Яна вясной атуляе музыкай наш бярэзнік, брызгае ў месячную павуціну гучным вадаспадам разнастайных трэляў.

Тады здаецца, што зоркі падаюць у хмызняк і звіняць срэбрам і шклом.

Тады здаецца, што салаўіная песня застывае на лузе кроплямі расы, дыяментамі радасных слёз.

Тады здаецца...

Кожнаму ўсё па-свойму здаецца.

А месяц — чырвоны, чырвоны. Вясновую ноч крывавіць. А часам ён сіні або іншага колеру.

Бывае месяц выглядае, як серп, як падкова, напамінае жывёліну, выстаўляе рукі, як чалавек, на хвойку ўзлезе.

Гэта ўсё залежыць ад аўтара.

А вочы ў яе робяцца таемнымі, вабнымі, а твар — бледны.

Вечная, яна марыць аб вечным ім.

А ўсяму гэтаму вінават салоўка.

Ці варта чапаць гэту маленькую птушачку?

Мы і не думаем чапаць.

Наш сказ аб такім салоўцы, які спявае нават узімку.

---

2

## НЯДЗЕЛЬНЫЯ ЗВАНЫ

Тры гады таму назад.

Летняя раніца. Сонца лезе гарэзліва ў акно. Не дае спаць. Тупат ног па тратуарах. Людскі гоман. Нядзеля.

На вуліцы рух.

Па кроках, па гутарках, якія чуваць праз ценкія драўляныя сцены маёй кватэры, пазнаю большасць маіх суседзяў і суседак з прадмесця.

Праходзяць каля майго акна дзве старыя дзевы: панна Вікторыя і панна Канстанцыя. Яны гутараць аб «пончках з кавай», якімі даўней карміліся. У галасах шасцідзесяцігадовых «панн» адчуваецца апетытнасць, імкненне да асалоды. Мне здаецца, што бачу іхнія шамкаючыся, слінявыя зморшчаныя губы і галодна-жаласныя падслепаватыя вочы.

Цяпер яны абедаюць у сталоўцы нейкай дабрачыннасці і патрохі жабруюць па суседзях.

Панна Вікторыя — пані, у якой панна Канстанцыя служанкаю ўжо гадоў трыццаць.

Панна Вікторыя часам заходзіць да мяне па «бжонтак» (кіпяток). Лічыць мяне «пожондным» чалавекам і стараецца адшліфоўваць, каб я зрабіўся «гжэчным» (далікатным).

Першыя правілы «гжэчнасці» ўжо ведаю, я павінен ёй казаць не проста «дзень добры!», а «дзень добры, панна Вікторыя!». Тады яна робіць «кніксен» і ўсміхаецца як пятнастоўка.

Пасля такога «свецкага этыкета» панна Вікторыя хоча мне пачытаць французскі раман — у знак пашаны да маёй асобы. Я рознымі хітрыкамі кожны раз выкручваюся ад такіх сеансаў.

Часта яна мне робіць заўвагі, што першы кланяюся панне Канстанцыі (а не панна Канстанцыя мне) і служанцы таксама кажу: «дзень добры, панна Канстанцыя!»

— Так не выпадае,— іртуецца панна Вікторыя.— Першым чынам, нязручна пану (гэта значыць, мне) найміткі (Канстанцыі) кланяцца і называць яе паннай.

Па-другое — я, мабыць, не здолеў успрымаць навукі добрага тону, бо не такога пахаджэння, як панна Вікторыя.

На гэта яна мне робіць тонкія намяканні, аднак удастойвае пашанай і кліча «до покою». Яна хоча паказаць свае дваранскія паперы з фамільным гербам.

Я кожны раз адмаўляюся, кажу, што веру ёй на слова. Яна гэтым вельмі незадаволена.

— Нех пан зобачэ,— не адстае яна.

Разнастайны стукат ног каля майго акна.

Ціхае шарканне яшчэ адной пары далікатных асоб — яшчэ дзве старыя панны, дзве сястры Браванжыцкія. Даюць прыватныя лекцыі французскае мовы.

Абедзве — высокія, ценкія, у чорных даўгіх польтах і чорных капялюшах. Яны падобны да старых ксяндзоў.

Абедзве закаханы ў маладога прыгожага ксяндза і гавораць цяпер аб ім з няменшым апетытам, чымся ранейшыя «панны» аб «пончках з кавай».

Такіх дэвотак праходзіць шмат каля маёй кватэры. З кантычкамі ў руках ідуць у касцёл, які знаходзіцца недалёка ад маёй кватэры, за могілкамі.

Звоняць званы.

Медзяныя гукі то жаласліва-пакорліва, то пагрозна-прызыўна клічуць у «божы дом».

Я пачынаю падбіраць біблійныя тэксты пад спеў званоў. Нічога не выходзіць. Даўгія радкі псальмаў ніяк не ўкладваюцца ў адсечаныя рытмы «глін-глан, глін-глан», што расплываюцца з-пад званіцы. Куды лягчэй падбіраць пад гэтыя гукі смешныя дрындушкі. Якраз званы хуткім тэмпам пачынаюць выраблять:

«Глі-гла-глі-гла-глі-гла
Глі-гла-глі-гла-глі-гла».

Зноў прыслухоўваюся да тупату на тратуары. Стараюся па характару крокаў пазнаваць людзей.

Шмат незнаёмых.

Па кроках я, аднак, пазнаю — мужчына ці жанчына, стары ці малады.

Дзеля ўпэўненасці падымаюся з ложка і гляджу ў акно праз вышыўку фіранкі. У большасці не памыляюся.

Тук-тук-дук! Тут-тук-дук!

Нібы не дзве, а тры нагі. Што за стварэнне з трыма нагамі?

Гэта ж мая кватэрная гаспадыня, у якой жыў у 1920 годзе.

Таксама набожная. Таксама маршыруе ў касцёл пад музыку званоў, бы ваяка пад стук барабана.

Ёй ужо больш за восемдзесят год. Яна набыла трэцюю нагу — моцны кій. Худы твар. Злыя, чырвоныя вочы. Нос да губ апусціўся. Скіўіцы завостраныя, жоўтыя, як пергамін. Яна вельмі баіцца смерці — і мае ад гэтага адзін паратунак: вечна есць. Ад гэтага ў яе заўсёды надзьмуты жывот — тырчыць, як у цяжарнай. Заўсёды яе непакоіць нястраўнасць. З жыватом у яе частыя непаразуменні. Яна кволым басам скардзіцца:

— О, Езу... Езу...

Тып-дрып! Тып-дрып!..

Пазнаю вас, старыя ногі пана Міханевіча!

Вострая бародка сівым трыкутнікам наперад, нібы працярэблівае сабе дарогу ў паветра. Сінія вочкі з-пад густых кустоў брывей пільна глядзяць удаль. Зірк-зірк жвава ва ўсе бакі, як дзве мышкі.

Ды ён (пан Міханевіч) слаўны, стары паляўнічы.

Пан Міханевіч нешта апавядае незнаёмаму мне (незнаёмы тупат ног) аб сваім удачлівым паляванні.

Пан Міханевіч мае прывычку паўтараць канцы слоў:

— Дык я пайшоў-шоў рана-на, яшчэ-чэ сам бог спаўпаў, з сваёй-ёй дубальтоўкай-кай, ажна-на ў лесе-се цецерукоў-коў! Я за імі-мі цікаваць-ваць, потым-тым калі трахнуў-нуў!

Далей не чую.

Нехта стукаецца ў дзверы.

Мой сябар В., загадчык савецкай гаспадаркі за дзесяць вёрст ад Мінска.

Моцна лае за такое познае спаннё. Трэба зараз жа ехаць з ім у саўгас. Фурманка тут жа.

Прывесці да парадку свой «туалет» — справа пяцёх хвілін.

— Снедаць будзем там. Яечня, малако, сыр і...

Мой сябар робіць «зладзейскія» вочы.

Я заўважыў, што адна кішэня ў яго моцна адтапырана. Стуль тырчыць старчма нешта падобнае да галавы гусака, аберчанае газетай.

— Спецыяльна дзеля гэтага газету купіў! — апраўдваецца мой сябар,— а то ўбачаць. Не выпадае.

Каля вачэй у яго зайгралі таемна-вясёлыя зморшчынкі.

## 3

## ІЛЬВІНЫЯ ЛАПЫ

Мы паехалі.

Каламажка грукатала і тарахтала па бруку, як вясковая сакатуха.

Горад быў абліты сонцам.

Конь бег шпарка. Будынкі мітусіліся ў вачах.

Выехалі за горад.

Новыя думкі, новыя настроі плылі-паўзлі да мяне ад вакольных пейзажаў, якія паволі чаргаваліся адзін за адным.

Кожны ўзгорак, кожная хвойка на мяне паглядала ветла і ўважліва. Над роўнымі шнурамі жытняга поля гойдаліся, віселі жаўранкі.

Дарога паволі соўвалася наперад. Сустракаліся конныя чырвонаармейцы. Бабы босыя, у святочных хустках, ішлі ў горад. Дзе-нідзе на полі недалёка ад якогасьці хутара сядзелі хлопцы і дзяўчаты. Высіліся ўгару жураўлі студняў. Тылілікаў гармонік.

Ад моцнага паху лугу і поля ледзь кружылася галава. Пад сінім прасторам сонечна-жаўранкавага неба я адчуваў сябе новым, іншым, чым у горадзе.

Мне здавалася, што ўся ўвага ваколіц звернута на мяне. Адвык ад вясковых палёў.

Праз усю дарогу мой сябар апавядаў аб жыцці рабочых у гаспадарцы, аб тым, як ён малочную справу добра нарыхтаваў і як наогул паставіў гаспадарку на ногі.

Толькі па інтанацыі яго голаса здагадваўся аб сэнсе слоў сябра і час ад часу мармытаў:

— Так, так. Добра, добра. Не, не.

Мы былі ўжо недалёка ад саўгаса.

Ехалі між ліпавых прысад.

Дрэвы высокія і густыя. Зверху, над дарогай, яны зрасліся ў адну лісцяную павець. Пад імі цень. Толькі дзе-нідзе між кучаравых галін прабіваліся, як праз замочныя дзіркі, сонечныя круглячкі. Яны бліпічэлі на жвіровым пяску новымі медзянымі пятакамі.

Забялеўся былы палац. Як на цэраманіял, выстраіўся вялізны сад. За ім — сталетні парк.

Мы саскочылі з каламажкі.

На зялёным, вялізным, як поле, дзядзінцы мяне сустрэў каля зарослай аірам сажалкі статак гусей. Гусак

з ваяўнічым задорам кінуўся на мяне, выцягнуўшы, як дзіду, даўгую шыю з завостранай змяінай галавой.

— Ідзём снедаць! — сказаў мой сябар з заклапочаным відам.

Яго заклапочанасць павялічылася з таго моманту, як толькі мы тут апынуліся.

Усё заўважала яго гаспадарчае вока. То каровы пасуцца на пасеках, дзе ён думаў касіць. То скошаная трава не вынесена на ўзгорак з мокрай лагчыны. На мяжы нехта ссек елку.

Мы ўвайшлі ў палац. Паснедалі хутка. Пасля гэтага ён пазнаёміў мяне са старэнькім дзедам, які ўзяўся паказваць мне стары палац. Сябар мой пайшоў брысці па гаспадарцы з рабочымі, каб размеркаваць працу на заўтрашні дзень.

Дзеду было гадоў шэсцьдзесят пяць: белавусы, худы, з ружовай лысінай, з жоўтым пухам вакол, якраз дмухавец. Відаць, фізічнай працай мала займаўся. Нягледзячы на свае гады, ён быў стройны і рухавы. Рукі гладкія з ценкімі пальцамі. На ім старая вайсковая вопратка колеру хакі. На нагах — «хадакі» з старых ботаў.

Дзед служыў у гаспадарцы вартаўніком. Да рэвалюцыі быў лёкаем у пана Вашамірскага — ранейшага ўладара гэтага маёнтка. Дзед ведаў усе закуткі строгага белага мура. Ведаў усю сямейную хроніку пана Вашамірскага і шмат цікавых гісторый пра бацьку і дзеда пана яшчэ з часоў паншчыны.

З абурэннем дзед гаварыў, як увосень 1917 года руйнавалі панскі маёнтак, як вакольныя сяляне выбівалі шыбы ў вокнах, хто нагамі бразгаў па фартэп'яна, хто абрываў плюш з пакояў Кацярыны II (яна калісьці спынялася ў гэтым маёнтку), хто аблупліваў скуру фатэляў, і як падпальвалі будынкі на двары.

Я тлумачыў дзеду, што, безумоўна, сяляне ўчынілі гэта непрактычна, бо дабро засталося б тут для іх жа. Але пачуццё помсты і нянавісці да паноў за векавечныя здзекі над імі, сялянамі, узяло верх, і яны хацелі знішчыць дашчэнту ўсе панскія сляды.

Ад усяго палаца, хоць ён быў заселены рабочымі, веяла непрытулам. Не гарманавалі сасновыя сталы, даўгія лавы і простыя ложкі з вялізнымі высокімі пакоямі. Палац больш падыходзіў для школы, чымся для жылля. Тут улетку, нават у гарачыя дні, было холадна.

Дзед апавядаў мне аб кожным пакоі. Маляваў ранейшую абстаноўку, паказваў, дзе быў панскі габінет, спаль-

ня, салон, дзе жыла дачка пана Вашамірскага, маладая панна Ядвіга.

Я заўважыў на сцяне апошняга пакоя прыбітыя металёвыя планкі. На кожнай з іх быў выгравіраваны год па парадку ад 1898 да 1917 знізу ўверх.

Дзед тлумачыў, што кожны год на імяніны панны Ядвігі мералі яе рост. На памятку прыбівалі гэтыя мядзяныя дошчачкі.

Нарэшце дзед мяне завёў у флігель, які ўпіраецца сваім акругленым фасадам у вялізны парк.

Гэты пакой — пусты, авальнай формы — вышынёю ахоплівае два паверхі. Праз каляровыя шыбы, аплеценыя густой павуцінай, прабіваецца святло сонца, раскідвае на сцены фантастычныя плямы. Звышку, ля суфіта, тырчаць вялізныя галовы сатыраў у старагрэцкім стылі. На фізіяноміях застылі гуллівыя ўсмешкі. Вакол сатыраў — барэльефы з шматгаловымі змеямі. Суфіт аздоблены трохкутнікавымі арабескамі, а ў самым цэнтры — стылізаваны польскі арол.

Па сценах, паміж замыславатых арнаментаў, мітусяцца разнастайныя старасвецкія княжацкія гербы. Супроць высачэзных напаўкруглых дзвярэй, таксама з каляровым шклом, выступае невялічкая галёрка.

Ранейшага прызначэння гэтага пакоя дзед не мог мне вытлумачыць. Пры ім пакой быў заўсёды пусты. Загадчык, у якога я пасля аб гэтым пытаўся, таксама не ведаў.

Гаварылі, нібы калісьці тут была масонская ложа ці, можа, пан сюды склікаў падданых на гаспадарчыя гутаркі. Для тэатра пакой таксама не падыходзіў. А можа, гэта быў летні салон, а галёрка была для музыкаў?

— А ўночы праз разбітыя вокны сюды кажаны набіваюцца, пішчаць, як мышы,— казаў мне дзед з вінаватай усмешкай на губах.

Цяпер, удзень, ластаўкі тут кружацца, гарэзліва б'юцца крылямі аб каляровыя шыбы. Вее рамантызмам у гусце Генрыха Гейнэ.

Я быў ахмелены паўзмрокам пакоя.

Дзед вывеў мяне на тэрасу, якая спускалася ў парк.

Пад стагодняй ліпай ляжала галава каменнага льва. На дарожцы вакол вялізнага запушчанага кветніка, нібы косці шкілета, тырчэлі з пяску абломкі львіных вялізных лап: рэшткі панскай культуры. Яна, безумоўна, мела сваё хараство, але гадавалася на нявольніцкім карку мужыкоў.

Міжволі носіш у сэрцы такое пачуццё да гэтае куль-

туры, якое мелі да яе тыя, хто з дзікімі ад злосці вачыма нішчылі панскія маёнткі сабе на ўрон...

З нейкай палёгкай на сэрцы я выйшаў з цяністага парка на пагорак — на санцапёк.

На мяжы каля жытняга поля журчэла вясёлая рэчка, пенілася па адшліфованых каменнях, і здавалася, што статкі маладых гусянят нырцуюць у вадзе між каменняў. У паветры стаяла млявасць сонечнага гарачага паўдня. Дрыжэў над зямлёй ледзь прыкметны залаты пылок. Ад бярозавага плота, аброслага губкамі, што стаяў вакол канюшыннага поля, аддавала прэласцю. Павольна чылікалі птушкі. Здалёк, пад лёгкім курадымам поўдня, драмаў бор. Як шэрыя, закарузлыя скрыніны, былі раскіданы дзенідзе хутаркі. Усё гэта ў нядзельны дзень абамлела пад сонцам.

Людзей, што даюць ажыўленне пейзажу, было мала на полі.

Я разлёгся на траве.

У шаўку лугу і над ім кіпела жыццё.

Мітусіліся, рухаліся, дзынкалі, гудзелі розныя кузуркі, мухі, матылькі. Соўваліся па лістах блакітныя і зялёныя кволыя чарвячкі.

Гэтым усім істотам луг здаваўся, мабыць, вялізным лесам.

Дзед сядзеў побач і апавядаў мне розныя гісторыі з часоў паншчыны.

## 4

## ГАЛАСЫ ЗЯМЛІ

Вельмі жвавы хлопчык быў Сымонка. Да ўсяго прыглядаўся, да ўсяго прыслухоўваўся.

Хлопчыка апанавалі колеры і гукі.

Усімі пачуццямі ўбіраў у сваю істоту вакольнае. Увесь свет быў, як у гняздзе, у яго сэрцы, для яго ж. Нават сам пан Вашамірскі, якому належалі ўсе вакольныя вёскі, той самы пан, што купіў яго, Сымонкі, бацьку за каня ў суседняга пана Весялоўскага, быў цікавым для хлопчыка. Ён наглядаў і за панам.

Што ж! і кузурка, што паўзе па лістку, мо думае, што свет створан спецыяльна для яе.

Школу жыцця Сымонка пачаў праходзіць маючы шэсць гадоў ад нараджэння. Спачатку пасвіў гусей на вялікім

выгане, пасля — свіней; за гэтым давалі пад яго апеку авечак, потым — кароў, а ў канцы зрабіўся і баранавалокам.

Ён паволі і грунтоўна падымаўся ўгору па лесвіцы мужыцкай навукі.

Апрача гэтага, Сымонка меў яшчэ незвычайную здольнасць, якой навучыўся ў палях і лясах пана Вашамірскага: падрабляць гукі прыроды і жывых істот.

Гаўкаць па-сабачаму, кукарэкаць, як певень, мяўкаць, як кот, мэкаць, як цялё, выць па-воўчаму — было для яго самай звычайнай і простай штукай.

Ён да таго па-мастацку мог брахаць, што перадаваў самыя замыславатыя тоны і пералівы голасу кожнага паасобку сабакі з псарні пана Вашамірскага.

Падрабляць голас і інтанацыю людзей было для яго самым простым жартам.

Ён мог губамі перадаваць дзынканне пчалы, гуд камара, шэпт лесу, скрып варот. Кракаў, як варона, кукаваў зязюляй, спяваў жаўранкам і заліваўся салаўём на розныя лады, на ўсялякія манеры.

У дадатак ён мог яшчэ падрабляць рухі і міміку.

Здаецца, як можна адной мімікай твару паказваць пеўня?

А Сымонка мог — скорчыць такую фізіяномію, зрабіць такія вочы, што кожны гаварыў:

— Певень, дый годзе!

Скакаць, як заяц, як цялушка — гэта нават увагі не варта.

Вялікая кемнасць да ўсяго гэтага была ў Сымонкі. Ён сваім дзівацкім талентам сам захапляўся, углыбляў яго, развіваў, адшліфоўваў. Гэта не было ў яго толькі забавай дзіцячых гадоў — наадварот: практыкаваўся ў гэтым штукарстве з кожным годам усё больш і больш.

Цяжка вытлумачыць, чаму спадабалася яму якраз такое штукарства, а не, напрыклад, ігра на музычным інструменце або звычайныя спевы. Звычайнае яго не вабіла, мабыць, дзеля таго, што гэта ён бачыў і чуў многа ў панскім двары.

Яму хацелася быць такім, якім свет (яго ваколіца) яшчэ нікога не бачыў.

Сымонка, яшчэ малым хлопчыкам, любіў спевы салаўя. У вялізным панскім парку ў кожную вясну іх было многа.

Інакш, чым на іншых людзей, рабілі на яго ўражанне

разнастайныя гукі лесу ўлетку, калі ён цягаўся туды са стадам.

Цяга да гукаў запанавала ім. Не так, як усе людзі, прыслухоўваўся да разнастайных пераліваў чалавечага голасу, да шораху пяску пад босай нагой, да скрыпу снегу, да выцця і свісту ветру, да шэптаў жыта на полі.

Вялізнае багацце гукаў, вечную іх іначасць ён знаходзіў усюды. Ён выкрыў, што ў тых мільёнах гукаў, якія чуе на кожным кроку, усюды, у любы час, няма сходных між сабою. Такое з'явішча яго вельмі дзівіла. Гукамі цэлы свет поўны не менш, чым мора — хвалямі, зямля — пяском, дрэвы — лісцем. Вялізны няведамы інструмент, які працягвае свае нябачаныя струны, нібы павуціннe, па ўсім свеце з канца ў канец.

Сымонка адчувае ў вакольным зусім не тое, што яго равеснікі. Часам сядзіць у полі на пні і пазірае ўдаль. Глядзіць і не бачыць, што зараніца палыхае ў нябесным бяскраі, пераліваецца ў розныя колеры. На кустах блішчыць шкляным шротам раса.

Ён прыслухоўваецца да галасоў зямлі — да яе тысячаструнных гусляў.

Дзіцячыя мары ахопліваюць яго:

— Эх, каб сабраць усе гэтыя гукі ў адно — у сваю жменю, і потым патрохі, кропелькамі, выпускаць іх адтуль. Аслабіў жменю: пачынаюць сыпацца розныя чалавечыя гутаркі. Раздаецца страшны плач-стогн, як анэгды плакаў Рымарчук, калі на стайні яму ўсыпалі гарачых бізуноў па загаду пана Вашамірскага. Адпусціў крыху яшчэ адзін палец — хтосьці зарагатаў. Замахаў жменяй — лясныя птушкі спяваюць, жабы квакаюць. Кіўнуў рукой яшчэ раз — вецер вые, грымоты гагочуць, паласуюць неба маланкі.

А вакол усюды ціха-ціха...

Усе галасы зямлі сціснуты ў кулаку Сымонкі.

Людзі анямелі, гаварыць не могуць. Жывёлы, птушкі — усе маўчаць. Не шумяць дрэвы. На зямлі пануе такая нямота, такая дрымотная ціша, што сполах бярэ. Панскі фурман махнуў у паветры даўжэзнай пугай. Яна самастрэлам заўсёды страляе, а на гэты раз анямела.

Захацеў пан Вашамірскі загадаць камусьці даць дваццаць бізуноў — голасу не мае...

Усе галасы зямлі захаваны ў кулаку Сымонкі.

Пры гэтым у выяўленні Сымонкі паўстаюць, як жывыя, смешныя малюнкі: людзі, жывёлы перапалоханы, не

разумеюць, што чыніцца вакол. Кожны паасобку думае — ці ён аглох, або свет увесь вымірае.

Сымонка бачыць перад сабою небывалыя, дзівацкія малюнкі.

Нацешыўшыся ў меру такім фокусам, ён,— фокуснік, што забраў у жменю ўсе гукі зямлі,— раптам расчыняе кулак, і галасы, песні, скрыпы, шумы, стогны, свісты, стрэлы, шолахі, звоны пачынаюць сыпацца ў свае ранейшыя месцы, як невідочны дождж. Для Сымонкі, можа, нават і відочны, бо ён адчувае рух і хваляванне паветра ад кожнага гуку і шуму; для яго, калі прайшоў гук які,— тое самае, што жывая істота, якую можна намацаць рукою. Вось як бы праходзіў чалавек ці жывёліна...

Патрохі ўсё зноў ажывае. Ніхто, апрача Сымонкі, нават і не прыкмеціў, як гэта сталася.

Сымонка ачуньвае ад сваіх сноў у яве. У яго толькі ёсць магчымасць падрабляць гукі, а не мець іх у сваёй уладарнасці. Але і гэта яго кемнасць дзівіць людзей.

Выйдзе ўночы. Ціш на дварэ. Раптам як закукарэкае, дык саб'е з панталыку ўсіх пеўняў. Яны пачынаюць за ім кукарэкаць не ў пару. Разам з імі збіваюцца з толку і мужыкі, і панскія чаляднікі. Певень паказвае людзям, калі на работу ўставаць.

Часам здумаецца яму завыць ваўком. Тады ўсе сабакі пачынаюць за ім цягнуць жудасную музыку. Па ўсіх вакольных вёсках людзі палохаюцца.

Чаляднікі паміж сабою пачынаюць часам шэптам праклінаць пана. Падкрадаецца, немаведама скуль, Сымонка і як загрыміць цюцелька ў цюцельку голасам пана Вашамірскага:

— «А бізуноў, лябедзіку, хочаш?»

Усе з перапугу пабялеюць, зуб аб зуб заляпае.

А здумаецца яму ні з таго ні з сяго ўзімку, у трыскучы мароз, заспяваць салаўём. Выйдзе на дзядзінец, як зацягне, пакуль хто з панскіх гайдукоў, па загаду цівуна, бізуном іх не разгоніць.

Так праходзілі дзіцячыя гады Сымонкі.

5

## ПАН ЦІВУН ВАРОН СТРАЛЯЕ

Гарачы летні поўдзень.

Жніво.

Больш паўсотні кабет, маладых і старых, жнуць панскае поле.

Мігацяць сярпы мядзянкамі-змейкамі. Бялеюцца хусткі і спіны жнеек. Бабы і дзяўчаты гнуцца да самай глебы — тварам да зямлі, а спінамі да сонца.

На шырокім прасторы светла-жоўтага жытняга поля чуваць шорханне.

Жых-жах, жых-жах, гутараць сярпы з цвёрдымі сцяблamі.

Каласы нахіляюцца, пільна прыслухоўваюцца да глухога шуму. Туліцца-ціснецца ў пяшчоце галоўка да галоўкі, а жняя душыць закарузлай, патрэсканай, мазалістай рукою, цэлае племя жытніх сцяблоў.

Каля жней шмыргаюць прыганятыя з бізунамі ў руках.

Конна гарцуе цівун між мэндлікаў па ржанні. Грозна крычыць:

— Прэндзэй, сабачая косць!

На вялізныя дваровыя драбіны мужыкі кладуць снапы. Трэба везці на панскае гумно.

У цівуна на плячах паляўнічая стрэльба. Ён здымае стрэльбу і пачынае цэліцца ў стада варон, што рассыпалася чорна-шэрымі плямамі па зжатаму полю.

Цэліцца доўга. Смешна жмурыць левае вока, падымае ўверх брыво над правым...

Сяляне пачалі пазяхаць каля вазоў. Спынілі працу і давай у гультаяватай зморанасці глядзець, ці пападзе «пан цівун» у птушку.

Зацікавіліся і жнеі. Хоць прыганятыя, калі хто зазяваецца, падаграваලі бізунамі, але на гэты раз і прыганятыя таксама сачылі за стральцом.

Гонар і пашана яму ад паднявольных людзей...

Паважна і пільна цэліцца цівун.

Зараз увесь прастор наскрозь прастрэліць.

Вакол ціха. Усе спынілі працу.

Павага, павага панскаму цівуну!

Адна старая сялянка не выцерпела — буркнула:

— Пану цівуну варон страляць, а нам спіны гнуць...

Вырваліся знянацку ганьблівыя словы. Ніхто не цягнуў за язык.

Не паспела яна скончыць, як падскочыў прыганяты, як падняў над ёй бізун. Ён злосна прахрыпеў:

— Я табе пакажу, псякосць, як бурчэць!

Ляск бізуна па згорбленых плячах кабеты не чуваць быў, хоць пры ўдары прыганяты моцна са смакам крыкнуў: «гэ-ээх!»

Свіст бізуна быў заглушаны стрэлам цівуна.

У адну і тую самую хвіліну трапілі.

Пакруціўся дымок. Запахла дымам.

Вароны з шумам, з лёскатам крылляў падняліся ўверх і паляцелі з трывожным карканнем у бок лесу.

— Паглядзі, лябедзіку!

Цівун паслаў мужыка паглядзець, ці папаў у птушку.

Той угодлівым крокам пабег, падскокваючы, як падстрэлены, па востраму ржышчу чорнымі босымі нагамі. Прынёс застрэленую варону, падаў пану цівуну і ўгодліва выціснуў з свайго нутра гукі, падобныя да смеху:

— Гэ-гэ-гэ-э-э!

У гэты самы час да цівуна падышоў прыганяты з даносам на старую кабету:

— Старая сука пана цівуна не паважае. Яна казала: «Цівуну варон straляць, а нам спіны гнуць».

Не паспела сысці з твару цівуна ўсмешка задаволенасці ад удачнай стралянiны, як твар наліўся крывёю, вочы заблішчэлі.

— Як?! во гэта падла старая будзе гаварыць? Я ёй пакажу! Палажыць ёй за пазуху мёртвую варону! Няхай трымае да самага вечара! Гэй, ты, галган,— звярнуўся ён да мужыка,— дай яму (цівун паказаў на прыганятага) варону!

Прыганяты ўзяў з рук мужыка варону і панёс з рогатам да старой бабы. За ім на кані пад'ехаў і цівун.

Старая кабета з лямантам-выццём кінулася цівуну ў ногі. Яна крыжам распласталася на ржышчы чуць не пад самыя ногі каня і выла немым голасам. Ледзь можна было ў гэтых прыдушаных галошаннях пазнаць словы:

— Даруй, паночку... даруй, міленькі...

Строгі і грозны быў пан цівун.

Старую паставілі на ногі, расшпілілі ёй вопратку і палажылі паміж худых вісячых грудзей за зрэбную, цвёрдую, як бляха, кашулю — акрываўленую, забітую варону.

— Жаць, псякосць, ідзі! — крыкнуў пан цівун.

Ніжэй сагнулі спіны жнейкі, шыбчэй зашорхалі сярпы. Мужыкі пры вазах пахмурнелі, сціснулі моцна, да

скрыпу, зубы і давай накладваць снапы. Лаянкі і пракляцці хацелі зрывацца са смаглых губ, але нема маўчалі яны. Ад злосці толькі пляваліся людзі.

Пільней за іншых глядзелі за ўсім гэтым два чалавекі — малады Сымон і дачка пакрыўджанай старой, Зоська.

Сымон ірвануўся было ратаваць кабету, сціскваў кулакі, скрыгатаў зубамі і ледзь стрымліваў сябе.

У Зоські ў вачах заблішчэлі слёзы.

— Матанька... Маці...— шаптала яна і кусала губы да крыві.

Над шырокім полем раптам шугануў моцны вецер. Давай скубці хусткі на галовах у баб, давай трапаць чубы снапоў. Вецер прагульваўся невідочнымі нагамі па золату каласоў шырокага жытняга поля.

Пералівы жоўта-зялёнага колеру мільгалі над жнівом.

Задрыжэў здалёку лес, завойкаў, закрахтаў. Далі, яркія, празрыстыя, як шкло, пачалі зацягвацца валокнамі шэрай бавоўны. Па небу распаўзліся хмары, накінулі на сонца ваўняную світку. Воблакі прыдушылі сонца. Дзень пахмурнеў ад злосці і згрызоты. Над абшарам навісла вялізная шэра-сіняя каламуць.

Поле страціла залацісты бляск. Брудна-шэры колер вісеў над людзьмі.

Дзесьці далёка за лесам глуха загрукаталі грымоты.

Нехта малаціў жалезнымі цапамі па жалезнаму таку.

Яшчэ больш пацямнела. Лес набух, як вялізная губка, наліўся сінім атрамантам. Птушкі паднялі крык.

Жнеям загадалі збіраць снапы ў мэндлікі. Рухава запрацавалі прыгоннікі. Панскае дабро можа сапсавацца. Наехала з двара яшчэ шмат фурманак.

Ледзь паспелі накласці поўныя вазы. Маланкі пачалі паласаваць неба. Чырвоныя вяроўкі раскручваліся па хмарах, сляпілі бляскам спалоханую ваколіцу.

Хтосьці лупцаваў неба агнёвымі бізунамі, хтосьці гікаў злосна па-за хмарамі.

Нехта над лесам лаяўся на пакалечанай мове заік. Нехта глуханямы крычаў, выў, рагатаў і ржаў, як сто жарабцоў.

Вялікая грамада рушылася з поля ў бок двара.

Ліў дождж, падаў і цягнуўся вадзянымі даўжэзнымі пугамі. Людзі прамоклі да апошняй ніткі.

Ззаду ўсіх, не спяшаючыся, ішла ў затаёным роздуме з глыбокім страхам у выцвілых вачах старая кабета. Варона была за пазухай...

За ёю ішла, апусціўшы галаву, яе маладая дачка Зоська.

Ці ж старая не выканае загаду панскага цівуна? Ого, няхай толькі папрабуе!

Здавалася, што старая ніякай увагі не зварочвае на дождж, нават не адчувае яго... ступае босымі, чорнымі, патрэсканымі і паколатымі нагамі, трохі кульгаючы. Варона за мокрай кашуляй хлюпаецца аб голае цела. Дзюба і кабздзюры застрэленай птушкі час ад часу драпаюць, казлытаюць скуру.

Не заўважыла дажджу і яе дачка Зоська.

Сымон ішоў за апошнім возам снапоў. Ён заўважыў погляд старой, запрыкмеціў, што пад прамоклай наскрозь вопраткай у яе нешта за пазухай тырчыць. Ён адчуў вялікі смутак Зоські.

Нястрыманая злосць закіпела ў яго сэрцы.

Ён падскочыў да цівуна, які ехаў конна побач з вазамі.

Пад самыя вушы каню Сымон завыў па-воўчаму.

Разляглося навокал сумнае выццё, працяглае, страшнае...

Конь спудзіўся, застрыгаў вушамі, захроп, панёсся і скінуў цівуна ў глыбокую канаву.

Пакуль людзі агледзеліся, Сымон уцёк.

## 6

## ПАДАРУНАК ПА-ПАНСКУ

Пад вечар у той жа дзень Сымон сядзеў у Зоські ў хаце.

Застрэленая панам цівуном варона ляжала ў куце пад абразамі.

— Няхай пан бог бачыць, як паны і панскія прыслужнікі крыўдзяць бедных людзей,— сказала старая маці Зоські.— А калі не заступіцца, дык буду сабе шукаць іншага, мужыцкага бога. А гэтага (яна паказала рукой на абразы) панам пакіну!

Зморшчаная, нізенькая бабулька прагаварыла апошнія словы са злосцю.

— Я ўжо пану цівуну адплаціў за варону,— сказаў Сымон, і вочы яго весела заблішчэлі.— Вось вазьму ды зраблюся мужыцкім богам!

— Не грашы...— спалохалася старая.— Пакуль што мужыцкаму богу ад панскага дастанецца.

— За мяне, маці, няма чаго баяцца. Выкручуся з бяды. А пан цівун, пэўна, ногі выкруціў, як з каня зваліўся.

Старая засмяялася, усхапілася і сказала:

— А божачка, чаго я радуюся чужой бядзе?

— Такой бядзе грэх не радавацца,— заўважыў Сымон.

— Зарабіў ты, Сымонка, яечню за гэта!

Старая зараз жа пачала раскладаць агонь на прыпечку, каб спячы яечню.

На дварэ паўзлі змрокі. Яны наліваліся ценямі ў шызыя цэбры паветра. Праз маленькія шыбіны змрокі ўрываліся ў хату і запоўнілі яе цямрыстай ватай. Лезлі ва ўсе шчыліны.

Агоньчык на прыпечку палаў. Жоўтыя языкі спаміж дзвюх цаглін лізалі патэльню, на якой скварылася сала.

Сымон з Зосяй сядзелі моўчкі, прытуліліся адзін да аднаго на тапчане пры стале. У іх ужо было вырашана ў каляды прасіць у пана дазвол на вяселле.

А вось раптам уздрыгануліся.

Яны пачулі тупат ног, хлюпат па лужынах каля хаты. Хутка скрыпнулі дзверы, і, сагнуўшыся, каб галавой не ўдарыцца аб верхні касяк дзвярэй, увайшоў высокі малады хлопец.

Гэта быў Макар, адзін з панскіх гайдукоў.

— Добры вечар! — буркнуў ён у хату.

— Добры вечар! — адказала адна толькі старая заўпалым голасам.

Сымон паблядпеў.

— Ці не данюхаўся панскі гіцаль, што я тут. Мабыць, мяне шукаюць,— падумаў ён.— А можа, так прыйшоў — да Зосі?

Ужо другі год, як Зоська спадабалася Макару. Усялякімі спосабамі стараўся ён задобрыць яе. Але, нягледзячы на тое, што Макар быў прыгожы хлопец, Зоська ненавідзела яго, як і ўсе сяляне, за тое, што быў мужыцкім вырадкам, здзекаваўся над імі, дзе толькі мог.

Яго ўсе называлі «панскім гіцлем».

— Што ж і сесці мяне не просіце? — сказаў Макар кплівым голасам.— Тады сам сяду.

Сеў за стол грузна, цяжка і роблена па-старыкоўску «эхнуў».

«Пэўна па маю душу прыйшоў»,— думаў Сымон і пачаў прыслухоўвацца, ці не чуваць каля хаты крокаў каго-небудзь яшчэ. Адзін Макар не пусціцца за ім.

Сымон адсунуўся ад Зоські і давай пільней прыслухоўвацца.

За сцяной хаты на гародзе як бы хтосьці ходзіць...

— Што так вушы вострыш, Сымон? — запытаўся Макар.

— А гэта не павінна цікавіць панскага саб...— не закончыў Сымон.

— Чаму не павінна? павінна! — цвёрдым голасам сказаў Макар і заскрыгатаў зубамі ад злосці.— Ты не думай, хамула, што вырвешся з маіх рук. Хата абкружана. Цівун па тваёй ласцы выкруціў нагу, як упаў з каня. Пан гэта табе не даруе.

Сымон маўчаў. Зоська і матка яе таксама як бы анямелі.

Яечня была гатова.

Старая запаліла лучыну і палажыла белы абрус на стол. Тую вячэру, якую яна рыхтавала для Сымона, падсунула Макару.

— Еш, паночку! — сказала яна ціхім голасам, і зморшчаны твар яе зрабіў лагодную ўсмешку.

Сымон не пакрыўдзіўся на старую, бо добра зразумеў яе бабскія хітрыкі.

— Еш, паночку! — паўтарыла яна другі раз яшчэ болей лагодна.

— Ды я не галодны! — аднекваўся Макар.

— Не павінен ты ганьбаваць маім хлебам-соллю, саколік, калі хочаш мець за жонку маю Зоську...— не адступала старая.

Сымон уздрыгануўся:

«Мо старая гэта шчыра гаворыць...»

Макар спадлобку зірнуў на Зоську і прыняўся за яду.

Зоська яшчэ далей адсунулася ад Сымона і ціхенька зацягнула песню:

Дайце вы мне вольку —
Я ў зязюльках апынуся;
Дайце вы мне крылкі —
Я да пташак прылучуся...

У Сымона зрабілася цяжка на душы. Яго мала непакоіла тое, што за сцяной панскія гайдукі.

— Чорт іх няньчыў гэтых баб. Што гэта ў іх — ці хітрыкі? Можа, сапраўды павярнулі ў бок панскага сабакі, пакваліліся на лепшае жыццё...

Зоська зрабіла ласкавае вока да Макара. Ён не здымаў

з яе вачэй. Трымаў лыжку ў руцэ так моцна, як бы рыхтаваўся стрэльнуць лыжкай у скварaду з яечняй.

— Ды еш жа, каток! — не адставала старая.

У яе голасе звінелі ноткі любасці, крэўнасці, шчырасці...

«Старая ведзьма»,— падумаў Сымон.

Макар прыняўся шчыра за яду. Чаўкаў гучна, як жывёліна. Сківіцы яго хадыром хадзілі.

Старая завіхалася каля яго, круцілася ўюном, спрытна паказваючы заскарузлым пальцам на смачнейшыя кавалкі сала ў скварадзе.

Сымон кожны раз, як толькі Макар браўся за новы кавалак яды, думаў:

«Давіся! панскі гіцаль, давіся!»

Апетыт у Макара рос. Ён увесь аддаўся ядзе. Аднак спадлобу кідаў погляды на Сымона і Зоську. Яна стаяла пры лучыне, папраўляла яе, мармычучы сабе пад нос:

Дайце вы мне вольку...

Дым ад лучыны еў вочы, запаўняў хату лёгкім туманам. На сценах мітусіліся людскія цені; яны ківаліся, вялізныя, нехлямяжыя, як малпы.

— Давіся, давіся,— хацеў крычаць Сымон.

Макар еў самым спакойным чынам... Спацеў, расчырванеўся. Раптам звярнуўся да Сымона.

— Ведаеш што, Сымон. Выйдзеш сухім на гэты раз, калі я захачу. Уцячэш. Толькі... толькі вось што.

Усе трое напружана наставілі вушы.

— Ты раз назаўсёды павінен адмовіцца ад Зоські. Сюды не хадзіць...

Сымон крыва ўсміхнуўся. Падышоў да Макара. Палажыў яму руку на плячо. Моцна палажыў, як жалезную булаву. Ляск пачуўся. У Макара вочы крывёй наліліся.

— Ведаеш што, Макар,— сказаў Сымон,— ад Зоські адмовіцца павінен ты, панскі гіцаль.

Голас яго быў да таго падобен да голасу панскага гайдука, што здаваўся водгаласкам Макара. У дадатак Сымон плюнуў Макару ў самыя вочы і кінуўся да дзвярэй.

— Лавіце яго! Трымайце Сымона! — не сваім голасам крычаў Макар. Ён нават забыўся выцерці твар.

Каля дзвярэй крычалі людзі, бароказіся з Сымонам. Старая і Зоська анямелі ад страху.

Макар выцер заплёваны твар, па-заліхвацку ўзяўся ў бокі і звярнуўся да Зоські:

— Калі вяселле будзем гуляць?

— Вон адгэтуль, панскі сабака! — крыкнула дзяўчына звычайным голасам і тупнула босай нагой аб гліняную падлогу.

— Вон адгэтуль, панскі сабака! — сказала яе маці злосным голасам, схапіла застрэленую варону і кінула яму ў твар.

— Вось табе падарунак па-панску!

7

## УМЕЮ БЫЦЬ ПАНАМ

Пан Вашамірскі сам за гаспадаркай мала глядзеў. Ён толькі год таму назад вярнуўся з заграніцы, дзе праходзіў адвакацкую навуку. Маёнткамі яго кіравалі аканомы. Ён больш за ўсё цікавіўся сваёй новай справай — тэатрам.

Гэта мастацтва ён да вар'яцтва палюбіў яшчэ ў Парыжы, калі закахаўся ў адну прыгожую француканку-акторку.

Як вярнуўся на бацькаўшчыну, у родны маёнтак, пан Вашамірскі задумаў наладзіць свой уласны тэатр. Выпісаў з Парыжа рэжысёра, балетмайстра. Аркестр з васьмі чалавек прыгонных з капельмайстрам ён адкупіў у суседняга пана Ваяводскага за дзве тройкі стаеннікаў і за дзесятак лепшых сабак з славутай псарні нябожчыка бацькі. Падабраў са сваіх «хлопаў» хлапцоў і дзяўчат і адчыніў студыю.

Пан вечна знаходзіўся ў студыі, бо прыходзілася яму быць тлумачом паміж французамі і студыйцамі. Хаця французы трохі ведалі па-польску, але згаварыцца з студыйцамі, якія зналі добра толькі «па-хлопску», ім было цяжка.

Сёння пана Вашамірскага адарвалі ад улюбёнай працы ў студыі. Цівун нагу зламаў якраз у самы гарачы час працы на полі. Аканом падняў такі шум, што пан адлажыў студыю і ўзяўся за «гаспадарчую справу» — пакараць вінавайцу Сымона. Пан яшчэ ўдзень паслаў ганцоў ва ўсю ваколіцу шукаць яго.

Цяпер абдумваў вельмі важную справу:

«Як пакараць «хама»?»

У канцы вырашыў:

«Усыпаць добрых бізуноў і аддаць у салдаты!»

Пасля гэтага думкі яго зноў пакіраваліся, нібы хмары ветрам, у другі бок — да тэатра.

Ён толькі сёння заўважыў нешта вельмі цікавае,— знайшоў, можна сказаць, скарб. Сярод балерын прыкмеціў адну, што калі б яе апрануць на французскі лад, дык мо цікавей была б за французскіх паненак, за якімі ён там, у Парыжы, заляцаўся.

«І трэба ж ведаць: у гэтых хамаў «беларусінаў» красуюць такія кветкі, як Марылька. Правільнымі рысамі твару і лініямі цела яна не горшая за грэцкую статую Венеры. Дарэмна ўсе народы лічаць Венеру за найвялікшы ідэал жаночага хараства. Нават сярод хамак ёсць харашэйшыя».

Свечкі ў масіўных бронзавых кандэлябрах адкідвалі бледнае святло. Твар пана быў матава-бледны. Чорныя вочы блішчэлі квола, як бы пад лёгкай павалокай туману. Ён неспакойна хрустаў тонкімі пальцамі. Усмешка азарыла твар.

Сёння ўшчыпнуў яе...

«Трохі вульгарна, але ж яна не парыжанка — мая ўласная халопка. Хто з імі лічыцца! Ды гэта ж быдла, а не людзі»,— прыпомніў ён словы сваёй маці, якая цяпер жыве ў другім маёнтку.

Ён прыпомніў, як аднаго разу, калі яшчэ быў малым хлапцом, ехаў улетку з маткай у госці. З імі былі лёкай і фурман. Пасярод дарогі, дзе лесу не было, яго матка злезла з фаэтона па сваіх патрэбах. Яму, Адасю, яна сказала адвярнуцца, а фурмана і лёкая зусім не засаромілася, як не саромілася сваіх коней...

«На тое ж быдла!»

Потым, як вырас, маці параіла яму «дзеля здароўя» мець зносіны з дзяўчатамі гэтага «быдла». Лепш, чым з парыжанкамі, ад якіх можна набыць паганую французскую хваробу.

Хваравыя ўздрыгі прамільгалі па яго твару.

Ён успомніў, што ў студыі застаўся драматург — ксёндз Марцэвіч, настаўнік рыторыкі слуцкай гімназіі, якога спецыяльна выпісаў для свайго тэатра.

Колькі гэты ксёндз сапсаваў паперы, пакуль адна з камедый была прынята да пастаноўкі!

Ксёндз западта многа піша на рэлігійныя матывы. Вальнадумцу пану прыелася. Трэба нешта даць свецкае і вясёлае: на парыжскую манеру, каб можна было пасмяяцца шчырым здаровым смехам!

Ксёндз тлумачыў, што ён, духоўнік, таксама вальнадумец, але люду патрэбна рэлігія, як цуглі гарачаму каню.

З гэтым пан Вашамірскі згадзіўся, але цяпер гэты самы ксёндз псуе яму нервы; ласым вокам на ўсіх балерын паглядае.

Пану жыва ўявілася агідная фігура езуіта.

Высокі, трохі сутулы. Светла-шэрыя, хітрыя вочы яго пастаянна ўсміхаюцца. Заўсёды вочы як бы кпяць з цябе, пранізваюць наскрозь. З табою ён ва ўсім згодзен, але відаць, што ні з чым не згаджаецца. А ў выпадку патрэбы, калі толькі ён можа мець ад гэтага карысць, на агонь цябе ўзвядзе або нож у бок суне.

«Езу-Марыя» з вуснаў ксяндза не сыходзіць.

«Небяспечны чалавек,— падумаў пан,— прывязаўся да маіх дзяўчат і да маіх грошай. Ніяк цяпер не адвяжашся ад гэтага д'ябла ў чорнай сутане».

Раптам пачуўся лёгкі стук у дзверы.

— Хто там? — крыкнуў пан.

— Яснавяльможны пане! — адклікнуўся ўслужлівы голас.— Прывялі хлопа.

Пан выйшаў у пярэдні пакой.

Перад ім стаялі тры ўспацелыя гайдукі, яны трымалі Сымона з звязанымі вяроўкамі рукамі за плечы.

Сымон быў без шапкі са скалмачанымі валасамі, у падранай вопратцы, з акрываўленым, апухлым тварам. Дзіка таропіў вочы ў пана, як зацкаваны звер.

Не лепш выглядалі і панскія гайдукі.

Нялёгка ўдалося ім злавіць і прывесці сюды Сымона.

Ад ранейшай панскай вальнадумнасці і кволасці і сляда не засталося. Вочы наліліся вялікім гневам, падбародак завастрыўся, высунуўся наперад.

— Ну? — казаў пан.

Сымон маўчаў.

— Цо? — крыкнуў пан.

Сымон не варухнуўся.

— Закатаваць галгана да паўсмерці і адправіць у салдаты!

Губы ў пана Вашамірскага дрыжэлі.

Сымон паблядней. Яго постаць яшчэ больш выпрасталася ад захаванага гневу.

— Слухаю, яснавяльможны пане! — сказаў аканом.

Пан павярнуў было да дзвярэй пакоя, а гайдукі штурхнулі Сымона, каб вывесці на двор, але раптам пан крута адвярнуўся назад, як бы нешта ўспомніў.

— Пачакайце, пачакайце! — сказаў ён змененым тонам.

— Ану, хаме,— звярнуўся пан яшчэ больш мяккім голасам,— пакажы, як ты спудзіў каня цівуна?

Сымон здзіўлена зірнуў на пана. Ён не ведаў,— ці пан жартуе, ці ўсур'ёз гэтым зацікавіўся.

— Прэндзай, прэндзай!

Пан быў вельмі зацікаўлены.

Нягледзячы на тое, што чакала Сымона на панскай стайні,— у яго сэрцы загаварыў артыст.

— Няхай яснавельможны пан загадае развязаць мне рукі, а то не магу,— папрасіў ён.

— Развязаць! — загадаў пан.

Сымону развязалі рукі.

Ён выпрастаўся, прыставіў далоні да губ, схіліўся напалову і пачаў.

Выццё ішло ціхае, ціхае, як бы з далёкага лесу.

Потым яно расло — жудаснае, сумнае, запоўніла лямантам увесь вялікі пакой, перакідвалася самотнымі зыкамі ад акна да акна, кацілася дрыжыкамі па шыбінах. Здавалася, не адзін воўк вые, а іх тут цэлая гання галодных, худых звяроў. Выццё пераліваецца на розныя лады. Па скуры драпаюць нейчыя вострыя кіпцюры. Драпежніцкая звярыная смага студзіць кроў.

Пан зажмурыў вочы ад нейкай дзікай прыемнасці.

Абразок дзіцячых гадоў ажыў-уваскрос перад ім:

Вечар марозлівы, калядны. На сіняваты снег падае водсвет месяца. На гурбах абапал дарогі мігацяць іскры. Ён — малы яшчэ хлопчык. Едзе з нябожчыкам бацькам да маёнтка. Тройка мчыцца. Бразгулькі звіняць. Па небе соваецца наперад круглы чырвоны месяц. Раптам коні пачалі храпці, стрыгчы вушамі — здалёк, з лясной далі, якая вызначалася ярка-сіняватай палоскаю на снежнай паляне, пачулася выццё ваўкоў... Яму, маленькаму хлопчыку, зрабілася так страшна, што зуб аб зуб заляпаў. Бацька меў стрэльбу пры сабе. Выстраліў у бок лесу, у выццё, у сіне-снежную ноч...

Коні шыбка паімчалі. Снег закурэў вакол і белым пухам пыліў у вочы. Здавалася тады яму, маленькаму хлопчыку, што ў паветры носіцца.

Сымон скончыў выццё і выпрастаўся.

Пан Вашамірскі ачнуўся, спрыяюча зірнуў на Сымона.

— Лоўка! А што яшчэ ўмееш?

— Усё ўмею, яснавельможны пане...

— Ён умее свістаць салаўём, гэты блазан, яснавельможны пане! — дадаў аканом.

— Папрабуй!

Сымон засвістаў...

Пяшчотныя, зычныя трэлі салаўя запоўнілі пакой. Пан разявіў рот і глытаў гэтыя трэлі, як пітво.

Спачатку гукі былі рэдкія, нясмелыя, потым пачалі гусцець, перасыпаліся срэбрам, журчэлі непрытомна, горача, ажна кроў зайграла ў пана.

Ён успомніў адну вясну... Яму было ўсяго шаснаццаць гадоў. Ён любіў. На балі ў іх маёнтку была яна, панна Ядзя. Падобна да Джаконды на малюнку Леанарда да Вінчы.

Спяваў тады салоўка. Густы парк. Белая, як анёл, панна Ядзя мігацела між дрэвамі, па роснай пахучай траве. Ён у жарт гнаўся за ёю. Яна ўцякала. Потым...

Сымон змоўк.

— Брава, брава! — запляскаў пан у далоні, як у парыжскім тэатры — біс!

Слова «біс» ні для каго не было зразумелым.

— А як жа, яснавяльможны пане, акурат бес! — уставіў слова аканом.

— Маўчы, галган! — крыкнуў пан.

— Ану, што яшчэ ўмееш? — пытаўся пан з захапленнем ды ласкай у вачах.

— Усё ўмею, яснавяльможны пане,— спакойна адказаў Сымон.— Умею быць панам.

— Ён вельмі лоўка падрабляе галасы, яснавяльможны пане,— замармытаў аканом,— акурат бес!

— Ану, падрабі мой голас! — казаў пан з усмешкай.— Пакажы, як ты ўмееш быць панам!

Сымон скоса зірнуў на свайго заядлага ворага гайдука Макара, крыкнуў панскім голасам, зрабіў панскі гэст і паказаў на Макара:

— Усыпаць таму галгану дваццаць бізуноў, але гарачых, каб аж іскры ляцелі!

— Го-го-го! — зарагатаў пан,— го-го-го! — і браўся за бокі.

Рогат — нервовы, істэрычны трос яго, да слёз мучыў.

— Го-го-го! — сыпаў ён шчырым смехам ва ўсе бакі.

— Го-го-го! — паўтаралі за ім услужлівы аканом і гайдукі.

Толькі Макару было не да смеху. Ён маўчаў як вады ў рот набраўшы.

— Пане аканоме,— урачыста сказаў пан Вашамірскі,— зараз жа няхай Сымон памыецца, выдаць яму вопратку і адправіць у студыю! А тэму галгану (пан паказаў рукой на Макара) усыпаць дваццаць бізуноў.

— Слухаюся, яснавяльможны пане,— сказаў аканом і нізка пакланіўся.

## 8

## МАСТАЦТВА ЧЫСТАЕ, ЯК НЕБА

Надышла восень.

Поле зрабілася шэрае, нуднае. Паветра глушылі вароны. Панскі парк азалаціўся. Каменныя львы на тэрасе сфінксамі глядзелі ў неба. Хмары розных колераў, розных выглядаў шпарка плылі, нібы хтосьці сцёбаў іх пугай. Некаторыя з іх былі падобны да сівых асілкаў, калматых, доўгабародых, якія ішлі вялікай працэсіяй у вандроўку. Іншыя напаміналі стада аграмадных белых сланоў з адрэзанымі хобатамі. А месцамі яны выглядалі выраем нязнаных велічэзных птахаў. Пад імі на розныя галасы выў вецер. Насіўся, як вар'ят, па парку. Выскачыць на волю ў чыстае поле, схваціць з парка цэлую кучу жоўтых лісцяў, падкіне іх уверх, рассыпле іх па баках дажджом залатых дукатаў, зноў збярэ ў кучу, яшчэ вышэй падкіне, пакруціць на адным месцы, нібы густую саранчу, і панясе далей — у лес...

Каменныя львы драмалі. Застылая ўсмешка не сыходзіла з іх белых вачэй. Праз разяўленыя ляпы свісцеў вецер. Здавалася, што кіпцюры на лапах львоў во-во распусцяцца, львы зараз выпрастаюцца, вочы бліснуць празрыстым золатам, ляпы разявяцца шырэй, стуль задыміць пара, львы скокнуць праз парк і пусцяцца ў поле з рыканнем.

Часта хлюпаў дождж. Яго ценькія ніткі цягнуліся ад хмар да самай зямлі, упіваліся ў глебу, як п'яўкі. Ад палёў пахла свежасцю, аддавала непрытулам пастаптанага ржышча.

Часам дождж імжыў — дробненькі, нібы машкара, вільготным пылам лез пад каўнер. Сляпіў вочы. Сцёбаў па твары. Калоў сцюдзёнымі і вострымі голкамі.

Зямля вохкала пад нагамі, стагнала, бухала. У каляінах стаяла вада, чорная, бы дзёгаць.

А па начах дзікія гусі крычалі. Квола і трывожна стагналі яны, носячыся нізка над зямлёй незвычайнымі сцяжынамі, тулячыся, як зладзейкі, да змроку. Гусі шасталі крыллем, нібы панны шаўковымі вопраткамі.

Сымон працаваў у студыі. Яго ахрысцілі новым імем: «Салавей».

Са студыі не выпускалі нікуды. Трымалі, як у астрозе.

Трэба было спяшыць, каб да каляд падрыхтаваць прадстаўленне. Адукацыя вялася пад бізунамі. Студыйцы вельмі памізарнелі. Нібы з іх высмакталі кроў.

Пан Вашамірскі паспеў ужо прыстасаваць для «свайго здароўя» ўсіх дзяўчат студыі.

Да кожнай ён падыходзіў, захапляючыся яе красою, пакуль гэта «быдла» яму не апрыкрала.

Пасля гэтага ён знаходзіўся пад уладаю аднаго толькі мастацтва: «чыстага, як неба ў маі, узнёслага, як вясновы вецер, нявіннага, як дзіцё, вечна-маладога, як сама прырода».

Дзеля ўсяго гэтага,— упэўніўся пан Вашамірскі,— трэба, каб выяўнікі мастацтва вялі «строгае і чыстае жыццё».

Пан Вашамірскі строга загадаў:

— Каб хлопцы з дзяўчатамі шашняў не вялі! Каб не псавалі майго эстэтычнага пачуцця! Каб не апаганілі святога мастацтва!..

Пан наглядаў за французскімі педагогамі і яшчэ больш за езуітам-драматургам.

У тых былі свае ўласныя погляды на мастацтва і на яго выяўнікоў...

Адукацыя Сымона пакуль што была лёгкая. У вялікія актары ён тым часам не назначаўся. Пакуль што яго роля выяўлялася ў тым, каб на панскіх балях спяваць салаўём.

Гэты арыгінальны нумар пану вельмі спадабаўся. Пан на яго пакладаў вялікія надзеі. А пасля каляд за адукацыю Сымона прыйдзецца прыняцца больш рупна.

Каб выхаванне ішло паспешна і правільна, панскі бізун ляскаў па спінах актораў у час рэпетыцый па некалькі разоў на дзень.

Пан пераменчыва лічыў вышэй за іншыя формы мастацтва то музыку, то драму, а то балет, і ў сувязі з гэтым той часткі яго студыі ад яго больш за іншых пападалася бізуноў.

Галоўным чынам студыйцы цярпелі за кепскую вымову польскіх слоў; тут ужо сам ксёндз Марцэвіч — драматург — падбухторваў пана.

— Гэта быдла зусім не роджана да таго, каб нашу прыгожую, далікатную мову са сцэны ілюстраваць.

Яго светла-шэрыя вочы кідалі маланкі «справядлівага гневу». Ён хітра паглядаў у твар пана Вашамірскага: якое гэта на яго зробіць уражанне.

— Ці ж хамула, чорная косць, можа быць здольным перадаваць музыку нашай мовы? Ганьба, яснавяльможны пане, ганьба! Каб такі эстэт, як пан Вашамірскі, праз пальцы на гэта глядзеў!

Пан Вашамірскі ўсміхнуўся.

— Мова нялёгка ім даецца. Я разумею іх, хамулаў. Сам дзед мой, святой памяці, хоць і быў панам, аднак гаварыў толькі па-беларусінску.

— Чаму?! — здзівіўся ксёндз.

— Па-польску не ведаў.

— Як гэта не ведаў?! — спалохаўся ксёндз.

— Ясна, як неба. Даўней усе тутэйшыя паны гаварылі па-беларусінскаму, бо беларусіны мы, а не палякі. Мы беларусіны польскай культуры. Вазьміце «Літоўскі статут», ён жа напісаны па-беларусінскаму. А склалі яго нашыя дзяржаўнікі — ксяндзы і магнаты.

— Як сабе хочаце, яснавяльможны пане, але ж вы за польшчызну! яна ўжо ў вашай крыві.

— Згодзен, ойча, згодзен,— засмяяўся пан Вашамірскі.— Сам ненавіджу хамскую, беларусінскую мову. Я за тое, каб добра вывучыць актораў па-польску!

Пры гэтым пан Вашамірскі аж стукнуў кулаком аб стол.

Пачыналася катаванне за кепскую вымову польскіх слоў.

Гэта рабілася па ўказанню езуіта, які ўзяўся адукоўваць студыйцаў у музычным вымаўленні польскіх слоў.

Пападалася больш за іншых самым прыгожым дзяўчатам.

Экзекуцыя над імі адбывалася ў спецыяльным пакоі ў яго, ксяндза, прысутнасці. Паводле яго рэцэпта катавалі іх бярозавымі дубцамі па голаму целу.

Спачатку катавання ксёндз рабіў набожныя вочы, гаварыў цэлыя казанні аб пакутах пана Езуса і наогул аб пакутах цела, якія даюць асалоду душы. Чытаў урыўкі з Евангелля.

З кожным стогнам ахвяры, з кожным крыкам роспачы, з кожным уздрыгам голага жаночага цела пад свістам бярозавага дубца светла-шэрыя вочы ксяндза наліваліся ўсё болей дзікім бляскам. Твар яго блядпеў, салавелі вочы, пачынаў хрыпла і хутка сапці. На губах выступала пена...

Білі ахвяру да тых пор, пакуль ксёндз не даходзіў да поўнага «боскага экстазу», пакуль не гаварыў хрыплым голасам: «годзе».

Як звар'яцелыя хадзілі студыйцы з кута ў кут па пакоі ў спецыяльным памяшканні студыі і шапталі польскія словы:

— Нех бендзе, нех бендзе, нех бендзе, нех бендзе.

— Я естэм, я естэм, я естэм, я естэм.

— Пан буг, пан буг, пан буг, пан буг.

— Круль, круль, круль, круль.

— Ржэч посполіта, ржэч посполіта, ржэч посполіта.

Так, нібы ў доме вар'ятаў, чуваць былі шэпты і мармытанні.

З пакоя аркестру раздаваліся свае гукі: адрывістыя, працяглыя. Рэжысёр меў шмат клапоту пры апрацоўцы тэхнікі ігры. Ад біцця за кепскую міміку твары ў актораў былі набухлыя, як порхаўкі.

— Да пастаноўкі сыдзе,— тлумачыў рэжысёр.— Пакуль што вучыцца трэба, а без біцця якое можа быць навучанне?

Не менш было і балерынам.

Адзін Сымон хадзіў па пакоях ды толькі пасвістваў салаўём на ўсе лады. Ім усе былі задаволены.

Да пастаноўкі рыхтаваліся тры нумары:

1. «Прыход волхваў у святую пячэру» — містэрыя.

2. «Камедыя», у якой галоўнымі героямі: селянін, яўрэй, чорт, тры браты, пакутнік і іншыя.

3. «Усход сонца» — балет.

Ксёндз Марцэвіч вельмі старанна глядзеў за падрыхтоўкай містэрыі.

Младзенца Езуса іграў трохгадовы хлопчык, сын аканома.

Мужыцкаму сыну такой «святой» ролі іграць не далі.

Рознымі цацкамі і цукеркамі ўдалося прывучыць дзіцё паляжаць голым у бутафорскіх лясах, якія стаялі ў спецыяльным пакоі. «Матку боску» іграла самая прыгожая дзяўчына. Волхвы кожны раз прычэплівалі белыя бароды і былі гэтым вельмі здаволены, хоць лупцоўкі мелі часта за малейшую неакуратнасць. Ролі вывучылі на памяць.

Але спакайней за ўсіх сябе адчуваў аслік, які абавязкова прысутнічаў на кожнай рэпетыцыі. З ім рэжысёр меў мала клопату. Яго ніхто не біў, не лаяў за кепскую вымову польскай мовы.

Праўда, ксёндз Марцэвіч у сваёй інсцэнізацыі гэтага эпізоду «святога тэстамента» надаў і святому боскаму асліку дар слова, улажыўшы ў яго вусны хвалу «сыну божаму» ў лацінскім вершы. Але пан Вашамірскі пры разглядзе гэтай містэрыі высмеяў аўтара за такую ненатуральнасць.

— Чаму ненатуральнасць? — пакрыўдзіўся езуіт,— а ў Валаама асёл гаварыў? Пэўна, і ў пана Езуса гаварыў! — кончыў ён з набожным агнём у вачах.

— Аб тым, што асёл Валаама гаварыў, у Бібліі напісана,— казаў на гэта пан Вашамірскі,— а аб Хрыстусовым асле ў Евангеллі нічога не напісана.

— Аб гэтым і пісаць не трэба,— гарачыўся ксёндз,— аб гэтым і так кожны можа разумець! І так ясна!

— Як жа гэта можа быць, каб асёл сына божага не гаварыў? — дзівіўся ксёндз і развёў рукамі ў бок пустой сцяны.

Пан Вашамірскі, аднак, паставіў на сваім. Чырвоным атраментам выкрасліў маналог асла.

Асёл быў зроблены бутафорскі.

Ксёндз доўга аб гэтым шкадаваў. Ён меркаваў да гэтай ролі камбінацыю з двух чалавек, якія ў масцы асла пад хітра сшытай з матэрыі фігурай асла будуць стаяць сагнуўшыся. Адзін з іх будзе казаць лацінскі асліны верш, у якім усхваліць «сына божага», а другі загікае пааслінаму і будзе круціць хвастом.

— Але што ж, воля пана!

На драўлянага асла садзілі часта «пана Езуса» — трохгадовага хлапчука, які пры гэтым вельмі смяяўся.

Вочкі яго ззялі радасцю і гордасцю, калі волхвы сівабародыя кланяліся яму ў ногі з набожнай пашанай.

З «камедыі» Сымон ведаў на памяць усе ролі, але Салаўя на гэта не турбавалі.

— Няхай прыглядаецца,— гаварыў рэжысёр.

Балетмайстар сфантазіраваў «усход сонца» вельмі пышна і зграбна. Балерыны выасаблялі сабой сонца, месяц і зоркі.

Навезлі з горада шмат розных дарагіх матэрый на сцэнічныя вопраткі. Тут яшчэ патрэбны былі краўцы, маляр-дэкаратар і іншыя майстры.

Ад клопатаў галава кружылася. Нават ва сне пан бачыў свой тэатр.

На розныя такія дадаткі для тэатра пан спусціў адзін з сваіх маёнткаў, які яму чамусьці ніякага прыбытку не даваў. Адкупіў аканом таго ж самага маёнтка.

Праўда, суседзі-паны шапталі пану Вашамірскаму на вуха, што аканом купіў маёнтак за грошы, пакрадзеныя з гэтага ж маёнтка, але пану Вашамірскаму часу не было займацца такімі будзённымі справамі.

Тэатр засланіў перад ім усё на свеце.

Часам і яда яму ў горла не лезла. Жартачкі — такі апякун мастацтва. Аб ім слава пусціць пагалоскі аж да Варшавы... Парыжскім прыяцелям ён таксама аб гэтым пісаў. Яны надзівіцца не могуць яго дзейнасці, яго генію.

Усім сваім артыстам ён сам прыдумваў новыя імёны: Аўрора, Венера, Апалон, Феб і іншыя.

Балерын назваў па парадку імёнамі ўсіх дзевяці муз.

У памяшканні студыі ім было забаронена ўжываць свае ўласныя імёны. За гэта строга каралі.

Шмат панскай бярозавай кашы з'елі яны, пакуль навучыліся выгаварваць гэтыя словы, пакуль запамяталі іх, бо кожнаму трэба было ведаць імёны ўсіх сваіх таварышоў па студыі.

Гэта для сялянскіх дзяўчат і хлапцоў справа была нялёгкая.

Аднятыя ад бацькоў, ад ранейшага быту, уцягнутыя ў новае жыццё, нязвыклае для іх, нададзеныя новыя імёны, чыстая вопратка, лепшая, чым у хаце, яда, адарванасць ад сялянскай фізічнай працы,— усё гэта перарабіла іх, кінула ў нейкі фантастычны вір.

Да гэтага яшчэ кожны з іх у сваіх ролях павінен быў выясабляць зусім іншых людзей, ператварацца ў іх. Французы-педагогі чыталі ім аб гэтым вельмі красамоўна лекцыі, якія пан сам тлумачыў ім слова ў слова, захапляючыся і захлёбваючыся сваім уласным голасам.

Яны, простыя дзеці вёскі, зразумелі з усяго гэтага пятае праз дзесятае. У іх галовах круціўся і мігацеў дзікі каламбур. Ім здавалася, што знаходзяцца ў нейкім дзівосным і страшным сне.

Страшным дзеля таго, што ўсё гэта ўбівалася ім у галовы бізунамі. Бадай кожны з іх рад быў бы вырвацца з гэтага пекла, каб вярнуцца да свайго ранейшага ладу жыцця...

2 Зак. 2877

Каб ачысціцца ад свайго «хамства» і «мужычых» характараў, каб выкшталцаваць сябе, як артыстаў, да таго, каб усё вакольнае, людзей рознага рангу, стану і характару мець здольнасць адлюстроўваць у сваёй ігры, перавыасабляць сябе ў зусім новыя істоты,— французскія педагогі гаварылі ім:

— Выкіньце з сябе, як бульбу з мяшка, усё мужычае, простае і думайце, што вы новыя, іншыя людзі. Вы не тыя, якімі былі раней! А самае лепшае ў такіх выпадках, калі нешта мужычае, простае лезе ў мазгі, старацца зусім нічога не думаць...

Вочы на лоб вылазілі ў студыйцаў. Як наўмысне ў галаву лезлі думкі аб сваіх.

Чым больш студыйцы не мелі магчымасці бачыцца з сваімі, тым больш аб іх думалі.

Езуіт Марцэвіч і тут знайшоў спосаб кантролю над студыйцамі.

Уночы, у час сну, ён хадзіў ціханька па іхніх спальнях і прыслухоўваўся, аб чым праз сон яны гавораць.

Яны, мабыць, бачылі страшныя сны, і вельмі часта дзікія крыкі вырываліся з іх грудзей, яны часта ўздрыгвалі, як у нейкай трасцы.

Часам хтось праснецца з дзікімі, крывёй налітымі вачыма, нічога перад сабою не бачыць, а паўтарае сваю ролю.

Такія праявіны ксяндзу вельмі падабаліся: доказ таму, што студыйцы пранікаліся новым.

Але здаралася часам яму падслухаць у «хамаў» гутарку з бацькамі праз сон ці так словы аб хатніх, мужычых справах.

Вінавайцы назаўтра атрымлівалі сваю кару.

Салавей, як цяпер усе называлі Сымона, знаходзіўся пры мякчэйшых варунках. Ён павінен быў пану спяваць салаўём, калі таму ўздумаецца, і пакуль што, апроч агульнага рэжыму ў студыі, ніякіх уціскаў не меў.

Яго ні разу яшчэ не пакаралі.

Але ад гэтага Салаўю не было лягчэй. Ён сумаваў па сваёй Зосьцы... Ён ніяк не мог аб ёй не думаць...

Яе постаць ён бадай пастаянна бачыў перад сабой.

Галоўка якой-колечы дзяўчыны пакажацца перад ім з валасамі або вачыма падобнымі да Зоські — ён аб ёй успомніць. Голас падобны, смех, песня,— яна перад ім уваскрэсне ў выабражэнні.

Пойдзе на гулянку з таварышамі, пад наглядам настаўнікаў,— думае аб ёй.

Калі трапіць на якую мясціну, дзе раней, часам выпадкова Зоську сустракаў — нешта кальне ў сэрцы.

Надвор'е, падобнае да таго, у якое ён з Зоськай гуляў,— выклікае перад ім яе вобраз.

Самы малы намёк, ледзь прыкметнае падабенства вопратак, тканіны да тых, што бачыў у Зоські,— і яна з'яўлялася перад ім ва ўсёй прываблівай для яго красе.

Гэта яго вельмі мучыла. Колькі ён ні змагаўся сам з сабою — нічога не памагала. Бачыцца з ёю не было ніякай магчымасці.

Тэатральныя клопаты ў маёнтку павялічваліся.

Усе дваровыя былі вельмі ўзбуджаны і зацікаўлены. У вакольных маёнтках ужо рыхтаваліся да зімовага балю ў пана Вашамірскага, хаця пасля замаразкаў выпаў толькі першы снег.

Снег быў яшчэ не глыбокі, але панскі парк пабялеў ужо. Лісці даўно абсыпаліся з дрэў, і праз сеткі галін відаць была даль, яркая, сіне-блакітная, нібы намаляваная на паперы.

Каменныя львы з гладкай плошчы тэрасы пазіралі ў абснежаныя бязбрэжжы мёртвымі задумёнымі вачыма.

9

## ПЕВЕНЬ І КУРЫЦА

Што гэта?

Лябяжы пух рассеяўся па зямлі?

Дзіва дзіўнае з бялюткай белі рассцілалася пярынамі па шырокаму полю?

Хвоі белыя цветам цвітуць?

Гэта снег — чысты, як белае воблака — апусціўся на нямыя абшары; спачывае, нібы вялізнае стада белых гусей.

Рэчка абцягнута плевай-лёдам, як застылым жывым срэбрам. Яна дрэмле паміж абрывістых стромкіх берагоў, нібы ў выгабляванай з сыру аправе. Бліскучая вада не адбівае ў сабе неба з хмаркамі і двух хатак, якія прытуліліся да самага берага. У рэчцы свет не люстрыцца, пераварнуты галавой уніз.

Як дзве старыя гаспадыні ў белых хустках, стаяць адна супроць адной дзве хаткі; яны падобны адна на адну, як дзве сястры, як спарышы. Дзверы хатак, замурзаныя, пільна сочаць адна за адной. Можна падумаць, што тут

толькі адна хатка, а супроць яе пастаўлена вялізнае люстэрка, у якім яе відаць усю ад шурпатай саламянай страхі да абтрушанай снегам прызбы.

Сонечны дзень.

— Кт-кт-кт-кт-кт! — чуваць з адной хаткі.

— Кдах-кдах-кдах-кдах! — адказвае нехта з суседняй хаткі.

Дзве рукі адчыняюць двое дзвярэй.

З адной хаткі выскаквае стройны певень.

З другой — высоўваецца плаўна, як пава, павольная і паважная курыца.

Як старыя знаёмыя яны вітаюцца і падыходзяць бліжэй да рэчкі.

Певень ганаровы, надзьмуты, як кароль, ірвануў уверх чырвона-крывавы грэбень, распусціў веерам залацісты хвост і сунуў уздоўж берага.

Курыца ідзе за ім следам з апушчанай галоўкай, нібы вінаватая, грэшная і сарамяжлівая.

Певень мае чым ганарыцца: пер'і адліваюцца ў розныя колеры — на крыллях агняцветныя кружалкі, на шыі і грудзях мігаціцца цёмна-сіні панцыр, сталёвая дзюба, моцная, як дзіда, ногі апранутыя ў залатыя нагавіцы, хвост — вязка брыльянцістых абручоў.

Курыца апранута па-простаму, па-хатняму — у пярэстую цнатлівую спадніцу ў белых гарошках.

— Кт-кт-кт-кт! — чуваць розныя ноткі гаспадара-пеўня.

— Кдах-кдах-кдах-кдах! — апраўдваецца курыца.

Пачынаецца інтымная гутарка-бяседа святочнай парачкі. Гутарка льецца на розныя лады і галасы. Ад гучнага гоману яна пераходзіць у кволы таемны шэпт.

Пераплятаюцца цвёрдыя з мяккімі слоўцамі, гнеўныя з запалоханымі ноткамі зліваюцца ў адно.

— Кт-кт-кт...

— Кдах-кдах-кдах...

Курыца садзіцца, млявая, на пульхны снег і змаўкае. Певень круціцца вакол яе карагодам, апускае крыллі, нібы крадучыся, ідзе бліжэй да сваёй гаспадынькі і сыпле ва ўсе бакі салодкім дробным басавым квахтаннем...

Раптам вясёлы рогат раздаецца з адчыненых дзвярэй абедзвюх хатак, рогат-смех кідаецца адзін на адзін у шчырай гучнасці.

Паказваюцца два твары — адзін круглы, поўны, масянжовы, з маленькімі цёмна-сінімі зажмуранымі вачыма,

з светла-русай рэдкай бародкай; другі — абросшы цёмна-сівай густой барадой да самых вачэй, якія блішчаць з цыганскай хітрыкай.

Гэта — два суседы, два рыбакі, Міхалка і Меер.

— Дзень добры!

— Дзень добры!

— Што скажаш, Міхалка, на маю курыцу?

— Што скажаш, Меер, на майго пеўня?

— Твой певень не на жарт прыстаў да маёй курыцы.

— Чаго добрага, яйкі трэфныя будуць, есці не захочаш.

— Ну, ну, не жартуй!

Міхалка і Меер — два рыбакі. Шмат гадоў яны тут жывуць разам. Міхалка ловіць рыбу, частку аддае ў двор, за што пан яго вызваляе ад прыгоннай работы, а частку бярэ ў яго Меер і прадае ў блізкім мястэчку. З гэтага яны жывуць. Адзінота зблізіла іх жыццё-быццё, нягледзячы на тое, што адзін «гой», а другі «жыд». Яны зблізіліся да таго, што часам самі забываюць, хто яны, не памятаюць, што ёсць і «гоі» і «жыды». Але як пачуюць, што між іх няма ніякай розніцы, што яны толькі «людзі», тады абодва палохаюцца...

Меер упадае ў задумёнасць і пачынае перабіраць пальцамі густую бараду.

Міхалка цярэбіць патыліцу і шчыра непакоіцца.

«Трэба, каб была між нас нейкая розніца»,— думае Меер.

«Гэта ж я ледзь не забыў, што я хрысціянін, а ён нехрысць»,— думае Міхалка.

Так мільгне ў іх думка ў часе будзённай працы, блісне на адзін міг і гасне, як лучына. Час, каб падумаць і падбаць аб гэтым, у іх толькі ў святочныя дні — у суботу і нядзелю. Гэтыя два дні яны прымушаны абодва святкаваць. У суботу Меер шабасуе, і Міхалка без яго як без рукі. У нядзелю Міхалка нядзеліцца, і Мееру няма чаго рабіць. Вось у гэтыя дні яны і пачынаюць паказваць адзін аднаму, хто чым пахне.

«Трасца Мееру ў бок!» — думае Міхалка.— «Ліха жыду гэтаму!» — і пачынае ў суботу перад самым акном Меера працаваць сякерай, майстраваць. Ці работа патрэбная, ці не — яму ўсё роўна: трэба толькі рабіць садом перад «жыдоўскай» хатай, каб паказаць розніцу між ім і Меерам, каб апаганіць яму шабас.

Меер моліцца богу, адварочваецца да ўсходняй сцяны

і затыкае вушы, каб не атрэфіць свой шабасовы слух стукатам-грукатам «паганага» Міхалкі, і ў душы радуецца той помсце, якая чакае заўтра «гоя»...

А Міхалка не адстае — стучыць сякерай і крычыць: — Меер! Я буду сякерай біць калоду, а ты пры кожным стуку крыкні «гэ-эх!». Гэта і ў шабас можна!

У нядзелю Меер «здзекуецца» над Міхалкай. Усю сваю хатнюю працу ён адкладае на гэты дзень. Ля самых дзвярэй Міхалкі капае нешта лапатай, калкі забівае і грукоча на ўсю ваколіцу.

— Міхалка! Кажы «гэ-эх»! — крычыць Меер і смяецца, чуючы зласлівыя лаянкі Міхалкі, які ляжыць на печы і «па-панску» ўпіраецца босымі нагамі ў закураную бэльку.

Гэтак ідзе ў іх час ужо шмат гадоў.

Калі іхнія дзеці, гуляючы разам, зусім аб «розніцы» забываюць, дык бацькі сваімі пастаяннымі святочнымі жартамі напамінаюць і ім аб гэтым. Тады дзеці пачынаюць гуляць у «гоя» і «жыда». Гулянкі і забавы канчаюцца часта незвычайна сумна.

Мендэлька, старэйшы хлопчык Меера, з плачам бяжыць да бацькі і скардзіцца:

— Тата! Юрка даў мне трэфнай лыжкай па носе...

А Юрка, Міхалкаў сынок, таксама адплату мае за гэта. І ён плача перад сваім бацькам:

— Татачка! Мендаль мазануў мне кугалем па губах...

Бацькі заводзяць аб гэтым сур'ёзную гутарку, касурацца пяць хвілін адзін на аднаго. Але гэта злосць штучная, робленая.

Кожны з іх рад у душы, што і дзеці «розніцу» адчуваюць.

«Так і павінна быць!» — думае кожны.

Кожны з іх уяўляе, што каб было іначай, каб не было «розніцы», дык мо свет перавярнуўся б...

Певень і курыца лагодна спацыруюць каля хат, капаюцца ў снезе, ціха балбочуць між сабой на незразумелай мове. Суседзі, Меер і Міхалка, таксама гутараць. Раптам яны пачынаюць прыслухоўвацца, наставіўшы вушы ў бок лесу, куды вядзе сцежка да маёнтка пана Вашамірскага.

— Мне здаецца, што конскі тупат чуваць,— кажа Міхалка.

— І мне здаецца,— згаджаецца Меер.

Абодва яны навастрылі слых. У гэта глухое месца рэдка хто паказваўся.

Вось з лесу замільгала нешта чорнае. Чалавек на кані з кожнай хвілінай усё больш вырастаў. Ён ехаў конна па полі якраз сюды, да гэтых хатак. За ім гналася трое паляўнічых сабак.

— Дваровы! — казаў Міхалка.

— А як жа! Відаць, ад пана нехта,— здзівіўся Меер.

Сабакі пусціліся наперад і з гучным брэхам накінуліся на пеўня і курыцу. Тыя ледзь выратаваліся ад іх, ускочыўшы на плот, а адтуль — на нізкі дах Міхалкавай хаты.

Чалавек на кані засопся ад хуткай язды, расчырванеўся і ледзь спыніў разгарачанага каня.

Міхалка і Меер пакланіліся панскаму ганцу.

— З чым бог нясе? — запытаўся Міхалка.

— Пан загадаў на гэты тыдзень усю рыбу прынесці ў двор! — казаў панскі ганец.

— Ды я і лавіць гэтымі днямі не думаю,— артачыўся Міхалка.

— Ну, не хітры, ліха табе! — строга сказаў панскі ганец.— Пан цябе, хамулу, за кудлы павесіць, калі не паслухаеш. У пана вялікі баль на тым тыдні.

— Добра! — хмура сказаў Міхалка.

Меер палез пальцамі ў бараду, пачаў круціць валасы ў пярсцёнкі, як бы забаўляўся імі, захваціў канец іх сабе ў рот і пачаў злосна кусаць, нібы барада ва ўсім вінавата.

Панскі ганец зноў сцебануў каня па баках і панёсся назад у бок лесу. За ім уперагонку пусціліся сабакі.

З кожнай хвілінай ганец аддаляўся ад хатак, драбнеў на снежным полі, пакуль схаваўся ў лесе.

— Згарыць няхай пан з усімі панянятамі! — казаў Міхалка ад усяго сэрца.

— Ліха няхай яго забярэ! — адгукнуўся і Меер.

Яны абодва азірнуліся ва ўсе бакі — можа, хто падслухаў іхнія словы...

Снежная бель мітусілася ў вачах.

— Цьфу! — плюнуў Міхалка.

— Цьфу! — нібы водгалас, пачуўся шчыры плявок Меера.

## 10

# КАТЫ І ПАНІ ВАШАМІРСКАЯ

Старая пані Вашамірская, маці маладога паніча, ужо некалькі год жыве асобна ў другім маёнтку нябожчыка мужа. Яна вельмі добрая — і не хоча сыну перашкаджаць. Таксама яна не хоча, каб сын перашкаджаў і ёй. Яна да таго добрая, што надзівіцца не можа сваёй дабраце і дабрачыннасці. Шмат суседніх паняў і паноў ёй аб гэтым гавораць.

Але ці людзі разумеюць яе так, як яна сама сябе разумее? Ці людзі могуць ацаніць усю яе дабрату, яе бязмерна чулае, кволае сэрца?

Не! Ніхто, толькі яна сама сябе можа ацаніць. Яна і пан буг! Для сябе пані жыць не хоча і не можа — жыве для іншых. Аднак дзеля таго, што людзі яе не разумеюць і, наогул, людзі — стварэнні грэшныя, недастойныя яе ўвагі і дабраты, яна ўсе свае клопаты аддае не ім. Яна вельмі любіць катоў. Калісьці, пры мужу, яна любіла сабак. Але людзі памыляюцца — памылілася тады і яна. Цяпер пані выправіла сваю памылку — замяніла сабак на катоў. Бог накіраваў яе на святы шлях.

Котка — прыгожае, лагоднае і далікатнае стварэнне. Котка больш шляхотная за сабаку.

З вялікім захапленнем старая пані Вашамірская палюбіла катоў.

Каля сваёй спальні яна мае два пакоі для катоў. У адным пакоі — здаровыя, у другім хворыя. Пры катах ёсць лекар, кухарка і некалькі нянек. Кожная котка мае аксамітную падушачку, коўдрачку, пасцель і наогул поўны гардэроб. Пад наглядам пані варыцца для іх ежа. Яна сама назначае дыету для хворых, ведаючы густ і капрызы кожнай паасобку. Сама купае іх, мые дарагім мылам і абрызгвае замежнай парфумай. Сама ўбірае катоў у стужкі, трымае іх на каленях і каля хворых часам сядзіць цэлымі начамі. Аднаго разу, як здохла такая котка, дык пані выклікала ксяндза (пані ўпэўнена, што каты — каталіцкай веры), наладзіла пышнае пахаванне ў садзе і цэлы месяц хадзіла ў жалобе.

Яна памізарнела за гэты час, пасівела. Лекару ўсыпалі тады бізуноў за тое, што недагледзеў, а нянька засталася без касы — пані загадала адрэзаць. Пані — строгая і добрая — нікому не дасць пакрыўдзіць сваіх котак.

Пані мае затое і вялікую ўцеху.

Каты таксама яе любяць. Спяць з ёю, ходзяць за ёю стадам, лезуць ёй на калені, калі па імені пакліча. Яны не такія няўдзячныя, як людзі. І пані Вашамірская мае ад іх заслужоную духоўную ўзнагароду.

Яна любіць катоў не толькі свайго пансіёна. Часам гатова палашчыць і мужыцкага ката. Яна яшчэ больш шкадуе такога: далікатная, шляхотная істота, а ў хамулы-мужыка мышэй ловіць, прыгон адбывае. Пані нават думае забараніць сваім прыгонным трымаць катоў.

Яе захапленне катамі пераходзіць усякія межы, ды інакшай быць не можа, іначай пані была б недастойна іх. Яна да таго глыбока пранікнута кашачай псіхікай, іхнімі пачуццямі, што адчувае вялікую натхнёнасць у часы кашачых канцэртаў на даху вясной. Грубыя людзі не разумеюць хараства іхняга мяўкання, вушы свае недастойныя затыкаюць. А пані ўсім імпэтам далікатнай чулай душы ўпіваецца ў гэту музыку. Наслухаўшыся да хмельнай асалоды кашачай сімфоніі, пані Вашамірская ўспамінае сваю маладасць, сваё каханне... Успаміны паўстаюць перад ёю жывой плоймай рухавых катоў. Аглядае сябе — яна яшчэ цяпер, маючы пяцьдзесят гадоў, досыць цікавая, стройная, вёрткая.

Вочы пані Вашамірскай свежым сокам маладасці наліваюцца. Кволым салодкім голасам яна крычыць:

— Янэк!

Малады, прыгожы, выфранчаны Янэк, лёкай пані, нячутнымі крокамі з'яўляецца перад ёю. Нібы з-пад зямлі вырастае.

— Што, яснавяльможная пані?

— Пойдзем да маёй усыпальні. Пяткі мне пацярэбіш.

Пані аднаго разу зацікавілася Салаўём свайго сына, маладога Адася. Надта ўжо яго хваляць. Ці ж нейкі Салавей сапраўды цікавейшы за яе катоў?

Адась абяцаў прывезці Салаўя.

Сягоння яна іх чакае: Адася, Салаўя і ксяндза Марцэвіча, які кожны месяц прыязджае сюды спавядаць паню.

За месяц у старой пані Вашамірскай набіраецца цэлы жмут грахоў. Кожны месяц пані аддае грахі свае ксяндзу. Яна не задумваецца над тым, куды ён іх дзяе. На тое ён духоўнік. Мо ён папе рымскаму ў канверце адсылае, мо самому пану богу ў рукі аддае — не яе справа. Яна ведае толькі адно — ксёндз дае ёй кожны раз вызваленне ад грахоў, і душа пані застаецца чыстай, як у младзенца. Пасля

споведзі яна адчувае лёгкасць бязгрэшнай душы. Каб у яе былі крыллі, дык, як анёл, у неба залунала б...

У працягу месяца набіраюцца новыя грахі. Ходзячы каля замілаваных котак, не хочучы грэшыш: то аднаму кату на хвост наступіш, то скінеш з кален другога, то крыкнеш на трэцяга, то мала няньку пакараеш за тое, што малога коціка перакарміла. Ды ці мала грахоў бывае ў чалавека пры такіх цяжкіх абавязках? Чалавек жа толькі чалавек, хоць і вышэйшай панскай пароды...

Пані прыслухоўваецца да самага ледзь прыкметнага шолаху на двары — ці не едуць?

Яна ўздрыгвае ад кожнага скрыпу дзвярэй, ад кожнага тупату на дзядзінцы. Нарэшце пачула суматоху. Прыбегла пакаёўка і паведаміла, што малады паніч прыехаў з ксяндзом ды яшчэ з некім.

Выскачыўшы з панінага пакоя, пакаёўка стукнулася лоб у лоб з лёкаем, які таксама спяшыў паведаміць паню аб прыездзе гасцей.

Абодва захіхікалі і зараз жа змоўклі, пабаяліся, каб пані не пачула. Лёкай ушчыпнуў моцна пакаёўку за руку вышэй локця, ад чаго яна вельмі смешна зморшчыла твар і хацела крыкнуць. Ён строга кінуў вокам у бок паніных дзвярэй і паказаў сабе пальцам на лоб. Гэта значыла: «ціха, бо пані пачуе».

Ва ўсёй чэлядзі быў умоўны знак — пакруціць пальцам над сваім лобам абаранак у паветры, калі хто хацеў казаць пра паню.

Гасцей, сына і ксяндза, пані прыняла ў кашачым — самым ганаровым пакоі. Салавей астаўся ў пярэдняй.

Паветра ў пакоі для катоў было затхлае, змяшанае з дарагой пахучай парфумай. Пан Вашамірскі і ксёндз Марцэвіч ледзь прыкметна моршчыліся і чмыхалі насамі, стараючыся пры гэтым не глядзець адзін на аднаго.

Тут адчувалася поўнае панства катоў. На мяккіх дыванах, на шоўкавых і аксамітных рознакаляровых падушках каты рознага росту і масці спацыравалі нячутнымі крокамі, сядзелі і ляжалі ў разнастайных позах. Некаторыя з іх былі падобны да тыгрыцаў, некаторыя выглядалі какетліва, як паненкі. Поўзалі па падлозе і маленькія, як мышкі, кацяняты. Тут было некалькі пакаленняў катоў розных парод, рознага заводу.

Ад вечнай панінай няволі каты былі млявыя, гультаяватыя, з заплюшчанымі вачыма. Аднак выраз вачэй у кожнага з іх быў асаблівы і як бы асмыслены.

— Няма разумнейшых і далікатнейшых стварэнняў на свеце! — тлумачыла пані гасцям.

І ксёндз і сын хвалілі катоў, ад чаго пані ўзрадавалася, і вочы яе блішчэлі ласкаю і гордасцю. Яна апавядала радаслоўе кожнага ката паасобку. Яна ведала ўсё хітра спляцёнае дрэва іхняй радні, іхняга сваяцтва між сабою. Гэта ўсё было запісана панінай рукой у скураных фаліянтах на добрай французскай паперы...

Яна вадзіла гасцей ад сцяны да сцяны, на якіх былі развешаны малюнкі катоў у натуральнай велічыні: работа найлепшых маляроў, якіх яна дзеля гэтага выпісвала з Варшавы, плаціла ім вялікія грошы...

Ксёндз Марцэвіч хітра паглядаў на пана Вашамірскага, той адварочваўся.

Раптам пачулася дзікае і жаласлівае мяўканне з суседняга пакоя — «з кашачага шпіталя». Пані ўздрыгнула і пабялела як палатно.

— Пэўна Атлантыда каценіцца! — сказала яна не сваім голасам і пусцілася, заклапочаная, у другі пакой.

Пан і ксёндз асталіся адны. Яны адвярнуліся адзін ад аднаго, і кожны з іх душыўся ад нахлынуўшага знутры смеху.

Да ксяндза падышоў вялізны, белы як снег, кот і давай яму глыбока пазіраць у вочы.

Ксяндзу нялоўка зрабілася. У яго зараз жа адпала ахвота смяяцца.

Залаціста-зялёныя вочы ката з вузкімі цёмнымі рыскамі глядзелі на яго задумёна і як бы пранікаючы наскрозь. Ксяндзу здавалася, што паміж ім і катом ёсць сакрэт, таямніца, вядомая толькі ім адным. Тая вера ў д'ябла, якая страцілася з сэрца ксяндза, вярнулася назад.

«Хто яго ведае,— падумаў ён,— звычайны кот так разумна не глядзіць. А гэты — нібы ўсе думкі мае знае...»

Кот пачаў выгінацца ў дугу, пазяхаць, церціся галавой, хвастом каля ног ксяндза, пакідаючы на чорнай сутане белую поўсць.

Ксёндз перамог сваё непрыемнае пачуццё, надаў сабе празмерную харобрасць, нагнуўся і пстрыкнуў ката пальцам у слізкавата-ружовы мяккі нос.

Кот бліснуў вачыма ад неспадзявання, ад дзіва, і ледзь не чалавечы выраз адлюстраваўся ў яго вачах. Ён грозна натапырыў рэдкія вусы, замурлыкаў і распусціў свае вострыя кіпцi...

Ксёндз крыкнуў. З яго падрапанай правай рукі капала кроў...

Спалохаўся спачатку і пан, але потым засмяяўся, кажучы, што ксёндз гэта шчыра зарабіў.

Ксёндз выцер руку хустачкай і хутка забыў аб ране, бо катам неслі полудзень, неслі на тацах у дарагіх пасудзінах.

Яго зацікавіла адна з нянек. Ад гэтай кашачай нянькі ён вачэй адарваць не мог.

Квапным позіркам утаропіўся ў тое месца, дзе пад лёгкай сукенкай вызначаліся акругленасці бёдраў...

За сцяною чуваць быў лямант «парадзіхі» Атлантыды і пяшчотнае супакойванне яе спрытнай бабкі — старой пані.

11

## КАШАЧЫ КАНЦЭРТ

Пасля таго як накармілі катоў, як Атлантыда ўдачліва спарадзіла пяць кацянят, як пані ў старасвецкім календары знайшла для іх імёны, якія панапісала на шоўкавых істужках і абвязала імі кацянят, пасля таго як яна ўпісала ў кнігу новых кацянят з адзначэннем дня нараджэння,— гасцей папрасілі на абед.

Пані яшчэ была ўзварушана вялікімі падзеямі сённяшняга дня: новым пакаленнем катоў. Такая ўрачыстаць не праходзіла ціха. Якраз цяпер чуваць была суматоха на двары: вялі на стайню лейб-доктара паніных катоў, каб пакараць яго за тое, што не паведаміў паню раней, калі Атлантыда павінна была каціцца, і пані зусім да гэтага не была падрыхтавана.

— Ёсць рай, ёсць і пекла, таксама радасць не бывае без смутку. Ва ўсім божая гармонія,— разводзіў сваю філасофію ксёндз Марцэвіч, запіхваючы ў рот тлусты кавалак смажанай гусяціны з яблычнай начынкай.

— Кара робіць людзей шляхотнымі, болеч цела дае гаенне духу,— казаў ён салодкім голасам, запіваючы гусяціну чырвоным віном з срэбнай чаркі.

— А дзе ж Салавей? — успомніла пані.— У клопатах ледзь не забылася аб ім.

— Трэба яго паклікаць! — сказаў пан, выціраючы губы белай галяндэрскай сурвэткай.

— Так, Салавей,— разважаў ксёндз, паглядаючы ласа на марынаваныя грыбкі,— назвалі чалавека салаўём. Але ж ён вые, як воўк, брэша па-сабачаму, хрукае, як свіння,— чаму ж салаўём яго назвалі? Чаму, пане Адасе?— звярнуўся ён да пана Вашамірскага.— Маглі б назваць воўкам, сабакам, свіннёй.

— Маглі б назваць і ксяндзом, бо ён і ваш голас падрабляе! — казаў пан Вашамірскі.— Назвалі салаўём, бо яго амплуа салаўём свістаць, бо нам якраз гэта роля патрэбна. А вашай ксяндзоўскай ролі ён не адбярэ...

Ксёндз трохі паморшчыўся і, каб лягчэй зглынуць крыўду, зноў пачаў разважаць.

— Такія, як гэты чалавек-салавей, называюцца брухамоўцамі. Гэта чараўнікі, у іх нячыстая сіла сядзіць, аб іх у Бібліі гаворана. Яшчэ цар Саул загадаў выразаць усіх чараўнікоў і ведзьмаў у сваёй дзяржаве.

Ксёндз зірнуў у бок пані, якая ціха ойкнула і вытарашчыла вочы.

— Ой, вельмі баюся нячыстай сілы,— прашаптала пані і давай хрысціць рукою дзверы кашачых пакояў.

— Ды кіньце, войча, глупства гаварыць і маю маці палохаць! — зазлаваўся пан Вашамірскі.

Але ў гэты час ксёндз Марцэвіч быў захоплены зусім іншай справай. Ён, не звярнуўшы ўвагі на словы пана Вашамірскага, спакойна прысунуў да сябе апетытны ружовы торт, які выглядаў, нібы яснае сонца.

У старой пані заўсёды торт (вельмі мастацкай работы) быў традыцыйнай украсай стала. Яна была вялікім аматарам майстраваць торты. Адслужыўшы прываблівай дэкарацыяй для шаноўных гасцей, торты заўсёды заставаліся цэлымі, нечапанымі, як дзева Марыя. Пасля пані Вашамірская аддавала іх сваім пестунам — катам.

Ксёндз Марцэвіч гэта ведаў. Але, выпіўшы цяпер лішнюю чарку віна, яго апанавалі спакусы пакаштаваць хоць раз у жыцці панін торт.

— Зусім магчыма,— казаў ксёндз,— што нячыстая сіла і ў Салаўі сядзіць...

Пры гэтым ён адрэзаў ёмкі кавалак торта і пачаў есці, любуючыся і смакам і выглядам, бо торт у разрэзе адкрываў захаваныя таямніцы рознакалёрных слаёў начынкі. Торт меў унутры цэлую тройцу райскіх смакаў.

Пані, захопленая гутаркай, не заўважыла ксяндзоўскага ўчынку.

— Грэшны дух,— далей вёў гутарку ксёндз,— прыходзіў і да святога Аўгусціна ў выглядзе анёлаў і нават прымаў постаць самога пана Езуса. Але са злом трэба змагацца!

Пры гэтых строгіх словах другі кавалак смачнага торта паехаў у ксяндзоўскі рот з такім спрытам, нібы торт быў гэтай нячыстай сілай, якую ён стараўся знішчыць.

Пані раптам заўважыла празмернае самачаставанне духоўніка, крыху зморшчылася і адсунула ад ксяндза пачаты торт.

У гэты час лёкай прывёў Салаўя. Той нізка пакланіўся, аглядаючы ўсіх смелымі, спакойнымі вачыма.

Пані зірнула на яго са страхам, цікавасцю і павагай.

Словы ксяндза зрабілі на яе ўражанне.

— Ну, нячыстая сіла,— пажартаваў пан,— свісні салаўём!

Салавей паказаў сваё мастацтва.

Пані слухала спакойна.

Такая незацікаўленасць роднай маткі да свайго Салаўя пану не зусім спадабалася.

— А што? —звярнуўся ён да маткі.

— Эт! Так і птушка можа, тысячу разоў чула.

— Ану, прадстаўляй ксяндза! — звярнуўся пан да Салаўя.

У адну хвіліну Салавей ператварыўся ў ксяндза Марцэвіча: пачаў сыпаць ксяндзоўскай філасофіяй, якой многа наслухаўся ў студыі. Падрабляў яго голас да таго натуральна, ажна ксёндз здэтанаваўся і пакрыўдзіўся...

— ... Як жа гэта можа быць, каб асёл сына божага не гаварыў?! — дзівіўся Салавей.— Аб гэтым і так кожны можа разумець! І так ясна.

Салавей нібы папраўляў сутану. Ён граў ксяндза Марцэвіча. Нават выраз вачэй быў падобны да ксяндзоўскіх.

— ...Боль грэшнага цела гоіць вечную душу,— кончыў прадстаўленне Салавей.

Пан Вашамірскі рагатаў шчыра і гучна, адкінуўшыся галавою на спінку крэсла, палажыўшы рукі накрыж на жываце.

Ксёндз апусціў галаву, а пані была незадаволена, што так выкпіваюць духоўную асобу.

— Так сам ксёндз патрапіць. Тут ніякага дзіва няма! — казала пані няласкавым тонам.

— Але ж тут ёсць мастацтва!— гарачыўся пан.— Ёсць лес, які мы бачым штодня, і не дзівімся яму, а калі гэты самы лес намалюе мастак, дык мы дзівімся малюнку. Малюнак ужо ёсць мастацтва!

Пан Вашамірскі націскаў на слова мастацтва, нібы гэта мастацтва было абасобленай істотай, якую ён бачыў перад сабою, адчуваў сваімі нервамі.

— У Салаўя таксама шмат мастацтва! — кончыў свой доказ пан Вашамірскі і выпрастаўся на сваім крэсле.

— Не мастацтва, а брухамоўства,— ціхім голасам паправіў пана ксёндз Марцэвіч, бліснуў набожнымі вачыма ў бок пані і зноў прысунуў да сябе начаты торт, нібы зброю супроць пана.

— Я прызнаю мастацтва толькі ў катоў,— казала пані і пагладзіла пры гэтым двух катоў, якія сядзелі на яе каленях.

— Ану, заняўкай! — звярнуўся пан Вашамірскі да Салаўя і бліснуў весела вачыма.

Салавей пачаў няўкаць.

Кашачыя марцаўскія спевы ліліся з яго горла, запоўнілі пакой. Ён на розныя лады перадаў няўканне катоў. Няўкаў нібы не адзін кот, а дзесяць. У гэтых агідных галасах чулася роспач, быццам рэзалі кагосьці па горлу тупым шклом ці душылі вяроўкай. У гэтых жудасных хрыпах і стогнах была цяга самца да самкі, тая цяга, ад якой непрытомнымі робяцца, ідуць на розныя злоўчынкі.

Пан заткнуў вушы.

Уся чэлядзь збеглася спалоханая і здзіўленая. У пансіёне катоў пачалося занепакоенне. Каты пачалі драпаць дзверы.

Старая пані была ў захапленні. У яе засвяціліся вочы, як дзве свечкі, паружавеў твар. Яна не адрывала вачэй ад Салаўя, упівалася са смагай у гэты дзікі канцэрт. Ёй здавалася, нібы чуе гранне аргану ў касцёле або спевы анёлаў у раі, што былі ёй знаёмы з яе ўласных «прарочых сноў», якія часта сніла.

Ксёндз Марцэвіч у гэты час з'еў увесь торт. Пані не заўважыла.

— Вось гэта мастацтва! — казала пані горача і шчыра.— Вось гэта я разумею! Адно захапленне...

— Ага! — крыкнуў пан Вашамірскі голасам пераможцы.— Ага!

Вельмі хацелася ў гэты час пані Вашамірскай загадаць Салаўю пацерабіць ёй пяткі...

## 12

## РОЗНЫЯ МАРЫ РОЗНЫХ ЛЮДЗЕЙ

Бразгулкі звінелі, адбівалі хвіліны, лічачы іх цененькімі медзянымі галасамі.

Тройка стаеннікаў, выпешчаных, круглых, разгарачаных, імчалася ў снежную ноч, падобную колерам да сіняватага цукру. Коні, нібы гумалясткавыя, выцягваліся цугам адзін за адным; гнулі паліраваныя шыі ў лебядзіныя кольцы; стрыглі вострымі, як сталёвыя нажніцы, вушамі; нюхалі снежнае паветра: храплі гучна, бадзёра; пара белым дымам клубілася з іхніх ноздраў. Яны выраблялі капытамі рытмічныя, мерныя скокі. Круглыя, як талеркі, капыты дарагое панскае тройкі з крохкім вохканнем мільгалі ў мяккім снезе. Быццам не капыты датыкаюцца зямлі, а невідочны фокуснік-жанглёр перакідвае з рукі ў руку некалькі дубовых кружалак.

Невядома, ці коні глыталі даль, ці наадварот. У снежную месячную ноч панская тройка ганялася за гэтай далечынёй і немаведама хто каго пераганяў. Дух захоплівала, вецер свісцеў у вушах, і седакі на санях адчувалі, што яны рэжуць сабою напружанае, як шкло, зімовае паветра.

Коні мерылі снежную раўніну, выпукляліся на сіняватым глянцы снягоў, нібы малюнак на паперы.

Сані слізгаліся па роўным снезе, як лёгкі човен на возеры. Насупраць імчаліся, як звар'яцелыя, кучаравыя елкі, дробныя хмызнячкі. Дрэвы выглядалі пасівелымі ў дарозе нямымі вандроўнікамі.

У прасторных панскіх санях сядзела чацвёра людзей: на заднім сядзенні з пухкай мядзведскай скурай на нагах — пан Вашамірскі з ксяндзом, на пярэднім — фурман з Салаўём.

Усе маўчалі. Яны былі захоплены пекнатою зімовай месячнай ночы. Ва ўсіх пачуццё было спачатку звязана і пераплецена нечым адным — і чацвёра людзей у сваім маўчанні, у азіранні вакольнай смуглай белі вельмі блізкі былі між сабой або нават адной істотай, падзеленай на чатыры часткі.

Усе ўспрымалі гэту ноч неадлучна ад прыгожай тройкі. Адно без аднаго існаваць не маглі ў гэтым дзіка-імпэтным парыванні наперад — у снягі, у даль...

Але патрохі ад агульнага кожны пераходзіў у думках да свайго асабістага.

Поўны, суцэльны, шырокі прастор мелі перад сваімі вачыма фурман і Салавей.

Фурман усю ўвагу аддаў на тое, каб не перавярнуць саней. З незвычайнай кемнасцю ён трымаў лейцы ў левай руцэ і даўгую пугу ў правай. Як дырыжор-мастак ён кіраваў коньмі: адны лейцы нацягне, як струны, аж пакуль не пачуе хруст конскіх зубоў аб жалеза цугляў, другія лейцы адпусціць слаба, пакуль яны не прыпадуць нізка да самага снегу доўгім выгнутым ментузом; потым хлясне лейцамі аб конскія круглыя бакі, стральне пугай, цмокне губамі, гікне, свісне і з нейкай затаёнай гордасцю выпрастаецца на сядзенні. Ён гляне ў даль дарогі з супакоем алімпійскага бога, як трыумфальны пераможца, як уладальнік неабмежаваных прастораў; або на хвіліну ўвап'ецца вачыма ў круглыя крыжы стаеннікаў, нібы нешта на іх чытае. Пасля зноў пачне лейцамі штукі рабіць.

Салавей мае поўную волю глядзець ва ўсе бакі, ні аб чым не думаць. Ён ловіць кожны гук ночы, кожны шолах снегу, любуецца рытмікай бразгулак, тахтам глухога тупату капыт. Усе гукі ночы зліваюцца ў яго ўспрыманні ў цэльную мелодыю, якая казытае вушы. Ад сядзення без руху яму то горача, то холадна робіцца ў левай часці цела ад галавы да ног. Яму здаецца, што мелодыя падае на яго снежнымі кроплямі, акутвае белым кажухом. А зялёныя месячныя іскры ў снезе мігаюць да яго блескам Зоськіных вачэй... У белай далі Зоська паказваецца яму ў розных постацях і выглядах.

«Эх, каб так ды з Зоськай катацца на панскіх стаенніках, з ёю адной вечна імчацца, заўсёды, без спынку... А калі не з Зоськай, дык так пана пакатаць, каб костачкі яго ў пыл растрэсці»...

Ксёндз Марцэвіч сядзіць з левага боку. Перад сабою ён бачыць толькі шырокую спіну фурмана. З правага — затуляе прастор пан. Толькі адзін бок дарогі цягнецца перад ім сіва-сінім абрусам. Вочы яго трохі заплыўшыя ад праз меру выпітага віна. У жываце — прыемная цяплынь ад сытнай яды. У вушах — аднастайны гук ветру, змешаны з глухім стукам конскіх капытоў. Гэта яго даводзіць да дрымоты. Ён засынае. Стукаецца галавой у бок пана, прачнецца і зноў пачынае драмаць. То сніцца яму пакаёўка з круглымі бёдрамі, што вельмі вабяць яго, выраста́юць у горы, запаўняюць сабою прастор аж да неба. То белы кот мільгне перад ім, заглядае ў вочы, драпне твар. Ксёндз у страху прачынаецца. Ные падрапаная да крыві

рука. Хутка зноў спіць. Есць торт, есць з апетытам, а той усё цэлы... Старая пані Вашамірская глядзіць і смяецца, смяецца да колікаў у баку. Забываецца ксёндз, дзе ён. Яму здаецца, што ён у мяккай белай пярыне, але не разумее, чаму бачыць перад сабой снег. Рэзкі вецер казытае нос. Ксёндз праціpae вочы, думае, што сапраўды спіць у пасцелі, а дарога снежная, санкі і коні толькі сон, смешны і прыемны белы сон.

Пан Вашамірскі ўпіваецца выключна снежнай беллю. Ён нічога іншага не бачыць і не чуе. Яму здаецца, што не чуе нават звону і бразгулак, стуку капытаў і іншых гукаў, але ў сапраўднасці гэтыя самыя гукі наводзяць яго думкі на тое, каб захапляцца дзіўнай беллю, якая выклікае ў яго неспадзяваныя, «геніяльныя» думкі аб улюбёным тэатральным мастацтве.

У кожную хвіліну ўсё новыя праекты мітусяцца ў яго галаве. То ён думае пабудаваць у сваім маёнтку такі тэатр, які бачыў у Парыжы. То хочацца яму перавесці трупу ў Варшаву. То думае распусціць студыйцаў і вярнуць іх да ранейшай прыгоннай працы, а з суседніх маёнткаў набраць новых, больш здольных людзей...

Кожная такая думка не можа разгарнуцца да канца. Ксёндз Марцэвіч, які сядзіць з левага боку, раптам стукнецца дрымотны ў бок пана Вашамірскага, і думка разбіваецца, як шкло, рассыпаецца, як гарох.

Злуецца пан Вашамірскі — і давай нанова думаць. І новая думка, не паспеўшы расцвісці, вяне і разбрызгіваецца, нібы кроплі спаміж пальцаў.

Адно застаецца не разбітым у панскай галаве — непакоенне аб студыі, якую ён пакінуў на цэлы дзень.

Санкі нясуць у даль гэтых чацвярых людзей.

Снежны вецер падхоплівае іхнія думкі-мары і кідае ў месячныя зялёна-белыя невады.

Вырастаюць прысады маёнтка.

Тройка кідаецца туды, як у казачную браму. Гучныя бразгулкі плаваюць, лунаюць у паветры і даносяць у маёнтак вестку, што пан вярнуўся.

З драцяных галін роўна абстрыжаных прысад падаюць уніз — на коней і людзей — лёгкія, кволыя сняжынкі. Яны на ляту сінеюць пад месячным ззяннем: якраз вішнёвы цвет у маёвым садзе... Бо зараз і пах ад іх пачуецца...

Вось-вось пад'едзе тройка да панскіх палацаў...

Вось-вось сустрэнуць яе на ганку аснежаныя каменныя львы.

# ЧАСТКА II

## 1

## ВАЙНА МІЖ РЭЖЫСЁРАМ І ДРАМАТУРГАМ

Аднаго разу пан Вашамірскі звярнуўся да рэжысёра і драматурга:

— Хачу пабачыць вынікі вашай працы. Надыходзіць час мастацкага жніва, шаноўныя панове.

— Мы стараемся, вяльможны пане,— сказаў на гэта ксёндз Марцэвіч.— Езу-Марыя нам сведкамі, як мы стараемся. І студыйцы гэта адчуваюць. Мой метад самы правільны, як бог свят. За кожны недахоп, за самы малы пропуск у ігры — бізуны...

На гэта рэжысёр:

— Большасць студыйцаў выяўляе здольнасць. Многія захапляюцца ігрою без прынукі.

Вочы ксяндза Марцэвіча загарэліся:

— Як гэта без прынукі? З такой жывёлай, як нашы студыйцы, без бізуна не абыдзешся. Калі што зроблена, калі ёсць пэўныя поспехі, дык дзякуючы бізуну і пану богу. Вось што, ласкавыя панове!

Рэжысёр усміхнуўся, выцер хустачкай нос і пачаў расцяглым голасам:

— Шмат ёсць здольных сярод тутэйшых простых людзей. У гэтых дзяцей прыроды адчуваецца свежасць успрымання ўсяго прыгожага — усіх галін мастацтва. У Парыжы з іх быў бы толк. Выйшлі б з некаторых вялікія кампазітары, акторы, маляры і нават паэты. Некаторыя з іх дэкламуюць у часы добрага гумару імі самімі прыдуманыя вершыкі.

— Я аб вершыках не ведаю,— устрывожыўся пан Вашамірскі.— Ці варта ім дазваляць самастойна думаць? Немаведама да чаго дадумацца могуць...

— Як бог свят, гэта чыстая праўда! — узрадаваўся ксёндз Марцэвіч.— Я ім забараню прыдумваць вершыкі на хамскай мове, сапсуюць польскую мову.

Ксёндз Марцэвіч у часы рэпетыцыі галоўным чынам зварочваў увагу на чыстату акцэнтацыі польскай мовы, на тое, каб «хамская» мова ў некаторых герояў яго п'есы

выгаварвалася смехатліва, праз меру груба, і на акуратнасць перадачы яго п'есы наогул.

Ксяндзу прыходзілася шмат спрачацца з французскімі педагогамі: ён уяўляў персанажаў сваёй п'есы не так, як бачыў іх у выасабленні студыйцаў пад кіраўніцтвам рэжысёра; часта з ім спрачаўся, гаварыў, што рэжысёр не ведае тутэйшага жыцця, тутэйшага быту.

Рэжысёр самаўпэўнена ўсміхаўся, глядзеў на ксяндза так, як глядзяць на блазна, і тлумачыў на ломанай польскай мове:

— Вялікі мастак (рэжысёр лічыў сябе вялікім мастаком) павінен толькі раз зірнуць у новы куток жыцця — і ён ужо ведае ўсе яго асаблівасці, усе яго спецыфічнасці. Вялікаму мастаку трэба давесці працу да канца, не перабіваць, а тады толькі крытыкаваць яго твор, і то не седзячы на ксяндзоўскай званіцы...

Рэжысёр гаварыў доўга, горача, перабіваў сам сябе, пераходзіў з польскай на французскую мову і канчаў заўсёды словамі «касцюмы, грым, дэкарацыі». Калі ўсё гэта будзе нарыхтавана, тады драматург пабачыць сапраўднае выяўленне ў вобразах сваёй п'есы.

Таксама доўга гаварылася аб заданнях, правах і адносінах між рэжысёрам і драматургам. Тут кожны заставаўся пры сваіх поглядах.

Ксёндз Марцэвіч быў пераконаны ў тым, што драматург (гэта значыць ён) з'яўляецца першатворцам, першакрыніцай таго фантана дзеяў і вобразаў, якія выяўляюцца на сцэне ў жывым увасабленні, і мае права кіраваць усім пры рэпетыцыях.

Рэжысёр даводзіў адваротнае, тлумачачы, што сцэнічны твор — гэта тое ўгнаенне, на якім вялікі мастак-рэжысёр (гэта значыць ён) выгадоўвае пяшчотныя геніяльныя кветкі мастацтва ў яскравых фарбах ігры.

У спрэчках яны наскоквалі адзін на аднаго, як два пеўні, і разыходзіліся, астаючыся кожны пры сваіх перакананнях і поглядах.

Галоўная бяда гэтых спрэчак была ў тым, што яны заўсёды адбываліся ў часе рэпетыцыі і перашкаджалі суцэльнаму, сістэматычнаму ходу працы.

Кожны раз студыйцы, дзякуючы заядлай вайне між драматургам і рэжысёрам, адрываліся ад ігры і прыслухоўваліся да гутаркі, ловячы з яе пятае праз дзесятае: вопратка і грым вельмі імпанавалі. Яны хацелі б ужо скарэй пабачыць сябе ў гэтым, пабачыць сябе ў такіх выгля-

дах, каб ні адзін аднаго, ні саміх сябе не пазнаць. Гэта было б для іх нагародай за ўсе пакуты і катаванні, што ім прыходзілася выцерпець у часе мастацкай адукацыі.

Кожны раз у самай гарачцы слоўнага турніра між рэжысёрам і драматургам, калі, здаецца, во-во вайна дойдзе да самага свайго найвышэйшага пункта і ад слоўнага яна прыме кулачны выгляд, пан Вашамірскі стрымліваў іх імпэт. Ён меў над імі вялікі ўплыў, як мецэнат і гаспадар.

Абодва — і рэжысёр і драматург — вельмі слухаліся пана і згаджаліся кожны раз з яго поглядамі на мастацтва. Праўда, яны згаджаліся толькі на словах, але пан меў бясспрэчны аргумент — тыя вялікія грошы, якія шчодра сыпаў на гэту справу, і на факце ён кіраваў.

Пан Вашамірскі ў час рэпетыцый зварочваў увагу галоўным чынам на тое, каб студыйцы, граючы «мужыкахама», давалі яго ў смешным, дурным выглядзе, каб гледачы смяяліся, смяяліся ды смяяліся, каб балерыны, якія ўвасабляюць сабою багінь старой Грэцыі, былі зграбныя і рабілі такія рухі, як паненкі панскае крыві. Вяльможныя паненкі з'яўляліся ў пана ідэаламі зграбнасці і грацыі.

Хоць і рэжысёр і балетмайстар мелі на гэту справу свой смак і свае мастацкія погляды, аднак стараліся ўгадзіць пану.

Задача рэжысёра была вельмі цяжкая. Моцная рука пана над яго мастацтвам была і салодкая і горкая. Салодкая тым, што кідала жмені залатых дукатаў налева і направа. Горкая, бо пятлёю душыла тыя мастацкія ідэі рэжысёра, якія ён хацеў самастойна праводзіць у працы студыі.

Рэжысёр добра разумеў, што прымушаць гэтых дзяцей сялян, або па-польску «хлопаў», высмейваць саміх сябе — сваіх бацькоў вельмі цяжка. Так шаржаваць, як хочa пан, немагчыма. Рэжысёр адчуваў, што ў гэтым выпадку студыйцы інстынктам сваім самі адчуваюць меру. А знішчыць у мастакоў-хлопаў самародкавае адчуванне меры ён лічыў праступкам перад мастацтвам. Аднак яшчэ большым праступкам ён лічыў страціць сваю добрую службу ў пана — і ён пайшоў на кампраміс з сваім сумленнем: бізунамі выбівалі з студыйцаў іхняе ўласнае пачуццё мастацкай меры. Урэшце іх вышкалілі так, як гэта хацелася пану.

Тое самае было і з «багінепадобнымі» балерынамі. Дзеля іхняй адшліфоўкі ў сэнсе кабечай зграбнасці пан пры-

думаў геніяльную штуку. Ён запрасіў да сябе з суседняга маёнтка знаёмую паненку, якая навучала балерын быць «музападобнымі».

Выкладанне балета вялося паводле прыдуманай панам Вашамірскім праграме.

Балерыны выстаўляліся ў рад перад яснавяльможнай паненкай. Паненка загадвала ім перарабляць усе тыя рухі, якія яна сама будзе рабіць.

Цікавая містэрыя малпавання адбывалася ў залі.

Усе тыя крыўленні, рухі і павароты рукамі, нагамі, галавой, якія робіць паненка, перарабляюць і балерыны.

Розныя вывёртванні бёдрамі, цэлая калекцыя разнастайных усмешак, якія робіць паненка, капіруюць, як хто можа, і балерыны.

Пільна сачыў за гэтым сам пан Вашамірскі. Ледзь малейшая неакуратнасць капіравання з боку балерыны, пан адсылаў яе ў той пакой, дзе адбывалася над ёю катаванне пад духоўным наглядам ксяндза Марцэвіча...

Ідэал пана быў такі, каб усё тое, што робіць паненка, перараблялі да малейшага штрыха і балерыны. Трэба, каб кожная балерына выглядала ў гэтым выпадку як бы адбіткам паненкі ў люстэрку.

У паненкі быў невычарпальны запас рухаў, гэстаў, выгінанняў, хістанняў усяго цела, выгадаваных у арыстакратычных рыцарскіх фліртах з пакалення ў пакаленне. Потым міміка твару, розныя тоны і пералівы яе ўсмешкі — ад звычайнай ганаровай, пагардлівай, гарэзліва-гульлівай да набожнай, нявіннай усмешкі мадонны,— таксама рознага роду выяўленні мімікай кахання, замілавання і любошчы мелі сотні пераходаў і варыянтаў.

А вялікія разнастайнасці выразу твару, вачэй і губ, якія паненка выкладала балерынам,— канца не мелі.

У гэтым выпадку французскі рэжысёр меў таксама свой погляд. Ён думаў, што перадаваць мімікай і гэстамі ўсякія пералівы чалавечых пачуццяў, захаваных у глыбіні душы, кожны здольны мастак (а балерыны-халопкі былі здольныя) павінен умець па-свойму. Ды, наогул, кожны чалавек па-свойму перадае свае пачуцці. У гэтым і ўся каштоўнасць ігры. І балерынам трэба даць волю быць кожнай самой сабою, выяўляць па-свойму кожную рыску, а не малпаваць іншых.

Перад воляй пана Вашамірскага ўсякія педагагічныя тэорыі рэжысёра разбіваліся, нібы прыбой аб прыбярэжныя камені.

## 2
## ХАМСКІ ДУХ

З аркестрам таксама былі нелады. Капельмайстар быў з прыгонных. Хамскі дух адчуваўся і ў музыцы. Ён так вышкаліў музыку, што, іграючы творы французскіх, італьянскіх ці іншых еўрапейскіх кампазітараў, яны кожны раз зварочвалі на хамскі лад. У мажорных тонах пракрадваліся часамі гукі лявоніхі, дуды, юркі; мінорныя матывы аддавалі смуткам і задумленнем жніўных песень на панскім полі. Ды і сам тэмп ігры быў нейкі дзіўны, чымся ў арыгіналах.

Французскія педагогі — знаўцы музыкі — гаварылі, што капельмайстар і музыкі на канве гатовых твораў вядомых кампазітараў твораць нешта сваё, новае... Нельга казаць, каб гэтае «іншае» было нецікавым, але ў даным выпадку патрабуецца чыстата выканання сусветных мастакоў, бо выходзіць, што еўрапейскае мастацтва абуваецца ў мужыцкі лапаць...

Аднак гэта гутаркамі і канчалася. Было позна выпісваць цяпер з Парыжа капельмайстра.

Біццё музыкаў на панскай стайні ні да чаго не прыводзіла.

— Гэта ўжо ў іх крыві нешта такое ёсць,— тлумачыў рэжысёр,— бізунамі не выб'еш і агнём не выпаліш...

Капельмайстар Антон Мурашка быў добрым скрыпачом. Часам, калі звальняўся на кароткі час ад заняткаў, ён граў «для сябе». Граць «для сябе» было для яго вялікай асалодай. Забіўшыся ў куток дзе-колечы ў адным з аддаленых пакояў панскага палаца, ён браў у рукі сваю ўлюбёную скрыпку, браў з такім замілаваннем, як маці бярэ роднае дзіцё. У гэты час яму здавалася, што ён нешта крадзе ў пана... Такія ўчынкі не дазваляліся, але вельмі цягнула граць «для сябе».

Аглянецца па баках, пасля ў нейкай жудаснай прыемнасці зажмурыць вочы, правядзе па струнах раз-другі смычком, тоненька завядзе, ціха-ціха... Волас ледзь дакранецца да струны, нібы птушка кволым крыллем да сваіх птушанятак, што дрэмлюць у гняздзе.

А потым ужо Антон нічога не памятае... Скрыпка пачынае гаварыць. Яна волю дастае...

Жаўранкі носяцца ў паветры, звіняць... Ластаўкі шастаюць крыллем... Ветрык шапоча з чаротам...

Ці мо гэта здаецца Антону?

Не...

На полі жнейкі жнуць... Дзесьці на лузе косы звіняць. Галасы бліскучай сталі зліваюцца з шорханнем мядовай мурожнай травы, сплятаюцца ў адно з праменнем летняга сонца...

Можа, гэта Антон сніць дзівосны сон?

Не...

Багун галаву хмеліць... Ягады-дурніцы чорным вуголлем блішчаць, нібы зрэнкі дзяцей уночы, калі пры лучыне дзед ім байкі бае... Аддае пахам прэлых сыраежак... А па купінах сіўца, калючага, як дрот, сцелецца-гнецца вецер. Часам ён загудзіць, засвісне на ўсе лады, зашастае між крывых, шчуплых бярэзін, басаножкай пусціцца гуляць па рудаўках з цёмнага перламутра і схаваецца, як дурнонік, у кудзерцах прысадзістай вольхі...

Няйначай Антон не бачыць гэта перад вачыма?

Бачыць...

А то дзяўчаты ў карагод пускаюцца. Гукаюць вясну... Косы распушчаны. Карагодніцы песні пяюць...

Антона вушы абманваюць?

Не...

Аб усім гэтым гаворыць яму скрыпка, калі ён грае «для сябе»...

Смычок вядзе гутарку-бяседу са струнамі...

У Антона вочы зажмураны. Па высокім бледным лобе вандруюць змаршчынкі; рассыпаюцца туды-сюды і зноў сыходзяцца ў адну кучку, кладуцца адна на адну, перакрыжоўваюцца, у жмуркі бавяцца...

А скрыпка гавора...

Антон нахіляе галаву над яе сэрцам. Прыслухоўваецца... Яму здаецца, што гэта яго ўласнае сэрца, нібы качка ў гняздо сваё, пераляцела ў скрыпку і сядзіць у ёй. Мо гэта так сапраўды?..

А струны — яго ўласныя жылы. У іх яго кроў пералiваецца... Струны жывуць...

«Эх, ды каб пайсці з сваёй скрыпкай у родную вёску, а там граць, граць..., да ахмялення, да адурэння, да сёмага поту»...

Але шушукаюцца недалёка пакаёўкі, шапочуць:

— Пан ідзе...

— Пан ідзе...

— Пан ідзе...

Гукі скрыпкі паміраюць. Мары канчаюцца...

Усе дэкарацыі былі збракаваны.

Дэкаратар, ускалмачаны, высокі чалавек з русай барodкай, ліха нарабіў — дзе трэба і дзе не трэба насадзіў на палотнах многа елачак, узоры з сялянскіх дываноў, каласы з васількамі.

— Яно ўсё добра. Для стылю трэба. Але ў меру. Няма пачуцця меры і гармоніі,— казалі французскія педагогі.— У дэкарацыі для балета тутэйшы каларыт лішні. Мясцовыя расліны для грэцкага стылю не падыходзяць... Тут павінны быць мармуровыя статуі, вінаградныя лозы. Алімп, харомы багоў. Далі ж яму (пры гэтым рэжысёр казаў па-французску смачную лаянку), дэкаратару, узоры малюнкаў з знамянітых французскіх гравюр лепшых мастакоў. Не — ён робіць сваё! Кожны з іх сваё хоча рабіць...

Дэкаратар стаяў вінаваты, з апушчанай галавой. На гэты раз яго на стайню не павялі.

Бізуны, праўда, выбіваюць кепскі дух з чалавека,— разважаў пан Вашамірскі,— але цяпер няма калі. Трэба хутчэй перамалёўваць дэкарацыі. Раней я на іх мала ўвагі зварочваў.

Дэкарацыі былі перамалёваны ў строгім вытрыманым стылі. Стыль быў ужо праз меру строгі — аддавала халадком класічнага бела-ружовага мармура Атэны.

— Калюмны пры харомах, аднак, напамінаюць сцвалы тутэйшых бяроз! — артачыўся рэжысёр.— Аркадскія пастушкі зусім падобны да мясцовых!

— Калі я ніколі не бачыў гэтых калюмнаў...— чуць не плачучы апраўдваўся дэкаратар,— ніколі не бачыў іншых пастухоў...

Рэжысёр гаварыў яму на ломанай польскай мове, куды ўваходзіла палавіна французскіх слоў, цэлую лекцыю аб праніклівасці мастака-маляра, аб цудадзеях яго зрочнага ўяўлення, аб тым, як мастак павінен духам сваім пранікаць у даўно мінулае і творчым пэндзлем адрадзіць яго, адбудаваць у часе патрэбы.

Аб гэтым ён гаварыў доўга, і, як уваходзіў у азарт красамоўства, французская мова выціснула польскія словы дашчэнту.

Дэкаратар стаяў бледны. Маўчаў. У галаве шумела. Яму здавалася, што надакучлівыя камары лезуць у вушы, у нос, у вочы, балюча кусаюцца.

— Каб хату тутэйшую, вясковую, дык як жывую намаляваў бы...— шаптаў ён немаведама каму.— Каб

хату...— маліўся-прасіўся ён, нібы збіраліся яго рэзаць.

Ён бачыў перад сваім уяўленнем гэтую хату. Яна адлюстроўваецца ў яго вачах, як на сінім шкле...

— Няма чыстага эстэтызма ў гэтых людзей! — скардзіўся рэжысёр пану Вашамірскаму. Ён разводзіў рукамі, як чалавек, што збіраецца тапіцца.

Гэтыя словы ўдарылі пана ў самае трапнае месца, кранулі самыя «святыя стрункі душы», як ён часта любіў казаць аб сваіх уласных пачуццях. Пану заўсёды здавалася, што такога эстэта, як ён сам,— на свеце няма. Ён імкнуўся да таго, каб у яго тэатры эстэтызм займаў самае першае месца. Пан быў вельмі абураны, задрыжэў яго характэрны падбародак. Вочы наліліся сталёвым бляскам... Ён звярнуўся да рэжысёра на французскай мове голасам мяккім, дрыжучым, нібы літасці просячы:

— Можа, усыпаць гэтаму хаму гарачых, тады і эстэтызм з'явіцца? У гэтым я згаджаюся з ксяндзом, які кажа часта, што пакуты цела робяць душу шляхотнай.

— Не, не, яснавяльможны пане, на гэты раз няможна! Маляр пасля гэтага не будзе здольны выправіць усе памылкі ў дэкарацыі! Хіба пасля...

## 3

## ГЕНЕРАЛЬНАЯ РЭПЕТЫЦЫЯ

Два словы, як лютыя звяры, накінуліся-наваліліся на маёнтак пана Вашамірскага і на яго прыгонныя вёскі:

Генеральная рэпетыцыя.

Ад самога пана да апошняй замурзанай судамойкі з дваровай чэлядзі — усе на розныя лады гаварылі гэтыя словы. Кожны іх па-свойму тлумачыў. Усіх казытаў пах гэтых слоў. Усе пранікаліся трывогай іхняга зместу, нерваваліся пры розных учынках у сувязі з генеральнай рэпетыцыяй.

Генеральная рэпетыцыя,— галасілі рэжысёр, балетмайстар, ксёндз Марцэвіч, капельмайстар, спалоханыя, устрывожаныя студыйцы, дэкаратар, краўцы, швачкі, сам пан Вашамірскі ды ўсе ў маёнтку.

На стайні гулі бізуны, чутны былі крыкі і стогны — генеральная рэпетыцыя.

Генеральная рэпетыцыя,— насілася на розпыя топы па ўсёй ваколіцы з вуснаў прыгонных.

У той жа час ляжала хворая пры смерці маці Марылькі.

Марылька, прыгажэйшая (як пан Вашамірскі сказаў) за статую грэцкай Венеры, грала ў «містэрыі» ксяндза Марцэвіча «матку боску».

Больш паўгода маці Марылькі не бачыла яе, бо са студыі нікога не выпускалі.

Пры хворай сядзела старая шаптуха і «лячыла» яе замовамі і зёлкамі.

— Ты, кажаш, празябла? — звярнулася шаптуха да хворай.

— Няпраўда. Гэта енаральная парапіца пашкодзіла. Ты ж у панскім двара як папрацавала, дык вось і набралася там гэтага ліха. Ой-ой-ой, як цяжка жыць.

Хворая не магла гаварыць. Вочы яе былі заплюшчаны. Вусны белыя і сухія, а на худым твары гарэлі чырвоныя пляміны. Яна маўчала, а шаптуха, нібы замову, гаварыла ёй шэптам над вухам:

— Цэлымі тыднямі працуюць людзі ў двара для енаральнай парапіцы. Гэтая самая енаральная звядзе нас усіх са свету. Новыя чыншы на гаротных налажылі. Ой-ой-ой, як цяжка жыць.

Шаптуха пасунулася яшчэ бліжэй да хворай:

— Людзі кажуць, што енаральная парапіца паела шмат гавяды, кабаноў, птаства. Рыбаловам загадалі насіць рыбу ў двор для енаральнай парапіцы. Гэта парапіца нават людзей глытае, гавораць бабы. Іх душаць на панскай стайні. Шмат хто чуў адтуль страшныя ляманты. У судыі (студыі) іх там адкормліваюць як гусей, а потым рэжуць на прысмакі для енаральнай парапіцы. Ой-ой-ой, як цяжка жыць.

Хворая ўздрыганулася ўсім целам і ледзь прашаптала:

— Марылька яшчэ не прыйшла?

— Не,— сказала шаптуха.— Твой жа Каспар па яе пайшоў. Дык вось для страшнага цмока, які завецца такой паганай назвай «енаральная парапіца», пан Вашамірскі выпісаў з-за акіяна немцаў чарнакніжнікаў. Яны сядзяць сабе ў панскім палацы і камандуюць, мая міленькая. Ой-ой-ой, як цяжка жыць. Птушкі чалавечай мовай гавораць пад камандай чарнакніжнікаў, аслы ў людзей перакідваюцца, людзі — у аслоў, коней і сабак. Ваўкалакі, мая міленькая, па начах выюць, людзей душаць. Ой-ой-ой, як цяжка жыць.

Самы меншы хлопчык, якому было каля чатырох год, заплакаў:

— Мама, есці хачу!

— Ціха ты! — крыкнула на яго шаптуха.— Маці памірае, а ты: «есці». Ой-ой-ой, як цяжка жыць.

Хлопчык яшчэ галасней заплакаў.

— Маўчы! — зазлавалася шаптуха.— А то прыйдзе енаральная парапіца і ў торбу цябе забярэ... Ой-ой-ой...

Хлопчык спалохаўся, змоўк і схаваўся пад матчыным ложкам.

А ў гэты самы час Каспар, бацька хлопчыка, пайшоў да пана Вашамірскага літасці прасіць:

— Яснавяльможны пане! Я з самага ранця чакаю цябе. Ледзь дапусцілі.

Пан Вашамірскі злаваўся. Яго адарвалі ад генеральнай рэпетыцыі. Перад ім стаяў у пярэдні чалавек з ускалмачанай чорнай галавою. У вачах чалавека блішчэлі слёзы.

— Гавары хутчэй!

— Адпусці, паночку-лябедзіку, маю Марыльку на дзянёк. Маці пры смерці. Хоча дачку паглядзець.

— Не магу. Генеральная рэпетыцыя.

— Злітуйся, даражэнькі пане...

— Не магу!

Каспар кінуўся вобземлю да панскіх ног. Заплакаў.

— Маці памірае... дачку пабачыць хоча перад смерцю.

— Разумееш, галган,— крыкнуў пан,— ге-не-раль-на-я рэ-пе-ты-цы-я!

— Злітуйся...

— Ідзі, ідзі! Ты мне сапсуеш генеральную рэпетыцыю, свенту-матку, якую грае Марылька. Маці няхай памірае без Марылькі. Разумееш, ёлап, мастацтва вышэй за жыццё і смерць...

Пан Вашамірскі яшчэ хацеў разгортваць сваю філасофію аб вялікім значэнні мастацтва, але ўгледзеў ля сваіх ног распластанага крыжам бруднага «хама»... «Перад кім гэта я перлы сыплю?» — падумаў ён і крыкнуў не сваім голасам:

— Во-о-о-о-н!

Каспар хутка ўскочыў з падлогі. Яго вочы высахлі. Сціснуліся кулакі. Нізенькі і шчупленькі Каспар падскочыў і зароў дзікім голасам:

— Згарыць няхай енаральная парапіца! Згарыць няхай твая свента матка! Згары сам разам з імі!

Да хаты Каспар ужо не вярнуўся. Каспарыха не дача-

калася і пад гутарку шаптухі аб «енаральнай параніцы» ціха сканала.

Пан перадаў Каспара ў рукі лютага войта.

Яго трэба было караць за тры злоўчынкі:

непашана да панскага тэатру,

знявага да свентай маткі

і бунт супроць самога пана Вашамірскага.

Генеральных рэпетыцый у грыме і вопратках пры дэкарацыях адбылося ажно тры ў вялізнай панскай залі, дзе была зроблена сцэна і ўсё было прыстасавана пад таэтр. Тры дні ішлі генеральныя рэпетыцыі.

На гэты раз студыйцаў не каралі фізічна: рэжысёр і балетмайстар не дазвалялі. Але карэктаванні ігры, розныя папраўкі, пераробкі, незвычайная нервознасць, заклапочанасць французскіх педагогаў перадаваліся кожнаму са студыйцаў. Ім на гэты раз мо лягчэй было б перанесці катаванні, чымся збянтэжаны выгляд і літасцівыя словы педагогаў, сталёвыя вочы пана і ламанне рук з шапатлівым «Езу-Марыя» ксяндза Марцэвіча.

Апрача таго, пан строга загадаў усёй чэлядзі ў палацы, каб ніхто са студыйцаў не ведаў, што сюды прыходзіў Каспар прасіць сваю дачку на развітанне з маткай перад смерцю. А то як Марыля даведаецца, дык не зможа граць і сапсуе ўсё тэатральнае прадстаўленне.

У часе такой суматохі на Салаўя ніхто ніякай увагі не зварочваў.

Была тады месячная ноч.

Сіняватыя водсветы месяца гралі па снежнай паляне змруднымі іскрамі.

Панскі парк цягнуўся аж да гэтай паляны. Высокія, аснежаныя стаялі дрэвы. У марознай цішыні дрэвы застылі і вершалінамі паказвалі на буйныя яскравыя зоркі, якія віселі ў цёмна-сінім бяздонні.

Мароз трашчэў.

Непрытульнасцю аддавала ад снежнай паляны. Яна слалася сіне-белым палатном да самага хвойніка.

Яшчэ ўдзень таўставусы войт пана Вашамірскага агледзеў гэтае месца.

— Тут і трэба пакараць Каспара,— сказаў ён гайдукам.

— А можа, што-небудзь лягчэйшае прыдумаеш? Каспар не вытрымае,— папрасіў адзін з гайдукоў.

— Вытрымае чорная костка! — сказаў аканом.— Пан Вашамірскі ледзь не панамі хоча зрабіць іхніх дзяцей у сваім тэатры, а яны яшчэ бунтуюцца! Мы ім пакажам!

Войт задаволена гладзіў вусы. Мышыныя вочкі яго жвава бегалі ва ўсе бакі.

— Уначы, як мароз павялічыцца, прывяжаце Каспара да гэтага дрэва. Да пояса каб ён быў голы!

Войтавы вочы па-воўчаму засвяціліся.

Так было зроблена.

Шчуплы і тонкі быў Каспар.

Пад голай жоўтай скурай рэбры хадыром хадзілі. На спіне, нібы рад гузікаў, тырчэлі хрыбетныя косткі.

Ціха брыла па панскіх абшарах у снежнай спадніцы марозная сіняя ноч. Не чуваць было яе крокаў у бязветранай шліфаванай пустэчы. Было так ціха, ажно вогнішча на крокаў дваццаць ад дрэва, да якога быў прывязаны да пояса голы Каспар, гарэла, як у печы. Жоўтае полымя ад сухіх бярозавых пален не калыхалася туды і сюды разнастайнымі залатымі язычкамі, а гарэла роўнай агнёвай шапкай. Трашчэлі драўлянымі галасамі сухія палены, шыпелі тым бокам, які ляжаў на снезе. Снег пад вогнішчам таяў і пачарнеў ад вуголляў. Агонь злізаў яго да голай зямлі.

Над агнём грэў рукі пан войт і гайдук Макар. Абодва былі апрануты ў цёплыя кажухі.

— Злітуйцеся, людзі...— лямантаваў Каспар.

Рагаталі каля вогнішча пан войт і гайдук Макар. Звярынай радасцю блішчэлі іхнія вочы, цёмныя пры вогнішчы.

— Што, вушы адмарозіў? — пытаўся войт.

— Злітуйцеся...

— Як табе падабаецца генеральная рэпетыцыя? — крыкнуў Макар Каспару.

— Зліт...

Якраз супроць Каспара блішчэў халодны жоўты месяц. Ён здаваўся Каспару рыжым чалавечым тварам без носа, з цёмнымі ямінамі замест вачэй. Месяц глядзіць на Каспара і дзьмухае на яго нястрыманым марозам, страшнай, ціхай, як смерць, сцюжай. Каспар адчувае, што ў яго кроў у жылках стыне, слёзы на твары цвярдзеюць ад марозу. Спачатку ён ляскатаў зубамі, але хутка супакоіўся. Толькі вушы і нос як бы нехта адрэзаў. Каб рукі ў яго не былі прывязаны да дрэва, ён памацаў бы нос і вушы.

Смяецца рыжы твар месяца. Чуе Каспар яго смех, дзікі

рогат, але не бачыць яго. Перад вачыма сіне-снежны туман. Голкі вострыя, шчокатныя, колюць голыя грудзі. Дрыжыць Каспар і гудзе працягла і тоненька, нібы камар:

— Гу-у-у... з-з-з-з...

І забывае Каспар пра жонку, якая канае ў курнай хаце, пра дачку, якая грае «свенту матку», і пра генеральную рэпетыцыю. Іх ніколі не было. Не было і самога Каспара. Ёсць толькі ціхі страшны мароз, які закаваў у сталёвыя панцыры сінія начныя абшары.

У аксамітнай спадніцы брыдзе ноч па абшарах. Крокі яе ціхія.

Набожны быў пан войт. Часта слухаў духоўныя настаўленні ксяндза Марцэвіча. Яму надакучыла стаяць у валёнках. Ногі стаміліся. Як на падушках, ён разлёгся на пухкім снезе супроць вогнішча. Доўга маліўся. Як прагаварыў адну і тую самую малітву трыццаць разоў (гайдук Макар акуратна лічыў), ён падняўся з месца і сказаў:

— Годзе.

Пан войт і гайдук Макар падышлі да дрэва, дзе быў прывязаны Каспар.

Гэткай прыемнасці Каспар ніколі ў жыцці не адчуваў. Зноў ва ўсе жылы льецца прыемнае, як подых летняга ветрыку, цяпло. Рукі развязаны. Хтосьці снегам трэ моцна грудзі, вушы, твар. Ледзь да яго даходзіць цяпло ад вогнішча, а ў вочы глядзіць той самы твар жоўтага круглага месяца. Толькі на гэты раз ён цёплы і прыемны як ніколі.

— Эх, вечна так ляжаў бы,— думае Каспар. Ён адчувае пад спіною цёплую шэрсць мяккага кажуха.

— Каб так шчыра не маліўся, дык, можа, і не выжыў бы... псякосць гэта...— чуе Каспар знаёмы голас.

Плыве да яго гэты голас з нейкіх невядомых далячынь.

— Цяпер ён будзе добрым чалавекам. Усё кепскае ў ім мы вымаразілі,— чуе Каспар другі знаёмы голас.

— Генеральную рэпетыцыю ён будзе памятаць аж да магілы.

Пазнаў Каспар галасы пана войта і гайдука Макара, хацеў было зноў спалохацца, але яго цела апанавала такая млявасць, што яму было ўсё роўна.

Вогнішча дагарэла. Чырвоныя вуголлі мігацелі. Над снежнай палянай віселі ў бяздонні неба буйныя зоркі.

Ноч нячутнымі крокамі брыла па снежным абшары.

4

## ДУБОВЫ ПАН ЕЗУС

У Зоські праца з рук валіцца. Маці скардзіцца на яе. Не разумее, у чым справа.

— Нейкая туга на дзеўку навалілася. Нешта душыць яе. Памізарнела, аж страх бярэ,— скардзіцца маці суседкам.

Суседкі ківаюць галовамі і рады розныя радзяць.

Але старая маці баіцца прыступіцца да Зоські, бо тая пачынае злавацца ды з хаты ўцякае.

Зоська не любіць, каб хтосьці калупаўся ў яе бядзе. Зоська аддаецца свайму смутку тады, калі ніхто гэтага не бачыць — уначы. Плача на пасцелі, так плача, ажно здаецца, што ў плачы яна рэчкай разальецца. Кропля за кропляй разальецца, і ад яе нічога не застанецца...

Сны страхотныя сняцца ёй.

То Сымон у труне ляжыць. Твар сіні. Увесь ён выцягнууся. Хаўтурныя песні спяваюць.

А то музыку вясёлую чуе. Бяжыць Зоська на гэту музыку праз лясы, праз пушчы, праз дзікія балоты. Парвала свае вопраткі аб вострыя карчы. Да крыві цела падрапала. Бяжыць і бяжыць. Ажно вось скуль музыка — з незнаёмай хаты. Гэта гуляюць вяселле Сымона з адной з панскіх артыстак.

Зоська туліцца да сцяны і слухае... Ловіць кожны гук з хаты, голас Сымона. Сымон адчувае яе блізкасць, выходзіць на двор, і Зоська... прабуджаецца.

Зоська ўпіваецца сваім горам. Нейкі цяжар вісіць у яе на шыі і душыць-давіць. Яна скована жалезнымі путамі з галавы да ног. Хоча вызваліцца ад іх і не можа. Гэтыя путы — яе думкі аб Сымоне. Пэўна, Сымонка даўно забыў аб ёй...

Часам Зоська пабяжыць у маёнтак: можа, пачуе аб ім, можа, пабачыць...

Доўга туліцца да халодных сцен панскіх палацаў, каб ніхто яе не бачыў. Прыслухоўваецца да музыкі з пакояў студыі. Але галасы мала працікаюць з белага мура на двор. Сымона няма... Аб ім ні слуху ні духу.

Сэрца Зоські стукае моцна, здаецца,— во-во вываліцца з грудзей... Перад вачыма кругі мітусяцца...

Вусны самі сабою шэпчуць:

— Сымонка... Сымонка...

З маёнтка Зоська пускаецца ў панскую каплічку, якая стаіць недалёка на крыжаванай дарозе. На вялізным дубовым крыжы вісіць дубовы пан Езус ва ўвесь чалавечы рост. Зоська доўга ўглядаецца ў дубовыя вочы «бога». Вецер калыша «божы» хвартушок. Цені мітусяцца на ўсім яго целе, і ёй здаецца, што ён жывы, зараз гаварыць пачне...

Во-во скажа ёй слова міласці...

Яна вельмі расчулена, што адно вока ў «бога» большае, другое меншае. «Бедненькі,— думае яна,— гаротненькі»... «А можа, у бога так павінна быць»,— з'яўляецца ў яе новая думка. Расце ў яе душы пашана да «бога», салодкі страх перад ім. Яна — нікчэмнасць перад такім богам, з дубовымі ранамі, з дубовымі думкамі і дубовай сілай.

Зоська падае на калені, не адрываецца разгарачанымі, слязлівымі вачыма ад нязграбнай фігуры, шэпча тую малітву-замову, што навучыла яе старая суседка:

Святы Сымон, вялікія вочы,
Устань мне ўдзень, як уночы.
На небе крыж,
На крыжы тры зарніцы —
Гэта родныя сястрыцы:
Адна прывара,
Другая прыпале,
Трэцяя прывяртае,
Прывярні, божа, раба божага Сымона,
Каб ён любіў мяне,
Каб ён не мог жыць без мяне,
Як рыба без вады,
Як мерац без зямлі,
Як дзіцё без грудзі...

Ад такой дзівоснай малітвы ва ўсім целе Зоські разліваецца цяпло. Зоська выліла перад богам сваё гора, патаемны смутак сэрца. Ёй лягчэй, расцвітае надзея, упэўненасць. Яна варочаецца да хаты выгаеная, вылечаная, нібы напілася цудадзейнага зелля.

Некалькі дзён думкі яе купаюцца ў сонечных хвалях радасці: Сымонка яе не забыў. Яна хутка пабачыць яго...

Але такі настрой цягнецца нядоўга.

Мала памог пан Езус. Зоська пакрыўдзілася на яго. Не хоча пакутаваць, як ён. Яна ж не дубовая.

Тады Зоська задумала пачаць справу з нячыстай сілай — шаптух шмат па вёсках. Іх многа ў карчме.

Выняла Зоська з кубла кавалак палатна — гасцінец для шаптухі, накінула на плечы кялім каляровы і выйшла з хаты.

Была мяцеліца. Юда ў чыстым полі вяселле-гульню ладзіў.

Гурбы снегу перакідваліся з месца на месца невідочнымі вялізнымі шуфлямі. Пылілася снежная мука ад плота да плота. У чыстым полі бель-бялугай мітусіліся снежныя палотны, чапляліся аб хмызнякі, завісалі на паадзіночных дрэвах.

Зоська ўкуталася, ішла наперад, мала аглядалася па баках.

Грозны выгляд лютай мяцеліцы, свісты і войканне ветру збілі яе з толку, яна самой сабе паказвалася мізэрнай, маленечкай, нібы ягадка-рабіна... Яна зледзянела, ад ветру і сцюжы застылі яе думкі. Мяцеліца выставіла насупраць сотні снежных лап і шаптала:

— Засні на маёй ледзяной пасцелі. Пад коўдрай снегу будуць табе сніцца лёгкія сны, белыя, нібы кужаль бялёны, нібы паніна кашуля гафтаваная. І не будзеш, Зоська, мець ні смутку, ні радасці. І не будзеш крыўдзіцца на бога ў панскай капліцы...

Адну хвіліну Зоська думала кінуцца ў белую снежную гойдаўку — няхай мяцеліца яе на векі вечныя засыпле, але...

— Хоць яшчэ разок пабачыць яго... А хто з равесніц вясну гукаць будзе? А хто купальскую кветку шукаць будзе?

У карчме стаяў нядзельны шум-крык.

Каля вялізнай дубовай кованай жалезам кухвы з гарэлкай з бровара пана Вашамірскага круціўся-вярцеўся стары карчмар Лейба. Каля бочкі на тапчане стаялі рознай велічыні медзяныя пасудзіны: гарнец, кварта, паўкварты і сотка. Здавалася, што гэта дзеткі вялізнай кухвы, якая толькі што ацялілася.

Лейба, у вопратцы старадаўняга жраца, маліўся свайму «Аданаю». У часе малітвы ён з гасцьмі-сялянамі не гаварыў, аднак наліваў ім гарэлкі ў пасудзіны. Ён часам спыняў малітвы, зварочваючыся да гуляк не словамі, а рознымі гукамі: «мгу», «ну-ну», «агэ», «ум», «ай», «фэ». Да гэтых невыразных гукаў дадавалася выразная інтанацыя і гэсты.

Сяляне добра яго разумелі. І яўрэйскі бог «Аданай» не крыўдзіўся, і панская гарэлка добра прадавалася.

Сяляне рознага ўзросту і старыя бабы тупаліся вакол

рыбакоў Міхалкі і Меера, якія нешта вясёлае сказалі пад музыку вандроўнага дудара.

— Далібог, Меер да нашага брата падобен! — гаварылі адны.

— Не! Міхалка да жыда падобен! — гаварылі другія.

У гэтых поглядах сяляне падзяліліся на дзве групы, і ў п'яных настроях гатовы былі кулакамі бараніць свае словы.

На шчасце, ігра скончылася, бо стары Янка, які выпіў лішнюю чарку гарэлкі, пачаў апавядаць аб тым, як яго анегды чэрці круцілі на выгане ўсю ноч. Ён і тады быў пад хмяльком. Ехаў дахаты з карчмы пасля пахавання сына. Ён заснуў на санках, падцягнуўшы пад сябе правую лейцу так моцна, ажно конь галаву абярнуў направа і за ноч вялізны круг вытаптаў у снезе на выгане.

Сяляне шчыра рагаталі над старым Янкам, кажучы, што гэта «енеральная парапіца» з панскіх пакояў круціла яго.

— Праўда?! — дзівіўся Янка, і ў п'яных вачах яго відаць былі непакой і страх.— Яшчэ добра, што цэлы застаўся!

Стары Янка схіліўся над брудным, завецганым гарэлкай і закускамі сталом і задумаўся аб сваім сыне, якога на тым тыдні пахаваў. Тая жаласлівасць да згінуўшага сына, якую стараўся ўтапіць у гарэлцы, цяпер выбухнула пад хмелем, як вогнішча.

Янка хрыплым ад гарэлкі голасам пачынае расказваць усім аб смерці яго сына. Як ён, Янка, з сынам для пана дровы сек у лесе, як падсеклі хвою, як ён крыкнуў сыну, каб той уцёк з-пад пня, як сын пусціўся наўцёкі ўздоўж хвоі, якая зачапіла яго вершалінай па галаве. Сын нават не крыкнуў...

Старыя кабеціны сядзелі на лаве, утаропілі вочы адна ў адну і, зачараваныя ад хмелю, спявалі, ківаючы галовамі:

Ёсць у лузе каліна,
Пад калінай дзяўчына;
Пад калінай стаяла,
Цвет каліну ламала,
Русу косу часала.
Пад'ехаў к ёй дваранін,
Схіліў каліну, каня напаіў,
Да дзяўчыны гаварыў:
— Чаго ж, дзеўча, тут стаіш,
Двараніна не баіш?
— Чаго ж мне баяцi,

Пад калінай стоячы?
Ты дваранін — вашэць-пан,
Шукай сабе, як ёсць сам.
Шукай сабе ў Любліне,
Не чапай мяне, дзяўчыну:
Шукай сабе ў Аршаве,
Не рабі мне благой славы;
Шукай сабе ў злоце,
Дай мне спакою, сіроце.

Сум і радасць зліваліся ў адну хвалю п'янага чаду. Пад закуранай столлю карчмы луналі — і малітвы карчмара, і вясёлая ігра дудара, і слёзы гаротнага Янкі, і песні старых баб.

У кутку сядзелі двое. Адзін з чорнай ускалмачанай барадою. Вочы яго былі бліскучыя і гарачыя. Тоўстыя чырвоныя губы. Шырокія плечы. Другі малады, тонкі, з сінімі вачыма. Віхрыстыя валасы на галаве.

Абодва пілі моўчкі і шапталіся між сабою.

П'яныя глядзелі на іх скоса.

— Язэп! — зварочваліся час ад часу п'яныя да чорнабародага.— Ты не злуйся, а хадзі да нас!

— Пятрусь! — клікалі яны маладога.— Што звязаўся з ім? Хадзі сюды!

Язэп і Пятрусь не адказвалі.

— Вясною,— шаптаў Язэп да Петруся,— у цімакі пойдзем, як толькі пацяплее. Эх, на волю хочацца вырвацца!

— А як зловяць? — занепакоіўся Пятрусь.

— Нічога, братку. Лес не выдасць. Харчоў дастанем у добрых людзей. А там на Украіну павернем да вольнага казацтва. У казакі запішамся.

— Ты ж там ужо быў, чаго назад вярнуўся пад панскі бізун? — запытаўся Пятрусь.

— Надта дзяцей малых і жонку пабачыць хацелася...

— Чаму ж ты іх з сабою не забраў?

— Нялёгка было. Сам, як воўк, па кустах хаваўся.

— А цяпер іх зноў пакінеш?

— Старшага сына з сабою вазьму. Дык ты пойдзеш з намі?

— Пайду... Не магу далей цярпець.

— То-то ж...

У карчме быў такі шум, што гутаркі ніхто не чуў.

Ніхто не заўважыў, як Зоська ўсунулася ў хату. Яна страсла снег з вопратак і, прыкрытая тканінай да самых вачэй, падышла да п'яных кабет. Пашапталася з адной і, абагрэўшыся трохі, выйшла з карчмы.

## 5
## ЛЕДЗЬ ПРА ЗОСЬКУ НЕ ЗАБЫЎСЯ

У хвоїніку было ціха, толькі час ад часу крыкне варона, шарахнецца заяц.

Салавей аглядаўся налева і направа і сваім вачам не верыў, што вызваліўся з панскіх палацаў. Раней гэта яму не ўдавалася. Толькі цяпер, калі ўсе пазвар'яцелі на «генеральную рэпетыцыю», яму ўдалося вызваліцца на кароткі час. Яго адсутнасць, можа, не будзе заўважана.

Хваля радасці нахлынула на яго бурлівым патокам.

Ён не ведаў, што з сабою рабіць. Ішоў не проста, а падскокваючы, як малы хлопчык. Праз рэдкія дрэвы яшчэ відаць быў панскі маёнтак, які ўсімі будынкамі глядзеў на Салаўя.

Здаецца, маёнтак гаварыў яму голасам нячутным:

«Ці я цябе не песціў? Ці я цябе не няньчыў? Ці голад і холад ты ў мяне цярпеў? Чаго ўцякаеш? Зоська? Ды мала Зосек ёсць у палацах?»

Гэтыя пытанні сыпаліся на Салаўя, як невідочны мак.

Ён стараўся не глядзець у бок маёнтка, які клікаў яго назад салодкімі фальшывымі словамі.

«Мабыць, ты, гад, забыўся,— звярнуўся Салавей у думках сваіх да панскага маёнтка,— аб тых здзеках, якія цярпіць наш брат у тваіх сценах? Воля і Зоська мне даражэй за ўсё».

Хутка схаваўся маёнтак. Салавей адышоў на некалькі вёрст ад яго. Ён спяшаўся да Зоські.

— Ужо колькі часу не бачыў. Яна, мабыць, аба мне забылася...

Сонца зайшло. Пакінула на небе густую паласу чырвані. Агнёвае мора захаду адбівалася ў розныя пераліва і прабівалася праз дрэвы.

«Трэба ў лесе памарудзіць, а то людзі пабачаць мяне каля Зоськінай хаткі».

Доўга шукаў ён месца, дзе можна было б сесці. Адышоў ад дарогі ўбок і нарэшце знайшоў вытаптанае месца і свежа адрублены пень. Прысеў. Аглянуўся па баках, заўважыў на заільдзянелым ад адлігі снезе месца, дзе ляжаў чалавек. Чалавек адбіўся ў снезе глыбока і ярка: кожная драбніца відаць — і галава, і рукі, нават лапці ў клетках-пляцёнках.

Салавей ускочыў з пня, як падстрэлены.

Ён здагадаўся, што, мабыць, тут быў забіты нядаўна Янкаў сын, Юрка. Вунь якраз ідзе след ад дрэва, з-пад якога цягнулі нежывога Юрку сюды. Дзе-нідзе і сляды крыві відаць... Аб гэтым і ў маёнтку гаварылі. Пан Вашамірскі нават раздобрыўся і загадаў аканому зволіць Янку на цэлы тыдзень ад работы ў двары і падарыў яшчэ дошкі на труну.

Салавей не мог адыходзіць ад гэтага месца. Пільна ўглядаўся ў углыбленне, дзе раней ляжаў забіты дрэвам чалавек, глядзеў і на паваленае дрэва-разбойніка.

Жыва паўставалі ў уяўленні Салаўя розныя абразкі. Ён бачыў Юрку, вясёлага, румянага, здаровага, вечна сарамяжлівага, як дзяўчына. Бачыў і вясёлую хвою, якая ледзь не ў самае неба ўпіралася сваёй вяршалінай. Птушкі на ёй спявалі, з ветрам яна шапталася.

Таксама і голас аканома, здаецца, чуў: аканом загадвае Янку зрэзаць вось гэтае дрэва.

З кожнай хвілінай усё больш цямнела, а Салавей вачэй сваіх не мог адарваць ад гэтага месца...

— Ледзь пра Зоську не забыўся...— усхапіўся ён.

Выйшаў з лесу. Пайшоў нацяські ў бок Зоськінай хаты.

На цёмна-сінім небе блішчэлі зоркі. Яны былі рассыпаны, нібы залаты мак. У вёсцы брахалі сабакі. Ужо відаць была маленькая хатка, дзе жыла Зоська з маткай.

Уся ўвага, усе думкі Салаўя былі цяпер накіраваны ў бок гэтай хаткі... Але так рана не можна туды ісці — людзі пабачаць. Трэба тут пачакаць...

## 6

## УСТАНУ Я, КРАСНАЯ ДЗЕЎЧЫНА

Старая кабеціна, ідучы з Зоськай з карчмы, завяла яе ў сваю хату. Хітра-ільсцівым голасам аб усім яе жыцці-быцці распыталася. Усё дашчэнту выведала.

— На гэта, дзеткі мае, ёсць розныя лекі, розныя зёлкі,— казала шаптуха.— Косці кажана памагаюць, малако чорнай свінні. Але вось я навучу цябе, як адну замову казаць. Ты будзеш яе гаварыць тры разы на дзень тры дні падрад. Першы раз — перад усходам сонейка, другі раз — на захад сонейка, а трэці раз — у поўнач, калі першыя пеўні запяюць. Гэта напэўна паможа.

Зоська лавіла кожнае слова шаптухі, якая гаварыла скрыпучым, шапатлівым і дрыжучым голасам.

Старая доўга-доўга шаптала, аж пакуль Зоська навучылася на памяць усю замову. Словы замовы чаравалі яе, захоплівалі.

Зоська пакінула старой кавалак палатна і пайшла дахаты. Яна была пэўна, што гэтая замова паможа, што Сымон вернецца да яе.

І замова ёсць малітва, але не дубоваму богу, а невідочным бесам, нячыстай сіле. Да «нячыстай сілы» Зоська адчувала большую блізасць і нейкую пяшчотную інтымнасць. Чарцей яна больш баялася, чым бога, і, разам з гэтым, больш паважала іх...

Зоська цэлы дзень знаходзілася ў нейкім, невядомым раней, новым настроі. Суткі, падзеленыя ёю на тры часткі — ад замовы да замовы, набылі надзвычайныя чары, вялікую сілу. Гэтымі шэптамі яна, Зоська, трымае ў сваіх руках цэлыя вёскі, усіх людзей. Яна не ведае, што здарыцца, як яно ўсё гэта будзе, але здарыцца нешта такое, ад чаго ёй стане вельмі прыемна і радасна...

Яе зацікаўленасць расце з кожнай хвілінай. Не церпіцца дачакацца трэцяга разу замову казаць. Цэлы дзень нічога не есць, а голаду не адчувае.

Урэшце надышоў час, калі ўсё павінна скончыцца раз назаўсягды — усё Зоськіна гора, усе пакуты яе сэрца...

Маці ўжо даўно спіць. Яна непакоіцца ў сне, кідаецца з боку на бок, мармоча, стогне, вохкае.

Жудасна робіцца Зоськы. Уся яна дрыжыць ад страху. Але вось якраз надышоў час казаць замову ў трэці раз. Яе вочы злосцю гараць ад затаёнай напружанасці, бляднее твар. Яна шапоча:

«Устану я, красная дзеўчына, не благаславіўшыся, пайду не хрысціўшыся, і выйду не дзвярмі за новыя вароты ў чыстае поле. У чыстым полі стаяць тры бесы: бес Сава, бес Савул, бес Калдун. Падыду я, красная дзеўчына, пабліжэй, ды пакланюся паніжай: і вы, трыдзевяць бесаў — бес Сава, бес Савул, бес Калдун — паслужыце мне, як служылі Іраду-цару: ідзіце па гарадах, па сёлах, па вёсках і збярыце ўсю нуду і сухоту са звяроў, птушак, рыб і з усякіх людзей — і знясіце тую нуду і ўсякую сухоту малайцу Сымону ў ясныя вочы, у чорныя бровы, у румяны твар, рацівае сэрца, чорную печань, гарачую кроў, у трыдзевяць жыл і ў адну жылу — станавую падпятную. І каб гэты малойца не мог ні жыць, ні быць, ні днём

па сонцы, ні ўночы па месяцы, без мяне, краснай дзеўчыны...»

Зоська з такой шчырасцю гаварыла, ажно сэрца грукатала. Гэта была толькі першая частка замовы. Кажучы другую частку, яна слабела з кожным словам і пачынала прыслухоўвацца, што робіцца навокал. Мо зараз зямля ўздрыгнецца... Мо свет перавернецца. А яна не хацела, каб дзеля яе людзі невінаватыя цярпелі...

Не паспела яна кончыць замову апошнім моцным словам «амінь», як нехта пачаў асцярожна стукаць у дзверы.

Непрытомная, спалоханая выскачыла яна ў сенцы і адчыніла дзверы. Два галасы зліліся ў адзін:

— Зоська...

— Сымонка...

Пад адсветам зорак яны ўпіліся бліскучымі зрэнкамі адзін у аднаго...

## 7

## НЕ ЧУЖЫ, А СВОЙ

Часта выходзіў Салавей з Зоськінай хаты на двор. Рупіла глядзець-сачыць, ці хто за ім не гоніцца. У студыі маглі заўважыць яго адсутнасць, хаця ён быў пэўны, што ў часе такой суматохі мала хто там аб ім дбае. Яму рэпетыцыі былі непатрэбны. Яго і не вучылі.

Цішыню глухой ночы трывожыла толькі рыпанне дзвярэй старой хаткі.

Ён аглядаўся па баках і пільна прыслухоўваўся. Думаў аб Зосьцы: яна здзівілася, што ён зусім «панскі выгляд» мае. Мабыць, так яно і ёсць. На сваіх сябрах у студыі Салавей гэта даўно заўважаў, толькі не на сабе. Ва ўсіх сыходзілі мазалі з рук. Усе апрануты чыста. Ад жыцця ў панскіх палацах, ад старанных муштраванняў у працягу некалькі месяцаў з твараў студыйцаў сышоў мужычы колер. Рухі ва ўсіх пазграбнелі, зрабіліся лёгкімі і спрытнымі. Нават выраз вачэй змяніўся: паглыбеў, іншы змест адсвечваецца ў іхнім бляску. Панскі гебаль адграбляваў людзей, адшліфаваў. Усе яны ўжо былі не такімі, якімі з'явіліся ў палацы.

Салавей пачаў сябе аглядаць-ашчупваць.

У першы раз за ўвесь час заўважыў, што сапраўды ён не той, якім быў хоць бы паўгода таму назад. Не дзіва,

што Зоська не разумела яго некаторыя, як яна гаварыла, «панскія словы».

Вялікую змену ў сабе ён адчуваў толькі цяпер, калі аб гэтым яму казала Зоська. Таксама цяпер толькі прыкмеціў, што Зоська — простая, а маленькая ўбогая хатка душыць яго. Пасля вялікіх пышных панскіх палацаў (хоць ён іх ненавідзеў) простая хатка здавалася яму канураю, у якой нельга жыць не то што чалавеку, але і панскаму сабаку. Ранейшага захаплення Зоськай у яго ўжо не было. Тое імкненне бачыць яе, якое песціў у грудзях увесь час, як бы астыла.

Па голасу, па вачах Зоські, па ўсіх яе рухах Салавей адчуваў, што яна бачыць у ім гэту змену.

Жаль да Зоські агарнуў яго.

Сінь ночы атуляла яго з усіх бакоў. Сінім колерам была афарбавана і вёска Вашамірщчына, што ўпіралася сценамі ў густы хмызняк, і лес цёмна-сінім мурам маўкліва-грозна глядзеў у закуранае хмарамі неба.

Снег быў пругкі і хрусцеў задушаным стогнам пад кожным крокам, хоць Салавей стараўся ступаць асцярожна і нячутна.

У Салаўя было спачатку такое ўражанне, нібы нешта ўкраў у Зоські, украў самае лепшае і дарагое ў яе жыцці. Украў сваімі ўласнымі рукамі. Але ў цішыні як пачаў болей глыбока думаць аб гэтым,— як гэта выйшла і чаму так здарылася, што Зоська на яго пакрыўджанымі вачыма паглядае,— ён пачаў адчуваць, што ў гэтым сам мала вінават: панскія пакоі яго перарабілі. Ён сам сабе чужым стаў... Цяперашні Салавей зусім не той чалавек, што ранейшы Сымонка.

Чаму гэтак сталася, ён як бы не разумеў, але адчуваў, што разам з агідай да панскай няволі, да панскіх палацаў гэтыя палацы і вабілі да сябе; цягнула яго да іх, як матылька да агню.

Разам з агідай да паноў, да іхніх учынкаў і здзекаў над прыгоннымі ён не можа цяпер глядзець на сваіх ранейшых сяброў і нават на Зоську так, як глядзеў раней,— нечым ён ад іх адрозніўся і заўважаў у іх тое, непрыемнае для сябе, чаго раней не бачыў...

Салавей часта ўваходзіў і хутка выходзіў адтуль.

Зоська сядзела на лаве пры стале, і слёзы капалі з яе вачэй.

— Ты, Сымонка, не то пан, не то паўпанак, не то панскі слуга! — скардзілася Зоська.

Яна аглядала яго з ног да галавы, прабуючы пальцамі яго чыстую, добрую вопратку.

— Ды я такі самы, якім быў раней! — апраўдваўся Салавей з няпэўнасцю ў голасе.

— Ты чужы, чужы...— строга, праз слёзы гаварыла Зоська.

Салавей верыў больш яе словам, чымся сваім. Як ні стараўся ўгаварыць сябе, што не змяніўся — не памагло.

— Чужы, чужы...

У душы Салавей лаяў сам сябе за тое, што пайшоў сюды. Не думаў, што так прыкра будзе тут...

Зоська часта мяняла лучыну, папраўляла яе з такім выглядам, нібы яна, Зоська, адна ў хаце.

Салавей прыслухоўваўся да кожнага шолаха, да малейшага скрыпу. Яго трывожыла тое, што Зоськіна матка ляжыць на печы і, пэўна, не спіць.

Як бы ў адказ на яго думкі, з печы пачуўся кашаль і спынілася сапенне спячай кабеціны.

Мабыць, старая прыслухоўваецца да таго, што робіцца ў хаце.

І Зоська і Салавей змянілі тон гутаркі на звычайны. Гаварылі аб розных рэчах, толькі не аб саміх сабе. Ім абодвум прыкра было, што іхняя гутарка не абыходзіцца без сведак; хаця Салаўю як бы зрабілася лягчэй ад гэтага, бо лепш было гаварыць аб пабочных рэчах, чымся аб сваіх уласных.

Словы Зоські: «чужы, чужы...», сказаныя з балючай скаргай, увесь час звінелі ў яго вушах.

Гэтыя словы, адбіваючыся на розныя лады рэхамі ў сэрцы, псавалі яму настрой, труцілі кроў і набывалі той глыбокі трагічны сэнс, якога ён не зразумеў спачатку. Нешта падсвядомае, чаго ён не мог бы словамі сказаць, дыктавала яму, што ён зрабіўся чужым не толькі Зосьцы, але і самому сабе. Яго нянавісць да ўсяго панскага была цяпер мацней, чымся раней, аднак, нягледзячы на гэта, яго цягнула назад да панскіх палацаў, да іх роскашы з тым самым імпэтам, з якім ён некалькі гадзін таму назад, крадучыся адтуль, пайшоў, праклінаючы паноў і ўсё панскае.

Яго цягнула да палацаў, як часам цягне чалавека ў глыбокі вір.

Салавей стараўся рассейваць сваю ўвагу на ўсякія вакольныя рэчы ў хаце: то заглядаўся на сіняватыя аганёчкі лучыны, на горкі дым, што віўся над ёю, то кідаў

вачыма ў кут, дзе ў загародцы на саломе ляжала цялушка, скручаная ў абаранак.

Цялушка стрыгла вушамі, утаропіўшы круглыя, нібы задумённыя, вочы на агонь лучыны. Белы круглячок на лобе цялушкі блішчэў, як снег, і выглядаў прышытай латачкай з белага кужалю.

Салавей пацягнуў носам пах горкага дыму, цяжкі пах цялушкі, кур з падпечку і, не хочучы, зморшчыўся.

А Зоська наглядала за ім і ўгадвала ўсе яго думкі і адчуванні.

— Нашто плот гарадзіць, Сымонка! Ідзі ўжо да «сваіх» палацаў. Табе тут цяжка ў нас... Ідзі сабе на генеральныя рэпетыцыі!

— А што? — усхапіўся Салавей.

Зоська расказала яму пра тое, як не пусцілі са студыі Марыльку да паміраючай маці, як Каспара, бацьку Марылькі, забралі ў двор на кару.

У Салаўя загарэліся вочы. Ён стукнуў кулаком аб стол.

— Няхай прападзе панскі маёнтак! Жыць не буду, калі не адпомшчу за здзекі! Не вярнуся ў тэатр!

Старая прачнулася і зірнула з печы спалоханымі вачыма.

Зоська абняла Салаўя.

— Вось цяпер ты не чужы...— шаптала яна.— Цяпер ты мой, наш...

Не чулі яны, як дзверы адчыніліся.

Некалькі гайдукоў глядзелі на іх. Гайдукі схапілі Салаўя і пачалі вязаць вяроўкамі.

## 8

## ЗГОН НА ПАНСКІ БАЛЬ

У маёнтку пана Вашамірскага твары ва ўсіх урачыстыя і заклапочаныя.

Уся чэлядзь, па загаду самога пана, апранута ў святочную вопратку, спецыяльна сшытую к гэтаму святу-балю. На двары вялікая суматоха: з'язджаюцца паны з розных маёнткаў, запрошаныя паглядзець тэатральнае відовішча.

Пан Вашамірскі ў экстазе, у вялікім натхненні. Сам за кожнай драбніцай глядзіць, прымае гасцей. Кожнаму

скажа ветлае слова і пажартуе, у філасофію пусціцца.

Ахмістрыня сочыць за тым, што на кухні робяць, якія прысмакі, якое пітво дастаць са склепа.

Аканом клапоціцца, каб коні гасцей былі накормлены і напоены.

Ксёндз Марцэвіч выключна гасцямі заняты, а больш за ўсё яго ад сябе не адпускае старая пані, маці пана Вашамірскага. Пры ёй павінны быць неадлучна два каты, якіх яна прывезла з сабою, і ксёндз.

У студыі ў гэты дзень, вялікі страшны дзень суда, заканчваюцца пасля генеральнай рэпетыцыі апошнія штрыхі, шліфуюцца апошнія шурпатасці ігры. Французскія педагогі абыходзяцца з акторамі лагодна, далікатна. Падбадрываюць іх, падымаюць настрой і ўзмацняюць самаўпэўненасць:

— Усё будзе добра, усё сыдзе гладка, толькі вы трымайцеся смела....

Час ад часу забяжыць на хвіліну і пан Вашамірскі, пагаворыць з педагогамі, такім лагодным вокам зірне на студыйцаў, нібы яны — яго браты і сёстры, яны — яго лёс, ад іх залежыць уся яго будучыня.

Пан зірнуў на заслону, што была некалькі разоў перамалёвана.

З палатна глядзеў на яго агідны рагаты сатыр, які ў дзікай палкасці даганяў голую німфу. Німфа ўцякала спалоханая. Валасы затулялі яе круглыя плечы. Грудзі яе ад шпаркага бегу вахталіся, саскі на іх блішчэлі колерам лясных суніц.

— Аднак ксёндз Марцэвіч мае добры густ,— падумаў пан,— гэта ж яго праект заслоны!

Пан Вашамірскі раптам нешта ўспомніў, стукнуў сабе пальцам у лоб і выскачыў з пакоя. Не прайшло і пяці хвілін, як ганцы пусціліся конна з маёнтка.

Пан загадаў сагнаць на баль усіх прыгожых дзяўчат з сваіх вёсак...

Снег пачаў раптам таяць, рыхлеў, як кісель. Блішчэла сонца. Ад палазоў, ад конскіх капытоў заставалася на дарозе брудная вада. Вераб'і кружыліся ў вёсцы Вашаміршчыне цэлымі стаямі, пчабяталі, падымалі садом, падалі ўніз з вышыні, нібы клёцкі, на талы снег; пачыналі бітвы за зернетка, купалі скрыдлачкі ў лужынах, як бы выкон-

ваючы нейкі птушыны абрад купання-амавення; зноў узляталі ўверх, як падстрэленыя, рассыпанай жменяй гароху. Шум насіўся ад сотняў крылляў. Вераб'іны крык глушыў сонечнае зімовае паветра.

Вераб'ёў палохалі малыя дзеці, якія з рогатам і гікам імчаліся па вясковай вуліцы ўперагонку. Некаторыя з хлопчыкаў былі босыя, і іхнія ногі малінавага колеру мільгалі па снезе.

У блізкім лесе агаліліся дрэвы, вызначаліся на белым фоне снягоў вільготнай чарнатою. З шэра-брудных саламяных стрэх вясковых хатак таксама сышоў снег. Хаткі выглядалі вялізнымі кучамі заскарузлага смецця; ад іх аддавала пахам прэласці і конскага гною.

Нейкая радасць панавала ўсюды, радасць, вырваная з вільготных усмешак зімовага сонца. Было фальшывае адчуванне набліжэння вясны, вясны ў часы каляд. Абманваў вока па-веснавому пачарнеўшы лес. Ад яго нясло свежасцю, і здавалася — во-во пачнуць зелянець лісцяныя дрэвы, загамоняць-зашушукаюцца лагоднымі мяккімі вясновымі галасамі.

Толькі ў Зоські быў цяжкі настрой.

Яна часта выходзіла на сонца, якое асляпляла яе, казытала шчокі. Гоман вераб'ёў і дзяцей не мог выбіць з яе галавы прыкрасці нападу на Сымона ў яе хаце.

Вялікая роспач душыла яе.

Разам з гэтым у сэрцы дзяўчыны расла злосць, якая сашчаміла ёй зубы, сцяла губы да таго, што толькі вузкі чырвоны разрэз відаць быў — разрэз вострага нажа. Ва ўсім целе адчувалася новая напружанасць, створаная пачуццём крыўды і злосці.

Кроў у жылах пачынала гарэць, пералівацца з бурным імпэтам. Гарачыя вугольчыкі ўсё цела пранікаюць, косці хрусцяць ад спружынаватага напору, нібы нацягнутыя моцныя галіны дуба. У сваіх кроках, у рухах усяго цела яна адчувала імпэт новых сіл. Во-во яны выпіраюць наверх. Яна не можа ўтрымаць іх, уладаць імі. Яны здаюцца дзяўчыне нейкімі незнаёмымі, чужымі ад навізны, ад неспадзяванасці. Вочы выбіваюць іскры.

Да гэтага часу яна адносілася да волі пана, як усе прыгонныя: са скаргай, з пакорлівасцю жывёлы. Супроць волі пана ніякая сіла бога або чорта ўстаяць не магла. Прыгонніцкае жыццё нельга было ад сябе адкідаць, як нельга было вызваліцца ад сляпых сіл прыроды, што панавалі над чалавекам.

Прыгонніцтва — гэта лёс-доля чалавека, гэта немінуча, няўхільна, як радзіны, як смерць. Гэта ідзе ад самога бога.

Так гавораць у цэрквах і касцёлах.

Пайсці супроць волі пана — нават грэх. Так яно спакон вякоў.

Але Зоська пайшла на гэты раз «супроць бога» і нават грэху баяцца перастала.

Разам з такім пераломам у думках, у агні бязмернай злосці ўсё перад Зоськай навокал прыняло інакшы выгляд, больш прыязны.

Хоць злосць расла, але адпала роспач і схавалася далёка ў глыбіні істоты. Нешта яе хмяліла, трывожыла: яна знайшла для сябе новае ў злосці — гэта дало ёй апору і сілу.

Зоська з імпэтам гаспадарыла ў хаце, працавала з такім спрытам, ажно старая маці дзівілася. Ніколі з дачкою гэтага не было.

Пад вечар з вёскі пачуўся гуд, суматоха.

Зоська выбегла на двор.

Па вёсцы раз'язджалі конныя панскія ганцы, ляскалі бізунамі і лаяліся брыдкімі словамі.

Мітусіліся каля хат спалоханыя, устрывожаныя сяляне. Кабеты лямантавалі-галасілі, аб нечым упрашвалі ганцоў.

Здалёку выглядала, нібы войска варожае напала на вёску. Коннікі насіліся туды і сюды, як бы збіраліся разбурыць усю ваколіцу.

— Што гэта? Што гэта? — запыталася ў суседкі здзіўленая Зоська.

— Уцякай хутчэй, дзеўка, а то забяруць на панскі баль! — шапнула ёй кабета.

Зоська не думала ўцякаць, ды і не паспела б, бо да яе падскочыў на кані Макар, той самы, што ўлетку быў выгнаны з яе хаткі, калі да яе сватаўся; той самы, што тады Сымона забраў на кару ў панскі маёнтак.

— А, зноў панскі сабака з'явіўся! — прашыпела нахабнеўшая Зоська.

— Ты не лайся так. Будзь трохі далікатнейшай! — прагаварыў робленым смехам Макар.— Цябе пан на баль запрашае! Го-го-го!

Макар голасна смяяўся, расчырванеўся, тросся на кані, прыпадаў грудзьмі да сядла і не ведаў, што з сабою рабіць ад вялікага напору смеху, які корчыў яго і душыў.

— Го-го-го, паненка! Прыбірайся! На панскі баль ідзі! Там шмат гожых панічоў наехала. Ой весела будзе! Го-го-го!

Зоська спачатку акамянела на месцы, потым схапілася за галаву і пусцілася наўцёкі да хаты, пакідаючы за сабою людскі гоман, крык і плач. Усё нутро яе пахаладзела, і сэрца біцца перастала. Перад яе вачыма кружылася зямля, хаткі перасоўваліся з месца на месца.

— Нікуды не дзенешся! — крычаў ёй удагонку Макар.

Зоська ўскочыла ў хату, як бы хаваючыся ад лютага звера, аглядалася па баках, нечага шукаючы, знайшла сякеру і стала чакаць.

— Дачушка, дачушка, што з табою? — енчыла маці.

Вочы ў Зоські гарэлі непрытомна. У моцных руках дзяўчына трымала нагатове сякеру, каб секануць, хто б ні паказаўся ў дзверы...

Павольна злез Макар з каня і скрыпнуў дзвярмі ў сенцы, адчыніў дзверы ў хатку, ледзь сагнуўшыся, каб не ўдарыцца галавой аб нізкі касяк.

— Зоська! — крыкнула маці не сваім голасам і падскочыла да яе, каб стрымаць за руку.

Але было ўжо позна. З страшным стогнам Макар паваліўся праз парог.

Сонца ўжо стаяла нізка над лесам. Па дарозе ішоў гурт дзяўчат, каля пятнаццаці. За імі конна ехалі ганцы.

Дзяўчаты былі ўбраны па-святочнаму — ішлі на панскі баль...

Ганцы жартавалі, падбадрываючы часам каго-колечы з дзяўчат бізуном.

Здалёк чуваць былі ляманты вясковых кабет... Галошанне перайшло ў выццё.

Ганцы не зварочвалі на гэта ніякай увагі. Яны гутарылі між сабою аб тым, што яшчэ Макара няма.

— Мабыць, з Зоськай там загуляўся. Яшчэ да панскага балю набалюецца!

Войканне з кожным разам цішэла. Здавалася, што гэта енчыць і стогне зямля ад невядомага вялікага болю...

З заходам сонца пацiснуў мароз. Пачаў падаць снег.

## 9

# ФАНТАСТЫЧНАЯ НОЧ

Над маёнткам пана Вашамірскага ўваскрослі змрокі. Яны вандравалі з кута ў кут каля сцен муроў, гойдаліся, нібы чорны туман, напалоханыя рознакаляровымі агнямі з вокнаў панскіх палацаў. Цёмна-сінімі зданямі змрокі сплылі з далёкіх палёў, з дрымотнага лесу. Пух лёгкіх сняжынак абсыпаў зімовы вечар сівымі кроплямі. Снежныя камары падалі ўніз крыху наўскось заільдзянелымі хвілінамі вячэрняга часу. У светла-яркіх прарэзах, што свяціліся з акон панскіх палацаў, сняжынкі мільгалі асляпляючым блескам. Іхні казачны вэлюм цягнуўся аднамерна зверху і сцяліўся па зямлі без канца, нібы разгортваючыся недзе высока-высока з воблачных кроснаў.

Урачыстасць адчувалася ў паветры, у снежнай цішы, атуленай каляднаю ноччу.

Шум людзей льецца разам з хвалямі святла праз вокны. Няма дзе дзецца, цесна галасам унутры, у пакоях — і яны гвалтам ірвуцца на прастор, на волю. А муры, строгія і грозныя, вызначаюцца грамадзінамі высокіх сцен, хрыбтамі дахаў, выкрутасамі вежаў, скручаным стадам дагістарычных звяроў.

Муры ўрэзаліся буйнымі грудзьмі ў абшар, бязлітасна, гвалтоўна душаць прастор поля. Яны ўсмоктваюць у сябе вякі, нібы п'яўкі кроў, спыняюць ход часу і твораць навокал урачыстасць нейкай сляпой сілы і пакорлівасць да сябе ўсяго вакольнага.

На дзядзінцы раптам замітусіліся людзі. Ставілі гарматы каля шырокага ганка палацаў; збіралася ўся чэлядзь, выйшлі вялікай грамадой панскія госці; галдзелі, шумелі.

Дзядзінец ажыў як ніколі.

Стралялі з гарматаў.

У цёмнае неба імчаліся з грукатам, з шыпеннем, з парахавым смуродам агнёвыя змеі ракет, ляцелі высока-высока і рассыпаліся ва ўсе бакі снапамі рознакаляровых іскраў-зорак. Часам паказваліся замыславатыя агнёвыя ўзоры ў паветры, раскідваліся ва ўсе бакі агнёвыя крыжы, замкі.

Крыкі «віват» гучэлі водгаласкамі з усіх бакоў. Гэта крычалі панскія госці ў вялікім захапленні.

Ноч была ператворана ў казку.

Кожны раз, як пускалася ракета, як бухаў у шыпучым грукатанні феерверк, азараліся твары людскія, нібы пры асвятленні маланкі. Радасць ззяла ў вачах паноў.

Прыгонныя, якія былі «запрошаны» на панскі баль, былі страшна напалоханыя, збянтэжаныя і не ведалі, што з сабой рабіць.

Тое, што ўвесь час гаварылася аб генеральнай рэпетыцыі, аб страхоццях панскіх чарнакніжнікаў, яны бачылі цяпер відавочна...

Некаторыя хрысціліся, некаторыя пускаліся наўцёкі, а некаторыя камянелі на месцы з выпучанымі ад вялікага дзіва і страху вачыма. Хто хапаўся рукамі за валасы, хто мармытаў нязвязныя словы, а хто шаптаў малітвы.

У разнастайныя позы страху, нібы бронзавыя ці мармуровыя фігуры, застывалі панскія падданыя з тых, што прыйшлі на гэты баль па загаду пана.

Госці рагаталі, смяяліся, жартавалі. Тоўстыя, у багатых футрах, яны выглядалі людзьмі іншай пароды.

Ноч была, нібы казка.

А сабакі паднялі працяглае выццё. Яны па-свойму выказвалі і страх, і здзіўленне.

Дождж іскраў сыпаў і пыліў ва ўсе бакі. Маланкі і бліскавіцы, наладжаныя людзьмі на забаўку, перарабілі каляды ў купалле, зіму ў лета.

Фантастычнай і дзівоснай здавалася ноч у вачах простых сялян.

Між іншымі стаялі тут Язэп і Пятрусь, якія рыхтаваліся ісці вясною ў цімакі.

— Гэта на нашай крыві паны гуляюць,— шапнуў Язэп.

— На нашых слёзах і поце,— дадаў Пятрусь.

Каменныя львы на вялізным ганку здаваліся жывымі.

Пасярэдзіне вялікай залі было пастаўлена разам некалькі сталоў. Яны займалі аграмадную плошчу, бокам супроць сцэны. Сталы былі пакрыты белымі абрусамі. Пасярэдзіне сталоў на срэбных падстаўках — гербах пана Вашамірскага — на ўсю даўжыню былі разложаны шырокія тафлі з тоўстага шкла. На тафлях красаваўся сімвал новага года, месяцаў, тыдняў і дзён. У цэнтры знаходзіўся паляўнічы. Па баках стаялі дванаццаць зуброў, пяцьдзесят два ваўкі і трыста шэсцьдзесят пяць лебедзяў. Усё гэта было зроблена з разнастайных тортаў і аздоблена цукеркамі і фруктамі.

Вакол пераліваліся ў розныя калюры крышталыныя карафіны з рознымі вінамі — французскімі і венгерскімі. Радамі стаялі кілішкі. У вялікіх срэбных і парцаляных паўмісках і місках дыміліся мясныя і рыбныя патравы, рознакаляровыя баршчы, расолы.

Панскія лёкаі і гайдукі ў ліўрэях з вышыванымі гербамі пана Вашамірскага, пад камандаю бравага стольніка, усё насілі на стол, насілі з такой заклапочанасцю, нібы ўвесь маёнтак павінны сюды перанесці: насілі асцярожна, трымаючы пасудзіны ў белых сарветках, каб «хлопскія» рукі не пашкодзілі панскаму апетыту.

Даўжэзнае поле стала ламалася, здаецца, пад вялізнымі сервізамі срэбра, шкла, парцаляны, фруктаў, пітваў і патраў.

Кожны крок, кожны рух лёкаяў быў адшліфаваны, нібы панскія слугі выконвалі патаемны рытуал.

Закон зграбнасці быў і тут вельмі строгі.

Пад мяснымі і расольнымі патравамі стаялі срэбныя фаеркі, у якіх сіняватымі агнямі гарэў спірытус, каб яда не астыгла.

Срэбныя і бронзавыя кандэлябры вышэй чалавечага росту стаялі на паркеце. Іх трымалі на пакрытых плюшам і аксамітам сценах амуры і німфы. Пад размаляванымі суфітамі яны віселі фантастычнымі ўзорамі з бронзы і крышталю.

З правага боку сцэны была галёрка для музыкаў, з левага — галёрка для чэлядзі і прыгонных дзяўчат, якіх пан «запрасіў» на баль.

Дзяўчаты-прыгонныя звесілі галовы ўніз і, як зачараваныя, глядзелі на ўсё, што робіцца вакол; шушукаліся між сабою, паказваючы на тыя дзівы, якіх яны ніколі ў жыцці не бачылі.

Ранейшы страх перамагла зацікаўленасць.

Паны ў рознакаляровых кунтушах пры зброях, некаторыя ў напудраных парыках рассаджваліся паводле годнасці, рангу і чына побач з панямі і паненкамі. Пры канцах стала сядзела шляхта з багацейшай, якая была таксама запрошана.

Пан Вашамірскі быў у французскай вопратцы. Яго шыю аздабляла жабо з замысловатых гафтаў. На вопратцы blішчэлі дыяментныя і з іншых дарагіх каменняў гузікі такой каштоўнасці, што за іх можна было б купіць маёнтак і некалькі сот сялян.

Слуцкія паясы блішчэлі ўрачыста і пышна, абхоплі-

ваючы, нібы ў цесных шоўкава-залатых абоймах, таліі паноў. Падобныя ўсходнія ўзоры на залатым і срэбным фоне шырокіх паясоў акаймлялі вузенькай сцежкай васількі ды іншыя травы лугоў і палёў тутэйшай зямлі.

## 10

## «МУЙ ЖЫДЭК»

Містэрыя ксяндза Марцэвіча «Прыход волхваў у святую пячэру» прайшла першым нумарам балю. Гэта была самая нудная і абавязковая частка вялікай урачыстасці.

Пан Вашамірскі моршчыўся ад самага пачатку прадстаўлення. Ён толькі дзеля набожнай маткі сваёй згадзіўся прыняць гэта да пастаноўкі; яшчэ перад тым, як загасілі свечкі ва ўсіх кандэлябрах у зале, пан скрытыкаваў містэрыю:

— Не пасуе да настрояў сягонешняга балю, таксама непраўдзіва з боку евангелічных паданняў. Трэба ведаць, што ў наш век рэлігія сярод адукаваных людзей...

Але тут пан Вашамірскі спыніўся, бо ўспомніў, што недалёка ад яго сядзіць яго маці, вельмі набожная і строгая.

Пані Вашамірская, праўда, нічога не сказала на такую заўвагу сына, але так набожна зірнула ў бок ксяндзоў, якія сядзелі недалёка ад яе, што нават не гарманавала з выгарсаванай пышнай вопраткай, у якую яна была ўбрана. Яна зварухнулася. Каты на яе каленях устрывожана няўкнулі.

Ксёндз Марцэвіч быў за кулісамі. Ён не давяраў рэжысёру-французу. Сам кіраваў акторамі і наглядаў за імі ў часе ігры.

Ксяндзы апусцілі галовы. Усе іншыя госці падхапілі тон гаспадара і ўжо былі падрыхтаваны адмоўна да «містэрыі» ксяндза Марцэвіча.

Містэрыя цягнулася хвілін дваццаць.

Ксяндзы, калегі Марцэвіча, скрытыкавалі містэрыю.

Галоўнай прычынай тут была зайздрасць да аўтара, які «выбіваецца ў людзі».

Адзін з ксяндзоў непакоіўся больш за ўсіх.

Гэта быў «айцец» невысокага росту, тоўсценькі і кругленькі, з лысінкай. Каб выглядаць вышэйшым, яго абуццё

было на высокіх абцасах. Круглы, чырвоны твар ззяў, нібы поўны месяц. Нягледзячы на малы рост гэтага ксяндза, здавалася, што ён хоча запоўніць сваёй асобай усю залу ўверх і ўшыр. Пыжыўся, як певень. Гаварыў павольна, з паўзамі, з чужаземным акцэнтам. Незвычайнаю вымоваю хацеў паказаць сваю вялікую навуковасць. Недарма ж ён быў доктарам багасловіі і філасофіі. Прозвішча яго — Курачковіч. Але, каб не быць падобным да слова «курачка», называў сябе «Кірычковіч» і вельмі крыўдзіўся, калі яго называлі «Курачковіч».

У часе ігры ксёндз Курачковіч рабіў свае заўвагі, якія буйным шэптам рассыпаліся па стале і даходзілі да слуху гасцей:

— Клядзітце, клядзітце, які младзенец! Трохгадовы хлопчык. А матка боска як апранута! Яна хутчэй падтобна да гхрэцкай гхэтэры, чымся да святой Марыі!

Волхвы сівабародыя пачалі на сцэне спяваць лацінскія вершы пад ціхі акампанемент аркестра.

— О, матка биоска! О, Езсу! — абураўся доктар багасловіі і філасофіі.— Гэта ж немакчыма! Бадгай у кожным радку памылка. Ксёндз Марцэвіч с-слабп у лаціне, гус-лабп! — пры гэтым ён страляў і пырскаў тлустымі губамі, кажучы слова «с-лабп».— Абпавяскофа павфучыцца яму трэба! А м-мусыка нашто к-хадзітца, м-мусыка!

Доўгі час ксёндз Курачковіч з тупавумнай салодкай усмешкай на вуснах прыводзіў параўнанні паміж французскімі і нямецкімі рэлігійнымі містэрыямі і містэрыяй ксяндза Марцэвіча. З вялікай паважнасцю прыводзіў тэксты грэцкіх філосафаў, старадаўніх рымскіх пісьменнікаў і даводзіў, што ў гэтай містэрыі няма гістарычнага каларыта, не хапае «couleur historique».

— А дтрыўляны асёл? Дтрыўляны асёл? — звяртаўся ксёндз Курачковіч да суседзяў.— Гэта аўтар некага з нас мае на ўвасе; як бпога кохам, праўдта! Ён на кагосьці намёк робіць!

Пры гэтых словах ён сапраўды меў выгляд збянтэжанага асла.

Пан Вашамірскі хаця сам скрытыкаваў містэрыю, але ганіў толькі змест аўтара, а не выкананне актораў.

— Але пры чым тут акторы, ойча вялебны? — звярнуўся пан Вашамірскі да ксяндза Курачковіча з крыўдай і пагрозай у голасе.— Пры чым тут акторы?

Ксёндз Курачковіч, пачуўшы небяспеку для сябе ў панскім голасе, спалохаўся, смешна згорбіўся, нібы гала-

ву ў сутану хацеў схаваць, і пачаў з ранейшай перакананасцю ў голасе гаварыць супроць таго, што гаварыў да гэтага; зноў тэкстамі з сусветных філосафаў і пісьменнікаў ён даводзіў, што пан Вашамірскі мае рацыю.

Тут ён зрабіў параўнанне з тэатрам Шэкспіра і з гішпанскай драматургіяй:

— Ігра дасканалая, яснавяльможны пане! дасканалая! — прыцмокваў ён тлустымі губамі.

У гэтую самую хвіліну «младзенец Езус», трохгадовы хлопчык аканома, заплакаў.

Ён забыўся завучаныя некалькі слоў, што яму трэба было казаць.

Пан Вашамірскі заскрыгатаў зубамі, ледзь стрымаўся, каб не крыкнуць ад злосці.

Зайграла бравурная музыка.

Апусцілася заслона, і лёкаі пачалі запальваць свечкі ў кандэлябрах.

Госці ў часе антракту, пакуль рэжысёр рыхтаваў «камедыю», пакуль расстаўлялася новая дэкарацыя на сцэне, пачалі падмацоўвацца.

Лёкаі спрытна налівалі ў келішкі, падавалі закускі. Пачаліся тосты ў чэсць гаспадара і самых ганаровых гасцей. У залі раздаваўся вясёлы гук і звон пасуды.

Госці былі вельмі зацікаўлены панскім Салаўём.

Тое, што чалавек вырабляецца на сцэне па-чалавечаму, іх не дзівіла, але калі чалавек спявае, як птушка, брэша, як сабака, вые, як воўк, няўкае, як кот — вось гэта дзіва. Гэта варта паглядзець і паслухаць.

За апошнія некалькі месяцаў госці наслухаліся пра Салаўя шмат цікавых баек.

— Салаўя! Хочам паслухаць спевы салаўя!..— крыкнуў нехта.

— Салаўя! Салаўя! — раздалося з усіх бакоў.

Пан Вашамірскі ўсміхнуўся:

— Будзе і салавей. Да месяца мая яшчэ далёка.

— Калі яснавяльможны пан захоча, дык май месяц будзем адчуваць і ў каляды! — сыпнуў пану Вашамірскаму камплімент ксёндз Курачковіч.

Пры гэтым ён пачаў новую філасофію:

— Старасвецкія алхімікі даставалі золата з жалеза, а пан Вашамірскі каляды на май пераробіць, бо ў калядную ноч у яго палацах салавей заспявае.

— Салаўя! Салаўя! — крычалі нецярплівыя госці.

Пан Вашамірскі міргнуў аднаму з гайдукоў. У пана было раней задумана на гэты час інтэрмедыя пад назваю «Муй жыдэк».

Салаўя пакінулі на апошні нумар вечара.

Гайдук выскачыў у бакавы пакой.

Праз хвіліну пачулася адтуль суматоха. Рыбак Меер трымаўся абодвума рукамі за дзверы, упіраўся нагамі і не хацеў ісці ў залю.

— Паночкі... паночкі...— прасіў ён літасці,— баюся... палохаюся...

Ён быў у чорнай аксамітнай ярмолцы, у шабасовай халадайцы, з шапкай у руцэ. Яго цёмная густая барада распусцілася, як веер: твар быў бледны, з кроплямі поту, а ў цыганскіх бліскучых вачах дрыжэў страх. Меер кідаў позіркі ва ўсе бакі і мармытаў:

— Баюся, паночкі, палохаюся!..

Меера паставілі ў сярэдзіне залі супроць гасцей. Ён смешна кланяўся ва ўсе бакі, махаў шапкай перад сабою, як шчытам.

Пан Вашамірскі загадаў яму спяваць «Маёфіс».

Госці смяяліся, перашэптваліся між сабою, забыліся ў гэтую хвіліну пра Салаўя.

— Гэта чыстакроўны семіт! Муй жыдэк! — хваліўся пан Вашамірскі перад гасцьмі.— Тут, шаноўныя панове, ён нам «Маёфіс» заспявае, а там, у Варшаве, нашы магнаты жыдам «Маёфіс» пяюць. Там жыдоўскія банкіры забіраюць у свае лапы нашага брата, і тыя жэняцца на банкірскіх дочках, каб такім чынам выратавацца ад вялікіх даўгоў.

Пан Вашамірскі пры гэтых словах падняўся, зрабіў шырокі гэст правай рукою, пачціва пакланіўся і з іроніяй у голасе сказаў:

— Рэкамендую, панове вяльможныя, майго жыдка, як вашага крэўнага!

Госці кісла ўсміхнуліся і паморшчыліся.

За гэткі няўдалы жарт некаторыя з ганаровых гасцей пакрыўдзіліся на гаспадара; аднак стрымаліся, бо ведалі добра куслівы язык пана Вашамірскага; апрача таго, ён быў самым багатым панам у ваколіцы, і тое, што не выпадала іншым, дазвалялася яму.

Галоўным чынам чырванеў ад злосці адзін шляхціц, чарпявы, з доўгім носам. Але на яго ніхто ўвагі не звярочваў.

Меер як бы не чуў гэтай гутаркі. Бляск багатых пакояў і гасцей яго не здзівіў і не збіў з панталыку. Калі ён спачатку баяўся, дык гэта быў толькі «страх божы». Меер не баяўся нават найвялікшага пана, а баяўся «грэху».

Меер быў чалавек просты, ведаў толькі штодзённыя малітвы, ведаў, што над яго дзядамі і прадзедамі заўсёды здзекаваліся і здзекуюцца іншыя народы — «гоі», апрача Міхалкі і блізкіх яго суседзяў.

— На гэта ёсць «вышэйшая воля»,— думаў ён. Меер спакарыўся «гэтай вышэйшай волі», і калі пан крыкнуў да яго строга «ну» і злосна тупнуў нагой, ён заспяваў «Маёфіс»...

Вочы «панскага жыдка» ў час спявання запалалі двума чорнымі агнямі. Ён утаропіў іх у гасцей. Хоць у гэты час нікога з іх не бачыў, але кожнаму здавалася, што «панскі жыдэк» пранікае яго наскрозь вачыма.

Прыкра было гасцям.

Голас у Меера быў надломаны, ад грубаватага на нізкіх тонах пераходзіў у дрыжачы піск на высокіх. Словы пераліваліся ў горле і часам булькалі, нібы ён захлёбваўся, душыўся...

«Панскі жыдэк» спяваў нейкую песню на мове біблії. У цішыні вялізнай залі словы песні здаваліся незразумелым праклёнам, які рваўся не то з-пад зямлі, не то з акон палацаў. У час спявання Меер рабіў шпаркія рухі рукамі, нібы пісаў у паветры таемныя знакі. Часам шчоўкаў пальцамі, круціў галавой, падымаў вочы ўгору, застываў на месцы.

Спачатку некаторыя пані ціха хіхікалі, паны ўсміхаліся; але з кожным разам яны спакайнелі і як бы падпалі пад уладу «панскага жыдка».

Яго песня была нібыта вясёлая, нейкая гопка з яўрэйскага вяселля. Толькі ў гэтай вясёласці адчувалася няшчырасць, гукавы грым вясёласці. У глыбіні ж мелодыі панаваў тысячалетні сум вандроўца-бяздомніка.

У маліцвенна-спакорлівым тоне чулася вялікая ўпартасць і пагроза.

Госці апусцілі галовы.

Пан Вашамірскі не гэтага эфекту чакаў ад інтэрмедыі-экспромта пад назваю «Муй жыдэк». Гэткі настрой гасцей не пасаваў да балю.

— Годзе! — крыкнуў пан Вашамірскі Мееру.

Меер ў экстазе малітвы-песні не чуў панскага крыку.

— Годзе!!! — крыкнуў пан яшчэ мацней.

Меер спыніўся. Ён азіраўся па баках, нібы прачнуўся толькі што з глыбокага сна.

— Га?! — здзівіўся Меер.

— Вон! — крыкнуў пан Вашамірскі.

Да Меера падбеглі лёкаі.

Меер з горда паднятай галавой сунуўся да дзвярэй.

Панскія госці маўчалі, сароме́ліся глядзець адзін аднаму ў вочы, не разумеючы прычыны; ільдзяное паветра пранеслася ў пышнай панскай залі.

За заслонай стукалі малаткамі. Рабілася новая дэкарацыя. Гэта прыкра разіла вушы гасцей. Было такое ўражанне, нібы робіцца новая будыніна, а панскія палацы зараз будуць знішчаны.

Пан Вашамірскі больш за іншых страціў гумар. Ён адразу пачаў на ўсё вакольнае глядзець іншымі вачыма. Усё бачыў цяпер у новым асвятленні. Святло ад белых і жоўтых васковых свечак у кандэлябрах было дрыжучае і ажыўляла малюнкі і барэльефы на сценах. Пану здавалася, што сатыры са сцен смяюцца з яго, паглядаюць яму ў вочы; німфы на сцэнічнай заслоне ўцякаюць не ад фаўна, а ад яго ж; аркадскія пастушкі на яго са страхам пазіраюць.

Ён углядаўся ў твары гасцей. Апрача нявольнай угодлівасці да сябе, ён у іх нічога не заўважыў.

## 11

## ДАНТАЎСКІЯ МАТЫВЫ

На сцэне ішла «камедыя», у якой апавядаецца, як мужык дзеля п'янства душу сваю чорту аддаў, пана абкрадваў і бога не баяўся.

Зноў шэпты доктара багасловіі і філасофіі пачуліся пры стале.

Ён хваліў гэту п'есу:

— «Камедтыя» Марцэвіча багатая па зместу, вфельмі багатая. Хаця мастацкі бок яе дтрохі кульгае, кульгае дтрохі.

На гэта адзін малады клерык заўважыў:

— Гэта, ойча вялебны, тое самае, што хваліць балерыну за вочкі, а ганіць за ножкі.

— Я не гханю твфор ксяндза Марцэвіча, не гханю! — апраўдваўся ксёндз Курачковіч.

— А ксяндза Марашэўскага ойча ведае? — запытаўся ў доктара багасловіі і філасофіі той самы клерык.

— Не, не вфедтаю! У чым справфа?

— А справа ў тым,— адказаў клерык,— што ксёндз Марцэвіч запазычыў сюжэт камедыі ў ксяндза Марашэўскага. Я сам быў на гэтым прадстаўленні ў Забельскай гімназіі.

— О Езсу! — спалохаўся ксёндз Курачковіч.— Ці ж праўда?!

— Праўда, праўда! — супакойлівым тонам адказаў клерык.

— Дык гхэта ж плягіядт, зсадцейства! — абурыўся ксёндз Курачковіч і выставіў здзіўленыя круглыя, як у шчупака, вочы.

— Не зладзейства, а запазычанасць, ойча вялебны,— лагодна гаварыў клерык.— Справа ў тым, што ў ксяндза Марашэўскага гэта камедыйка расцягнута на тры акты, а ксёндз Марцэвіч склеіў усё ў адзін акт. Апрача таго, гэта агульны сюжэт. Кожны выкарыстоўвае яго на свой лад.

Ксёндз Курачковіч пачаў супакойвацца, увайшоў у раўнавагу і давай паказваць з сусветных літаратурных твораў такія самыя факты. Даводзіўшы шмат падобных прыкладаў, пачынаючы з Грэцыі, ён спыніўся на Шэкспіру, які для сваіх драматычных твораў браў гістарычныя аповесці ранейшых аўтараў.

Заўважыўшы, што пан Вашамірскі таксама прыслухоўваецца да гутаркі, доктар багасловіі і філасофіі перагнуў кій у другі бок і, каб угадзіць пану, пачаў даводзіць, што ксёндз Марцэвіч геній:

— Ён уносіць у нашу літаратуру дтантаўскія матывы. У Марцэвіча таксама ёсць пекла! Гэта наш Дтантэ! — кончыў ён горача, расчырванеўся, выцер хустачкай пот з лысіны і зірнуў у бок пана Вашамірскага «шчырымі» вачыма.

Клерык усміхаўся хітра і длубаў зубы спецыяльнай зубадлубкай, якіх ляжала купкамі пры кожным гасцю.

Супярэчыць доктару багасловіі і філасофіі ён баяўся, але паводле яго «х-х-м-м» пры калупанні зубоў відаць было, што ён не зусім згодзен з развагамі ксяндза-крытыка аб пекле Дантэ і пекле ксяндза Марцэвіча.

Доктар багасловіі і філасофіі перайшоў на тэму аб мастацтве і філасофіі наогул і даводзіў, што мастацтва — паймітка касцёла, а філасофія — прыслужніца багасловіі. Мастацтва і філасофія самі па сабе існаваць не могуць.

Галоўны герой п'есы ў гэты час канчаў адзін з сваіх доўгіх маналогаў такога зместу: «селянін шкадаваў, што слухаўся тых, якія яго вучылі розным кепскім справам».

— Кепскія людзі казалі, каб я быў няверным пану, абкрасці пана за грэх не мелі,— гаварыў актор.— Гэтыя людзі навучылі мяне красці ў пана пры малацьбе збожжа і несці ў карчму на гарэлку. Яны вучылі, як панам адказаць, каб з віны выкруціцца. Праклятае гэтае таварыства! З д'яблам я звязаўся!

— Гэта ж грэх перад богам! — гаварыў далей актор у роспачы і трос прыклеенай барадой.

Ён разводзіў рукамі і, пакорліва апусціўшы галаву, дэкламаваў трагічным голасам завучаныя фразы:

— А мы дзень на дзень грашым і пакутаваць не хочам! Гэта-то прычына нашае згубы, гэта ў пекла нас вядзець.

Актор стагнаў пры апошніх словах і набожна лупіў вочы ва ўсе бакі.

— Вось гэта правітдлова з хрысціянскага поглядту! — смактаў свае ўласныя словы, нібы цукеркі, доктар багасловіі і філасофіі. — Вось на што мастацтва: вучыць людт ідтэям пана Езуса!

У адным з куткоў стала, дзе сядзела дробная шляхта, таксама вялася размова. На гэтых гасцей мала звярочвалася ўвагі. Яны былі ніжэйшага рангу, мала адукаваны і не ведалі добра панскіх этыкетаў і цырымоній. Яны, не чакаўшы тостаў, самі частаваліся.

З іх вызначыўся адзін шляхціц Завішша. Гонарам сваім ён лічыў адтапыраныя, як у таракана, доўгія чорныя вусы. З вялікім форсам ён іх круціў, выцягваў, як спружыны, і вечна імі харахоліўся. Гэта не перашкаджала яму частаваць самаго сябе выпіўкай. Ён не чакаў, каб лёкай ямуналіваў у келіх. З гэтым спраўляўся сам.

Кожны раз, як яму трэба было выпіць, ён спачатку гладзіў паважна вусы, выцягваў іх направа і налева, потым стукаў сабе пальцам у лоб і гаварыў адно чароўнае слова:

«Вудка!»

Келіх ён сабе наліваў пяць разоў адзін за адным, і кожны раз адбывалася такая цырымонія са словам «вудка».

З усёй камедыі яму спадабалася толькі адна маленькая сцэнка:

На сцэне стаіць хлоп. Пры ім ляжыць на падлозе дуда. З'яўляецца каеннік — «покутуёнцы». Каеннік са страхам зірнуў на дуду і крыкнуў:

— Ой, гадзіна!

Хлоп засмяяўся і кажа:

— Чаго, ваша, баіцца, ці не знаеш, што гэта ёсць?

— Не вем! — адказвае каеннік.

— Гэта не гадзіна, гэта дуда руская,— кажа хлоп. Бярэ дуду ды грае.

Шляхціц Завішша вельмі захапіўся дудою. Сам заспяваў:

Гэх ты, дудка мая, ух — я!
Весялушка мая, ух — я!

Госці паднялі пры гэтым пічыры рогат. Толькі некаторыя пані крывіліся. Маляванымі губкамі яны пачалі фэкаць у бок Завішшы:

— Які невыкшталцаваны.

Пачуўшы гэта, шляхціц Завішша пакруціў вусамі, пагрозна зірнуў ва ўсе бакі і пачаў дэкламаваць аб польках доўгі верш-сатыру, што пачынаецца такімі словамі:

Zadnej polki tu nie baczę
O, ta, ta, siedzi, widze, z weneckiej dziedziny.
A ta zas w tej szacie z hiszpańskiej krainy,
To podobno francuska, ta zaś niderlandzki
Ubiór na sobie nosi, czyli to florencki [1].

Шляхціц Завішша доўга шаптаў гэты верш, у якім высмейваюцца чужаземныя ўбранні полек. Ён гаварыў, як замовы, і воўкам паглядаў ва ўсе бакі.

— Загубяць яны Рэч Паспалітую, загубяць,— буркнуў Завішша свайму суседу,— паны — дурным гонарам і распустай, а ксяндзы — фальшам і хцівасцю. Дальбог, загубяць!

Злосна тапоршчыліся вусы шляхціца Завішшы. Ён шаптаў на вуха суседу:

— Чытаў я адну гісторыйку, як цэзар Нерон падпаліў Рым, сталіцу сваю, дзеля ўласнай забавы... Тое самае ро-

[1] Ніводнай полькі тут не бачу:
Вось гэта, мабыць, з Венецыі,
А тая, у вопратцы, з Гішпанскай краіны,
А вунь, напэўна, францужанка,
А вось адна нідэрландскі ўбор
Або фларэнтыйскі апранула.

бяць цяпер магнаты ў нас! А хлоп — горш быдла ў іх, у магнатаў...

Сусед спалохаўся. Азірнуўся па баках, ці хто не чуў, і прашыпеў:

— Маўчы...

## 12

## ПАН ВОЛЬСКІ, КУПЕЦ ПОЛЬСКІ

Самы баль пачаўся пасля «камедыі».

Гаварыліся розныя тосты, у якіх хвалілі геній пана Вашамірскага, яго багацце і шчодрасць. Італьянская і французская музыка лілася хвалямі пад высокія суфіты.

Недалёка ад шляхціца Завішшы, у канцы стала, сядзеў малады шляхціц Вольскі. Яго называлі звычайна «пан Вольскі, купец польскі». Ён гандляваў коньмі і дробнымі фальваркамі. Апрача таго, быў пляткаром усёй ваколіцы. Меў вялікі спрыт пасварыць паноў між сабою, а сам заўсёды выходзіў сухім.

Выгляд у яго плюгавы: нізенькі, рыжыя валасы, чырвоныя вочкі. Вольскі часта божкаўся, моршчыў лоб, рабіў шчырыя і жаласлівыя вочы, біў сябе кулачкамі ў грудзі і ледзь не плакаў. Часам, калі яму трэба было разжалабіць якога-колечы пакупца, дык нават выціскаў слёзы з вачэй, сморкаўся і хныкаў. Ён падлізваўся да кожнага пана, ад якога спадзяваўся мець якую-колечу выгаду. Славіўся ён таксама па фальварках і маёнтках як вершаплёт.

Верш у гонар пана Вашамірскага Вольскі рыхтаваў ужо даўно, пацеў над рыфмамі некалькі начэй. Ён спадзяваўся гандляваць з панам Вашамірскім, прадаваць яму коней. Цяпер надышла яго пара прачытаць гэты верш. Ён падняўся, наморшчыў лоб і пачаў сваім рэзка-металёвым непрыемным голасам:

Ой, пан Вашамірскі, яснавяльможны пане!
Ой, хвала табе ад рання да рання!

Бадай кожны радок верша пачынаўся ў яго ад слова «Ой». Ён войкнуў разоў сорак, хваліў пана за вялікі розум, а ўсіх іншых абзываў дурнямі.

Доктар багасловіі і філасофіі пільна прыслухоўваўся да кожнага слова верша. «Ой» яму вельмі спадабалася.

У гэтым слове чуецца моцны стогн душы шчырага каталіка, пакута сэрца, закаханага ў пана Езуса.

— Радтасць — гэта распуста, упадак пачуцця! — тлумачыў далей доктар багасловіі і філасофіі, прыціскаючы кожнае слова, нібы абцугамі, гаворачы да ксяндза Марцэвіча, якога толькі што паспеў павіншаваць з поспехам яго п'есы.

Шляхціц Завішша меў свой погляд і на творчасць Вольскага, якога ён даўно ведаў, меў свой погляд і на развагі ксяндза. Ён казаў на вуха свайму суседу:

— Дзіўны багаслоў. Сам балюе, а радасць крытыкуе. Вось фальшывы сутаннік! А Вольскі ойкае, бо рыфмы ў дзесяты пот яго кідаюць. Яму нялёгка, вось і войкае, пане дабрадзеенку! Усіх дурнямі абзывае, гіцаль рыжы, бо сам дурань, сабачая душа яго!

Завішша круціў пры гэтым вусы і злаваўся.

Усе госці бісавалі Вольскаму.

Пан Вашамірскі, які ўжо быў падвыпіўшы, папрасіў прынесці ў чэсць паэта дзедаўскі келіх.

Госці зарагаталі. Яны добра ведалі гэты паўгарцовы срэбны коўш, на якім было выразана тры сэрцы з надпісам «corda fidelium» («сэрца прыяцеляў»). Мала хто здолеў выпіць яго да канца, каб не зваліцца з ног. А пан прымушаў яго выпіць адным духам. У каго хоць трохі на дне каўша заставалася, таму загадваў другі раз піць.

Спалохаўся пан Вольскі.

— Пане Вашамірскі...— гаварыў ён,— не здолею выпіць... Ой, не здолею... ой... злітуйся, пане!

Нічога не памагло.

Лёкай у хвіліну прынёс келіх, які налілі поўна стара-венгерскім віном.

Пан Вольскі вытарашчыў вочы і ледзь не да дна выпіў, але раптам пачала кружыцца галава, і ён паваліўся.

Падскочылі лёкаі і пад агульны рогат вынеслі яго з залі.

— Гэта яму кара за верш,— казаў пан Вашамірскі.— Каб пахваліць гаспадара, дык яшчэ не значыць, што трэба зганьбіць іншых. Гэта адзнака людзей не ганаровых.

Госці былі вельмі здаволены ўчынкам пана і яго тлумачэннем.

Пан Вольскі агляну́ўся.

Ён знаходзіцца на канапе ў гардэробным пакоі.

У срэбным ліхтарыку мігацела толькі адна свечка. На сценах гойдаўся змрок. Насупроць яго блішчэла вялізнае люстэрка, у якім святло свечкі выглядала воўчым вокам. Пакой расшырыўся ў люстэрку і выглядаў бесканечным. Сцены расплываліся ў змроку. Рад вялізных шафаў стаяў каля сцен. Драўляныя фігуры і разнастайная разьба на шафах абрысоўваліся вельмі слаба; але бронзавыя амуры на некаторых ярка мігацелі, блішчэлі, як золата. Ва ўсіх кутках пан Вольскі налічыў восем шаф.

Гэтыя шафы зазвычай прывозілі з сабою маладыя жонкі паноў Вашамірскіх.

«Восем шаф, значыць, восем пакаленняў»,— падумаў пан Вольскі, моршчачы п'яны лоб.

Ён пацягнуў носам. З пакоя несло пустыром. Як пачаў думаць аб гэтых васьмёх пакаленнях, аб вечнасці, яму жудасна зрабілася. Думкі скакалі, зблытаныя, туманныя і жаласлівыя. Яны мігацелі, як вуголлі на патухаючым вогнішчы.

З залі чуваць быў гул галасоў, якi зліваўся ў нейкі манатонны гуд.

Пакрыўджаны фальварковы пясняр пачаў дзеля ўцехі выабражаць у думках, што спявае. Яму нават забаўна зрабілася ад таго, што можна спяваць мелодыю не толькі ўголас, а нават у думках. І якую б мелодыю ён ні думаў, гул галасоў з вялікай залі паўтараў гэту мелодыю.

Раптам гул сціх. Да яго плыла кволая прыгожая музыка.

«Гэта балет «Усход сонца» цяпер выконваецца на сцэне»,— падумаў пан Вольскі.

Ён ледзь не завыў ад крыўды, што не знаходзіцца ў залі і не бачыць балерын.

Музыка драпала сэрца, нервавала, і ён не ведаў, што з сабою зрабіць. Каб заглушыць боль, ён паднёс палец да агню свечкі і сцяў зубы. Нястрыманага болю доўга не мог цярпець. Прылажыў палец да губ, хукаў на яго і смяяўся:

— Вось да якога вар'яцця дайшоў! Ой!

А музыка вабіла, чаравала, кідала яго думкі, нібы вецер пыл дарожны, у розныя бакі. Здавалася, што нічога харашэйшага за гэту музыку на свеце няма.

— Нічога на свеце! — сказаў ён уголас.

З далёкага змрочнага кутка вялізнага гардэробнага пакоя кінуўся да яго водгалас: «чога на свеце!»

Пан Вольскі спалохаўся, адчуў сябе адзінокім, як у глухім лесе. Ён ведаў, што «чога на свеце» — адбітак яго

голасу, як бывае адбітак твару ў люстэрку ці ў вадзе. Аднак пачаў баяцца і аднаго, і другога. Каб адагнаць ад сябе адзіноту, ён пачаў думаць аб прыгожых панях, якія былі ў залі. Усе яны зліваліся ў яго думках у адзін абраз недасяжнай вабнай жанчыны. Твару яе не бачыць; не можа сабе ўявіць яе выгляд, але яна кіпяціць-гарачыць яго кроў.

«Трэба ёй напісаць верш! — падумаў пан Вольскі.— Я ж — рыцар яе! Я крыві сваёй шкадаваць не павінен!»

«Рыцар, кроў, верш» туманілі яго думкі, запалянілі яго новай ідэяй:

«Трэба напісаць верш сваёй уласнай крывёю».

Пан Вольскі падышоў бліжэй да свечкі, выняў з рамённага пояса нож, што вісеў у похве, і пачаў сабе калупаць нажом левую руку. Паказалася кроў. Ён дастаў з кішэні кавалак шэрай паперы, з другой кішэні — некалькі зубадлубак, якія ўзяў са стала на запас, і пачаў макаць кончыкам зубадлубкі ў сваю кроў і выводзіць літары на паперы. Ён напісаў пачатак верша:

«Ой...»

Далей у яго не ішло. Ён наморшчыў лоб і пачаў думаць.

Чырвонае крывавае слова двайлася, траілася ў вачах. Ён бачыў як бы цэлыя тузіны гэтага слова:

«Ой, ой, ой».

Яны мітусіліся перад ім, нібы «божыя кароўкі».

Вольскі плюнуў, вылаяў сам сябе за такое вар'яцце, абвязаў параненую руку хустачкай і прылёг на канапе.

«Ой, ой, ой, ой, ой» — звінела музыка ў яго вушах. Галава зрабілася цяжкаю, і ён хутка заснуў.

Прачнуўся ад шэпту і ціхага плачу ў пакоі. Уздрыгануўся, прытаіўся і давай прыслухоўвацца.

— Паночку... паночку міленькі, не чапай мяне! — прасіла-маліла дзяўчына.

— Ціха ты! — бурчаў у адказ п'яны голас аднаго з гасцей.

— Ага,— успомніў пан Вольскі,— гэта ж халопкі стаялі на галёрцы, апусціўшы галавы ўніз на залю, і глядзелі, як авечкі.

Пан Вольскі з вялікім смакаваннем і зайздрасцю лавіў кожны гук...

## 13
# ПРАРОЧЫЯ СНЫ

Балет быў самым удалым нумарам балю. Госці вельмі здаволены. Такой пышнай фантастычнай пастаноўкі яны ніколі не бачылі. Такой зграбнай музыкі ніколі не чулі.

Не спадабаўся балет адной толькі пані Вашамірскай.

— Нешта бязбожніцкае, д'ябальскае,— гаварыла яна.

Прычына яе нездаволенасці іншага характару.

Яна ўвесь вечар была задуменая і смутная. Смутак пані Вашамірскай цягнецца з таго дня, калі ў яе апошні раз быў сын з Салаўём.

Прарочыя сны пачалі ёй сніцца бадай кожную ноч: яна чула ва сне спевы салаўя. Спеў маленькай птушачкі пранікаў у яе нутро, у самае сэрца вясновымі срэбнымі трэлямі. Спявала птушачка на розныя лады, і пані Вашамірскай гэта здавалася райскай божай музыкай. Кожны гук, следзь прыкметны зык птушачкі ліўся як бы з неба і салодкім смуткам атуляў усё вакол.

І пах бэзу прыемна кружыў ёй галаву.

Кожны раз прабуджалася яна са стогнам. Песня птушачкі яшчэ звінела ў яе вушах.

Пані Вашамірская страціла апетыт. Ранейшае замілаванне да катоў прапала. Удзень яна не ведала, як дачакацца ночы, каб зноў чуць ва сне песні птушкі.

Па-рознаму тлумачылі ёй суседкі з блізкіх маёнткаў гэты дзіўны сон.

Некаторыя гаварылі, што гэта д'ябал хоча яе спакусіць салаўінай песняй. Іншыя казалі, што гэта яе ўласная яснавяльможная душа ўночы ад цела адыходзіць, лунае над ёю, спявае.

А ксёндз Марцэвіч запэўніваў, што гэта даносіцца да яе ветрам звон касцёла. Звон напамінае пані аб тым, каб пабудавала касцёл у сваім маёнтку, каб давала грошы на божыя справы.

Ксёндз Марцэвіч ужо даўно збірае ахвяраванні і падарункі на касцёл «Сэрца Езуса». Яму яшчэ не хапае грошай на званіцу. Вось птушачка і звоніць ува сне...

Пані Вашамірская ахвяравала на званіцу старасвецкія пярсцёнкі з дарагімі каменнямі, сама аддала іх ксяндзу Марцэвічу.

Песні салоўкі ўсё роўна не спыняліся. Наадварот, гэты сон прыняў болей ясныя вобразы і формы; кожны раз падыходзіла да пані здань, атуленая ў сялянскае грубае

палатно. Пані спачатку думала, што гэта таемная фігура — смерць, але спевы салаўя, яшчэ болей прыгожыя, чымся раней, ліліся з-пад гэтага палатна. Пані супакоілася: смерць не можа так хораша спяваць...

Нарэшце палатно апусцілася — і перад паняй стаяў анёл і спяваў па-салаўінаму.

Пані пачала прыглядацца і заўважыла, што гэта не анёл, а фокуснік яе сына, пад мянушкаю Салавей.

Пра гэты сон пані ўжо нікому не гаварыла, нават свайму духоўніку.

Яна нечага і баялася, і саромілася.

Страх гэты быў страхам божым, а сорам — сорамам дзевы Марыі, нявіннай і чыстай.

Так тлумачыла пані сама сабе.

Яна пачала разумець, што гэтым сном «пан буг» выстаўляе ёй напаказ яе памылкі. На яе напаў страх: яна раней была так упэўнена ў сваёй непамылковасці...

Яна кленчыла перад вобразам «маткі боскай», прызнавалася ў вялікіх грахах: ужо шмат гадоў песціць і няньчыць катоў, а пра людзей забылася...

Адчуваючы свой вялікі грэх, пані па-ранейшаму глядзела за катамі. Што ж яны, бедныя, вінаваты?

Пані пацяшала сябе тым, што памылка ўжо напалову выпраўлена, калі выкрыта. Толькі трэба старацца выправіць памылку да канца.

«Як выпраўляць памылку?»

Цяжкое «як?» непакоіла пані Вашамірскую. Пад уражаннем гэтага «як?» яна сядзела ўвесь вечар, не прымаючы ніякага ўдзелу ў вясёлых і мудрых гутарках гасцей. «Божы смутак» лунаў на яе твары. Пані апускала вочы і з-пад апушчаных расніц пазірала з зацікаўленасцю ва ўсе бакі.

Яна шукала вачыма Салаўя.

Яго не відаць было.

Не было яшчэ самага галоўнага эфекту панскага балю.

Пані Вашамірская чакала яго з хвіліны на хвіліну. Яна забыла гладзіць і песціць катоў, што сядзелі ў яе на каленях. Ад нецярплівасці яна кожны раз уздрыгвала, калі да яе зварочваліся суседзі пры стале з запытаннямі і заўвагамі.

У гэты час пан Вашамірскі гутарыў з суседам з блізкага маёнтка аб тым, што студыя ўсё ж яго не задавальняе, бо акторы яго — выдрэсіраваныя мядзведзі. Нутранога агню, натхнення няма ў іх. Вось ён зараз пакажа ўсім на

закуску балю сапраўднае дзіва — чалавека, які спявае салаўём.

— Я думаю павезці яго за граніцу напаказ! — павысіў пан Вашамірскі голас.

— Салаўя сюды! Салаўя! — папрасілі госці.

Пані Вашамірская пабляднела ад хвалявання. У гэтую хвіліну Салавей быў яе апошняй нябеснай справай.

— Паслухаць цяпер салаўя — штука фвельмі пікантная! — сказаў доктар багасловіі і філасофіі.— Гэта тонкая хгустоўнасць і вышэйшы эстэтызм! Дтзіўлюся здтольнасцям пана Вфашамірскага, шчыра дтзіўлюся!

Ксёндз пачаў доўгую тыраду аб спевах салаўя, аб цудах божых.

Хоць пан Вашамірскі добра разумеў, што гэта толькі няшчырая ксяндзоўская льсцівасць, аднак перад вялікай грамадой гасцей яму было прыемна ад слоў ксяндза.

— Прывесці сюды Салаўя,— крыкнуў пан гайдукам.

Пан расказаў гасцям падрабязна ўсю гісторыю, як ён першы раз пачуў фокусы Салаўя і як дзеля жарту загадаў тады ўсыпаць некалькі гарачых гайдуку Макару. Пры гэтым успомніў, што гайдука Макара няма. Ён падазваў стольніка і запытаўся, дзе Макар.

— Макара знайшлі сягоння забітым, яснавяльможны пане,— спалохана сказаў стольнік,— яго забіла Зоська Халімонава, што ў канцы вёскі жыве, недалёка ад лесу.

— А Зоська дзе? — пабляднеўшы ад злосці, сказаў пан.

— Зоська ўцякла, яснавяльможны пане.

— Зараз жа яе злавіць! Скажы аб гэтым войту!

— Слухаю, яснавяльможны пане!

Пан Вашамірскі быў выбіты з раўнавагі. Перад гасцямі стараўся гэта не паказваць. Ён не шкадаваў гайдука Макара, але злаваўся на тое, што нейкая халопка парушыла яго панскі супакой, сапсула гармонію балю.

«Ну і дзікія гэтыя хлопы! Ну і разбойнікі ж яны! Засяку Зоську насмерць. Сваімі рукамі засяку,— пастанавіў ён у думках.— Ну і гадзюка яна!»

Пані Вашамірская не заўважыла змены настрою ў сына. Яна была занепакоена тым, што ён хоча забраць Салаўя за граніцу. Салавей быў патрэбен ёй. Яна гатова аддаць за Салаўя ўсіх сваіх катоў... Яна гатова... Сама ў гэту хвіліну не ведала, на што яна гатова, каб толькі дастаць сабе Салаўя.

Яна кіўнула сыну і сказала ўстрывожаным голасам:

— Салаўя не трэба везці за граніцу, не трэба!

14

## НЕ ХАЧУ БЫЦЬ ПАНСКІМ САЛАЎЁМ

Салавей цэлы дзень сядзеў запёрты ў цёмным пакоі, з цяжкімі калодкамі на нагах.

Гнеў пана Вашамірскага быў вялікі, бо Салавей адлучыўся з маёнтка ў апошні дзень перад спектаклем. Яго адсутнасць была заўважана ксяндзом Марцэвічам у часе звычайнага начнога абыходу спальных пакояў актараў.

У каморцы, дзе сядзеў Салавей, было так цёмна, што нават рукі сваёй нельга было бачыць. Рухацца з месца таксама было цяжка, бо калодкі прыкоўвалі ногі да падлогі. Ён сядзеў нерухома на месцы, аддаючы ўсю сваю ўвагу слыху. Сіла зроку і рухаў перайшлі ў слых. Яго вушы лавілі кожны шолах у затхлым паветры каморкі.

Па кутах шорхаліся мышы, грызлі сцены, драпалі падлогу і пішчэлі. Ён рад быў, што ў суседстве знаходзяцца хоць такія жывыя істоты. Часам, як зварухнецца з месца, рабілася ціха — мышы палохаліся.

Хвілінамі на яго нападала вялікая нуда. Ён мацаў у пацёмках свой твар, які здаваўся яму чужым. Соваў рукамі па сцяне, дзе было шмат павуціны з сухімі леташнімі мухамі. Гэта забава адганяла сумныя думкі.

Ён лавіў вушамі кожны зык з суседніх пакояў: крокі чаляднікаў, заглушаны гул гутаркі. Яму здавалася, што ўвесь жывы свет ужо навекі адарваны ад яго і знаходзіцца недзе за сотні міль адгэтуль.

Ад накіпеўшай злосці перасохла ў горле. Ён аблізаў губы языком, уздрыгануўся і пачаў барабаніць кулакамі ў сцяну:

— Адчыніце!

Ён крычаў кожны раз усё галасней. На яго крыкі ніхто ўвагі не звярачваў.

— Адчыніце!

Раптам змоўк і пачаў пільна прыслухоўвацца.

З глыбіні панскіх пакояў пачуўся звон вялікага гадзінніка. Мядзяныя гукі расплываліся мякка, задумёна і ўрачыста, дрыжэлі ў вушах доўга, ледзь прыкметнымі пералівамі адгалоску.

Салавей супакоіўся.

Зрабілася лёгка на душы. Нібы хтосьці блізкі пяшчотна пагладзіў яго па валасах.

Успомніў Зоську...

Але кожны новы звон гадзінніка навяваў яму новыя думкі.

Нядобра жыць так на свеце.

Нядобра быць забавай у пана.

Добра спяваць салаўём тады, калі самому хочацца, а не па загаду пана.

Чым больш ён думаў аб тым, што добра і што нядобра, тым больш ён быў абураны на пана Вашамірскага. У яго душы рос і крэп чалавечы гонар, той гонар, якога не аддасі ні за якія грошы, ні за які дабрабыт, ні за якія панскія падарункі.

Салавей сціснуў кулакі ад злосці, увесь напружыніўся да хрусту касцей і падняўся з месца. Але цяжкія калодкі на нагах давалі сябе адчуваць, ён зноў сеў, сцяўшы зубы.

— Нядобра быць панскім салаўём!

Ён апусціў галаву на грудзі. Доўгі час сядзеў нерухомы, акамянелы.

Усе думкі выскачылі з галавы, як спалоханыя вераб'і.

Мышы зноў скрабліся вакол. Часам раздаваўся бой гадзінніка, але Салавей не чуў. Ён моцна спаў пасля бяссоннай ночы, праведзенай у Зоські, і няўдалага барокання з панскімі гайдукамі.

Ціха было ў залі.

Салаўя з нецярплівасцю чакалі хвілін дзесяць.

Ён увайшоў павольна. Толькі што знялі калодкі з яго ног. Жмурыў вочы і засланяў іх рукою. Адсядзеў у цёмнай каморы цэлы дзень, яму цяжка было глядзець цяпер на яркае святло.

Ён быў у дзівацкім аксамітным шырокім адзенні з вышытымі залатымі салаўямі. На грудзях з рознакаляровых пацерак быў зроблены герб паноў Вашамірскіх. Высокі, стройны, у такой незвычайнай мантыі Салавей нагадваў сабою жраца невядомай рэлігіі, невядомых часоў. Бровы ў Салаўя былі грозна нахмураны. Вочы кідалі вакол сінія вострыя нажы. Чорны аксаміт убрання адцяняў яго бледны твар.

Госці атарапелі.

Пану Вашамірскаму вельмі да сэрца было тое ўражанне, якое Салавей зрабіў на гасцей сваім выглядам.

Пан усміхнуўся самазадаволена.

— А во зараз, шаноўныя госці, пачуеце яго спевы!

— Можа, у яго захаваны такія штучкі, праз якія ён свішча? — запытаўся пан Завішша і пакруціў доўгія вусы.

Гэтыя словы пакрыўдзілі пана Вашамірскага. Заха-

дзілі хадыром яго сківіцы. Ён стрымаўся і сказаў спакойным голасам:

— Калі хто з ласкавых паноў хоча, можа агледзець майго Салаўя. Можа, якую свісцёлку знойдзеце. Пашукайце ў яго руках, у роце!

Некаторыя сунуліся да Салаўя, але яго выгляд быў такі грозны, што ніхто не адважыўся шукаць у яго свісцёлак, праз якія ён свішча салаўём.

Пані Вашамірская глядзела на Салаўя ў немым здзіўленні і абагатварэнні.

— Ну,— сказаў пан Вашамірскі да Салаўя,— пачынай!

Салавей маўчаў.

— Ну! — крыкнуў пан.

Салавей не варухнуўся.

— Чаго маўчыш?! — зачырванеўся пан ад злосці.— Можа, ахрып?

Салавей строга зірнуў на пана Вашамірскага, ледзь разняў сцятыя губы і павольна працадзіў праз зубы:

— Не хачу быць панскім салаўём.

— Які хам, о божа! — здзівіўся доктар багасловіі і філасофіі.

У пана Вашамірскага вочы наліліся крывёю.

— Жартуеш? — крыкнуў пан не сваім голасам.— Спявай!

Салавей усміхнуўся, крыху як бы занепакоіўся, горда зірнуў на пана, выпрастаўся, як нацягнутая струна, і больш цвёрдым голасам сказаў:

— Не хачу быць панскім салаўём!

— Закаваць яго ў кайданы,— грозным голасам крыкнуў пан Вашамірскі.

Салавей сарваў з сябе дзівацкае ўбранне і кінуўся да дзвярэй.

За ім удагонку пусціліся гайдукі.

# ЧАСТКА III

## 1

## КПЛІВЫ СМЕХ І ФРАНЦУЗСКАЯ ГРАВЮРА

За ноч выпаў пульхны снег. Пад ім загубіліся, зніклі ўсе пуцявіны, усе дарогі, якія вялі ў маёнтак пана Вашамірскага.

Здавалася, што з вечнай ночы выплыў першы дзень на зямлі — белы, малады і марозліва пахучы.

Здавалася, што будыніны ў маёнтку павырасталі раптам, у адну хвіліну, выраслі аграмаднымі дзівоснымі грыбамі. Сярод іх шэрымі казуркамі мітусіліся людзі. Яны соваліся туды і сюды па вялікаму дзядзінцу. На іхніх тварах заклапочанасць. Нібы людзі збіраюцца ўцячы ад нейкай небяспекі.

Панскія фурманы рыхтаваліся ў дарогу. Гэта было для іх неспадзяваным. Яны думалі, што паны будуць баляваць у пана Вашамірскага некалькі дзён. А то раптам загадалі запрагаць коней. Паны нават не выспаліся добра пасля такога балю.

Коні былі выведзены табуном да вадапою. Фурманы гікалі, свісталі, падбадзёрвалі крыкамі рысакоў, стаеннікаў розных масцей; ляскалі моцнымі рукамі па гладкіх шыях, па бліскучых і круглых крыжах.

Коні фыркалі, дымілі ноздрамі, стрыглі вушамі і выгібалі шыі па-лебядзінаму. Некаторыя падымаліся дубка.

Фурманы жартавалі між сабою спяшаючыся. Было загадана, як найхутчэй справіцца.

Хутка былі запрэжаны коні.

Укутаныя ў дарожныя футры, паны рассаджваліся ў павозкі, раскланьваліся паважна з панам Вашамірскім. Ён стаяў на парадным ганку.

Фурманкі рынуліся з месца. Выехалі адна за адной у галоўныя прысады і расцягнуліся доўгім змеем. Звон бразгулак разліваўся шкляным дзынканнем.

Пан Вашамірскі стаяў у глыбокім задуменні і глядзеў у бок аснежаных прысад, дзе спаміж дрэў, нібы з-пад вэлюму, ярка вырысоўваўся доўгі шэраг павозак яго гасцей. Яму відаць было, як госці рабілі знакі адзін аднаму, як фурманы (відаць, па загаду гаспадароў) стрымлівалі коней і ехалі паволі.

«Мабыць, аба мне гутарацць»,— думаў пан Вашамірскі і ўзяўся рукою за разгарачаны лоб.

Пачаў пільна прыслухоўвацца. Спаміж звону бразгулак пачуў нястрыманы гучны смех. Ён заўважыў, як на апошніх павозках госці браліся за бакі, хапаліся за грудзі, душыліся ад смеху — дзікага, непрыстойнага.

Смех лез вострымі голкамі ў грудзі пану Вашамірскаму, аглушаў слых і драпаў па нервах, нібы кашачы канцэрт яго маткі.

Паблядне ў. Вочы ўглыбіліся, сківіцы ходырам захадзілі.

У снежнай далі захаваўся ланцуг павозак. Не чуваць звону бразгулак, а смех — кплівы, бязлітасны, на розныя галасы, звініць у вушах пана Вашамірскага.

Гэта была толькі галюцынацыя слыху.

Вакол стаяла цішыня.

Пан акамянела ўтаропіўся ў свежа-пратораную дарогу і не ведаў, дзе ён і што з ім. Ён уяўляў сабе міміку і гукі разнастайнага смеху кожнага з гасцей паасобку. Яны высмейвалі яго, пана Вашамірскага, за няўдачу з Салаўём. Яны закранулі яго панскі гонар... Ён упіваўся пякельнай музыкай смеху. У сваім уяўленні пераходзіў ад госця да госця. Прыглядаўся, прыслухоўваўся.

Вось тоўсты багаты пан Тольскі гігікае. Замасленыя маленькія вочкі блішчаць дзвюма кропельнымі лужынкамі. Твар чырвоны, як медзь, трайная пыса складваецца ў шырокія фальбоны. «Гу-гу-гу»,— смяецца Тольскі басам. Трымаецца за вялізнае пуза. «Гу-гу-гу».

А то брэша па-сабачаму тонкі, як жэрдка, пан Забела. «Гі-га-гі-га-гі-га-аў!» Ён ківаецца з боку на бок, як трысцянё пад бурай, глытае словы, пырскае слінай з рэдкіх жоўтых зубоў, захлёбваецца — і словы з яго бледных вуснаў вырываюцца слізкія, як жабы. Нічога ў іх не разбярэш. Толькі ўрыўкі слоў: «Салавей уцёк! Пан Вашамірскі толькі — гі-га-га-аў — фарсіў! Нас абманваў!»

Ксёндз Курачковіч смяецца мала. Яго ўсмешка такая кплівая, круглыя вочы такія бліскучыя, а лацінскія фразы такія мудрагельныя, што горш рогату труцяць гонар... Лезуць нажамі ў грудзі...

А вось глухі пан Гайкоўскі. Калі яго лаеш, ён заўсёды ветла ўсміхаецца, бо не чуе. Пан Гайкоўскі і Салаўя не чуў бы. А цяпер і ён смяецца, і ён крытыкуе.

Паміж гучнага смеху мужчын звініць капэля жаноча-

га хіхата-піску. Пані смяюцца да плачу, да гістэрыкі, да непрытомнасці:

«Хі-ха-хгі-і-і! Салавей не спяваў!»

«Іхі-ха! Пан Вашамірскі абмануў!»

«І-гі-гі-і-і! Баль не ўдаўся!»

Пані заходзяцца ад смеху. Белыя, вострыя зубкі ў іх пры гэтым блішчаць, асляпляюць. Ямачкі на шчоках глыбеюць: ружовыя ямачкі, у якіх не раз тапіўся ў асалодзе пан Вашамірскі.

Жыва бачыў пан Вашамірскі ў сваім выабражэнні, як на прыгожых санках па дарозе смяюцца госці з няўдалага балю, няўдалага дзякуючы таму, што яго гонар, яго пахвальба — Салавей — адмовіўся спяваць. Гэтулькі гутарак было аб Салаўі, людзі так цікавіліся, а раптам...

Пан Вашамірскі не думаў цяпер аб тым, як будзе караць Салаўя. Думкі яго ўсё яшчэ луналі ў снежных бязбрэжжах каля павозак гасцей, дзе, паводле яго выабражэння, госці выкпівалі няўдалы баль. Ён злаваўся на іх за такія кпіны. Злаваўся на ўсіх людзей, на ўвесь свет.

Доўга стаяў на ганку.

Пуста на дзядзінцы. Усе як бы павыміралі, а ён адзінадным астаўся. Астаўся знячлаўлены, асмеяны ўсімі.

Пан Вашамірскі вярнуўся ў палац.

У залі, дзе ўночы кіпела жыццё, дзе столькі было бляску і вясёласці, цяпер засталіся руіны. Ён кінуў вокам на тэатральную заслону, на сталы. У залі мітусіліся слугі, прыбіралі пасуду, астаткі яды. Пан, як асцёбаны, пайшоў у свой габінет.

Сеў на мяккую канапу.

Вялікая стомленасць. Цяжка было варухнуцца з месца. Успамінаў усе падрабязгі мінулай ночы ў той чарзе, як яны адбываліся.

Як Салавей выскачыў з залі, не захацеўшы быць панскім салаўём, усе госці разявіліся ад дзіва. Зірнулі на яго, на пана Вашамірскага, такімі вачыма, нібы ён у іх штосьці ўкраў. Потым пачалі шушукацца і пераміргвацца. Хутка ўсе падняліся з-за стала. Пакрыўдзіліся. А яго маці, пані Вашамірская, абамлела. Яна ўвесь час плача, зрабілася непрытомнай ды ўсё пра Салаўя шэпча. У малельным пакоі моліцца, просіць літасці ў бога, каб Салавей вярнуўся. Ад яе не адыходзіць ксёндз Марцэвіч.

«Вось рабі людзям дабро! — думаў ён.— Хам заўсёды застаецца хамам. Прыгрэеш змяю на сваіх грудзях, а яна цябе ўкусіць. Ці кепска жылося ў мяне Салаўю? Адарваў

яго ад прыгонніцкай працы. Панам жыў у мяне. А вось і аддзякаваў!»

Тупнуў ад злосці нагой.

— Закатую яго... насмерць закатую!

Тры разы пляснуў у далоні.

З'явіўся лёкай, пакланіўся.

— Што яснавяльможны пан прыкажа?

— Салаўя злавілі?

— Не, яснавяльможны пане.

— Вон!

Спалоханы лёкай пакланіўся яшчэ ніжэй і ціха высунуўся з пакоя.

— Вось рабі хаму палёгку! — крыўдзіўся пан невядома каму і паглядзеў на французскую гравюру, што вісела на сцяне супроць яго.

Яму стала горача. Успомніў, што сядзіць у цёплай футры. Скінуў яе з плеч на дыван і зноў ляснуў тры разы ў далоні.

З'явіўся той самы спалоханы лёкай, пакланіўся і з маўклівым запытаннем у вачах зірнуў на пана.

— Футру забяры!

Думкі аб неспагадных людзях і аб яго ўласным надмерным дабры да іх не давалі супакою.

— Чаму я такі добры? Чаму?

Зноў утаропіўся ў гравюру.

Яна выяўляла захад сонца ў невядомым стэпе. Па высокаму кавылю носіцца ўскач спалоханы табун дзікіх коней. Недалёка ад іх у густым трысці стаіць леапард, гатовы да нападу.

Пан Вашамірскі раптам забыўся аб сваім незвычайным дабры да прыгонных і давай пільней углядацца ў гравюру. Распушчаныя конскія грывы, доўгія калматыя хвасты, дзіка бліскучыя вочы, баечныя позы дзікіх коней, якія нібы ў паветры носяцца ўсімі чатырма нагамі над кавылём, захапілі пана сваім першабытным хараством.

2

## ДЗЕВЯЦЬ МУЗ

Пан Вольскі пацёр вочы і здзіўлена азірнуўся па баках. Незнаёмы, вялізны пакой.

— Няўжо гэта ўсё мне снілася? Дзе я? А мо яшчэ і цяпер сню?

Нібы ашпараны варам, ён ускочыў на ногі. У яго чырвоных вачах блiснуў непакой.

— Ці я ўжо прачнуўся? Ці яшчэ сплю?

Ён пачынае хадзіць па вялікаму гардэробнаму пакою туды-сюды.

Водгалас яго гулкіх крокаў адказвае з усіх куткоў, нібы страляніна.

— Не, не сплю...

Ён аглядаецца на шафы з разьбою, з бронзавымі амурамі, успамінае музыку, што яго так вабіла ўночы, і паглядае на сябе ў люстэрка. Не пазнае сябе ў збянтэжаным рыжым чалавечку.

— Мабыць, сплю!

Выпадкова зірнуў на рукі і задрыжэў — рукі ў крыві...

— Няўжо ж забіў каго-колечы? Часам, праўда, настаўляў на людзей дзеля форсу дзедаўскі пісталет і крычаў: «застрэлю!», але адвагі не хапала на гэта. Я больш языком мялю.

Тут Вольскі ўспомніў, што ўночы сваёю крывёю верш пісаў. Паглядзеў на стол — ляжыць кавалак паперы, а на ёй напісана чырвонае слова «ой».

Трохі забалела рука, заныла ранка.

— Не, не сплю!

Зноў узяўся за агляд пакоя. Ніяк не мог успомніць, як ён тут апынуўся. Давай успамінаць аб усім тым, што рабілася ўночы.

Усё здавалася яму дзіўным і незвычайным. Не мог паверыць, што гэта было наяве.

— Я сплю, сплю! Не чуў яшчэ, як панскі Салавей спявае.

Калі ўпэўніўся, што спіць, што гэта ўсё толькі чароўны сон, ён супакоіўся і павесялеў.

— Прыемны сон цікавей непрыемнай явы.

Перастаў баяцца незнаёмага пакоя.

«Калі сон, дык трэба выкарыстаць,— падумаў ён і хіхікнуў ад прыемнасці.— Пастараюся зрабіць гэты сон яшчэ больш цікавым».

Пан Вольскі пасунуўся да дзвярэй, скрыпнуў імі і апынуўся ў іншым пакоі. Па сценах віселі абразы ў залочаных рамах. Пасярэдзіне стаяў амбон. Гарэлі па кутах вялізныя васковыя свечкі. Перад абразом «маткі боскай» стаяла на каленях пані Вашамірская і ціха малілася. Недалёка ад яе сядзеў у задуме ксёндз Марцэвіч.

Хоць пану Вольскаму здавалася, што ўсё гэта бачыць ён ва сне, аднак стараўся выбрацца адгэтуль назад так ціха, каб яго не заўважылі.

У ранейшым пакоі ён ледзь знайшоў за шафамі іншыя дзверы, што вывелі яго ў нейкі змрочны калідор. Ад выпіўкі трашчэла галава. Губы былі сухія.

«Усё роўна як не ў сне! — падумаў ён і пачаў выціраць рукавом успацелы лоб.— А варта было б трохі апахмяліцца!»

Ішоў па доўгаму змрочнаму калідору. Слабы адсвет пранікаў сюды толькі з абодвух канцоў калідора — з акон з цёмна-сінімі паўкруглымі шыбамі. Ён адчыніў невялічкія дзверы і апынуўся на дзядзінцы супроць белай нізкай камяніцы.

— Аднак і ў сне холадна, калі табе сніцца снег і мароз...

Нягледзячы на холад, Вольскаму спадабалася вандраванне ў сне. Такія сны бачыў шмат разоў: вандруе ў невядомым палацы ад пакоя да пакоя і не можа выбрацца. Ён спалохаў варону, што дзёўбала нешта ў снезе, і адчыніў дзверы ў камяніцу. Увайшоў у пусты пакой, прабраўся адтуль у другі і апынуўся якраз у спальні балерын.

Пан Вольскі замурлыкаў сваё паэтычнае «ой!».

— Ой, сон! Ой, слаўны, ой, прыгожы, ой, натхнёны, дзіўны сон! О-о-ой!

Апошняе «ой» ён выгаварыў працягла.

— Так вечна гатоў сніць!

Зрабіў рыцарскі выгляд.

Смешна выглядала ў такой позе яго дробная мізэрная фігурка. Ён заўважыў гэта ў люстэрку каля сцяны.

«Ой, не падыходзіць. Давай зраблю сабе фізіяномію чалавека ў экстазе малітвы!»

Стаў на калені. Разняў рукі як бы для вялікага малення і вытарашчыў вочы ўгару.

— Хі-хі-ха-ха-хі!

Пан Вольскі падумаў, што гэта невідочны музыка праводзіць па струнах невідочных гусляў...

З усіх ложкаў на яго ўтаропіліся вочы розных адценняў і колераў. Чырванелі макам, малінамі і вішнямі губкі розных ліній і формаў. Доўгія валасы ад ільняна-русых да сіне-цёмных у розных пералівах перасыпаліся хвалямі і абрамлялі твары балерын.

Па чарзе ўсё гэта знаходзіла адбітак у чырвоных вачах пана Вольскага, вырывала водгукі з яго сэрца.

Ён падняўся на ногі і ціханька хадзіў ад ложка да ложка. Углядаўся бліжэй у змучаныя, бледныя твары балерын, з сінімі глыбокімі кругамі пад вачыма. Сэрца яго цюцюкала, як гадзіннік. Ён гаварыў на ўсіх мовах, якія толькі ёсць на зямлі, слова «ой»...

— Ой, як цябе завуць? — пачаў ён пытацца ў кожнай балерыны.

Пявучыя спалоханыя галаскі адказвалі:

— Тэрпсіхора.

— Талія.

— Мельпамена.

— Эрата.

— Палімнія.

Чужыя вуху пана Вольскага імёны грэцкіх муз звінелі залатымі ягадамі, блішчэлі дарагімі дыяментамі.

Вушы і вочы яго былі асыпаны такімі дарамі, што сапраўды можна мець толькі ў сне.

— Ой...

— Ой, каб гэты чароўны сон не паплыў ад мяне, як рэчка на лузе; не схаваўся б, як цень бярозкі, не ўзняўся б у нябёсы, як росы ранішнія.

Каб мацней затрымаць такі дзіўны сон, пан Вольскі ўжыў яшчэ адно — самае багатае з запасу сваіх пачуццяў — пачуццё мацання і пацалункаў.

— Ой, тут сапраўды адчуваеш!

Балерыны закрычалі ад страху.

Пан Вольскі нібы з неба зваліўся.

Незвычайныя істоты з незвычайнымі імёнамі пачалі сыпаць на яго такімі звычайнымі словамі, якіх пан Вольскі часам чуў толькі ад «хлопак».

Не то што дзяўчаты яго лаялі. Наадварот, яны вельмі далікатна прасілі, каб пан іх не чапаў. І «паночкам» звалі, і «літасці» прасілі, але для ганаровага панка «хамскі ензык» быў лаянкай.

Ён пачаў смялей наступаць на «быдла».

Падняўся лямант.

Набегла шмат народу з панскай чэлядзі. З'явіўся ксёндз Марцэвіч.

Пан Вольскі пачаў сумнявацца ў сваім сне:

— Ой, а можа, я ўжо прачнуўся? Чаму ж Салавей не спявае?

## 3
## ЗАМЕСТ ТЭАТРА СТАЙНЯ

Доўга пан Вашамірскі глядзеў на гравюру. Розныя думкі лезлі ў галаву такім напорам, нібы іх гналі да яго, як пастух гоніць атару авечак. Згладзіўся боль, адышла крыўда мінулай ночы. Спакойныя разважанні апанавалі ім.

Няма лепшага хараства над хараством прыроды. Няма болей пэўнага мастацтва над мастацтвам, што раскідана ў прыродзе. Чалавек павінен гэта ўразумець. І чаму я такі доўгі час быў сляпым? Прырода — бязвінна, чыста і ніколі не здрадзіць, як чалавек.

Падняўся з дывана. У галаве выспявалі новыя планы. Новыя ідэі хараства мігацелі рознакалёрнымі вясёлкамі.

Раптам пан Вашамірскі пачуў крыкі:

— Салаўя! Салаўя!

— Злавілі Салаўя! — падумаў ён.

Вочы ўспыхнулі гневам. Ён выскачыў з пакоя насустрач Салаўю. Тонкія белыя пальцы яго скрывіліся ў дрыготах і зрабіліся падобнымі да кіпцюроў коршуна.

У калідоры стаялі збянтэжаны пан Вольскі і ксёндз Марцэвіч.

Рыжыя валасы пана Вольскага былі натапыршчаны, нібы пер'і ў пеўня.

Ён ажыўлена махаў рукамі. На вачах выступалі слёзы. Ён хрыплым голасам крычаў:

— Салаўя! Салаўя!

— Ціха, пане Вольскі,— супакойваў яго ксёндз Марцэвіч,— а то пан Вашамірскі зноў пачастуе венгерскім віном з дзедаўскага келіха.

— Я праспаў Салаўя. Хачу паслухаць яго спевы!

Супакоіўся толькі тады, як заўважыў пана Вашамірскага.

— О, д'ябал! А я думаў...— заскрыгатаў зубамі пан Вашамірскі. Але абавязак гасціннасці да чалавека, якога ён запрасіў у госці, ды які яшчэ не ўцёк ад яго, як усе іншыя госці, прымусіў пана быць далікатным.

— Прашу да майго пакоя, пане Вольскі,— гасцінна прасіў пан Вашамірскі і ўзяў шляхціца пад руку з такой ласкавасцю і асцярожнасцю, нібы пан Вольскі быў шкляны.

Ціхім, нячутным крокам ксёндз шмыгнуў у малельню да пані Вашамірскай.

Пан Вольскі ззяў ад вялікай прыемнасці. Аглядаўся па баках — хто яшчэ заўважыць (хоць бы лёкай), якой пашанай ён карыстаецца ў пана Вашамірскага.

Пан пасадзіў шляхціца ў мяккі фотэль. Сам сеў насупроць.

У пана Вольскага ў вачах і ва ўсёй фігуры выяўляліся і ўласны гонар, і пачцівасць да пана, і хітрасць.

— Пан Вольскі мне друг? — запытаўся пан Вашамірскі.

— Ой, вечна гатоў служыць яснавяльможнаму пану!— сказаў шляхціц, стукнуў абодвума кулакамі сябе ў грудзі, наморшчыў лоб і ледзь не расплакаўся.

На тонкіх губах пана Вашамірскага мільгнула ўсмешка. Ён заўважыў.

— Верш, якім пан Вольскі мяне пачаставаў на балі, ніколі не выйдзе з маёй памяці. Каб пана за яго аддзякаваць, я прымушан быў пачаставаць пана з дзедаўскага келіха.

Шляхціц наставіў спалоханыя вочы. Рукі задрыжэлі.

Пан Вашамірскі гучна зарагатаў, супакойваючы шляхціца:

— З дзедаўскага келіха не буду пана цяпер частаваць, але віна вып'ем з панам!

— Ой, вып'ем, яснавяльможны пане! — прагаварыў набожным голасам пан Вольскі і па-дзіцячаму пачаў перабіраць нагамі.

— А пакуль што пагаворым аб справах!

— Я слухаю, яснавяльможны пане!

— Дык вось, пан Вольскі пэўна бачыў, якія стаеннікі ў маіх гасцей, а ў мяне на стайні ніводнага добрага каня няма.

— Ой, праўда, яснавяльможны пане!

Шляхціц, спачуваючы, зірнуў пану ў глыбіню вачэй. Яму горача стала ад перспектывы гандлю і добрага заробку.

— Значыцца,— казаў пан далей,— я памяняў сваю стайню на тэатр...

— Ой так, так, яснавяльможны пане,— больш халодным тонам прамармытаў шляхціц. З інтанацыі яго голасу нельга было ўцяміць, ці ён хваліць за гэта пана, ці ганіць.

«Мабыць, гандлю не будзе!» — падумаў шляхціц.

— Не было мне часу,— гаварыў пан Вашамірскі,— калі глядзець за стайняй... Быў заняты тэатрам. А цяпер абавязкова мне трэба набыць некалькі троек. Абавязкова!

Вочы пана Вашамірскага загарэліся.

Пан Вольскі зноў ажыў: гандаль наклёўваецца.

— Дык, можа, пан Вольскі дапаможа мне ў гэтай справе?

Пан Вольскі па-гандлярску гумкнуў і наморшчыў лоб:

— Многа грошы будзе каштаваць, яснавяльможны пане. Ой многа! Добрых коней ніхто не хоча прадаваць. А калі пан іх набудзе, дык хто за імі будзе глядзець? Пан тэатрам заняты...

— Тэатрам? Няхай яго д'яблы! Апрыкрыў ён мне! Я гатоў яго задарма аддаць! Карысці няма ад яго.

— Нікому гэтыя тэатральныя хлопы не патрэбны. Яны ж, яснавяльможны пане, ні да якой працы ўжо не гадзяцца. Яны ж адвыклі ад яе,— гнуў сваю лінію хітры шляхціц.

— Бізун навучыць! — апраўдваў сваіх актораў пан Вашамірскі.— Коні, коні мне патрэбны нагвалт!

— Калі на тое пайшло, дык мы наладзім як-кольвечы справу яснавяльможнага пана! — казаў шляхціц такім тонам, якім гаворыць доктар да хворага.

Пан Вашамірскі абрадаваўся.

— Калі не будзе ахвотнікаў на актораў,— разважаў ён уголас,— дык я іх зноў пушчу на гаспадарку. Набалаваліся, і годзе. А пану Вольскаму ў нагароду аддам, калі захоча, некалькі чалавек з маёй трупы па выбару. Пан Вольскі мне паможа купіць коней.

— Што яснавяльможны пан мне загадае, тое і выканаю!

Пан Вольскі так моцна стукнуў сабе ў грудзі, ажно дыханне стрымалася.

«Выберу для сябе аднаго музыканта і пару балерын»,— падумаў ён.

Ад хмельнай радасці шляхціц ёрзаў у панскім фотэлі і зноў упэўніўся, што гэта яму сон сніцца.

— Дык ідзём вып'ем, пан Вольскі. Аб справе пагаворым.

## 4

## ЗОСЬКА ЛІТАСЦІ НЕ ПРАСІЛА

Зоська не памятала свайго ўчынку. Сякера была яшчэ ў яе руках. Пальцы моцна ўпіліся ў тапарышча, пабялелі ў суставах, а пазуры наліліся крывёю. Яна бачыла перад

сабой толькі тое, што вось павінна зараз быць: панскі сабака Макар, нялюбы і агідны, будзе з яе жартаваць, будзе з яе здзекавацца і гвалтам пацягне на панскі баль. Яго голас, круглы чырвоны твар, сіла над ёю цяпер, калі Сымонкі няма тут, даводзілі яе да таго, што зуб аб зуб ляпаў. Здавалася ёй, што рот поўны сухога гароху, і яна ніяк не можа яго выплюнуць. Гарох душыў яе, нагаганяў пену на губы. Яна хацела яго размалоць зубамі і не магла.

Апамяталася толькі тады, калі пачула галашэнне маткі. Толькі тады яна заўважыла труп Макара, які ляжаў на гліняным памосце тварам да зямлі ў лужы крыві.

Сякера выпала з рук.

Зоська здзівілася і як бы супакоілася. Здзівілася таму, што раптам Макар так смешна лёг на зямлю, перакінуўшыся праз парог іхняй хаты. Супакоілася, бо Макар яе болей чапаць не будзе...

Старая маці ламала рукі і галасіла:

«А божа ж мой! А божа ж мой!»

Схапіла старая вядро вады і лінула на Макара. Тармашыла яго, будзіла. Нічога не памагло.

Маці выскачыла на вуліцу.

— Ратуйце, людцы добрыя! Ратуйце,— чула Зоська ахрыплы крык маткі,— ра-тууйця-а-а!!!

Зоська азірнулася па хаце. Аглядала ўсе куткі, нібы ў першы раз убачыла печ, тапчан, стол, цялушку ў загарадцы; зірнула на труп Макара ў лужы крыві — і рукі ў яе павіслі, як чужыя. У сэрцы млосна стала. Кругі замітусіліся перад вачыма.

«А можа, ён зараз зноў засмяецца, зарагоча, як нядаўна рагатаў на кані...» — думала Зоська.

— Ратуйце, людцы добрыя! Рату-у-уй-ця-а!!!

Лямант маткі — такі роспачны, такі жаласлівы і спуджаны, як тады, калі бацьку-нябожчыка каталі ў двары. Зоська тады яшчэ была малая. Гэта было яшчэ пры старым пану.

Перад вачыма Зоські, як жывы, стаяў нябожчык бацька. Нізенькі, худзенькі, са скалмачанай русай бародкай. Яго вечна слязлівыя вочы былі заўсёды спалоханыя. Завостраны нос быў бледны і смешны. Зоська не памятае, за што тады бацька правініўся перад панам. Ён, бацька, тады малаціў. Там жа на гумне яго білі. Як прывезлі дахаты нежывога, дык мякінай былі абсыпаны ўсе раны на яго целе. У носе была мякіна, у вушах, між каравых чор-

ных пальцаў — усюды афарбаваная крывёй мякіна, што да хлеба прымешваюць...

Гул галасоў чуе Зоська з вуліцы. Усё бліжэй да хаты...

Нешта страшнае будзе ёй ад гэтых людзей...

Збегліся людзі...

Разявіліся...

На Зоську ўтаропілася многа вачэй... Здзіўленыя, сумныя, вясёлыя, спалоханыя, бліскучыя. Зоська хацела ад іх схавацца, ды не магла. Яна адварочвалася — а вочы пранізвалі яе праз патыліцу, праз спіну. Яна апускала галаву ўніз — вочы грамады калолі яе. Яна тарашчыла на іх, нібы на полымя, свае бяздонныя і пустыя вочы. Тады сялянскія вочы ад яе адварочваліся. Не вытрымлівалі...

— Гэта на нас бяда... Ліха на ўсю вёску...

— Закатуюць усіх нас... Закатуюць...

— Не чапаць яго — гэтага панскага сабаку! Не чапаць! Няхай так ляжыць!

— Вось і сякера!

— Вязаць яе! Вяза-а-ць!

Як праз сон, як аглушаная, чула Зоська вакол сябе гоман устрывожаных людзей.

— Маці! Вяроўку дай! Вяроўку! — крычаў нехта.

Матка Зоські, жагнаючыся, божкаючыся, пабегла ў сенцы па вяроўку.

Зоська прыслухоўвалася да матчыных слоў. Маці, плачучы, апавядала мо ў дзесяты раз адно і тое самае. Зоська старалася ўцяміць сэнс гэтых страшных слоў:

— Дык, людцы родненькія, Зоська ўскочыла ў хату і схапіла сякеру. А ён гнаўся за ёю, божа ж мой. Ён праз парог, а яна, міленькія, тра-а-ах сякерай па галаве. Трах! Ён і пакаціўся. А божа ж мой, а родненькія, а міленькія...

Зоська з цікавасцю прыслухоўвалася да матчыных слоў. Уцяміла...

Сэрца яе то моцна калацілася, то зусім прыціхала, пуста рабілася ў грудзях. Дрыжэлі рукі і ногі, кожная жылка дрыжэла.

Зоська супакоілася толькі тады, калі рукі яе былі звязаны за плячыма. Яе пасадзілі ў кут перад абразамі.

Да ног лашчыўся стары кот, цёрся бокам да спадніцы і махаў хвастом.

Войт круціў тоўстыя вусы двума пальцамі правай рукі, падсоўваў, нібы ў падарунак камусьці, то адзін вус, то

другі. Мышыныя вочы яго былі лагодныя. На гэты раз ён зусім не лаяўся. Ледзь кратаў тоўстымі губамі і цадзіў праз зубы:

— Та-а-ак, та-а-ак... Аг-а... Аг-а!

Спакойна распытваўся, як гэта здарылася, слухаў адным вухам, другім, жмурыў вочы, усміхаўся і нібы радаваўся. Выходзіла, быццам усё гэта было яму надта прыемна. Распытваўся ў сялян, у Зоськінай маткі.

— Та-а-ак, та-а-ак... А-га... А-га!..

Зоську ніхто не распытваў. Нібы аб ёй зусім забылі.

Людзі агойталіся. На душы палягчэла ад лагоднасці пана войта. З ім як бы паратунак з'явіўся для вёскі.

— Ну, разбойнікі,— грымнуў раптам войт,— вынасеце труп на санкі! А яе (войт паказаў рукой на Зоську) развязаць!

«Развязаць» было сказана з такой злосцю, нібы развязаць было для Зоські горшай карай, чымся быць звязанай.

Жылы ў войта на твары надуліся. Вочы забліпічэлі.

Людзі вынеслі труп на прыгатаваныя сані.

Войт загадаў фурману везці ў двор. Ён вярнуўся ў хату, за руку вывеў адтуль Зоську, сам накінуў ёй вяроўку на шыю, прывязаў да аглоблі побач з канём, сеў у сані і ўзяўся за лейцы і пугу. Мужыкі анямелі на месцы, казелілі вочы і толькі галовамі ківалі.

Завойкала-загаласіла старая маці Зоські:

— Паночку... міленькі... родненькі...

— Ціха, сука! быдла! — крыкнуў войт, і вочы яго наліліся крывёю.— Маўчы!

— Ёй будзе холадна, паночку... Кажух дам ёй...

— Грэць буду! — усміхнуўся ў вусы войт.

Матка ўскочыла ў хату па кажух. Тым часам войт пацягнуў за лейцы. Паехаў лёгкім крокам.

Зоська ішла побач з канём.

Матка вынесла кажух і пабегла за фурманкай, крычала:

— Паночку... паночку...

Войт пагнаў каня шыбчэй, сцебануў пугай Зоську...

Конь панёсся.

Зоська ўся потам аблілася, расчырванелася. У вачах стаяў туман. Нічога перад сабой не бачыла. Толькі лясканне пугай па яе плячах, нібы гром, глушыла ёй вушы, кусала яе, нібы сотні аваднёў, нібы снапы іскраў.

Думкі ў Зоські блыталіся.

Яна падала ў снег. Забывалася, дзе яна знаходзіцца, што з ёю робіцца.

Войтава пуга кожны раз падымала яе зноў на ногі. Войт з кожным ударам пугі ўсё болей звярэў, ахрып ад дзікай лаянкі, і правая рука, што трымала пугу, занямела ад працы.

Зоська ні разу не крыкнула, не прасіла літасці ў войта, толькі ціха войкала і задыхалася ад гарачыні.

Мароз пашчыпліваў войта за вушы. Вусы яго пасівелі ад шэрані, павіслі на іх ільдзяныя макавінкі.

Далёка ад фурманкі адстала матка Зоські. Шэрай кропкай выглядала старая ў снежнай белі, соўвалася наперад, як мурашка. Хаткі вёскі схаваліся за касагорам. Ціха стала вакол.

Трохі не па сабе зрабілася войту. Ён стрымаў шпаркі бег каня. Пачаў ехаць крокам і перастаў лупцаваць Зоську пугай.

— Пано-о-очку!.. о-о-очку! — даносіўся да яго здалёку крык Зоськінай маткі...

Войт уехаў у лес.

Ціха было ў гушчары. У белых вывернутых шэрсцю наверх кажухах стаялі маўклівыя калматыя елкі. Санкі лёгка коўзаліся па снезе. Зоська ступала спакойна побач з канём. Войт глядзеў ёй у спіну. Жудасна зрабілася яму і як бы шкода гэтай дзяўчыны. Ён спыніў каня, злез з санак, зняў з Зоські вяроўку і казаў ёй сесці ў санкі.

Зоська здзіўлена на яго зірнула, нешта замармытала. Губы яе былі ў крывавай пене. Уздрыгі пранікалі ўсё яе цела...

— Ну садзіся хутчэй, пся косць!

Зоська ўсміхнулася. Яшчэ раз зірнула на яго. Давай пільна ўглядацца. Вочы яе расшырыліся ад захаванага нясцерпнага страху і агіды.

— Макар... Макар...— шапнула яна,— ты Макар...

Наставіла супроць войта адубленыя рукі і закрычала:

— Не хачу на панскі баль! не хачу!

На Зоську напаў раптам смех, нястрыманы рогат. Яна глядзела на войта белымі зрэнкамі і рагатала. Корчылася ад смеху. Пена валіла з губ. Яна гогокала, выстаўляла рукі на войта, пазірала ў глыбіню яго вачэй.

— Го-го-го!

Жудасна зрабілася войту.

Ён даў пугай па кані. Конь ірвануўся і пабег. Зоська засталася ў лесе.

«Скажу, што ўцякла»,— падумаў войт.
— Го-го-го! — чуў ён здалёк.
— Го-го-го-о-о!

5

## ДЗЕДАВА КАЗКА

Салавей выскачыў з палаца на шырокі дзядзінец. Пакруціўся каля будынкаў і пабег у парк. Адтуль кінуўся ў вялізнае гумно. Чуў ён крык гайдукоў, якія пусціліся за ім удагонку.

— Лавіце! Лавіце!

Забрахалі сабакі. След яго ўжо быў страчаны.

Салавей урыўся ў вялізны стог сена.

Як усё супакоілася, ён вылез на гумно.

Стаяла цішыня. Неба было чыстае, нібы цёмна-сіняе шкло. Буйныя зоркі залатымі вышыўкамі віселі ў бяздоннай вышыні.

Салавей зірнуў у бок лесу, што вызначаўся шараватай сцяною. Пасля цэлага дня сядзення ў запёртым цёмным пакоі, пасля таго, як прывялі яго на панскі баль і прымусілі спяваць салаўём — ён адчуваў сябе чалавекам, ён меў перад сабою вольніцу-волю. Але ў гэтым прасторы яму было цесна. Ён не ведаў, куды ісці, дзе схавацца ад пана і яго наймітаў, дзе дзецца ад тых людзей, якія ад страху пакажуць на яго пану.

Салавей дыхнуў халодным паветрам.

— У лес... У лес...

Там ён у маленстве пасвіў панскае стада. Там яму вядомы і блізкі, як родныя браты, кожнае дрэва, кожны кусток...

З-за касагору зірнуў месяц — чырвоны, як кроў, што льецца на мужыцкім целе ад панскіх бізуноў.

Па сіняватаму кужалю снегу, побач з ім, як несупынны вартаўнік, ідзе яго цень. Рукі і ногі ў ценю надзвычайна доўгія. Салавей глядзіць на свой цень і думае: «Каб сам быў такой велічыні, увесь маёнтак перавярнуўся бы, камень на камені не пакінуў бы»...

Падышоў да старога дуплаватага дуба.

Не раз улетку ён тут вогнішча раскладваў. Тут заўсёды на купалле хлопцы і дзяўчаты збіраюцца. Гуляюць. Песню пяюць... Скачуць. Тут ён з Зоськай не раз сядзеў.

Яшчэ як быў малы, тут дзед Мікіта яму байкі баяў. Цяпер дупло, высмаленае вогнішчам, снегам занясло. А як быў малы, тут ад дажджу хаваўся... Шматгадовы попел таксама занясло гурбай вялізнай, як мядзведзь.

Салавей нырнуў у лес.

Яго цень драпаецца па хвоях, лезе на елкі. А месяц свеціць-свеціць, паглядае паміж пнёў, грае па снежных абрусах, пускае дробненькі цвет па абснежаных галінах.

Крокі Салаўя аддаюцца мяккім шолахам.

І здаецца Салаўю, што ён даўным-даўно брыдзе ў гэтым месячным лесе, многа гадоў — з тых часоў, як дзед яму байкі баяў пры вогнішчы.

Сцюжа прабірае.

Але гэта толькі зверху — рукі, твар. Унутры цёпла, горача... Месяц здаецца дзедавым тварам. Дзед Мікіта паўстае жывёханькі. Лысіна бліскучая, трохі жаўтаватая. Бародка скалмачаная. Шмат зморшчынак на дзедавым сухім твары. Яны ткуцца густа-густа, як зрэбнае палатно. А вочы ў дзеда — маладыя, блішчаць двума аганёчкамі ад лучыны. Усміхаюцца. А голас у дзеда трохі пісклявы. Часта ён збіваецца з тону, спыняецца, кашляе, плюе.

Дзед пляце казку.

Слова ў слова памятае Салавей:

«У якімсь краі жылі людзі, і пачаў да іх лятаць змей, і пачаў дабро цягаць, і людзей к сабе хватаць. Людзі яму будавалі харомы, акопвалі іх канавамі, насыпалі валы зямлі і там гінулі. А змей хватае ды валочыць туды ўсё новых ды новых людзей».

Салавей нібы бачыць перад сабою дзеда, які рукамі паказвае, як людзі харомы будуюць і як змей людзей хватае. Спрытна дзед умеў байкі баяць. Ён цягне іх доўга-доўга. Начлежнікі слухаюць. Ціха сядзяць.

«Працуюць людзі на змея, а самі пухнуць з голаду і мруць, бы мухі. Тыя людзі, што засталіся жыць у харомах змея, зрабіліся яго ліхімі слугамі і пачалі дзёрці скуру з людзей».

— Якраз як гайдукі нашага пана! — кажа хтосьці з начлежнікаў.

— Ціха, не перабівайце! Каб на вас звод! — злуецца дзед і далей гавора:

«І ліхія слугі змея пачалі лічыць людзей горш гавяды, пачалі сароміцца, што самі яны людзі, пачалі выдумоўваць сабе ўсялякія назвісткі. Хто назваў сябе змеем, хто ваўком або мядзведзем ці другім зверам, хто арлом, каршаком

ці другою птушкаю, хто якім-кольвек дзеравам. І гэтак яны далі сабе назвісткі. Ды от скуль узяліся паны Свінскія, Ваўковічы, Арлоўскія, Дубавіцкія і цэлая процьма іншых».

— А Вашамірскі скуль узяўся? — запытаўся малы тады хлопчык Сымонка.

Ён шчыра верыў кожнаму слову байкі.

— Не перабівай! — грозна крыкнуў дзед, падкідаў ламачча на агонь і далей баяў, не збаўляючы грознага тону, нібы гнеў свой перакінуў з унука на герояў байкі.

«Тым часам змей пачаў гніць, бы падла (дзед плюнуў пры гэтым аж тры разы). Ляжыць ён на адным баку тысячу гадоў. Разышоўся ад яго смурод па ўсіх пакоях. Пайшла вонь на ўвесь свет. Прасмярдзелі і пачалі гніць і паны».

Сівенькі дзед сашчаміў нос двума закарузлымі пальцамі і давай чыхаць. Слухачы зарагаталі. Але дзед цягнуў байку далей мінорным тонам:

«От служаць людзі дохлым панам і гнілому змею, аддаюць ім апошняе, а самі ходзяць галодныя ды халодныя, за працаю сонейка яснага не бачаць. І людзям здаецца, што лепшага жыцця і не трэба, бо так жылі іх дзяды і прадзеды».

Ціха-ціха вядзе дзед сваю гутарку, да шэпту даводзіць. Начлежнікі апускаюць галовы, нібы вінаватыя. Сумна і жудасна робіцца Сымонку. Вакол вогнішча стаіць начны змрок, густы, душны.

Пасля доўгага спынку дзед больш цвёрдым голасам цягне далей:

«Але вось нарадзіўся ў тым краю хлапчук. Быў ён вельмі благенькі, занядаў з маленства, ды так астаўся да трыццацёх год. І назвалі яго людзі Іванкам Прастачком. Прыйшлі да Іванкі старцы-дудары. Першы раз зайгралі — язык Іванку развязалі. У другі раз зайгралі — у сэрца жаласці нагналі. Трэці раз зайгралі — Іванку сілу далі.

І пачаў Іванка Прастачок па свеце хадзіць, у дудачку граць, людзям праўду казаць. От учулі ў палацах той вялікі голас ды і спалохаліся слугі змея. Пачалі яны войска збіраць ды Іванку Прастачка шукаць...»

Салавей ішоў па лясной дарозе і, думаючы і паўтараючы дзедаву казку, не глядзеў, што робіцца вакол. Але раптам успомніў, што яго могуць тут знайсці панскія гайдукі. Ён збочыў з дарогі ў лес і думаў аб дзедавай казцы,

у якой гаворыцца аб «жалезнай булаве ў сорак пудоў». Надта баяўся змей гэтай булавы.

Салавей падумаў, што на пана Вашамірскага не шкодзіла б пайсці з такой булавой, і больш шпаркім крокам пайшоў наперад.

Ён не ведаў, куды ідзе. Не думаў аб гэтым. Толькі каб быць далей ад маёнтка. Раптам убачыў нешта шэрае каля пня. Сэрца калатнулася.

Ён падышоў бліжэй.

— Няйначай чалавек...

Нагнуўся.

Шэрань пакрыў сівізной дзявочыя скалмачаныя валасы.

Перад вачыма Салаўя пачалі кружыцца дрэвы.

Ён не сваім голаса крыкнуў:

— Зоська!..

## 6

## КАРОВА АЦЯЛІЛАСЯ

— Жывём мы на жарты і кпінкі для гояў,— гаварыў Меер свае ранішнія псальмы, паглядаючы на ўсход у бок невідочнага Сіона.

Яго голас быў роўны, манатонны і меланхалічны. Меер жмурыў вочы,ківаўся направа і налева, шчоўкаў ад вялікага пачуцця пальцамі і забываўся аб усім на свеце... Ён вёў цяпер бяседу з богам Элагімам, апавядаў яму аб здзеках з сябе на балі ў пана Вашамірскага; скардзіўся на тое, чаму Элагім так захацеў.

Пры гэтым спалохаўся:

— Гэта ж грэх... Я — нікчэмны чалавек, жанчынай нараджоны — учыняю грэх... Пачуццё спакоры слабее. Замест спакоры злосць кіпіць у маіх грудзях. Д'ябал думкі блытае...

Лісток за лістком Меер перагортвае стары пажоўклы псалтыр, што перайшоў да яго ў спадчыну ад дзіда-дзеда.

Меер стогне.

Літары на жоўтым полі паперы скачуць перад ім, як чорныя кузуркі.

Чырвоная паласа ўсходу палае над лесам.

У хаце шэра. Ранічны светазмрок прабіваецца праз маленькія шыбіны. Жонка Меера, нізенькая і дробная жан-

чына, тупаецца ля печы, соўвае гаршкі, ладзіць сняданне. Першым чынам трэба накарміць карову, яна ў гэту ноч ацялілася, і ў хаце вялікая радасць. На гэту сямейную ўрачыстасць прыйшла і жонка суседа Міхалкі — высокая, круглая і ружовая, з вечным дзівам у вачах.

Каля печы стаіць цэбар. У ім ладзіцца сягоння смачнае сняданне для каровы: запарваецца мякіна, абмешваецца варанай бульбай і аздабляецца высеўкамі ад жытняй мукі.

— Гэта ж проста панскае сняданне! — жартуе Меерыха.— Ледзь дачакаліся малачка. А цяпер цэлы скарб у хаце будзе. Проста рай для дзяцей.

— А як жа, а як жа! — згаджаецца Міхальчыха.— Парсюкоў вы ж не колеце. У вас усё малако ды малако.

Меерыха пачынае пералічаць усе выгады ад каровы:

— Тут табе і сыр, і масла, і смятана, і тварог, і кіслае малако, і маслянка, і сырое малако, і паранае. Тут табе і да бліноў ёсць прысмакі! Тут табе і да рознай стравы акраса. Без малака пустая хата. Без малака як без рук.

— Дый што казаць,— спагадвае Міхальчыха,— паўнюткая хата дабра, калі карова дойная.

Меер чытае псальмы і прыслухоўваецца адным вухам да бабскай гутаркі. На яго твары з'яўляецца ўсмешка, але хутка хаваецца ў чорнай густой барадзе, бо радавацца — грэх. Ён бярэ са стала акраец хлеба, крышыць пальцамі і кідае ў цэбар. Пры гэтай рабоце ён не спыняе сваіх псальмаў — глытае іх на памяць.

А яго старшы сын, Мендэлька, новага сябра набыў: забаўляецца з цялушкай. Яна яшчэ ледзь стаіць на тонкіх ножках. Хлопчык мукае, як карова, пабрыквае вакол цялушкі на руках і нагах, гладзіць яе жоўтую шэрсць і нарадавацца не можа гэтай вялізнай падзеі ў яго жыцці.

Лёгка казаць, такога слаўнага таварыша мае.

Праз дзень-два цялушка ўжо будзе пабрыкваць, скакаць ад стала да печы, ад печы да ложка. У хаце пойдзе такі гармідар і тарарам, ад якога Мендэлька ўжо цяпер мае вялікую ўцеху. А праз тыдзень, дык чаго добрага, яму і Юрку, сыну Міхалкі, у цялушкі вучыцца прыйдзецца, як час праводзіць, як на свеце жыць...

У хаце радасць. Кожны па-свойму малюе змену ў жыцці да лепшага: ацялілася карова.

Скрып дзвярэй перабіў агульны ўрачысты настрой. Адчыніліся дзверы, і пасля цэлага воблака пары на парозе паказаўся высокі дзяцюк.

— Дзень добры ў хату! — казаў ён трохі ахрыплым голасам.

— Добры дзень! — адказалі кабеты.

— М-гу,— буркнуў і Меер, каб не перарваць малітвы.

— О-о-о! ну! — вёў далей Меер гутарку з дзецюком на мігі, як нямы, і паказаў рукою на зэдлік, што азначала: «прашу сесці».

— Дзякую! — адказаў дзяцюк.— Буду грэцца каля печы, бо вельмі азяб!

— Грэйся! Грэйся! — гасцінна папрасіла Меерыха.— Вельмі ўжо ты лёгка адзеты. Не па-зімоваму...

— Відаць, душа грэе,— пажартавала Міхальчыха і давай прыглядацца пільней да дзецюка.— А ці не Сымон, панскі салавей.

— Пан Вашамірскі выгнаў мяне.

— Ой, ой, не можа быць! — казала Міхальчыха.

— Праўду, я цэлую ноч у лесе бадзяўся. Там Зоська Халімонава мёртвая ляжыць. Трэба як-небудзь яе матцы наказаць.

— А божа ж мой! — здзівілася Міхальчыха.— Што дзеецца на свеце!

Меер, не спыняючы псальмаў, звярнуўся да жонкі на мігі.

— О-о-о! гам!

Яна зразумела адразу і папрасіла Салаўя на сняданне:

— Сымон пэўна снедаць хоча!

Міхальчыха задзівілася.

— Божа ж мой! Што на свеце робіцца! Ідзём у маю хату снедаць!

— А наша хата — не хата? — пакрыўдзілася Меерыха.

Меер спыніў малітву і пачаў злавацца:

— Садзіся, Сымон! Зараз есці будзем!

— Для Сымона сала на снеданне зажару! — не адставала Міхальчыха, і яе здзіўленыя вочы паглядалі на ўсіх з просьбай.

Пачуўшы слова «сала», Меер заткнуў вушы і адвярнуўся да сцяны, каб не атрафіць малітву...

Міхальчыха павяла Салаўя ў сваю хату.

У часе яды Салавей з Міхалкай доўга шапталіся.

Пасля гэтага Салавей лёг спаць на печы. А пад вечар Міхалка даў яму стары кажух, торбу харчоў і выправіў у дарогу.

## 7
## БОЖАЯ МАЦІ

Праз колькі дзён пасля спектакля пан Вашамірскі дазволіў Марылі, «прыгажэйшай за статую Венеры», ісці дахаты.

Марыля ўзрадавалася.

Пры гэтым прысутнічаў ксёндз Марцэвіч. Яго шэрыя вочы бліснулі. Ён строга замахаў на яе пальцамі і сказаў урачыстым голасам:

— Не радуйся дабраце пана! Табе грэх радавацца. Ты грала на сцэне святую матку боску. Ты выасабляла яе цудадзейны вобраз. У твае грэшныя вусны былі ўложаны нябесныя словы. Калі на шляху сустрэнеш вялікія пакуты, дык памятай, што пакуты цела гояць душу. Ты павінна дзякаваць пана за тое, што выконвала ў палацы слаўную ролю свентай маткі. Адмаўляйся ад сваіх бацькоў ды лепш ідзі ў ціхі манастыр. Я падрыхтую цябе пастамі, малітвамі ды споведдзю. Я буду тваім духоўным айцом!

Ксёндз Марцэвіч вільготна-маслянымі вачыма аглядаў прыгожую постаць Марылькі.

Дзяўчына пабляднела. Апусціла вочы і шэптам сказала:

— Хачу да бацькоў...

— Ідзі! — гнеўна сказаў ксёндз.— Але памятай, што ты перад намі грала святую Марыю. Не грашы!

Было яснае сонечнае надвор'е, калі Марылька ішла да бацькоў. Яна не ведала, што дома робіцца.

Пад яе нагамі скрыпеў снег. Дарога блішчэла шліфаваным серабром.

На парозе маленькай хаткі яе сустрэў бацька, Каспар. Рукі і твар былі ў яго абматаны анучамі. Толькі вочы блішчэлі.

— Дачушка! — абрадаваўся бацька.— Марылечка...

І раптам бацька заплакаў.

— Чаго плачаш? — спалохалася Марылька.

— Хадзем у хату, раскажу.

— Дзе маці?

— Раскажу... Я вось рукі і твар адмарозіў па панскай ласцы.

У хаце Марылька аб усім даведалася.

— Дык чаго ты так рагочаш? — устрывожыўся бацька.— Радавацца няма чаго.

Марылька слова не сказала. Рагатала цэлы дзень. Не магла стрымаць свайго смеху. Калі змарылася, павалілася вобземлю ды ўсё рагатала. Трымалася за бакі ды рагатала... Глядзела на людзей непрытомнымі вачыма ды рагатала... Змоўкла толькі тады, калі на яе вылілі вядро студзёнай вады. Пасля рогату на яе напаў вялікі смутак. Пацямнелі яе сінія вочы, твар быў белы, і вуснамі яна ледзь шаптала:

— Я матка боска...

— Яна звар'яцела,— тлумачылі Каспару суседзі.— Пільнуй, каб з хаты не ўцякла!

Вясной яна ўцякла.

Каля рэчкі зелянелі кволымі фарбамі вербы. У сінявасці неба купаліся птушкі, звінела на розныя галасы зямля, а шалёная Марылька брыла па палях і дарогах. Хадзіла босая ў зрэбнай кашулі з распушчанымі валасамі. У яе вачах застыў вялікі сум. Хадзіла яна павольным крокам, моўчкі.

— Хто ты?

— Я матка боска...

Іншых слоў ад яе ніхто не чуў.

Часам дождж і навальніца пануюць над зямлёю, выекрэхча бор ад ветру, птушкі палохаюцца, людзі па хатах сядзяць. Часам сонца пячэ, сушыць глебу. Людзі цень шукаюць. А шалёная ўсё ходзіць, брыдзе ад вёскі да вёскі ў доўгай зрэбнай кашулі. Людзі кормяць яе, пояць, а яна толькі адно шапаціць:

— Я матка боска...

І чуткі, і казкі, і дзівы носяцца па ваколіцы ад аднаго цёмнага чалавека да другога:

— Матка боская ходзіць па зямлі. Яна ў доўгай зрэбнай кашулі. Смутак у яе вачах. А над яе галавою ззянне.

Салоўка спявае ў густых ляшчынах. Трэлі яго звіняць насупроць чырвонага месяца. А ўдзень на гэтым самым месцы зязюлька кукуе грудным голасам.

І плыве, коціцца ад вёскі да вёскі, нібы вільготны белы туман уночы:

— Матка боская ходзіць па зямлі. Дзе ступіць нагою, там жыта родзіць; дзе гляне вокам на гаўяду — гаўяда здаровая. Ваўкі ў полі чапаць не будуць. Гляне на хворага — ачуняе. Гляне на сляпога — свет сонейка пабачыць...

І людзі цёмныя на каленях, з малітвамі матку боску сустракаюць.

Ходзіць-брыдзе па ваколіцы шалёная Марылька.

І сустрэў яе каля цвінтара адзін ксёндз — Курачковіч, тоўсты і кароткі, і завуць яго «Кірачковіч», каб прозвішча не ішло ад слова «курыца». Ён доктар багасловіі і філасофіі.

«Маці боская», якая прывыкла жыць у панскім палацы пад камандай ксяндза Марцэвіча, спалохалася ксяндза і ўпала перад ім на калені.

Доктар багасловіі і філасофіі загадаў ёй ісці да яго ў памяшканне. Яна паслухалася. Там угледзела яна шмат кніг, шмат панаў езусаў: вялікіх і малых, драўляных, масянжовых, каменных, на малюнках.

Дзесяць дзён і дзесяць начэй яна жыла ў доктара багасловіі і філасофіі.

Як пайшла ад яго, дык гаварыла сустрэчным і папярэчным на дарогах шырокіх:

— У маім чэраве сын божы. Маліцеся, людзі!

І зноў хадзіла маці боская па зямлі ўжо не адна, а з сынам божым у чэраве.

Гаварылі людзі цёмныя, што маці боская з неба спусцілася, з яснага сонейка на зямельку панскую, каб змякчыць сэрца лютых паноў, каб яны не здзекаваліся з прыгоннікаў.

Падхапіў гэтыя словы людскія доктар багасловіі і філасофіі — ксёндз Курачковіч, як завуць яго за вочы, або Кірычковіч, як кажуць пры ім.

Ён задумаўся над адным пытаннем багаслоўска-філасофскага сэнсу — аб раўнавазе ў людскіх суадносінах на зямлі:

— Тады паны, можа перастануць здзекавацца з прыгоннікаў, калі прыгоннікі зробяцца паслухмянымі. Паслухмянства чалавек набывае праз страх божы. Страх божы павінен сеяць між людзей ён — доктар багасловіі і філасофіі.

Ён у другі раз залабуніў да сябе «матку боску».

Дзесяць дзён і дзесяць начэй звар'яцелая Марыля знаходзілася ў пакоях Курачковіча. Слухала там яго святыя словы. Пасля гэтага народ бачыў яе ў касцёле «Кроў Езуса». Яна паказвалася перад народам у залатых рызах, у бліскучай кароне. Бровы яе былі падмазаны грымам, роўныя, даўгія. Твар яе быў пакрыты бяліламі. Ва ўсёй яе постаці прыкметны былі: сум, спакора, набожнасць, рахманасць і мудрасць райская.

На гэта быў вялікі майстар грыміроўшчык з тэатра

пана Вашамірскага. Жывая матка боская, здавалася, толькі што сышла з святога абраза. Яна маўчала, глядзела на народ, не мігала вачыма і не рухала рукамі і нагамі.

Доктар багасловіі і філасофіі гаварыў казанні перад народам пра божую славу, пра пакуту на зямлі, пра спакору перад панамі, якім «пан буг» аддаў люд паспаліты пад апеку. І яшчэ шмат аб чым гаварыў ён з багасловія і філасофіі.

Народ падаў на калені, маліўся, плакаў і не ведаў, што яшчэ рабіць трэба.

Тады доктар багасловіі і філасофіі тлумачыў, што яшчэ трэба:

— Трэба ўтрымаць святы касцёл «Кроў Езуса». На гэта патрэбны людскія падаянні-ахвяры. Шчыра даюць паны на божы храм, але паноў мала. Люду паспалітага многа, а люд мала дае ахвяр. Гэта вялікі грэх. Прыйдзі сюды, пакалечаны целам, і калецтва тваё загоіцца! Прыйдзі сюды, пакалечаны духам, і дух ачысціцца ад пошасцей, помыслаў злых ды ўчынкаў ганебных. Калі пан твой цябе крыўдзіць, памятай, што на тым свеце ён за гэта будзе пакараны панам над усімі панамі. А пакрыўджаны панам на зямлі будзе ўзнагароджаны на небе панам над усімі панамі. Толькі супраціўляцца пану няможна, бо тады будзе ліха і на гэтым і на тым свеце. Амін!

— Амін! — казала пры гэтым уголас і матка боская.

Праславіўся па ўсёй ваколіцы касцёл «Кроў Езуса».

На багамолле сюды хадзілі з блізкіх і далёкіх месц розныя людзі. Прывозілі хворых дзяцей, старых, розных кручаных і сапсаваных людзей.

І доктар багасловіі і філасофіі парады даваў:

— У каго няма грошай, можа абкруціць тры разы хворага палатном, а пасля кінуць гэтае палатно перад нагамі маткі боскай. У каго няма палатна, можа зважыць хворага, пасля такой вагі збожжа даць на карысць «Крыві Езуса». У каго няма збожжа, можа даць авечку, гуся, цялушку, на тую ж карысць. У каго такой жыўнасці няма, можа прынесці сыру, масла, мёду, воску.

Голас ксяндза Курачковіча быў салодкі, як мёд, і пранікаў у сэрцы парахвіян, нібы святы меч анёла. Бліскучы ланцужок яго казання ў стылі «калі няма таго, можна чаго іншага» цягнуўся доўга-доўга — ад касцёла «Кроў Езуса» да Бэтлеему.

Святая Марыля часта паўтарала слова «амін».

Яна прывыкла да сваёй ролі. Пакруглела ў твары.

«Кроў Езуса» ёй пайшла на карысць. Палюбіла матка боска гэты касцёл. А багасловія і філасофія расла ў ксяндза Курачковіча, як вінаградны сад пад пільным наглядам кемнага вінаградара. Показам гэтаму быў святы жывот ксяндза. І меў ён блаславенне за такое божаскае выхаванне парахвіян ад самога біскупа. А біскуп меў пахвалу за такога ксяндза ад самога папы рымскага.

Тым часам Каспар, бацька Марылі, абмотваў анучамі рукі. Па кавалачках, па суставах адпадалі пальцы, якія ён адмарозіў дзякуючы лютаму панскаму войту. Твар у яго лупіўся, быў заўсёды чырвонага колеру, нібы голае аблупленае мяса. Вочы гнаіцца пачалі, вечна слязіліся, і было непрыемна на яго глядзець не тое, што шляхотнаму чалавеку, але нават самаму простаму прыгоннаму.

— За грахі свае вялікія Каспар мае такі ганебны выгляд,— пусціў нехта пагалоску.

Каспар грашыў супроць святой Марыі. Ён гаварыў:

— Пан Езус — мой унук, бо святая Марыя — мая звар'яцелая дачка Марылька... Няхай бы мяне ўзялі за бога айца. Я тады загадаў бы ўсіх паноў перадушыць.

Словы гэтыя былі такія страшныя, ажно людзі баяліся данесці аб гэтым да вушэй пана Вашамірскага.

Тым часам доктар багасловіі і філасофіі любіў карміцца не толькі багасловіяй і філасофіяй, але і ахвяраваннямі людскімі, што прыносілі багамольцы ў касцёл «Кроў Езуса». Пры гэтым ён быў вельмі шчодры, частаваў сваіх бліжніх сытнай ядою і хмельным пітвом. Не ўсіх бліжніх карміў ён, бо тады абяднеў бы касцёл «Кроў Езуса». З усіх бліжніх ён выбраў самага лепшага — матку боскую.

Аднаго разу матка боская наелася пшанічных бліноў, праз меру напілася касцёльнага віна.

Пры набажэнстве, калі сотні васковых свечак гарэлі ў касцёле, нібы зоркі ў чыстым небе, калі сотні багамольцаў позіркамі ўпіваліся ў жывую матку боскую, яны заўважылі ў яе вачах вясёлы бляск.

— Павесялела матка боская,— радаваліся людзі.— Глядзеце, яна нам жартаўліва падміргвае! Благадаць божая на нас знісходзіць.

Раптам пачала прысядаць матка боская і нават ляскаць у далоні і прытаптываць нагамі.

І людзі пачулі новыя словы маткі боскай у залатых рызах і бліскучай кароне:

Тра-ля-ля, тра-ля-лю,
Я ксяндзуліка люблю!

Захацелася матцы боскай яшчэ спяваць, але рогат багамольцаў спыніў яе. Яна апамяталася пад жудасным позіркам заільдзянелых вачэй доктара багасловіі і філасофіі ды ўцякла за святы амбон у цень каменных ніш.

— Гэта ж Каспарава Марылька! — рагаталі багамольцы.

Рогат даходзіў да скляпення касцёла «Кроў Езуса», прабіў скляпенне і залунаў у самае неба да «пана над усімі панамі».

Здавалася, што васковыя свечкі ўсміхаліся дзесяткамі мігатлівых аганькоў. Здавалася, што святыя на абразах жартаўліва паглядалі на людзей грэшных. Не смяяўся адзін толькі доктар багасловіі і філасофіі. Ён пачырванеў, паблядне ў, яшчэ раз пачырванеў і яшчэ раз пабляднеў і спыніў чытанне святога евангелля на паўслове.

І пасля гэтага матка боская была выгнага з касцёла «Кроў Езуса».

Яе зноў прытулілі людзі па вёсках, кармілі яе, паілі. Але ранейшага страху перад ёю ў іх не было. Людзі з ёю жарты заводзілі, гутаркі простыя.

А яна рыхтавалася да новага цуда. Ужо колькі месяцаў носіць у сваім чэраве сына божага.

## 8

## ТРЫВОЖЫЛІСЯ ЛЮДЗІ

Сонечная цяплынь гарачыла кроў пана Вашамірскага.

На вялізным дзядзінцы, недалёка ад сажалкі, муравалася новая камяніца — стайня для панскіх коней. Дзеля гэтай справы прыехаў з Варшавы архітэктар. Былі таксама выпісаны спецыяльныя майстры. Вялізная камяніца расла з кожным днём. Праца кіпела. Разам з архітэктарам пан Вашамірскі кожны раз разглядаў планы і малюнкі новай стайні.

Доўга ён не мог спыніцца на адным з многіх праектаў стайні. Пан углыбляўся ў вывучэнні разнастайных стыляў розных эпох. Ён знаёміўся са стылямі стайняў старарымскіх часоў, нямецкіх рыцараў, прускіх каралёў, польскіх магнатаў. З усіх гэтых малюнкаў, зробленых для яго архітэктарам, у яго ўяўленні аб стайнях стварылася вялікая блытаніна. Ад гэтай блытаніны выйшла мешаніна розных стыляў. Стайня павінна была быць падобная ў частках і

непадобная ў цэлым да многіх стайняў, што дагэтуль былі ў розных вялікіх людзей. Будыніна накшталт не то харама, не то палаца, з белымі калумнамі, з вялізнымі стральчатымі вокнамі, з уваходам, як у касцёл, з барэльефамі на сценах, са скульптурнымі фігурамі коней на даху і з многімі іншымі ўкрасамі, нябачанымі і нязнанымі дагэтуль.

— Ніводны палац у маіх суседзяў не павінен быць так аздоблен, як мая стайня! — гаварыў пан Вашамірскі варшаўскаму архітэктару.

Былыя акторы з панскай студыі былі прыстасаваны канюхамі да коней, якіх прыдбаў для пана па розных маёнтках пан Вольскі.

Коні пакуль што мясціліся ў старой панскай стайні. Да кожнага каня быў прыстаўлены адзін з актораў, які за ім глядзеў: карміў, мыў, чысціў, прыбіраў.

Вышэйшым ідэалам пана Вашамірскага ў гэту вясну было — мець коней лепшых, чымся ва ўсіх суседзяў ваколіцы.

Ён пачаў вывучаць гэту справу ва ўсю яе шырыню і глыбіню. Пароды коней. Адзнакі добрага каня. Конскія хваробы. Ежа. Як іх гадаваць. Язда на кані — і конна і на запрэжаным. Вывучаў нораў каня, яго псіхіку. Цікавіўся вельмі наезнікамі, канакрадамі. Набыў аб конях багатую літаратуру.

З кім бы пан Вашамірскі ні гутарыў,— ці то з панам, ці то з простым чалавекам,— ён заўсёды накіроўваў гутарку на гэту тэму. З тым самым імпэтам, з якім раней рыхтаваў тэатр, ён цяпер будаваў стайню і набываў дарагіх коней.

Яго шталмайстрам быў нейкі захудалы шляхціц, пан Анановіч. Ён быў прыняты на гэту пасаду толькі таму, што ведаў конскую хроніку ўсёй ваколіцы, ведаў розныя байкі аб канакрадах ваколіцы за апошнія сто гадоў.

Аб ранейшым панскім тэатры пан Анановіч адзываўся вельмі крытычна:

— Увесь тэатр не варт аднаго добрага каня. Ад коней ёсць карысць, а ад тэатра — ніякай. А спевы панскага Салаўя — глупства ў параўнанні з музыкай падкоў. Паны сярод людзей, а коні сярод жывёлін — самыя шляхотныя істоты на зямлі.

У гэты час аб Салаўі ні слуху ні духу не было. Ён прапаў.

Балерыны і актрысы з адрэзанымі косамі — пакараныя

такім чынам немаведама за што — працавалі на полі. Ім давалася самая цяжкая праца: чысціць хлявы, вазіць гной і т. д.

Некаторыя з былых панскіх актораў не вытрымалі такой рэзкай змены ад сцэны да стайні. Яны ўцяклі з маёнтка. Лясы пана Вашамірскага былі для іх больш прытульнымі за яго палацы. Лавіць цімакоў у лесе — тое самае, што лавіць ветра ў полі. Здарылася яшчэ адна бяда: тройку лепшых коней укралі ў адну ноч.

— Няйначай гэта акторы зрабілі! — гаварылі ўсе.

І вось пан Вашамірскі мсціў тым з іх, якія ў яго засталіся. Не было таго дня, каб іх не лупцавалі, каб хто-колечы з іх не быў закуты ў цяжкія калодкі.

Ксёндз Марцэвіч і пры панскай стайні быў выкарыстаны панам Вашамірскім для ганаровай працы: ён зрабіўся конскім летапісцам. Збіраў паэзію аб конях з розных часоў: апісанне хараства каня ў Бібліі, у рыцарскіх раманах, у грэцкіх казках аб кентаўрах, аб амазонках, студыяваў каня на малюнках святога Юр'я, святога Іллі, збіраў для пана Вашамірскага калекцыю малюнкаў славутых мастакоў, якія малявалі коней. Сам пачаў вершы пісаць аб конях. Ён з'яўляўся збіральнікам конскага хараства і паэзіі.

А прыгонныя людзі пана Вашамірскага працавалі ў панскім двары: капалі гліну, цэглу рабілі, і не было калі засеяць сваё поле. Па вёсках заставаліся толькі старыя і малыя. Хто не працаваў на панскай стайні, той абрабляў яго поле.

Трывожыліся сяляне. Не ведалі, што рабіць. Пустыя шнуры, здратаваныя капытамі панскіх коней, былі для іх страшней за ўсе іншыя здзекі.

— Голад, страшны голад будзе ў нас,— гаварылі старыя.

Маладыя гарачыліся.

— Падпалім панскі маёнтак! Заб'ём самога пана! — меркавалі яны.

Людзі сярэдніх гадоў раілі ў адзіночку, ціханька ўцякаць адгэтуль ды ісці ў цімакі.

Усіх трывожыла адно:

— Што рабіць?

Дзеду Марціну больш за сто год. Ён маленечкі, сагнуты ў качаргу. На яго галаве і барадзе рэдкі пушок колеру

сухога жоўтага пяску. Твар вельмі зморшчаны, нібы абклеены лупінкамі з яловых шышак. А вочы гнойныя і слязлівыя.

Ляжыць дзед на гародзе, пячэцца на сонцы. Кашуля расхістана на грудзях. На яго целе шмат рубцоў. Некалькі пакаленняў паноў Вашамірскіх пісалі бізунамі на целе прыгонніка свае жудасныя ўчынкі. Добра памятае дзед. Ужо больш за дваццаць год, як ён у кожную вясну памірае. Ляжыць на гэтай самай мяжы і канае. Яму ўсё здаецца, што канец падыходзіць.

— Як гэта чалавек так доўга жыць можа? — дзівіцца ён.

Ляжыць дзед нерухома. Да яго нават вераб'і прывыклі. Яны спяваюць над ім, скачуць на яго грудзях. Зусім яго не баяцца. А недалёка малыя дзеці ў адных кашульках, цвёрдых, як бляха, ад бруду, гуляюць у «смерць дзеда». Адзін з хлапчукоў змайстраваў крыжык з лучын. Двое іншых узялі невялічкае карытца, палажылі туды ануч: гэта дзед у труне. Трэція магілу капаюць у пяску, а чацвёртыя галосяць, плачуць:

— На каго ты нас, дзядок, пакідаеш? Што ж мы рабіць без цябе будзем?

Закапваюць дзеці «труну з дзедам» (карытца з анучамі) у зямлю, ставяць камень на магілцы, укопваюць крыж, зноў адкопваюць і пачынаюць гульню спачатку.

Сонца пячэ. Дзед Марцін слухае і бачыць гэту гульню. Ускаквае з мяжы са злосцю. Дзеці палохаюцца, уцякаюць.

Раней у гэту гульню забаўляліся яго праўнукі, цяпер іхнія дзеці...

А дзед усё жыве.

Часта ляжыць на мяжы. Рубцы на яго целе ад бізуноў некалькіх пакаленняў паноў Вашамірскіх пякуцца на сонцы. Гудуць мухі над дзедавым тварам.

— Што рабіць? — думае дзед.— Усе працуюць на панскай стайні і на панскім полі.

— Што рабіць?

Дзед цярэбіць левай рукою грудзі, потым паднаразваецца цяспей вяровачкай і павольным крокам выходзіць на вуліцу вёскі Вашамірщчыны.

Пасярод вуліцы расце трава. У лужынах смуродная вада зацягнута зялёнай тванню. Улезла ў гразь рабая свіння, пачала качацца з боку на бок, смачна рохкае.

На прызбах сядзяць дзеці, старыя.

— Ой-ой-ой, як цяжка жыць! — чуе дзед голас шаптухі каля прызбы адной хаткі.

Дзед падняў на вуліцы крывы сукаваты кіёк і абапёрся.

— Лягчэй,— шапнуў ён і накіраваўся на поле.

Неба сіняе ў ледзь прыкметных ружовых плямінах. Над лесам адпачываюць бірузовыя хмаркі. На старым дубе кукуе зязюлька.

— Ку-ку! — лічыць яна дзедавы гады і злічыць не можа.

Ідзе павольным крокам дзед Марцін і аглядаецца па баках. Сярод паплавоў уецца вузенькая рачулка. Блішчыць расплаўленым серабром. Над рачулкай кружацца матылькі.

Раптам дзед спыніўся і войкнуў.

— Не можа быць! — крыкнуў ён дрыжучым хрыплым голасам.— Не можа быць!

Па сялянскіх паплавах пасвяцца коні пана Вашамірскага. Цэлы табун коней рознай масці дратуе веснавую свежую траву. Рыжы, агнёвага колеру жарабок выгнуў па-лебядзінаму шыю, навастрыў вушы, заржаў і пусціўся падбрыкваць па зялёным абшары лугоў.

— Чым жа мы будзем нашу скаціну зімою карміць? — запытаўся дзед у здратаваных паплавоў.— Звар'яцеў пан. Як жыву, такіх парадкаў не бачыў!

Пан Вашамірскі загадаў забраць сёлета лугі ў прыгонных. Яго шталмайстар параіў яму так зрабіць:

— Калі пан хоча вярнуць коням зграбнасць і хараство тых часоў, калі яны жылі на волі ў дзікім стане, дык трэба іх пасвіць на такіх някошаных лугах.

Часта пан Вашамірскі на захадзе сонца любаваўся тут на сваіх коней. Ён тады ўспамінаў французскую гравюру, што вісіць у адным з яго пакояў.

Захад сонца палае над лесам рознакаляровымі агнямі. Ад лесу цягнецца цень, ён даўжэе, расце з кожнай хвілінай. На захадзе сонца пан ладзіць тут жа пры конях балюшкі з музыкай, з паненкамі.

І аб балюшках дзед не ведаў, але аб гэтым яму апавядаў Каспар, які часта хадзіў глядзець свае адзірванелыя загоны. Пасля панскай кары Каспар не мог працаваць. Адмарожаныя рукі былі пакалечаны да таго, што ледзь мог імі лыжку трымаць з посным шчаўем.

Бадай кожны дзень дзед сустракаў Каспара на пустых загонах.

— Не будуць у нас сёлета жорны гудзець,— гаварыў ён Каспару.— Вось глядзі, як неаранае поле ў лагчынах патрэскалася ад гарачыні.

Заплакаў дзед. Плач яго і да плачу не быў падобны. Ён гігікаў без слёз. Здавалася, што ён збіраецца смяяцца.

— Не плакаць, а злавацца трэба! Так злавацца, каб сваёй галавы не шкадаваць і пайсці з сякерай на пана! — сказаў Каспар.

Гнойныя і чырвоныя вочы яго блішчэлі, наліваліся агенькамі.

Дзед Марцін махнуў рукою.

— Гэтак і мой бацька, святой памяці, гаварыў. А я ўжо злуюся сто гадоў, ад самога, сынку мой, нараджэння, і нічога з маёй злосці не выходзіць.

— Мяне дзівіць адно,— сказаў Каспар.— Нас многа, а паноў мала. Ніяк не ўцямлю, чаму гэта яны робяць з намі што хочуць, а мы маўчым.

На маёй памяці два разы мужычкі бунтаваліся. Я сам быў у гэтых бунтах адным з першых. Вось рубцы ад ран на спіне, але кожны раз паны бралі верх. Войска ім памагала. Вось што, сынку!

— Дык што ж рабіць?

— А хто яго ведае. Вось каб згаварыліся разам прыгонныя па ўсіх маёнтках ды ў адну ноч перадушылі ўсіх паноў, тады, можа, і быў бы толк.

— А як жа яны згаворацца?

— А багавіца іх ведае.

Дзед зірнуў у блакітнае неба, жмурыў вочы на сонцы і зашаптаў:

— Эх, каб мне перад смерцю адну гадзіну, адну маленькую хвіліну, вольку-вольніцу пабачыць...

— Навошта табе воля, ты ўжо ледзь не да самых вушэй у магілу ўлез? — дзівіўся Каспар.

— А ўнукі. А праўнукі? Ды я хаця спакойна памёр бы. Ужо дваццаць год паміраю, а смерць-ліха не бярэ. Эх! хоць праз шчылінку хлява на волю зірнуць...

— Што рабіць? — прагаварыў яму Каспар у адказ.

Дзед абапіраўся на свой кіёк і глядзеў у далечыню пільным вокам. Праз некалькі хвілін звярнуўся да Каспара:

— Глядзі, сынку, хто там у белым ідзе на полі?

— Гэта ж мая Марылька шалёная. Яна ж маткай боскай была ў касцёле. Уцякла адтуль. Яна цяпер у хаце гаспадарыць. Малых гадуе. Пачынае ачуняць ад хваробы.

Толькі адна бяда, што вось кожны дзень на магільнік ходзіць. Сядзіць на магіле сваёй маткі ды маўчыць. Дый гэта яшчэ не бяда, а вось цяжарная яна.

— Унук будзе,— сказаў дзед.— І гэта не бяда!

— Панскага ці ксяндзоўскага роду,— задумёна дадаў Каспар.

## 9

## У ПУШЧЫ

Горда глядзяць у неба стагоднія хвоі. Дрыжаць вершаліны, шушукаюцца і прыслухоўваюцца да галасоў знізу. Трашчыць, хрусціць галлё пад нейчымі нагамі — ці то звера, ці чалавека. Але чалавек рэдка бывае ў такіх непраходных нетрах, дзе нават удзень сонца затулена дрэвамі, і пад імі спачывае вечны вільготны цень.

А ўночы цемра аплятае гушчыню пушчы. Не відаць ні дрэў, ні карчоў-вываратняў. Адна жуда пануе там. А часам бліснуць у цемры два аганькі, мільгануць, як запаленыя свечкі, воўчыя вочы. А часам сава дзіка зарагоча. Доўга цягнецца рогат і пераходзіць у плач. А часам месяц круглы, колеру крыві, зірне на вершаліны пушчы. Сыпле месяц агнёвае зерне на хваёвыя голкі, пільна ў гушчу ўглядаецца.

У самым сэрцы пушчы, у непраходнай глушы выкапана зямлянка. Гарыць вогнішча, палыхае. У гліняных гаршках нешта варыцца. На жалезных прутах скварыцца сала.

Невялікі круг асвятляе вогнішча. Твары людзей абветраныя, бронзавыя.

Вочы ва ўсіх цёмныя ад скупога водсвету вогнішча.

Першымі ўцяклі сюды Салавей, чорнабароды Язэп з сынам і бялявы дзяцюк Пятрусь. У адзіночку пачалі прыходзіць акторы з былога тэатра пана Вашамірскага.

Нялёгка было дабірацца сюды праз балоты. З панскіх людзей ніхто не адважваўся рыхтаваць тут аблавы на цімакоў.

Ужо некалькі месяцаў жывуць цімакі ў гэтай пушчы. Спачатку думалі перабрацца адгэтуль на Украіну, але раздумалі.

Чорнабароды Язэп, што быў выбраны атаманам, сказаў так:

— Мы-то самі ўцячэм, а што нашыя браты? Няўжо ж мы іх пакінем на здзекі пану Вашамірскаму?

— А што ж мы можам рабіць? — пыталіся некаторыя з актораў.

— Як што? Калі пан не палепшае, дык зробім так, што ад яго маёнтка адны каменькі застануцца.

— А мужычкі па вёсках?

— Лепш загінуць, чымся цярпець усё гэта. Яны ж усё роўна з голаду перамруць. Усё роўна няма жыцця ад груганоў панскіх.

Чарнелі вочы чорнабародага атамана Язэпа, бялелі зубы. Шмат сілы было ў яго шырокіх плячах. Ён глядзеў на малайцоў агнёвымі вачыма і гаварыў:

— Здужаем пана! Усе яго прыгонныя вёскі нам дапамогуць! Нас многа!

Салавей быў на яго баку. Аднак былі і такія, што не згаджаліся з атаманам.

— Самі прападзём, цэлыя вёскі прападуць, а нічым не дапаможам. Акаянныя паны такімі і застануцца. Яшчэ горш лютымі стануць. Царскае войска ім дапаможа.

Так плылі дні, месяцы. Ісці далей, каб дзе-небудзь у чужой краіне застацца, цімакі не рашаліся: сваіх не хацелі пакідаць, і расправіцца з панам Вашамірскім не прабавалі: зноў жа сваіх вяскоўцаў шкадавалі, каб іх не знішчыла войска.

Шумела пушча.

Часам сярод белага дня рабілася цёмна, як уночы. Неба было атулена чорна-сінімі кажухамі хмар. Грымоты будзілі пушчу ад сну. А маланкі рэзалі яе хваёвыя грудзі агнёвымі нажамі, а дажджы мылі яе, лупцавалі вадзянымі доўгімі, ад неба да зямлі, вяроўкамі.

Страшна было тады ў пушчы, непрытульна. У часе такой навальніцы цімакі хаваліся ў зямлянцы. Адзін толькі атаман, чорнабароды Язэп, не хаваўся ад навальніцы. Ён заставаўся на невялікай паляне і любаваўся навальніцай. Заўсёды, з маладых год, ён любіў такую пагоду.

І ён думаў:

«Вось каб людзі адважыліся такую навальніцу-мяцеж пусціць па панскіх маёнтках; з агнём, са злосцю, з дзікім шумам, з вострымі нажамі, з сякерамі...»

Заўсёды навальніца выклікала ў яго думках вобраз страшнага мяцяжу супроць агідных паноў.

Пасля такой навальніцы ў пушчы атаман заўсёды сам раскладваў агонь, сушыў вопратку і доўга думаў. Грозныя былі тады вочы ў чорнабародага Язэпа, губы сцяты, і ніхто да яго тады не падыходзіў з гутаркамі.

Аднаго разу прывалокся сюды, у пушчу, музыка Антон. Яму ўдалося захапіць з сабою скрыпку.

— Без скрыпкі я сюды не ўцёк бы,— гаварыў ён цімакам.

На гэта атаман зморшчыў лоб і грозным голасам сказаў:

— А як нам трэба будзе ісці ў госці ў маёнтак пана Вашамірскага, скрыпку ў зямлянцы пакінеш і возьмеш сякеру. Толькі раней добра яе навострыш. Пакуль што раскажы, што там робіцца.

Антон расказаў.

Тады атаман сціснуў кулакі і працадзіў праз зубы:

— Хутка пойдзем у госці да пана Вашамірскага!

— Сягоння ж пойдзем!

— Зараз пойдзем!

— Хадзем!

Так гаварылі цімакі.

— Ціха! — крыкнуў атаман,— калі не хочаце мяне слухаць, дык выбірайце сабе другога атамана. Буду яго слухацца.

Цімакі змоўклі.

— Ты, Антоська, пакуль што грай! — звярнуўся атаман да скрыпача.— Грай так, як табе самому хочацца. А мы ўсе будзем слухаць. Добра, што ты да нас прыйшоў...

Сеў Антон на паваленым пні і давай настрайваць скрыпку.

Цімакі селі ў кружок, моўчкі, сур'ёзна, нібы чакалі ад скрыпача нечага такога, ад чаго залежыла іх жыццё і смерць.

Здавалася, што грозныя стагоднія хвоі з нецярплівасцю чакалі. Здавалася, што вершаліны шумець перасталі.

Антон зайграў.

У першы раз пушча чула такія гукі. У першы раз прыгонныя чулі такую музыку.

Антон зусім забыўся, што вакол яго сядзяць людзі. Ён граў для «сябе». У адзін і той самы час чуваць былі розныя галасы: адна струна заходзілася ад плачу, другая дзіка рагатала, а трэцяя струна кудысьці клікала-звала грозным крыкам. Не было на гэты раз той кволасці ў яго ігры, што чуваць была ў панскім палацы.

Антон адчуваў, што яму горача: гарыць лоб, вочы, а ў грудзях страшнае пажарышча. Каб рукі не былі заняты ігрою, ён бы сціснуў далоні ў цвёрдыя кулакі, сякеру ўзяў бы...

Чамусьці ў гэты час усе цімакі ўспомнілі адно і тое самае:

Свісты бізуноў па акрываўленых плячах прыгонных, жудасны плач сялян і рогат, дзікі нястрыманы рогат лютага войта і азвярэлых панскіх гайдукоў.

— Біць! Рэзаць! Паліць! — крыкнуў адзін з цімакоў ды ўскочыў з свайго месца.

— Хадзем! Маёнтак падпалім! — крыкнуў другі.

— Усю сволату перарэжам! — залямантаваў трэці.

Кожны па-свойму выказваў сваю злосць.

Адзін толькі атаман маўчаў. Толькі жылы на яго лбе выступілі, і над самым носам углыбіліся дзве змаршчыны.

Над палянай вісела гарачае рыжае сонца. Пахла смалою і травамі.

Антон спыніў ігру.

— Лоўка граеш! — пахваліў яго атаман.

— Перад мужыкамі лепш грае, чымся перад панамі, аж за сэрца бярэ,— заўважыў адзін з былых панскіх акцёраў.

— Што гэта? — усхапіўся раптам ад дзіва атаман.— Хто тут плача?

Воддаль пад хвояй корчыўся ад плачу Салавей.

— Чаго хнычыш? — злосна крыкнуў атаман.— Мяккае ў цябе сэрца, як бачу. Не салаўём трэба быць, а злосным каршуном! Нашаму брату плакаць не выпадае. Ідзі сабе да пана, салаўём паплачаш перад ім. Можа, ён і злітуецца...

Салавей засаромеўся, змоўк.

— Далей чакаць нельга! Пойдзем! — пачуліся галасы цімакоў.

Пасля згоды атамана людзі пачалі збірацца ў дарогу.

— А ты, можа, тут застанешся па-салаўінаму спяваць і слёзы ліць? — звярнуўся атаман да Салаўя.

Салавей пакрыўдзіўся, апусціў галаву і маўчаў.

— Ведаеш што,— сказаў яму атаман больш мяккім голасам.— Мы каля маёнтка ў гушчары пачакаем, а ты крыху пажартуй з пана Вашамірскага. Наладзь яму генеральную рэпетыцыю. Пасля гэтага мы прыйдзем табе на дапамогу. Так яно, можа, нават і лепш будзе.

Абрадаваўся Салавей.

— Грым, вопратка і конь будзе для мяне? — запытаўся Салавей.

— Усё дадзім,— сказаў атаман.

Свяціла сонца над палямі. Ціха і патаемна гулі вершаліны стагодняй пушчы.

Цімакі парашылі назаўтра ісці ў дарогу.

## 10

## ПАН СКШЫМБЖЫЦКІ

Слава аб стаенніках пана Вашамірскага разляцелася па ўсіх вакольных і нават далёкіх маёнтках. Разносіў гэту славу на крыллях свайго красамоўства шляхціц Вольскі. Яму вельмі да сэрца былі новыя ўчынкі пана Вашамірскага. Апрача таго, што вялікая частка панскіх грошай, якія прызначаліся на куплю коней, заставалася ў Вольскага, ён меў яшчэ добрую нагараду ад пана і натурай: дзвюх балерын.

З усіх ваколіц прыязджалі паны ў маёнтак пана Вашамірскага любавацца яго коньмі.

Аднаго разу прыехаў здалёк нейкі пан Скшымбжыцкі. Гэта быў чалавек гадоў пад шэсцьдзесят пяць, з даўгой белай барадой, высокі, надзіва стройны і спрытны на свой узрост.

Пан Вашамірскі паказаў пану Скшымбжыцкаму коней і яшчэ няскончаную новую стайню.

У старога пана вочы блішчэлі, як у маладога, кожны раз, калі выводзілі са стайні напаказ новага каня.

Відаць, пан Скшымбжыцкі быў вялікім знаўцам на коней: кожнага каня аглядаў з ног да галавы, зблізку і здалёк, мацаў крыж, глядзеў капыты, зубы; беспамылкова характарызаваў каня, як толькі раз гляне на яго; гаварыў цэлыя прамовы аб хараство каня, аб яго хадзе, хваліў пана Вашамірскага за яго новыя ідэі і за іншыя дабрачыннасці.

— Калісьці,— казаў пан Скшымбжыцкі,— і мой бацька быў аматарам да добрых коней, але да такіх коней, як у пана, было яму далёка.

Кампліменты старога пана былі вельмі даспадобы пану Вашамірскаму, і сімпатыя да гасця расла ў яго з кожнай хвілінай.

Пасля абеду пан Вашамірскі прапанаваў пану Скшымбжыцкаму пакатацца конна на адным з лепшых сваіх жарабцоў.

— Але, можа, ласкавы пане, па старасці пану больш

пажадана на лёгкай брычцы праехацца? — запытаўся пан Вашамірскі.

— Ды я з панам яшчэ конна бяруся ў выперадкі! — з скрыпучым старчым смехам, кашляючы, прагаварыў пан Скшымбжыцкі.— Калісьці і я быў на гэта ахвотнікам!

— Слова гонару, пану можна зайздросціць, калі так. Аднак жа думаю, што пан Скшымбжыцкі са мною не справіцца.

— Не ведаю. Спрабуем. Калісьці справіўся б! — працадзіў праз белую бараду пан Скшымбжыцкі і моцна закашляўся.

— Эт, калісьці,— гаварыў госць далей дрыжучым ад старасці голасам,— і я быў адным з першых наезнікаў! Гады... гады...

Госць глыбока ўздыхнуў, наставіў засмучаныя вочы ўдаль і ўвайшоў успамінамі ў мінуўшчыну.

Пан Вашамірскі з шчырым спачуваннем зірнуў на пана Скшымбжыцкага. Слова «калісьці» кранула самыя чулыя струны яго душы. Ён успомніў свайго дзеда з такой жа барадой, з такім жа «калісьці». Вось як бы той з магілы падняўся.

— Мы будзем ехаць паволі. Выберам самых спакойных коней, ласкавы пане! — супакойваючым, нібы да дзіцяці, тонам сказаў пан Вашамірскі.

Госць доўга разважаў, пасля махнуў дрыжачай рукой, смешна тупнуў нагою і адважыўся:

— Калі на тое пайшло, пане Вашамірскі, дык няхай ужо будуць коні самага лепшага гатунку. Стары вол баразны не псуе. Калісьці і я быў не з апошніх малайцоў.

Па загаду пана Вашамірскага канюхі асядлалі двух коней.

Стаеннікі білі капытамі зямлю, стрыглі вушамі, чакаючы паноў.

Спрытна ўскочыў на каня пан Вашамірскі. Ён сядзеў на тлустым Віхоры (так зваўся конь) лёгка і зграбна — нібы во ў танец пусціцца.

Пан Скшымбжыцкі ўзбіраўся на другога каня, па назве Нерон, цяжка, з воханнем. Падскочыў адзін з канюхоў і памог яму. Але як сеў у сядло, дык таксама выпрастаўся, як бы прырос да каня, і выглядаў, нібы барадаты кентаўр на старасвецкім малюнку.

— Эх, калісьці не карабкаўся я на каня, як старая баба,— уздыхнуў пан Скшымбжыцкі.

— Куды паедзем? — запытаўся ён больш цвёрдым і

пэўным голасам.— Нібы акрэп і памаладзеў, седзячы ў сядле на такім слаўным кані.

— Едзем прысадамі на шырокі тракт, ласкавы пане! — запрапанаваў пан Вашамірскі.

— Не, пане, можа, паедзем праз гумно ў бок лесу,— папрасіў госць.— У лесе павінна быць вельмі прыемна цяпер. Калісьці я так любіў лес.

— Што ж, можна, ласкавы пане! — згадзіўся пан Вашамірскі.

Яны пусціліся праз гумно павольным крокам. Мінуўшы гумно, паехалі шпарчэй.

Пан Вашамірскі захацеў пафарсіць перад гасцём, ляснуў па баках жарабца канчуком і панёсся, як вецер.

Аднак пан Скшымбжыцкі ад яго не адстаў.

— Што ж, я-то стары, але Нерон малады,— гаварыў пан Скшымбжыцкі пану Вашамірскаму, калі яны пад'ехалі к лесу.— Калісьці і я быў малады.

— Нягледзячы на тое, што Нерон мой малады, але яго род стары і ганаровы, ласкавы пане! Яго бабка з стайні графаў Патоцкіх.— Так сказаў з гонарам пан Вашамірскі і пачаў пералічаць паходжанні ўсіх сваіх коней.

З вялікай цікавасцю слухаў яго госць, устаўляў свае рэплікі і сваё «калісьці».

— Так, так, пане Вашамірскі! У пана добры густ. Калісьці і я меў някепскі густ. Я чуў ад пана Вольскага яшчэ цікавыя рэчы, нібы ў пана быў чалавек, які салаўём спяваў? — Так запытаў госць, і яго сівая барада траслася ў тахт яго словам.

Пан Вашамірскі задумаўся перад тым, як адказаць на запытанне.

Яны ў гэты час былі ўжо ў лесе. Ехалі лясной дарогай. Абапал дарогі сцяною стаялі, нібы ў белае палатно апранутыя, бярозы. Маладыя зялёныя лісці ледзь дрыжэлі ад лёгкага ветрыку. Глыбей у лесе відаць былі шэрагі елак. Паміж дрэў прабівалася сонейка, якое асвятляла сухія леташнія лісці і шышкі. На розныя галасы радаваліся птушкі. Свежай прэласцю аддавала ад аграмадных вываратняў і карчоў.

— Салавей...— казаў у раздум'і пан Вашамірскі,— ды пане ласкавы гэтым мне напамінае аб маіх глупствах, аб маім тэатры. Я хацеў хама зрабіць на пана. Я думаў задзівіць свет. Салавей уцёк, а актораў сваіх я на канюхоў перарабіў.

— Добрая справа, і я быў вось такім самым, як пан

Вашамірскі,— буркнуў у бараду пан Скшымбжыцкі.— Я запрапанаваў бы трохі нам прагулянца пехатою па лесе. Хачу паглядзець, можа, калі на паляванне да пана прыеду.

— Вельмі прашу! — згадзіўся пан Вашамірскі.

— Я так адчуваюся не зусім добра. Даўно не ездзіў конна. Гады даюць аб сабе знаць. Калісьці не быў такім трухлявым.

Пан Вашамірскі спрытна скочыў з каня і падбег да гасця, каб памагчы яму злезці.

«Якраз мой дзед»,— падумаў пан Вашамірскі, і ў яго з кожнай хвілінай расла ўсё большая чуласць да пана Скшымбжыцкага.

Яны прывязалі коней да пня.

— А я ведаю панскага Салаўя,— сказаў раптам пан Скшымбжыцкі жартаўлівым голасам.— Ён быў у маім маёнтку і свістаў салаўём...

— О, ласкавы пане! — здзівіўся пан Вашамірскі.

— Я нават і свістаць ад яго навучыўся. Калісьці і я любіў вясёлыя жарты. Люблю і цяпер пажартаваць.

Нягледзячы, што гэтае «калісьці» ставіла мяжу паміж старым і маладым, аднак пан Вашамірскі пачуў да яго блізасць.

Пан Скшымбжыцкі пачаў свістаць салаўём...

Водгаласкі пайшлі па лесе...

Пан Вашамірскі вылупіў на яго пару здзіўленых вачэй і глядзеў, як зачараваны.

— Дык няхай пан Вашамірскі не дзівіцца,— сказаў пан Скшымбжыцкі і сарваў з сябе бараду і парык з галавы,— бачыце, акторы з панскай студыі, што нядаўна ўцяклі ад пана, прынеслі мне парык і грыму — прыгадзілася. Я грымаваўся пад панскага дзеда. Вельмі добра памятаю яго.

Перад панам Вашамірскім стаяў яго ранейшы Салавей...

Пан Вашамірскі пабляднеў, зуб аб зуб ляпаў. Пан быў такі спалоханы, што нават не супраціўляўся, калі Салавей прывязваў яго да дрэва крэпкай вяроўкай: яна была схавана ў Салаўя за пазухай.

— Можа, цяпер пан Вашамірскі свісне салаўём? А можа, ваўком завые? — А калі пан не хоча, дык...

Салавей пачаў дубасіць пана Вашамірскага па чым папала канчуком, прыгаварваючы:

— Вось гэта табе, яснавяльможны пане, за тэатр!

Вось гэта за лупцоўку цяперашніх канюхоў — ранейшых актораў! Вось гэта табе за Зоську! Вось гэта — за здзекі з прыгонных!

Вось гэта...

Салавей пералічыў усе панскія грахі. Многа разоў паўтараў «вось гэта»...

— Глядзі, яснавяльможны пане, калі не спыніш здзекаў, дык Салавей яшчэ раз свісне!

Пры гэтых словах Салавей адвязаў пана ад дрэва, сеў на каня, другога ўзяў за павады і паехаў лясной дарогай, дзе ўжо чакаў на брычцы яго «фурман» — адзін з цімакоў.

11

## МНІХ-БЕРНАРДЫНЕЦ

Пані Вашамірская хворая яшчэ з часоў балю. З кожным днём ёй усё горш ды горш. Дзіўная хвароба ў пані старой. Яна ні з кім не гаворыць, не скардзіцца ні на якія болі. Нейкая панская хвароба.

Яе апанаваў сум.

Не спіць па начах, а ўсё думае-думае. Свае думкі тоіць пры сабе, нават духоўніку, ксяндзу Марцэвічу, нічога не кажа.

Пані ўвесь час думае пра Салаўя. Рассылала людзей па ўсёй ваколіцы шукаць яго. Катоў сваіх яна выпусціла на волю, выганяла з пакояў, калі яны лезлі туды назад. Яны прымушаны былі ладзіць свае вясеннія канцэрты на стрэхах.

Не выпісвае пані да сябе ніякіх дактароў, бо ведае, што адно толькі лякарства ёй можа дапамагчы — Салавей. Толькі мець яго ў сваіх пакоях. Салаўіных песняў яна цяпер у сне не чуе, бо яна наогул не спіць, але душа пані наяве сніць — сніць Салаўя.

— Няйначай памрэ пані,— шэпчацца чэлядзь у пакоях.

Пані Вашамірская ляжыць на ложку, чакае смерці. Ад роспачы ёй нічога іншага чакаць не засталося.

Ксёндз Марцэвіч даўным-даўно падрыхтаваў яе да смерці красамоўным маляваннем чарцей і анёлаў, пекла і раю.

Пасля таго як пан Вашамірскі распусціў свой тэатр, выправіў на свой кошт у Парыж французскіх педагогаў —

рэжысёра і балетмайстра, ксяндзу Марцэвічу ад сваёй драматургіі застаўся адзін прыемны ўспамін: хвальба доктара багасловіі і філасофіі — Курачковіча аб тым, што пекла ксяндза Марцэвіча падобна да пекла Дантэ.

Гэта моцна засела ў галаве ксяндза Марцэвіча. «Давай,— думаў ён,— буду развіваць далей сваё маляванне пекла. Магу давясці яго перад старой паняй Вашамірскай да вялікага мастацтва».

Старая пані аказалася добрай глебай для імправізацыйнай пякельнай творчасці ксяндза Марцэвіча.

Дзень у дзень ксёндз, які цяпер не адыходзіў ад пані ні на крок, убіваў ёй у мазгі жывыя малюнкі страшнага пекла. Рай перад паняй ён мала прадстаўляў. Спецыялізаваўся, галоўным чынам, на малюнках пекла.

Часта ён распісваў перад паняй у жудасных фарбах «апошні шлях грэшнай душы». Першым чынам ён тлумачыў старой, што з'яўляецца грэхам, а пасля гаварыў аб карах за грэх:

— Калі чалавек грэшны, калі не шануе духоўнікаў, калі не дае на касцёл грошы, калі богу не моліцца, дык да такога ядчэ пры кананні прыходзяць чэрці — рагатыя, з казлінымі барадамі, з капытамі, з хвастамі. Вочы ў іх гараць-гараць зялёнымі аганькамі, гараць-гараць...

Ксёндз Марцэвіч гаворыць шэптам, манатонна. У яго самога шэрыя вочы так блішчаць, ажно пані Вашамірская баіцца зірнуць на яго. Ксёндз пераходзіць на больш драматычны тон:

— Абцугамі пачынаюць чэрці рваць душу з чалавека. Не хоча грэшная душа выходзіць з грэшнага цела, вельмі не хоча. Баіцца, лямантуе, трапечацца, крычыць... Чалавек корчыцца, пакутуе, дыханне стрымліваецца. Нарэшце вырвалі душу. Панеслі чэрці душу грэшную праз горы, праз лясы, праз моры-акіяны, панеслі-павалаклі ў апраметную. А там, унізе, пякельны агонь гарыць-палае, смала ў вялізных катлах пеніцца...

— Ой...— стогне пані Вашамірская,— а далей што?

— А там маршалак чарцей, Люцыпар, пытаецца ў грэшнай душы: «Ты духоўнікаў шанавала? Карміла іх? Песціла іх? Спавядалася перад імі? На божы касцёл давала грошы? Богу малілася?» Дрыжыць грэшная душа ад страху. І кідаюць грэшную душу ў гарачую смалу. «Ой, горача-горача!» — крычыць грэшная душа. Тады вымаюць яе з гарачай смалы і топяць у халодную, як лёд, ваду. «Ой, халодна-халодна!» — зноў крычыць грэшная душа.

Пані Вашамірская хапаецца за сэрца:

— Я ж, ойча святы, не грэшная,— кажа яна ў вялікім сполаху,— я і вам памагаю, і на касцёл даю, і богу малюся, і спавядаюся...

— Я кажу наогул аб грэшніках,— гаворыць салодкім голасам ксёндз Марцэвіч,— пані Вашамірская святая. Пані напэўна ў рай пападзе.

Ксёндз гаворыць далей:

— Смяецца Люцыпар, рагоча. Чым больш грэшная душа пакутуе, тым прыямней маршалку пякельніцы. Ён кліча чарцей рознага росту: вялікіх, маленькіх, малепечкіх і самых дробненькіх, як шпілечкі. Яны рвуць у грэшнай душы язык за тое, што богу не малілася, што духоўнікаў не шанавала, што на святы касцёл не давала. І адрэзваюць ногі ў грэшнай душы за тое, што ў касцёл не хадзіла. І адрываюць вушы за тое, што не слухала святых званоў. І гарачым жалезам пратыкаюць сэрца грэшнай душы за тое, што не была набожнай. І раздзіраюць цела на драбнюткія кавалачкі і кідаюць зноў у смалу гаручую...

— Ой,— стогне пані Вашамірская,— ойчанька, злітуйся...

Ксёндз Марцэвіч як бы не чуе і гаворыць далей аўтарытэтным голасам:

— З гарачай смалы душа грэшная зноў выплывае цэлая, цэленькая, нібы толькі што на свет нарадзілася. На яе нападае вялікі голад, такі голад, быццам яна пасцілася сорак дзён і сорак начэй. Тады чэрці падносяць ёй золата, брыльянты, шаўкі, аксаміты; падносяць усё тое, што грэшная душа мела пры жыцці. «Ты гэта не хацела даваць на касцёл — на еж! грызі!» Чэрці кормяць грэшную душу ўсім гэтым, так кормяць, ажно ўсё назад з горла лезе...

Пані Вашамірская дрыжыць ад страху і шэпоча:

— Усё, усё сваё багацце аддаю на касцёл...

Шчодрай рукою пані Вашамірская сыпала золата. Вось хутка ксёндз Марцэвіч пачне будаваць гэты касцёл. Яшчэ вось трохі часу пачакае, бо на званіцу не хапае грошай...

У той час з'явіўся сюды адзін мніх-бернардынец, які таксама збіраў грошы на касцёл.

Не рад быў свайму канкурэнту ксёндз Марцэвіч. Ён хмурыўся на мніха. Але мніх быў такі набожны, што ксёндз да яго доступу не меў. Мніх вечна малітвы шаптаў і набожнымі вачыма шукаў на сценах пакояў пані Вашамірскай святых абразоў.

Мніх быў вельмі строгі і грозны. Ён заняў адразу першае месца ў набожным сэрцы старой. Мніх падабаўся ёй сваім выглядам, які напамінаў біблійнага прарока. Ён быў таксама красамоўным, таксама распісваў пекла перад паняй Вашамірскай. У яго пекла мела крыху інакшую афарбоўку, было больш інтымнага евангелічнага характару. Грэшная душа, паводле слоў бернардынца — тая, што шануе багатых і зневажае бедных.

— Па грэшную душу прыходзяць чэрці, такія самыя, аб якіх кажа ксёндз: рагатыя, барадатыя, хвастатыя. Яны накідваюць на грэшную душу пятлю і, як цялушку, цягнуць у пекла. Люцыпар пытае ў грэшнай душы во так грозна, злосна: «Ты катавала прыгонных? Ты здзекавалася над мужыкамі? Ты жыла ў шаўку і золаце, а твае падданыя ў гнаі капаліся? Ты ела смачныя рэчы, а яны душыліся заціркай з мякіны? Ты піла заморскае віно, а яны пот і кроў сваю пілі?»

Мніх-бернардынец бліскае страшнымі вачыма на паню Вашамірскую. Старая нямее ад сполаху, маўчыць.

— Вельмі грозны гэты самы Люцыпар. «Гэй, слугі мае! — камандуе ён,— прынясіце сюды тыя самыя бізуны, якімі бедных людзей катавала во гэтая грэшная!» Можа, сто, а можа, тысяча чарцей валакуць панскія бізуны, чырвоныя, завэцганыя ў мужыцкай крыві, у хамскім мясе. Б'юць, лупцуюць чэрці гэтымі бізунамі грэшную душу. Крычыць грэшная душа, літасці просіць. Рагоча Люцыпар. «А ты,— кажа ён,— грэшная душа, злітавалася над людзьмі?» І кідаюць грэшную душу ў тую самую смалу, аб якой гаварыў ксёндз. Смажыцца грэшная душа ў смале, як яечня на патэльні. «Яшчэ смалы! Мала смалы! — крычыць злосны Люцыпар.— Гэй, чарцюгі, ліха на вас, яшчэ смалы!» — «Мы змарыліся»,— кажуць рагатыя і касматыя. Тады прыбягаюць нябожчыкі-прыгонныя, якіх грэшная душа мучыла пры жыцці. Яны на крык Люцыпара з раю ў пекла спусціліся, пашкадавалі Люцыпара, хацелі яму дапамагчы. «Мы, паночку-лябедзіку,— кажуць мужыкі-прыгонныя,— прывыклі працаваць яшчэ на зямлі. На панскім прыгоне, ой, як працавалі! У раі мы разгультаіліся без работы. Ад абібоцтва косці ломіць. Будзем дзеля забаўкі ліць смалу на нашу яснавяльможную панечку!»

— О, матка найсвентша! — стогне пані Вашамірская і рукі ламае.

Бернардынец ледзь прыкметна ўсміхаецца і далей гаворыць:

— Хлопцы цягнуць поўныя бочкі смалы і льюць на грэшную душу. Тады рагатыя і касматыя чэрці пробуюць грэшную душу на смак, пробуюць так, як часам кухар пані смажанае і печанае спрабуе, абліжуцца яны, паложаць грэшную душу на другі бок і зноў смажаць... Як грэшная душа зарумяніцца, бы скварка, тады Люцыпар кажа: «Гатова!» І страшны Люцыпар кліча тады катоў на сняданне. Тых самых катоў, якіх пані няньчыла і песціла. «Няўняў»,— няўкаюць каты. Яны галодныя. Вочы бліішчаць. Кіпцюры распушчаны. Шэрсць натапырана. Ой, як страшна... Каты кідаюцца на грэшную душу, грызуць, ірвуць на кавалачкі...

— Досыць...— просіць літасці пані Вашамірская.— Вады!.. Вады!..— Яе лоб пакрываецца халодным потам.

Аднаго разу, калі ў адсутнасці бернардынца ксёндз Марцэвіч даводзіў пані мо ў дзесяты раз, што грэшнаму чалавеку з'яўляецца чорт перад самай смерцю, калі ён прыходзіць па душу, каб яе ў пекла забраць,— нячутна, ціха адчыніліся дзверы пакоя, дзе ляжала пані. У пакой увайшоў чорт, высокі, з казлінымі рагамі, з хвастом, з бліскучымі вачыма...

Ксёндз Марцэвіч сядзеў каля пані і заканчваў новую імправізацыю пра чорта.

— Во якраз такі, як пані бачыла на абразах, дзе намалёваны страшны суд,— канчаў апошнія словы ксёндз Марцэвіч.— Але толькі грэшныя павінны яго баяцца...

— Мэ-э-э! — замэкаў чорт пры дзвярах.— Я прыйшоў па душу пані...

Пані з крыкам падскочыла на ложку і зірнула ў бок чорта.

Не менш за яе спалохаўся і ксёндз.

Ён пачаў класці крыжы і шаптаць:

— Згінь, сіла нячыстая! згінь! У імя айца, і сына, і духа святога. Амэн!

— Не бойцеся,— сказаў чорт,— я той самы мніх, я пажартаваў.

Чорт сарваў з сябе рогі, якія стукнуліся аб падлогу, сарваў хвост — стаяў ранейшы мніх...

Ксёндз Марцэвіч кінуўся да яго з кулакамі.

Бернардынец яго далікатна спыніў:

— Я і не мніх.

Мніх зняў з сябе грым і свісвуў салаўём.

Пані Вашамірская ўжо не чула і не бачыла Салаўя, бо заснула навекі.

Ксёндз Марцэвіч казеліў вочы.

— Як вам, ойча, падабаецца мой мніх і чорт? — запытаўся Салавей лагодным тонам у ксяндза Марцэвіча.— Недарма ж я быў у панскай студыі пад вашай апекай...

Салавей выняў з кішэні канчук...

12

## ПОМСТА

— Няхай толькі ачуняю,— шаптаў пан Вашамірскі самому сабе,— тады я з імі, хамамі, па-свойму расплачуся. За ўчынак Салаўя жылы буду цягнуць з усіх прыгонных. Нікога не прапушчу.

Пан Вашамірскі ляжыць на ложку хворы ўжо некалькі дзён. Сам сабе халодныя кампрэсы да спіны прыкладвае. Ад сораму ён нават нікому з сваіх блізкіх людзей не гаварыў, што над ім учыніў пан Скшымбжыцкі, гэта значыць, Салавей.

Вось ужо трэцяя ноч пасля ўчынку Салаўя, а злосць у пана Вашамірскага расце. Ён ад болю і злосці спаць не можа. Ён глядзіць праз адчыненае акно і прыдумляе страшнае катаванне для ўсіх.

— Яны не лепшыя адзін аднаго. Кожны з маіх прыгонных, каб толькі меў магчымасць, учыніў бы нада мною тое самае, што і Салавей... Усіх, усіх люта пакараю!

Праз акно ён бачыць, як па начным небе праходзяць чорныя, як атрамант, хмары з залатымі краямі. Часам выплывае з-за хмар востры серп месяца. Зірне месяц у пакой пана Вашамірскага ды зноў схаваецца. А вецер гоніць хмары па небе, нібы пастух стады дзівосных жывёлін. То соўваюцца наперад некалькі аграмадных мядзведзяў без ног. Праз хвіліну мядзведзі перакідваюцца ў нейкую істоту без галавы з доўгімі нагамі, з залатым хвастом. Яшчэ раз хвіліну істота без галавы рассыпаецца ў стада цёмна-сініх лебедзяў. Вецер гоніць іх наперад.

Шуміць вецер у парку. Пан Вашамірскі ловіць вухам пашушуканне дрэў. Непрыемна яму гэтае шушуканне — падобнае да шэптаў многіх людзей. Прыслухоўваецца пан Вашамірскі да начных галасоў у маёнтку і дзівіцца:

— Чаму ж гэта сягоння сабак не чуваць?

Ён пачынае непакоіцца.

— І бражджоткі старога вартаўніка таксама не чуваць...

Страх нападае на пана Вашамірскага.

— Што гэта можа быць?

Шуміць вецер у парку. І нібы крокі чуваць з розных куткоў вялікага дзядзінца, і нібы гоман людскі.

Пан Вашамірскі адчувае, што ў яго грудзях пуста робіцца, а валасы на галаве растуць, растуць...

Ён ціханька адчыняе акно і высоўвае галаву. Па вуглах будынкаў мітусяцца людскія цені. Невялікімі грамадкамі — па тры, па пяць чалавек.

Хацеў пан Вашамірскі крыкнуць: «ратуйце!» і не мог, язык анямеў. Хацеў ён шапнуць: «пан Езус...», ды твар яго скрывіўся. Ён успомніў Каспараву Марыльку, што «божай маткай» стаяла ў касцёле «Кроў Езуса». Мільгануў у яго ўяўленні «дух святы» ў постаці доктара багасловіі і філасофіі ксяндза Курачковіча.

Хоць страшна было пану Вашамірскаму глядзець уніз праз акно, але вачэй адарваць не мог.

Цяпер ён пачуў гул людскіх галасоў ва ўсіх пакоях палаца. Тупат ног па мяккіх дыванах, нейкае бароканне, хрыпы, лаянкі.

Адвярнуўся пан Вашамірскі ад акна толькі тады, калі блізка за сваёй спіною пачуў у сваім пакоі гулкі свіст.

Перад ім стаялі Салавей і чорнабароды Язэп. Яны запалілі свечку, і чорнабароды Язэп звярнуўся да пана:

— Давай грошы!

Пан Вашамірскі не мог і слова сказаць ад страху, толькі рукою паказаў на кованую скрыню пад ложкам.

Яны кінуліся да скрыні. Скрыня не адчынялася.

— Ключы! — крыкнуў чорнабароды Язэп.

— Я ведаю, дзе ключы,— сказаў Салавей,— у пана за пазухай на шоўкавым шнуры.

Калі яны даставалі ключы ў пана, у яго з'явіўся голас. Ён падняў крык.

— Крык не паможа,— засмяяўся чорнабароды Язэп.— Усе твае гайдукі звязаныя ляжаць, а іншая твая чэлядзь нам памагае. Сабак мы атруцілі.

Войкнуў пан Вашамірскі і апусціў галаву.

Пана звязалі, заткнулі яму рот анучаю і крыкнулі праз акно да людзей.

Прыбеглі чатыры чалавекі з былых панскіх актораў. Павалаклі яго ўніз. Пана пры гэтым пацяшаў Салавей галасам і словамі ксяндза Марцэвіча:

— Пакуты цела — гаенне для духа...

Свечка засталася гарэць на стале. З адчыненага акна дзьмуў вецер. Аганёк свечкі круціўся ва ўсе бакі, нібы агнёвае джала змяі. Вось-вось, здаецца, патухае. Сцены пакоя заплывалі змрочным ценем. Але раптоўна зноў успыхне святло і бледным водсветам абальле сцены і столь пакоя. Асвятлілася на хвіліну французская гравюра, на якой красаваўся стэп, дзікія коні ў першабытным харастве скакалі па стэпе.

Ажыўлялася на хвіліну гравюра і зноў нікла ў ценях. Пасярод пакоя стаяла адчыненая кованая скрыня і пара круглых тумбачак, абабітых дарагім аксамітам, ляжалі бокам на падлозе. Блішчэлі чышчанай меддзю маленькія калёсікі, прышрубаваныя да тумбачак знізу.

Унізе, у драўляным будынку, на скотным двары пан угледзеў на падлозе звязаных усіх сваіх адданых людзей — дзікіх гайдукоў, лютага войта і нават ксяндза Марцэвіча.

Салавей паглядзеў ксяндзу глыбока ў вочы, пахлопаў яго па спіне і сказаў у другі раз:

— Пакуты цела — гаенне для духа. Святыя вашыя словы, ойча вялебны...

Ксёндз Марцэвіч маўчаў. Ён, можа, нешта сказаў бы, але і рот духоўніка быў запханы анучаю.

— Глядзі, чорнабароды,— звярнуўся Салавей да атамана,— ксёндз не згаджаецца з тым, што пакуты цела гаенне для духа!

Пры гэтым Салавей паказаў рукою на твар ксяндза Марцэвіча.

Вочы ксяндза на лоб вылазілі ад натугі. Яны злосна блішчэлі. Вось зараз праколіць імі і Салаўя, і чорнабародага Язэпа, і ўвесь свет.

— Так,— адказаў лагодна чорнабароды Язэп,— ксёндз супроць сваіх уласных святых слоў. Гэта вельмі кепска. Сягоння, як паедзе на той свет разам з панам Вашамірскім ды з усімі панскімі гіцлямі, дык пан бог яго за такі грэх у рай не пусціць...

Заварушыліся ўсе звязаныя і давай тарашчыць ва ўсе бакі спалоханыя вочы.

— Што? І вы не згодны, што пакуты цела гаенне для духа? — са злосцю запытаўся чорнабароды Язэп.— Тады і ваша месца ў раі іншыя зоймуць...

Праз некалькі хвілін пасвятлела на дзядзінцы. З усіх будынкаў маёнтка шугала полымя. У падпале прымалі

ўдзел усе прыгонныя пана. Прыбеглі людзі з блізкіх вёсак.

Вецер рос. Галавешкі, цэлыя снапы агню перакідваліся ў паветры з даху на дах, ляцелі агнёвымі птушкамі.

Будынкі панскага маёнтка трашчалі. З вокнаў высоўваліся чырвоныя языкі полымя.

Светла стала ў маёнтку, як сярод белага дня. Воддаль цямнеў парк. Па дзядзінцы насіліся галопам дзесяткі панскіх стаеннікаў, якія былі падобны цяпер да французскай гравюры ў панскім пакоі.

Людзі выганялі з хлявоў кароў, быкоў, авечак, свіней, курэй, гусей.

Жывёліны былі вельмі напалоханыя. Дзікімі галасамі равелі, мычалі, візгаталі і крычалі. Стаяў страшэнны садом.

Над кожным будынкам палыхаў агонь. Высачэзныя слупы іскраў і дыму шугалі ў неба да хмар.

Каменныя львы на парадным ганку панскага палаца ружавелі ад водсвету пажару і здаваліся жывымі.

Да будынкаў, што стаялі воддаль ад пажару, людзі падносілі пукі саломы і падпальвалі.

Усё гэта рабілася з жудасным супакоем, акуратна, не спяшаючыся, нібы прыгонныя працавалі на панскім полі. Толькі пры гэтай рабоце незвычайная радасць свяцілася ў сялянскіх вачах, нібы радасць хмельнага гадовага свята...

Раптам уздрыганулася зямля. Пачуліся выбухі гарматнай страляніны.

— Што гэта? — спалохаліся людзі.

— Не бойцеся,— сказаў чорнабароды Язэп,— гэта бровар гарыць, бочкі са спірытусам бухаюць...

— Ай-ай-ай... Навошта падпаліў так раптоўна? — пашкадавалі людзі.— Мы б выпілі на гэткім панскім балі.

— Няможна сягоння піць! — крыкнуў чорнабароды Язэп.

А бровар трашчаў. Мора сіняга агню пырскала фантанам, страшнай навальніцай. Пахла спірытусам.

Шыпела, гуло, бухала, грымела. Трэснуў цагляны бровар ад выбуху, і на вялікім абшары разлілося возера сіняга полымя.

Пасля выбуху спірытус пачаў гарэць роўным спакойным агнём.

Тым часам загарэўся і парк. Корчыліся лісці, вугліліся вершаліны дрэў. Сотні залатых кудзерцаў мільгаліся

па дрэвах, пераскаквалі маланкавымі дугамі-вясёлкамі адразу намнога сажняў угару, потым вуглёвымі лапамі шорхаліся па зямлі, паўзлі прыгінаючыся.

— Генеральная рэпетыцыя,— смяяўся Каспар, пакалечаны мінулай зімою на лютым марозе па загаду пана.

— Так. Генеральная рэпетыцыя,— сказаў чорнабароды Язэп і зірнуў удаль спакойнымі задумёнымі вачыма.— Можа, некалі ўсе маёнткі лютых паноў засвецяцца.

— Дай, божанька! — пачуўся старэчы, дрыжачы голас.

— Дай, божанька, волю для нашых братоў! — Гэта сказаў стагодні дзед Марцін, які таксама прывалокся на пажар.

А жудаснае вока пажару наскрозь прасвідравала ноч. Свяціла на вялікую адлегласць вакол яркай зарніцаю.

Пэўна, дзесьці па далёкіх вёсках, угледзеўшы зарніцу, думалі, што сонца ўзыходзіць.

Пэўна, знекуль здалёк ведалі, што гэта зарніца пажару.

Пэўна, з іншых маёнткаў панскія падлізы беглі сюды ратаваць маёнтак пана Вашамірскага.

У той жа час на пагорку, за выганам вёскі Вашаміршчыны, стаяла шалёная дачка Каспара.

Пажар быў перад ёю як на далоні. Галавешкі ляцелі птушкамі аж да яе.

Марылька была ў адной кашулі.

— Сціхні, пажар, сціхні! Я, матка боская, табе кажу...

Раптам яна пачала церці вочы кулакамі, нібы толькі што ад сну прабудзілася.

— Гэта ж гарыць маёнтак пана Вашамірскага! — прашаптала яна.

Шчаслівая ўсмешка мільганула па яе твары. Прытомнымі вачыма яна зірнула вакол. Стаяла на гэтым месцы і любавалася на пажар аж да самай раніцы, калі на ўсходзе неба пачало бляднець.

Пачаў накрапліваць дожджык.

— Ой, чаго я тут стаю ў адной кашулі? — усхапілася Марылька.— Людзі ўгледзяць. Сорамна...

Яна пабегла дахаты.

## 13

## САЛАЎІНЫ КУРГАН

Вось такую гісторыю чуў я ў саўгасе, у былым маёнтку пана Вашамірскага, ад старога дзеда, былога панскага лёкая.

Мы сядзелі з ім на мяжы некалькі гадзін. Я ўвесь час моўчкі слухаў, а дзед апавядаў. Пры гэтым ён час ад часу рабіў спынкі і дыміў «казіныя ножкі» з махоркі. Ён задумёна пазіраў у бок лесу. Вочы яго сядзелі глыбока пад сівымі кустамі брывей.

— Ага, дзе я там спыніўся? — запытаўся ў мяне дзед.

— Пажар у маёнтку пана Вашамірскага,— падказаў я.

— Але... але..

— Чым гэта скончылася? — нецярпліва запытаўся я.

— Як усе мужыцкія мяцяжы,— сказаў дзед.— Праз некалькі дзён з'явіўся цэлы полк лютага войска.

— Ну...

— Страшна было. Нават малыя дзеці не засталіся. (Дзед махнуў рукою.) Усіх, усіх знішчылі. Прыехаў пасля гэтага дзядзька пана Вашамірскага, па прозвішчу таксама Вашамірскі. Перасяліў сюды з сваіх вёсак новых людзей. У памяць загінуўшага пляменніка ён адбудаваў маёнтак і надаў яму ранейшы выгляд.

Дзед пацёр белай рукою лоб і зірнуў на мяне.

— Што я хацеў сказаць? — запытаўся ён.

Дзед доўга думаў.

— Успомніў,— абрадаваўся ён.— Не ўсе людзі з прыгонных пана загінулі. Яны ўцяклі ў лясы. І зноў свісты Салаўя чуваць былі. Ён і чорнабароды Язэп часта нападалі на панскія маёнткі гэтай ваколіцы. Не раз у маёвую ноч паны дрыжэлі ад страху, пачуўшы песню нават звычайнага салаўя. Яны тады чакалі непажаданых гасцей.

— Зірні туды! — звярнуўся да мяне дзед і паказаў рукою, куды я павінен глядзець: — Вунь там, за гэтым лесам, ёсць вялізныя пасекі. Туды бабы ходзяць увосень апенькі збіраць. Там стаіць курган. Даўней там усюды была непраходная пушча. Такая была гушчэча, што і днём было страшна. Вось там і жыў Салавей з сваёй кумпаніяй. Той курган яшчэ і цяпер завецца «Салаўіным курганом». Невясёлы гэты курган,— кажа далей дзед,— хоць і і салаўіны. Пры паляках там легіёны панскія тутэйшых вясковых дзяцюкоў стралялі. У гэтым маёнтку войска

панскае стаяла. Праўда, партызаны пасля задалі такога перцу панам, ажно горача і моташна ім стала. Вось і некалькі вёсак знішчылі паны пры ўцёках ад бальшавікоў. Цяперашнія паны не лепшыя за даўнейшых, трэба сказаць. Вось анегды прыбег сюды з таго боку адзін дзяцюк. Ён гаварыў такія штукі, ад якіх валасы дыба становяцца.

І дзед расказаў мне адзін з тысячаў жудасных фактаў катавання ў панскіх турмах невінаватых людзей.

Ад густога парку цягнуўся па полі доўгі цень. Адпала гарачыня летняга дня.

Нібы косці шкілета, тырчэлі з пяску на дарожцы вакол вялізнага запушчанага кветніка абломкі каменных ільвіных лап.

Калісьці львы нема і горда паглядалі ўдаль з высокага ганка панскіх палацаў.

# ТРЫ ПАЛЬЦЫ

1

## ТАМАШ І ЯГО РЭПЕРТУАР

Кукавала зязюля.

У паўдзённым сонцы палаў бор.

Хваёвыя пні, жоўтыя і шурпатыя, блішчэлі мядзянкамі кары, выдавалі моцны пах смалы і стаялі ўрачыстымі шэрагамі. Час ад часу праплываў па вершалінах гуллівы шэпт. Лёгкі ветрык, апрануты ў сонца і светла-сіняе шкло абшараў, звінеў па зялёных кучмах стромкіх хвоек.

Кукавала зязюля.

Яе голас быў грудны і тлусты. Яна выгуквала хвіліны, нібы жывы гадзіннік. У яе гуках тапіліся іншыя галасы: звінелі жаўранкі над блізкім полем, гулі чмялі, камары.

З недалёкага хутара чуваць быў і людскі кліч:

— Та-ма-а-а-аў! Та-ма-а-а-аў!

Паміж пнёў раскідваліся зычныя водгаласкі жаночага крыку. Гэта быў голас жонкі Тамаша Лукшы.

Муж гэтай кабеты сядзеў ля пагорка недалёка ад мурашніка.

Кожны раз, калі гуканне жонкі даходзіла да яго вушэй, ён непакоіўся, моршчыў лоб і перабіраў плячыма з такім выглядам, нібы хацеў скінуць з сябе цяжар.

Голас жонкі, звычайна піскліві і сварлівы, здалёк звінеў басавымі ноткамі і здаваўся паважным і грозным.

У вушах Тамаша аддаваліся толькі «Тамаў»: гук «ш» скрадваўся. І гэтае слова было чужым Тамашу. Некае нязвычнае.

Смешна было Тамашу. Нібы завуць не яго, а павінен адклікнуцца ён.

— Та-ма-а-а-аў!

Тамаш прылёг да зямлі, прыціснуўся далонямі да жорсткага моху і прытаіўся, як злодзей.

Ён жыва ўяўляў сабе постаць жонкі, круглую, як бочка (яна была ў апошнім месяцы цяжарнасці), чырвоны ад злосці твар, вочы выпучаныя, з сінімі гнеўнымі аганькамі, а губы разяўленыя ў крыку так шырока, ажна відаць процьма рота, агароджаная парканам зубоў.

— Та-ма-а-а-аў!

Ён — ды не ён...

З прычыны гэтага нязвычнага імя Тамаш цяпер думаў аб сабе з большай павагай, чым заўсёды.

Ён уздрыгваў.

Камар моцна кусаў яго за шыю, але селянін сцяў зубы, не крануў рукой. Другі камар сеў на босую нагу. Тамаш цярпеў. Яму здавалася, што гэта жончын крык кусае яго, смокча кроў.

Сваёй цяперашняй маўклівасцю ён помсціўся на жонку. Яна кіравала ўсім у хаце. Была вялікім генералам у спадніцы, а ён, Тамаш, увесь час у загоне знаходзіўся.

«Яна, мабыць, і цяпер (думаў Тамаш) кліча на нейкую работу. Ні за што не паддамся! Няхай накрычыцца, налопаецца. Тады нябось памякчэе, як спечаная цыбуліна».

Па твары Тамаша лунала дзіцячая гуллівая ўсмешка.

Жончын крык ад басавых пераліваў ператварыўся ў пісклівы вырай слоў, што распыляўся на ўсе бакі дробным макам.

Тут ужо Тамаш чуў поўнае сваё імя з гукам «ш» у канцы.

У хвалях рознакаляровых лаянак яго імя было галоўнай персонай: то выплывала на ўзверх («каб ногі твае над зямлёй калыхаліся!»), то нырала на самым дне («каб ты глыбока, Тамаш, ляжаў на божай пасцелі!»), а то чалёпкалася ў сярэдзіне самай ядранай лаянкі, заблытвалася ў моцных слоўцах, нібы муха ў павуціне.

Жонка змоўкла.

Ад усіх яе лаянак на сэрцы Тамаша застаўся толькі лёгкі пылок непрыязні да жонкі. Яму было крыўдна, што яна ў канцы яго імя дадала гэтае штодзённае «ш». «Тамаў» было прывабней для яго вуха сваёй навізною.

На вострых, нібы зацёсаных калах, локцях ён прыпадняўся з зямлі, перавярнуўся на спіну і глядзеў у неба. Пасля лаянак жонкі яму здавалася, што выкупаўся ў рэчцы, і цяпер так лёгка-лёгка.

Тамаш пазіраў у неба.

Яно выглядала нізюткім, нібы столь у хаце. Хвоі як

бы ўраслі вершалінамі ў нябёсны паркаль і выгінаюць яго ў вялізны сінявата шацёр.

Тамаш сеў.

Спрытным паляўнічым узмахам рукі ён налаўчыўся забіць на шыі камара, укусы якога толькі пачуў. У гэтую хвіліну ён забыўся аб жонцы, аб яе крыках і лаянках.

Кукаванне зязюлі, нібы гукі барабана, зноў запоўнілі ваколіцу.

Тамаш перабіраў пальцамі левай рукі, нібы граў на інструменце. Пры гэтым ён падпяваў мелодыю і адбіваў такт нагою. Уся яго ўвага была звернута на пальцы. Ён узіраўся ў іхны ціхі скок, у нямую пантаміму іхных выкрутасаў з такой пільнасцю, нібы ад пальцаў залежыў яго лёс.

Гэта было не дзівацтвам, не дзіцячай забаўкай з боку Тамаша, а сур'ёзным заняткам, важнай працай. Яго лоб пакрыўся расою поту.

Справа ў тым, што Тамаш быў вядомы ва ўсіх навакольных вёсках як музыка. Ён граў на скрыпцы на сялянскіх вяселлях, на вечарынках, якія галоўным чынам адбываліся зімою. Яму дапамагаў тады на бубнах малады дзяцюк Арцём.

«Рэпертуар» яго быў небагаты: два маршы, тры полькі, кадрыль і вялікі цыкл вясельных песняў.

Кожны нумар яго «рэпертуара» меў сваю гісторыю, сваё паходжанне.

Маршы Тамаш перахапіў ад вандроўных музыкаў «варшавякаў». Яны гралі ў маёнтку ў пана, а Тамаш стаяў пад акном і слухаў. Ён убіраў у сябе гукі маршаў з такім смакам, нібы піў невядомае смачнае пітво. Пры гэтым жмурыў вочы і выбражаў, што трымае ў руках скрыпку. Пальцамі левай рукі ён перабіраў у паветры, правай — вадзіў невідочным смычком па невідочных струнах і тупаў левай нагой, адбіваючы тахт сваёй нячутнай ігры. Прыйшоўшы дахаты, Тамаш накінуўся на скрыпку, як на нейкую разбойніцу, і давай наігрываць гэтыя маршы. Тут ігра была ўжо наяве. На скрыпцы выходзіла зусім не тое, што ў «варшавякаў» — нешта новае, іншае,— на Тамашовы лад.

Тры полькі былі падобны адна да адной, як тры родныя сёстры. Галоўная розніца між іх была тэрытарыяльная, паводле вёсак, у якіх яны выконваліся дзецюкамі-гарманістамі: Борацкая полька, Малявіцкая полька і Шурпацінская полька. Гэта калісьці, як відаць па мело-

дыі, была адна полька, засеяная па тутэйшых загонах таксама вандроўнай музыкай. Перахопленая з першага маху трыма гарманістамі, полька расшчапілася на тры, як тоўстая лучына — на тоненькія. Самы стрыжань гэтых полек быў адзін, але яны разыходзіліся між сабою самабытнымі завітушкамі спачатку і ў канцы. Гэта залежала ад спрыту пальцаў і характару кожнага гарманіста. Тамаш пераняў гэтыя полькі ўжо ад гарманістаў. Пераапранутыя з гармонікаў у гукі скрыпкі, яны набылі трохі іншае, Тамашовае афарбаванне.

Самае цяжкое і мудронае было з кадрыляй. Тамаш перахапіў гэту штуку ў местачковых музыкаў, што гралі на вяселлі ў сына каваля Беркі. Тут была скрыпка, цымбалы, флейта і басэтля. У вушах Тамаша мелодыі кадрылі мігацелі, яскравіліся матылькамі, пярэсцілі многакаляровымі паяскамі. Галоўная нітка кадрылі моцна ўкаранілася ў яго памяці. Аднак нялёгка было працадзіць гэту музыку праз струны скрыпкі. Няпрошанай госцю лезла ў вушы высвістванне флейты. Як дзіцё паміж ног, блыталася пстрыканне цымбалаў. Грозна трумкала басэтля. Доўга мучыўся Тамаш над мелодыямі кадрылі. То яны станавіліся дуба, як наравістыя коні, а то не даваліся ў рукі, як палахлівыя кураняткі. Пасля дзесятага поту музыка ледзь-ледзь супакоіў іх, прыручыў скокамі смычка і заліхвацкімі круцявідламі віхурыстых пальцаў.

Самае лёгкае для музыкі былі вясельныя песні. Песні ў большасці сумныя і жаласлівыя, хоць і гралі іх на вяселлях. Старыя кабеціны зацягвалі спеў над маладою, а Тамаш наігрываў на скрыпцы.

Гасцям здавалася, што скрыпка гаворыць, як чалавек, пераказвае песню слова ў слова.

Музыка то лагодна вядзе смычком, палец дрыжыць на струне, як бы ў нейкім спалоху; скрыпка літасці просіць, стогне... А то як заскача смычком па струнах, пабрыкваючы, нібы цялушка на выгане ў летні гарачы дзень, як хадыром пусцяцца пальцы, замігцяцца крутухай-мяцеліцай, дык скрыпка засмяецца, зарагоча ад нястрыманай весялосці.

Людзі толькі дзіву даюцца:

— Скуль гэткі спрыт?

— Проста за сэрца бярэ!

Скрыпка Тамаша кожнаму на яго ж мове гаварыла, пад яго густ грала.

Адна непрыемнасць была ў Тамаша,— скрыпка мала

прыбытку давала. Яму прыходзілася хадзіць на падзённую работу да шляхціца Чарнецкага. Музыка надта шкадаваў свае пальцы: ад працы яны рабіліся скарузлымі і грубымі, пакрываліся мазалямі і трацілі спрыт.

Праца вяла з пальцамі вечную барацьбу: ану, хто каго?

Пасля цяжкай працы Тамаш кожны раз прабаваў кемпасць пальцаў на скрыпцы. Ён граў і пільна глядзеў на пальцы. Яны так хутка бегалі па струнах, ажно здавалася, што не чатыры іх тут рухаюцца, а цэлая сотня.

Часам пасля сенакосу або калі Тамаш араў ад цямна да цямна, ён вельмі ўважліва экзаменаваў свае пальцы, рэвізаваў іх і як бы ўваходзіў у іхнюю душу, у іхняе ўнутраное жыццё. Яшчэ да спробы на скрыпцы ён прыглядаўся да пальцаў левай рукі. Усё цела Тамаша тады напружвалася, прыслухоўвалася да пальцаў,— да сваіх пяці самых шаноўных, дарагіх істот.

Спачатку Тамаш рабіў пільны агляд пальцаў з вонкавага боку: колер, мазалі, таўшчыня, узоры маршчынак на іх, параненне.

Колер меў вялікае значэнне. Паводле колеру Тамаш пазнаваў, ці пальцы вельмі змораны працай на полі. Ружовы водсвет між пальцаў насупроць сонца ці агню сведчыў аб іх дабраякаснасці, аб тым, што яны не змораны.

Мазалі і таўшчыня былі яркім паказам таму, ці пальцы мелі многа турботы ў нялюбай падзённай працы. У гэтым выпадку вокамер Тамаша быў надзвычайна акуратны і строгі. Рост мазалёў заўважваў кожны раз, калі мазоль нават на валасок таўсцеў.

Маршчынкі, чорныя, напоўненыя брудам, таксама давалі Тамашу прыметы аб здольнасці пальцаў да згібання і разгібання пры ігры.

Параненні на пальцах, галоўным чынам на кончыках (пры рабоце гэта вельмі часта здаралася), былі яўным няшчасцем для Тамаша. Бывала часам, што які палец выбываў на некаторы час з строю, нібы паранены ваяка. У гэтых выпадках Тамаш ведаў спецыяльныя лісточкі, якія прыкладваў да пакалечанага месца. Палец хутка загойваўся.

Пасля такога агляду з вонкавага боку Тамаш лез у нутро сваіх пальцаў. Пробаваў іх згібаць і разгібаць. Прыслухоўваўся, ці ныюць яны ад працы. Заўважаў ледзь прыкметны боль, на які чалавек звычайны, не музыка, і ўвагі не зверне.

Да правай рукі, якая працавала смычком, не было ў Тамаша такіх строгіх вымаганняў. Тут ужо не пальцы былі самым галоўным, а мускулы ўсяе рукі да самага пляча. Ён рабіў некалькі разнастайных рухаў, нібы вадзіў смычком па струнах і зараз жа ведаў становішча рукі.

На шчасце, звычайнай працай, бадай, заўсёды была занята правая рука. Левая ёй толькі дапамагала.

Рэдка бывалі выпадкі, калі пальцы левай рукі былі стомлены ці пакалечаны да таго, каб не мецъ магчымасці граць на скрыпцы. Асцярожнасць Тамаша пры рабоце стварыла тую раўнавагу, што здольнасць яго пальцаў да музыкі бадай ніколі не змяншалася.

Пасля такіх экзаменаў Тамаш рабіў апошнюю «рэвізію» ўжо на скрыпцы. Спачатку вырабляў розныя выкрутасы на струнах пальцамі і смычком, а пасля пераходзіў да свайго традыцыйнага рэпертуару, які па парадку выконваў увесь.

Часам Тамаш любіў забаўкі на скрыпцы.

Ён зыходзіў з торанага шляху свайго звычайнага рэпертуару на невядомыя сцяжынкі імправізацыі. Ён тады даваў волю пальцам і смычку — няхай робяць, што хочуць. Сам ён тады быў не музыка, а звычайны чалавек. Ён толькі прыслухоўваўся да скрыпкі, нібы граў нехта іншы. А як уваходзіў у стос, дык нават і не прыслухоўваўся. Тады ён забываў аб усім, што робіцца вакол.

Скрыпка шапоча нешта ціха, ціха, нібы вецер праходзіць па лісцях старога дуба. Гукі павольна мацнеюць, растуць. Яны вырываюцца з замчышчаў цішыні, як дзікія гусі з захаванай аірам затокі.

З бязладдзя першатворчасці, з невядомага стэпу блукання гукі набываюць лад, прыемную стройнасць. Яны льюцца мерна, нібы хвалі на возеры пад ветрам. Скардзіцца скрыпка, кліча кудысьці ў незнаёмыя абшары.

2

## З МАЛЕНЬКАЙ БЯДЫ Ў ВЯЛІКУЮ РАДАСЦЬ

Тамаш сядзеў у бары і не падаваў ніякага голасу на гуканне жонкі. Аднак пачаў непакоіцца. Зарупіла дазедацца, у чым справа. Мабыць, не так сабе жонка кліча.

Ён падняўся з свайго месца, кінуў злосна ў мурашнік некалькі галін і шпаркім крокам пайшоў праз бор да-

хаты. Ад непакою ён не адчуваў, як сухія шышкі калолі босыя ногі.

Чым бліжэй падыходзіў да хаты, тым мацней рос у яго непакой і прыкры страх перад жонкай. Паводле яе слоў ён заўсёды быў вінаватым.

Жывецца кепска — вінават Тамаш.

Няма заработку — ён гэтаму прычынай.

Бычка забрала паліцыя на чыншы,— ён не мог выкруціцца.

Хлеба няма — усё ён ды ён.

Жылі ў зямлянцы, як вярнуліся з бежанства,— ён не дбаў, не клапаціўся, каб лесу дастаць на будоўлю.

Жонка ледзь не вінаваціла Тамаша ў тым, што сусветная вайна адбылася, што іхняя мясцовасць цяпер пад польскім панам знаходзіцца.

Тамаш пачаў шчыра верыць у сваю вялікую вінаватасць. Ён верыў, што сам уласнымі рукамі рассейвае і разносіць бяду і ліха вакол сябе, валачэ за сабою, як свой уласны цень. Гэта яго нават радавала: значыць, каб хацеў, дык ніякага слімазарства не было б у хаце, каб хацеў, дык добра жылося б; каб хацеў...

«Мабыць, у мяне захавана нейкая сіла, якую жонка хоча выцягнуць на ўзверх — і ёй гэта ніяк не ўдаецца».

«Мабыць, і мяне ўлегцы не возьмеш. Я нечага-такі ды варт».

І Тамаш не хацеў.

«Навошта марнаваць гэтыя сілы? Навошта пускаць іх на ўзвей-вецер?»

Такія думкі заўсёды паднімалі Тамаша з процьмы ўверх, надавалі яму крыллі і служылі моцнай зброяй перад лаянкамі жонкі.

Тое самае было і на гэты раз.

Аднак ад нарастаючага страху ён цяпер свету белага не бачыў. Не заўважыў ні яркага сонца, ні гучнага спеву жаўранка, ні паху высачэзнай густой ліпы.

Усё ж такі ён хацеў, каб жонка і цяпер яго моцна лаяла, каб вінаваціла. Гэтым яна напомніць яму аб той вялікай сіле, якая ў ім захавана... Такім чынам ён яшчэ раз упэўніцца, што каб захацеў, дык, можа, увесь свет перавярнуў бы...

Тамаш глянуў па сваю хату.

Дах быў яшчэ не ўвесь пакрыты саломай. Ён прасіў у суседа пазычыць кулёў саломы. Той адмовіўся. Хатка была

повенькая, але без палавіны страхі выглядала, як падпывалец-хлапец з падзёртым брылем на галаве.

«Эх, каб толькі захацеў»...— падумаў Тамаш.

На неабгароджаным дзядзінцы яго сынок, Юрка, гнаўся за катом, гнаўся з вялікім імпэтам, не адставаў ад ката ні на крок. Кот ускочыў на стары дуб і з самай вяршыні кпліва пазіраў уніз на хлопца.

Тамаш пачаў узірацца вакол. Ён стараўся знайсці дзеколечы адзнакі жончынай злосці. На ганку ляжыць на баку вядро ад вады.

«Калі жонка лагодная, дык вядро стаіць на месцы, паўнюткае вады»,— мяркуе Тамаш.

«А вунь дзяркач тырчыць на самым парозе. Ой, злосная сягоння жонка».

Тамаш зрабіў вінаваты выгляд і ціха ўзяўся за клямку. «Вось будзе зараз, вось будзе! — падумаў ён.— Яна ж цяпер наогул злосная, бо цяжарная».

Тамаш адважыўся і ўвайшоў у хату.

Спачатку, пасля сонечнага святла на двары, здавалася яму, што ў хаце цёмна, як пры вячэрніх змроках. Ён пачаў паглядаць вакол. Жонка тупалася каля печы. Пах смажанага сала казлытаў нос.

Што за святочную яду жонка сягоння рыхтуе? Гэта ж яна, бадай, апошні кавалак сала засквярыла...

На акне стаяла шклянка з вадою. Яна адбівалася супроць сонца ў вельмі прыгожыя колеры. На жаўтаватай дошцы падаконніка мільгала маленькаю дужкаю вясёлка. Ад гэтага ў Тамаша з'явіўся святочны настрой.

Тамаш адным вокам зірнуў на жонку.

Вельмі круглы ад цяжарнасці жывот і худы твар крыху стрымалі святочнасць мужа. Па вачах ён бачыў, што яна злосная, як заусёды, але вось маўчыць, не лаецца...

— Чаму не адазваўся, як я цябе гукала? — Голас жонкі быў надзіва лагодны.

— Не чуў,— схлусіў Тамаш.

— Аглох ты, ці што?

На гэта Тамаш не лічыў патрэбным адказаць. Уся напружанасць чакання лаянкі ад жонкі адпала. Ён раней быў пэўны, што жонка сыпне на яго горкім макам гучных слаўцоў, ажно не рад цяпер, што так ціха скончылася...

— Што гэта з ёю сталася? — здзівіўся Тамаш.— Яна, відаць, перастала мяне паважаць...

І дзіва за дзівам сыпалася перад ім.

Жонка лагодна на яго зірнула, паставіла на стол гаршчок бульбы і патэльню са скваркамі.

— Еш хутчэй! — ласкава сказала яна: — Былі тут ад пана Чарнецкага. Трэба табе ісці ў фальварак!

Тамаш пачаў ціха перабіраць пальцамі левай рукі.

— На касьбу? — запытаўся ён, беручыся за яду.

Тамашыха зірнула на яго спакойна і сказала строгім голасам:

— Еш!

«Тут нешта ды нейкае»,— падумаў Тамаш.

Ён рупна ўзяўся за яду.

Жонка села супроць яго на лаву. Спагадна на яго паглядала.

Тамаш стараўся скарэй справіцца з ядой, каб даведацца, у чым справа.

— Казалі ад пана Чарнецкага, каб ты ўзяў скрыпку з сабою. Там у фальварку нейкая гулянка.

Тамаш аж падскочыў на месцы. Гэтага ён зусім не спадзяваўся. Жонка яму здавалася на гэты раз такой мілай і прывабнай, як тады, калі яшчэ была дзяўчынай, калі абое на начлезе пры вогнішчы жарты строілі.

— Дык чаму ты раней не сказала? — пакрыўдзіўся Тамаш.

— А я ж ірвала глотку на ўвесь бор! Дзе ты прападаў?

Скрыпка апынулася ў яго руках.

Ён мазаў смычок, правяраў струны. На яго напала такая радасць, ажно не ведаў, дзе дзецца. Даўно шлюбаў не было. Ад самага вялікадня няма вечарынак. Скрыпка даўно хлебам яго не карміла. А тут, глядзі, зусім неспадзявана нейкую дытку заробіць. Апрача ўсяго, ужо даўно перад людзьмі не граў.

А «граць перад людзьмі» ў Тамаша было даражэй за грошы...

— Арцёма з бубнамі! — літасці прасіў Тамаш.— Няхай Юрка яго пазаве. Юрка, Юрачка! Збегай да Арцёма! Няхай зараз жа сюды прыйдзе! Няхай возьме з сабою струмант!

Юрка пусціўся бягом з хаты.

«Перад панамі яшчэ ніколі не граў»,— думаў Тамаш.

Ад гэткай неспадзяванкі на Тамаша напала нейкая прыемная жудасць.

Ён выскачыў на двор і давай рабіць рэпетыцыю.

Пакуль прыйшлі Юрка з Арцёмам, ён паспеў сыграць

усе полькі. Ён пачаў рэпетыцыю з полек, бо ведаў, што паны любяць вясёлае.

На скорую руку, пад акампанемент бубнаў, ён паўтарыў увесь рэпертуар.

Слухачамі былі Юрка і кот, які прымасціўся каля ног хлопчыка.

— Пойдзем! Гайда! — крыкнуў у захапленні Тамаш да Арцёма.

— Пачакай! — супакоіла яго жонка.— Гэта ж брыдка — босы, у парванай кашулі. Адзень што-небудзь святочнае!

— А мо праўду, жонка, кажаш! — згадзіўся Тамаш.

Ён быў цяпер надзвычай пакорлівы і паслухмяны.

Жонка прынесла чыстую паркалёвую кашулю і боты.

Тамаш адным махам накінуў на сябе кашулю і ўзяўся за боты.

З ботамі справа была не такая лёгкая. Яны былі цеснаватыя і цвёрдыя. Ён усунуў у юхтовую халяву цёмнабурую заскарузлую нагу і пачаў пыхцець.

— Асцярожна! бот парвеш! — не на жарты спалохалася жонка.— Растаптаў ногі на лапаты. Хоць ты на іх хлеб у печ садзі. Пачакай, тоненькія анучкі прынясу — тады лягчэй палезуць.

Жонка пабегла па анучкі.

Боты былі пасля скрыпкі другім сямейным фетышам і гордасцю ў Тамашовай хаце. Яны заўсёды стаялі ў самым ганаровым куце на відочным месцы. Гэта былі першыя боты, якія меў Тамаш у сваім жыцці. Звычайна зімой ён абуваецца ў лапці, а летам ходзіць босы. Гэтыя боты бацька яму купіў на вяселле. Ён іх ужываў толькі ў самыя ўрачыстыя выпадкі жыцця: на гадовы хвэст або на пятровы кірмаш у мястэчку. Тады Тамаш ускідваў іх на плечы і перад самым мястэчкам абуваў.

На боты глядзелі ў хаце, як на найпрыгажэйшую аздобу. З вялікай асцярогай хадзілі каля іх усе хатнія. Нібы боты былі зроблены з самага дарагога і тонкага крышталю.

Калі часам Юрка пачне скакаць у хаце з кута ў кут, забываючыся аб усім на свеце, тады матка крычыць спалоханым голасам: «Асцярожна — боты!..»

Калі часам, па недаглядзе, бот упадзе, дык хатнія непакоіліся, нібы няшчасце здарылася.

Тамашыха шанавала боты мужа болей, чым яго самога. Кожны месяц яна сама мазала іх бярозавым дзёг-

цем. Кожны месяц боты мелі гэтую даніну. Для іх была спецыяльна здабыта гліняная пасудзіна на дзёгаць і квач. Мазалі іх дзёгцем, насоўвалі халявамі ўніз на калы, што былі ўбіты для іх на дзядзінцы. На гэтых калах боты сохлі на сонцы. Як высыхалі — мазалі другі раз, аж пакуль яны «плакалі», пакуль дзёгаць ляжаў на іх вечнымі слязамі. Але, нягледзячы на такую пястоту, боты мелі свой нораў: яны былі заўсёды цвёрдыя.

— Такая юхта! Тут ніякі дзёгаць не паможа! — філасофскім тонам гаварыў аб іх яшчэ нябожчык бацька Тамаша.— Тут і сам пан бог не паможа. А мазаць іх трэба, а то патрэскаюцца,— дзёгаць боту тое самае, што хлеб чалавеку.

Боты заўсёды рэзалі Тамашу ногі, як нажамі. Гэта, магчыма, і была адна з прычын святкавання ботаў і будзённага выгляду Тамашовых ног. Але аб гэтай пакуце ведаў адзін толькі Тамаш. Ён нават і жонцы не скардзіўся, што боты ногі рэжуць.

Затое ўсе знаді аб іншай якасці ботаў: калі Тамаш іх абуваў, тады ледзь не за вярсту людзі ведалі, што Тамашовыя боты дыбаюць. Досыць было толькі пацягнуць носам. Яны выдавалі моцны пах дзёгцю.

Гэтыя боты правандравалі з гаспадаром усе гады бежанства, шмат дзе пабывалі — і вось цэленькія, бадай новыя, вярнуліся назад на родныя загоны.

Пры дапамозе жонкі насунуўшы цяпер боты на ногі, Тамаш з Арцёмам, з музычнымі інструментамі ў руках, пусціліся нацянькі ў бок фальварка.

— Асцярожна — боты! — крыкнула ўдагонку Тамашыха.

## 3

## ЗАЙГРАЙ, ГАЛГАН, КРАКАВЯК!

Пан Чарнецкі — кругленькі шляхціц, гадоў пад пяцьдзесят. Ружовы поўны твар, маленькія попельнага колеру вочкі, уздзёрнуты ўверх невялічкі нос, завостраныя ўгары мышынымі хвасткамі рыжаватыя вусы гаварылі аб вялікім самашанаванні, казалі аб тым, што пан Чарнецкі імкнецца ўвысь, што гонар «знатных продкаў» бурліць хмельным віном у яго шляхотнай крыві. Да кожнага сказа сваёй гутаркі,— ці ён гаворыць аб гаспадары, аб конях,

або на палітычныя тэмы,— пан Чарнецкі дадае запэўніваючае «слова гонару». Усё вакольнае, паводле яго погляду,— «ніжэйшае» за яго, усё вакольнае ён характарызуе каротка і выразна: «пся крэў», «пся косць».

Фальварак пана Чарнецкага знаходзіўся водаль ад тракту, атулены густым лесам і дзякуючы гэтаму не пацярпеў ад расійска-нямецкага фронту. Гаспадарка ў пана Чарнецкага была багатая, і яго гонар з кожным годам усё вырастаў.

На фальварку працавала многа парабкаў. А ў час сенакосу і жніва пан Чарнецкі наймаў яшчэ падзённых з вакольных сялян.

Жонка пана Чарнецкага памёрла маладою. Яна была добрая, пакорлівая кабета. Муж часта ўжываў на ёй свае «ганаровыя» кулакі. Засталася ад жонкі дачка Ядвіська. Яна ўжо вырасла ў паненку. Да сваёй дачкі пан Чарнецкі адносіўся вельмі пяшчотна, выконваў усе яе капрызы.

Панна Ядвіга такой жа пяшчотнасцю адказвала бацьку, называючы яго кволым голасам: «татусь».

Панна Ядвіга высокім ростам удалася ў матку, а тварам была копіяй бацькі, толькі з болей мяккімі і дробнымі рысамі. Апраналася панна Ядвіга паводле апошняй моды з Вільні. Так гаварыла ёй местачковая швачка. Панна Ядвіга вельмі мала вучылася, бадай нічога не чытала. Больш яна любіла кветкі. Яна з імі няньчылася паводле пор году. Вясною — бэз, летам — ружы, а зімой — вазоны. Простых палявых раслін яна не любіла і не паважала: яны — не панскія, не «ганаровыя». У кожную нядзелю панна Ядвіга ездзіла з «татусем» у касцёл за дзесяць вёрст. Там яна знаёмілася з ваколічнай шляхтай, хаця з «кавалерамі» мала гутарыла пры знаёмстве. Яна толькі моцна чырванела, і на яе твары было напісана: «я саромлюся!» Яна апускала вочы або глядзела ўбок. Не ведала, куды дзецца, дзе схаваць рукі. Улетку звычайна трымала ў руках букет кветак.

З семнаццаці год яна пачала знаёміцца з літаратурай.

«Татусь» прывёз з мястэчка цэлую пачку тоўстых карт пад назваю «Флірт Амура». «Літаратура» яе вельмі захапіла.

Панна Ядвіга вывучала «Флірт Амура» такім чынам: мела перад сваім уяўленнем «кавалера», з якім вяла бяседу. «Флірт Амура» ляжаў перад ёй раскладзены на вялікім стале, як звычайныя карты. Панна Ядвіга гаварыла і за «кавалера» і за сябе з друкаванага тэксту кар-

так, дзе пытанні і адказы знаходзіліся гатовыя пад нумарамі.

«Кавалера» панна Ядвіга ўяўляла ў выглядзе польскага рыцара на зграбным кані, у вайсковаї вопратцы са зброяй. Такога яна бачыла на малюнаках у «Гісторыі Польшчы». Твару яго панна Ядвіга не бачыла, бо саромілася падымаць вочы. Але голас яго быў вельмі прыемны, пранізваў салодкім агнём усю яе істоту. Яна за яго гаварыла яго ж голасам.

Рыцар — адзін з знакамітых польскіх магнатаў,— не то князь Радзівіл, не то граф Патоцкі. Гэта залежала ад густу паненкі, ад яе настрою ў той час. Пакой панны Ядвігі быў невялікі. Рыцару на кані ў ім не было б месца, але ў сваім уяўленні панна Ядвіга распырыла гэты пакоік у велізарную залу, у якой маглі б разгульваць некалькі такіх коннікаў.

І вось пачынаецца гутарка па нумарах з картак «Флірту Амура»:

Р ы ц а р. Якія ў панны прыгожыя вочкі.

П а н н а Я д в і г а. Ёсць прыгажэйшыя.

Р ы ц а р. Панна надзвычайна зграбная.

П а н н а Я д в і г а. Не люблю кампліментаў.

Р ы ц а р. Я панну кахаю.

П а н н а Я д в і г а. Ад многіх чула.

Р ы ц а р. Не мучце мяне...

П а н н а Я д в і г а. Я ж не кат, каб мучыць людзей.

Р ы ц а р. Будзеце маёю жонкаю?

П а н н а. Я д в і г а. Я нічыёй жонкаю не буду.

Р ы ц а р. Хачу пацалаваць ручкі панны.

П а н н а Я д в і г а. Пан вельмі дзёрзкі.

Р ы ц а р. Панна мяне любіць?

П а н н а Я д в і г а. Гэта мой сакрэт.

Але панна Ядвіга доўга хаваць «сакрэту» не можа. Яна так пяшчотна паднімае на рыцара вочы (першы раз у жыцці), ажно рыцар па яе вачах аб усім здагадваецца.

«Сакрэт» выкрыт...

Панна Ядвіга адкідвае карты.

Рыцар саскаквае з каня. Становіцца перад паннай Ядвігай на калені. Потым бярэ яе на рукі, садзіць у сядло і мчыцца з паннай Ядвігай далёка-далёка: праз невядомыя казачныя лясы, праз моры-акіяны. У панны Ядвігі аж дух стрымліваецца ад вялікай асалоды.

Строгай мяжы паміж летуценнем і сапраўдным жыццём панна Ядвіга не ведае.

Так заўсёды канчаецца ў панны Ядвігі вывучэнне «Флірту Амура».

Пасля гэткага хвалявання панна Ядвіга нюхае кветкі і робіцца прытомнай. Складае карткі «Флірту Амура», зноў раскладвае — і давай спачатку.

У хаце пана Чарнецкага гаспадарыць яго сястра, старая панна Анэля. Такая нізкая, як брат, але вельмі худая. Сваё дзявоцтва панна Анэля аддала пану Езусу. Ёй цяпер гадоў трыццаць пяць.

Панна Анэля ненавідзіць усіх мужчын. Аб гэтым яна сама кажа кожнаму сустрэчнаму «кавалеру» і ў той жа час робіць яму вабную ўсмешку адваротнага зместу.

Апошнія месяцы панна Анэля вельмі неласкава з паннай Ядвігай. Гэта з тых часоў, як пан Чарнецкі пачаў гаварыць, што Ядвісьцы пара замуж.

— Замуж, замуж,— пішчыць злосным голасам панна Анэля,— яна ж зусім малая. Няхай раней старэйшыя за Ядвіську замуж павыходзяць...

Пан Чарнецкі добра разумее, куды закідвае каменьчыкі яго сястра, і кажа:

— Усе павыходзілі замуж, каму трэба было, а ты ж мужчын не любіш.

Панна Анэля плача, дробненькія слёзы сыплюцца з вачэй і цякуць ледзь прыкметнымі ручайкамі па яе схудалым, пажоўклым твары.

Пан Чарнецкі — чалавек строгі. Ён любіць, каб сказанае было зроблена. Ужо з тыдзень, як яго сястра наводзіць парадкі: пячэ і смажыць, смажыць і пячэ.

— Ядвіську трэба выдаць замуж.

Так гаворыць ёй брат, можа, дваццаць разоў на дзень.

Трэба склікаць на гулянку ўсю ваколічную шляхту. «Кавалераў» цікавых ёсць шмат. Галоўным чынам з асаднікаў, якім выдалі зямлю тут на «крэсах». Выбар багаты. Так клюне, што Ядвіська не агледзіцца і ад «Флірту Амура» апыніцца ў новым фальварку пана Ястрабінскага, які прыехаў сюды з Пазнані. Ён, пан Ястрабінскі, вельмі заслужаны перад айчынай,— тры гады з бальшавікамі змагаўся.

Так разважае пан Чарнецкі.

Гулянка была наладжана на славу. З'ехаліся госці з усёй ваколіцы. У пакоях пана Чарнецкага даўно такога шуму не было.

Гонар пана Чарнецкага не дазваляў яму рабіць баль, як звычайна ў суседзяў,— у святочны дзень увечары. Ён

наладзіў баль у будні час і не ўвечары, а сярод белага дня.

— Нашто хавацца ўночы,— гаварыў ён гасцям,— слова гонару, у мяне нічога крадзенага няма. А пагуляць — пачэсная праца, слова гонару. Можна весяліцца не толькі ў свята, слова гонару.

І госці шчыра весяліліся.

На сталах былі навалены цэлыя горы featured смажанага, варанага і печанага. Бутэлькі з «пазнанскай» пераліваліся ў шкляныя кілішкі, гарачылі шляхтоўную кроў і вырывалі з вуснаў крыкі «віват!».

— Слова гонару! — кіпяціўся пан Чарнецкі.— Гэта ж усё, што на стале, мая Ядвіська напякла, насмажыла, наварыла. Частуйцеся, шаноўныя госці! Слова гонару!

Панна Анэля аж зубамі скрыгатала ад злосці.

Яе брат схлусіў. Ядвіська пальцам нават не кранула па гаспадарцы. Усё гэта яна, панна Анэля, зрабіла.

Панна Ядвіга кепска адчувалася ад такой бацькавай хлусні. Хоць яна звычайна саромілася слова казаць, але на гэты раз не вытрымала і сказала з дакорам:

— Татусь...

Госці зразумелі, што панна Ядвіга ад вялікай скромнасці саромеецца.

Яны выпілі ў чэсць панны Ядвігі — слаўнай гаспадыні, і вельмі красамоўна хвалілі пры гэтым закускі.

Калі шум і голас гасцей даходзіў да тэй мяжы, што адзін аднаго не чуў, пан Ястрабінскі апынуўся каля панны Ядвігі.

— Слова гонару! Спрытны пан Ястрабінскі,— хваліў яго п'яны пан Чарнецкі.

— У Пазнані ўсе спрытныя! — крыкнуў адзін з гасцей, таксама асаднік з Пазнані.

— Нех жыве Познань! Слова гонару! — пачціва сказаў пан Чарнецкі.

Ад яго маленькіх вочак засталіся толькі дзве замасленыя вузенькія шчылінкі.

Госці пілі ў чэсць Пазнані.

— Слова гонару,— успомніў родныя «крэсы» пан Чарнецкі: — Нашы «крэсы» не горш за Познань! П'ём за «крэсы»! Слова гонару!

Госці зноў пілі.

Многія з асаднікаў крыўдзіліся на «крэсы», скардзіліся на тое, што тутэйшыя «хлопы» паляць будынкі асаднікаў і што па лясах завяліся такія «банды», ажно ад іх

дзецца няма дзе. Успомнілі атамана Муху, ад якога «крэсы» дрыжаць у вечным страху.

— Слова гонару! П'ём за ачыстку «крэсаў» ад тутэйшых хамаў! — гарачыўся пан Чарнецкі.

Госці пілі.

— У Мінску бунт. Бальшавікам скора будзе капут. У газеце чытаў! — казаў адзін з гасцей.

— П'ём за пагібель бальшавікоў! Слова гонару!

Звінелі кілішкі.

Пры ўсёй гэтай завірусе пан Чарнецкі, аднак, не выпускаў з вокагляду сваю дачку і пана Ястрабінскага.

— Клюе! Слова гонару, клюе! — радаваўся пан Чарнецкі і па-заліхвацку крутнуў вусы ўверх.

У гэты час панна Ядвіга і пан Ястрабінскі былі заняты вельмі цікавымі справамі. П'яны шум гасцей адсунуўся ад іх далёка-далёка, можа, на некалькі вёрст.

Пан Ястрабінскі быў такі высокі, ажно рослая панна Ядвіга здавалася перад ім нізенькай. Ён быў надзвычайна тонкі, і ўсё ў ім было нібы завострана: лоб, нос, вушы, рукі. Калі яму трэба было што-колечы казаць паненцы, дык нахіляўся да яе, згінаўся ў крук.

Яны стаялі каля круглага століка, і пан Ястрабінскі разглядаў фамільны альбом пана Чарнецкага. Ён вельмі цікавіўся кожнай фатаграфіяй: хто гэта, дзе ён ці яна і як жывуць яны.

Панна Ядвіга тлумачыла, сарамілася і чырванела.

Ад альбома перайшлі да «Флірту Амура».

Доўга перакідваліся карткамі, шапталі нумары запытанняў і адказаў.

Друкаваная, нямая гутарка была накіравана паннай Ядвігай так спрытна (пасля ранейшых рэпетыцый), ажно выйшла якраз, як раней, калі ў яе дзявочых летуценнях яна гутарыла з казачным рыцарам — то з князем Радзівілам, то з графам Патоцкім. У цяперашніх рэальных абставінах, калі замест фантастычнага рыцара быў высокі пан Ястрабінскі, эфект выйшаў не меншы, калі нават не большы. «Флірт Амура» меў цікавы канчатак: пан Ястрабінскі нізка прыгнуўся да кволай ручкі панны Ядвігі. Ён гэта зрабіў так спрытна, так элегантна і так зграбна, нібы пасярэдзіне тулава ў яго находзіліся спружыны, і ён мог складвацца на двое, як сцізорык.

Пан Ястрабінскі пацалаваў ручку панны Ядвігі аж два разы.

— Ой, татусь...— войкнула яна два разы кволым голасам і ледзь не абамлела на месцы.

«Татусь» увесь час пазіраў адным вокам на «Флірт Амура» і пры слове «татусь» падскочыў два разы ад вялікай прыемнасці, адвярнуўся да гасцей, нібы нічога не заўважыў, і крыкнуў:

— Слова гонару! Музыку!

У думках пан Чарнецкі меркаваў, што лёс Ядвіські ўжо вырашан.

Госці замітусіліся.

Яны да гэтага часу зусім не заўважылі, што такая вясёласць, а няма музыкі.

Яны выставілі на гаспадара асалавелыя ад выпіўкі вочы і затупалі нагамі.

— Музыка! музыка! — раздаваліся водгаласкі з усіх бакоў.— Такі бал без музыкі — тое самае, што касцёл без званіцы.

— Паклікаць Тамаша, слова гонару! — крыкнуў пан Чарнецкі.

— Татусь...— літасці прасіла панна Ядвіга.— Хама прасіць...

— Лепшага няма, дачушка! Слова гонару! — апраўдваўся пан Чарнецкі.— Не цяпер у мястэчка ехаць па капелю. Слова гонару.

— Тамаша! Тамаша! — з п'яным задорам вымагалі госці.

І здаецца, шчаслівая зорка Тамаша заззяла над фальваркам пана Чарнецкага.

Паслалі чалавека па Тамаша.

Да прыходу Тамаша былі наладжаны «фанты».

У гэтай гульні заўсёды выходзіла так, што пан Ястрабінскі часта атрымліваў кару: цалаваць панну Ядвігу. Яна ўцякала ад яго і рассыпала пры гэтым белыя ружы, прышпіленыя да яе вопраткі на грудзях.

— Ваш шлях, панна Ядвіга, засцелены кветкамі,— сказаў элегантны пан Ястрабінскі.— Так прыемна пахне, ажно...

Пан Ястрабінскі не скончыў свайго паэтычнага сказу, а панна Ядвіга яшчэ не паспела знайсці ў памяці патрэбнага да гэтых слоў адказу з вялікага запасу нумароў у картках «Флірту Амура», як расчыніліся дзверы, і пах кветак быў заглушаны...

Моцны пах дзёгцю лез у нос, казытаў горла, кружыў галаву.

На парозе пакоя стаяў без шапкі, са скрыпкай у руках, Тамаш.

Ён нізка кланяўся.

За ім стаяў Арцём з бубнамі.

— Ой, дзёгаць...— застагнала панна Ядвіга.

Пан Чарнецкі засмяяўся.

— Адразу відаць, што далікатная, панская кроў, дзёгцю не церпіць. Слова гонару!

Пан Чарнецкі прыязна зірнуў на Тамаша. Музыка стаяў збянтэжаны на парозе і не ведаў, што рабіць.

Старому шляхціцу было прыемна, што, дзякуючы Тамашовым ботам, так публічна выявілася далікатнасць яго дачкі, панны Ядвігі.

— Выходзь, галган, на дзядзінец і скідай боты. Можаш граць босы! Слова гонару!

Тамаш выйшаў. Яго трохі пакрыўдзіла такая непашана да яго шлюбных ботаў, але разам з тым лягчэй было на душы: боты рэзалі ногі і перашкодзілі б граць.

Хутка вярнуўся Тамаш і пачаў выкладваць перад гасцямі свой «рэпертуар». Арцём рупна акампанаваў на бубнах.

Госці танцавалі парамі, яны зусім забыліся, што танцуюць пад «хамскую» музыку. Не танцавала адна толькі панна Ядвіга, хоць пан Ястрабінскі вельмі прасіў.

— Не танцую хамскіх танцаў! — сказала яна.

— Зайграй, галган, кракавяк! Слова гонару! — загадаў Тамашу пан Чарнецкі.

— Не ўмею, паночку,— апраўдваўся вінаватым голасам Тамаш.

— Ядвіська! Заспявай кракавяк! Тамаш навучыцца на скрыпцы! Слова гонару! — загадаў пан Чарнецкі.

Панна Ядвіга павінна была здаць экзамен спеваў перад гасцьмі, галоўным чынам перад панам Ястрабінскім.

Яна стала ў позу і тоненькім галаском пачала траляякаць. Тамаш лавіў на струнах кожны гук яе спеву. Арцём адбіваў на бубнах тахт.

Вельмі кароткі час спявала панна Ядвіга. Тамашова скрыпка хутка ўцяміла кракавяк.

Панна Ядвіга пусцілася ў скокі з сваім «кавалерам».

Такім жа чынам Тамаш навучыўся граць і мазурку.

Пасля кожнага танца музыкі мелі ад каго-небудзь з гасцей медзякі і па чарцы гарэлкі ад гаспадара.

— Баль толькі пачынаецца! Слова гонару! — радаваў-

ся гаспадар.— Ну і Тамаш! Ну і Тамаш! Галган, а так ладна грае. Слова гонару!

Толькі позна ўночы музыкі пайшлі дахаты.

Тамаш быў вельмі здаволены: зарабіў каля пары злотых ды яшчэ ўзбагаціў свой рэпертуар.

Боты яго былі звязаны разам за вушкі і перакінуты на плячах. Адзін бот біў Тамаша ў грудзі, а другі — у спіну. Нібы дзівацкія чорныя расліны, боты рассейвалі па ваколіцы пах дзёгцю.

## 4

## ФАЛЬВАРАК ПАДАРУЮ, А ЗЛОДЗЕЯ ЗНАЙДЗІЦЕ!

Госці раз'ехаліся яшчэ ўночы.

Пан Чарнецкі трохі паспаў і падняўся на ногі.

Сонца толькі што вырастала над борам. Пастух нядаўна выгнаў статак. Гукі бяроставай пастырскай трубы, нібы спевы паляўнічага ражка, зычна разліваліся ў бары.

На дзядзінцы стаяў вялікі шум. Панна Анэля выпускала птаства, карміла іх: сыпала зерне з высокага ганка свірна ўніз. На гэты пачастунак накідваліся тры варожыя між сабою плямёны: куры, качкі і гусі. Кожнае племя з новым пакаленнем — вывадкам. Між гэтых плямёнаў вялася вечная барацьба за пяршынства каля ганка. Кудахталі, пішчэлі, гагаталі, гвалту крычалі на розныя галасы і бязлітасна пер'е скублі. Калі бацькі розных плямён не маглі здужаць адны адных, тады накідваліся на чужых дзяцей, адганялі малых ад снядання.

Панна Анэля глядзела з вышкі ганка на поле бітвы і ад вялікай бяды толькі бянтэжылася і не ведала, што рабіць.

Пан Чарнецкі ўмешваўся ў кожную драбніцу гаспадаркі. Ён заўважыў гэты гармідар і выдаў загад сястры, каб з заўтрашняга дня карміць птаства паасобку: куры павінны карміцца ў куратніку, гусі — у вянглярні, дзе таны ўсё лета начуюць, а качкі — каля ганка свірна. Тады такога шуму не будзе на дзядзінцы, бо ад вялікага галасу Ядвіська спаць не можа.

На гумне стаяла многа калод пчол. Пан Чарнецкі глядзеў за імі пільна, бо ў гэты час павінны былі новыя раі

вылятаць. Ен даваў чэлядзі і сваім кожны дзень настаўленні, як затрымліваць рой і не даваць яму ўляцець. Нягледзячы на такія лекцыі, на гэтым тыдні паляцеў рой пчол. Чарнецкі лаяў усіх. Нават панна Ядвіга плакала ад яго.

Абыходзіўшы ўсю гаспадарку, гаспадар заўсёды ў самым канцы аглядаў свіран.

Якраз учора прывезлі воз мліва пудоў з дваццаць — чатыры мяшкі. Учора не паспелі высыпаць муку ў вялізную скрыню, якая стаяла каля арудаў са збожжам.

На гэты раз пан Чарнецкі выйшаў з свірна чорны, як зямля, злосна тармашыў вусы, склікаў усіх хатніх і ўрачыстым голасам казаў:

— Слова гонару, мяшок з мукою прапаў!

Усе збегліся, замітусіліся і вінаватымі галасамі меркавалі аб тым, як гэта магло здарыцца. Аглядалі свіран з усіх бакоў, шукалі слядоў — не знайшлі. Ніяк не маглі ўцяміць, як гэта злодзей мог улезці ў свіран. Вялізны ключ ад свірна заўсёды ляжаў у гаспадара пад падушкай.

— Можа, свіран забылі замкнуць напач?

— Не, панна Анэля сваімі рукамі замкнула. Толькі сягоння нядаўна адамкнула.

— Злодзей, мабыць, з сваіх! — меркаваў пан Чарнецкі.— Такім чынам усю гаспадарку расцягнуць. Ніколі ж да гэтага часу такога выпадку не было. Няўжо хто з гасцей? Не можа быць — гэта ж шляхта! Ды і людзі яны не бедныя. Слова гонару!

Пан Чарнецкі не шкадаваў гэтых пяць пудоў мукі,— меў вялікі запас збожжа,— але быў проста пакрыўджаны, што ладу няма ў гаспадарцы.

Такім чынам могуць усё пакрасці — і певень не закукарэкае, і сабака не забрэша,— разважаў шляхціц.

— Слова гонару, фальварак падарую, а злодзея знайдзіце! — крычаў да чэлядзі пан Чарнецкі.

Парабкі вінавата маўчалі.

Пан Чарнецкі загадаў запрэгчы каня ў брычку. Загадаў парабкам, што і як рабіць па гаспадарцы, а сам паехаў у гміну заявіць аб злоўчынку.

— Злодзей павінен быць знойдзены!

Строгі быў пан Чарнецкі...

Па дарозе ён пачаў разважаць, што ўкрасці муку мог толькі бедны чалавек. У гэтым напрамку разважаў далей: хто самы бедны ў ваколіцы?

Шляхціц ведаў усіх тутэйшых сялян. Як пачаў падлічваць, дык бедных аказалася вельмі многа. Шмат было і «самых бедных». Аб кім з «самых бедных» ні думаў, дык кожны мог украсці мяшок мукі. Кожнаму гэта мука была вельмі патрэбна...

Падазронасць меў на якіх-небудзь дваццаць — трыццаць сялян.

Але няўжо ж усе яны грамадой пойдуць красці мяшок мукі да яго? Гэта немагчыма. Пан Чарнецкі ехаў лесам. Ён успомніў атамана Муху.

Шляхціца агарнуў страх... Не — не страх. Ого! Ён нікога не баіцца. Гэта не пасуе чалавеку з такім гонарам. Толькі дрыжыкі прабіралі ўсё яго цела...

Шляхціц сцебануў каня і паехаў шыбчэй.

Ужо недалёка ад гміны да яго зноў вярнулася здольнасць разважаць аб мяшку мукі...

— Яшчэ дваццаць пудоў аддаў бы, каб толькі злодзея знайсці!

Строгі быў пан Чарнецкі.

Раптам яго думкі прасвятлелі:

— Ну і галган жа ж я, слова гонару! Ды гэта ж няйначай Тамашова работа! Ён усе хады і выхады ведае ў маёй гаспадарцы. У час балю ён сцягнуў ключ, забраў з свірна мяшок з мукою і палажыў ключ на месца. Пасля музыкі панёс пакойна дахаты. Вось і найграў, пся крэў! Вось табе і кракавяк! Слова гонару!

Пан Чарнецкі ад злосці моцна і шчыра плюнуў.

Калі ён дайшоў да ўпэўненасці, што гэта работа Тамаша, трохі адлягло ад сэрца:

— Злодзей знойдзен!

У гміне пан Чарнецкі нарабіў вялікі гвалт.

— Спакойна жыць нельга на «крэсах». Тут напладзілася гэтулькі злодзеяў і бальшавікоў, што страх! Усім гэтым вясковым хамам на шыбеніцы толькі месца! Слова гонару!

«Эканамічна-палітычная» гутарка пана Чарнецкага зрабіла ў гміне вялікае ўражанне.

На вобыск да Тамаша выправілі аж трох паліцыянтаў.

Абурэнне пана Чарнецкага перадалося і паліцыянтам. Яны былі настроены на ваяўнічы лад.

— Душу выматаем, а знойдзем крадзенае, пане Чарнецкі! Камень на камені не пакінем! З-пад зямлі выкапаем! Яго самога на муку змелем — гэтага злодзея, гэту пся косць, гэтага камуністага!

Гарачыя словы паліцыі так узрадавалі пана Чарнецкага, ажно ён у канцы быў здаволены, што так здарылася, што яго абакралі. Цяпер пабаяцца нават і думаць аб тым, каб яго яшчэ раз чапаць.

— Знойдзеце, панове! Слова гонару, знойдзеце муку ў Тамаша Лукшы! Вы самі пабачыце, як ён жыве: хата недабудавана, есці няма чаго! Каб не я, дык ён даўно з голаду здох бы. Я часта бяру яго на падзённую работу. Вось і адплаціў. Слова гонару!

Сонца стаяла ўжо сярод неба. Было вельмі горача. Тамаш сядзеў на прызбе сваёй хаты і развучваў на скрыпцы кракавяк і мазурку, што ўчора граў у пана Чарнецкага са спеву паненкі.

Узбагачаны рэпертуар больш, чым грошы, радаваў Тамаша.

Жонка на яго сягоння не крычала, не злавалася. Яна была занята сваімі хатнімі і бабскімі справамі: перабірала розныя анучы, рыхтавала пялёнкі, бо не сягоння заўтра трэба будзе паклікаць бабку.

Не заўважыў Тамаш у запале ігры, як да яго хаты пад'ехалі трое паліцыянтаў...

## 5

## ШПУЛЬКА

Ён любіў часта мяняць свае мянушкі. «Шпулька» яго апошняе прозвішча. Зваўся ён раней «Голка», «Ножык» і «Злоты зуб». Такія псеўдонімы надавалі яго асобе нейкую таемнасць і артыстычнасць. І сапраўды Шпулька лічыў сябе мастаком. Яму было ўсяго дваццаць пяць гадоў, а меў ужо багаты стаж спрытнага ката: ад часоў генерала Доўбар-Мусніцкага ў Бабруйску аж да гэтага часу, да самастойнай польскай дзяржавы.

Шпулька меў заўсёды шмат працы. Нягледзячы на свае дваццаць пяць гадоў, ён ужо зусім лысы. У Шпулькі вельмі прыемны голены твар, рахманыя, задумёныя светла-карыя вочы, мяккі грудны голас, джэнтльменскія манеры ў абыходжанні з людзьмі на вечарынках, на вуліцы: ён надзвычайна далікатны.

Зусім іншым робіцца Шпулька пры «выкананні сваіх абавязкаў». Галоўным чынам у яго тады мяняюцца

вочы і голас. Вочы мутнеюць, на бялках вызначаюцца чырвоныя жылкі. Голас тады ў Шпулькі ў большасці пагрозліва-сіпучы або кплівы — са смяшком — у залежнасці ад крыміналу ахвяры і ходу выведванняў.

Шпулька вырашаў свае задачы заўсёды аднабакова: усе яго «пацыенты» (так ён называў людзей, якія нападаюцца ў яго рукі) вінаваты. Яго спрыт і кемнасць — вырываць у «пацыентаў» прызнанне ў сваёй вінаватасці. Тады Шпулька мае вялікае здавальненне. Такога прызнання ён дасягае двума спосабамі выведвання, праз маральны ўплыў на «пацыента» і праз «хірургічнае» ўздзейнічанне. Першы спосаб Шпулька ўжывае спачатку да кожнага. Спачуванне, далікатнае абыходжанне, рахманыя вочы, салодка-пяшчотлівы голас — усё гэта дапамагае ўлезці ў душу «пацыента», каб той прызнаўся ў сваім праступку. Але гэтым у большасці Шпулька даводзіць сваіх «пацыентаў» да панібрацтва і адвагі, ніякага толку з гэтага няма. Такая гутарка з'яўляецца толькі пралогам да праўдзівага «хірургічнага» мастацтва Шпулькі. Праз такую бяседу ён толькі вывучае аб'ект сваёй «хірургіі». Ён вывучае сілу, мускулатуру чалавека, каб ведаць, з чаго пачаць. Чым дужэйшы «пацыент», тым Шпульцы прыемней: «можна будзе папрацаваць».

У сваёй «працы» Шпулька не любіць аднастайнасці. Кожны раз, калі ўваходзіць у творчы настрой, ён прыдумвае новы спосаб пыткі і калечання. Вочы ў яго мутнеюць і чырванеюць ад затоенай асалоды...

Заўсёды Шпулька дабіваецца таго, што «пацыент» прызнаецца ва ўсіх абвінавачваннях, якія яму дыктуюцца. А калі той надзвычайна ўпарты, дык з рук «хірурга» жывым не выходзіць. Шпулька тады даводзіць сваю «хірургію» да канца... У яго пры гэтым псуецца настрой: перамог «пацыент». Ад злосці Шпулька ляскае зубамі, як галодны воўк, і топча нагамі акрываўлены, да жудасці скалечаны труп...

Такія выпадкі болей за ўсё здараюцца з партызанамі, што пападаюцца ў рукі Шпулькі.

Шпулька, даводзіўшы сваю працу да вялікага мастацтва, любіў часам даваць паліцыянтам прадстаўленні: ён катаваў «праступніка», а паліцыянты пры гэтым балявалі, спявалі і танцавалі пад акампанемент жудасных стогнаў ахвяры.

Стогны і крыкі былі ў Шпулькі свайго роду камертонам. Паводле гэтага «камертона» ён ведаў, у якім ста-

новішчы знаходзіцца «пацыент»,— ці ён ва ўсім прызнаецца, або пераможа Шпульку — і прыйдзецца ў бяссільнай уз'юшанасці толькі таптаць яго труп.

Як ні любіў Шпулька творчую разнастайнасць у сваёй «хірургіі», аднак пры гэтым існуюць таксама раз назаўсёды выпрацаваныя трафарэты або традыцыі: з пачатку «аперацыі» Шпулька ўжываў старасвецкія аплявухі. Гэта быў як бы хлараформ перад «аперацыяй». Абавязкова пасля аглушэння гучнымі аплявухамі «хірург» пачынаў «сапраўдную працу». Таксама прымушаў ён ахвяр вылізваць сваю кроў, якая лужынкамі стаяла на бруднай падлозе...

Шпулька меў пры сабе «асістэнтаў» з паліцыі: перад імі ён часта хваліўся сваёй «работай» і апавядаў цікавыя гісторыі з сваіх «гераічных учынкаў», з уласнай багатай практыкі.

Паліцыянты слухалі з вялікай зацікаўленасцю і апетытам, як бы ім расказвалі рамантычныя гісторыі на тэмы кахання. У іх масліліся вочы, дрыжэлі губы, і целы былі вельмі напружаныя ад захаплення.

Да Шпулькі прывялі звязанага Тамаша. Шпулька зірнуў на яго спакойным уважлівым вокам, загадаў развязаць, зірнуў на апухшы твар Тамаша, на сінякі і крыкнуў на паліцыянтаў:

— Што ж вы, д'яблы, чалавека так пакалечылі?

— Калі ён муку схаваў. Ніяк знайсці не маглі, перарылі ўсю хату і не знайшлі,— апраўдваліся яны.

— Паночку... даражэнькі... Я ніколі ў жыцці сваім не краў...— скардзіўся Тамаш і ўсхліпваў па-дзіцячаму.— За што яны мяне білі? За што?

— Супакойся, дзядзька, супакойся! — спачуваючым тонам сказаў Шпулька і нават пагладзіў Тамаша па карку... Мы з табою во зараз пагаворым, і справа будзе ясная...

Тамашу палягчэла на сэрцы.

Жартачкі, такі добры чалавек гэты пан...

Ён даверліва зірнуў на Шпульку. Шпулька даў яму папяроску, супакойваў лагоднымі словамі.

Паліцыянты хіхікнулі.

— Ціха вы, д'яблы! — крыкнуў на іх Шпулька.— Пакалечылі чалавека ды яшчэ смяюцца...

Тамаш са смагай курыў смачную папяроску.

У часе вобыску ў хаце Тамаш спачатку трымаўся смела. Яго правата давала яму сілу. Як яму кепска ні жылося, а ён ніколі ў жыцці не быў злодзеем.

— Не можа быць! Праўда выйдзе наверх! — думаў Тамаш і цяпер.

Аднак падазронасць паліцыі накінула цяжар на яго настрой. Паліцыя перарыла хату, капалася на дзядзінцы,— нічога не знайшла. Тады пачалі яго бязлітасна біць па твары, пад бакі.

— Няўжо ж дзеля таго, што я бедны, дык павінен абавязкова быць злодзеем?

Шпулька нешта доўга пісаў, распытваўся ў Тамаша, колькі яму гадоў, як яго прозвішча, ці даўно тут жыве, з чаго жыве, і яшчэ шмат запытанняў задаваў.

Пасля гэтага Шпулька так глыбока зірнуў Тамашу ў вочы, ажно той задрыжэў. Вочы, лагодныя спачатку, цяпер змянілі выраз.

— Раскажы, саколік, як была справа?

Голас у Шпулькі таксама стаў зусім новым. Ад гэтага голасу Тамашу было страшней, чымся ад біцця пры вобыску.

Тамаш заёрзаў на месцы і давай падрабязна апавядаць, як адбылося гулянне ў пана Чарнецкага, як ён, Тамаш, здзеў боты, якія пахлі дзёгцем, як паненка спявала кракавяк, а ён граў на скрыпцы...

— А мяшок мукі цяжкі быў? — раптам запытаўся Шпулька.

— Не ведаю, паночку...

Тут Шпулька прыступіў да справы пры дапамозе «хірургіі».

Тамашу завязалі рукі, залажылі пад калені, прасунулі паміж рук і ног кій, і Шпулька загадаў сваім асістэнтам біць палкаю ў пяты...

Цвёрдыя пяты ў Тамаша абраслі чорнай гразёю, біць шомпаламі па іх Шпулька не дазволіў, каб не запэцкаць шомпалаў...

— Скажы праўду, украў мяшок з мукою?

— Дальбог, не краў...

Жудаснае войканне, дзікія стогны Тамаша чуваць былі далёка па-за сценамі пастарунка...

Шпулька пробаваў і шмат іншых нумароў.

Тамаш увесь час аднекваўся.

Ад такога «нэндзнага» мужыка Шпулька не чакаў заядлай упартасці.

Выведы былі адкладзены да заўтра.

І Шпулька і «асістэнты» спацелі...

Тамаша вынеслі ў другі пакой.

Шпульку зацікавіў гэты аб'ект выведаў. Ён таксама быў упарты — не менш за Тамаша...

У пакоі, куды выкінулі Тамаша, было цёмна. Ён ляжаў на падлозе і прыслухоўваўся, што робіцца вакол. З усіх куткоў былі чуваць стогны людзей. Некаторыя шушукаліся між сабою, апавядалі адзін аднаму, як Шпулька іх калечыў. Некаторыя мармыталі праз сон, раптоўна ўскрыквалі:

«Ой, не буду! не буду!»

«Рука зломана».

«Пяць зубоў, як гарох, пасыпаліся на падлогу».

«Я не вінават, не вінават!»

Адзін з арыштаваных крычаў у сне дзіцячым голасам:

«Матулька! Матулька! бок баліць, бок!»

Хтосьці сапеў у сне адрывіста і хрыпла. У яго горле нешта булькалася, пераліваласся, нібы вылівалі ваду з бутэлькі.

У поцемках гэтыя шэпты, крыкі і войканне наводзілі жудасць. На іх, здавалася, была звернута ўся ўвага начной цішы. Але Тамаш быў аглушаны, заняты сваімі думкамі і мала адчуваў, што робіцца вакол. Ён быў толькі напалавіну прытомны.

Сам не ведаў, ці спіць, ці не. Толькі цемры не бачыў,— яму было відна. Нават сонца свяціла. Горача і душна. Грукат гарматаў. Высыпаюцца шыбы з акон. Дзынь-дзынь-дзынь — звініць спалоханае шкло. Галосяць вясковыя бабы. Мужыкі спешна кладуць бэбахі на вазы. А ён, Тамаш, схваціў толькі скрыпку ў самадзелкавым футаралі. Жонка яго лае, называе дурнем, абібокам. Цягнецца абоз уцекачоў. Скрыпяць калёсы. Тамаш прыціскае да грудзей скрыпку ў футаралі, а Тамашыха — маленькую пяцімесячную Настаську...

Абапал дарогі — крыжы...

Навенькія, маленькія, наспех збітыя дарожнай сякерай з тонкіх жэрдак. Гэтыя крыжы — тычкі па дарозе, каб людзі не заблудзілі, калі будуць ехаць назад у родныя вёскі...

Паміраюць старыя і дзеці. Па іх і не плачуць. Адны ўжо аджылі свой век. Другія яшчэ ў жыццё не ўвайшлі.

Памёрла і маленькая Настаська, дачушка Тамаша. Футараль ад скрыпкі пайшоў на ўжытак. Якраз трунаечка для дзіцяці...

Скрыпку, голую, Тамаш схаваў за пазуху. Часам, калі зачэпіцца гузікам за струны, яна войкала на чатыры галасы. Скрыпка таксама была ўцякачкай... Яна таксама цярпела і галасіла...

Сон Тамаша часта перарываўся, як старая кінастужка. Ва ўсіх яго снах скрыпка з'яўлялася адной з галоўных персон.

Ён у горадзе. Жыве ў бараку. Там многа ўцекачоў. Ён прастойваў цэлы вечар каля нейкага рэстарана. Праз п'яныя галасы, праз дзікі, пісклівы кабечы смех на вуліцу вырываецца, выплывае музыка. Яна здаецца Тамашу надзвычайна прыгожай. Зіма. На Тамаша падае бялюткі, чысценькі сняжок. Тамаш увесь белы ад снегу, абтрушаны, нібы мельнік мукою. Ён не адчувае холаду,— яго грэе музыка. Ён перабірае пальцамі,— вывучае новую мелодыю. Потым бягом пускаецца ў «свой» барак, каб на скрыпцы пайграць. Але там людзі хворыя на тыфус. Граць няможна...

Жаласліва паглядае Тамаш на сваю скрыпку. Яна павінна маўчаць, як нямая. Завошта такая страшная кара?

Ён плача ў сне, як малое дзіця...

Прачнуўся пад дзень.

Праз жалезныя краты прабівалася першае святло летняга дня. Арыштанцкі пакой абліты сінім паўзмрокам раніцы. Людзі навалены на бруднай падлозе, нібы мяшкі з анучамі. Паветра вельмі цяжкае, душыць. Няма дзе дзецца...

Тамаш пачаў аглядацца па баках. Ён шукаў знаёмых. Але раптам адчыніліся дзверы, і ён пачуў крык:

— Тамаш Лукша.

Тамаш падняўся. Страшна балела ўсё цела. Нібы п'яны, паваloкся, пайшоў на голас.

Паліцыянт падганяў:

— Жвава, пся крэў! Хутчэй, трасца цябе!

Выведы пачаліся нанава...

— Забіце насмерць,— хрыпеў Тамаш,— я нічога не скажу, бо не краў...

Але на гэты раз Шпулька не хацеў забіваць насмерць. Яму трэба вырашыць гэтую псіхалагічную задачу па-свойму: што б ні было, а дабіцца прызнання ў гэтага «хама». Забіць не штука — кожны патрапіць...

Тамаш папаў да Шпулькі якраз у такі перыяд, калі той шукаў новых метадаў.

Шпулька пачаў пільна назіраць над сваім «пацыен-

там», давай вывучаць яго характар, норавы. Ніводзін рух Тамаша не быў ім не заўважаны. Ён шукаў у Тамаша так званую «Ахілесаву пяту» — тое слабае месца, дзе ўдар папаў бы ў цэль.

Урэшце Шпулька знайшоў.

Пры катаванні Тамаш кожны раз стараецца хаваць свае рукі.

Цяпер толькі Шпулька здагадаўся:

— Гэта ж ён на скрыпцы грае... Ён баіцца больш за ўсё калечання рук...

Шпулька ўсміхнуўся. Ён перамог:

«Зараз Тамаш прызнаецца, скажа, што ўкраў».

Шпулька адчыніў дзверы і загадаў Тамашу ўсунуць туды пальцы абодвух рук.

Тамаш задрыжаў.

— Паночку... паночку...

— Скажы, ты ўкраў муку?

Тамаш нічога не бачыў перад сабою, толькі нейкія рознакаляровыя кругі мітусіліся перад вачыма. Перад яго ўяўленнем стаяла скрыпка. Ён бачыў яе, як жывёханькую. Нават белы пылок на струнах бачыў, адчуваў яе пад барадой, нюхаў яе своеасаблівы пах...

— Не буду далей чакаць! Пальцы сюды! Злодзей ты! Бальшавік ты!

— Не, паночку, не!

— Што «не»?

— Не трэба пальцаў чапаць...

— Украў муку?

— Украў, паночку... Дальбог, украў...

— Падпішыся!

Тамаш падпісаўся дрыжачай рукой... Літары скакалі перад ім. Папера сляпіла вочы. Ледзь напісаў:

«Тамаш Лукша».

Перамог Шпулька...

## 6

## «ЗЛОДЗЕЙ»

Была цёмная летняя ноч.

Бор стаяў грозны і горды. Калі-нікалі ў яго захаваных нетрах праплываў адрывісты шэпт. Хоць месяца не было, але ноч была відная, яркая і поўная разнастайных вод-

гулляў. Упадзе шышка з дрэва, галіна аб галіну заскрыпіць, раздасца піск дрымотнай птушкі, зашуршыць папаратнік у лагчыне — гукі разыходзіліся далёка навокал, раслі і вылазілі з усіх бакоў.

Здавалася, што бор быў атулены вялізнымі шклянымі сценамі, аб якія начныя гукі ўдараліся, выклікалі зычныя паўторы.

Тамаш ішоў дахаты. Ён пусціўся ў дарогу толькі тады, як добра сцямнела. Удзень ісці саромеўся, каб нікога з знаёмых не сустрэць. Мала таго што яго людзі так пакрыўдзілі і зняважылі, ён сам сябе пакрыўдзіў і зняважыў. Сваёй жа рукою сябе апэцкаў. Прыняў на сябе ганебнае кляймо злодзея...

Толькі цяпер, калі страшны боль мінуў, калі ва ўсім целе засталося адно пягучае ныццё, да Тамаша звярнулася магчымасць абдумваць свой учынак.

«І ліха накруціла мяне яшчэ грамаце навучыцца. Каб быў непісьменным, дык мо абышлося так. Не падпісаўся б, што злодзей».

Тамаш праклінаў свайго настаўніка, якога ўжо не было на свеце. Ён прыпомніў, як калісьці аж дзве зімы вучыўся ў школе. Стары лысы «дарэктар» часта біў яго вострай лінейкай па пальцах, каб стараўся чыста выводзіць літары. Маленькі Тамаш быў тады заўсёды запэцканы ў сіні атрамант: рукі, нос, лоб, нават язык. Тамаш і цяпер памятае саладкаваты, непрыемны смак атраманту.

Тамаш стараецца не думаць. Прыслухоўваецца да болі ва ўсім целе. Галоўным чынам пяты баляць, апухлі, зрабіліся як порхаўкі. Вельмі цяжка ступаць на іх. Ён ступае толькі на пальцах, нібы стараецца ісці так ціха, каб ніхто яго крокаў не пачуў. Ці ж ён каго абакраў, ці што?

Сапраўды, абакраў! Падпісаў паганую паперку. Сам сябе злодзеем абазваў...

«Злодзея» цяпер і на падзённую работу ніхто не возьме. Затое пальцы выратаваў. Буду на скрыпцы граць — зараблю! А суседзі смяяцца будуць — злодзеем абзываць. Я буду прымушаны маўчаць, сцяўшы зубы. Нават сорамна цяпер чалавеку ў вочы глянуць. Сам падпісаўся, што ўкраў. І той, хто сапраўды ўкраў муку, стане мяне злодзеем зваць, абняславіць, а я апушчу галаву ўніз як вінаваты. Таго, сапраўднага злодзея, будуць паважаць, як добрага чалавека, а я астануся апаганены... Адна толькі жонка ведае, што я — не злодзей, што не ўкраў. Калі скажа аб гэтым, дык ніхто ёй не паверыць.

Тамаш хацеў стагнаць ад болю і сораму, але стрымліваўся,— баяўся, каб ніхто не пачуў. Нават на дрэвы не глядзеў. У начны час яны здаваліся яму жывымі істотамі.

«Злодзей» мінуў бор, выйшаў на жытняе поле.

Тут, на шырокім прасторы, дзе дрэў не было, яму стала яшчэ цяжэй. Ён цяпер выстаўлен напаказ усяму абшару... Ён ступаў па прасёлачнай пясчанай дарозе. Па мяккім пяску пакалечаныя ногі так моцна не баляць.

Вось каб з дарогі пайсці між жыта, дык трапіш якраз у фальварак пана Чарнецкага. Гэты фальварак так многа бяды нарабіў Тамашу... Ён бачыў у сваім уяўленні кожную будыніну ненавіснага фальварка. Можна нават лічыць бярвенні на сценах. Да самай магілы фальварак пана Чарнецкага застанецца ў яго памяці.

«А каб пусціць чырвонага пеўня ў гэты фальварак...»

Тамаш нібы бачыць перад вачыма чырвоную, бы кроў, зарніцу пажару. Полымя ярка-жоўтымі языкамі ліжа стрэхі, лезе яскравымі змеямі праз вокны. Навакол светла-святлютка. Пажарышча далёка відаць. Нясе гарам. Людзі крычаць.

Спалохаўся Тамаш сваіх думак.

«Цяпер, калі нават другі гэта зробіць, то на кару пацягнуць мяне... Вінаваты пальцы мае, якіх я пашкадаваў. Вінавата скрыпка».

Шаптаў, гаварыў сам з сабою і гэтага не заўважаў:

«Што я цяпер буду рабіць? Брыдка... брыдка...»

Сам слоў сваіх спужаўся. Думаў, што гэта яму іншы гаворыць.

Азірнуўся па баках. Нікога няма.

Зямля пахла балотнымі травамі, аерам. Не прыкмеціў, што падышоў да рэчкі, якую трэба было перайсці па зыбучай кладцы з аполак. У цёмна-сіняй вадзе адлюстроўваліся яркія зоркі.

Збянтэжаны Тамаш спачатку падумаў, што неба ўпала на зямлю — унізе зоркі свецяцца, як свечкі.

Галава, нібы ад хмелю, кружылася. Ён часта браўся рукою за разгарачаны лоб. У густым хмызняку, над самай рэчкай, плакала балотная птушка. Яна выдавала адрывістыя, пісклівыя жалосныя два гукі, у якіх «злодзей» чуў толькі адно слова. Вельмі моцна яно звініць у вушах:

— Брыдка... брыдка...

Дахаты ён прыйшоў на ўсход сонца.

Неба бляднела. Спявалі птушкі на розныя галасы.

Так хацелася курыць, ажно забыўся выпрабаваць сілу

сваіх пальцаў, як ён звычайна іх пробаваў. Трое сутак не курыў, апрача адной папяроскі — першага пачастунку Шпулькі...

Пад трамай у хаце вісіць зялёны сёлетні тытун. Вот жа зараз прырвецца да яго, пачне смаліць. Старыя газеты ляжаць на падаконніку. Ён газеты ўжывае замест папяроснай паперы. Чытаць газеты яму цяжка. Вось толькі надпісацца навучыўся за дзве зімы...

Юрка спаў пад старым кажухом на лаве пры стале.

На шырокім ложку ляжала жонка. Кугатала малое дзіцянё, якое нарадзілася ў яго адсутнасці.

— Хлопчык,— адрапартавала жонка.— Бабкай была старая Магда. Юрка паклікаў. Толькі ўчора вечарам пайшла. Пабыла тут два дні.

Жонка лічыла гэтую падзею важнейшай за вобыск і арышт Тамаша. Уздрыгнулася толькі тады, як зірнула пільна на свайго мужа. Вельмі страшным ён выглядаў.

— Божа ж мой! Што яны з цябе, Тамашка, зрабілі...

Яна заплакала.

Тамаш маўчаў.

Зняў тытун з нізкай трамы і рыхтаваўся круціць папяроску.

— Кажы, што там было? — галасіла жонка.

Ён расказаў усё.

— Божа ж мой! Што нам цяпер рабіць? — яшчэ мацней завойкала жонка.— Гэта ж ад сораму цяпер дзецца няма дзе. А ўсе суседкі будуць на мяне пальцамі паказваць... Падумаюць, што ты сапраўды ўкраў...

Ад плачу яна перайшла да сваёй звычайнай, штодзённай лаянкі. Лаяла мужа і ўсё дадавала:

— Брыдка... брыдка...

Тамаш маўчаў. Ён да таго быў збянтэжаны, што палажыў тытун у рот і пачаў есці.

Жонка, не заўважыўшы гэта, сыпала на яго ўвесь запас лаянак, які толькі ведала.

Перад вачыма Тамаша кружыўся стол, мітусіліся маленькія акенцы,ківалася печ з боку на бок. На шырокім тапчане супроць печы заблішчэла сякера. Яна дваілася і траілася ў яго вачах.

Ніколі раней ён не зварочваў увагі на лаянкі жонкі. А цяпер яны былі вельмі крыўдныя.

А жонка лаяла доўга, нібы з кнігі чытала.

У канцы Тамаш звыкся трохі — і яму палягчэла. Ён накіраваў думкі ў іншы бок:

— А што ж бы я зрабіў, каб яна таксама паверыла, што я ўкраў! Гэта ж я падпісаўся... Добра, што хоць адзін чалавек на ўсім свеце ведае, што я — не злодзей.

Ён выплюнуў тытун.

— Каб ты хацеў, дык бы гэтага не было! — цягнула далей жонка свае пацеры.— Што мне цяпер рабіць хворай з дзіцем? Учора суседка паўбулкі хлеба прынесла. Каб ты хацеў, дык быў бы і хлеб у хаце. Ты што? Кульгаеш? А каб хацеў, дык цябе так не пакалечылі б. Адразу трэба было прызнацца... Скажы, дзе муку схаваў?.. Пакуль што трэба будзе хоць пару булак хлеба спячы...

Жонка прысела на ложку, высунула ў яго бок свой жоўты змучаны твар. У яе вачах мігаценіся таемнасць і зацікаўленасць.

Яна змоўкла. Глядзела на рот мужа, каб зараз жа злавіць яго адказ...

Тамаш падскочыў на месцы, як бы яго хто нажом у бок пырнуў. Вочы наліліся крывёю. Пакруглелі.

— Я не ўкраў...— мармытаў ён збялеўшымі вуснамі,— не ўкраў...

Апошняя пытка Тамаша была самая страшная: і родная жонка не паверыла!

Азіраўся па баках, нібы ратунку шукаючы. Гарачы камень упаў на мазгі.

Зноў заблішчэла сякера на тапчане.

Тамаш першы раз у жыцці зазлаваўся на жонку, схапіў сякеру, падбег да ложка, замахнуўся...

— Ай! — крыкнула жонка дзікім голасам.

Тамаш спалохаўся яе крыку. Адпала злосць.

— І ты думаеш, што я ўкраў муку?

— А навошта ты падпісаўся, што ўкраў?.. Гэта ж сваёй рукой падпісаў...

Тамаш болей не апраўдваўся, адскочыў ад ложка, палажыў левую руку на стол, і, не паспела жонка крыкнуць, ажно тры пальцы, як адрэзаныя моркаўкі, адскочылі на памост.

Ад стуку сякеры прачнуўся Юрка. Скрыпка, якая вісела на сцяне над ложкам, жаласліва войкнула ўсімі чатырма струнамі...

— Пальцы вінаваты! — не сваім голасам крыкнуў Тамаш.

## 7
## ЯШЧЭ НЕ ЎСЁ ПРАПАЛА

Тамаш лячыўся ў фельчара з блізкага мястэчка. Рука загаілася.

— Яшчэ не ўсё прапала,— гаварыў Тамашу сусед Цыпрук,— такі самы бяздольны, як і Тамаш. Граць на скрыпцы, Тамашок, ужо не будзеш, але затое на панскіх спінах і галовах яшчэ лоўка зайграеш.

— Брыдка... брыдка..— шаптаў Тамаш у адказ.

— Што брыдка?

— Без віны злодзеем зрабілі...

— Які ж ты злодзей? Усе ж ведаюць, што ты не ўкраў. Ды і не брыдка было б, каб і ўкраў у пана мяшок мукі. Тваёй працы ў пана Чарнецкага на дзесяткі, на сотні пудоў. Паны ўсю нашу працу забіраюць, нашу кроў і пот п'юць, а ім не брыдка. Не будзь такой авечкай смірнай, Тамаш.

— А што ж мне рабіць?

— Знойдзецца праца,— усміхнуўся Цыпрук і глыбока зірнуў Тамашу ў вочы.

— Якая праца?

— А такая, што за твае тры пальцы тры галовы панскія павінны быць адцяты.

Тамаш задрыжэў.

— Навошта тры?

— Няхай будзе адна, калі ты такі міласэрны.

— Можа, лепш фальварак падпаліць? Я аб гэтым сам думаў.

— Ды не таргуйся са мною, відаць будзе, што і як.

У вачах і ў голасе Цыпрука было нешта такое цвёрдае і пэўнае, ад чаго Тамашу рабілася лягчэй. Ён з кожнай хвілінай адчуваў усё большую злосць на паноў. Гэта злосць надавала яму ўпэўненасць і рашучасць.

— Я сапраўды вінават,— думаў ён.— Вінават у тым, што дагэтуль падстаўляў свой карак пад панскі бізун. А каб хацеў...

І вялікі рой новых думак мітусіўся ў яго галаве. Кожнай косткай, кожнай часткай цела яшчэ адчуваў боль ад біцця Шпулькі і яго памочнікаў.

— Трэба будзе і Шпульку папяроскай пачаставаць...

Тады была ноч. Цадзіўся па шыбінах асенні дождж. Было цёмна, калі Цыпрук павёў Тамаша кудысьці...

— Там хлопцы ўсе адзін у адзін. Ты па гадах самы старэйшы будзеш.

— Пастараюся не падкачаць. Затое што старэйшы, дык больш здзекаў меў ад паноў ды багатых.

— І больш злосці павінна быць у цябе да іх,— дадаў Цыпрук.— Яшчэ да халадоў мы іх так нагрэем, што аж горача ім стане.

Яны ішлі вузкімі сцяжынкамі. Цыпрук вёў Тамаша наперад у невядомыя мясціны. У поцемках Тамаш па ранейшай прывычцы вадзіў правай рукою, нібы смычком па скрыпцы.

Тут ужо не патрэбны былі тлумачэнні Цыпрука. Тамаш сціскаў правую руку ў касцісты кулак, махаў ім у бок фальварка пана Чарнецкага, лаяўся моцнымі словамі.

— Вось гэту музыку я люблю — хваліў яго Цыпрук.

Потым яны ішлі моўчкі. Мокрыя галіны чапляліся за вопраткі. Лезлі ў твар, але было прытульна ў цемнаце і вільгаці: ні паліцыі, ні жандараў яны тут у гэткае надвор'е не сустрэнуць.

— Мы абсушымся там, ля вогнішча,— сказаў Цыпрук.— Не ўпершыню.

І нейкая захаваная зайздрасць з'явілася ў Тамаша да Цыпрука... Цыпрук усё ведае...

Звыкшыся з цемраю, Тамаш добра бачыў кожную зморшчыну на твары чарнявага здаровага Цыпрука.

...Два браты Цыпруковыя ў панскай турме загінулі. Вось чаму ён усё ведае...

Тамаш іх добра знаў: маладыя, адзін у адзін. Прыехала паліцыя, знайшла ў іх нейкія паперы і кніжкі.

Тамаша не так цікавіць, што сталася з братамі Цыпрука, як тое, што напісана ў іхніх паперах і кніжках...

...Відаць, нешта такое там напісана, чаго паны вельмі баяцца... Вось каб дастаць такія ж ды пачытаць. Але ўсё роўна чытаць не ўмею... А каб хацеў... Кажуць, што там, за мяжою, дзе гарапашныя вызваліліся ад паноў, ёсць школы для сталых людзей. Там усе вучацца чытаць і пісаць...

«Флірт Амура» дапамог.

Панна Ядвіга выйшла замуж за пана Ястрабінскага. Яе бацька, пан Чарнецкі, наладзіў вяселле на славу. Было шмат гасцей. Гралі местачковыя музыкі.

Фальварак пана Чарнецкага ніколі не бачыў такога бляску, не чуў такой музыкі, не меў такой радасці, як у гэты вечар.

Ніколі панна Анэля, сястра гаспадара, не мела такой згрызоты, як у гэты вечар: «жартачкі», Ядвіська замуж выходзіць, а яна, Анэля, у старых дзеўках астанецца.

— Слова гонару,— радаваўся пан Чарнецкі і круціў вусы,— мне весела, бо Ядвіська за такога пожонднэго замуж ідзе.

— Слова гонару,— скардзіўся ён,— мне смутна, бо з Ядвіськай прыйдзецца развітацца. Яна ж заўтра паедзе ў маёнтак пана Ястрабінскага,— у яго багаты маёнтак...

І радасць і сум гаспадара госці залівалі віном, заядалі смачнымі закускамі.

— Шчаслівы «Флірт Амура», слова гонару,— хваліўся пан Чарнецкі.— Шанцуе. Дай, Ядвіська, сюды гэты «Флірт Амура».

Панна Ядвіга прынесла бацьку з другога пакоя пачачку цвёрдых папяровых картак.

— Анэля! — клікнуў пан Чарнецкі.

Панна Анэля была ў другім пакоі, дзе раскладвала закускі на талерках.

— Анэля!! — крыкнуў ён не сваім голасам.

Яна прыбегла спалоханая, устрывожаная.

— Вось, Анэлечка, маеш «Флірт Амура»,— сказаў пан Чарнецкі.— Ядвісьцы ён ужо не патрэбен, слова гонару. Пазабаўляйся ім гадкоў з дваццаць, мо і ты выйдзеш замуж. Слова гонару.

Зарагаталі госці.

Панна Анэля з плачам выскачыла з салёну.

— Каб адчуваць радасць, трэба бачыць і сум,— сказаў пан Шпулька меладычным голасам.

І ён быў запрошаны на вяселле Ядвіські.

— Музыку, музыку! Слова гонару, марш! — крыкнуў пан Чарнецкі.— Тамаша сюды. Ён тады на балі граў, няхай цяпер хоць паслухае добрую музыку. Слова гонару, дарую яму тое, што муку ўкраў.

— Якраз трапіў на вяселле панскай дачкі без запрашэння,— пачуў пан Чарнецкі голас Тамаша.— Дзякую за дабрату вашу. Я чуў, што вы мне даруеце за муку.

— Фу, д'ябал, як з-пад зямлі вырас,— спалохана прамармытаў пан Чарнецкі.

Госці ахнулі ад дзіва і страху.

Разам з Тамашом у пакой увайшло яшчэ чалавек

дваццаць. Усе мелі пры сабе стрэльбы і рэвальверы. Усе былі ў масках на твары, апрача Тамаша.

— Рукі ўгару! — закамандаваў адзін з узброеных людзей.

Усе паслухаліся.

— А вы, музыкі, грайце. Няхай Тамаш паслухае. І ён нядаўна граў гэтаму пану.

Музыкі зайгралі марш.

У гэты час дваццаць рулек рэвальвераў вачыма смерці глядзелі на гасцей...

Старанна гралі музыкі. Дрыжэў у тонкіх пералівах альт. Спрытна бегалі пальцы флейтыста. Кантрабас грозна грымеў. Бравурны марш месцамі быў фальшывы, бо музыкі спалохаліся металёвых вачэй смерці.

І марш, замест вясёласці, напамінаў урачыстасць хаўтураў.

Тамаш некалькі хвілін стаяў зачараваны. Захапленне музыкай і вялікая роспач адлюстроўвалася ў яго вачах у адзін і той самы час...

Ён трымаў у правай руцэ рэвальвер, пачаў ім махаць перад музыкамі, як дырыжорскім кійком. Ад гэтага «кійка» музыкі і госці стараніліся ў бакі,ківаліся, нібы тонкія галінкі ад ветру...

— Дазвольце мне, таварышы, выпіць з панам Чарнецкім і з маладымі! — звярнуўся Тамаш да ўзброеных людзей.

— Дазваляем!! — пачулася дваццаць галасоў, нібы вайсковая каманда.

Спакойна Тамаш наліў у кілішкі чырвонага віна, па-гаспадарску паднёс пану Чарнецкаму, панне Ядвісьцы і пану Ястрабінскаму.

— Піце! — крыкнуў ён грозным голасам.

Раптам вочы Тамаша засвяціліся радасцю. Ён угледзеў між гасцей Шпульку...

А дваццаць узброеных таварышаў Тамаша трымалі рэвальверы на прыцэл і маўчалі. Яны застылі ва ўрачыстых позах, нібы каменныя статуі.

— Няма чаго непакоіцца,— як бы з прамовай звярнуўся да гасцей Тамаш.— Сядзіце спакойна, як у сваёй хаце, як сам пан Чарнецкі, любыя госці... На двары яшчэ трыццаць нашых малайцоў. Яны сцерагуць кожны куточак пана Чарнецкага. Ніхто больш не адважыцца чапаць панскай мукі... А вось перад панам Шпулькай я вінаваты. Ён мне пазычыў папяросіну...

Раздаўся стрэл.

Пан Шпулька, трымаючыся рукою за грудзі, апусціўся пад стол.

— Яму, відаць, галава закружылася ад маёй алавянай махорачкі,— вытлумачыў гасцям Тамаш.

Некаторыя з гасцей, загіпнатызаваныя страхам і жудасцю, ледзь адвярнулі вочы ў бок акон. Чырвоны водсвет палыхаў па двары. Асвяціў дзядзінец, вызначыліся пад вокнамі рабіны з чырвонымі кутасамі ягад...

— Супакойцеся, вяльможныя госцікі,— зноў тлумачыў Тамаш.— Гэта наша люмінацыя. Будынкі пана Чарнецкага вельмі сухенькія. Гараць, як запалкі. А нашы хлопцы любяць, каб святло было. Вясёлыя хлопцы... Ух, якія вясёлыя!

# ТАВАРЫШ МІНКІН

## ДЗВЕ ПАМЫЛКІ

Над квадратамі дамоў разгортваецца марозная і гулкая ноч.

Звініць шкло працяглым басавым водгуллем гудкоў.

...Каб не спазніцца.

На ўскраінах шырацца і высяцца аграмадзіны-муры. Над іхнімі высачэзнымі вежамі-трубамі кучаравіцца рыжы дым.

Дробяцца гукі ля чуткіх акон.

...На змену!

Драўляны асабняк з вялікімі вокнамі абкружаны садам. Яблыні і грушы ў белым пуху зімы. На дрэвах цяпер толькі два колеры — чорны і белы. Вялізныя шыбы ў тонка льдзяных гафтах: незвычайныя жывёліны, птушкі, расліны. На іх — месячныя кроплі.

У былых гаспадарскіх пакоях і пакойчыках жывуць людзі з «тых» (паводле азначэння ранейшага гаспадара). Адзіночкі студэнты і дзве працоўныя сям'і занялі залу, сталоўку, кабінет... Выціснулі «яго». Ён астаўся ў ранейшай спальні. Можа, і зусім вызвалілі б ад «яго» гэты асабняк, але ў сына-спеца знайшліся там-сям свае людзі...

Бацьку за пяцьдзесят год. Пры людзях удзень яму не больш сарака: падголены, ружовы, робленая акторская вясёласць. Цяпер, уночы, вызначаюцца пад вачыма мяшкі, зморшчыны каля губ, рот адкрыты, і абломкі залатых зубоў зацягнуты мутнаватым налётам слізі. Тут можна даць шэсцьдзесят год. Праз сон лянівы прыпухлы твар ледзь прыкметна абвастраецца, губы сціскаюцца. Не відаць абломкаў залатых зубоў. Ноздрамі ловіць паветра. Прытоеная энергія лезе наверх. Ён напружвае сківіцы да хрусту. Валасатыя рукі высунуліся з-пад старой атласнай коўдры. Далоні — у кулакі. Злосць і імпэт. Зараз

ірванецца, як раздражнены звер у клетцы, учэпіцца зубамі ў жалезныя пранты...

Крэхча, расплюшчвае вочы — шэрыя шкелкі — і падымаецца з ложка.

Шыбы дрыжаць ад фабрычных гудкоў...

Хутка апранаецца. Спешка. Калоша штаноў вывернута — злуецца. Шкарпэтка пад ложкам — бармоча лаянку. Бягом на кухню.

На другім ложку пад такой жа атласнай коўдрай з фрэнзлямі спіць жонка. Хударлявы твар. Чорныя валасы над выпуклым лобам. І грэцкі нос. На твары выраз пакрыўджанай каралевы. Захаваная надзея.

Яна праз сон адчувае, што другі ложак пусты. Не чуваць раўнамернага дыхання мужа. Павальнела ў пакоі. У неспакоі нервова пераварочваецца на другі бок.

У гэты час у агульнай кухні ён апрысквае твар і рукі халоднай вадой з-пад крана. У шэрых вачах гарачы блеск. У руках — нецярплівасць і паспешнасць.

На аграмадным кухонным стале — два прымусы, талеркі, міскі, шклянкі. Ён выціраецца ручніком, старанна трэ да чырвана твар, глядзіць на стол — і нібы нічога не бачыць або бачыць на голай сцяне ім самім прыдуманы прастор. Вочы лунаюць за рэчамі на стале, за пустой сцяной недзе далёка-далёка. У іх гнеўны бляск, прагнасць, рашучасць і непрытомная ўзбуджанасць.

Нешта сам з сабою гаворыць. Перамешка басу з тонкімі хрыпкамі. Гукі з горла вырываюцца, як з сапсутага грамафона.

— Хутчэй, хутчэй, каб не спазніцца!

Ён маладзее ў твары. Ружовыя шчокі. Махае валасатымі рукамі. На адным з пульхных падагрычных пальцаў масіўны пярсцёнак з рубінам. Граюць крывавыя іскры.

— Ну і задам, калі хто спозніцца! У той жа дзень выкіну! Люблю парадак! Парадак!

Жудасць у голасе. Пад ноткамі суму і роспачы — гнеў і пагроза. Вочы расшыраны. У зрэнках востры бляск.

— Гультаі! Быдла! Так прыцісну, аж сок з вас пацячэ!

Вярнуўся ў спальню. Апрануў піджак, аблезлае старое футра, зашмальцаваную каракулевую шапку.

— Кашнэ дзе падзелася? Я горла прастужу!

Туды і сюды ўюном па спальні. Усхапілася жонка. Села ў ложку. Касцістай далоняю працерла вочы.

— Што? Га? Куды?

Спалохалася. Слёзы ў чорных вачах, у надломаным голасе.

— Макс... Макс... Што з табою? Апамятайся... Сорам перад людзьмі. Пачуюць...

У адной кашулі падскочыла да дзвярэй. Замкнула. Выняла ключ.

— Ты забываеш, што ўжо дзесяць год, як «яны» фабрыку забралі. Зноў нервы трэба лячыць. Меланхолік... Зноў, як у мінулым годзе, у дом для вар'ятаў пападзеш...

Лямантуе над ім. Упрашвае.

У Макса пацее лоб.

— Ах, калісьці... калісьці...

Губы мармычуць самі сабою. Вочы патухлі. Рукі аслаблі. Толькі рубін блішчыць на пярсцёнку ранейшым бляскам.

— Ах, калісьці, калісьці...

Абломкі залатых зубоў не блішчаць.

Жонка распранае яго. Як малое дзіця. Укладвае на ложку, пільна ўхутвае ў старую коўдру.

— Макс, дзе тэрмометр?

— У шуфлядзіку,— адказвае ён голасам чалавека, які толькі што з даху зваліўся.

А за тонкаю сценкаю два рабфакаўцы. Там усё чуваць. Яны ледзь стрымліваюць свой смех.

Часта па начах чуюць яны такія маналогі «гаспадароў».

Саламон прачнуўся.

Каб не разбудзіць дзяцей электрычным святлом, ён апрануўся папацёмку. З чаравікамі ў руцэ, у адных шкарпэтках, каб шуму не рабіць, выйшаў у кухню, соваўся каля вялікай печы. У кухні засвяціў электрычнасць. Выняў гадзіннік з кішэні. Тры хвіліны на трэцюю.

Абуўся ў святле, запаліў прымус. Пад гуд прымуса памыўся.

Кожная хвіліна мела ў яго сваё строгае прызначэнне: да паловы трэцяй выпіць гарбаты, адзець чорную «кожанку», памятку грамадзянскай вайны, замкнуць дзверы «сваім» ключом і пайсці. Да трох трэба паспець на завод.

Так па два разы ў кожную пяцідзёнку.

Пакуль закіпіць вада ў бляшаным імбрычку, працягнецца дзесяць хвілін. Гэты «вольны» час ён заўсёды дзяліў на дзве часткі — пяць хвілін на агляд сям'і: зноў вобмац-

кам каля печы ўваходзіў у спальню, насунуўшы раней галошы на чаравікі, каб ціха ступаць. Абмацваў асцярожна ложкі дзяцей, ухутваў іх коўдрачкамі. Другія пяць хвілін — на падрыхтоўку ежы да гарбаты. Потым — само «чаяпіцце».

Усё гэта Саламон любіў рабіць без спешкі. Прыемна часам піць гарбату без «сямейнага» шуму. Чулая цішыня ловіць кожны рух. Пастаўленая асцярожнаю рукою талерка ўсё ж шэргае, шклянка ледзь-ледзь звініць, нібы пчала крыллем.

На гэты раз, яшчэ пры гарбаце, Саламон успомніў музыку, якую чуў тры дні таму назад у клубе. Прадумваў мелодыю — вельмі добра выходзіць. Заспяваў уголас, калі ўжо выйшаў на двор.

— Вечна гаспадар фортку запірае з вечара!

Зазлаваўся.

— Завёў чараду курэй і дрыжыць за сваё дабро!

Жыў у прыватным доме.

Часта, калі позна ўночы вяртаўся з паседжання ячэйкі або з клуба, прыходзілася доўга стукаць, пакуль хто адчыніць.

Высунуўся на вуліцу і пайшоў павольным крокам, каб зморaным не прыйсці на хлебазавод.

Пасля ранейшых гудкоў пацішэла.

Мароз скрыпіць пад нагамі. А ноч сіняя-сіняя з сіваю шэранню на дротах, над вуліцамі...

Саламон высвістваў мелодыю. Ішоў у тахт пад свой уласны марш.

...Так прыгожа змрочная сінь зімовай ночы...

Горад разгортваецца перад Саламонам у снежнай дрымоце. Нідзе ні душы.

...Трохі прыкра.

Насвіствае і думае ў адзін і той час...

...Трэба было паправіць тратуар на гэтай вуліцы. Новы мост... Толькі што гаварыць аб гэтым пачынаюць...

Глядзіць на старую драўляную хатку гаспадарчым вокам.

...Даўно скінуць пара,— за ёй жа новы каменны дом... Мне, члену гарсавета, варта на адным з паседжанняў сказаць.

Замяўкаў жаласліва адзінокі кот. Непрыемна. Кот туліцца да ног, мурлыча.

...А вось новы пасёлак.

Некалькі зграбных карпусоў ужо скончаны. Тут

жывуць рабочыя. Ад акон — цёплы прытул. У некаторых вокнах мігаціцца прыжмуранае святло. Пасмы святла заблудзіліся на аснежаным пляцы. Саламон на хаду туды ўглядваецца.

...Цяплей, весялей...

Карпусы лезуць угару, разыходзяцца ўшыркі. Вось два нясконччаныя будынкі. Праз сетку аснежанага рыштавання цямнеюць прабоіны акон. Сінія цені.

...Закіпіць тут праца вясною... Эх... На будучую зіму і я тут буду мець кватэру. Цяперашняя — цесная, халодная. А як напаліш — чадна і душна. Жонка спакою не дае...

Саламон паморшчыўся.

Праз некалькі хвілін дайшоў да завода. Увайшоў. Зняў вопратку ў раздзявальні каля ваннай. Здзівіўся, што яго шафа занята. Заняў іншае месца. Памыўся. Надзеў белую вопратку. Прывычным крокам да сваіх пячэй.

Светла. Цёпла. Чыста. Пах печаных булак. Прыемнасць расплылася па твару. Пасля марозу і цёплага душу ў ваннай, лёгкая палатняная вопратка, цеплыня і святло напамінае прытульнасць курорта.

Раптам — здзіўленне ў вачах. Сухарлявая фігура — знак пытання:

...Што за ліха?

Юзік тупаецца тут, бялявы Юзік. У яго валасы, бровы, вусы,— нібы вечна мукою апыленыя. Ніколі пыл не сцірае.

Саламон збянтэжыўся.

...Чаму гэта мне раней не сказалі, што Юзік будзе на маім месцы?

Злосць на фабзаўком, на дырэктара.

...Што тут здарылася?

А Юзік?

Спачатку зусім не заўважыў. А як угледзеў Саламона, дык у светлых вачах запалілася здзіўленне і неспакой.

— Няўжо ж цябе адтуль назад неаплачанай пасылкай прыслалі?

Ноткі трывогі ў голасе.

— Як прыслалі? Ах ты, ліха!

Саламон ляснуў сябе абедзвюма рукамі па баках. Выставіў на Юзіка малажавы, востры твар з чорнымі падстрыжанымі вусікамі. Крыкнуў нараспеў у смешнай роспачы:

— Гэта ж я забы-ы-ыўся!

Абодва зарагаталі гучным сакавітым смехам — з поўных грудзей.

Прыйшлі рабочыя з іншых аддзелаў.

— Наш вылучэнец вярнуўся!

У Саламона такі выгляд, нібы яго цапнулі пры злоўчынку.

— Не жартачкі, столькі часу з вамі працаваў...

— Прыходзь да нас часта, таварыш інспектар!

— Нясмачна на новай працы? — запытаўся Юзік.

Саламон трохі паморшчыўся:

— Нязвычна...

— Ну, ну, ты моцна трымай сцяг нашага завода ва ўстанове! Як прыйдзеш у клуб, падрабязна раскажаш, як і што. А пакуль што марш! Глядзі толькі бюракратаў трохі пачысці. Марш, каб раніцай на службу не спазніцца!

Па дарозе дамоў Саламон у першы раз за ўсе гады пашкадаваў, што жонку не разбудзіў. Яна ж бы яму напомніла, што ён ужо не пекар, а фінінспектар...

## СВАЯК І НАГАЙКА

Саламон быў рад, што жонка не чула, як ён вярнуўся.

...Спакойны ў яе сон. Не тое што ў мяне...

З малых год ён прывык спаць удзень, а ўночы працаваць. Да рэвалюцыі 1917 года рэдка калі бачыў дзень. Дні для яго тады не існавалі. Яны здаваліся чужымі, нясвойскімі. Дзённы тлум, сонечнае святло былі для яго недасяжнай марай. Калі часам ахвяроўваў дзённы сон на прагулку, дык, зmoраны ад начной працы, швэндаўся дрымотна і не ведаў, што з сабою рабіць... Вочы сплюшчваліся самі сабою, векі здаваліся пудовымі гірамі. Ён грэўся на сонцы дзе-колечы на лаўцы каля местачковай хаты і праз дрымоту бачыў, як развозяць і разносяць з «яго» пякарні тавар: булкі, абаранкі, хлеб.

Затое ўночы ён жыў. Разам з ім жылі накаленыя печы, мяшкі з мукою, велізарныя дзежы з рошчынаю, груды цеста і рознага гатунку печыва на бляхах, дошках і падлозе. Уночы Саламон спрытна рухаўся.

З дванаццаці год яго, сірату, прыняў у пякарню багаты сваяк. З таго самага часу ён атрымліваў шмат зубатычын ад гаспадара-сваяка, ад майстроў і ад старэйшых людзей наогул. Білі хлопчыка за ўсё, што толькі прыхо-

дзіла на думку: кошыкі з булкамі не разнесены па крамах, у адзін і той самы час мука не высыпана з мяшкоў, дроў не наношана на суткі, піва і папяросы майстрам упору не дастаўлены, ён не паслухмяны. За розныя злоўчынкі старэйшых даставалася яму. Проста біць не паспявалі... На лобе ў яго яшчэ па сягоннявшні дзень застаўся шрам ад лапаты, якой майстра спрабаваў цвёрдасць яго чэрапа.

Саламон стараўся цяпер заснуць, бо ў восем гадзін раніцаю трэба ўстаць, каб паспець роўна ў дзевяць на новую, непрывычную для яго працу ў Акрфінаддзеле.

Думкі аб старых гадах лезлі ў галаву і не давалі заснуць. Глядзіць на акно каля ложка на марозныя ўзоры...

— Шлёмка! Шлёмка! Чаго дрыхнеш?

Не паспеў Шлёмка прачухацца, як нешта цвёрдае, як малаток, грукнулася аб яго спіну: кулак майстра.

Шлёмка ўскочыў з мяшка, на якім звычайна спаў.

Ён заўсёды стараўся ў такіх выпадках не плакаць... Майстар толькі за адно гэта хваліў Шлёмку, бо вельмі слёз не любіў... Не плакаць пры біцці было адзінай гордасцю Шлёмкі. Ён сціскваўся ў камок і маўчаў...

— Збегай да Мендаля ў краму і прынясі папярос!

Хлопчык працёр вочы і жвава выскачыў на двор. Пры гэтым успомніў, што ў іншых прадпрыемствах мястэчка адбываецца забастоўка. Гаспадар-сваяк, у каго ён жыў і харчаваўся, не выпускаў яго, Шлёмку, гуляць, сачыў за ім. Часам запіраў хлопчыка ў пякарні, каб не пабег да «бунтаўшчыкоў»...

Нешта незвычайнае ўгледзеў Шлёмка на местачковай вуліцы: гарцуюць коннікі з нагайкамі ў руках...

Пасля ўжо ён даведаўся, што гэта казакі, што прыехалі ўночы на «ўсмірэнне» местачковых «бунтаўшчыкоў» з скуранога завода, лесапілкі і на задушэнне «бунтаў» па вакольных маёнтках і вёсках.

Казакі гікалі, свісталі, спявалі, імчаліся галопам па вуліцах і закавулках. Коннікі і коні былі разгарачаныя, імпэтныя.

У мястэчку — сполах. Рэдка дзе пабачыш местачкоўца. Мабыць, з тых, хто, як і Шлёмка, не ведаў, што робіцца на вуліцы...

Шлёмка ўвесь абелены мукою. Трэцца каля сцен, каб хутчэй папасці ў краму Мендаля. Страшна... Але яшчэ страшней не прынесці папярос майстру...

Не агледзеўся, як нешта свіснула над яго галавою і агнём апаліла карак...

Казацкая нагайка.

Аднак ускочыў у краму і купіў пачку папярос. Толькі ў пякарні агледзеўся, што ўвесь абліты крывёю...

— Казак пасвянціў? — запытаўся майстар.— Горш бывае. Табе яшчэ пашанцавала... Некалькі забастоўшчыкаў насмерць забіты нагайкамі.

У пякарню з'явіўся рыжабароды гаспадар — рэб Ёша. Вочы блішчаць ад затоенай радасці.

— Хлопцы! — у яго ўрачысты голас.— Нам пашанцавала! Казацкі сотнік загадаў пячы белыя пірагі для казакаў. Глядзіце ў мяне — старайцеся! Выпечка павінна быць добрая... Дам на піва!

У пякарні два майстры і насаты Шмуйла, таксама сваяк гаспадара.

Шлёмка, хоць яму баліць шыя ад нагайкі, прыглядаецца да ўсіх. На твары Шмуйлы няшчыры выраз радасці ад слоў гаспадара. Хлопчык гэта адразу пазнаў. Майстры спакойныя.

— Добра,— кажа старшы майстар пасля кароткай урачыстай спынкі,— пастараемся! З прычыны прыходу казакаў пашанцавала не толькі гаспадару — пашанцавала і Шлёмку.

— Ну?! — дзівіцца гаспадар.— Ён зухаваты хлопец.

Шлёмка сцяў зубы. Майстар смяяўся. Агідны ў яго смех,— бязлітасны, звярыны. Доўгія, завостраныя зубы блішчаць пажоўклым водсветам. Ён заўсёды стараецца ўгадзіць гаспадару за лішнія траячкі.

— Так. Зухаваты... Яго толькі адзін раз казак нагайкай свіснуў.

Гаспадар гмыкнуў, пацерабіў рыжую бараду і глыбакадумна заўважыў:

— Магло быць і горш. Пастарайцеся. Ужо я вас не забуду!

Выйшаў.

Старанна ўзяліся за працу. Пірагі павінны быць добрыя...

Карак Шлёмкі рассечаны нагайкай. Ён не можа павярнуць галавы. Яму цяжка працаваць.

Пірагі для казакаў ужо сядзелі ў печах, калі старшы майстар звярнуўся ўночы да Шлёмкі:

— Ты глядзі ў мяне! Роўна ў тры гадзіны вымеш пірагі. Глядзі толькі на гадзіннік! Я пайду спаць.

— Добра!

Хлопчык зірнуў на гадзіннік, было пяць хвілін пасля двух.

Строга і роўна тукаў вялікі насценны гадзіннік у пякарні. Марудна пасоўваўся па беламу цыферблату чорны мінутны паказальнік. У апошнія часы часта прыходзілася Шлёмку выконваць такія даручэнні майстра — вымаць печыва з печаў. Такі «гонар» ён меў толькі пасля двух год працы. Гадзіннік яму добра знаёмы. На памяць ведае ўсе сляды мух на цыферблаце. Часта дзеля вялікага старання не адрываў вачэй ад сталёвых вусоў гадзінніка. Заўважваў іхняе ледзь прыкметнае пасоўванне, лавіў вухам кожны хрып гадзінніка. Заўсёды добрасумленна, хвіліна ў хвіліну, вымаў «тавар» з печы.

Глядзіць Шлёмка на гадзіннік і галавою павярнуць не можа. Баліць карак ад нагайкі. Калі трэба паглядзець убок, ён увесь паварочваецца, нібы на яго галаве келіх з дарагім пітвом. Сцяў зубы, і слёзы на вачах выступілі. Нешта ўнутры закіпела. Нягледзячы на боль, з'явілася ў руках новая сіла. Калі гадзіннік паказаў палову трэцяй, Шлёмка завінуўся і выняў пірагі з печы.

— Гэта за нагайку! — сказаў ён уголас.— Ліха іх не возьме, калі на паўгадзіны раней. Можа, хоць на жываты казакі захварэюць...

Нецярпліва чакаў Шлёмка, што з гэтага будзе. Нават пра боль трохі забыўся.

Гісторыя пачалася ўдзень.

Прыбег казацкі сотнік. Нарабіў крыку, што сырым цестам гаспадар хоча іх карміць. Збянтэжаны рыжы рэб Ёша звярнуўся да майстра. Майстар да Шлёмкі...

«Сваяк» Шлёмкі — яго гаспадар — зняў шапку і звярнуўся да казацкага сотніка з вялікай просьбаю:

— Пане начальнік. Ваша высокаблагароддзе. Адлупцуйце яго! Гэта ён вінават!

І паказаў рукою на Шлёмку.

Хлопчык да таго спалохаўся, што не мог крануцца з месца, не мог нават войкнуць.

Пасля такой шчыра-патрыятычнай просьбы сотнік зірнуў на гаспадара пякарні лагодным вокам.

— Добра! — сказаў ён.— Вось гэта мне падабаецца! Так і трэба! Малайчына гаспадар! Відаць, ты — наш чалавек! Прышлю зараз двух казакаў. Яны выканаюць тваю просьбу.

Гаспадар запёр Шлёмку ў каморцы, каб не ўцёк да прыходу казакаў... Ад вялікага сполаху хлопчык не супраціўляўся. Страх у яго мінуў толькі ў каморцы, калі астаўся сам-насам.

— І чаго я спалохаўся? — сароміў ён самога сябе.— Каб ты запрапаў, мой сваяк, разам з тваімі пірагамі і казакамі.

У гэтую хвіліну яму здавалася, што ён надзвычайна моцны і смелы. Нядоўга думаючы, выбіў акно, выскачыў у агарод і наўцёкі.

Бяжыць па капусце, па бураках, па бульбе, зямлі пад сабою не чуе. Не адварочваецца назад. Куды? — сам не ведае... Зямля пахне цёплым белым хлебам...

...Трэба шукаць забастоўшчыкаў...

Многіх пакалечылі, звязалі па руках і кудысь пагналі. Некаторыя тут хаваюцца.

Хацеў цяпер хоць аднаго з іх сустрэць, каб сказаць яму ўголас:

— У такой справе, як забастоўка, няма сваякоў... Я праклінаю гаспадара-эксплаатататара, ці ён сваяк, ці нават родны бацька! Мне ўсяго чатырнаццаць гадоў... Я...

Бяжыць Шлёмка па палях да ельніка. А калі трэба павярнуць галаву ўбок, ён увесь паварочваецца: баліць карак ад казацкай нагайкі...

— Саламон! Што ты так крычыш?

Жонка будзіць.

— Уставай! Хутка восем. Табе ж у дзевяць на службу. Табе нешта прыснілася?

## ВЫ ХОЧАЦЕ АДРАЗУ, ТАВ. МІНКІН...

У першыя дні новай працы Саламона суседзі па кватэры сустракалі яго з кплівым віншаваннем, з усмешкай. Затоеную зайздрасць яны маскавалі анекдотамі аб вылучэнцах...

Па-рознаму моршчыліся твары, разнастайныя выразы былі ў іхніх вачах пры сустрэчы з Саламонам. Ён адмахваўся ад іх, як ад надакучлівых мух. Злаваўся на жонку.

— Навошта раструбіла на ўсю вуліцу? Маеш ад гэтага прыемнасць... Мяшчанка!

— Гэта ж не сакрэт, я думаю.

Яна аглядала яго так, нібы першы раз угледзела.

— Ад розных тваіх папер і кніжак кішэні адтапырыліся, як торбы. Брыдка... Купіў бы партфель...

— Перастань! Не лезь з глупствам! Расказала ўсім суседкам. Падумаеш, ёсць чым ганарыцца!

З непрыемным адчуваннем Саламон пайшоў на працу. Яго намеснік, чалавек з вышэйшай асветай, замест «тав. Мінкін» пачаў яго называць Саламонам Якаўлевічам. Ніколі ў жыцці да яго так не звярталіся. Гэта яму непрыемна, як гутарка жонкі пра партфель...

Намеснік выгаварваў «Саламон Якаўлевіч» спецыяльным голасам — прыдушаным і напружаным. Трос русаю бародкай, бліштэў шкелкамі акуляраў. Бляскам акуляраў засланяўся смяшок у вачах... За дзень працы нямала часу выходзіла ў яго на паўтарэнне «Саламон Якаўлевіч». Як бы практыкаваўся спецыяльна ў вымове гэтых слоў, шліфаваў імі, нібы бруском, свой язык...

Саламон кожны раз адчуваў сябе нядобра.

«...Бюракратам, панком хочуць мяне зрабіць. Насміхаюцца...»

Кожны раз сахарынная ўважлівасць намесніка апляатала яго млявасцю, нясмеласцю. Воля мякчэла, думкі зацягваліся нейкім туманам. Заўсёды ён прывык да «ты», не любіў цырамоній. На фронце не быў ні палахлівым, ні канфузлівым, а тут — канфузіцца...

— Саламон Якаўлевіч!

— Саламон Якаўлевіч.

— Саламон Якаўлевіч...

З усіх бакоў.

Ён уздрыгваў. Нарэшце не выцерпеў і звярнуўся да намесніка:

— Таварыш Гарбулёў! Папрашу вас называць мяне проста «тав. Мінкін». Не прывык да такіх далікатэсаў...

Было нешта такое ў яго тоне, ад чаго Гарбулёў пабляднеў, нячутна скрыгануў зубамі і працадзіў:

— Хорошо...

Пасля гэтага Саламон заўважыў, як Гарбулёў ходзіць ад стала да стала і нешта нашэптвае працаўнікам.

Такія абставіны прымусілі Саламона быць пастаянна насцярожаным і наглядальным. У некаторых вачах Саламон заўважыў кплівасць і тую самую ўсмешку, як у суседзяў пры віншаванні яго годнасцю інспектара.

...Лягчэй заваёўваць варожую пазіцыю на фронце,

чымся гэты папяровы фронт,— думаў ён.— Але вазьму гэты фронт, што б тут ні было!

Магчымасць новага гатунку змагання надавала яму бадзёрасці.

Гарбулёў замкнуўся ў самім сабе. Падносіў на падпісанне Саламону розныя акты і пратаколы.

— Таварыш Гарбулёў! Вы мне раней, чым я падпішу, растлумачце — у чым справа!

— Доўга гаварыць... А тут новыя справы наступаюць. Няма калі.

З гэтымі тлумачэннямі ў іх адбываліся пастаянныя непаразуменні. Кожны раз Саламону прыходзілася дабівацца іх з вялікай настойлівасцю. З паўслова Гарбулёва, выцягнутага нібы абцугамі, ён стараўся ўлаўліваць галоўны сэнс розных спраў. І кожны раз да падпісвання Саламон устаўляў свае папраўкі. І гэта, нягледзячы на тое, што Гарбулёў стараўся як найменш тлумачыць, а вымушаныя тлумачэнні даваць так, каб «начальнік» не зразумеў...

Саламон вельмі добра разумеў мэту такой «педагогіі», але адносіўся настарожана і цярпліва, чакаў, што будзе далей. Такія фокусы пачалі яго інтрыгаваць і цікавіць самі па сабе.

А па розных пакоях, па ўсіх сталах скрыпелі пер'і. Інспектары, дзелаводы, дзелаводкі, агенты, рэгістратары, машыністкі, сакратары — вялікая сям'я ў сто чалавек — нахіляліся над паперай, над кнігамі, кніжачкамі, бланкамі і выседжвалі, выстуквалі, выскрыпвалі лічбы і словы, словы і лічбы... Над пісанінай горбіліся вострыя і круглыя плечы, былі нацэлены ручкі і насы, сляпіліся вочы. Рознакаляровым атрамантам гафтаваліся і вышываліся на паперы рэзалюцыі, пастановы і падлічэнні, падагульненні. Выраслі лічбы ў калоны, у клеткі, у розныя фігуры.

Па ўсіх пакоях збіраліся кучы спраў, падшытых пратаколаў, кніг і кніжак. Усё гэта ляжала гарамі ў шафах, у архіўным пакоі, як у бібліятэцы.

За тонкай перагародкай з фанеры стукаталі пішучыя машынкі.

Разнастайнага выгляду і стану людзі прыходзілі і выходзілі. Станавіліся ў чаргу. Хто стрымліваўся, хто клапатліва гаварыў, тлумачыў, крычаў, хто спрачаўся, хто літасці прасіў. Падобныя адны да адных былі справы і скаргі наведвальнікаў.

— Чаму так многа плаціць?..

Нездарма былі навалены горы пісанай паперы з калонамі лічбаў. Нездарма кожны дзень дзесяткі і сотні заяў прыносіліся і прысылаліся. Нездарма наладжваліся бягучыя кароткія нарады. Нездарма пісаліся на заявах сінімі алоўкамі, чырвоным атрамантам наўскосныя, перакрыжаваныя ўпоперак рэзалюцыі.

— Чаму так многа плаціць?..

Стагналі крамнікі, папы, рабіны; наракалі сальнікі, мяснікі, домаўласнікі, рынчныя перакупшчыкі, бабы з кошыкамі. Нэпманы корчыліся, як многагаловы змей:

— Чаму так многа плаціць?..

Жывой рэчкай плыў люд да розных інспектароў, да агентаў, да справачнага стала. Нюхаў чаргу за чаргой, дабіваўся гутаркі, лез напралом на розных мовах:

— Чаму так многа плаціць?..

Спачатку Саламон думаў, што ніколі не разбярэцца ў гэтым моры папер, людзей, скаргаў, што не намацае галоўнага нерва фінансавай справы дзяржавы, што заблудзіцца, загубіцца ў гэтым змаганні з рэшткамі буржуазіі.

...Лягчэй булкі пячы, лягчэй было на дзянікінскім фронце — усюды лягчэй...

Ён прыглядаўся з нейкім жахам да жывой рэчкі людзей.

Частку гэтай рэчкі пераймаў яго намеснік Гарбулёў, пераймаў, стрымліваў, як грэбля ваду, і прапускаў тоненькімі струменнямі сваёй гутаркі, нібы ваду праз пальцы. Яго голас быў то мяккі і лагодны, то гнеўны і пагрозны: пераліваўся ў розныя адценні красамоўства і развагаў, быў хісткі, нібы тонкія лазовыя віткі. Адным вокам прыглядаўся пры гэтым да Саламона. Адным вухам лавіў Саламонавы простыя заўвагі з простым і ясным сэнсам:

— Правільна.

— Няправільна.

— Не.

— Так.

На гэта Гарбулёў кідаў часам маленькія пырскі слоў у бок Саламона:

— Пачакайце!

— Зараз!

— Вы яшчэ не ведаеце!

— Потым растлумачу!

Калі Саламон так некалькі дзён падрад «перашкаджаў», дык Гарбулёў пакруціў машыну ў адваротны бок: накіраваў жывы ланцужок з рознакаляровымі вачыма, з

рознагукавымі галасамі і аднолькавым запытаннем «чаму так многа плаціць?» да Саламона — да «таварыша інспектара». Гэты выраз ён браў у чужаслоўе. Рабіў націскі на гэтых словах, каб надаць спецыфічнае значэнне вылучэнцу... Ён стараўся збянтэжыць Саламона рознымі спосабамі, скампраметаваць яго перад людзьмі. На гэта ў Гарбулёва было шмат кручкоў:

Саламон кепска ўладае расійскай мовай.

Не ведае матэматыкі.

Не ведае такту.

Слаба знаёмы са справай.

Але дзіўная рэч — Саламон нічога гэтага не сароміўся і не баяўся. Не ўваходзіў у доўгія гутаркі на агульныя тэмы.

Калі прыходзілася мець справу са складанымі рахункамі, Саламон кожны раз проста загадваў свайму намесніку рабіць іх... Яшчэ больш дзіўна было Гарбулёву, што Саламон заўсёды трапляў якраз у самае нутро справы. Ведаў, каму трэба павялічыць падатак, каму зменшыць, а калі сумняваўся, дык не ленаваўся схадзіць да таго дадому і самому даследаваць...

Гарбулёў кусаў губы і адчуў для сябе небяспеку, мо ў першы раз за ўвесь час працы ў гэтай установе адчуў над сабою ўпэўненую і цвёрдую руку...

Калі часам здаралася Саламону чаго-небудзь не ведаць, Гарбулёў радаваўся і стараўся схаваць гэту радасць за шкелкамі акуляраў...

— Добра, тав. Мінкін,— гаварыў ён кожны раз.— Дайце я буду пісаць матывіроўкі, а вы стаўце толькі подпіс.

— Але ж мне трэба навучыцца.

— Вы хочаце адразу, тав. Мінкін?.. (Гарбулёў мякка ўсміхаўся.) Я ўсё жыццё вучыўся, увесь час працую, а вы — адразу! Пачакайце...

— Няма калі чакаць!

Скончылася тым, што Саламон яму дыктаваў, а той пад дыктоўку «шліфаваў» матывіроўкі...

Цямнелі вочы Гарбулёва пад шкелкамі акуляраў. На лбе збіраліся цені. Значэнне гэтай мімікі Саламон добра разумеў.

«Кіраўніцтва пачынаецца не на жарт»...

У Гарбулёва апусціліся рукі. Яму здавалася, што вылучэнец грабіць яго адукацыю, забірае ўсё яго дабро і пакідае яму пустую хату. Ад бяссільнай злосці ён не ведаў, што рабіць. Прыдумваў розныя спосабы помсты. Калі да

Саламона прыходзілі наведвальнікі-інтэлігенты — з асяроддзя Гарбулёва — дактары, зубныя ўрачы, нават папы, дык Гарбулёў ім падміргваў. Саламон нібы не заўважаў гэтых падміргванняў, але разумеў іхні сэнс:

«Добрыя могуць быць парадкі, калі грубіяны кіруюць»...

Гарбулёў нават падумваў ад працы адмовіцца, але ж дзе дзецца?

Часта Саламон хадзіў наведвацца на хлебазавод. Цягнула туды ўсёй цягай трыццацігадовага пекарскага стажа...

— Чаго так памізарнеў? — пытаўся ў яго белявы Юзік.— Ты ж фізічнай працай не займаешся.

— Гэта толькі здаецца, што нічога не раблю. Зараз мазалі на мазгах нарастуць. Лягчэй тры ночы каля печы стаяць, чымся дзень адбарабаніць ва ўстанове... Вяртаюся заўсёды з хворай галавою...

— Нічога, месяц-два будзеш займацца практыкай, а пасля пойдзеш на курсы.

Цеплыня і спачуванне чулася ў голасе Юзіка. Ён глыбока ўзіраўся светлымі вясёлымі вачыма ў стомленыя чорныя вочы Саламона.

— Тое самае мне і на ячэйцы кажуць,— гаворыць Саламон і ўздыхае.

— Так і будзе. Не палохайся, што спачатку цяжка. Гэта з непрывычкі.

— Хто табе сказаў, што я палохаюся? Палохаюцца іншыя — ва ўстанове я вельмі зацікавіўся новай справай. Пачынаю ўжо кумекаць, што і як. Патрэбен вялікі пералом у працы. Я пакуль што толькі знаёмлюся. А потым...

Саламон бадзёра махнуў рукой.

— А потым пойдзе, як па масле,— скончыў за яго Юзік.

— Во, во! Пакуль што знаёмлюся галоўным чынам з апаратам у самой установе. Ведаеш, Юзік, гэта вельмі мудроная фабрыка...

— Не абаранкі і не булкі...

— Аднак я не хацеў бы цяпер з установы пайсці зноў на завод.

— Спадабалася новая праца?

— Не то што спадабалася, але тут патрэбен наш кантроль. Тут няма той упэўненасці, той яснасці ў працы, як на заводзе. Ёсць хістанні, размякласць...

Саламон гэта гаварыў з адценнем болю ў голасе. Яго пацяшаў Юзік.

— Нічога, браце! Працуй, вывучай, змагайся. Усё наладзіцца.

Калі прыходзілася Саламону раскопвацца ў новых стаўках прамысловага падатка, вывучаць падаходны падатак, разрады і іншыя лічбовыя справы, дык ад непрывычкі мітусілася ў вачах. Ён дома праседжваў цэлымі начамі над рознымі фінансавымі кніжкамі і справачнікамі.

Тры разы на тыдзень да яго прыходзіў студэнт-настаўнік. Сядзеў ад сямі да дзесяці гадзін вечара. Настаўніку за дваццаць, яму за сорак год. Мог бы настаўнік быць яго сынам... Спачатку і «настаўнік» і «вучань» адчувалі сябе няёмка. Яны глядзелі адзін на аднаго з адным і тым самым запытаннем.

— З чаго пачаць?

Была маленькая трывога:

— Не пачынаць як з малым хлопчыкам. «Вучань» ведае такія справы, у якіх «настаўнік» слаба разбіраецца...

— Як вучыцца, каб адразу прыстасаваць да практыкі, да заняткаў ва ўстанове ўсю вучобу?..

З самага пачатку адзін аднаго зразумелі.

У «вучня» саракагадовы голад да вучобы... Мозг не перагружаны кніжнымі мудрасцямі. Колькі ні ўсыпеш вучобы ў гэты мозг, убірае, як свежая глеба дождж...

Ды не саракалетні голад, а векавы. Яго бацькі, яго дзяды таксама не вучыліся, як бацькі і дзяды маладога «настаўніка» — вясковага беззямельніка.

Саламон адразу яго зразумеў, ён — Саламона.

Саламон пачаў адчуваць, што адукацыя вельмі патрэбны інструмент для яго новай працы. Усё звязвалася з непасрэднай практыкай штодзённшчыны. Матэматыка, граматыка, геаграфія, палітэканомія і іншыя прадметы былі для яго жывымі, канкрэтнымі з'явішчамі. Мозг свежа ўспрымаў усё гэта новае для яго. Толькі недахоп часу перашкодзіў цалкам гэтаму аддацца...

Часамі ўночы жонка падыходзіла да яго, калі ён сядзеў сагнуўшыся над сваім столікам і нешта чытаў або пісаў. Яна ўваходзіла ціха, нячутна. Глядзела з заміласаваннем, з захапленнем. У адзін і той самы час баялася перашкодзіць яму ў працы і хацела, каб ён ужо адпачываў, каб ішоў спаць.

— Саламон,— шаптала яна.— Ідзі спаць. Ты ж высах за гэты час. Паглядзі на сябе ў люстэрка...

Саламон адрываўся ад працы на хвіліну. Чужымі, аддаленымі вачыма глядзеў на жонку.

— Я ж не дама, каб у люстэрка глядзець.

— Ты ж такі змучаны, адразу так налегчы на працу.

Саламон усміхнуўся:

— Бачыш. У цябе тэорыя майго вучонага намесніка, таварыша Гарбулёва. Ён кажа, што адразу не можна...

Аднаго разу, калі Саламон вярнуўся са службы, яго чакаў чалавек. Той ухмыльнуўся, як старому знаёмаму.

Саламон успомніў.

...Той самы, у якога фінагенты забралі на рынку паўтара пуда масла... Той самы, сын якога інжынерам на хлебазаводзе...

У шэрых вачах цярплівая ўважлівасць. Азызлы твар.

Старое янотавае футра. Аблезлая каракулевая шапка на каленях. На шыі сняжынца белае, новае кашнэ. Яно вылазіць з усяго старога, аблезлага, нібы купінка чыстага снегу на гнілой калодзе.

— Вам што трэба, грамадзянін? — халодна звярнуўся да яго Саламон.

— Бачыце, таварыш... Тут выйшла непрыемнасць з маслам...

Апусцілася ніжняя губа, і паказаліся абломкі залатых зубоў.

Агідна стала Саламону. Ён крыкнуў не сваім голасам:

— Ідзіце адгэтуль! Ёсць установа! А ты, жонка, не пускай сюды людзей па такіх справах!

Вочы ў чалавека ў новым кашнэ наліліся непрыгомным бляскам, зрабіліся празрыстымі. Ён нешта замармытаў, захліпнуўся словамі і высунуўся за дзверы.

Жонка Саламона кінулася ў плач...

— Літасці няма да людзей.

— А ён цябе расчуліў, гэты стары жулік? Нядаўна ў яго знайшлі сто цялячых скурак. Можаш за яго быць спакойнай! Гэта — вораг савецкай улады, стары фабрыкант-крывапівец Макс Ліберман. Кінь сваю літасць да гэтай змяі. Ён калісьці над рабочымі таксама літасці не меў.

— Ён жа такі далікатны...

— Ён хітры! А ты зараз жа разнюпілася. Ты зусім адсталая...

Яна задрыжала ад абурэння.

— Не першы раз ад цябе чую, што я адсталая...

— Я выпісваю гэтулькі газет, а ты рэдка калі чытаеш,— сказаў ён з балючай крыўдаю ў голасе.

У паблеклай ад працы жанчыны адразу высахлі вочы. Пабляднелі і задрыжалі губы.

— Калі мне чытаць газеты? Калі? Увесь час у мяне займаюць дзеці і кухня. Калі часам бяруся чытаць, дык не ўсё разумею...

— Пыталася б у мяне.

— Калі ты дома бываеш? Калі? Вечна на сходах, паседжаннях. Паабедаеш — і зноў пабяжыш. А цяпер, калі часам і сядзіш дома, дык працуеш цэлымі начамі.

Саламон збянтэжыўся. Голас яго адразу знізіўся, памякчэў.

— Я ж у гэтым не вінават. Усё наладзіцца.

Жонка крыкнула з халоднай злосцю:

— Наладзіцца! Пакуль наладзіцца, я ногі выцягну! Я — адсталая, кажаш ты. Гэта праўда. Але што мне засталося іншае, як не жыць дробненькімі радасцямі і непакоіцца ад розных недахопаў? Ты зрабіўся інспектарам, і я хвалілася гэтым перад суседзямі... Я ж з імі часцей бачуся, куды больш гавару, чымся з табою. Я пераняла ад іх прывычкі, манеры, погляды. Хаця да замужаства была работніцай. Ва ўсім гэтым ты вінават, таварыш інспектар! Ты! Ты!

Вочы зноў напоўніліся слязьмі. Замазаным ля печы фартухом яна выцірала іх і запэцкалася сажай.

Саламон гэта заўважыў, і яму яшчэ больш прыкра стала.

— Ды перастань ужо... Дай мне спакойна паабедаць... Я такі змучаны...

Ён гаварыў ціхім голасам, літасці прасіў...

— Ты змучаны, а я? Ты вось зазлаваўся, што пусціла чалавека ў хату. Ліха яго ведае, хто ён і што ён! Але ж мне было весялей. Мне было прыемна, што нехта звярнуўся і да мяне...

Саламон апусціў галаву...

— Перастань,— маліў ён.

Ён аглядаў сваю кватэру. Нібы ўпершыню ўгледзеў. Велізарная печ душыла паветра. Пад нізкай столлю шпалеры віселі закуранымі шматамі. Стол займаў таксама вялізную частку кватэры-пакоя. А вось на маленькім століку ў кутку — яго «бібліятэка» і «габінет»; некалькі то-

маў «Малой энцыклапедыі», творы Леніна, гісторыя партыі, кніжка пра Парыжскую камуну, розныя брашуры па фінансавай справе, граматыка, арыфметыка і іншае. Груды розных газет ляжалі на малой парванай канапцы і на падлозе. На сцяне партрэты Леніна, Маркса і Сталіна, гучнагаварыцель. На адной лініі з вялікай печчу адзіная «мэбля» ў хаце — стары, перафарбаваны ў жоўты колер буфет са срэбнымі качкамі на дзверцах. Гэты буфет служыў яшчэ адной мэце — адгарадзіў «сталовую» і «залу» і «габінет» ад «спальні»...

На падлозе каля стала забаўляліся малыя дзеці. Іх трое: Зінка, Мотка і зусім малюсенькі Ладзімка. Старэйшаму дзіцяці — восьмы год, мешнаму — другі. Яны не зварочаюць увагі на непрыемную гутарку бацькоў. У іх — вялікая радасць. Бацька прынёс бляшаны аўтамабільчык. Дзеці пускаюць яго па падлозе. Яны ў захапленні. Кавалачак падлогі — вялікі абшар зямлі з палямі, дарогамі, лясамі. Шматы паперы зверху — неахопнае сонечнае неба над галавою. Аўтамабіль імчыцца... імчыцца наперад, удаль...

Зінка тупае за аўтамабілем (імчыцца на ім).

Мотка трубіць у маленькую трубачку (аўтамабільны гудок).

Ладзімка не хоча ведаць ні прасторнага неба, ні далячынь зямлі, ні страшнага імпэту машыны, што глытае абшар. У яго адно жаданне — папробаваць «машыну» на смак...

Вядзецца няроўнае змаганне паміж слабейшым і мацнейшымі. Ладзімка спачатку захныкаў, а потым уголас заплакаў.

Маці застыдзіла старэйшых:

— Вы ж ужо вялікія... Аддайце цацку Ладзімку. Потым, як ляжа спаць, вы будзеце гуляць.

Яна падала абед і болей спакойна працягнула свае скаргі:

— Юзік лепш за цябе жыве. Ён ужо ў новай кватэры. Яго жонка часта бывае ў клубе, у кіно.

— Ты ўсё «лепш за цябе»! Надыдзе і мая чарга. Яго сям'я яшчэ ў горшых умовах жыла. Яшчэ год — і мы будзем у новай кватэры. Для дзяцей там будзе спецыяльны дом. Будуецца і агульная сталовая. Вызвалішся ад кухні. Нагоніш і ты згубленае. Думаеш, мне лёгка. Пачаў вучыцца. Мне ўжо больш за сорак год... Але даганю і пераганю!

— А мне яшчэ чакаць? Усё табе ды табе...

— Што ж рабіць? У горшых умовах жывуць. Нялёгка адразу сацыялізм будаваць. Да канца пяцігодкі вырасцем. Ахвяры павінны быць...

— Ты ўсё «ахвяры», «ахвяры»! Гэта я павінна быць ахвярай...

— Несправядліва кажаш... Мне лёгка было ўсё жыццё па начах смажыцца каля печаў? Ведаеш, яшчэ ў мінулым годзе доктар забараніў мне працаваць на заводзе. Аб гэтым нікому не гаварыў. Не хацеў, каб мяне перавялі ў інваліды.

— Затое цяпер...

— Што цяпер? Гуляю? Яшчэ больш працую, але без гэтага нельга.

Саламонава сям'я села абедаць.

## ПЕРАМОГІ І ПЕРАШКОДЫ

Часта падыходзіў да Саламона інспектар іншага аддзела, тав. Яўменчык, голены па-акторску, чарнявы, з «простымі» манерамі. Усім ва ўстанове гаварыў «ты». Яго прастата, як заўважыў Саламон, была нейкая няпростая. Вось нібы ён фарсіць ёю, як расхрыстанай касавароткай.

Таварыш Яўменчык хістаўся між вучонасцю Гарбулёва і пралетарскасцю Саламона. Ён стараўся збудаваць паміж іх нейкі масток лагоднасці... Думаў згладзіць непаразуменні паміж іх для «агульнай справы»,— як ён гаварыў. Па-ягонаму, трэба было і спяшацца і канкрэтызаваць працу, і разам з тым — усё павольна абмяркоўваць, узгадняць, яшчэ раз абмяркоўваць і яшчэ раз узгадняць... «А то шмат памылак наробім»...

Яўменчык у яго збіваў імпэт.

Часта ён падыходзіў да Саламона, заглядаў яму глыбока ў вочы, па-братэрску клаў руку на плячо і спачуваюча пытаўся:

— Ну, як?

— А нічога!

— Прывык?

— Прывыкаю.

— Лоўка табе тут?

— Не думаю аб гэтым.

— Справа ў цябе, здаецца, добра ідзе?

— Ідзе.

— Калі часам што якое, дык адразу ў ячэйку...

— Ведаю...

— Усё, братку, наладзіцца. Толькі не бярыся цераз сілу, а то не сагнеш, а зломіш.

Тон такіх гутарак быў Саламону не па сэрцу: апякунчы, спачувальны. Так звяртаецца інтэлігент да «выхадца з народа».

Саламон адчуваў, што з ім цацкаюцца, як з дзіцем. Уважлівасць — празмерная, няпростая... Зусім не такая ўважлівасць Юзіка. Той часам і грубае слова скажа, лаянкай прабярэ, а Саламон успрымае гэта лёгка і добра.

Зусім іншы свет, іншае акружэнне, іншыя гутаркі. Праўда, тыя самыя развагі аб сацыялістычным будаўніцтве, аб пяцігодцы, але не так, як на заводзе. Няма той прастаты. Там, на заводзе, філасофіі не разводзяць, а займаюцца несупыннай працай. Ніколі раней не прыходзілася Саламону ўглыбляцца ў самога сябе. Там адзін аднаго разумелі з паўслова. Думкі другога чалавека чыталі з яго фізіяноміі. А тут... Трэба назіраць за людзьмі, вывучаць іх. Хоць гэта было яму непрыемна, а прыходзілася рабіць падзел на «я» і «яны»...

Прыходзілася часта задумвацца над такімі справамі, над якімі раней ніколі думаць не трэба было.

З кожным днём перад ім усё больш яскрава афармляўся жывы малюнак установы. Галава ўжо не балела пасля працы, як у першыя дні. Нават сам дыктаваў даклад каму-колечы з машыністак.

Абедзве машыністкі былі зграбныя, маладыя, добра апранутыя. Яму здавалася, што кожны рух, слова, манера ў гэтых дзяўчат змераны, зважаны, злічаны, як у той арыфметыцы, што цяпер вывучае.

...Магчыма, жонка мае рацыю, што кожны раз пілуе мяне за аблезлую «кожанку»... Яна ж гэта па дабраце робіць...

Саламон пазнаёміўся гадоў пятнаццаць таму назад з з сваёй цяперашняй жонкай, калі яна была яшчэ дзяўчынай. Яна ніколі такой элегантнай не была, як гэтыя машыністкі... Да рэвалюцыі працавала па дванаццаць і больш гадзін у суткі ў швейнай майстэрні. Зусім кінула працаваць пасля таго, як нарадзілася першае дзіця.

У сямейным жыцці ёй было спачатку так няёмка, як

яму ў новай установе. Яна рвалася ўвесь час на швейную фабрыку, але дзеці, кухня...

...Абавязкова, як толькі перабяромся ў новую кватэру, яна пойдзе на фабрыку. Адновіцца там, адчуе сябе самастойным чалавекам.

Вось учора машыністка Люба... Змяіная ўсмешка не сыходзіла з яе нафарбаваных губ за ўвесь час яго дыктоўкі. Ярка свяціла сонца. Пажоўклыя пасмы святла пранікалі праз акно. Сонца дрыжала на стале, машынцы, сценах, тварах людзей. У пакоі пацяплела і павесялела.

Саламон жмурыў вочы. Пры дыктаванні расцягваў словы, спыняўся, абдумваў кожны сказ.

Люба апусціла вочы ўніз, глядзела на паперу. Пісала спрытна. Пальцы яе скакалі па клавіятуры, як у піяністкі. Не піша, а грае на музычным інструменце... Не паспее ён сказаць два-тры словы, як яны ўжо адстуканы — выпраўленыя, зграбныя, адшліфаваныя, не так, як у яго.

Люба цярпліва чакала далейшай дыктоўкі, з выразам штучна нацягнутага спакою на твары. Вачэй з паперы не падымала. Так апусціла вочы, ажно можна было падумаць, што спіць. Але сціснутыя губы сведчылі, што калі цяпер падыме вочы, дык зазвініць нястрыманым смехам, з прычыны граматычных памылак Саламона...

Ён упэўнены, што гучны выбух гэтага зняволенага смеху адбудзецца тады, калі дыктоўка скончыцца і ён выйдзе з гэтага пакоя...

Зірнуў у акно. Па снежнай вуліцы мільгаюць сонечныя іскры. Пад самым акном рамізнік дрэмле на перадку лёгкіх санак.

Паплыў над дамамі родны фабрычны гудок...

Рамізнік прачнуўся.

Саламон ўздрыгануўся ўсім целам. Машыністка, не падымаючы вачэй, заўважыла гэта:

— Вам холадна?..

Нічога не адказаў.

З першага дня новай працы Саламон завёў блакнот. Гэта яму параіў Юзік.

У блакноце ён кожны дзень занатоўваў свае заўвагі. Рознага характару думкі аб людзях, аб іхняй працы, установы ў цэлым. Паводле гэтага блакнота можна было прасачыць за поспехам Саламона ў правапісе і за

яго паступовым знаёмствам з галоўным нервам апарата. З кожным днём блакнот усё больш мусоліўся, гладка адшліфаваная аправа зрабілася шурпатай, беражкі лісткоў загіналіся. Да блакнота ён адносіўся з асаблівым замілаваннем. Дзе толькі можна было, вёў свае нататкі: ва ўстанове, пры абследаваннях на месцах, на паседжаннях, на нарадах, пры гутарках. Старонка за старонкай, лісток за лістком пакрываліся каракулямі сіняга і чырвонага алоўка.

За блакнотам Саламона сачыў Гарбулёў, наглядалі многія з установы. Шмат чаго далі б, каб заглянуць, што ў ім напісана.

Па адрасу блакнота сыпаліся ў адсутнасці Саламона розныя дасціпнасці.

— Ці не вершыкі ён туды ўпісвае?

— Практыкуецца ў граматыцы.

— Грашкі нашы запісвае.

— Для фасону крэмзае алоўкам.

А Саламон самым сур'ёзным чынам вёў свае нататкі. Ні ад кога не хаваўся, але пакуль што нікому іх не чытаў. Калі сядзеў ва ўстанове, блакнот ляжаў пры ім на стале. А звычайна — у яго паходнай канцылярыі — у адной з неахопных кішэняў «кожанкі». Часам праглядаў свае нататкі, старанна выпраўляў, нанова перадумваў кожнае ўпісанае слова, абмяркоўваў кожную думку і «за» і «супроць». Нібы камусьці пісаў строгі прысуд. Стараўся пісаць як найкарацей, і нататкі мелі выгляд вельмі сціслага канспекта.

Відаць было па ўсяму, што ён надаваў вялікае значэнне блакноту.

Калі Саламон сустрэўся з Юзікам і расказаў аб сваіх адчуваннях і адносінах між ім і некаторымі служачымі, дык Юзік вылупіў на яго здзіўленыя вочы. Некалькі хвілін маўчаў, нешта сам з сабою абдумваў, светлыя вочы ў яго пацямнелі, і ён крыкнуў поўным ротам, смакуючы кожны гук:

— Раз-маз-ня! Нюня!!

Змераў Саламона з галавы да ног, нібы ўпершыню ўгледзеў, кіўнуў галавою, плюнуў і давай махаць рукамі так шпарка, ажно, здавалася, вось малаціць пачне па Саламонавай спіне. І голас яго, які перасякаўся пры кожным слове, нагамінаў стукат пры малацьбе:

— То сорамна яму, то нялоўка. Адзін не так глянуў, другі не так сказаў, трэці — бюракрат, чацвёрты — фар-

маліст, пяты — праз меру далікатны, шосты — праз меру кплівы! І так без канца...

Саламон паблякнеў. Юзік адсопся і пачаў больш спакойным тонам:

— Сам ты, Саламон, не прыкмячаеш, як праняўся інтэлігеншчынай і пачаў у сваім уласным носе калупацца... Замест таго каб рабіць пералом ва ўстанове, установа робіць пералом у табе... Глядзі! Не далікатнічай там і замест капання ў носе займіся галоўным!

Саламон нагнуўся ўсім целам у бок Юзіка. Усміхнуўся:

— Сып далей, сып!

—На дробязь плюнь! Вучоны спец ходзіць вакол цябе, як квактуха «куда-кудах» — плюнь! Машыністка высмеяла — чапуха! Дзе такіх тонкасцей набраўся?

— Скончыў?

— Пакуль што скончыў.

Юзік расшпіліў каўнер сіняй касавароткі.

Саламон зірнуў на Юзіка такімі вачыма, нібы наперад ведаў, што той будзе яму кідаць у твар такія папрокі.

— Частка праўды ёсць у тваіх словах. Не ведаю толькі, ці ты быў бы лепшым, на маім месцы. Не ведаю таксама, наколькі гэта кепска, што я звяртаю ўвагу на розныя драбніцы або, як ты кажаш, у сваім уласным носе калупаюся.

— Я б на тваім месцы...— усхапіўся Юзік.

— Дай скончыць. Справа ў тым, што трэба ведаць, з кім працуеш, хто цябе акружае, хто на што здолен, як адносіцца інтэлігент не выключна да мяне, Саламона, а ў даным выпадку да нашага брата, рабочага. Таксама на людзях вывучаю самога сябе. Не так сабе, а каб ведаць, ці здолен я на што-колечы, апрача працы на хлебазаводзе.

Саламон на момант спыніўся. Усміхнуўся і пачаў дзелавым тонам:

— Што тычыцца галоўнага, дык вось маеш!

Ён выцягнуў з сваіх вялізных кішэняў цэлую кучу папер, кніжак, справачнікаў, адшукаў у гэтай вандроўнай канцылярыі замызганы блакнот і падаў Юзіку.

— Тут што? — запытаўся Юзік.

— Гэта нататкі за месяц новай працы. Тут я кожны раз адзначаў усе заўважаныя мною недахопы ў працы ўстановы.

— Вось гэта мне падабаецца!

Саламон перагортваў блакнот адным пальцам, нібы калоду карт. На лістках мільгалі каракулі, пісаныя хімічным алоўкам, падкрэсленым месцамі чырвонымі лініямі.

— На, чытай!

Падсунуў Юзіку блакнот...

— Чытай сам! Не разбіраюся ў тваіх круцёлках.

Саламон пачаў чытаць аднатонным голасам. Ён перагортваў лісток за лістком і чытаў кароткія нататкі.

— Усюды гэтыя ўхілы ад класавай лініі,— уставіў Юзік сваю нецярплівую заўвагу.

З кожным новым лістком, прачытаным Саламонам, заўвагі Юзіка змяншаліся. Нарэшце ён толькі адно слова пачаў выкрыкваць:

— Малайчына!

...Прыватныя крамы часам слаба абкладзены...

— Малайчына!

...На велізарныя сумы не спагнаны налогі ў капіталістычных элементаў...

— Малайчына!

...Часам зменшаны падаткі без усякай падставы...

— Малайчына!

...Самакрытыка пастаўлена кепска...

— Малайчына!

...Трэба вызначыць рабочую брыгаду для чысткі апарата.

— Малайчына!

...Для аздараўлення апарата патрэбна яшчэ некалькі вылучэнцаў з фабрык і заводаў...

— Малайчына!

Саламон палажыў блакнот у кішэню.

— Вось табе і калупанне ў носе! — звярнуўся ён да Юзіка.

— Ну, а далей?

— Зраблю даклад на чарговым сходзе і даб'юся арганізацыйных вынікаў.

— Правільна!

## РЭШТКІ

Слізка на гарадскіх вуліцах. Тратуары адшліфаваны так, хоць вастры аб іх брытвы. Уночы была адліга, капала са стрэх. Пад раніцу — мароз. Дрэвы, слупы пад тонкай ільдзянай карою, нібы абітыя бляхай. Пад стрэхамі ві-

сяць ледзякі. У цяні яны сінявыя, на сонцы — празрыстаружовыя.

Асцярожна ходзяць людзі па вуліцах. Глядзяць уніз, каб абмінуць небяспечныя месцы, каб не ўпасці. Калі хто шлёпнецца, за ім уздагон рогат, жарты. Дзе-нідзе тратуары скупа абсыпаны жоўтым пяском, попелам.

Па закавулках, з акраін, у бок рыначнага вялізнага пляца, скрыпяць дзе-нідзе па вуліцах сялянскія фурманкі. Палазы шліфуюць дарогу да бляску шкла. Мужчыны і жанчыны ў жоўтых кажухах, у тоўстых суконных світках, у разнастайных шапках і хустках. На санках — кошыкі з курамі, яйкамі, сырамі, збаны з маслам, мяшкі са збожжам, парсюкі. Часам за санкамі валачэцца прывязаная повадам карова. Санкі з дрывамі, з сенам. Дзе праязджаюць сялянскія фурманкі, вясковы пах запаўняе вуліцу.

Дзе-нідзе з-за брамы выбягаюць гарадскія. Спяшаюцца, аглядаюцца, каб другі не падскочыў.

— Дзядзька, што прадаеш?

— Цётка, пачым яйкі?

Некалькі чалавек, не чакаючы адказу сялян, акружаюць санкі, падскакваюць.

Лаянкі паміж сабою: «я першы падышоў», «я здалёк крычаў», «не вырывай з рук».

Лаянкі з сялянамі за цэны. Гарачы торг. Мітусня. Клапатлівыя твары, імпэтныя рухі, крыкі.

Падбягае міліцыянер — высокі, у чорнай шынелі, тонкі. Адзіны спакойны твар.

— Не спыняйцеся на вуліцы! На рынак!

Голас міліцыянера не вельмі строгі. Людзі прывыклі да яго, ён — да людзей.

Сяляне едуць далей. Некаторыя куляюцца да іх у санкі. Вядзецца торг ужо на санках. Коні тупаюць памалу і як бы прыслухоўваюцца да гутарак гаспадароў з пакупцамі.

Саламон на рынку з самага рання.

Фінагенты рассыпаліся ва ўсе бакі рыначнага тлуму. З кожнай хвілінай рыначны пляц усё больш запаўняецца людзьмі. Ён глытае фурманкі і не праглытвае. Распрагаюць коней, нібы ў кума на падворку: няспешна, уважліва.

— Гэй, гэй! Гэ-э-эй! — крычаць ззаду пярэднім.— Дарогу давай!

— Паспееш!

...лаянка.

Людскі гоман, іржанне коней, візгат свіней зліваюцца ў адзін несупынны гвалт... Пах мурожнага сена, кажухоў, свежага дрэва, конскага гною, сала і мяса расплываецца над рыначнай гушчаю невідочным воблакам.

Рознакаляровыя хусткі і шапкі блішчаць на сонцы, пярэсцяцца, нібы невядомыя расліны на дзівосным полі.

Паміж санкамі шнырацць заклапочаныя людзі са спагадлівымі і палахлівымі вачыма. Жанчыны рознага выгляду і ўзросту з кошыкамі ў руках так спрытна ныраюць у гэтых жывых хвалях, ажно здаецца Саламону, што яны пры кожных санках і што іх нідзе няма. Нейкім чынам на сялянскіх санках тут жа раптам з'яўляецца гатовая вопратка, чаравікі, мыла і іншыя крамніцкія тавары.

Саламон ведае, што гэта былыя крамнікі праз вялікую сетку сваіх агентаў распрадаюць свой захаваны тавар.

Яны вельмі рэдка пападаюцца. Спрытны народ. Перакупшчыкі ўмудраюцца скупліваць сялянскі тавар і зараз жа на рынку перапрадаюць...

— Чарга, грамадзяне, чарга! Кожнаму трэба!

Каля адных санак таўчэцца некалькі жанчын і мужчын.

— Дзе тут чарга, калі павярнуцца няма як?

На санках жвавая цётка гадоў пад сорак. Круглы, нібы поўны месяц, чырвоны твар. Вясёлыя маршчынкі граюць вакол вачэй. У руках бязмен. У белай хустцы яна развaжвае масла, што вымае нажом кавалкамі з цабэрка.

З усіх бакоў выцягваюцца да санак рукі з грашыма.

— Мне!

— Мне!

— Я першая!

— Ай, руку выкруціш!

Тузаніна, сваркі.

Так-сяк праціснуўся да санак Саламон.

— Адкуль у цябе, цётка, гэтулькі масла?

Цётка смяецца.

— Ад кароў! Вось пытаецца!

— Колькі ў цябе кароў?

— А табе навошта? Вось прыстаў! Правальвай!

Саламон аглядае людзей, кагосьці шукае.

...Знайшоў.

Кабета ў шэрым паліто. Чорныя вочы спалоханыя.

...Гаспадыня масла...

З'явіўся міліцыянер з фінагентам.

Цабэрак з маслам забралі.

— Адчапіцеся ад мяне! — крычыць сялянка.— Масла не маё! Вунь тая прадае...

Маршчыны вакол вачэй углыбіліся. У вачах патух смех.

Чарнавокая кабета ў шэрым паліто падняла выццё:

— Ды я ж... Ды гэта масла... Божачка мой, што мне рабіць?

Забралі і сялянку і перакупшчыцу.

Павялі.

Ззаду натоўп.

— Дарогу! Дарогу! Разыдзіся!

Грэе сонца. Людзі ў кажухах і цёплых світках разапрэлі. Ранічны лядок на плошчы растаў. Непрыемна цёпкаюцца ногі ў свежай каламуці, змешанай з гноем. Пад вазамі вераб'і. Лезуць коням пад ногі. Людскі гоман зліўся ў адзін крык...

Саламону прыкра...

Зноў мільганула міліцыянерская шапка.

А вось стары знаёмы...

Вядуць Макса Лібермана. На гэты раз у яго трыццаць кавалкаў мыла.

Упарты чалавек Макс Ліберман... Старая каракулевая шапка з'ехала на патыліцу. Над аблезлым каўняром белае кашнэ.

Ён шчэрыць зубы па-звярынаму. Цяжка сапе. Выцірае рукавом спацелы лоб. Шамкае губамі, вачыма шукае спачування ў людзей.

— Со́рамна вам! — крычыць яму нехта з натоўпу.— У вас сын інжынер. Можа дапамагчы!

— Мне самому трэба зарабляць на хлеб!

Голас у Макса Лібермана пісклівы, вільготны, слінявы.

— Ідзіце на чорную работу.

— На чорную работу! — перадражнівае яго Ліберман.— На чорную работу! — Ён так пырскае слінай, ажно ад яго адскакваюць.

Вылез з натоўпу чалавек невысокага росту з сівою барodkаю. Тоненькі з вострымі слязлівымі вачыма, з жоўтым, нібы з воску, носам.

— Чулі, таварыш! — звярнуўся ён да Саламона.— Чулі? Чорная работа яму не падабаецца. А калі я на яго заводзе быў чорнарабочым, дык гэта яму падабалася!

Саламон пайшоў далей.

Павялі некалькі кабет з кошыкамі. У кошыках — панчохі, грабенчыкі, шпількі, ножыкі, пасуда...

Саламон вывучыў хітрыкі былых крамнікаў. Іхні тавар рассеяны па блізкіх і знаёмых, па кошыках у кабет... Гэтыя людзі ідуць на звычайную працу толькі тады, калі роспач голаду на вяроўцы пацягне...

Для гэтых людзей праца — вялікая ганьба... А працы шмат, дзе толькі хочаш — не хапае рабочых рук.

Саламон накіраваўся з рынку ў блізкі завулак. Ён адчуў стомленасць. Рынак ён ненавідзеў з маленства.

Рынак адкідваў дробныя хвалі і сюды на завулак: швэндаліся сяляне, адвозілі пакупцам мяшкі бульбы, сена, дровы.

Крычалі пеўні. Дзеці на каньках слізгаліся, на санчках з'язджалі з гары. Сонца глядзела ў вокны.

Саламон пайшоў сюды без усякай мэты, проста адпачыць трохі ад тлуму. Звінела ў вушах.

Ён сам здзівіўся рознакаляровасці сваёй новай працы. Цэлая энцыклапедыя новых ведаў. Рынак — адна толькі галіна гэтых ведаў. Яму трэба было знаёміцца з фінансавым бокам прафесій розных саматужнікаў, розных вольных прафесій, цікавіўся іхнім бытам, псіхалогіяй. У гэтым выпадку была багатая разнастайнасць: слесары, кавалі, шаўцы, краўцы, токары, панчошніцы, белашвейкі, сальнікі, мяснікі, парыкмахеры, фатографы, дантысты, зубныя тэхнікі, карэтнікі, дактары і шмат іншых, аб якіх ніякага ўяўлення раней не меў. Кожны з іх мае свой уклад жыцця, занятак адкладвае на кожнага своеасаблівае кляймо.

Перад тым як прыйсці да каго-небудзь на праверку, Саламон браў падрыхтоўчы матэрыял у сваёй установе, правяраў лічбы ў адпаведных арцелях, калектыўных майстэрнях, установах: колькі адзін чалавек можа зарабіць у працягу дня, месяца, года, выдаткі на гэта, цэны на сырэц, магчымасць дастававання матэрыялаў, бюджэт сям'і і т. д., і т. д.

Трэба ўнікаць у разнастайныя галіны працы. Да кожнага павінен быць своеасаблівы падыход, каб не скрывіць класавай лініі і не ўдавацца ў сантыменты...

Тонкія і чулыя былі шалі для ўзважвання магчымасцей здабывання сродкаў для дзяржавы. Саламон не ведаў, дзе тут мяжа паміж вучобай і практыкай. Яны злучаны ў адно.

Увесь час трэба быць напружаным, каб правільна разбірацца, дзе вораг і дзе прыяцель сацыялістычнага будаўніцтва.

А людзі розных асяродкаў вывучалі і Саламона.

Іхняе вывучэнне было накіравана ў адзін бок: шукалі слабых струнак яго характару, стараліся рознымі спосабамі ўсыпляць яго ўвагу, каб аслабіць напады фінінспектара.

Кабеты плакалі, млелі і зажмуранымі вачыма ў той жа час на яго пазіралі.

Саматужнікі выкладвалі перад ім сваю пралетарскасць.

Некаторыя хвалілі яго здольнасці.

Запрашалі на гарбату, на абед...

У іншых месцах падладжвалі так, што яму прыходзілася весці гутарку з прыгожай дачкою гаспадара або з маладою жонкаю...

Ніякія падыходы не памагалі...

Саламон прайшоў завулак пару разоў туды і назад. Раптам уздрыгануўся: нехта палажыў яму руку на плячо.

Адвярнуўся.

— Юзік?

— Здароў, Саламон! Што так задумаўся?

— Вывучаю рынак.

— Стаміўся?

— Нічога.

У Юзіка ружовы твар. Вясёлыя вочы. На ім новае паліто. Бялявыя валасы блішчаць пад зімовым сонцам.

— Што так прыхалімоніўся?

— Выхадны.

— А-а-а.

— Бэ-э-э. Спіш ці ўжо прачнуўся? Узварухніся!

Юзік патармашыў яго за плечы.

Абодва засмяяліся.

Юзік гулліва зірнуў яму ў вочы.

— Можа, пойдзем... піўца папрабаваць?

— Толькі не сягоння.

Саламон пачаў пільна ўглядацца ў дзверы адной кватэры.

— Што зрэнкі напяліў?

— Нічога.

— Ведаю тваё «нічога». Куды ён там паглядае?

Юзік угледзеў на дзвярах нізкай хаты ледзь прыкметную аблезлую шыльду:

*Белашвейка*

Адтуль выйшлі з пакункамі двое сялян. На ганку стаяла дзяўчынка гадоў дзесяці ў доўгай кофце. Яна азірнулася па баках і назад ускочыла ў хату. Сяляне таксама аглядаліся. Адзін з іх быў у доўгай сівай бурцы, другі — у кароткім залатаным кажушку. Абодва ў лапцях. У бурцы — высокі, малады, з жаўтаватымі вусамі. У кажушку — старэнькі дзядок, у якога сівыя валасы тырчалі рэдкай шчоткаю. Дабрадушныя вочкі яго слязіліся, шчокі шыза-чырвоныя. Радасна ён паглядаў навокал. Яго падштурхоўваў малады, з сур'ёзным тварам, пакрыкваў:

— Хадзем! Хадзем!

— Што вы тут купілі?

Малады акінуў Саламона халоднымі вачыма і нічога не адказаў. Дзядок ухмыльнуўся, падміргнуў адным вокам, як стараму знаёмаму, і разявіўся бяззубым вільготным ротам:

— Я-рун-да-а!

Ад яго аддавала гарэлкай.

Малады пацягнуў яго за кажух. Прыдушаным голасам:

— Хадзем!

— Я-рун-да-а!

Дзядок шырока расставіў ногі, хіснуўся, ікнуў, другі раз хіснуўся і зноў паўтарыў: «ярунда». Слова праходзіла праз яго горла, нібы костка. Чырванеў лоб. Жылы выступалі на скронях. На зморшчанай, хударлявай шыі хадыром хадзіў востры, нібы яловы сучок, гарляк.

— Хадзем!

— Я-рун-да-а! Дай, сынку, з чалавекам пагаманіць!

Малады пацягнуў п'янага з усяе сілы. Выпаў у снег пакунак. Разгарнулася папера, і адтуль паказалася пара новых штаноў і жакетка.

— Тут купіў? — зацікавіўся Саламон.

— Ярунда! Тутака!

Саламон і Юзік увайшлі ў кватэру. Кабета гадоў сарака нешта шыла на швейнай машыне. Нахіліла галаву над шыццём, вачэй не падымала нават тады, калі ёй сказалі «дзень добры». Рыжаватыя валасы закрылі ёй лоб і вочы. Яна нешта мармытнула.

Дзяўчынка ў доўгай кофце глядзела на Саламона і Юзіка чорнымі спалоханымі вачыма.

— Вы што? — звярнуўся Саламон да кабеты.— Прадаеце мужчынскую вопратку?

Яна падняла твар бледны ад схаванага страху.

— Я? Не! Я толькі па заказу бялізну шыю... Свайго матэрыялу не маю.

Голас, спачатку няўпэўнены, пацвярдзеў.

— А не вы прадалі сялянам вопратку?

— Не!

Злосць у яе голасе. У вачах заблішчэлі агенькі.

Дзяўчынка глядзіць то на сваю маці, то на Саламона.

У кутку каля ложка з чырвонай коўдрай вялікая скрыня.

Дзяўчынка часамі кідае вачыма на гэтую скрыню.

— А што ў вас тут?

Саламон кіўнуў рукою на скрыню.

— Бэбахі...

— А калі пазаву міліцыянера і паглядзім?..

Жанчына заплакала.

Кінулася ў слёзы і дзяўчынка, з жаласлівасцю паглядала на матку...

— Гэта не мой тавар... Я ўдава...

— А чыё ж гэта?

Жанчына ламала рукі.

— Я ўдава...

## ЗУСІМ НЕ ЖАРТЫ...

Саламон перагортваў свой блакнот.

Спецыяльна для сягонняшняга выступлення ён не рыхтаваўся, але нейк ідзе лёгка... Усім нутром ён быў да гэтага падрыхтаваны ўвесь час за апошнія пару тыдняў.

Электрычнае святло матавымі палосамі ляжала па ўсёй зале, адкідвала роўны водсвет на людскія твары.

Саламон гаварыў спакойна, роўным голасам, без выкрыкаў. Калі хто з прысутных зажмурваў вочы і не бачыў прамоўцы, яму здавалася, што гэта вядзецца сямейная гутарка ў прыватным памяшканні паміж дваіма людзьмі. Адзін слухае, а другі нешта тлумачыць. Але хто прыглядаўся да твару Саламона, заўважыў лёгкае дрыжэнне мускулаў і нібы самі вочы, бліскучыя і больш выразныя, чым заўсёды, дрыжэлі. Кроплі поту блішчэлі на яго лбе. Кожнаму здавалася, што прамоўца выключна на яго глядзіць і да яго гаворыць. У спакойным тоне яго можна было заўважыць стрымліванне, напружанасць.

— А вось цяпер ён пачне крычаць...— шапнула адна машыністка другой.

Яны сядзелі ў задніх радах.

— Глядзі, наш вылучэнец і не думае павышаць голасу. Ён па сутнасці добры чалавек...

— Толькі трохі ў твары паблядпеў. Хвалюецца...

Адна з іх адчыніла рыдыкуль і дастала адтуль цукерак. Пачаставала другую.

— І граматычных памылак у яго сягоння мала. Пры гэтым яна скрывіла тонкія губы ў двухсэнсовую ўхмылку.

— Кажуць, што да яго настаўнік на кватэру ходзіць, пачаў яго вучыць, ад «а» і «бэ» да «ц» дайшоў.

— Ды цішэй вы там!

Да іх адвярнуўся злосны твар прышчаватага рэгістратара.

Машыністкі сціхлі і ад прымушанага маўчання папараваліся аб спінку крэслаў.

«...Самакрытыка ў нас кепска пастаўлена. Пятро хваліць Паўла. Павел хваліць Пятра. Пятро ганіць Паўла. Павел ганіць Пятра. А дзе аб нашай працы? Дзе аб яе недахопах, аб якіх я раней казаў?»

Старшыня рэдкалегіі насценгазеты атрымаў ад суседа лёгкі штуршок у бок.

— Чуеш?

— Ну, што ж... Не я адзін у гэтым вінават. Чаму ты лепшага нічога не пішаш?

— Ціха! — крыкнуў са стала прэзідыума сакратар ячэйкі тав. Лабада. Дзеля большай строгасці ён злёгку пазваніў.

Старшыня сягоннящняга сходу, тав. Гарбулёў, узяў з рук Лабады званок і яшчэ раз пазваніў.

— Гэта ж абавязак старшыні званіць,— шапнуў ён на вуха Лабадзе. Той усміхнуўся.

Гарбулёў узяўся за сваю звычайную на сходах працу — рысаваў хімічным алоўкам на газеце пеўнічкаў. Ужо некалькі штук красуецца.

Часам падыме галаву ад паперы, усміхнецца ў бараду, бліснe на сход шкелкамі акуляр і зноў галаву апусціць.

Яму здаецца, што ўсе на яго глядзяць. Лазню ён меў сягоння з двух бакоў: па-першае — жонка хацела ісці ў кіно і злавалася, што ён позна вернецца, па-другое — ад вылучэнца яму сягоння здорава папала ды яшчэ пападзе.

— Прызнацца сягоння ж у памылках? — пытаўся Гарбулёў у самога сябе.— Можа, наступ гэтым аслабіцца...

Ён узяўся пакуль што за новага пеўнічка... Лабада глядзеў увесь час на профіль Саламона з запытаннем у вачах.

— ...Аднак ён ужо больш паўгадзіны гаворыць і да ячэйкі яшчэ не дабраўся...— думае Лабада.— Мабыць, на закуску пакідае... Што ж, я рабіў усё, што можна было пры ўмовах нашай установы. А што наш актыў слабы, я не вінаваты...

Кожнае слова Саламона б'е ў самае нутро, як малатком.

«...Цяпер пра аздараўленне нашага апарата...»

Саламон перагортвае свой блакнот, набліжае яго да самой лямпачкі пад сіні абажур. Зажмурвае вочы і знаходзіць патрэбную нататку.

— Маладзец Мінкін! — кажа на вуха ўборшчыца Зося, пажылая кабета, свайму суседу, лысаму бухгалтару.— Даўно пара рабочую брыгаду назначыць! Даўно пара яшчэ некалькі вылучэнцаў сюды з рабочых!

— Можа, вы самі мяркуеце ў інспектары? — пажартаваў бухгалтар і вышчарыў на Зосю гнілыя зубы.

— Хто б себе ні быў, але з нашага брата...

Па ўсіх тварах прамільгнуў цень неспакою. Хаваўся ў вачах прытоеным зайцам.

Прамоўца гаварыў пра чыстку апарата...

Бухгалтар пацягнуў дзелавода за рукаў.

— Хадзем курыць...

Трохі сагнуўшыся, хаваючыся, абодва выслізнулі за дзверы ў калідор. Лабада з-за стала прэзідыума бліснуў на іх халоднымі вачыма.

У калідоры голас Саламона з залы быў заглушаны сцяною.

— Гум-гум-гум! Гум-гум-гум! — гумкалі з залы раўнамерныя гукі Саламонавага голасу.

— Ён зусім не жартуе з намі! — сказаў бухгалтар.

Шчупленькі і спрытны дзелавод махнуў рукою з тонкімі пальцамі.

— Не трэба нерваў псаваць... На, куры!

Абодва закурылі. Зірнулі на сцяну, на пустое месца, дзе ўдзень вісела «Ільічоўка». Цяпер газета ў зале на сцяне пры ўваходзе.

Шмат народу глядзела сягоння «Баявік дня» — карыкатуру на Гарбулёва. «Мастак» установы — рэгістратар — намаляваў Гарбулёва з некалькімі пеўнікамі вакол, а знізу падпісаў:

«Выстаўка малюнкаў тав. Гарбулёва на сходах нашага калектыву».

Гэта карыкатура выклікала ўдзень шмат непрыемнасцей.

Дрыжаў рэгістратар ад страху перад Гарбулёвым.

Дрыжаў Гарбулёў ад злосці на рэгістратара.

Папалася рэдкалегіі ад тав. Лабады:

— Калі раз адважыліся, дык нічога больш дасціпнага не маглі прыдумаць. Гэта ж чорт ведае што! Гэта ж наступілі на качаргу, і яна бэцнула ў лоб! Карыкатура ўдарыла не па Гарбулёву, а па калектыве ў цэлым.

Ён кінуў зрок на рэгістратара:

— Каго ты разумееш пад гэтымі пеўнічкамі?

— Дурную прывычку Гарбулёва маляваць пеўнічкаў. Так і ўся рэдкалегія зразумела.

— А вы не падумалі, што пад пеўнічкамі можна зразумець... ну... хоць бы рэдкалегію?

— Не падумалі... А што, ідэалагічна не вытрымана?..

Рэгістратар спалохаўся.

Лабада засмяяўся.

— Прычым тут ідэалогія...

Старанна смакталі папяроскі бухгалтар і дзелавод.

Прамова Саламонава ад іх аддалялася толькі звонку. Роўныя водгукі яго голасу праз мураваную сцяну нагадвалі ім аб няпэўнай перспектыве ў бліжэйшай будучыні...

Кожны з іх думаў аб адным і тым жа:

«Скрыначка з наклейкай: «Тут збіраецца матэрыял па чыстцы апарата». Потым самы працэс чысткі. Капанне ў тваёй дзейнасці, паходжанні, мінулым. Непрыемнасці. Чым гэта яшчэ можа скончыцца?.. Можа, у гэтай скрыначцы магіла цябе чакае...»

— Гум-гум-гум! Гум-гум-гум! — чуваць з-за сцяны калідора голас Саламона.

— Зараз гадзіна, як гаворыць.

— Ён зусім не жартуе...

— Нялоўка тут у калідоры туляцца.

Яны ўкрадкам усунуліся ў залу.

Саламон сваю прамову скончыў. Гарбулёў успомніў пра карыкатуру ў газеце і злосна замазаў усіх сваіх пеўнічкаў.

У зале ішло шушуканне. Усе твары былі сур'ёзныя і напружаныя.

— Гэта паклёпы на нашу ўстанову,— сказаў адзін фінагент другому.

— Згушчэнне фарбаў,— згадзіўся другі.— Наша ўстанова не горш за іншыя працуе... Мы ўвесь час нічога не бачылі, а вось прыйшоў тав. Мінкін — і ўсё ўгледзеў...

— Вечна ганіць нас, а ці ёсць толк з гэтага шуму?

— Ну, ну, не гарачыся! Ён трохі мае рацыю...

І, як надзіва, машыністкі ва ўсім згаджаліся з новым фінінспектарам.

— А ведаеш, Люба, ён цікавы чалавек. Пачынае мне падабацца.

— Лоўка сцёбаў начальства. Лоўка! Як у гогалеўскім «Рэвізоры» выйшла. Закрануў Гарбулёва — той наставіў вушы і вочы, дзелавода — той замітусіўся. Фінагентаў — яны ажно падскочылі на сваіх крэслах.

Машыністкі ў захапленні.

Саламон сядзеў пры стале прэзідыума. Калі пасля запытанняў да яго і адказу на іх выступіў Гарбулёў, дык уся аўдыторыя рассейвала сваю ўвагу ў розныя бакі.

Гарбулёў гаварыў гладка, адшліфоўваў кожны сказ, даваў прыгожыя слоўцы. Голас у яго то звінеў металавымі гукамі, то чуліся кволыя ноткі крыўды, то хітрасплеценыя апраўданні.

— Тав. Мінкін сцёбаў, а ён свае плечыкі адварочвае,— сказала ўборшчыца бухгалтару.

Той маўчаў.

У зале неспакойна. Няма зацікаўленасці да прамовы Гарбулёва, якога чулі шмат разоў: апрыкрыў. Некаторыя могуць яму падказваць. Ведаюць, што ён далей будзе гаварыць...

Лабада часта трасе званком.

Гарбулёў выцірае акуляры белай хустачкай, калі-нікалі налівае ў шклянку вады з графіна, блішчыць акулярамі на залу і гаворыць без канца. Здаецца, так да заўтра будзе гаварыць...

Саламон то ўсміхаецца, то ціскае плячыма і ўсё нешта запісвае.

— Добра, што так сягоння сыпнуў! — звярнуўся да яго Лабада.

— Няма чаго цырымоніцца. Хоць і табе, Лабадок, папала.

— Што зробіш, вінават і я, але слабы ў нас актыў. Сам ведаеш!

— Падмацуем!

— Ну і лоўкі! — дзівіцца рэгістратар на Гарбулёва.— Па-ягонаму выходзіць, што ўстанова і вінавата і невінавата. А калі яна вінавата, дык ёсць нехта і нешта яшчэ больш вінаватыя...

Рэгістратар глытае масляныя словы Гарбулёва, глядзіць яму ў самы рот з зайздрасцю, што так хораша ўмее гаварыць...

Найвялікшай сваёй хваробай рэгістратар лічыць тое, што ён маўклівы. На дыспуце, на сходзе, на вечары, на ўрачыстасці ўсе яго таварышы выступаюць, а ён маўчыць... Не для таго маўчыць, што не мае чаго казаць, што няразвіты, не: ён добра разбіраецца ў розных пытаннях палітычна-грамадскага жыцця. Заўсёды на сходах ён сядзіць напружаны, чакае з нецярплівасцю канца кожнай прамовы, каб самому нешта сказаць... У яго галаве і цяпер рой цікавых думак, яскравых вобразаў, лагічных вывадаў, самых практычных прапаноў, рэзалюцый. Далей маўчаць нельга. Гэта будзе злачынствам...

— Адразу пасля Гарбулёва папрашу слова! — пастанаўляе рэгістратар. У сэрцы хваляванне.— Хутчэй бы скончыў ён... Я дакажу, што тав. Мінкін ва ўсім мае рацыю, нягледзячы на тое, што Гарбулёў так хораша выкручваецца.

Рэгістратару не цярпіцца, ёрзае па крэсле туды і сюды. Ён адчувае да тав. Мінкіна нейкую сімпатыю. Той з ім заўсёды на «ты». Проста з ім гаворыць.

Але як толькі рэгістратар сябе ўяўляе, што на яго будзе накіравана многа пільных вачэй, дык зараз жа нападае палахлівасць.

Скончыў Гарбулёў, а рэгістратар так і не загаварыў...

Сход цягнуўся доўга. Рэзалюцыя была прынята самая канкрэтная і тэрміновая. Усе працаўнікі ўстановы былі ўзбуджаны. Збіраліся купкамі, спрачаліся горача і позна не выходзілі з залы...

— Гэта ж цэлы пераварот у нас! — гаварыў бухгалтар.

— Даўно пара! — крыкнуў яму рэгістратар.

Як Саламон ішоў дамоў, электрычныя ліхтары ўжо не свяцілі. Было змрочна. Далёка за поўнач. Капала з стрэх, як напрадвесні. Ён быў прыемна ўсхваляваны: «Пачатак пералому падрыхтаваны... Яшчэ трэба будзе катнуць у газету...»

Ішоў дамоў шпаркімі крокамі. Хлюпаў пад нагамі раз-

жыжаны снег. Прыйшла на думку вестка, якую атрымаў днём: канферэнцыя вылучэнцаў у Мінску. І ён туды паедзе. Потым у Мінску арганізуюцца курсы. Потым для ўзмацнення кваліфікацыі паедзе ў Ленінград на месяцаў восем.

Тут ён злавіў сябе на тым, што вельмі дбае аб сваёй уласнай асобе.

Пачаў сябе папраўляць:

— Прыйдзецца яшчэ да Мінска і да Ленінграда тут, на месцы, здорава папрацаваць, пакуль рабочая брыгада, новыя вылучэнцы, і я ў тым ліку, не зробім поўнага пералому ва ўстанове...

Ён набліжаўся да свае кватэры. Тут толькі адчуў зморанасць ва ўсім целе. Стома была такая вялікая, што, бадай, апрануты кінецца на пасцель. Хутчэй бы. Але бяда з форткаю. Доўга прыйдзецца барабаніць, пакуль хто адчыніць.

Была надзвычайная цішыня, якая сплялася ў адно з вільгаццю ночы. Павольна ехаў па пустой вуліцы рамізнік без пасажыра. Ён сядзеў згорблены на перадку санак у ціхім раздум'і. Вельмі шпарка пранёсся аўтамабіль. На некалькі хвілін асвяціў вуліцу і бліскучай паласой памчаўся наперад...

У святле аўтамабіля Саламон заўважыў, як каля варот дома, дзе ён жыве, ходзіць туды і сюды нейкі чалавек. Відаць, кагосьці чакае, або гэта адзін з кватарантаў дома, які чакае, пакуль адчыняць фортку. «Прынамсі, весялей будзе мне».

Ён падышоў блізка.

Той зірнуў Саламону ў вочы. У чорным паліто, інжынерская шапка.

— Добры вечар!

— Добры вечар!

— Тав. Ліберман?

— Той самы. Як жывеце на новым месцы?

— Нічога. Працую. Што вы робіце тут, тав. Ліберман?

— А я быў на хлебазаводзе. Праходам апынуўся тут.

Саламону стала нясмачна. У мяккім тоне інжынера адчуў да сябе просьбу: ці не па справе бацькі — старога прайдохі Макса Лібермана?

Не дакончыў свае думкі, як інжынер прыступіў да справы.

— Тав. Мінкін. Хоць позна і тут не месца аб гэтым гаварыць і мне вельмі непрыемна, але мы з вамі старыя знаё-

мыя. Я б на вашым месцы, можа, і не быў бы лепшым. Але, ведаеце, тав. Мінкін, гэта ж маё няшчасце, мой бацька...

Ён гаварыў шэптам, але Саламону здавалася, што кожнае слова рэжа яму вуха, нібы скрыгат нажа па шкле.

— Ды што ж вы хочаце,тав. Ліберман?

Саламон адчуў, што лезе ў нейкую ціну, у клейкае балота.

— Бачыце, тав. Мінкін, вы не разумееце псіхалогіі старых людзей. Я свайму бацьку не дазваляю займацца спекуляцыяй, даю яму кожны месяц на жыццё, але ён не можа жыць без руху, без дзейнасці. Вы разумееце гэтую псіхалогію?

— Вельмі добра разумею...

— Апрача таго, ён трохі ненармальны. Бывае...

Саламон пачаў барабаніць у фортку з усіх сіл.

...Скуркі, масла, мыла...

— Падумайце самі, тав. Ліберман. Каб у мяне быў такі бацька, дык я б за яго не прасіў.

— Я разумею, але...

Адчынілася фортка.

Саламон ускочыў у двор і так шпарка замкнуў за сабою фортку, нібы за ім гналася чума...

Прайшоў у глыб двара. Ад абурэння ён аж плюнуў. Стомленасці як не было. Ужо на ганку свае кватэры Саламон чуў, як інжынер крыкнуў рамізніку.

«...Рамізнік чакаў яго ўвесь час...» — падумаў Саламон.

Ужо ў хаце Саламон пачуў фабрычныя гудкі з розных бакоў. Дрыжалі вокны.

Па твары праплыла радасная ўсмешка.

# У ДРЫМУЧЫХ ЛЯСАХ

## ПАЎВЕКА ТАМУ НАЗАД

Навакол, куды ні глянеш, шумелі лясы.

З аднаго боку высіліся бронзавыя хваіны, з другога боку гарызонт быў заслонены разнастайнай лісцяніцай. Калі над зубчатымі грэбнямі лясоў разгульвалі вятры, хаты маленькага мястэчка Пасадзец былі аглушаны гулам лясоў, нібы шумам своеасаблівых вадаспадаў.

Звінелі шыбы акон. У комінах вятры свісталі, вылі, галасілі, рагаталі. Дарослыя людзі глядзелі ў вокны, ківалі галовамі, гаварылі аб сухавеях, якія прагульваліся тут дзесяткі год таму назад. Быў тады сухмень. Прапаў ураджай. Людзі гінулі з галаду, нібы мухі.

На мяне гэтыя гутаркі наганялі страх. Бабуля гаварыла, што ў лясах і балотах чэрці вяселле спраўляюць — ад іх і вецер. Калі б трапіць на полі ў самую крутню ветру, што ўзнімае лісце і пыл і круціць на адным месцы, нібы ў паветраным віры, ды кінуць туды нож, гартаваны тры разы і апушчаны ў ваду тры разы,— нож трапіць у чорта. На нажы будзе кроў. Калі гэтай крывёй вымажаш лоб, станеш невідзімкай.

Ужо, калі я вучыўся ў школе, я аднаго разу прабаваў так зрабіць, але кроў не паказалася. Я быў упэўнены, што няправільна падрыхтаваў нож для такой важнай справы. А мне так хацелася зрабіцца невідзімкай, каб уцячы са школы...

Навакольныя вёскі бадай злучаліся з мястэчкам у адно. Зімою пад вокнамі вылі ваўкі. Яны часта падкапваліся пад хлявы і душылі авечак. Па лясах гаспадарылі мядзведзі. Наладжваліся аблавы. Прыязджалі паляўнічыя з усяго павета. На такіх аблавах бывалі і чалавечыя ахвяры. Не ад звера гінуў чалавек, але ад кулі неасцярожнага стральца.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Яркімі ўспышкамі паўстаюць у маёй памяці абразкі самага ранняга дзяцінства.

Я хворы на коклюш. Мяне душыць кашаль. З-за мяне маці не спіць цэлымі начамі. Яна таропіцца ў мяне з пакутай і спалохам у вачах. Я кашляю так цяжка, што часта трачу прытомнасць. Кожны раз прачынаюся ад дажджу. Гэта маці набірае з конаўкі поўны рот вады і пырскае ў мой твар.

Я зрабіўся капрызным, злым. Усё раблю мацеры напеrакор. Калі маці дае мне есці — я не ем. Есці прашу ўночы, і маці грэе мне на трыножніку кашку. Свавольнічаю і шкоджу ў хаце, колькі мне хочацца. А няхай маці спрабуе на мяне крычаць і злавацца, я тады наўмысле пачынаю кашляць і траціць прытомнасць. Я так налаўчыўся, што магу страціць прытомнасць, калі мне толькі ўздумаецца.

Я тыраню маці ўдзень і ўночы. Мой кашаль — мая пякельная сіла, якая бароніць мяне ад маіх злоўчынкаў. З-за майго кашлю маці пакутуе больш за мяне. Яна заве мяне не па імені, а «нядоляй»:

— Нядоля мая, ідзі есці!

— Нядоля мая, ідзі спаць!

— Нядоля мая, не хадзі да рэчкі!

Я прывык да гэтага слова і зусім спакойна на яго адклікаюся.

Маці задумала лячыць мяне. Яна ўзяла мяне за руку і вядзе да бабулі Евы. Я хістаюся ад слабасці. Галава ходырам ходзіць. Вось-вось упаду. Я стагну працягла і жаласліва, як дзед. Я малю і прашу:

— На рукі... На рукі...

— Ой, нядоля ты мая...— кажа маці і бярэ мяне на рукі.

Хатка Евы маленькая, бы скрынка. Па ўсіх шчылінах закураных сцен тырчаць пучкі сушаных траў і кветак. І твар Евы нагадвае сушаную бульбіну. Пахне дымам і рознымі кветкамі. Я пачынаю кашляць мацней. Ева доўга шэпча нада мной нейкія словы. Нарэшце яна робіць гнеўныя вочы і кажа мне ў самы твар:

— Цьфу! Цьфу! Цьфу!

Гэта яна выганяе з мяне «нячыстую сілу». Потым дае мацеры пачку чабору і ліповага цвету. Дома маці заварвае зёлкі і поіць мяне.

Евіны зёлкі не памагаюць.

— Хадзем, нядоля мая, да Карпухі! Можа, ён паможа...

Маці бярэ мяне на рукі, а мне дае трымаць бутэльку малака. Мы выпраўляемся. Ляснал дарога. Яркі летні дзень. Кукуе зязюля. Журчыць па каменнях рачулка.

Мяне палохае вялізны чорны корч. Я думаю, што гэта мядзведзь. Заплюшчваю вочы і прытвараюся спячым. Цяпер ніякіх мядзведзяў не баюся. Мы падыходзім да аброслай мохам зямлянкі. Тут жыве калматы, чорны ад сажы чалавек. Яго завуць Карпуха. Мы апускаемся ў яго паўзмрочную бярлогу. Маці падае яму бутэльку малака. Ён вылівае малако ў свой брудны жбанок і ў бутэльку налівае вады, якая ад астаткаў малака становіцца мутнай. Ён нешта шапоча над бутэлькай, апавядае ёй свой сакрэт.

Дома маці поіць мяне, сваю нядолю, скісшай каламуццю з бутэлькі. Яшчэ больш пачынаю кашляць.

Маці з «нядоляй» на руках зноў у лесе. Яна часта ставіць мяне на зямлю і рукавом выцірае свой твар, з якога пот цурком льецца.

Маці глядзіць на мяне злым вокам.

— Ці не наўмысне ты, нядоля мая, кашляеш і траціш прытомнасць? — пытаецца яна.— Ці ж можа быць, каб ні Еўка, ні Карпуха не маглі цябе вылечыць? Знаю цябе... Ты, мабыць, гэта робіш мне наперакор... Ты ж мяне са свету звядзеш... Ой, гора маё... Ой, ліха маё...

Да ранейшай нядолі прыбавілася цяпер і гора і ліха. Я палохаюся не на жарт і кажу ад усёй шчырасці сэрца:

— Дальбог, маці, не прытвараюся. Я вельмі баюся... Не пакідай мяне аднаго ў лесе... Мяне з'ядуць ваўкі.

Я пачынаю горка плакаць. Я ў сэрцы каюся, што дома свавольнічаў і часта наўмысне кашляў.

— Ды што ты, сынок мой...! Што ты, родны... Ты ж глупства пляцеш. Я ж цябе ніколі не пакіну. Ніколі!

Яна туліць мяне да сябе і плача разам са мною. Бярэ мяне на рукі і нясе далей. Яна доўга ўсхліпвае...

Над намі шушукаюцца высокія гордыя хвоі. Я думаю, што яны шэпчуць замову супроць майго кашлю. Па шурпатых дрэвах цячэ жывіца. Я ўпэўнены, што гэта дрэвы плачуць над горам маёй маткі. Мне становіцца шкада яе. Яна так пакутуе, гаротная, з-за мяне, з-за майго кашлю. Пастараюся больш ніколі не кашляць. Нават, калі захочацца кашляць, я сцісну зубы так моцна, што задушу свой кашаль. Задушу, як гадзюку. Мне гэты спосаб лячэння пачынае падабацца. Стрымаю свой кашаль, не выпушчу яго з рота. Але ў гэтую ж хвіліну я так закашляўся, што прыйшлося мне пакінуць на ўзвей-вецер такое цікавае адкрыццё ў медыцыне...

Пасля дзвюх гадзін хадзьбы і адпачынкаў мы набліжаемся да татарскага хутара. На нас нападаюць вялізныя,

як ваўкі, сабакі. Я войкаю ад страху. Чорны, як сажа, хударлявы дзяцюк адганяе сабак. Мы ўваходзім у багатую чыстую хату татарына Мунькі. У яго чорныя вочы, сівая барада і чырвоная ярмолка на голенай галаве. На ім доўгі паркалёвы ў палоскі халат. Такі цікавы выгляд чалавека ўнушае давер'е. Пачынаю верыць, што ён мяне вылечыць.

Маці падрабязна апавядае Муньку пра маю хваробу. Ён цярпліва слухае і ківае галавой. Пры гэтым ён адрэзвае лустку хлеба, намазвае на яе тонкі слой масла, раскрывае на стале тоўстую кнігу ў скураным пераплёце і доўга перагортвае лісты, пільна шукаючы нешта вачыма. Урэшце дастае з халата іголку і пачынае перапісваць іголкай на масле нейкія значкі з кнігі.

Дома я глытаў мудрасці татарскай кнігі «Кітаб» на хлебе з маслам. Не дапамог і «Кітаб».

Паўгода я быў матчынай нядоляй: кашляў, кашляў і кашляў.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Маці збірае шчаўе ля бярэзніка. Я лаўлю матылькоў і стракоз. Пахне канюшынай, падасінавікамі і рознымі палявымі кветкамі. Балюча кусаюцца авадні. Самая касьба і ўборка сена. Тут жа блізка накладваюць сена на вазы. Мужчыны, жанчыны і падлеткі працуюць граблямі. Побач за лазовымі кустамі працуюць з граблямі ў руках нашы суседзі — стрыечныя браты Іосель і Гірша. Яны ціха перагірkваюцца. Бачу, як чырванеюць іх твары і вочы наліваюцца злосцю. З кожнай хвілінай іх галасы становяцца больш гучнымі і гнеўнымі.

— Мая мяжа! — кажа адзін.

— Мая мяжа! — кажа другі.

Слова «мяжа» мяняе інтанацыю. Ад лірычнага тону спачатку яно набывае ўрэшце музыку грымот. Гірша з Іоселем пераходзяць ад слоў да ўзаемнай спробы грабель на родных спінах. Граблі не вытрымліваюць — друзгаюцца на кавалкі. Тады яны мяняюць граблі на кулакі. Крывавяць адзін аднаму насы і качаюцца па зямлі, моцна абняўшыся. У бойку ўмешваюцца іх жонкі і дзеці. Сям'я Іоселя малоціць граблямі Гіршу. Гадунцы Гіршы лупцуюць граблямі Іоселя. Часам пры такім імпэце дзеці хвошчуць роднага бацьку. Тактыка бітвы ў Іоселя і Гіршы адна і тая самая. Сілы таксама аднолькавыя. Крыкі, лаянкі, плач, лямант. Прыпеўка адна:

— Наша мяжа! — кажуць адны.

— Наша мяжа! — кажуць другія.

За гэтую самую мяжу біліся іх дзяды, ваявалі бацькі. Ніяк спадчыны падзяліць не маглі. За гэту мяжу дзед Калман забіў насмерць жалезным замком свайго роднага брата. За гэту мяжу стары Янкель трапным ударам дайніцы ў скронь прыкончыў свайго брата Мордуха. За гэту самую мяжу частуюцца цяпер іх дзеці. На гэтай аблітай крывёй мяжы можна накасіць усяго каля пуда сена...

Відаць, вайна трох пакаленняў адбываецца не так за сена, як за прынцып: «маё, а не тваё»...

Маці бярэ мяне за руку і вядзе дамоў. Па дарозе яна гаворыць сама з сабой:

— Мы шчаслівыя людзі. Нам жывецца спакойна, бо не маем сваёй зямлі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Гукі скрыпкі і бубна. Кадрылі, полькі, песні, смех, вясёлыя галасы, тупат ног. Наш самы блізкі сусед Ануфрэй жэніць свайго старэйшага сына.

Мяне вельмі цягне туды. Употайку ад маткі пускаюся бягом у Ануфрэеву хату. Дзяўчаты і хлопцы танцуюць. Пажылыя мужчыны п'юць гарэлку. Жанчыны ў яркіх каптурах сядзяць на ложках і спяваюць. На доўгіх лавах у хаце і ў сенцах на зямлі сядзяць п'яныя. Некаторыя дрэмлюць. Некаторыя дрыгаюць нагамі ў такт музыкі.
На парозе сустракае мяне сам Ануфрэй:

— А-а-а-а! Лэйзараў унук... Просім! Просім!

Ануфрэй бярэ мяне на рукі і ад сардэчнай гасціннасці прыціскаецца да майго твару барадой. Ад яго пахне гарэлкай. Ён садзіць мяне за стол і крычыць жонцы:

— Маці! Лэйзараў унук прыйшоў.

Ануфрэіха прыносіць мне вялікую міску з мёдам, пірог, арэхі, яблыкі. Усё гэта вельмі смачна. Я прагна накідваюся на пачастункі. Ануфрэіха глядзіць на мяне добрымі вачыма ды ўсё ахвоту паддае спеўным, пяшчотным голасам:

— Еш, хлапчучок! Еш!

Ануфрэй налівае «чуток» гарэлкі ў сінюю чарку ды падсоўвае мне пад самы нос.

— Пі, хлапчучок! Пі!

Я п'ю і закусваю. Гаспадары мяне хваляць.

— Малайчына! Ма-лай-чы-на!

Яны займаюцца новымі гасцямі. Ад гарэлкі мне становіцца весела. У самыя вочы мне зазірае сабака Трэзар. Ён так прагна прынюхваецца носам, што ноздры ў яго дрыжаць і вочы жмурацца. Ён віляе хвастом ды стучыць пярэдняй правай лапай аб падлогу: «лоп-лоп-лоп». Нібы хоча, ды не можа сказаць: «Дай! Дай! Дай!» Ах ты, разумны цюцька... Ён пачынае тоненька візгатаць і пускаць сліну. Я кідаю Трэзару аб'едкі са стала. Як вялікі майстар, ён хапае іх на ляту. Хап — і няма! Цям-цям — і з'еў... Я гатоў яго расцалаваць. Я хвалю яго:

— Дзіўны сабака! Залаты сабака! Дарагі сабака!

Трэзар наеўся, лёг на лаве каля мяне і спакойна заснуў.

Я любуюся маладымі. Яго завуць Ясь. Яе — Агата. Ён з геаргіняй у пятліцы новага пінжака. Яна — з вянком на галаве. Празрысты вэлюм затуляе яе твар. «Кароль і каралева», «Певень і курка», «Два галубочкі» — спяваюць аб іх цёткі ў каптурах. Маладыя моўчкі глядзяць адзін аднаму ў вочы і так прыязна сардэчна ўсміхаюцца, ажно здаюцца мне найпрыгажэйшымі і найлепшымі людзьмі на свеце...

Пры гэтым Ануфрэй са сваім сватам украдкам пазіраюць на маладых і цалуюць адзін аднаго ў губы тры разы.

— Сваток родны...

— Родны сваток...

Старыя ціхенька зюзюкаюць пра каня, пра карову, пра хату для маладых, пра багаты куфар маладой і зноў пачынаюць цалавацца... Якія ў іх слаўныя вочы...

Я пачынаю дзівіцца навокал.

— Што за дзіўны калаўрот?

Усё перада мною пачынае калясом кружыцца: і сваты, і госці, і маладыя, і музыканты, і печ, і Трэзар, і стол, і сцены. «Дзіўнае вяселле — усё кружыцца». І я апускаю галаву. Цішыня і змрок...

Калі маці мяне разбудзіла, я ляжаў пры стале на лаве, прыпёршыся галавою да белага Трэзара.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Маці нажала крапівы, наслала ў хляве і серп уткнула ў сцяну над дзвярыма. Пры гэтым яна мне растлумачыла:

— У гэту купальскую ноч ведзьмы адбіраюць малако ў кароў. Крапіва і серп абароняць нашу Падласенькую ад благіх ведзьмаў, не тут кажучы.

Навокал мястэчка палаюць вогнішчы. Хлопцы і дзяўчаты пяюць песні. Песні чаруюць мяне, плывуць ка мне ў самае сэрца. Агні і песні клічуць:

— Да нас... Да нас...

Я ўпрашваю маці:

— Хачу да людзей...

Па яе вачах бачу, што і яна «хоча да людзей».

Маці бярэ мяне за руку і вядзе сцежкай па мурожнаму лугу. Якая прыгожая ноч! Паветра салодкае, як мёд. Зоркі перамiргваюцца. Па нябеснай сiнi ад iх разыходзiцца ледзь прыкметная сярэбраная павуцiнка. Ля беланогiх бярозак сядзяць адзiночнымi парамi хлопцы i дзяўчаты. Смяюцца, жартуюць, цалуюцца.

Хтосьці звяртаецца да маёй маці:

— Хаіміха кветку шчасця шукае!

Маці адказвае:

— Я ўжо знайшла сваю кветку шчасця.

Вогнішча ля возера ўзнімае ўгару чырвоную чупрыну. Тут жа ў траве мігацяцца зоркамі светлячкі. Хлопцы і дзяўчаты ў вянках з кветак танцуюць вакол вогнішча, спрытна скачуць праз агонь, і крычаць, і смяюцца, і спяваюць. Вогнішча і людзі адлюстроўваюцца ў возеры перакуленыя дагары нагамі. Вельмі забаўна.

Дзяўчаты пускаюць па спакойным возеры дошчачкі з запаленымі маленькімі свечкамі. Я ў захапленні, я ашаломлены ўсім гэтым відовішчам. Я скачу на месцы, пляскаю ў далоні і хачу кінуцца ў ваду па свечачку.

Маці хапае мяне за руку.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ноч ранняй вясны.

Паводка даходзіць бадай да нашай хаты. Удзень я тут будаваў млынок з трэсак, чаўночкі з яловай кары пускаў.

Цяпер з усіх бакоў, нібы паводка, даплываюць да майго слыху песні. Я пытаюся ў маткі:

— Хто спявае?

— Валачобнікі.

Я не разумею гэтага слова, але больш не распытваю. Маці, стомленая за дзень, адразу засынае. Засынаю і я. Мне сніцца, што я стаю на самай вышцы Ануфрэевага азярода, а знізу глядзяць на мяне спалоханыя Ясь і яго жонка Агата і крычаць на ўвесь голас:

— Ён упадзе! Ён упадзе!

Я прасынаюся. За акном гучна спяваюць:

Добры вечар, пане ягамосце,
Прыйшлі валачобнікі да Лэйзара ў госці.
Выходзь жа, суседзе, на шырокі двор!
На дварэ стаіць залаты шацёр.
У шацёры свеціць веснавое сонца,
Месяц паглядае ў яркае аконца.
А ў тым шацёры скачуць дробны зоркі,
Між сабой вядуць гутаркі-гаворкі.
Залаты шацёр — гэта ваша хата.
Хай жа ў ёй будзе сыта і багата.
А наш князь, наш Лэйзар — веснавое сонца,
Княгіня Лэйзароўна — месяц у ваконцы.
Дзеткі-князяняткі — дробненькія зоркі —
Між сабой вядуць гутаркі-гаворкі,
Куй, наш князе, золата ў кузні малаткамі,
Нас частуй, княгінечка, мёдам, пірагамі!
Дайце залатовачкі, князяняткі-дзеткі!
Вам за гэта шчасцейка, вясёлыя леткі!

Кожны радок беларускай серэнады пераплятаецца з прыпевам «Зялёны явар, дубрава!»

Мы з маткай хутка апранаемся. Выносім на двор пачастункі і грошы. Тое самае робяць мой дзед і бабуля. Валачобнікі адыходзяць.

На дварэ цёмна і вільготна. Я пытаюся ў дзеда:

— Дзе залаты шацёр?

— Залаты шацёр толькі ў песнях бывае,— адказвае дзед.

Я зноў пытаюся ў дзеда:

— Ты князь?

— У песнях я князь. Мой герб медная конаўка,— жартуе дзед.

Песня мяне растрывожыла, узбаламуціла. «Усё прыгожае і цікавае толькі ў песнях бывае»,— думаю я і пачынаю паўтараць нядаўна прапетую песню.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Зімовая ноч.

Каля нашай хаты намяло гурбу снегу да самай страхі. Дзеду гэта падабаецца. Ён кажа, што цяплей будзе спаць.

У нас начуе незнаёмы чалавек. Гутарлівы, далікатны, чысты. Як прыйшоў, адразу зняў з плеч рамнёвую сумку, палажыў у куце на падлозе, кажух на цвік ля дзвярэй павесіў, памыўся, прычасаўся, павячэраў, дастаў кніжку

з кішэні і чытае. Ён — заліўшчык калош. Але ў нашай хаце, на жаль, ніхто калош не мае.

Чалавек вядзе доўгую гутарку з дзедам. Дзед палохаецца і дзівіцца:

— Як гэта бога няма?! Як гэта вы цара скінеце?! Я не ведаю Францыі. Я не чуў, што такое рэвалюцыя. Вы лепш аб гэтым больш нікому не гаварыце... Мне вас шкода. Вы ж добры чалавек, хаця і ў бога не веруеце... Бяда можа здарыцца з вамі, калі хто пачуе такія гутаркі.

Чалавек спявае ціха нейкую песню, потым садзіць мяне к сабе на калені і апавядае цікавую гісторыю.

Апрыкрыла чалавеку хадзіць пехатой: ногі забалелі, мазалі на пальцах нацёр, ды хадзіць самому па вялікіх прасторах зямлі вельмі марудная справа. Што ж зрабіў чалавек? Ён вельмі разумную справу ўчыніў! Ён звіў доўгую моцную вяроўку, на адным яе канцы зрабіў пятлю і закінуў дзікаму жарабцу на галаву. Злавіў каня, накарміў аўсом ды ўскочыў на яго спіну — насі! Конь спачатку не хацеў насіць чалавека на сваёй спіне, іржаў, брыкаўся, наравіўся, дыбам станавіўся. Але чалавек закілзаў яго ў жалезныя цуглі, даў некалькі разоў бізуном — і конь спакарыўся. А што ж яму было рабіць? Ён жа быў у няволі ў чалавека.

Прывык ён служыць чалавеку. Чалавек змайстраваў воз, калёсы ды запрог каня. Аднак і гэткая язда не зусім зручная — то дождж, то мароз і завея, то конь слабее. Ды не кожны чалавек мае каня. Багаты пан на шасцёрцы катаецца, а бедны мерае сваёй парай зямлю і аб кіёк абапіраецца. А чалавеку хацелася шпарка перабірацца з горада ў горад, з вёскі ў вёску. Што ж тут рабіць? Чалавек не індык. Ён умее шавяліць мазгамі.

І чалавек дадумаўся.

Склікаў ён тысячы людзей. А тысячы людзей о-го-го! — вялікую сілу маюць: усё зробяць, што толькі пажадаюць. Прыйшлі тысячы, дзесяткі тысяч людзей у густы лес, у чыстае поле, на дзікае каменне — з сякерамі, піламі, лапатамі, ламамі — ды ўзяліся за вялікую працу.

Зазвінела, загрымела і зашумела навакол. Аж водгаласкі пайшлі. Сякера сячэ, піла пілуе, лапата капае, лом пад камень падлязае. Праца кіпіць — аж зямля дрыжыць. Народ горы ўзрывае, ямы засыпае, просекі ў пушчы прасякае і над рэчкамі масты будуе. І народ пракладвае дарогу на сотні і тысячы вёрст — гладкую, як ток, і роўную, як струну. Каб дарога была моцная, яе масцяць каменнем.

Зверху кладуць упоперак роўныя бярвенцы, а на бярвенцах сцелюць парамі доўгія жалезныя палосы — ад горада да горада, ад сяла да сяла.

Пабудаваў народ хаты на калёсах, паставіў іх на жалезныя палосы. Выдумаў машыну замест каня, замест тысячы тысяч коней. Прывязаў ланцугамі хату да хаты, а да ўсіх хат прыпрог машыну. Пасадзіў на машыну фурмана-машыніста, і зазвінеў, і свіснуў, і паімчаўся вялікі поезд. Едзе па жалезнай дарозе цэлая вуліца хат — дваццаць, сорак, пяцьдзесят. Хаты маляваныя, з прыгожымі вокнамі, з роўнымі комінамі. Людзі сабе па хатах ляжаць, сядзяць, стаяць — як хто хоча. Ходзяць сабе з хаты ў хату ў госці, песні спяваюць, кніжкі чытаюць, ядуць, п'юць — як хто хоча. А тым часам вялікае, шматлюднае сяло на калёсах імчыцца наперад, наперад, удаль, удаль... насупраць бягуць лясы, вёскі, гарады. Так на вока здаецца. Бо шпарка ляціць сяло.

Машыніст пакруціць ручку — дык воблакам валіць, іскры лятуць, гудкі гудуць:

— Тру-ру-ру-у-у! Гу-гу-у-у!

А машына — пых-пых-пых! Пых-пых-пых!

А жалезныя калёсы па жалезных палосах грукочуць-стукочуць:

— Тра-та-та-та-та! Тра-та-та-та-та!

І якую толькі песню заспяваеш — поезд будзе ёй такт адбіваць, як той барабан. Людзі спакойна кладуцца спаць у Мінску, а прасыпаюцца ў Маскве. Прыехалі!

Вось як, малы шпунт!

— Не можа быць! — кажу.— Хіба чараўнік так можа зрабіць...

— Народ усё можа зрабіць! — запэўнівае мяне незнаёмы чалавек.

— Каб цэлае сяло імчалася сотні і тысячы вёрст! Не веру! Не веру! Не веру! Навошта мяне абманваць?

Чалавек смяецца.

— Не верыш, малы шпунт?

— Не! Не! Не!

Тады ён дастае з рамнёвай сумкі кніжку і паказвае мне ў ёй намаляваны поезд.

Бачу — праўда! Шмат хат на калёсах. Бачу чыгунку з рэйкамі. З майго горла вырываецца крык вялікага здзіўлення:

— А-яй-яй!

— Цяпер верыш?

Я хвіліну думаю.

— І цяпер не веру...

— Ты ж сам бачыш!

— Гэта нехта так сабе намаляваў.

Чалавек аглядае мяне з галавы да ног.

— Ну і шпу-у-унт!

## КАРАВАНЫ

Праз Пасадзец праходзіў стары тракт на Мінск. Гэта надавала маленькаму мястэчку вялікае ажыўленне. Дзень у дзень праязджалі і спыняліся ў пасадзецкіх корчмах дзесяткі фурманак. З самых аддаленых мястэчак Віленшчыны ездзілі ў Мінск караваны з ільном, збожжам, скурай, мясам, маслам, шчэццю, мёдам, пянькой, пушнінай, птушкай, яйкамі ды іншымі сельскагаспадарчымі прадуктамі. З Мінска вазілі для крамнікаў дзесяткаў мястэчак мануфактуру, галантарэю, бакалею, скабяныя ды іншыя тавары.

Перавозкай тавару займаліся патомственныя ад дзядоў і прадзедаў балаголы. Яны называліся «камісіянерамі». Гэта былі людзі-асілкі, абветраныя сцюжай і апаленыя спёкай. Усе, нібы на падбор, высакарослыя, барадатыя, у доўгіх бобрыкавых балахонах з капюшонамі, падпярэзаныя шырокімі рамнёвымі паясамі. Ад камісіянераў пахла дзёгцем, гарэлкай, конскім потам і лесам. Па дарозе яны скуплівалі тавар у пасадзецкай ваколіцы. Пасадзецкія яўрэі і навакольныя сяляне прывозілі і прыносілі ў корчмы камісіянерам свае тавары.

Па дарозе ў Мінск і з Мінска камісіянеры бралі пасажыраў, або — як яны самі называлі — седакоў. Іншых шляхоў зносін на Мінск не было.

Пасажыры былі разнастайныя: крамнікі і крамнічыхі, прапаведнікі, настаўнікі, студэнты, гімназісты, музыкі, дробныя чыноўнікі, рабіны, прадаўшчыкі ікон і крыжыкаў, прадаўшчыкі бібліі і яўрэйскіх багамолляў, папы, ксяндзы, агенты па страхаванню жыцця, па страхаванню ад пажараў, рамеснікі, ювеліры, фокуснікі і шмат-шмат іншых.

Пасажыры плацілі камісіянерам даволі танна, але больш хадзілі пехатою, чымся сядзелі на фурах, што былі заўсёды даверху напакаваны таварам. Сядзець на возе дазвалялася «седакам» толькі па гладкай дарозе або з гары. На кепскай дарозе пасажыры злязалі з фур. А хто сам аб

гэтым не здагадваўся, таго камісіянер прасіў. А хто даб-
ром не слухаўся, таго зганяла з фуры пуга-драцянка. Калі коні выбіваліся з сіл, пасажыры падпіхвалі вазы. Хто адмаўляўся — камісіянер скідваў з воза яго рэчы.

Камісіянер быў строгім капітанам свайго чатырохкалёснага карабля і поўным уладаром над пасажырамі. Яны рабіліся яго нявольнікамі.

У Пасадцы былі дзве карчмы. Адна з іх вялікая — са стадолай на дваццаць падарожніцкіх фур. Пры карчме была крама і шынок, у які гарэлку прывозілі бочкамі з недалёкага панскага бровара. Часта прыязджалі акцызнікі, правяралі градусы гарэлкі і бралі ў карчмара хабар.

У карчму хадзілі местачковыя даведвацца ў камісіянераў і пасажыраў аб тым, што дзеецца на свеце. Газет ніхто не чытаў.

Такія корчмы-станцыі мінскі тракт меў бадай праз кожныя дзесяць кіламетраў. Па гэтых корчмах камісіянерскія караваны спыняліся иначч. Тут п'янствавала навакольнае сялянства. Тут аддавалі за гарэлку апошні пуд збожжа, апошні кажух. Тут ачумелыя п'яніцы біліся каламі, абнімаліся, цалаваліся ды зноў пілі і зноў біліся... Ля карчмы заўсёды бывала «весела» — галоўны тэатр, галоўнае відовішча ваколіцы.

Абапал тракту шумелі векавыя бары. Па начах ездзіць з дарагімі таварамі ды з кайстрамі, напакаванымі «кацярынкамі» (сторублёвымі асігнацыямі), было небяспечна. Рэдка калі ездзілі ўночы. Славіліся тут даўней, пры паншчыне, малойцы разбойніка Ціхана, гарачая хеўра канакрада Шлёмкі ды розныя іншыя. Такія аматары бывалі і пазней. На камісіянераў адбываліся часам напады і сярод белага дня. Таму яны ездзілі караванамі-абозамі. Камісіянеры мелі пры сабе сякеры, чачоткавыя даўбежкі, пісталеты. На іх нападалі вельмі рэдка.

Нікога і нічога камісіянеры ў дарозе не баяліся і не паважалі, апрача адной асобы, якой яны, між іншым, ніколі не бачылі ў твар. Асоба гэта была жаночага роду, вельмі ганарыстая і паважная. У камісіянераў яна была накшталт царыцы. Кожны тыдзень яны сустракалі яе на вялізным тракце з малітвамі і паклонамі. Яна затрымлівала караваны на цэлыя суткі і збірала даніну з фурманоў і пасажыраў.

Гэта царыца звалася Шабас — субота. Калі ў пятніцу пасля захаду сонца субота надыходзіла сярод лесу, караван спыняўся тут жа на цэлыя суткі. Набожныя жанчыны-

пасажыркі прымацоўвалі да галін дрэў і да каменняў шабасовыя свечкі і маліліся перад імі невідочнай царыцы Шабас. Людзі тады моцна прытрымліваліся рэлігійных забабонаў.

Звычайна шабасавалі на корчмах. Часта ў пасадзецкіх корчмах шабасавала шмат падарожнікаў, сярод якіх бывалі і неяўрэі: паны, чыноўнікі, студэнты. Царыца Шабас трымала іх у няволі цэлыя суткі.

Пасадзец тады выглядаў вакзалам: шумна, весела шматлюдна.

Апрача камісіянераў праязджалі і праходзілі праз Пасадзец розныя людзі: дзехцяры, анучнікі, мануфактуршчыкі на фурманках, карабейнікі-пешаходы, агенты па продажу кос і сярпоў, агенты па распаўсюджванню швейных машын, кнiганошы, катарыншчыкі, дратаўшчыкі гаршкоў, бляхары, краўцы, шкляры.

## НАША ХАТА

Бадай адзінай беззямельнай у мястэчку была наша сям'я. Дзед арандаваў старую сялянскую хатку з гародам для бульбы. Хатка стаяла на самым канцы мястэчка на нізкім месцы. Акенцы хаткі, з залатанымі лучынамі шыбамі, улезлі ў самую зямлю. Дзед і бабуля жылі ў галоўнай хаце, мае бацькі — у сенцах: у маленькай каморцы з акенцам на гарод. У гэтай цеснай каморцы змяшчаліся толькі два ложкі для спання і невялічкая печка-ляжанка. Днём мы знаходзіліся ў вялікім дзедавым пакоі. Абстаноўка была самая звычайная: вялікая печ з шырокім тапчаном насупроць, стол з доўгімі лавамі. Шафа падзяляла дзедаў пакой на дзве паловы. За шафай была дзедава спальня, дзе стаялі два драўляныя ложкі і камод.

На камодзе красаваліся масянджовыя падсвечнікі, медны ярка нашараваны самавар і стаялі прыпёртыя да сцяны алавяныя з замыславатымі ўзорамі талеркі. Пасярэдзіне пакоя вісеў на жалезным кругу, прымацаваным да бэлькі, бронзавы сямісвечнік. Ён выглядаў у гэтай хаце багатым госцем на вяселлі ў бедных сваякоў.

На неатынкаваных сценах, з'едзеных шашалем у розныя ўзоры, нагадваючыя кітайскія пісьмёны, не было ніякіх карцін, апрача мізраха, што азначае ўсход сонца. Мізрах, у раме пад шклом, вісеў на ўсходняй старане. Тры разы на дзень дзед маліўся перад мізрахам, на якім быў

намаляваны горад з небывалымі рознакаляровымі казачнымі дамамі з вежамі, з руінамі замка. Пад горадам было надрукавана на стараяўрэйскай мове: «Ніколі цябе не забуду, Іерусалім». Над горадам віселі ў паветры два крылатыя львы. У пярэдніх лапах яны трымалі Маісеевы скрыжалі, на якіх залатымі літарамі былі напісаны дзесяць запаведзей.

Падлога хаткі была няроўная. Яе заўсёды з'ядаў грыб. Часта мянялі падлогу, але гэта мала дапамагала. Яна згнівала за адзін год.

Да хаткі было прыбудавана трысценне для каровы, каня і для сена. Хатка знаходзілася на метраў дваццаць ад тракту, але не была адгароджана. На другім баку тракту стаяла дзедава кузня.

На палянцы каля хаты ўлетку буяла крапіва ў рост чалавека. Рос палын, лопух, некалькі кусткоў маліны. Былі тут свіныя яблычкі, заяч'е шчаўе, адуванчыкі, рамашкі, кураслеп, незабудкі, а пад высокай старой вярбой разраслася пышная сям'я мухамораў. Розныя «божыя кароўкі», жучкі, матылькі, вусені жылі і множыліся на гэтым кавалку зямлі. Гэты невялічкі куток ператварыўся ў маёй дзіцячай фантазіі ў казачны лес з незвычайнымі істотамі.

Тут жа пад вярбою бруілася крыніца, у якой стаяла бочка без дна. Ваду даставалі з крыніцы, нібы з цэбра, меднай конаўкай або вядром. Вада заўсёды пералівалася праз край бочкі і ў мяккім грунце вырыла вузенькі, як лучынка, ручаёк. Ён ніколі не высыхаў і з журчаннем пераліваўся з каменьчыка на каменьчык. Працэджваючыся праз дарожны пясок, ручаёк са звонам уліваўся ў вузенькую рачулку. Сярэбраным ланцужком рачулка злучала два азёрцы, што знаходзіліся па абодвух баках мястэчка. Пры кожным возеры быў невялічкі запылены мукой млынок.

Кавалак зямлі ля дзедавай хаты быў маім. Тут я раскідваў крошкі хлеба, на якія зляталіся птушкі з вярбы. Тут я будаваў будачкі-палаткі, у якіх ляжаў з хлапчукамі-равеснікамі ў гарачыя дні.

Адно-адзінае гора я тады перажываў. У кожную нядзелю на маёй абетаванай зямлі збіраліся п'яныя з карчмы. Яны тут адпачывалі, а часам начавалі на мяккай траве. Некаторыя з іх, лежачы ля крыніцы, апускалі галовы ў халодную, як лёд, ваду і пілі. Назаўтра дзед кожны раз чысціў крыніцу.

На крокаў трыста ад хаткі быў густы ліцсяны лес. Грыбы, ягады, арэхі — рукой падаць. За некалькі хвілін маці набірала грыбоў на абед.

Сям'я наша была дружная і працавітая. Дзед быў раменнікам-меднікам. Заўсёды звінеў аб кавадла дзедаў малаток. Бацька вазіў купецкі лес на рум. Віленскія і мінскія лесапрамыслоўцы знішчалі тутэйшыя пушчы дзесяткамі год і сплаўлялі лясны тавар праз Вільна і Коўна ў Прусію. Рэдка калі бацька бываў дома.

Маці была каптурніцай — шыла каптуры для старых сялянак вакольных вёсак. Бабуля тупалася вечна ля печы. Адзіным гультаем у хаце быў я — старэйшы сын у бацькоў і старэйшы ўнук у дзеда і бабулі. Усе яны адносіліся да мяне пяшчотна. Рэдка калі я чуў дома сваркі. Затое навакол хаты ў кожную нядзелю брыдкімі словамі лаяліся п'яныя. П'яны Анупрэй, у каго дзед арандаваў хату, гнаўся за сваёй жонкай. Яна ўцякала ад яго ў кузню да дзеда з крыкам:

— Лэйзарка, ратуй!..

Анупрэй шанаваў майго дзеда і нават п'яны слухаўся яго. Дзеду прыходзілася мірыць сваіх «паноў» даволі часта.

## АБХОД МЯСТЭЧКА

Цацак мне не куплялі. Але кожны мой дзень быў і без іх перапоўнены. У мяне быў равеснік — хлопчык Фоля, сын аднаго суседа-земляроба. Шустры чарнавокі Фоля прыбягаў кожную летнюю раніцу ка мне, і мы рабілі абход мястэчка.

Па суседскіх хатах мы адчувалі сябе, як дома. Першнаперш мы хадзілі ў корчмы глядзець новых людзей: пасажыраў, што праязджалі з камісіянерамі. Глядзець новых людзей была адной з маіх асалод. З цікаўнасцю я пазіраў на новыя твары, на разнастайныя шапкі, капелюшы і вопратку. Я прагна прыслухоўваўся да гутарак, да незразумелых мне слоў. Нават новыя галасы мяне цікавілі. Часам хто-небудзь з іх заспявае незнаёмую мне песню. А то аднаго разу адзін у капелюшы і манішцы зняў з фуры веласіпед, сеў на ім верхам і давай катацца па дарозе. За ім бегла гурма дзяцей і крыкамі без слоў выказвала сваё шчырае захапленне дзівоснай машынай, што сама едзе...

Мы з Фолем спыняліся ля адчыненага акна шаўца Ісро-

эля. Ён заўсёды трымаў поўны рот драўляных цвічкоў, якія па аднаму хутка ўбіваў малатком у падмётку.

— А, гэта вы! — гаварыў шавец, і цвічкі з губ рассыпаліся яму па чорнай барадзе.

— Гэта мы...

— Вы не так сабе прыйшлі?

— Не так сабе...

— Раменьчыкі?

— Раменьчыкі...

Ісроэль даваў нам пару тоненькіх рамнёвых шнуркоў. Пры гэтым пытаўся:

— І ўсё?

— І ўсё...

Мы памыкаліся ісці. Ён нас затрымліваў.

— Пачакайце, дабрадзеі!

— Чакаем...

— Чаму не падзякавалі?

— Дзякуем...

— Як прыйдзеце заўтра, скажыце «дзень добры!».

— Дзень добры!

І мы ўцяклі. Бо такі дыялог мог бы зацягнуцца надоўга, а нам часу няма. Знаходзім кіёчкі і майструем сабе пугі. Узброеныя пугамі, бяжым да столяра Янкі. Рыжавусы Янка — чалавек, які ўсё ўмее рабіць: і вокны, і шафы, і ўслончыкі, і малатарні, і ўсё-ўсё. Ля яго варштата вельмі шмат стружак. Яны доўгія, як пасы; белыя як снег; гладкія як шоўк.

Мы з Фолем разам з хлопчыкамі столяра ляжым на стружках, як на сене. Стружкі прыемна шурхаюць і прыемна пахнуць. Мы робім са стружак розныя рэчы: гармонікі, хаткі, чаўночкі, коўшыкі.

Рыжавусы Янка яшчэ і парыкмахер. За пяць капеек ён стрыжэ і голіць. Мы, дзеці, шануем яго галоўным чынам за тое, што ён умее пачыняць гадзіннікі. Калі выпадкова трапляем да яго ў такі шчаслівы час, калі ён разбірае на кавалачкі кішэннікавы гадзіннік, наша дзіцячая дапытлівасць задаволена. Мы хмялеем ад прыемнасці. Ён нас, дзяцей, да самага стала не падпускае. Нашы вочы вострыя. Добра бачым і здалёк. Глядзім і дзівімся.

Янка трымае на правым воку чорны келішачак са шкляным дном і поркаецца тоненькімі абцужкамі ў калёсіках. Адшрубоўвае і зашрубоўвае. Работа такая далікатная, ажно страх бярэ нас — малых. Каб хаця дзядзька Янка не згубіў маленькага, як макавае зерне, шрубочка.

Мы пацеем ад напружанага назірання. Урэшце прыгожы бліскучы гадзіннік складзены, зашрубаваны, накручаны маленькім ключыкам. Гадзіннік пачынае стукаць, як жывое чалавечае сэрца:

— Цік-цік... цік-цік...

Якраз цвыркунок! Вочы маіх таварышаў гараць ад захаплення. У мяне стрымліваецца дыханне. Я падстаўляю вуха да гадзінніка. Гадзіннік мне кажа на сваёй далікатнай мове:

— Цік-цік... цік-цік...

Я выціраю ўспацелы ад хвалявання лоб. Янка закручвае ўгору кончыкі рыжых вусоў, глядзіць на нас ды задаволена ўсміхаецца.

Мы ўжо за тры хаты ад рыжавусага Янкі, а мне ўсё яшчэ здаецца, што чую, як гаворыць гадзіннік на дзівоснай мове тоненькіх, як валаскі, пружыначак.

— Цік-цік... цік-цік...

Гурт дзяцей павялічваецца. Мы накіроўваемся да каваля Гірша-Меера. Ён высокі, моцны, з рэдкай казлінай бародкай. Заўсёды ля яго кузні шмат народу: падкоўваюць коней, куюць нарогі, нацягваюць шыны на калёсы. З горна сыплюцца снапы залатых іскраў.

Людзі жартуюць, смяюцца. Я паглядаю, як Гірша-Меер нацягвае шыны на калёсы, і пачынаю фантазіраваць:

...А калі б такія ж калёсы былі ў гадзінніка! Гадзіннік быў бы вялікі, нібы хата, і грукатаў бы так моцна, што можна было б аглохнуць. А гэты гадзіннік трымаў бы ў камізэлькавай кішэні велікан ростам да воблакаў. А я ўскарабкаўся б велікану, нібы мурашка, на галаву і глядзеў бы, што робіцца вакол. Пэўна, відаць было б з аднаго канца свету ў другі канец...

У нашай ваколіцы Гірша-Меер лічыцца асілкам. Ён вельмі моцны і любіць дужацца. Няма ніводнага чалавека ў ваколіцы, якога б каваль не здужаў. Аднак Гірша-Меер мне не зусім падабаецца. Гэта з таго часу, калі я ў яго кузні наступіў босай нагой на гарачы кавалак жалеза.

Пасля таго выпадку я да яго не хаджу. Я хаджу толькі да яго галагуцкага пеўня, які славіцца на ўсю ваколіцу. Вялікі — з мяне, пяцігадовага хлапца. А прыгожы ён, прыгожы... Грэбень — чырвоны аксаміт. Дзюба — сіняя сталь. Пер'е агнём палае. Хвост — залаты паўмесяц. Ногі калматыя, магутныя, з доўгімі, вострымі, як шылы, кіпцюрамі. Калі ён ступае па падлозе, здаецца, што гэта ходзіць чалавек у цяжкіх ботах, такт адбівае, як мікалаеўскі салдат

Мікіта. А як ускочыць на плот і горда залапоча крыллямі ды закукарэкае,— з яго магутнага горла выходзяць такія грымотныя гукі, аж мае сябры жмураць вочы. У дванаццаць гадзін ночы і пад раніцу ён будзіць усіх местачковых. Ён лепш за гадзіннік — ніколі не псуецца і вельмі акуратны. Я мару аб тым, што гэты галагуцкі певень навучыцца лятаць, як арол. Я тады буду сядзець на ім верхам ды імчацца высока-высока...

Ад пеўня Гірша-Меера местачкоўцы маюць нямала згрызот. Усіх пеўняў забівае гэты гарэзны разбойнік. Ён магутны, як яго гаспадар. Певень — гордасць і ўцеха каваля. А калі местачковыя гаспадыні прыходзяць да каваля сварыцца за сваіх пакрыўджаных пеўнікаў, Гірша-Меер кажа:

— Затое мой галагуцкі малайчына каршуноў адганяе ад вашых курэй.

За забітых пеўняў Гірша-Меер выплачваў гаспадыням грашмі або нажамі свайго вырабу. А яго певень збіраў у адну вясёлую грамаду ўсіх удоў-курэй мястэчка. Аднаго разу, калі каршун напаў на маленькіх куранятак, галагуцкі певень каваля забіў каршуна, з якога стары паляўнічы Вышамірскі зрабіў чучала і павесіў у сваім садзе на дрэве.

Жыццё галагуцкага пеўня скончылася раптоўна і трагічна. Жонка Гірша-Меера забіла яго малатком. Каб Гірша-Меер бачыў, не дазволіў бы. Каваль нічога аб гэтым не ведаў. Ён ляжаў на ложку хворы, у вялікай гарачцы. Певень выпадкова наступіў яму вострымі кіпцюрамі на босую нагу і моцна параніў. Гірша-Меер памёр ад заражэння крыві. Ён так любіў пеўня, што перад смерцю хацеў на яго паглядзець...

Нечакана загінулі два асілкі ваколіцы — певень і каваль.

Мы — грамадка дзяцей — абыходзім хату татарына Мухлі, які вырабляе аўчыны. Тут нядобра пахне. У гарачы летні дзень выпраўляемся на цагельню. Мы з Фолем часта рабілі там з гліны пячуркі, ляпілі хаткі, гаршкі, каровак, пеўнічкаў. Цагельня знаходзіцца за гумном і вялікім садам ураднікa Ясінскага.

Мала таго што ўраднік абірае ваколіцу, дык яшчэ ўздумаў цэглу прадаваць. Выраб цэглы бадай нічога яму не каштуе. На яго заўсёды працавалі дарэмна дзесяткі «штрафных» людзей: аралі яго поле, касілі яго лугі, насадзілі яму вялікі сад, збудавалі яму хлявы, свіран, а цяпер робяць яму цэглу. Гэта былі розныя нядоімшчыкі або

такія, чыя жывёла пападала на чужое поле, або калі два п'яніцы ў нядзелю паб'юцца. Усе яны плацілі штраф не пацярпеўшаму, а ўрадніку. На яго працавалі і дробныя зладзеі. Хто ў каго з поля сноп жыта ўкрадзе — працуе ў урадніка, курыцу сцягне ў суседа — адпрацоўвае ў урадніка.

Такія людзі працавалі і на яго цагельні. Ля цагельні шмат народу. Ажыўленыя гутаркі. Смех. Мы з Фолем падыходзім бліжэй. У чым справа?

Пад вялізнай нізкай страхою акуратна складзена шмат цэглы. Унізе з гэтай жа цэглы была зроблена вялізная печ, якая палілася ўжо некалькі дзён. Уся цэгла ўжо была вельмі напалена. Дровы падкладвала Марта — бедная ўдава з «штрафных», якая ўжо цэлы тыдзень працавала на ўрадніцкай цагельні.

Марта з двума малымі дзецьмі жыла на выгане ў старой хатцы. Яе муж, паляўнічы, загінуў ад кулі другога паляўнічага пры паляванні на мядзведзя. Удава хадзіла на падзённую работу, мыла бялізну ў карчмара і крамнікаў, даіла ў іх кароў і насіла ваду.

У ўрадніка Ясінскага прапала на выгане малое парасё. Ураднік западозрыў, што парасё ўкрала Марта. Довад быў адзін: Марта самая бедная ў мястэчку і не мае чаго есці... Ураднік біў яе бізуном. Марта не прызнавалася. Сцяла зубы і маўчала. Нават ні разу ад болю не крыкнула. Гэта яшчэ больш угнявіла ўрадніка. Ён прымусіў Марту працаваць дзесяць дзён на сваёй цагельні «за парасё».

Калі мы, дзеці, прыбеглі на цагельню, ураднік любаваўся напаленай цэглай. Ён пакруціў сівыя вусы. Яго вочы дзіка бліснулі. Ён зірнуў на сялян і весела абвясціў:

— Хто пройдзе босы па цэглах, таму дам рубля!

Пачуліся галасы:

— Мы не прывыклі да лёгкага хлеба.

— Мне яшчэ рана ў пекла.

— Твая цэгла, сам пяткі грэй.

— Такіх аматараў у нас няма.

— І за дзесяць рублёў не хачу.

Ураднік кпліва паглядзеў на людзей, дастаў з кішэні срэбраны рубель і давай падкідваць яго на далоні.

— Вось гэты рубель дам, хто хоча?

— А рубель не фальшывы?

— Не жартуй! — раззлаваўся ўраднік.— Ну, хто хоча?

— Я! — крыкнула ўдава Марта.

— Ты?! — здзівіўся ўраднік.

— Кінь, Марта, кваніцца на такія рублі! — крыкнуў хтосьці з сялян.

— Пайду! — сказала Марта.

Ураднік пажартаваў:

— Ідуць у танцы абадранцы! І ні разу не крыкнеш ад болю?

— Прывыкла я да болю. Пан ураднік ведае...

Ураднік строга на яе зірнуў.

— Добра! — сказаў ён.— Калі хоць раз застогнеш ад болю, не дам ні капейкі.

— Не застагну...

Ізноў пачуліся галасы:

— І я дам грыўню!

— І я прыкіну залатоўку!

— Няхай будзе і мая саракоўка!

— І мой мужычок — бедны-медны пятачок!

Людзі рагаталі. Даставалі серабро. Загарэліся вочы. Пачаліся спрэчкі: «Крыкне Марта ад болю ці не?»

Паставілі яшчэ адну ўмову:

«Марта павінна ісці павольным крокам, не спяшаючыся...»

Гераіня дня стаяла спакойная, толькі праз меру часта церабіла пальцамі свае зрэбныя лахманы. Худая, сінявокая, чорнавалосая ўдава пазірала на свае ногі ды крывіла губы ва ўсмешку. Яе ногі бадай да кален былі пакрыты засохлай гразёй. Яны былі патрэсканыя. Падэшва ног была тоўстая. Відаць, Марта спадзявалася на засохлую гразь на нагах.

— Ну, Марта! — сказаў ураднік.— Пара...

Зноў пачуліся галасы.

— Не лезь, Марта!

— Аддам табе свой пятак і так.

— Яна ж гэта для сіротак бедных...

— Ногі скалечыш — не лезь!

Ураднік зазлаваўся:

— Не бунтуйце бабу!

Удава перахрысцілася кастлявай рукой і ўскочыла на гарачыя цэглы. Адлегласць у дзесяць пякельных крокаў была перад ёю. У яе вачах мільгнуў спалох. Яна сціснула зубы, пабляднела і пайшла на пятках. Пад нагамі ледзь дымілася... Людзі прытаілі дыханне. Кожная секунда здавалася гадзінаю. Марта закусіла губу вострымі белымі зубамі. Яе вочы расшырыліся. З іх цяклі слёзы.

Ураднік сказаў паважна:

— Мерным крокам!

Яна ступала цяпер на пальцах. З ног сачылася кроў. Са збялелага лба цурком ліўся пот. З яе лахманоў клубілася пара. Вочы Марты зрабіліся круглыя і страшныя. Яна да крыві пракусіла ніжнюю губу, каб не крычаць... Але па яе вачах відаць было, што ўсё нутро яе крычала... Мы, хлапчукі, задрыжэлі.

— Звар'яцела Марта...— шапталіся людзі.

Ураднік моўчкі тапоршчыў вусы.

Марта прайшла агнёвыя дзесяць крокаў. Саскочыла. Усунула ногі ў вільготную гліну і так жаласліва застагнала, што мы, хлапчукі, заплакалі.

Людзі палажылі перад Мартай прайграныя імі грошы.

Ураднік кінуў ёй срэбраны рубель і сказаў:

— Малайчына! На! Вось дзе чэсна зарабіла! Два пуды жыта купіш за мой рубель. А за тое серабро — сала здабудзеш.

Грошы ляжалі ў траве. Марта на іх і не зірнула. Яе вочы былі заплюшчаны. Па худых шчаках цяклі слёзы, змешаныя з потам. Яна працягла войкала і стагнала. Яе стогны нагадвалі гуд жорнаў. Зубамі яна выбівала дроб.

Людзі засароміліся і пайшлі, як нешта ўкраўшы. Ураднік соваў ёй у рукі серабро. Грошы выпадалі з яе змярцвелай далоні. Усё цела яе ўздрыгвала. Марта выла галасна, без слоў.

Мы, хлапчукі, заходзіліся ад усхліпванняў.

— Вон адгэтуль! Прэч! — крыкнуў на нас ураднік.— Каб тут вашай нагі не было! Чэрці!

Мы ўцяклі.

Як успомню гэты выпадак, мяне прабірае дрыж.

Аж два месяцы ўдава Марта лячыла ногі. Затое яна купіла на зацірку два пуды жыта і пару фунтаў сала для галодных дзяцей...

У кожную нядзелю мы з Фолем стаялі ў вялікай карчме сярод натоўпу і глядзелі, як гуляюць людзі, як п'юць і танцуюць. Мы з цікавасцю слухалі гарманістаў і спевакоў.

У карчме вызначаліся тры чалавекі. Яны гаварылі вершы, прыдуманыя імі.

Адзін з іх — мельнік Барткевіч. Чалавек чорны, як цыган, гадоў пад пяцьдзесят, у белай ад мукі шапцы. Ён складваў смехатлівыя вершы аб панах і шляхце. Апавядаў у рыфму аб тым, як на тым свеце мужыкі кідаюць паноў у катлы са смалою і падсмажваюць.

Слухачы рагаталі.

Другі — кравец Юзік — спяваў пад гармонік жартаўлівыя частушкі, якія тут жа прыдумляў.

Трэці — селянін Гейне — складваў жаласлівыя песні аб каханні, аб сірочай долі. Ад яго вершаў дзяўчаты станавіліся сумнымі, жанчыны плакалі.

Хлопцы і дзяўчаты падхоплівалі вершы непісьменных песняроў і распаўсюджвалі іх вусна па ўсёй ваколіцы. Усе частавалі паэтаў гарэлкай. Кожны з іх меў сярод сялян сваіх прыхільнікаў.

Мельнік Барткевіч аднаго разу прыдумаў такую байку.

Звяры і птушкі пашкадавалі гаротных мужычкоў. Уздумалі яны павесяліць народ, наладзіць для яго вясёлую камедзь. Камісіянеры прывезлі ім з Мінска фарбу, капялюшыкі, панскую вопратку, залатыя дрындушкі, парыкі, вусы — і ўсё, што трэба. Воўк апрануўся пад пана Чапкоўскага. Дзікі кабан зрабіўся панам Багдановічам. Мядзведзіха — паняй Чапкоўскай. Ласіха — паняй Багдановічыхай. Буслы адзеліся панічамі. Сарокі — паненкамі. Лісіца насунула ксяндзоўскую спадніцу. Сабакі зрабіліся панскімі цівунамі і аканомамі. Звяры і птушкі размалявалі сабе морды акурат як у паноў. Нанялі дудара, скрыпача, гарманіста і цымбаліста, і пайшоў кіятар па вёсках народ весяліць.

Спачатку людзі палохаліся, кланяліся нізка, не падыходзілі блізка. Потым прывыклі. Лясныя скамарохі падрабілі панскія галасы і гаварылі мужычкам:

— Паны прыйшлі вас весяліць, да сябе ў маёнткі прасіць, панскае дабро дзяліць. Спіны ў паноў свярбяць, дык трэба іх дубцамі і каламі ратаваць.

Музыкі зайгралі, а камедыянты танцавалі. Народ спачатку здзівіўся панскім выбрыкам. Потым яму гэта спадабалася.

— Дык прыйдзіце цярабіць нас. Будзем вас чакаць у палацах. Вам жа няма чаго нас баяцца: вас, мужыкоў, многа, а нас, паноў, мала.

І пайшлі мужыкі цярабіць дубцамі і каламі спіны паноў Чапкоўскіх і Багдановічаў.

Пра гэту байку дачуўся пан Чапкоўскі. Ён запрасіў мельніка Барткевіча да сябе ў маёнтак і запрапанаваў яму службу палясоўшчыка. Абяцаў шмат грошай плаціць, каб Барткевіч больш языком не малаціў.

— Дык пан хоча, каб я выганяў з лесу мужыкоў? Каб я штрафаваў нашых баб за грыбы і ягады? Пан хоча зра-

біць мяне сваім псом? Пан хоча купіць мой востры язык? Няхай сабе пан Чапкоўскі будзе пры сваіх грашах, а я — пры сваіх байках. Грошы раз-два — і з'еў чалавек, а разумнае слова жыве цэлы век.

Сказаў, плюнуў і пайшоў.

Зазлаваны пан Чапкоўскі нацкаваў на яго лютых сабак. Сабакі пакусалі Барткевіча. А праз некалькі дзён усе сабакі пана Чапкоўскага былі атручаны. Пасля гэтага Барткевіч прыдумаў аб ім новую байку.

Яшчэ адно дзіва было ў нашай ваколіцы — старэйшы брат майго сябра Фолі — крамнік Іося. Нізкі і тоўсты чалавек гадоў трыццаці, лысы, з маленькімі мышынымі вочкамі, ён умеў перадражніваць усіх пасадзецкіх сабак і пеўняў. Ён падрабляў і чалавечыя галасы. Гэтымі фокусамі ён збіраў па нядзелях вакол сваёй крамы шмат народу. Ён вырабляў фокусы, а яго жонка Цыпа-Хава ў гэты час таргавала ў краме, як у кірмашовы дзень.

— Іося, кукарэкуй... Іося, брашы! — камандавала Цыпа-Хава.

Ён кукарэкаў і брахаў. Народ сыпаў з карчмы ў Іоселеву краму. А калі гэта не памагала, Іося даставаў сваю скрыпку.

— Іоселева скрыпка гаворыць, як чалавек,— дзівіліся дзяўчаты.

Ён граў на сялянскіх вяселлях, на вечарынках у шляхты. Граў на любым інструменце, які пападаўся яму ў рукі: на гармоніку, на цымбалах, на жалейцы, на дудзе, на губным гармоніку, на карыне́.

Возьме Іося пілу ў рукі — яна грала. Возьме пустую бутэльку, дзьмухне губамі — і бутэлька выдавала чароўную музыку. Возьме шклянкі, налье ў іх вады, дзе менш, дзе больш, праверыць гукі на шклянках; у якіх адбавіць вады, у якіх прыбавіць, пасля чаго пачынаў выстукваць па іх тоненькім дубцом розныя мелодыі — адно захапленне. Возьме Іося дзеля жарту пустую скрынку з крамы, нацягне на яе ніткі замест струн і давай перабіраць пальцамі — граў так, што адна любата слухаць.

Увесь ён быў насычаны музыкай. Мне тады здавалася, што калі Іося тупне нагой аб камень — і мёртвы камень зайграе... Да гандлю ён не гадзіўся. У жыцці ён быў грубы, недапечаны, ледзь пісьменны. А як толькі браўся за які-небудзь музычны інструмент, дык зачароўваў людзей.

Яго хітрая жонка камандавала ім, як малым хлапчу-

ком. Яна выкарыстоўвала яго талент для прыцягвання людзей у краму.

Заўсёды пасля абходу суседзяў я вяртаўся дамоў галодны, галодны.

## КАПТУРНІЦА

Маці сама шыла мне гарнітурчыкі. Бацьку і дзеду шыла штаны. Швейнай машыны не было. Ёй прыходзілася шыць рукамі. Галоўнай яе спецыяльнасцю былі каптуры. Яна майстравала каптуры для сялянак.

Аснову для каптуроў маці рабіла з простага палатна, верх — з разнастайных паркалёвых ласкуткоў. Аблямоўвала каптуры шоўкавымі істужкамі.

Зверху аздабляла каптуры дарожкамі з карунак. Карункі тырчэлі рубам, і каптуры нагадвалі дзівосныя кветкі — ці то павялічаныя рачныя лілеі, ці то агромністыя адуванчыкі. Для колераў і ўзораў фантазія каптурніцы мела прастор і разгон. На першы выгляд каптуры нібы рабіліся на адзін фасон. Але калі я добра прыглядаўся, дык не знаходзіў і двух аднолькавых. Кожны адрозніваўся чым-небудзь ад другога.

У гэтай сялянскай мадысткі не было люстэрка. Каб палюбавацца сваім творам, яна павінна была мець чыю-небудзь галаву. Галава знайшлася — мая. У працэсе работы маці прымервала каптуры на маёй галаве. Яна любавалася на каптур у анфас, у профіль і ззаду. Яна адыходзіла на некалькі крокаў, падыходзіла, заўважала неакуратнасці, знімала яго з маёй галавы, распорвала, зноў сшывала, зноў насоўвала мне на галаву і зноў правярала на вока.

Старыя сялянкі хвалілі яе работу.Ківалі галовамі, прыцмоквалі губамі і дзівіліся:

— Не каптур, а кветка...

Мне апрыкрыла выконваць абавязак манекена. Але вызваляцца ад гэтага мне рэдка ўдавалася. Я цярпеў да тых часоў, пакуль мае равеснікі не пачалі мяне называць: «каптурная галава». Мне прыйшлося спыніць штодзённы абход мястэчка, бо з-за кожнага вугла мне спявалі на розныя лады:

— Каптурная галава! Каптурная галава!

Я не ведаў, дзе схавацца ад сораму. Прыйшоўшы дамоў, я са злосці ўкраў пяток каптуроў, убіў перад матчы-

ным акном на гародзе некалькі кійкоў і павесіў на іх каптуры на ўсю ноч. Раніцой я разбудзіў матку і сказаў ёй:

— Глядзі ў акно, каптуры выраслі на гародзе!

Маці ахнула. Кінулася мяне біць.

— Гэта ж украсці маглі ўночы! — сварылася яна.

— Мяне хлопцы дражняць каптурнай галавой! — плакаў я.— Не хачу, каб ты адзявала каптуры на маю галаву! Не хачу!

— А есці хочаш? — гаварыла маці.— Як табе не сорамна... Быў такі разумны хлапец, а во скепсціўся...

— Я зноў пачну кашляць і траціць прытомнасць,— страшыў я.

Маці была ў роспачы. Я ўзбунтаваўся не на жарт. Не хацеў прымерваць каптуроў. Уцякаў з дому. Але мне стала шкода гэтай гаротніцы, якая па некалькі дзён перад гадавымі святамі або перад кірмашом сляпіла вочы цэлымі начамі — шыла каптуры, схіліўшыся перад невялічкай лямпачкай. Часта яе перамагаў сон. Яна засынала і пальцы калола іголкай.

— Што рабіць? — думаў я.

І вось каптуры на тычках на гародзе накіравалі мяне на трапную думку. Я пабег да столяра — да рыжавусага дзядзькі Янкі.

— Маці прасіла, каб вы зрабілі балванок для каптуроў,— сказаў я.

— Што? Я не разумею.

— Ну, балванок, каб прымерваць на ім каптуры. Балванок такі, падобны да чалавечай галавы.

— А-а-а! — здагадаўся Янка.

Ён узяў сасновы чурбанчык і пачаў майстраваць спачатку сякерай, а потым геблем. Ён увесь час прыглядаўся да маёй галавы, каб надаць чурбанчыку патрэбную форму. Потым адрэзаў знізу роўна, каб чурбанчык стаяў на стале.

— Маці пыталася, колькі трэба плаціць? — сказаў я.

— Пяць капеек.

Я прынёс дамоў чурбанчык. Ішоў гародамі, каб ніхто не бачыў. Я паставіў чурбанчык перад маткай на стале, адзеў на яго каптур і сказаў:

— Во, маеш замест маёй галавы. Трэба заплаціць столяру пяць капеек.

Маці глядзела і дзівілася.

— Уй, як добра! Ты нават не разумееш, як гэта добра...

Я пакрыўдзіўся:

— Каб не разумеў, дык не прасіў бы Янку зрабіць.

З таго часу я вызваліўся ад прыкрага абавязку.

На Пятра ў нас адбываўся кірмаш. Сялянкі красаваліся ў матчыных каптурах. У вялікім натоўпе вызначаліся знаёмыя каптуры на галовах сялянак.

Навакол Пасадца жылі ў старых хатках некалькі бедных удоў. Хлеба ў іх ніколі не бывала. Падрослых хлопчыкаў яны аддавалі ў пастушкі. Дачок — багачам у служанкі.

Аднаго разу прыйшла да нас удава Марта.

Ногі яе пасля хадзьбы на гарачых цэглах яшчэ былі хворыя, абверчаныя анучамі. Яна ступала да таго асцярожна, што яе крокаў не чуваць было. Нібы хадзіла над рэчкай па вузенькай кладцы. Марта сарамліва звярнулася да маці:

— Хаіміха, золатца, родненькая... Сымонка мой захварэў. Агнём гарыць хлопчык. Божанька, што мне рабіць? Чаборам паіла — Еўка старая дала. Да Карпухі схадзіла, вадой замоўленай паіла — не памагае. Трэба схадзіць да Мунькі-татарына, каб на хлеб нашаптаў.

Жанчына ламала рукі.

— Пазыч, Хаіміха, на лякарства кавалак хлеба... Татарын свайго хлеба не дае, тады не паможа, кажа... Купіла б, дык у мяне ўсяго залатоўка для татарына.

Маці моўчкі адрэзала акрайчык хлеба. Марта падзякавала.

Маці адвярнулася да сцяны і кончыкам новага каптура, над якім працавала, выцерла вочы. Потым накінула на галаву вялікую хустку, якая акрывала яе да ног, узяла кош, кінула ў яго некалькі палатняных падшывак ад каптуроў у выглядзе торбачак і пайшла ў мястэчка, абышла крамы, корчмы, хаты. Потым яна прынесла ў хату ўдавы Марты цукру, хлеба, крупы, мукі і жменьку дробязі.

## РАЗБОЙНІК ЦІХАН

Бабуля, стоячы ля прыпечка, апавядала мне розныя гісторыі з мінулых часоў: аб яўрэйскім пагроме ў гэтай ваколіцы, аб страшных учынках разбойніка Ціхана і канакрада Шлёмкі, аб тым, як цыганы мядзведзяў вадзілі тут на паказ, і аб прыгоне, які яна добра памятала.

Вось адно з яе апавяданняў.

З суседняга маёнтка пана Чапкоўскага ўцёк прыгон-

ны. На начлезе воўк зарэзаў каня, і пан збіраўся за гэта строга пакараць прыгоннага конюха. Конюх, уцякаўшы, зайшоў у хату да бацькоў бабулі. Бабуля была тады маладой дзяўчынай. Бяглец папрасіў у яе кавалак хлеба на дарогу. Яна дала яму паўбулкі хлеба. Ён пайшоў у пушчу да разбойніка Ціхана. Калі за маладога бегляца пакаралі бізунамі яго бацьку, Ціхан падпаліў панскую абору. Згарэла шмат жывёлы. Нейкім чынам пан Чапкоўскі даведаўся, што бабуля дала бегляцу хлеба. Прыйшоў з двара цівун і забраў спалоханую бабулю ў панскі двор. Яе там пакаралі бізунамі, потым надзелі ёй на ногі калодкі і пасадзілі на суткі ў цёмны падвал панскага палаца. Бабуля ад сораму хацела тапіцца. І вось аднаго разу ўночы прыходзіць да бацькоў бабулі той самы панскі бяглец, а з ім разбойнік Ціхан і Шлёмка-канакрад. Бабуля ім паскардзілася на пана Чапкоўскага.

— Мы за гэта пану Чапкоўскаму адплоцім! — сказаў Ціхан.

Праз некалькі дзён згарэла панскае гумно.

— І зноў прыйшоў да нас разбойнік Ціхан — вясёлы прыгажун, чарнавусы, а твар — кроў з малаком,— апавядала бабуля.

— Адплаціў я пану Чапкоўскаму і за тваю крыўду, дзеўка! — сказаў мне Ціхан, абняў і пацалаваў у галаву.

— Дзякую, дарагі...— шапнула я Ціхану на вуха.— Маці паставіла гасцям гарэлку, шабасовую рыбу, халу. Усе нашыя былі рады за такую адплату пану. А я была да таго шчаслівая, аж не ведала, што рабіць. Смяялася, скакала, спявала. Разбойнік Ціхан глядзеў на мяне, гладзіў доўгія вусы ды ўсміхаўся.

— А ты не баішся мяне, разбойніка? — запытаўся Ціхан.

— Не...— адказала я, паглядзела на яго і апусціла вочы. Ён такі быў прыгожы, аж мне сорамна было глядзець яму ў вочы... Ціхан абняў мяне адной рукой ды сказаў:

— Не бойся мяне. Добрых людзей я ніколі не крыўджу.

Бабуля на хвіліну спыніла апавяданне, задумалася.

— Маладая я была. Годы мае рэчкай паплылі. Эх, божа мой! А такія людзі, як разбойнік Ціхан, служаць у руках усявышняга кіем для пакарання злых людзей! — растлумачыла мне бабуля ўчынак Ціхана.

Яе чорныя вочы, акружаныя густымі сеткамі зморшчынак, весела і молада засвяціліся.

Пра разбойніка Ціхана бабуля часта ўспамінала. Яна апавядала, што ён бедных людзей ніколі не чапаў. Наадварот — даваў ім грошы. А яго сябар, канакрад Шлёмка, краў коней толькі ў багатых.

Улетку жылі яны ў зямлянцы ў пушчы. І колькі паліцыя і салдаты ні шукалі гэтай зямлянкі — знайсці не маглі. Узімку яны, пераапранутыя купцамі, выязджалі ў другую губерню.

У кірмашовыя дні яны разгульвалі па вакольных мястэчках. Нікога не баяліся. Іх баяліся ўсе.

Ціхан даставаў для сваіх малайцоў гарэлку ў аднаго карчмара за дзесяць вёрст ад Пасадца. Там спыняліся і цыганы, што забіралі крадзеных коней у Шлёмкі. Зорах зваўся той карчмар. Ён меў ад Ціхана і сваю долю ва ўсіх гэтых справах.

За галаву Ціхана мінскі губернатар абяцаў тады вялікія грошы.

Аднаго разу ўночы ў карчме Зораха пілі гарэлку Ціхан і Шлёмка. Пасля таго, як за галаву Ціхана абяцалі вялікія грошы, ён, Ціхан, пачаў асцерагацца. Не верыў і Зораху. Ён прымушаў Зораха раней самому папробаваць гарэлку, бо ў гарэлцы магла быць атрута.

У гэту ноч Зорах быў вельмі далікатны. Часта абнімаў Ціхана, стараўся дагаджаць, хваліў Ціхана за дабрату, за сардэчнасць, за адвагу. Скардзіўся Зорах, што падазраюць аб яго, Зораха, удзеле ў ціханаўскіх справах. Яму, Зораху, пагражае не меншая небяспека, чымся Ціхану і Шлёме, таму...

Зорах не дагаварваў.

— Дык чаго ж ты хочаш, Зорах? — пытаўся Ціхан.

— Сам, Ціханка, разумееш... Ты ж чалавек і разумны і справядлівы...

— Пароўну дзяліць?

— Ага... А то золата сабе забіраеш, а мне толькі серабро...

— За чарку гарэлкі хочаш браць роўную долю з маёй здабычы?! Ты, Зорах, стаіш на гнілых падпорах і згарыш як порах. Ты мне не друг, а вораг.

Зорах апускае вочы і маўчыць.

— Зірні мне ў вочы, Зорах! Хачу пачытаць тваё чорнае нутро... Ну, зірні...

Зорах узнімае на Ціхана блуклівыя вочы. Ціхан на яго строга глядзіць. Зорах не вытрымлівае яго пільнага позірку і адварочваецца.

— У цябе не душа, Зорах, а цёмная студня. Ты нешта нядобрае замысліў. Глядзі...

І зазлаваўся разбойнік Ціхан. Грукнуў кулаком аб сасновы стол так моцна, ажно стол расшчапіўся. Яго чорныя вочы бліснулі двума агнямі. Твар загарэўся. Вусы натапыршчыліся, як у тыгра.

— Чуеш, Зорах? Больш з табой ніякіх спраў мець не хачу. Арлу з савой — не па дарозе. А калі толькі ўздумаеш размяняць на залатыя імперыялы маю галаву, дык во, глянь...

Ціхан выцягнуў з халявы востры нож і бліснуў ім перад тварам Зораха.

— Брахнеш аба мне каму-небудзь, нібы курыцу, зарэжу... Чуеш?

— Ч-ч-чую...

Зорах дрыжэў з галавы да ног.

— Будзеш маўчаць?

— Б-б-буду... м-м-маўчаць...

— Хачу быць чэсным чалавекам, Зорах. Я табе і так лішняе даваў. На развітанне вярні назад мяшок серабра, што я табе пакінуў. Ты яго не зарабіў... Давай сюды!

Залямантаваў карчмар:

— Ціхан... родны...

Ціхан нецярпліва тупнуў нагой.

— Падзякуй, дурань, за сваю галаву. Я мог бы табе даць яе ў рукі за цацку. Серабро бедным раздам. Табе ж яно не падабаецца...

Ціхан выйшаў на двор.

Была летняя ноч. Месяц яшчэ не ўзышоў, але ў небе, як залатыя дукаты, блішчэлі зоркі. Абапал дарогі, навокал цёмнага сілуэта карчмы, драмаў бор. Ледзь-ледзь шапацелі вершаліны. Шмат таямніц ведалі стагоднія барыны. Чулі яны часам стогны, плачы, лямантьі. Тут не раз Ціхан сцёбаў бізуном прывязанага да дрэва лютага пана.

— Баліць? — пытаўся Ціхан у пана.— Так баліць і тваім мужыкам, якіх лупцуеш дзень у дзень на стайні. Ці ж мужыцкая кроў не такая, як і панская? Ці ж мужыцкая косць не такая, як і панская? Кожнаму баліць. А калі не перастанеш біць мужыкоў...

Ціхан выцягнуў з халявы востры нож і бліснуў ім перад панам.

— ... як курыцу, зарэжу! Хлопцы, адпусціце пана! Няхай ідзе, куды хоча.

Драмаў бор вакол Зорахавай карчмы, толькі вяршаліны ледзь-ледзь шапацелі праз сон.

Зорах і Шлёмка прыцягнулі мяшок са срэбранымі манетамі і палажылі на спіну сівога жарабца Ціхана.

Каб было відней, Ціхан пабачыў бы хітрую здрадніцкую ўхмылку на твары Зораха. Яго план хоць на палавіну ўдаўся. Атрад салдат з афіцэрам схаваліся за тры вярсты адгэтуль, ля хаты палясоўшчыка. Зараз войска павінна быць тут... Зорах умовіўся з афіцэрам, што рознымі спосабамі пастараецца затрымаць Ціхана.

Пачуўся тупат конніцы.

Ціхан пагнаў каня. За ім на другім кані паімчаўся Шлёмка. Войска крыху спазнілася. Зорах меркаваў, што салдаты зловяць яго гасцей у карчме. Не ўдалося.

Зорах затрымаў на хвіліну афіцэра і нешта шапнуў яму на вуха. Афіцэр кіўнуў галавой, прышпорыў каня і пагнаўся ўздагон за Ціханам.

Спачатку Зорах збянтэжыўся, каб хаця Ціхан па дарозе мяшка з серабром не кінуў. Але хутка супакоіўся: «Калі Ціхан сказаў, што раздасць серабро бедным, дык так захоча зрабіць. Ціхан моцны на слова».

А чаму Зораху было важна, каб Ціхан не скінуў з каня мяшка з серабром, аб гэтым даведаемся далей.

У летнюю ноч пагналася за Ціханам конніца з афіцэрам на чале. Разгарачаныя коні храплі. З ноздраў валіў дым. Бор напоўніўся гукамі, нібы казачныя цымбалы.

Зорах доўга чуў стукаты конскіх капыт, посвісты. Гукі павolі заміралі ў сэрцы дрымучага бору. Зацікавіўся месяц. Ён узняўся над хваінамі, над карчмой, нібы чалавечы твар у профіль. Ён асвяціў профіль Зораха, які таропіў вочы ў асярэбраны шырокі тракт.

Раптам твар Зораха наліўся страхам:

— А што, калі Ціхан выратуецца?

Зорах успомніў яго бліскучы нож.

— А што, калі Ціхан крутымі дарожкамі паверне назад сюды? Не высахлі ж мазгі ў Ціхана... Ён, пэўна, здагадаўся, што я, Зорах, навёў сюды салдат...

Карчмар ужо хацеў разбудзіць сям'ю і схавацца з імі ў лесе, але позна... Так яно і ёсць... Сюды едзе Ціхан... Чуваць гукі ў лесе. Зорах прыслухоўваюцца. Гукі набліжаюцца... Зорах не мог крануцца з месца. Халодны пот цурком ліўся з ілба на бараду.

Ці, можа, гэта не Ціхан?

Пачуўся скрыпат калёс, галасы. Ехаў абоз камісіяне-

раў. Паказаліся фурманкі — пятнаццаць фур. Ля карчмы яны спыніліся. Ажыў Зорах. Ажыла ноч. Камісіянеры распраглі коней, насунулі ім на морды торбы з аўсом.

Раніцой конніца натрапіла на зямлянку Ціхана. Ціхан і Шлёмка бараніліся і загінулі, забіўшы трох салдат. Два ціханаўскія малайцы былі паранены. Іх у кайданах пагналі ў Мінск.

Ніяк не натрапілі б на зямлянку Ціхана, каб не мяшок серабра. Хітры Зорах, палажыўшы мяшок на спіну каня, непрыкметна пракалоў сцізорыкам дзірку ў мяшку. Пры ўцёках ад пагоні Ціхан не чуў, як пакрысе сыпаліся з мяшка грыўні і залатоўкі.

Па гэтай срэбранай сцежцы афіцэр, як развіднелася, павёў сваю конніцу ў ціханаўскую зямлянку. Усе сяляне ваколіцы хадзілі назаўтра ў лес збіраць грошы.

У тую ж раніцу Зорах забраў сям'ю і лепшыя хатнія рэчы на камісіянерскія фуры і паехаў у Мінск. Карчма пуставала доўгі час.

Астаўшыяся ў жывых ціханаўскія малайцы знайшлі Зораха ў Мінску. Адзін з іх дастаў з халявы бліскучы нож.

Зорах атрымаў за здраду.

## МАЙСТРЫ

Больш за ўсё я любіў дзедаву кузню. Дзед, сінявокі, з доўгай рыжай барадой, у чорнай аксамітнай ярмолцы ды ў акулярах, прымацаваных ніткамі замест аглабелек, здаваўся мне чарадзеем. На яго горне пад попелам у вуголлях жыў вечны агонь. Даволі было толькі пару разоў памахаць кіем кавальскіх мяхоў, каб з-пад попелу вырывалася некалькі сінява-залатых агнёвых саламандраў. На палічках ляжала шмат разнастайных інструментаў: малаткі рознай велічыні і формы, друшлякі, свярдзёлкі, розных выглядаў абцугі, лудзільнікі, далоты, рашпілі, напільнікі, цыркулі, ножніцы, лінейкі, трыкутнікі.

Ён браў вялізныя лісты медзі, рысаваў па іх розныя геаметрычныя фігуры і вырэзваў моцнымі ножніцамі. Я назіраў за тым, як ён зварваў медзь бронзай і рознымі кіслотамі, як ён на кавалдах і кавадзелках кругліў пасудзіну, пастукваў па ёй далікатнымі дубовымі малаткамі, як ён устаўляў донцы, як ён замысловатымі тоненькімі інструментамі выбіваў на медзі разнастайныя ўзоры — круглячкі, пункцікі, лісточкі, ромбы, ланцужкі. Я глядзеў,

як ён варыў кісель з волава і цынку, а потым адліваў у форму на пернічкі. Гэтымі пернічкамі ён лудзіў пасуду. Пасуда блішчэла ўнутры, як серабро. Рознымі мазямі, парашкамі, скурай ён наводзіў яркі глянц зверху. Пасуда блішчэла золатам. У яе можна было глядзець, нібы ў люстэрка. На сонцы яна адкідвала дзівосныя снапы праменняў. Ён рабіў усё гэта з замілаваннем мастака. Ён працаваў не спяшаючыся. Ён сам любаваўся працэсам работы і мала зарабляў. Бабуля на яго за гэта крыўдзілася.

Да мяне дзед часта зварочваўся з такімі словамі:

— Эх ты, дуда! Як падрасцеш — навучу... Гэта ж вялікая хохма (мудрасць) рабіць глякі, конаўкі, каструлі, кварты, кватэркі, гарнцы. Трэба ведаць матэматыку, каб трапіць у патрэбны памер. Вось як, дуда мая!

У кузню к дзеду заходзілі розныя людзі пагутарыць і панюхаць тытуну. З наведвальнікаў памятаю трох — рыбака Лук'янскага, бондара Данілу і паляўнічага Вышамірскага.

Рыбак Лук'янскі прыносіў у кожную пятніцу рыбу на шабас і лічыўся ў нас сваім чалавекам. Ён дзівіўся на дзедаў спрыт тварыць прыгожую медную пасуду. Нават вучыцца гэтаму рамяству ўздумаў. Дзед згадзіўся было вучыць Лук'янскага, але нічога з гэтага не выйшла. Дзед гладзіў бараду і казаў:

— Позна, дуда, вучыцца пачынаеш. Я з маленства гэтым займаюся. А табе, Пранук, колькі год?

— Сорак год і тры месяцы.

Дзед засмяяўся.

— Вось каб табе было дзесяць год і тры месяцы! Ужо лепш рыбу лаві да канца жыцця. А то рыбацтва забудзеш і меднікам не зробішся. Памрэш, дуда, прыйдзеш на той свет і захочаш у рай. А ў цябе запытаецца святы Абраам...

— Не Абраам, а Пётра...— папраўляе дзеда Пранук.

— Можа, і Пётра,— згаджаецца дзед.— А святы Пётра ў цябе запытаецца: «Ты што за чалавек?» — «Меднік»,— скажаш. «Калі навучыўся?» — «У сорак год і тры месяцы вучыцца пачаў»,— скажаш. «Які з цябе меднік?!— здзівіцца святы Абраам, гэта значыць святы Пётра.— Нам майстры патрэбны, а не партачы». Пацярэбіш патыліцу, дуда, і пойдзеш у пекла. «Хто ты?» — запытаецца ў цябе старшы чорт Сотан. «Рыбак!» — скажаш. «Усё жыццё рыбу лавіў?» — «Не! — скажаш,— толькі да сарака год і трох месяцаў».— «А цяпер табе колькі?» — «Восемдзесят год і тры месяцы»,— скажаш.

Лук'янскі яго папраўляе:

— Сто год і тры месяцы,— скажу.

— Добра,— згаджаецца дзед.— «Сто год і тры месяцы»,— скажаш. А старшы чорт Сотан зазлуецца: «Дык ты ж за апошнія шэсцьдзесят год забыў сваё рыбацтва. Мы такіх рыбакоў не прымаем!»

Дзед засмяяўся:

— Будзеш ты хадзіць сто, а мо і тысячу год ад рая да пекла, ад пекла да рая, і нідзе табе прытулку не дадуць. У адным месцы будзеш недапечаным меднікам, у другім — перапечаным рыбаком. Ты ўжо лепш займіся сваім рыбацтвам. А за рыбу я табе буду медную пасуду даваць. Так пастаўлен ужо свет: адзін тое робіць, другі — сёе. На, дуда, тытуну панюхай! Ад гэтага мазгі яснеюць...

Бондар Даніла з суседняй вёскі заўсёды спыняўся па дарозе ў дзедавай кузні. Ён быў адных год з дзедам. Галіўся кавалкам касы,— як ён сам гаварыў,— і твар яго быў заўсёды парэзаны.

Лыжкі, цэбры, вёдры і начоўкі Данілы славіліся на ўсю ваколіцу. Ён быў не меншым майстрам за майго дзеда. Абодва яны шчыра шанавалі адзін аднаго.

Неяк раз зімою Даніла вёз на саначках вялізны цэбар і спыніўся ля дзедавай кузні панюхаць тытуну.

— Дзень добры, Лэйзарка!

— Добры дзень, Данілка!

Дзед задзівіўся на цэбар:

— Ай-яй-яй, які беленькі — сыр, ды і годзе. А гладкі які — любата! А лёгкасць, а зграбнасць...

Дзед пастукаў па цэбры драўляным малатком.

— Звініць...

Дзед пацягнуў носам.

— А як добра пахне...

Дзед задумаўся на хвіліну.

— Мне б на пасхальныя буракі...

— Дык вазьмі, Лэйзарка.

— Колькі?

Даніла махнуў рукой.

— Эт!

— Што «эт»?

— Нічога не трэба плаціць.

— Як гэта?!

— А так...

Дзед зняў з паліцы медны гаршчок, пашараваў да бляску анучай і паставіў перад бондарам.

— Як залаты! — залюбаваўся Даніла.

— Падабаецца?

— Ага...

— Гэта табе, Данілка.

Бондар заартачыўся:

— Барані божа! Ён жа даражэй каштуе за цэбар...

— Я табе так даю, а не за цэбар. А шчырасць твайго сэрца, Данілка, з якой ты мне падарыў цэбар, не купіш ні за якое золата. А мой гаршчок — глупства...

— У цябе, Лэйзарка, сапраўды залатое сэрца.

Старыя расчуліліся, нюхалі з табакеркі і чхалі, чхалі.

## МЯДЗВЕДЗІ ВЫШАМІРСКАГА

Вышамірскі быў намнога старэйшы за майго дзеда. Ён быў каморнікам. Яго хутарок стаяў на другім канцы мястэчка. Хата яго была пабудавана на гарадскі лад — высокая, з вялікімі вокнамі, з галубятняй у выглядзе прыгожай вежы, з верандай, аплеценай жывым хмелем. У хаце віселі клеткі з канарэйкамі, чыжыкамі, вавёркамі. У сенцах жыла прывязаная на ланцужку лісіца. Была ў яго доўгая палоска зямлі, агароджаная навакол высокім частаколам. Ён жыў з трыма незамужнімі дочкамі, якіх у нас звалі паненкамі.

На сваім невялікім кавалку зямлі Вышамірскі вёў культурную гаспадарку. У яго быў добра агледжаны, чысценькі садок, рыбная сажалка, некалькі калод пчол, гарод, канюшына і кавалак сенакосу. Былі пракапаны канаўкі для стоку вады, бо яго палоска зямлі знаходзілася ў нізіне ля возера. Над канаўкамі былі пароблены высокія прыгожыя масткі. У цэнтры яго зямлі стаяла альтанка з кругдымі каляровымі акенцамі. Уся яго зямля была абсаджана ліпамі. На некаторых з іх гняздзіліся буслы. Дзесяткамі год гэты своеасаблівы аматар хараства не пакладаючы рук працаваў на сваім кавалачку зямлі, які ператварыў у надзвычайна прыгожы куток.

Мне, малому хлопчыку, здавалася, што гэта рай. Галубы Вышамірскага ляталі над мястэчкам. У сіняве неба яны здаваліся снежнымі. Яго буслы ўляталі на паляванне на балота, а нанач вярталіся ў свае гнёзды на ліпах.

Любімым заняткам Вышамірскага было паляванне. У маёй памяці ён ужо быў слабы, непрацаздольны. Гаспадаркай пад яго доглядам займаліся дочкі.

За Вышамірскім бегаў яго вечны сябар — стары пёс Лютня. Абодва яны дажывалі свой век. Вышамірскаму асталася адна ўцеха — успаміны, якімі ён дзяліўся з людзьмі ўсяе ваколіцы. Яго лічылі за манюку, бо ён апавядаў такія дзівосныя гісторыі з свайго паляўнічага жыцця, якім, сапраўды, цяжка было верыць.

Невысокага росту, худы, з чыста выгаленым тварам, ён хадзіў ад хаты да хаты і частаваў людзей паляўнічымі апавяданнямі. Улетку ён насіў белую палатняную вопратку і такі ж капялюш. Зімою ён быў апрануты ў футру. На галаве — цёплая шапка.

Калі-нікалі Вышамірскі прыносіў дзеду ў кузню мёд і яблыкі. Дзед кідаў работу, запрашаў Вышамірскага ў хату і частаваў чаем.

Вышамірскі апавядаў розныя прыгоды са свайго паляўнічага жыцця, галоўным чынам пра паляванне на мядзведзяў. Такіх апавяданняў у яго было шмат.

Аднаго разу ён сустрэўся з мядзведзем адзін на адзін, лоб у лоб. Мядзведзь выхапіў з яго рук стрэльбу, зламаў яе папалам і кінуў. Абхапіў Вышамірскага лапамі ды хацеў задушыць. Пёс Лютня ўскочыў мядзведзю на спіну і давай кусаць. На хвіліну мядзведзь выпусціў Вышамірскага з лап і пачаў скідваць з сябе Лютню. Вышамірскі выхапіў нож, каб зарэзаць мядзведзя, але мядзведзь зноў наваліўся на яго, кінуў на зямлю, а Лютня скок на мядзведзя.

Выпадкова натрапіў на іх другі паляўнічы. Ён папаў куляй у самае вуха мядзведзя. Аднак мядзведзь паспеў моцна пакалечыць і Вышамірскага і Лютню.

Вышамірскі расшпільваўся і паказваў на грудзях і спіне страшныя глыбокія рубцы — сляды кіпцюроў і зубоў звера.

Ён і другі раз раптоўна трапіў на мядзведзя. І Вышамірскі і Мішка аслупянелі ад такой нечаканай сустрэчы. Вышамірскі выхапіў табакерку і сыпнуў нюхальным тытуном Мішку ў вочы. Мядзведзь на хвіліну аслеп, зажмурыў вочы, зароў, завыў, хацеў кінуцца на Вышамірскага. Вышамірскі адскочыў за дрэва. Мядзведзь з усяго імпэту стукнуўся лабацінай аб хвою і паваліўся. Вышамірскі стрэльнуў у яго пару разоў і прыкончыў.

У трэці раз ён папаў на спячага мядзведзя. Разлёгсяваласаты пан Міхайла на імху, як на пярыне, бахматыя лапы пад галаву падлажыў і соладка храпе, як той касец пасля працы. А на тое ліха Вышамірскі пакінуў стрэльбу

ў хаце палясоўшчыка. Упершыню ў жыцці такое глупства зрабіў. Хто ж гэта мог падумаць, што за паўвярсты ад леснікова хаты касалапыя паны Міхайлы адпачываюць пасля полудня?!

Стаіць Вышамірскі ля калматага асэсара і думае: Што рабіць? Ціханька пайсці назад? А мо ў гэты час прачнецца Міхайла і кінецца яму на спіну... Не рухацца з месца? Ад чалавечага духу прачнецца і так пагладзіць яго лапай, што Вышамірскаму будзе капут... А сонца бязлітасна пячэ. Навакол пахне дурманячым багуном. У Вышамірскага дыбам валасы становяцца, шапку ўзнімаюць...

І стукнула адважная думка. Ён прыгнуўся да самага вуха мядзведзя ды з усяе сілы гукнуў:

— Гу-у-уу! — і адскочыў за высокі корч-вываратню.

Пан Міхайла ўсхапіўся ні жывы ні мёртвы. Працёр лапай спалоханыя вочы. Узняўся на ногі. Прайшоў, як п'яны, некалькі крокаў, паваліўся і ўткнуў морду ў мох.

Вышамірскі яшчэ не верыў, што мядзведзь скончыўся ад страху. Кінуўся ў леснікову хату па стрэльбу, схапіў яе і яшчэ не паспеў вярнуцца назад, як пачуў стрэл. П-п-оўх! — аж водгаласкі пайшлі. Прыбег.

Ля мядзведзя стаіць паніч Прушынскі з блізкага маёнтка ды горда вусы падкручвае. Яшчэ дыміцца курок яго дубальтоўкі.

— У самую галаву папаў,— хваліўся паніч Вышамірскаму.

А яму Вышамірскі на гэта:

— Лёгка было панічу папасці ў галаву мёртвага мядзведзя.

— Як жа гэта?! — ускіпяціўся паніч.

— А вось так, як паніч бачыць,— сказаў Вышамірскі.— Як паваліўся пры мне мядзведзь, як уткнуў морду ў мох, так і цяпер ляжыць.

І Вышамірскі апавядаў панічу, як усё гэта здарылася. Паніч заартачыўся, слухаць не хоча.

— Мой мядзведзь! — кажа Вышамірскі.

— Мой мядзведзь! — кажа паніч.

Паніч затрубіў у рог. Прыбеглі яго людзі і хацелі забраць мядзведзя. Вышамірскі падняў гвалт. Паляваў тады ў лесе і ўраднік Ясінскі. Той прыбег на крык і даведаўся, у чым справа.

Вырашылі запрасіць доктара, каб ён ускрыў мядзведзя і паглядзеў, ці той сканаў ад разрыву сэрца, ці ад кулі. Так і зрабілі.

Паніч падкупіў доктара. Доктар сказаў, што ад кулі паў мядзведзь. Мядзведзя забраў паніч. Вышамірскі падаў у суд. За паляўнічы гонар яны судзіліся некалькі год. Усюды выйграваў паніч. Вышамірскі падаваў усё вышэй і вышэй — браў верх паніч, які ўсюды падкупліваў суддзяў.

Яшчэ шмат апавяданняў расказваў Вышамірскі пра мядзведзяў.

Аднаго разу мядзведзь унадзіўся ў яго пчолы. Псаваў калоду за калодай. Тады Вышамірскі паставіў капкан. Мядзведзь папаўся жывы. Прыйшлі цыганы. Адкупілі мядзведзя. Закавалі ў ланцугі. Прабілі яму нос напаленым дачырвана жалезам. Прадзелі праз нос кальцо і пагналі ў мядзведскую смаргонскую акадэмію на навуку. Тады цыганы ў горадзе Смаргоні абучалі мядзведзяў розным фокусам, пасля чаго вадзілі іх па гарадах і гэтым зараблялі на хлеб.

А вось адзін каваль знайшоў у лесе маленькага Мішачку. Прынёс дамоў. Выгадаваў. Мядзведзь зрабіўся ручным. Ваду насіў. Малатком у кузні працаваў. Жорны круціў. Дзяцей калыхаў, як нянька. Нават песні спяваў. Усё-ўсё ў хаце рабіў. Часам яго запрагалі ў воз. Ён вазіў сена. А як ён на вечарынках танцаваў — о-го-г-оо-о! Увесь народ весяліў!

І яшчэ адно апавяданне!

Кожны раз, калі Вышамірскі гаварыў «і яшчэ адно апавяданне», ён дадаваў:

— Каб я з гэтага месца не ўстаў, калі маню!

Адзін мужычок, звалі яго Хомка, паехаў у панскі лес мох дзёрці. Надзёр моху поўны воз. Бачыць ён — пара медзведзянят гуляе на санцапёку. Яны лагодненькія, калмаценькія, смяшлівыя, як тыя дзеці. Кульгікаюцца, качаюцца па зямлі, скачуць, тоненькімі галаскамі вісгочуць. Забаўляюцца. Хапаюць адно аднаго за вушкі. Жартуюць. Міны забаўныя строяць. Глядзіць на іх Хомка і рагоча — тэатр!

Любуецца на іх мужычок. А медзведзяняткі яшчэ дурненькія. Не разумеюць, што трэба ўцякаць ад чалавека. Тут Хомка ўспомніў, што ў вёску прыехаў цыган-мядзведнік. Ён скуплівае малых медзведзянятак для скамарохаў. Не раз Хомка сам бачыў гэтых скамарохаў з мядзведзямі.

— Ану, Мішка, люльку куры!

Мішка курыць.

— Ану, Мішка, танцуй!

Мішка танцуе.

— Ану, Мішка, спявай!

Мішка раве.

Хомка ўзяў медзведзянят, пасадзіў на воз і павёз дамоў. Аднак не пашанцавала Хомку. Цыган-мядзведнік паехаў. Хомка ў сенцах прывязаў медзведзянят, карміў, паіў і чакаў, пакуль мядзведнік вернецца назад.

Быў якраз час жніва. Жалі бабы на панскім полі. Тут над імі стаялі прыганятыя з бізунамі. Той жа паніч Прушынскі разгульваў па полі са стрэльбай. А поле было ля самага лесу. Тут жа пад дрэвамі, у цяньку, ляжалі ў касолачках малыя дзеці. Сусолачкі смакталі. І вось не агледзеліся людзі, як да дзяцей падкраўся мядзведзь і хапнуў Хомкіна дзіцё разам з кашолкай. Агледзеліся людзі. Хомчыха ўзняла плач, лямант, крык:

— Дзіцянё родненькае... Дзіцянё міленькае... Дзіцянё бедненькае...

А мядзведзь нясе сабе дзіцё павольна, асцярожна. Паніч нацэліўся са стрэльбы ў мядзведзя.

— Не страляй, панічок! Не страляй...— загаласіла Хомчыха.— Яшчэ дзіцёнка застрэліш.

— Дурная ты! — сказаў паніч.— Няхай лепш куля трапіць у дзіцё, чымся дзіцё ў зубы і кіпцюры мядзведзя. Лягчэйшая смерць.

Няпрошаны абаронца мужыцкіх дзяцей цэліўся ў малое дзіцё... Выстраліў.

Пошчакі разлягаліся па лесе. Мядзведзь паваліўся і яшчэ здолеў асцярожна паставіць убок кашолку з дзіцем.

— Дзіцё жывое! Жывое! Жывое! — закрычалі жнейкі на розныя галасы.

Паніч аж заскрыгатаў зубамі. Цэліўся ў дзіцё, ды не папаў. Вось няўдалы стралец... Гонар быў яму даражэй за мужыцкае дзіцё.

Пабегла Хомчыха па дзіцё. Падняла кашолку і ўзрадавалася:

— Дзіцё цэленькае! Смяецца, дурненькае... Дзякуе панічу...

У гэтую ж хвіліну з лесу выскачыла мядзведзіха, вырвала з рук Хомчыхі дзіцё і знікла ў лесе.

Дзівіліся людзі, а Хомчыха качалася па ржышчы ды галасіла:

— Дзетка мая маленькая... Дзетка мая родненькая...

Паніч склікаў паляўнічых з усёй ваколіцы. Нарыхтавалі аблаву. Мядзведзіхі і след прастыў.

Суседзі радзілі Хомку панесці малых медзведзянятак у лес на тое самае месца, дзе ён іх узяў.

Хомка так і зрабіў.

У тую ж ноч чуе Хомка — нехта стук-стук у акно. Ён падышоў, бачыць — за акном мядзведзіха стаіць ды лапай, як чалавек, не раўнуючы, грук-грук па шыбе.

Пабаяўся Хомка выйсці з хаты. Затое Хомчыха смела выскачыла — матка... Сэрца маткі заўсёды чуе і кепскае і добрае.

Мядзведзіха падняла з зямлі дзіцё і падала мацеры ў рукі. Хомчыха падзякавала. Мядзведзіха нешта зараўла ў адказ. Паглядзела на Хомчыху, паслухала, як тая плача і смяецца ў адзін і той самы час, выцерла лапай вочы ды спакойна пайшла на гумно, а адтуль — у лес.

Хоць дзіцё жыло ў мядзведзіхі цэлы тыдзень, але было вясёлае і ружовенькае — лепш, чым у маткі. Мядзведзіха не адбывала ж прыгон. Відаць, акуратна карміла чалавечае дзіцянё сваім мядзведскім малаком.

Дзіцё расло дужае, здаровае. Вырас добры хлопчык. Як ён пачаў хадзіць, яго ўсё цягнула ў лес. Аднаго разу ён пайшоў у лес — і, колькі яго ні шукалі, не знайшлі.

— Пэўна, ваўкі з'елі,— гаварылі людзі.

Усё лета палясоўшчыкі скардзіліся, што хтосьці крадзе ў іх хлеб і мёд.

І вось у самую восень, калі надышлі халады, хлопчык вярнуўся дамоў.

— Дзе ж ты быў?

— У мядзведзяў...

— Як гэта?

— Захацелася да іх. Вось я і пайшоў...

— Чым жа ты жывіўся там, сынок?

— Мядзведзіха прыносіла мне хлеб і мёд.

Кожны раз, канчаючы гэта апавяданне, Вышамірскі гаварыў:

— Каб я з гэтага месца не ўстаў, калі маню!

І ён уставаў з месца і адыходзіў дамоў, абапіраючыся аб kiёк.

— Хлусіць Вышамірскі,— гаварыў дзед.

— Лепш разумная мана, чымся неразумная праўда,— апраўдвала Вышамірскага бабуля.

## ВЕРАБЕЙ І ЦАР САЛАМОН

У гадавыя святы дзед любіў выпіць. Аднаго разу ён быў да таго п'яны, ажно хістаўся на нагах. Дзед пачаў скардзіцца, што хата старая і ў ёй нельга жыць.

Хістаючыся, ён выйшаў з хаты, узяўся за вугал і сказаў да бабулі, якая выбегла за ім:

— Перавярну хату, тады Анупрэй збудуе мне новую!

Ён узяўся абедзвюма рукамі за вугал і давай натужвацца.

— Кінь, яшчэ падарвешся,— крычала на яго бабуля.

— Перавярну! Усю зямлю дагары нагамі перавярну! — харахоліўся дзед.— Я дужы, як Гірша-Меер каваль! Я гнеўны, як разбойнік Ціхан! Я строгі, якураднік Ясінскі!

Тут жа стаяў Анупрэй і рагатаў.

Калі дзед працверазіўся, Анупрэй з яго пачаў жартаваць.

Дзед адказаў свайму домаўласніку байкай.

— Цар Саламон пабудаваў у Іерусаліме хорам. Усе цары Усходу і Захаду прыехалі да яго на ўрачыстасць. Яны любаваліся хорамам. Сцены былі з горнага каменя. Дах — медны. Унутры хорам быў аздоблены золатам і серабром. Цары Усходу і Захаду хвалілі пабудову. «Ніякая сіла не зварухне такі гмах з месца»,— гаварылі яны. У гэты час на медным даху хорама стаяла пара верабеек і слухала гутарку цароў. Верабей, які на царскім піру дзеўбануў драбінку хлеба з лужыцы віна, быў п'яны. Ён зарагатаў піскля̀вым галаском і сказаў другому вераб'ю: «Глупства гавораць людзі. Я вось тупну нагой — і хорам разваліцца ў пыл і пясок». Цар Саламон, які разумеў мову звяроў і птушак, прыслухоўваўся да гутаркі вераб'я. Ён кіўнуў да вераб'я пальцам. Верабей адразу працверазіўся, спалохана ўзляцеў на дарагі пярсцёнак Саламонава пальца, на які паказаў яму цар, пакланіўся і запытаўся: «Чым маленькі падданы можа служыць вялікаму цару?» Цар Саламон усміхнуўся і сказаў: «Зараз жа ўзляці на дах, тупні нагой ды разбуры мой хорам. А калі ты гэта не здолееш зрабіць — мой востры меч зніме тваю галаву з плеч». Верабей задрыжэў ад страху, узмахнуў крыльцамі, нізка пакланіўся цару і сказаў: «Няхай цар Саламон жыве тысячу год. Ці ж ты перад сваімі жонкамі часам не пахваліўся? Вось і я пахваліўся перад сваёй жонкай. Даруй, вялікі цар». «Дарую,— сказаў цар Саламон.— А за тое,

што ты так разумна выкруціўся, дазваляю табе збудаваць гняздо на адной з высокіх веж майго харама».

Скончыўшы байку, дзед дадаў:

— А цяпер, Анупрэйка, я табе пакажу, што я не хваліўся!

Дзед узяў кол, падсунуў пад трухлявы вугал хаты, і ўся сцяна захісталася.

— Ды ты, Лэйзарка, хату разбурыш,— устрывожыўся Анупрэй.

Праз некалькі дзён мы перабраліся ў Анупрэеву пуню, і Анупрэй са сваімі сынамі перасыпаў сцены хаты, падняўшы яе на некалькі вянцоў.

## БАЦЬКАВА СКРЫПКА

З бацькам мне прыходзілася сустракацца рэдка. Ён выязджаў у лес раніцою, калі я яшчэ спаў. Вяртаўся дадому ўвечары, калі я ўжо таксама спаў. З сабою ў торбачцы маці яму давала хлеб, сыр, крутое яйцо, медную місачку, лыжку, соль, часам бутэльку малака. Сваю торбачку ён заўсёды хаваў у вялікай торбе з аўсом для каня. Ён прыгатаўліваў сабе ля рэчкі арыгінальную ежу: набіраў у місачку вады, засольваў, накрышваў туды крутое яйцо і еў з хлебам. Адпачываў ён па суботах. Дзед быў ім нездаволены: бацька нестаранна маліўся богу, часта зусім не маліўся. Улетку ён увесь суботні дзень пасвіў каня. Узімку ён карміў яго аўсом. Конь быў заўсёды гладкі, дагледжаны. Маці скардзілася, што ўсе яго заработкі з'ядае конь.

Аднаго разу бервяно ўдарыла бацьку па назе, і ён прахварэў некалькі тыдняў. Ён сядзеў на ложку з забінтаванай нагой і смяшыў мяне сваімі жартамі. Я не ведаў, што ён такі вясёлы і дасціпны. Калі боль нагі змен шыўся і бацька ўжо мог ступаць па падлозе, ён дастаў з камода скрыпку ды граў старадаўнія яўрэйскія мелодыі. Ён таропіў мройныя чорныя вочы праз акно ў лес і граў сумна-сумна... Ён часта імправізіраваў мелодыі, фантазіраваў. Граў ён заўсёды ціха-ціха, нібы камусьці наігрываў сакрэт ці перад невідочным блізкім сябрам скардзіўся на сваё жыццё. Я слухаў загіпнатызаваны, зачараваны. Ком падступаў мне да горла, і я ўцякаў, каб не заплакаць.

# ДАЎГАКРЫЛЫ БУСЕЛ

У гэты час даўгакрылы бусел прынёс мне з неба ў хату першую сястрычку Марыю.

Так мне тлумачыла жвавая бабулька, калі нарадзілася мая першая сястра. Пры гэтым бабуля белай крэйдай накрэслiла лінію па сценах хаты і нешта ўдумліва шаптала.

Я вельмі злаваўся на даўгакрылага бусла. Навошта яму было прыносіць сюды маленькую Марыю? Няхай бы яна жыла сабе над воблакамі. Справа ў тым, што са з'яўленнем маленькай Марыі ўся ўвага маці і бабулі была аддадзена ёй. У мой дзіцячы маленькі свет укралася першая зайздрасць. На некаторы час маці забыла пра свае каптуры і пра мяне. Разам з бабуляй яна купала малютку, пелянала і спявала песню над яе зыбкай, што вісела пасярод каморкі, прывязаная да бэлькі на вяроўках, нібы кабінка да паветранага шара.

Люлі, Мэрачка мая,
Люлі, дочанька мая.
Пад калыскай беленькай
Стаіць козлік шэранькі.
Пойдзе козлік на таржок,
Мэры купіць піражок,
Міндальчыкі, цукерачкі
У залатых паперачках.
Люлі-люлі-люленькі...

Даўгакрылы бусел атруціў маё сэрца нечаканай крыўдай. Я хадзіў адзінокі і ад злосці біў кіем крапіву, што разрасталася за вугламі нашай хаткі. Пры гэтым я прыгаварваў:

— Вось табе, злы бусел! Вось табе, злая Марыя!

Гадзінамі я сядзеў на краі дарогі. Па небе імчаліся ў бок лесу караваны ружовых і белых воблакаў. Яны здаваліся мне выраем буслаў і маленькімі Марыямі. Па тракце праязджалі караваны з таварамі. Пахла дзёгцем. Скрыпелі калёсы. Коні ледзь-ледзь цягнуць вазы. Штохвіліну ляскат пугі і ядраныя лаянкі камісіянераў-фурманаў рэжуць паветра. А на вазах сядзяць розныя людзі, мужчыны і жанчыны пад парасонамі. Вось адзін утаропіўся ў расчыненую на яго каленях кнігу.

— Адкуль яны едуць і куды яны едуць? — задаваў я сабе запытанне.— Ці гэта не тыя мудрацы зямлі, пра якіх так часта гаворыць мой дзед? Ці гэта, можа, з племені тых асілкаў, што трымаюць сонца на сваёй спіне, нібы медны таз? А можа, ускочыць у адзін з гэтых вазоў ды

гайдануць далёка-далёка: на самы край свету... І няхай сабе маці і бабуля няньчацца са сваёй Марыяй... Бусел на крыллях не аднясе мяне дамоў...

Часта па дарозе імчаліся конна маладыя паненкі ў чорных амазонках з паляўнічымі стрэльбамі за плячыма. Часта на прыгожым фаэтоне каталася старая пані Чапкоўская з двума белымі сабачкамі на каленях.

Бабуля навучыла мяне знімаць шапку перад панамі. Аднаго разу нейкі смяшлівы паніч з залатым пяром у дзівосным капелюшы кінуў мне ў шапку плітку шакаладу. Ніхто з нас не ведаў, што гэта. А дзед забараніў мне папробваць плітку на смак. Ён гаварыў:

— Не еш, дуда! Можа, на сале свіным смажылася...

Есці сала лічылася ў нас вялікім грэхам.

Я аддаў шакалад майму сябру — шэраму кату. Ён з'еў, пасля чаго мы з ім гулялі вакол хаты: ён гнаўся за мною, я — за ім.

Я доўга сумаваў па тым, што бусел прынёс маёй мацеры маленькую Марыю. Ох, гэты бусел! Ён бязлітасна разбурыў мой супакой. Усе мне здрадзілі, усе мяне забылі...

## ДАЗВОЛЕНА ЦЭНЗУРАЙ

Адзін дзед, слаўны добры майстар, скромны мастак, творца прыгожых бліскучых пасудзін, не здрадзіў мне. Нягледзячы на з'яўленне ўнучкі, старшы ўнук быў яму па-ранейшаму дараг. Пры абедзе ён садзіў мяне побач з сабою за стол. Раней чым сабе, дзед накладваў мне ежу ў алавяную місачку. Потым ён даставаў з ніжняй палічкі кніжнай шафы сіняватую бутлю з чыстым спіртам, наліваў сабе ў срэбраны ўзорчаты келішачак, адным глытком выпіваў, закусваў густа пасоленым хлебам, зноў ставіў бутлю і келішак у шафу і спакойна садзіўся абедаць. У дзеда быў заведзены парадак есці моўчкі. Калі я пры ядзе звяртаўся да яго з запытаннямі, ён дабрадушна адказваў:

— Еш, дуда, і маўчы, а то ластаўка на тваім языку гняздо саўе.

Пасля абеду ён браў мяне з сабою ў кузню.

Заўсёды па вечарах дзед сядзеў пры стале над тоўстым фаліянтам. Перад ім стаяла лямпа на меднай падстаўцы свайго вырабу. Ён ківаўся ўзад і ўперад у чорнай ярмол-

цы, чытаў упаўголас рэчытатывам, пасля кожнай фразы задумваўся, глядзеў на вісячы сямісвечнік і ціха, працягла напяваў. Я паглядаў на аграмадны дзедаў цень на сцяне, і мяне агортвала дрыма. Калі ён зноў пераходзіў да чыткі, я прачынаўся. Дзед тады выносіў мяне праз сенцы ў камору маіх бацькоў і распранаў.

Аднаго разу дзед мне даў грошык на цукерку. Я пайшоў у краму і замест цукеркі купіў белы аркуш паперы. Дома я склаў паперу ў маленькую кніжачку і папрасіў маці, каб сшыла. Потым я дастаў з дзедавай шафы чарнільніцу, ручку і том бібліі. На шырокім тапчане я расчыніў том на першай тытульнай старонцы і давай у сваю кніжачку перапісваць адтуль незразумелыя мне друкаваныя літары. Па нейкай справе дзед прыбег з кузні.

— Ай, дуда! — спалохаўся ён.— Біблію чарнілам зальеш...

— Я ж пішу! — пахваліўся я.

Дзед паглядзеў, што я пішу ў сваёй маленькай кніжачцы, і заківаў галавой ад дзіва.

— Дык ты ж, дуда, сапраўдны друкар! Бач, як друкуе. Цюцелька ў цюцельку!

— Пачытай, дзед, што я надрукаваў...— папрасіў я.

— Гэта не па-яўрэйску, і я не разумею,— сказаў дзед і паклікаў маці. Яна прачытала:

— «Дозволено цензурой».

— Ах, дуда, «доз-во-ле-но цен-зу-рой»... Бачыш, які ты ў мяне разумны!.. Га? Калі «дозволено цензурой», дык я табе куплю «алефбейс» (алфавіт). А бібліі не чапай. Яна дарагая. Абальеш чарнілам. Я больш строгі за цэнзуру. Яна дазваляе, а я забараняю.

Я пакрыўдзіўся.

— Буду маляваць на кніжачцы пеўнічкаў...

— Малюй, дуда, пеўнічкаў...

Праз тыдзень камісіянеры прывезлі з Мінска яўрэйскі алфавіт, надрукаваны на адным баку вялізнага, у паўстала, аркуша паперы. Дзед наклеіў алфавіт на картон і пачаў на вечарах вучыць мяне грамаце. Мне было тады пяць з палавінай год.

Пры кожным маім поспеху на алфавіт падаў медны грошык.

— Гэта анёл з неба кідае, бо добра вучышся! — гаварыў дзед.

А калі я спаймаў над маёй галавой дзедаву руку з новым грошыкам, дзед рагатаў не менш за мяне і пахваліў:

— Ніколі не паддавайся на абман, дуда мая, ніколі!

Праз некалькі тыдняў я ўжо бегла чытаў малітвеннік. У сувязі з гэтым я зрабіўся хатнім духоўнікам сваёй непісьменнай бабулі. Я кожную раніцу чытаў уголас малітвы, а бабуля шаптала за мною слова ў слова. Да мяне гэту работу выконвала маці. Абавязак быў вельмі нудны, бо я яшчэ ніводнага слова не разумеў па стараяўрэйску, а словы малітвы былі на гэтай мове. Кожны дзень бабуля ўзнагароджвала мяне за такую ранішнюю службу салодкай сушанай морквай і арэхамі.

## ТАЯМНІЦЫ НЕБА І ЗЯМЛІ

У мястэчку была другая беззямельная сям'я — Борух і яго жонка Сора. Яны жылі на другім канцы мястэчка ў маленькай хатцы, знутры і знадворку аблепленай глінай. Борух — стары, нізкага росту чалавек, з вялікай галавой на шчуплых плячах — браў на вучобу трох-чатырох дзяцей. Яго жонка Сора хадзіла з кошыкам шкляной пасуды па вёсках. Яна прадавала пасуду ці абменьвала на прадукты, і з гэтага яны жылі. Борух займаўся тайнай навукай «каба́лы». У кожную раніцу ён хадзіў на блізкае возера на абрад «святога амавення». У кожную поўнач ён уставаў, абсыпаў галаву попелам у знак жалобы, садзіўся на зямлю і аплакваў зруйнаванне храма Іерусалімскага. Часам удзень ён хадзіў у лес, дзе ў самоце вывучаў таямніцы неба і зямлі. Дзень у дзень ён пісаў нейкі філасофскі трактат. Яго ў ваколіцы лічылі святым чалавекам. Да яго на парады прыходзілі і беларусы.

У сем год мяне аддалі ў навуку да Боруха. У яго вучыліся дзеці пасадзецкага багача-карчмара. Яны былі нашмат старэйшыя за мяне і вучылі талмуд. Я ніколі да гэтага часу не бываў у хатцы Боруха. Я з цікавасцю аглядаўся па кутках хаціны і заўважыў, што тут уся пасуда са шкла і гліны, лыжкі — драўляныя, гліняныя падсвечнікі, злепленыя груба ім самім. Падлога была гліняная. І рукі і твар самога Боруха мелі колер гліны. Ён вечна дыміў люлькаі — старасвецкай бурштынавай з доўгім, у два аршыны, плеценым цыбуком. Хлопцы карчмара былі гультаі, і Борух часта спакойна і ўдумліва паганяў іх канчуком-шасціхвосткай.

— Вучыцеся, бычкі! — гаварыў ён пры гэтым.

Некалькі гадзін у дзень ён займаўся выключна мною. Раздзел за раздзелам чытаў са мной біблію, тлумачачы бегла значэнне стараяўрэйскіх слоў. Ён мяне ніколі не біў. Апрача гэтага, ён кожны дзень аддаваў гадзіну на вусную размову са мною. Ён мяне называў сваім «духоўным сынам». Тлумачыў, што ўсё на зямлі бог — нябесны ганчар — выляпіў з гліны. З гліны мы выйшлі ды ў гліну вернемся. «Чалавечая душа,— гаварыў Борух,— божая іскра. Бог даў чалавеку дабро і праўду, а чорт — зло і фальш. І вось у вечным змаганні між сабою дабра і зла, праўды і фальшы праходзіць чалавечае жыццё, нібы малюсенькая кропля ў акіяне вечнасці, нібы дробны чаўнок у бурлівай стыхіі несупыннага патоку». Аграмадныя светлыя вочы Боруха свяціліся двума страшнымі аганькамі. Ён мяне заварожваў.

Борух растлумачыў мне ўсю механіку зямлі і неба.

Зямля ляжыць на хвалях вялікаводнага Укіёнуса. Зямлю акружае вялізная рыба Левіятан, што вечна трымае свой хвост між зубоў. Калі б Левіятан выпусціў хвост і выпрастаўся б, дык ад гэтага ўзняліся б хвалі да самага неба, уся зямля апынулася б пад вадою, як у часе першага патопу.

У вялікіх пустэчах, дзе чалавек не мае доступу, знаходзяцца ў падзямеллях бочкі з віном ад часоў Ноя — некалькі тысяч год. А там на мурожных горах пасецца агромністы бугай. Рагамі ён падпірае абломі. А калі ён пачынае рыкаць, тады ў нас грымяць грымоты.

Над зямлёю вісіць сем нябёс. Кожнае неба падпіраюць анёлы, такія высокія, што калі б па такім анёлу пайшоў чалавек пехатой, дык ад пят да галавы ён дабраўся б за пяцьсот год. На анёлах усюды вочы. Мы іх бачым і называем зоркамі. На сёмым небе знаходзіцца Адэнай, Шэхіна і Руах-Гакойдаш — нешта падобнае да хрысціянскай троіцы. Яны знаходзяцца ў раі. З імі разам жывуць праведнікі-цадыкі. Там на кіпарысе вісіць арфа цара Давіда, на якой іграе вецер. Музыка ў шэсцьдзесят разоў прыгажэйшая за музыку на зямлі.

Надыдзе час, калі сам бог зловіць рыбу Левіятана, зарэжа агромністага бугая, дастане старое Ноева віно і наладзіць пір для сваіх цадыкаў-праведнікаў. Ежа і пітво будуць у шэсцьдзесят разоў смачнейшыя, чымся на зямлі.

# ХЕДЭР

Калі я дома расказаў дзеду аб гэтых гутарках, яму гэта не спадабалася. Ён забраў мяне ў Боруха і аддаў у хедэр к другому рэбэ (настаўніку). Зваўся ён — рэб Залман. Ён быў касавокі, з чорнай густой барадой страдаўняга асірыйца. На руках ён меў па шэсць пальцаў. Адным сваім выглядам «шэсцярэнь» наводзіў страх на вучняў. У яго «хедэры» (школе) пачаліся мае сапраўдныя пакуты.

У цесным пакоі пры адным стале сядзела каля дзесяці хлопчыкаў. Сядзелі мы безвыходна па дванаццаць гадзін. З дому нам прыносілі есці. Дзень быў падзелены на чытку малітваў, бібліі і талмуда. Прыблізна гадзіна часу аддавалася на чыстапісанне па-стараяўрэйску і на вывучэнне першых чатырох правіл арыфметыкі. Вольнымі ад хедэра мы бывалі паўдня ў пятніцу і паўдня ў суботу. Два разы на год вучні хедэра мелі канікулы — месяц вясною і месяц увосені.

Усе дзесяць вучняў маліліся і чыталі разам уголас. У хедэры стаяў незвычайны шум, нібы гулі некалькі раёў пчол. Кожны з вучняў лічыў такую нудную і аднастайную вучобу за катаргу. Рэбэ прыходзілася ўбіваць «божую навуку» ў галовы вучняў кулакамі. Ён біў нас бязлітасна дзень у дзень. Дамоў я прыходзіў з хедэра заўсёды падрапаны, з апухлым тварам. Бацькі на гэта не зварочвалі ніякай увагі.

За цяжкія праступкі рэб Залман караў нас бізунамі па голым целе, як прыгонных у часы паншчыны. Я помню два такія пакаранні.

Я вельмі любіў маляваць. Рэбэ гэта лічыў непрыстойным заняткам і забараняў «псаваць паперу». Аднаго разу ён знайшоў у мяне размаляваны аркуш паперы: чалавечкі, дрэўцы, хаткі, жывёлы. Рэбэ за гэта ўсыпаў мне некалькі гучных аплявух. Тут жа хтосьці з вучняў данёс, што я на першай старонцы бібліі намаляваў свінку. У набожных яўрэяў свіння лічылася нячыстай жывёлай. За гэту свінку рэбэ сарваў з мяне вопратку, кінуў мяне на ўслонак, загадаў маім таварышам трымаць мяне за рукі і ногі, а сам сцёбаў мяне цвёрдай дзягай па голай спіне...

У другі раз я ўчыніў таксама цяжкі «грэх». Гуляючы з дзецьмі ў суботу ў лесе, я натрапіў на суніцы. Паводле закона іудзейскай рэлігіі ў суботу збіраць ягады няможна, бо гэта работа. А субота — дзень адпачынку. З'явілася нястрымнае жаданне папробваць спелых пахучых суніц.

Я разважаў так: «Зрываць ягады рукамі божым закопам не дазволена, але адразу з кусткоў зрываць ротам і есці можна. У суботу ж яўрэі не посцяць...» Я лёг на зямлю і давай прагна есці суніцы...

— Грэх! Грэх! — крычалі мае таварышы і ўцяклі дамоў раней за мяне.

— Грэх... Грэх...— звінела ў маіх вушах.

## ЦАРЫЦА ШАБАС

Дамоў я ішоў адзін. Дзеці ўжо раструбілі на ўсё мястэчка пра мой вялікі грэх перад царыцай Шабас.

У гэты дзень сам бог адпачываў пасля стварэння свету. У гэты дзень і грэшнікі ў пекле адпачываюць. Пра Шабас напісан цэлы том талмуда. Іудзейская армія, якая даўней паўстала супроць рымлян, заўсёды ў шабас адпачывала, не баранілася. Рымскія легіянеры рэзалі іх у суботу, як ягнят. Так кажа легенда. Ёсць мора Самбатыён, дзе на востраве жывуць веліканы — Маісеева племя. Каб ніхто з людзей не мог туды дабрацца, з неба несупынна падаюць у мора Самбатыён камені. Толькі ў шабас там спакойна.

А я паквапіўся на суніцы...

Што скажа маці і бабуля пра мой учынак? Яны ж гатуюць ежу ў пятніцу і ў шабас адпачываюць. Нават карову самі не дояць. Вады з крыніцы не прыносяць і лямпы самі не запальваюць. Усё гэта робіць удава Марта. А ў пятніцу на захад сонца бабуля і маці ў чэсць Шабас запальваюць свечкі. Маці — у стаячых падсвечніках, а бабуля — у вісячым сямісвечніку. Яны моляцца на свечкі, засланяючы далонямі вочы, каб не глядзець на святы агонь... У шабас і дзеці не растуць... трава на полі не расце... крамы і корчмы зачынены...

А я паквапіўся на суніцы...

Што скажа на мой учынак дзед і бацька, якія ў шабас нічога не робяць? Што скажа столяр Янка, які ўмее спяваць шабасовыя песні на стараяўрэйскай мове? Што скажа мой строгі рэбэ? Ён адзін з самых адданых рыцараў царыцы Шабас. У буднія дні ён заўсёды грызе свае ногці — па шэсць на кожнай руцэ. Затое ў шабас гэты злы шэсцярэнь ніколі іх не трывожыць. У шабас і ногці яго адпачываюць.

А я паквапіўся на суніцы...

Сіняе шоўкавае неба. Залатое сонца. Жаўранкі спява-

юць гімны царыцы Шабас. На лугах звіняць косы. Навакол радуецца жытняе поле, а я самы нешчаслівы на свеце хлопчык. Я здрадзіў царыцы Шабас. Мяне чакае кара.

Я ўяўляю сабе царыцу Шабас у выглядзе нашай багатай карчмарыхі Златы: тоўстая, кароткая і злая, злая... На яе галаве капялюшык са штучнымі белымі кветкамі, чырвонымі журавінкамі і зялёнымі лісткамі. Над капялюшыкам красуецца пышнае пяро павы. Яна, царыца, у сіняй, колеру неба з залатымі крапінкамі, шоўкавай ратондзе. На грудзях — залаты гадзіннік. На тлустай шыі — тры нізкі бліскучага жэмчугу. На пальцах — залатыя пярсцёнкі з аметыстамі і карбункуламі. Голас у царыцы Шабас таксама злы і калючы, як у нашай карчмарыхі Златы.

Не люблю я царыцы Шабас, нягледзячы на тое, што ў яе дзень я напалавіну вольны ад хедэра. Бяда, што ў гэты дзень ты, як мёртвы,— нічога рабіць няможна... А вось гэтая ж царыца — злая, як ведзьма,— мае крыллі і лунае над палямі і лясамі. Яна сочыць за тым, каб яўрэйскія хлопчыкі ягад не збіралі ў лесе. Чым яўрэйскія хлопчыкі горшыя за неяўрэйскіх хлопчыкаў?

Мяне чакае рэбэ з цвёрдай дзягай у руках. Ён — кат, гад, разбойнік. Ён — агідны, люты чалавек.

Каб гэта наш вядзьмар Карпуха зачараваў мяне ў цялушку, у рабенькую цялушачку з лысінкай на лбе. Я пабрыкваў бы па полі і не баяўся б ні царыцы Шабас, ні рэбэ. Маці шукала б мяне, клікала б, звала:

— Дзе ты, сынок?

А я не хлопчык, а цялушка.

Каб я ведаў чароўнае слова — перакінуўся б у зязюльку. Я паляцеў бы ў блізкі лес і, нягледзячы на Шабас, кляваў бы суніцы, брусніцы, чарніцы... А то ўзляцеў бы на зялёную вярбу ля нашай хаты. Маці пыталася б:

— Дзе ты, сынок?

А я з вярбы: «ку-ку! ку-ку!» Потым узняўся б у сіняе неба, з імпэтам кінуўся б уніз на агідны твар рэбэ і давай яго кляваць і драпаць кіпцюрамі.

Было б таксама някепска, каб я быў хаця б аўсяным каласком на нашай страсе. Іх шмат на даху нашай хаты. Дзед мне гаварыў, што іх тут сам бог сеіць. Гляджу сабе са страхі на далёкі тракт... На мяне садзіцца залатая пчолка, прыгожы матылёк. Дожджык мяне палівае, сонейка грэе, ветрык калыша... Мне так добра — не трэба маліцца. Я вольны ад нудных псалмоў, ад нецікавага талмуда. Я расту і ў Шабас, і ніхто мяне не карае за гэта...

Ахопленыя такімі дзівоснымі марамі, я не заўважыў, як апынуўся сярод мястэчка. Рэбэ мяне чакаў на вуліцы. Хтосьці са школьнікаў яму ўжо данёс аб маім учынку.

Рэбэ паглядзеў на мяне строгімі і вясёлымі вачыма. Чужое няшчасце яму заўсёды прыносіла радасць. Ён схапіў мяне за руку і пацягнуў у хедэр, каб пакараць за суніцы — за парушэнне святой суботы.

У хедэры рэбэ пачаў зрываць з мяне вопратку. Я змагаўся з усіх сіл. «Гад, каршун»,— крычаў я. Я кусаў свайго ката за рукі, ірваў яму бараду, драпаў твар, брыкаўся, галасіў. А ён сарваў з мяне ўсю вопратку і пачаў біць дзягай. Чым больш я змагаўся, тым мацней ён мяне біў.

Абодва мы былі акрываўленыя — і я і рэбэ.

Ні бацька, ні дзед за гэта на рэбэ не пакрыўдзіліся. Толькі добрая бабуля, прыкладваючы халодныя кампрэсы да маёй акрываўленай спіны, пралівала нада мною горкія слёзы.

У другую суботу я, праклінаючы і Шабас, і рэбэ, і ўвесь свет, зноў пайшоў у лес. Цяпер я ўжо наўмысне збіраў ягады рукамі. А дома я сказаў, што, калі мяне рэбэ будзе біць за ягады, кінуся ў возера і ўтаплюся.

І я і мае таварышы ўзненавідзелі хедэр, дзе нас, малых, калечылі і фізічна і маральна.

У дзесяць год я ўжо някепска ведаў стараяўрэйскую мову. У бібліі і талмудзе я ахвотна чытаў раздзелы, насычаныя легендамі і апавяданнямі. Рэлігійна-філасофская частка была вельмі схаластычная. Апісанне яўрэйскіх звычаяў і законаў было нудна чытаць. У дзедавай бібліятэцы я натрапіў на зборы легенд і казак аб розных святых: «Шывхе баал шэм», «Ялкут», «Цэена Урэена» і шмат іншых. Кожны раз перад сном я імі зачытваўся. Дзівосная фантастыка аб анёлах, чэрцях, русалках, чараўніках і святых, распісаных у падобных кніжках яркімі фарбамі, палохалі мяне, дзівілі і захаплялі.

## СНЫ

У сне я іх бачыў, гэтыя казкі, у жывых карцінах, у новых дэкаратыўных перастаноўках.

Я гуляю ўвечары са сваімі школьнымі таварышамі па выгане за мястэчкам. Павольна надыходзіць ноч — цёмная, цёмная. Мне боязна. Я тулюся да таварышаў. Яны пачынаюць свістаць і люлюкаць. Яны дзіка рагочуць.

Аказваецца, што гэта не мае таварышы, а чэрці... Я з усіх сіл бягу дамоў. Чэрці гоняцца за мною — хочуць зацягнуць на непраходнае балота, у багну. Я ледзь выратаваўся ад іх, ускочыў у хату. Бацька спіць. Я буджу яго і расказваю пра свае страхі. Ён слухае, выпучвае вочы, высоўвае доўгі язык і пачынае рагатаць. Гэта зусім не бацька мой, а чорт. Я зусім не ў роднай хаце, а ў старым млыне. З возера выходзіць на грэблю карагод голых доўгавалосых русалак. Пад куваканне жаб яны, маўклівыя і сумныя, танцуюць. Яны акружаюць мяне, шчакочуць, хочуць зацягнуць у аір, у возера. Яркі месяц асвятляе іх прыгожыя твары. Замест кашуль яны ахутаны туманам. Мяне цягне да гэтых русалак. Яны надзіва прыгожыя. Але тут мая пагібель. Русалкі хочуць мяне ўтапіць. Яны зараз мяне ўтопяць. Яны зацягнулі мяне ў ваду. Я прачынаюся.

Бабулі роднай апавядаю свой сон.

Яна ўважліва слухае. Супакойвае мяне. Раптам на яе лбе вырастаюць рогі. Яна ўся абрастае шэрсцю...

Гэта ж зусім не мая бабуля, а страшная ведзьма. Яна хоча мяне зарэзаць і з'есці. Яна ўзнялася ў паветра, паляцела, трымаючы мяне вострымі кіпцюрамі, як у каршуна. Мы ляцім з ёю над мястэчкам. На дахах стаяць хлопчыкі і глядзяць. Мы з ведзьмай апынуліся ў глухім лесе. Яна расклала вогнішча. Старая ведзьма-людаедка хоча кінуць мяне ў агонь. Я прашу літасці. Здалёку даносіцца да мяне жаласлівы плач маці. Яна шукае мяне. Я крычу і... прачынаюся.

Хатнія акружаюць мяне. Пытаюцца, што мне снілася, даюць мне вады ў конаўцы. Я гляджу на іх і баюся. І я наяве думаю, што мяне акружаюць чэрці...

— Ты мабыць, перад сном «крыяс-шма» не чытаў,— строга мяне папракае маці.— Трэба маліцца перад сном, тады нячысцік не будзе табе балматаць на вуха.

## ВЯЛІКІ ПРОЙГРЫШ

З таго часу, як бацька ўдарыў нагу бервяном і прахварэў некалькі тыдняў, ён кінуў займацца возкай лесу на рум. У сплаўны сезон ён наймаўся ў лясных купцоў прыказчыкам пры сплавах, а зімой ён жыў «з паветра». Конь у яго быў заўсёды. Бацька гаварыў, што без каня жыць не можа — яму нудна.

Ад дзеда бацька аддзяліўся. Яму апрыкрала дзедава набожнасць. У другім канцы мястэчка, насупраць хутарка паляўнічага Вышамірскага, на зямлі карчмара стаяла пустая хата з прыбудоўкай для хлява і пуні. Бацька туды перабраўся. Карчмару плаціў дзесяць рублёў у год. Тут ён жыў «вольна», без дзедавага апякунства. Пасля сястры Марыі бусел прынёс нам у хату яшчэ хлопчыка і дзяўчынку. Маці перайшла ад шыцця каптуроў да вопратак. Удзень яна была занята дзецьмі і гаспадаркай. Уночы яна шыла. Швейнай машыны яна яшчэ не мела.

Бацька быў заняты скрыпкай і канём. Кожны тыдзень у чацвер ездзіў ён у мястэчка Даўгінава на кірмаш мяняць каня. Гэтым ён зарабляў. Яго тактыка была такая: выменьваць каня на горшага і атрымаць некалькі рублёў прыдатку. Новага каня, худога і слабога, за тыдзень адкормліваў і зноў — на кірмаш у Даўгінава. Зноў мяняў каня на горшага і прывозіў некалькі рублёў прыдатку... Калі яму часам не ўдавалася выменьваць свайго каня, ён прымаў удзел на кожным рынку пры такой жа справе ў іншых. За гэта ён па звычаю атрымліваў «камісіённыя» з абодвух бакоў.

Ён зрабіўся знатаком на коней. Навакольныя сяляне заўсёды звярталіся да бацькі, калі трэба было каму-небудзь з іх купіць каня ці прадаць свайго. Бацька ездзіў з імі ў Даўгінава. За такія клопаты яму плацілі натурай — бульбай, збожжам.

Аднаго разу бацьку абманулі цыганы. Ён прывёз з Даўгінава такую дахляціну, што конь назаўтра здох. Я ўпершыню бачыў, як плакаў бацька. Маці на яго крычала:

— Сорамна плакаць па каню...

Бацька застаўся без дзела. Маці ўпотайку ад яго хадзіла да дзеда «пазычаць» грошы на пуд жыта. Тым часам бацька прыдумаў новую справу — мяняць гадзіннікі. У яго быў добры сярэбраны гадзіннік, які ён атрымаў у пасаг ад дзеда. Тактыка была такая ж, як з коньмі: мяняць на горшы і браць прыдатак. Мяняў ён гадзіннік з пасажырамі, што праязджалі праз Пасадзец. Выменены гадзіннік ён аднаўляў: чысціў крэйдай, шараваў анучкамі, пакуль даводзіў гадзіннік і ланцужок да новага блеску, да зіхацення. Ён, канешне, гаварыў, што гадзіннік зусім новы... Гэты «новы» ён мяняў на горшы і браў прыдатак.

Але гэта справа была вельмі дробная, без разгону.

Кончылася яна, як з канём — даволі трагічна. Выменяў бацька гадзіннік, узяў пяць залатовак прыдатку, пашараваў яго да такога блеску, аж ён, гадзіннік, вочы сляпіў. Прылажыў гадзіннік да вуха і пачуў у ім падазроную хрыпотачку, нібы млявасць на яго напала. Бацька ўстрывожыўся і давай кожную хвіліну прыкладваць яго да вуха. Заўважыла маці.

— Што з гадзіннікам?

— Ды нічога...

— Навошта кожную хвіліну тыцкаеш яго ў вуха?

— Мне вуха баліць. Кепска чую. Відаць, прастудзіўся...— сказаў бацька.

— А божа ж мой! — спалохалася маці.— Вуха баліць, а ты маўчыш...

— Ці ж крычаць?

— На камфару, пакапай у вуха — памагае.

Маці падала бацьку бутэлечку з камфараю. Бацька пайшоў на двор, накапаў камфары ў гадзіннік. Гадзіннік стаў. Бацька спалохаўся і пачаў яго трасці, як чалавека, які страціў прытомнасць. Спачатку гэта памагала. Гадзіннік прыходзілася ўстрахваць кожныя пяць хвілін. Потым — кожныя тры хвіліны, потым — кожную хвіліну. Урэшце гадзіннік зусім страціў пульс.

Тады бацька ўзяў іголку і пачаў поркаць у гадзінніку шрубкі — і гэта не памагло. Бацька панёс гадзіннік рыжавусаму Янку на паратунак. Янка разняў яго на самыя дробныя кавалачкі, прачысціў і зноў склаў. Гадзіннік нараві́ўся. Ён сіпеў, як гадзюка, хархоліў і бурболіў, нібы топіцца і вось-вось яму надыходзяць канцы.

Так яно і было. Гадзіннік выпадаў у бацькі з рукі і зусім рассыпаўся. Бацька кінуў гадзіннік у рыбную сажалку Вышамірскага. Ланцужок ад гадзінніка ён ціха схаваў у камодзе. Вочы у яго былі сумныя. Такія ж вочы былі ў яго, калі ён схаваў аброць ад паўшага каня на печы пад бэлькай.

З чаго цяпер жыць? Што мяняць?

Больш не было ў бацькі чаго мяняць. Толькі раз шапкамі абмяняўся з суседам і ўзяў дзесяць капеек прыдатку... Тады бацька пазычыў у карчмара на працэнты дзесяць рублёў, купляў на вёсцы то авечку, то цялушку і прыносіў на спіне дамоў. Мяса і скуру прадаваў камісіянерам на Мінск, а сабе пакідаў ножкі, пячонку, галаву і лёгкія. Гэта лічылася заробкам. Часам яму заставалася яшчэ і некалькі залатовак.

У той час выйшаў закон аб манапольках для продажу гарэлкі. Карчмар пабудаваў манапольку. Сядзельцам быў немец Карл Рэйтар. Па-яўрэйску ён гаварыў не горш за яўрэя. Удзень ён прадаваў гарэлку, а па вечарах ён вучыў пасадзецкую моладзь гуляць у карты. Уцягнуўся ў гэту справу і мой бацька. Збіраліся ў нас. Цэлымі зімнімі начамі рэзаліся ў «дваццаць адно» і «шэсцьдзесят шэсць». Кожную ноч маці хвалявалася, каб хаця бацька выходзіў чыстым — без пройгрыша і без выйгрыша.

Я сядзеў позна і таксама назіраў за гульнёй. Сумаваў, калі бацька прайграваў, радаваўся, калі выйграваў. У кон ставілася заўсёды адна капейка. Аднак аднаго разу бацька прагуляў рубель наяўнымі, яшчэ астаўся вінаватым пару залатовак.

Я ўспомніў, што за такое багацце ўдава Марта прайшла босымі нагамі па гарачых цэглах. Яна страшным болем зарабіла на два пуды хлеба для сваіх малых сіротак...

Калі ўсе разышліся, маці заплакала:

— За гэтыя грошы можна было купіць два пуды жыта...

— Горшая бяда была з канём, і то выжыў,— сказаў бацька.

Маці не ўнімалася:

— Сваімі рукамі выкінуць гэтулькі грошай...

— А мо прыкажаш мне страляцца, як пан Багдановіч? Не бойся, тваіх маёнткаў я не прагуляю.

Якраз на той час адзін з тутэйшых памешчыкаў прагуляў у карты свае маёнткі, пасля чаго кончыў самагубствам.

Аднак пасля гэтай ночы кончыліся карты. Бацька прадаў матчыны залатыя навушніцы, што купілі ёй на вяселле, прадаў яшчэ сёе-тое з хаты і зноў купіў каня. Ездзіў часта ў фурманкі, дастаўляў камісіянерам мясныя прадукты, і жыццё ў нас крыху палепшылася.

Бацька скардзіўся толькі на адно: яму цяжка плаціць рэбэ, за маю «навуку» дваццаць рублёў на год. Пры гэтых скаргах я заўсёды радаваўся. Я думаў, што бацька перастане за мяне плаціць, і я звольнюся ад ганебнага ненавіснага хедэра.

Гэтага не было. Аднаго разу бацька апошнюю карову прадаў, пакінуў сям'ю без малака і заплаціў за мяне праклятаму рэбэ дваццаць рублёў...

## САД

У мяне восеньскія канікулы. З усім імпэтам свайго сэрца імкнуўся я на волю з хедэра яшчэ за месяц да канікул.

Бацька пазычыў у карчмара на працэнты пяцьдзесят рублёў і за пяць кіламетраў ад Пасадца заарандаваў у пана Адольфа Мыслінскага сад. Бацька ўжо некалькі тыдняў жыве ў садзе.

Ён прыслаў па мяне фурманку. Я дапамагу яму вартаваць сад. На нашым кані вёз мяне стары дзед Мірон Сабалевіч. Гэта быў маленькі, як дзіцё, дзядок — з рэдзенькай бародкай, з чырвонымі ніткамі вакол паблеклых вачэй, чысценькі, у новых лапціках і падраным кажуронку.

Сын дзеда Мірона, пажылы селянін з чорнай, як сажа, барадой, служыў у пана парабкам. Яго звалі «чорнабародым Язэпам». Здружыўся я тады з сынам «чорнабародага» — з хлопчыкам маіх год — Тамашом. Ён быў пастушком.

Я — вартаўнік саду — даваў штодзень хлопчыку Тамашу яблыкі цішком ад бацькі, а ён, Тамаш, вучыў мяне па вечарах граць на жалейцы. Я вельмі захапіўся жалейкай, гэта была просценькая музыка лесу і поля, як бы чырліканне птушак, журблівы смех ручаінкі. Жалейка мяне вельмі расчульвала.

У сад заходзіў дзед Мірон — непісьменны летапісец ваколіцы, стары творца пагаворак і філасофскіх пасловіц. Тоненькім, пісклівым, як у птушкі, галаском ён апавядаў майму бацьку былі з часоў паншчыны. Я і Тамаш таксама пільна прыслухоўваліся да гутаркі дзеда.

Лепшая зямля ваколіцы належала старому пану Мыслінскаму. Лугі, пахата, лясы, вёскі, сяляне — усё-ўсё было панскай маёмасцю... І дзед Мірон належаў пану. Пасля смерці старога пана яго пяць сыноў падзялілі між сабой спадчыну. Кожнаму з іх выпадала па вялікаму маёнтку. Шмат хто з былых прыгонных засталіся «вольна» служыць у Мыслінскіх парабкамі.

Добра ведаю братоў Мыслінскіх: сярэдняга росту, шыракаплечыя, нізкалобыя, з маленькімі, мышынымі вочкамі. Па ўсёй нашай ваколіцы іх называлі «склютамі». У профіль яны нагадвалі сякеры. Вельмі скупыя і злыя паны Мыслінскія здзекаваліся са сваіх парабкаў, бадай, не менш, чымся іх бацька са сваіх прыгонных. Мельнік

Барткевіч аб іх склаў вострую і трапную байку пад назваю «Пяць вужакаў».

З апавядання дзеда Мірона я даведаўся, што старая пані Мыслінская вельмі любіла катоў. Лепшыя пакоі ў панскім доме займалі каты. Сама пані ўбірала іх у шаўковыя банцікі. Яны спалі на аксамітных падушачках, і іх абслугоўваў цэлы штат прыгонных дзяўчат. Спецыяльная кухарка гатавала ім ежу «па-англіцку»,— расказваў дзед Мірон.

Стары люты пан сваімі рукамі скалечыў нямала народу. Аднаго разу, калі пан паехаў у лес на паляванне і апынуўся адзін у цёмным гушчары, на яго ззаду нехта напаў, накінуў яму мяшок на галаву, паваліў і да таго біў кулакамі, пакуль пан перастаў дрыгаць нагамі. Але, на жаль, пан ачухаўся, ачуняў. Пан падазраваў, што гэта работа Тодара, роднага брата дзеда Мірона, бо дачку Тодара пан аддаў суседняму пану за сабаку, і пан загадаў аднаму з сваіх шчырых псароў — шляхтуну Сымону Найду — павесіць Тодара...

Яго павесілі ў вялізнай панскай пуні, што стаяла на беразе возера, недалёка ад млына. Падмуроўку гэтай пуні я сам бачыў.

Чорнабароды Язэп араў панскае поле ад цямна да цямна. Я часта пазіраў на яго з саду. Сілуэт аратая з канём вызначаўся на фоне неба, як малюнак. Відаць было здалёк, як ён натужваецца, як ён, моцны, шыракаплечы, нагінаецца над сахой. Ён мне здаваўся асілкам. Я быў упэўнены, што ён можа за лета ўзняць цаліну на некалькі вёрст.

Неяк раз пад вечар чорнабароды Язэп араў ля самага саду. Падышоў пан Адольф Мыслінскі. Яму не спадабалася работа Язэпа. Вочы пана памутнелі, наліліся крывёй. Ён пачаў лаяцца самымі брыдкімі словамі, размахнуўся і ўляпіў чорнабародаму Язэпу пару гучных аплявух... Язэп не пахіснуўся. Твару Язэпа я не бачыў, але чуў голас пана:

«Бач, вочы якія! Разбойніцкія...»

Я быў здзіўлены, што такі асілак не бароніцца ад пана.

З таго разу я яшчэ бліжэй здружыўся з сынам чорнабародага — з маім равеснікам Тамашом. Кожны дзень, таючыся ад бацькі, насыпаў яму за пазуху самых лепшых яблыкаў. Хлопчык так прагна іх глытаў, што захварэў на крываўку. Праз дзеда Мірона я пераслаў свайму сябру «лякарства» — шабасавую пшанічную булачку.

Рупны дзед Мірон пачаў заўчас майстраваць для Тамаша труну на вялізным панскім дрывотніку. Я глядзеў, як ён распілоўвае маленькай пілкай тонкія шурпатыя драніцы. Буйныя слёзы ліліся з маіх вачэй. Дзед Мірон таропіўся паблеклым прыжмураным вокам у роўна парэзаныя драніцы. Часта, вохкаючы і ківаючы галавой, дзед браў мяне на вокамер. Я быў аднаго росту з яго паміраючым унукам...

Выжыў Тамаш. Я зноў даваў яму яблыкі, за што ён навучыў мяне наігрываць мелодыі на вялізнай піле бацькі — чорнабародага Язэпа.

Ужо як Тамаш вырас, ён налаўчыўся граць на гармоніку і скрыпцы. Ён граў на сялянскіх вяселлях полькі, кадрылі і маршы.

## НОЖЫКІ І ПІСТАЛЕТЫ

Гэта быў адзіны выпадак, калі я праводзіў канікулы за некалькі кіламетраў ад дома, у садзе.

У такі вольны час бацька вучыў мяне граць на скрыпцы. Але мяне больш вабіла да сябе дзедава кузня, дзе перад веснавымі і восеньскімі святамі бываў у дзеда самы гарачы час працы — ураджай на яго полі. Гаспадыні прыносілі лудзіць і пачыняць разнастайную пасуду. Я ўжо ведаў усю дзедаву алхімію пры луджэнні. За дапамогу дзед дазваляў мне час ад часу займацца і «сваёй» работай. Я тады спецыялізаваўся на ножыках. Са старых кос выточваў лязо, з медзі рабіў тронкі з прыгожымі калечкамі для пояса. Сярод пастушкоў ваколіцы мае складныя ножыкі карысталіся вялікай славай. Такія ножыкі ў полі — о-го-го! Золата, а не ножыкі. За гэтыя ножыкі пастухі вучылі мяне плесці кашы з лазы, лапці. Яны адкрылі мне ўвесь навакольны свет на некалькі кіламетраў. Ад іх я даведаўся, дзе якія грыбы і ягады растуць. Разам з імі я хадзіў у арэхі, на рыбу з вудамі і сеткамі. Яны адкрылі мне ўсе сакрэты лугоў, балота і лесу. Ад іх я даведаўся, дзе якія птушкі гнёзды ўюць, назвы птушак, дрэў, траў, навакольных вёсак. Разам хадзілі ў яблыкі па чужых садах. Усю жывую геаграфію ваколіцы я, дзякуючы пастушкам, вывучыў на практыцы. Гэта былі вандроўкі ў прыродазнаўства, гульні на слаўнай волі. Пасля няволі ў хедэры, сяброўства з пастушкамі было для мяне нязведаным шчасцем.

Хлопцы навучылі мяне хадзіць на высокіх хадулях. Гэта мне вельмі спадабалася. Здавалася мне, што я велікан. Мы пераходзілі на хадулях рачулку. Таксама пераскоквалі праз яе пры дапамозе доўгага кія. Гімнастыцы, якой мне не даставала ў хедэры, я вучыўся ў пастушкоў.

На гумне аднаго з бацькоў гэтых пастушкоў рос магутны вілаваты дуб. На вышыні шасці метраў ад зямлі хлапчукі пабудавалі з старых драніц хатку. Не было таго дня, каб я не прыходзіў пасядзець у хатцы. Стаяць у ёй нельга было. Яна была ледзь большая за сабачую будку.

З вышыні разгортваўся шырокі краявід ваколіцы. Адкрываліся новыя дымчатыя далі, новыя гаі, новыя ўзгоркі і нізіны, далёкія хутары. Абодва пасадзецкія азёрцы выглядалі двума люстэркамі ў рамках ярка-зялёных аіраў, густога сітніку і альховых зараснікаў. Млыны нагадвалі скрынкі. Тракт і прасёлачныя дарогі былі падобны да вузенькіх істужак. Людзі і фурманкі выглядалі лялечнымі. З высокага дуба «свет» стаў куды большым. Ужо другі год як памёр стары Вышамірскі, выдатны выдумшчык паляўнічых казак. За гэты час яго дочкі — «паненкі» запусцілі гаспадарку. Пастушкі дабраліся да каляровых шыб яго альтанкі. Яны прынеслі ружовыя, сінія і чырвоныя «акуляры».

І мы, хлапчукі, глядзелі на «свет» праз каляровае шкло. Перад нашымі вачыма знаёмая ваколіца ператваралася ў казачны малюнак. Лясы, людзі, неба, азёры, жывёлы і птушкі набывалі новыя колеры — і гэта нас, дзяцей, захапляла.

Аднаго разу пастушок Прахор выпрасіў на дзень у рыбака Лук'янскага невялічкі човен. Мы з Прахорам узялі з сабою хлеба і паехалі на чаўне вузенькай рэчкай. Лясамі, лугамі і балотамі рэчка цягнулася на некалькі кіламетраў, пакуль не ўпадала ў сплаўную рэчку Слязанку.

Колькі зайцоў і вавёрак мы напалохалі! На адной забалочанай паляне разгульвала стада буслоў. Яны палявалі на жаб. Мы затулюлюкалі, засвісталі, і буслы ўзляцелі ў неба. Ад быстрага палёту паветра рэзалася, нібы шоўк, выдавала своеасаблівае шастанне. Калі-нікалі апускаліся на паляну бусловыя пер'і.

Праязджаючы праз бор, мы натрапілі на высокі папаратнік, на зараслі багуноў і верасу, на непраходныя балоцістыя імхі з няспелымі чырвона-белымі журавінамі, якія

нагадвалі гусіныя вочы. Тут жа чарнелі карчы-вываратні з фантастычнымі карэннямі, падобныя да страшных спрутоў або да невядомых звяроў. Стаялі дубы, расшчэпленыя зверху данізу перунамі, у расшчэлінах якіх ляжалі наваленыя бурай асіны. Гэта нагадвала вайну веліканаў.

Нямала мы тут напалохалі дзікіх качак, гусей. Кіламетры два мы плылі непраходным купчастым балотам, на якім раслі тоненькія бярозкі і бледныя асіны.

Пра гэтыя мясціны апавядаюць такую гісторыю. У пана Чапкоўскага здохла адна з яго пародзістых сучак. Засталіся маленькія шчаняты. Маладая сялянка Анэля толькі што нарадзіла хлопчыка. Пан Чапкоўскі загадаў ёй карміць сваім малаком асірацелых шчанят. Анэля не сцярпела такога здзеку, схапіла свайго хлопчыка, уцякла на балота і тут загінула.

Мы даплылі да Слязанкі. Тут цягнуліся паплавы. Высілася шмат стагоў сена. На зваротным шляху нам было цяжка спраўляцца з чаўном, бо трэба было ехаць супроць плыні. Рачулка была неглыбокая, і мы вёсламі ўпіраліся ў грунт. Мы плылі назад к млыну бадай да самага вечара.

Над рэчкай і лугамі вісеў белы, як вішнёвы цвет, туман. Дзесьці стагнала жаласлівым голасам птушка.

З намі ад млына ішла бабуля Ева. Яна збірала ў бары лекавыя травы. Зусім сцямнела. Аб маю белую шапку біліся крыллямі кажаны, і мне было непрыемна. У альховых кустах ля возера стагнала птушка.

Бабуля Ева расказала пра птушку цікавую гісторыю.

Жыў-быў адзін люты пан. Прыгонныя працавалі на яго круглыя суткі. Кожны дзень пан загадваў склікаць мужыкоў на стайню і біць. Гэта за тое, што яны кепска працавалі. На паншчыну выганялі і старых і малых. Дома пакідалі толькі грудных малютак. Яны вечна плакалі ад голаду. Прыганятыя адпускалі матак да маленькіх дзяцей толькі раз на дзень.

Аднаго разу загарэлася вёска. Пакуль сяляне прыйшлі дамоў з паншчыны, ад хат засталіся галавешкі і печы. Згарэлі і малыя дзеці. Так думалі бацькі. Але дзеці не згарэлі. Яны перакінуліся ў птушак і ўзвіліся ў сіняе неба.

Людзі ўзбунтаваліся. Напалі на маёнтак. Забілі паноў і спалілі палац. Прываліла тады царскае войска, перабіла людзей да апошняга чалавека і кінула іх у лес ваўкам на пачастунак. З таго часу іхнія малюткі, што перакінулі-

ся ў птушак, шукаюць па лясах і балотах сваіх забітых бацькоў. Яны жаласліва плачуць, стогнуць, моляць:

— Бацькі-і-і... Бацькі-і-і... Бацькі-і-і...

Бедныя птушачкі.

Чым жа яшчэ, апрача ножыкаў, узрадаваць маіх новых сяброў?

Пабачыўшы аднаго разу ў хлопчыка, сына карчмара, дзіцячы «пугач», я задумаў новую, вельмі цікавую справу — пісталеты. Матэрыялу для такой вытворчасці было ў дзедавай кузні нямала: тонкія жалезныя трубкі для рулек, сталёвы дрот са старых парасонаў для пружын і кавалкі металу для розных дэталей. Я распрацаваў праект пісталеціка і зрабіў адзін для спробы. Я набіваў у рульку порах і страляў дзіцячым папяровым патронам. Ручку зрабіў з дубовага сука.

Пастухі былі ў захапленні ад работы.

У дзедавай кузні, употайку ад дзеда, я адкрыў фабрыку пісталетаў. Пастушкі даставалі дубовыя сукі для ручак. Агульнымі сродкамі мы здабывалі порах, папяровыя пістоны. Я парэзаў дзедавыя трубкі на рулькі, прываруў да рулек жалезныя донцы, прасвідроўваў у іх дзірачкі для праходу агню ад пістона ў парахавы набой, выпільваў усе металічныя часткі, з дроту рабіў маленькія шомпалкі, драўляныя ручкі фарбаваў і аздабляў меддзю — і пастушкі дзіву даваліся майму майстэрству.

Пісталеты стралялі, як сапраўдныя стрэльбы. У гэтым быў галоўны эфект. Мы наладжвалі ў лесе стрэльбішчы. Скончылася гэта даволі сумна. У аднаго пастушка разарвалася рулька, і ўвесь порах папаў яму ў твар. Ён ледзь не аслеп. Яго павезлі к доктару.

Ад вялікага страху я ўцёк у вёску Дунаі да дзядзькі Мордха-Лейбы і цёткі Бейлі. Дзядзька пасадзіў мяне за стол і загадаў чытаць псалтыр. Я быў на гэты раз паслухмяны і набожны. Абяцаўся богу, што калі ён выратуе мяне ад пакарання за пісталеты, дык з першага скарбу, што я знайду, кіну рубель у святую скарбонку рэбэ Меера-цудадзея. Такая скарбонка вісела ў дзедавай хаце над дзвярмі.

Адным махам я прачытаў ледзь не паўпсалтыра. Потым я успомніў адну цікавую гісторыю пра дзядзьку, але колькі я ні прасіў яго расказаць, ён аднекваўся. Ціхенька на вуха мне гэтую гісторыю расказала цётка, калі дзядзька лёг спаць.

# ГЛАДЫШ

Гэта было праз два гады пасля таго, як дзядзька пабраўся з цёткай. Пасагу было сорак рублёў. За гэтыя грошы дзядзька купіў у Дунаёўскай пані старую хатку і астаўся жыць у вёсцы. Два гады пакутаваў. Малочныя прадукты ад каровы ён насіў у Пасадзец прадаваць камісіянерам і за выручаныя грошы купляў хлеб. Жыць было вельмі цяжка. Дзядзька апусціўся. Увесь падворак каля хаты выглядаў сметнікам. Тут валяліся старыя, паламаныя гаршкі, бутэлькі, ляжаў агідны гладыш, аплецены бяростай і вымазаны дзёгцем. Спачатку гладыш валяўся ля самых дзвярэй і так намазоліў дзядзьку вочы, што ўзлаваны дзядзька адкінуў яго да плота, дзе буяе крапіва і палын. Гладыш быў цяжкі: напханы зямлёй.

Ад няма чаго рабіць дзядзька дыбаў па падворку туды і сюды ды ўсё думаў:

— Каб меў сто рублёў, купіў бы яшчэ некалькі кароў, завёў бы малочную гаспадарку, сыр і масла прадаваў бы камісіянерам на Мінск і жыў бы па-гаспадарску.

Пры гэтым дзядзька Мордха-Лейб самога сябе выкпіваў:

— Каб ды каб... Глупства лезе ў галаву. Дзе ўжо нашаму брату жыць па-людску!..

Але дурныя мары неадчэпна лезлі ў галаву. Дзядзька не раз сніў, што нейкі незнаёмы добры чалавек даў яму сто рублёў і сказаў:

— Жыві!

Дзядзька апавядаў аб гэтым цётцы, і абодва смяяліся. Смех быў горкі, бо ў іх ужо нарадзіўся маленькі хлапчук, Мэндалька — бхор — пяршынка. Патрэбна кашулька, коўдрачка, а далей — шапачка, штонікі, чаравічкі і ўсё-ўсё. А гэта каштуе не толькі залатоўкі, а рублі. Ад адной Рабулькі (так звалася карова) шмат грошай не нацыркаеш. І дзядзька з цёткай думалі аб адным:

«Што рабіць?»

А тут вясна, лагодная і сардэчная... Птушкі пяюць... Неба чыстае, бы шкло... Вясковыя п'юць бярозавы сок... Ажылі лясы. Вось-вось распусціцца чаромха. Яна так добра пахне... Тым часам у дзядзькі няма дзе і цыбулю пасадзіць — падворак, засмечаны да таго, што крый божа!

І пайшоў дзядзька ачышчаць падворак пад гарод. Лапатай да поту напрацаваўся. І зноў гэты паскудны гладыш вока мазоліць.

Як разэлуецца дзядзька, як кінецца з жалезнай рыдлёўкай на гладыш, нібы на лютага звера. Можна было падумаць, што ў гладышы ўсё дзядзькава няшчасце жыве. Гакнуў рыдлёўкай па гладышы раз і два і тры! «Ах ты, гад!» — крычаў на яго дзядзька.

Цётка пачула яго разгневаны крык і выскачыла на двор. Глядзіць, аж дзядзька сядзіць на зямлі, раскінуўшы полы доўгай капоты над разбітым гладышом, узняў галаву ў чорнай ярмолцы, высалапіў непрытомныя вочы, балмоча і кудахча:

— Бейля-Бейля-Бейля...

Акурат квактуха:

— Бейля-Бейля-Бейля... Бейля-Бейля-Бейля...

Цётка Бейля спалохалася: ці не звар'яцеў яе Мордха-Лейб?

— Мордха-Лейбачка, што з табой? У цябе ж не твар чалавечы, і ты гаворыш недарэчы... А вохці мне! А людцы мае!..

Цётка кінулася да дзядзькі. Ірванула яго за капоту. Ён так балюча замычаў, ажно цётка падумала, што дзядзька целіцца. І павінна ж была ўзбрысці ў галаву такая недарэчная думка! А калі цётка зірнула, што дзеецца пад дзядзькавай капотай, дык таксама замычала. Глядзяць яны адзін на аднаго і мымычуць і мэмэчуць. У іх адняліся языкі. Цётка зноў засланіла зямлю дзядзькавай капотай і пабегла ў хату. Прынесла лазовы кош і давай сыпаць у кош тое, што было пад дзядзькавай капотай. Зверху насыпала пяску ды панесла ў хату.

Падышла суседка. Запыталася:

— Што нясеш Бэйля?

— Хрэну накапала. Зямлёй прысыпала, каб не высах.

Цэлы дзень яны абодва дрыжэлі ад страху. А як надышла ноч, яны засланілі акенцы дзядзькавай капотай і цёткавай спадніцай, запалілі курнік, замкнулі дзверы на ўсе запоры, на ўсялякі выпадак палажылі ля сябе сякеру, нож і высыпалі на стол тое, што было ў кашы. Цётка зірнула на дзядзьку, як на прынца. Дзядзька зірнуў на цётку, як на прынцэсу.

На стале ляжала куча срэбраных рублёў.

Усю ноч лічылі і пералічвалі. То было трыста, то трыста адзін, то дзвесце дзевяноста дзевяць.

Вось табе стары гладыш!

У галовах дзядзькі і цёткі круціліся і гулі жорны. Сэрцы стукаталі, як цапы на таку. Рукі дрыжэлі. Паль-

цы без толку скручваліся і раскручваліся. Яны ўсыпалі грошы ў новы гладыш, закрылі анучкай, зверху навалілі тварагу і паставілі ў печ. На ўсялякі выпадак.

Дзядзька і цётка спыніліся сярод хаты. Дзядзька трымае ў руках сякеру, цётка — нож. Неспадзяваныя ваякі! На ўсялякі выпадак. І яны пачалі думаць услых:

— Ісці спаць?

— А можа, нападуць...

— Не спаць?

— Таксама кепска.

Але хутка іх занепакоіла думка:

— А можа, гэта чары?

— А можа, гэта не грошы, а кавалкі шкла?

— А можа, чорт перакінуўся ў срэбраныя рублі?

На гэта ёсць сродак.

Дзядзька з сякерай на стале пачаў чытаць псалтыр. Цётка з нажом у правай руцэ стала ля прыпечка і давай шаптаць:

Духі злыя, прэч адгэтуль!
Злыя, прэч адгэтуль, духі!
Духі, прэч адгэтуль, злыя!

Тры дні і тры ночы дзядзька і цётка займаліся гэтай справай. Дзядзька чытаў псалтыр, а цётка выганяла злых духаў. Пасля такой трохдзённай вайны са злымі духамі яны дасталі гладыш з печы. Паглядзелі: серабро — серабром, рублі — рублямі. Яшчэ некалькі разоў пералічвалі — трыста рублёў — адзін у адзін!

Пакрысе дзядзька з цёткай супакоіліся, увайшлі ў звычайны стос жыцця. Дзядзька купіў некалькі кароў, каня, заарандаваў у пані гарод, сенакос і зажыў так прыстойна, як чалавеку прыстойнаму жыць трэба. На сваім кані дзядзька вазіў сыр і масла ў Пасадзец камісіянерам на Мінск, зарабляў грошы — і не лыс.

За Мэндалькам нарадзілася дзяўчынка Міня. За дзяўчынкай Міняй — дзяўчынка Дуся, і жывы ланцужок расцягваўся даўжэй і даўжэй... Выгадавалі яны дзяцей, выпраўлялі іх па чарзе ў Амерыку — а ўсё з таго разбітага гладыша. Скарб у іх не выводзіўся. Засталіся яны адны — дзед з бабай. Дзеці ім пішуць з Амерыкі лісты. Цяпер у іх толькі адна карова і пяцьдзесят старых рублёў — са скарбу... Сваіх грошай хопіць ім і на пахаванне пасля смерці.

Так пратанцавалі яны ўсё сваё доўгае жыццё на гэтым гладышы, як акрабаты.

Аднак там, дзе ёсць мёд, бываюць і пчаліныя ўкусы. Дзядзьку і цётцы таксама жылося не заўсёды салодка. У чым справа? Яны вечна сварыліся. Сваркі пачаліся на трэці дзень пасля знаходкі скарбу. Іншыя людзі пры такой радасці толькі любуюцца і мілуюцца, жывуць у лагодзе і згодзе, а мае родныя — дзядзька з цёткай — пачалі між сабой вайну на ўсе шэсцьдзесят год абаюднага жыцця пасля вяселля. Прычынай быў той жа гладыш.

Дзядзька даводзіў, што гладыш ім падкінуў прарок Ілья, а цётка пераконвала яго, што гэта справа рук разбойніка Ціхана.

Дзядзька гаварыў:

— Прарок Ілья!

Цётка крычала:

— Разбойнік Ціхан!

Хто ж ведаў, у чым справа, думаў, што яны дражняць адзін аднаго:

— Прарок Ілья!

— Разбойнік Ціхан!

— Ілья-прарок!

— Ціхан-разбойнік!

Ад слоўнага турніра яны часта пераходзілі да зброі. Дзядзька бараніў гонар прарока Ільі цяжкім і цвёрдым псалтыром. Цётка адстойвала рыцарства разбойніка Ціхана качаргой.

Заўсёды качарга пападала ў псалтыр, а псалтыр — у качаргу.

— Разбойнік Ціхан!

— Прарок Ілья!

— Ілья-прарок!

— Ціхан-разбойнік!

— Разбойнік Ілья!

— Прарок Ціхан!

Калі дзядзька з цёткай даходзілі ў сваёй вайне да такой блытаніны, яны рабілі часовую згоду. Дзядзька клаў псалтыр на стол, а цётка ставіла качаргу ў кут.

— Так мы і заканчваем жыццё сваё,— шаптала мне цётка Бейля, родная сястра маёй бабулі, і падала мне на вячэру печаную бульбу і жбаночак малака.

Я павячэраў і лёг спаць, забыўшыся пра сваю бяду з пісталетамі.

Тым часам дома мае бацькі ўзнялі трывогу. «Пісталетнік прапаў!» Гэта значыць — я... Пасля поўначы мяне разбудзіў бацька. Ён прыехаў сюды конна. Я хутка апра-

нуўся, бацька пасадзіў мяне на каня перад сабой і прывёз дамоў.

Назаўтра мяне паклікаў да сябе ўраднік. Усе пісталеты майго вырабу ляжалі ў яго на стале. Ураднік пахваліў за добрую работу і напалохаў турмой, калі яшчэ буду майстраваць стрэльбачкі. За маю фабрыку зброі ўраднік дастаў ад дзеда хабару тры рублі.

Калі я вярнуўся дамоў ад урадніка, бацька сустрэў мяне ўрачыста — супоняй. Ён ужо замахнуўся на мяне супоняй ад хамута, але маці схапіла яго з плачам за руку:

— Ты ж яго скалечыш... Вока выб'еш...

У бацькі гарэлі вочы ад гневу. Нечакана для самога сябе загневаўся і я.

— Калі мяне толькі кранеш, я ад цябе ўцяку назаўсёды,— крыкнуў я не сваім голасам.

— Дык ты мяне яшчэ палохаеш?! — грымнуў бацька і так ударыў супоняй, ажно дзеці заплакалі.

Я ўжо быў на тым баку дзвярэй. Бацькаў удар папаў у сцяну. Я ўцякаў гародамі да возера. За мною з плачам гналася маці.

Калі я вярнуўся дамоў, бацька ўжо быў спакойны. Ён звярнуўся да мяне з мяккім дакорам:

— Ты ўжо не малы. Табе ўжо дванаццаць год, а ты глупствам займаешся. Што з цябе будзе, як вырасцеш?

Я маўчаў.

Пасля вялікага правалу фабрыкі зброі, я цэлы тыдзень быў збянтэжаны. Мне было шкада пацярпеўшага хлапчука і крыўдна за сваю няўдачу.

У хедэры я лічыў сябе дарослым. Калі рэбэ прабаваў узняць на мяне руку, я пагражаў сваёй. Біць мяне я не дазваляў. Я часта адлучаўся з хедэра на пару гадзін, а рэбэ маўчаў.

Я таксама знайшоў скарб — адвагу. Я пачаў бараніцца ад сваіх крыўдзіцеляў, і мяне перасталі крыўдзіць.

## ВОЗЕРА

Сяброўства з пастушкамі я не парываў і зімой. Коўзаліся па возеры, каталіся на саначках і нават снежныя хаты ляпілі. Вясной пры ледаходзе мы каталіся па возеры на крыгах, як на пароме.

Аднаго разу ўлетку я пакінуў хедэр на пару месяцаў раней тэрміну. Бацька гаварыў аба мне:

— Ні да бога, ні да людзей.

Некалькі месяцаў я быў вольны ад «навук». Глядзеў, як Лук'янскі рыбу ловіць. Прасіў яго прывучаць мяне да гэтай справы.

— Буду вучыць цябе так, як дзед твой вучыў мяне ў кузні. Дзед твой гаварыў, што кожны чалавек павінен займацца сваёй справай. Памятаеш?

— Памятаю...

Лук'янскі засмяяўся.

— Ну, вось! Ты сабе хадзі ў хедэр біблію лавіць, а я — на рэчку рыбу лавіць. Кожнаму сваё...

Аднак я зрабіўся рыбаловам і без дапамогі Лук'янскага. Трэба было паправіць грэблю. Мельнік падняў усе застаўкі, адчыніў шлюзы і спусціў возера. Рыбу ён дазваляў лавіць усім местачкоўцам, якія наракалі, што возера часта затапляе гароды і лугі.

Я, чалавек вольны ад хедэра, стаяў на беразе і глядзеў з цікавасцю, як відавочна ўбывае ў возеры вада. Праз пару гадзін яна сплыла ўся. На месцы возера засталася вузенькая рэчка, лужыны і шмат топкага ілу. У рэчцы і лужынах рыба кіпела, як у катле. Усе кінуліся ў амярцвелае возера збіраць рыбу рукамі. Я брыў у адной кашулі па пояс у гразі і лавіў рукамі рыбу. Яна мігацелася на сонцы, як бліскучыя нажы.

Дзесяткі людзей лавілі рыбу кошыкамі, торбамі, рэшатамі і нават уласнымі кашулямі.

За два дні я назбіраў аж два пуды рыбы. Набегла народу з усяе ваколіцы. Шмат рыбы падохла ў іле. На яе накінуліся вароны, буслы, сабакі, каты. Мельнік наладзіў пір для ўсіх.

Мы з Фолем і пастухом Прахорам пайшлі ўночы на возера глядзець русалак. Мы прытаіліся недалёка ад высокага аіру. Свяціў яркі круглы месяц. Мёртвае возера было цяпер сумнае, непрытульнае, і я вельмі шкадаваў, што яно спушчана.

— Вунь русалка...— шапнуў мне на вуха Фоля.

Густы аір рухаўся, нешта шастала ў трысці.

— Русалка! — крыкнуў Прахор.

З аіру выскачыла з рыбай у зубах рудая лісіца.

— Ацю-га! Ацю-га, лісічка! — крычалі мы.

Лісічка ўцякла ў блізкі бярэзнік.

— Русалка ў лісічку перакінулася,— тлумачыў нам Прахор.

Іл быў такі тлусты, што ўсе навакольныя сяляне вазілі

яго на поле замест гною. Мельнік быў рад: дармовая чыстка возера. А я ўсё прыходзіў сюды сумаваць па памёршым возеры. Але праз пару месяцаў яно зноў ажыло. І месяц, і зоркі, і неба любаваліся возерам, глядзелі ў яго, нібы ў люстэрка.

## ДЗЕД ЮСТЫН

Аж некалькі месяцаў быў я вольны ад «навук». Скончыўшы рыбалоўства, бегаў з пастушкамі па ваколіцы. Здружыўся са стагоднім пастухом Юстынам. Я глядзеў на яго, як на прафесара. Лысіна на ўсю галаву, з жаўтаватай імшыстай бародкай, увесь твар у дробненькіх зморшчынках, без зубоў, выцвілыя вочы, сам тонкі і роўны, як жэрдка. Ён насіў белую доўгую палатняную світку, якая нагадвала хітон афінян. Быў ён надзіва вясёлы — песні спяваў, падскакваў, жартаваў, смяяўся, гаварыў пагаворкамі ды яшчэ ў рыфму. Апрача таго, ён ведаў лекавыя травы ад розных хвароб. Па шолаху лістоў на дрэвах, па рыканню кароў, па колеру неба, па водгаласках на полі ён заўсёды трапляў, якая заўтра будзе пагода. А якія цудоўныя байкі ён апавядаў! У яго памяці было ўспамінаў і матэрыялаў народнай творчасці на некалькі тамоў. Ён быў жывым увасабленнем мудрасці, паэтычнасці і вопытнасці жыцця ўсяго народа, жывой энцыклапедыяй самых разнастайных ведаў.

Я ад яго атрымаў першыя лекцыі па гісторыі.

Ён апавядаў мне пра паход Напалеона ў 1812 годзе. Сам ён, маленькі тады хлапчук, выгнаў з хлява трох французаў, абадраных і галодных, што схаваліся ад казакаў. Дзед Юстын паказаў мне курган, дзе былі пахаваны некалькі дзесяткаў французскіх салдат.

Пра паншчыну стары пастух апавядаў мне цэлыя эпапеі. На яго спіне засталіся рубцы ад панскіх бізуноў... Нямала ён гаварыў пра польскае паўстанне 1863 года. Расказаў, што за вёскай Бладыкі закапаны некалькі дзесяткаў польскіх графаў і магнатаў. Гэту магілу я бачыў на некалькі год пазней. Ён мне апавядаў пра бітву Пятра I са шведамі ў нашай мясцовасці. І ён вадзіў мяне аж да «шведскага маста». Так у народзе і цяпер называюць два рады дубовых паль, што цягнуцца па балоце на цэлы кіламетр ад лесу да сплаўной рэчкі Слязанкі. Шведскія сапёры будавалі тут мост для пераходу войска.

— А чаму рэчка Слязанкай завецца, ведаеш? — пытаецца дзед Юстын і тут жа сам адказвае: — Бо паны тапілі тут прыгонных. Людскія слёзы тут бясконца ліліся... Праз гэту рэчку ўброд пераганялі з панскіх маёнткаў людзей, закаваных у кайданы. Паны аддавалі іх другім панам за сабак і коней ці выпраўлялі ў салдаты на дваццаць пяць год. Тут абяздоленыя людзі-нявольнікі разлучаліся навекі са сваімі бацькамі або жонкамі і дзецьмі... Плакалі. Вось і Слязанка!

Я глытаю кожнае дзедава слова. Гэта не біблія і не талмуд, а зусім блізкае жыццё. Голас дзеда Юстына здаваўся мне голасам гаротнай зямлі.

Эх, ці надыдзе той час, калі наш брат зажыве, як чалавек?..— запытаўся дзед і глыбока ўздыхнуў.

Юстын паглядзеў на вершаліны лесу. Заходняе сонца асвяціла яго твар. На момант Юстынавы вочы запаліліся юнацкімі аганькамі. Яго белая світка паружавела ад сонечных блікаў, паружавела бародка. Дзед Юстын здаваўся пранізаным полымем, велічным казачным уладаром лугоў і лясоў.

Не паспеў я ўдоваль налюбавацца агнёвым дзедам на захадзе сонца, як мне пачулася працяглае войканне не то чалавека, не то жывёлы:

— А-а-а-ай...

Я ўстрывожана азірнуўся. З лесу бег у адной кашулі чалавек. Раскалмачаная галава без шапкі, рыжая барада да грудзей. Ён бег з усёй сілы ды крычаў немым голасам «А-а-а-ай»...

— Не пужайся! Гэта шалёны... Арцёмам завецца. Ён нікога не чапае.

І дзед Юстын расказаў пра гэтага Арцёма.

## КЛАДАЧКА ЗЛАМАЛАСЯ

Малым хлапчуком астаўся Арцём сіратой — ні бацькоў, ні братоў, ні сясцёр, ні сваякоў. Адзін, як тая дзічка ў полі. Быў ён спачатку павадыром у сляпога жабрака. Сляпы, абвешаны торбамі злосны чалавек, часта біў яго. Арцём ад яго ўцёк і астаўся пастушком у аднаго багача.

Потым зрабіўся парабкам у панскім двары. Быў ён працавітым добрым чалавекам. Жаніўся на такой жа га-

ротнай парабчанцы, як ён сам. Жылі яны ў лагодзе ды згодзе. Іпічэ з маленства гарусціў ён грошык да грошыка, капейку да капейкі, залатоўку да залатоўкі. Скупіўся. Жыў абы каб пражыць. У маладажонаў нарадзіўся хлопчык. Любіў Арцём гэтага хлопчыка, як ніводны бацька на свеце. Як ні скупіўся, як ні шкадаваў, а кожны раз купіць сынку то абаранак, то пернічак, а то паліўнога коніка...

Думаў гаротны чалавек так: сын яго павінен мець сваю хатку, кавалак зямелькі і жыць па-людску. Кінуў Арцём парабкоўства, наняў хатку ў аднаго гаспадара, падзённікам зрабіўся сам, жонка — падзёншчыцай. І зноў — залатоўка да залатоўкі, рубельчык да рубельчыка. Хаваў ён грошы ў куфры на самым дне. Набыў ён пілу і сякеру, зрабіўся дрывасекам у аднаго купца і хадзіў з жонкай у лес.

Жывіліся яны адной думкай-птушкай: купіць у гаспадара гэтую самую хатку, да хаткі кавалак зямлі — і жыццё пойдзе як па масле. Набудуць каня, карову, падсвінка. Хлопчык іхні ўжо не стане гараваць, як яны. Рубельчык да рубельчыка, троечка да троечкі... Арцём іх складваў у купку. Кожны вечар перад сном вымаў з куфра, лічыў, пералічваў. Паўтараў лічбы перад сном больш шчыра, чым малітву. Жонка завешвала дзяругай акенца, каб ніхто, бронь божа, не запрыкмеціў. Маленькі сынок спаў.

Якія добрыя вочы былі ў іх... Як яны прыязна таропіліся ў сынка... Гэта ж усё для яго, для яго... Не будзе ён сірацінкай, не будзе парабкам, не будзе гараваць, як яны... Уночы яны часта вялі пашаптушачкі: «Гаспадар просіць за хатку з сядзібнай зямлёй сто пяць рублёў. А ў іх пад сто ўжо». Жонка з радасці песню спявала аб тым, як «жылі ў бацькі тры сыны». Муж падпяваў. Іхнія думкі-жаўранкі былі вясёлыя, спаць не давалі. Піла і сякера да восені насячэ і напілуе ім яшчэ пяцёрачку — і яны шчаслівыя людзі. Іх маленькі Юрачка вырасце чалавек чалавекам. Выправяць яго ў школку.

Але справа не туды зайшла, не туды заехала. Ты на гару, а чорт за нагу. Арцём адно мяркуе, а жыццё другое рыхтуе.

І пайшоў Арцём з бабай сваёй на работу ў купецкі лес. У мужа піла ў руках і сякера за поясам. У бабы торбачка з гарачым праспаком, з печанай бульбінай, са жбанком саладухі — харчы на дзянёк. Малы Юрачка,

як заўсёды, дома гаспадаром адзін-адзінюткі... Прывык ён бавіцца з пеўнічкам. Есці маці яму пакідала. Знадворку замыкала дзверы на замок, каб злы чалавек, не ў благі час кажучы, не залез.

А бацька з маткай працуюць у лесе: піла звініць, сякера грукачыць, сонейка свеціць, птушачкі пяюць. І думае Арцём з жонкай, што сонца толькі для іх свеціць, што птушкі толькі ім спяваюць... Так вальготна і лёгка было на сэрцы.

Яшчэ адна пяцёрка — і яны — у-у-у-га! Яны тады самі людзі, самі гаспадары... Гэта ж не жартачкі — гэтулькі год, усё жытка сваё ішлі яны па вузенькай кладачцы над глыбокай вадой. Кладкай называецца шчасце-матка, а вада — мачыха-бяда... Яшчэ пяць рубельчыкаў, і яны на тым баку рэчкі — на мядовым муражку, на шаўковым лужку. Кладачка не ламаецца пад іх нагамі, хоць яна ўвесь час — зыб-зыб-зыб...

— Што ты, Франуська, пілой сёння ніяк управіцца не можаш? — дзівіцца Арцём.

— Нешта сэрца мне нядобрае гаворыць,— скардзіцца жонка.— Баюся, хлопчык адзін. На прыпечку пад прысакам вуголле гарыць. Каб хаця... Юрачка лезе па ўсіх кутках хаты, а я забылася замкнуць куфар. Хлопчык ужо сам куфар адчыняе. Дужанькі ён...

Непакой жонкі перадаўся і Арцёму.

— Хадзем!

Яны пайшлі дамоў — трывожныя, збянтэжаныя... Прыйшлі. Жонка не выцерпела — зірк праз акенца, што ў хаце дзеецца, ды ўспляснула рукамі.

— Адчыні дзверы, Арцём... Хутчэй, родненькі... Куфар расчынены...

Увайшлі яны ў хату ўжо самі не свае...

— Што ты робіш, сынок?

— Прасначок пяку для таты і мамы.

На разгорненым попеле на гарачых вуголлях пячэцца праснячок — пачка асігнацый у сто рублёў. Пачка ўскарабачаная, колеру попелу.

Арцём кінуўся да прыпечка, схапіў пачку ў рукі. Грошы рассыпаліся ў пылок. Яны ператлелі... Прапала Арцёмава стараннe, прапала яго праца, прапала яго жыццё. Думкі-птушачкі аб сваім і сыноўнім шчасці разляцеліся, рассыпаліся, як мякіна з веялкі... Колькі ж год яшчэ трэба працаваць, каб зноў згаруспіць беднаму чалавеку сто рублёў...

— Эх, сынок... сынок... маленечкі і дурненечкі...

І не вытрымаў Арцём: штурхануў хлопчыка з усяе сілы. Хлопчык ударыўся кволым лобікам аб востры вугал тапчана і ўпаў, як тое куранё. Нават голасу не падаў... У лужы крыві ляжаў...

Збегліся на крык бацькоў суседзі. Аблівалі хлопчыка вадой. Дзе там! Маці гаротная пабегла на Слязанку ды бух у ваду — утапілася. Бацька схапіўся абедзвюма рукамі за галаву і завойкаў.

Вось з таго часу ён усё: «а-а-а-ай... а-а-а-ай...» Ніводнага слова не гаворыць.

Зламалася Арцёмава кладачка.

## ПАЛКОЎНІК

Наша сям'я абнасілася да таго, што сорамна было на людзях паказвацца. Маці аб гэтым бедавала ўжо два гады. Пакрысе яна скуплівала воўну, прамывала, скубла і цэлымі начамі прала на тапчане ля печы. Прыгожую прасніцу і некалькі верацён, вытачаных, зграбных, нібы старадаўнія стрэлы для лука, прынёс бондар Даніла. Маці прала ніткі, роўныя і тонкія, як струны. Яны былі сівыя, колеру тумана над нашымі азёрцамі. Гуд матчынага верацяна быў лагодны і прыемны, як песня аб шчасці. Пад гэты гуд несупынна ткаліся мае мары аб іншым жыцці — радасным, бліскучым, прыгожым... У шчылінах патрэсканай глінабітнай печы граў на шкляной жалейцы цвыркун.

Маці напрала поўную шуфляду нітак у клубках і матках. Гэта была самая вялікая шуфляда ў нашым камодзе, параненым калісьці даўгінаўскімі пагромшчыкамі. Камісіянеры прывезлі з Мінска шмат чорных баваўняных нітак. Маці пільнавала гэта дабро, як зяніцу вока. «Каб хаця мышы не пагрызлі».

Маці запрасіла на дом з блізкай вёскі знакамітую ткачыху Язэпіху. Бацька прывёз на кані яе кросны. Яны займалі бадай усю хату ад стала да печы. Чарнавокая і чорнавалосая песенніца Язэпіха ткала сукно для нашай сям'і. Спрытныя худыя рукі ткачыхі так імпэтна пускалі чаўнок туды і сюды, што я надзівіцца не мог. Пры гэтым Язэпіха спявала грудным кволым голасам старадаўнія сумныя песні: пра сірочую долю, пра дзяў-

чыну, што абнімала каліну і чакала мілага з вайны, пра сына Данілы, які пайшоў на турэцкую вайну, пра злога пана. Спяваючы, яна не зводзіла вачэй з кроснаў. Вочы ткачыхі былі апушчаны. Вызначаўся высокі лоб, парэзаны тонкімі зморшчынкамі, чорныя шнуркі брывоў, далікатныя і правільныя рысы твару. Простая беларуская сялянка нагадвала партрэты жанчын італьянскіх майстроў часоў Адраджэння.

Маці карміла ткачыху ўсім лепшым, што было ў хаце, купляла для яе ў краме розныя прысмакі. Язэпіха ўзнімала на маці чорныя, як ноч, вочы і гаварыла пяшчотным, мяккім голасам:

— Не трэба, мая ты Хаіміха. Лепш дзеткам дасі. Я, дзякаваць богу, сытая.

Я глядзеў, як нараджалася сукно. Трубка тканіны расла з кожным днём. Сукно ў сівыя і чорныя палоскі было гладкае і прыгожае.

Пасля ткачыхі ў нас працаваў вандроўны кравец. Мне і бацьку ён пашыў гарнітуры з гэтага ж сукна. Апрача таго, мне пашылі з карычневага бобрыка ватняе паліто з капюшонам, з шырокім поясам і чатырма кішэнямі. Упершыню мне шыў вопратку кравец, а не маці.

Пасля краўца маці сшыла мне некалькі белых манішачак з крамнага палатна і галстук са сваёй старой шоўкавай хусткі. У шаўца Ісроэля заказалі камашы. Бацька прывёз мне з Даўгінава за дваццаць капеек шапку ў выглядзе каструлі з брылікам, з залатым аленем наперадзе. Я адразу зрабіўся «жаніхом», як жартавала маці.

Былі забыты мае грахі: пісталецікі, упартасць, супраціўленне бацьку, уцёкі з хедэра. Нават строгі бацька пазіраў на мяне спакойным добрым вокам.

Чаму так раптоўна мая злая доля змяніла свой гнеў на міласць?

Бацька хацеў вывесці мяне ў людзі. Меркаваў выправіць сёлета ў «універсітэт» — у даўгінаўскі ешыбот...

У Даўгінаве жыла мая цётка — родная сястра маці. Яе муж меў хедэр і вучыў дзяцей. Цяпер, калі я быў у добрым адзенні, бацька не сароміўся ўзяць мяне з сабою ў Даўгінава. Я вельмі ўзрадаваўся, бо ні разу яшчэ там не быў.

Дзядзька мой жыў у адной хаце са сваім бацькам-бляхарам. Старога бляхара Рувіна Лібермана я ведаў

добра. Ён быў вандроўным бляхарам. Хадзіў па вёсках з мяшком на спіне. Часта начаваў у майго дзеда. Яны ж былі сватамі.

За некалькі дзён да майго прыезду адбылося ў Даўгінаве дзіўнае здарэнне. Прыехаў стары палкоўнік і спыніўся ў самым лепшым заезным доме. Местачкоўцы насаражыліся. Спалохаўся даўгінаўскі цар і бог — станавы прыстаў.

— Якую справу можа мець у Даўгінаве палкоўнік?

Стары палкоўнік з нейкай падазронай цікавасцю спацыраваў па вуліцах з кійком у руках, абыходзіў усе закавулкі, зазіраў ва ўсе куткі, гуляў па старых магільніках. Ён чагосьці і кагосьці шукаў, выведваў. Прыстаў і ўраднікі забягалі яму дарогу наперад і аддавалі чэсць. Прыстаў пытаўся, ці патрэбны якія паслугі, у госці запрасіў — палкоўнік адмовіўся.

Гэта яшчэ больш напалохала прыстава. Ён загадаў кожны дзень падмятаць вуліцы, праверыў пажарную каманду, перачытаў усе паперы ў сваёй канцылярыі, зрабіўся строгім, арыштоўваў людзей больш, чым дагэтуль, біў іх нагайкай мацней, чым дагэтуль, і не спаў начамі ад страху. З'яўленне старога палкоўніка яго збянтэжыла не на жарт.

Станавы прыстаў даведаўся, што палкоўнік паклікаў да сябе старасту мяшчанскай управы і вартаўніка яўрэйскага магільніка. Гэта занепакоіла яго яшчэ больш.

— Пэўна, я праваронціў нейкую крамолу, аб якой даведаліся ў губерні і прыслалі палкоўніка для расследавання.

Прыстаў запрасіў да сябе гаспадара заезнага дома, старасту мяшчанскай управы, магільнага вартаўніка. У кожнага з іх ён распытваў пра палкоўніка. Яны ўсміхаліся і гаварылі адно:

— Пакуль што няможна сказаць. Так загадаў пан палкоўнік. Справа вельмі сур'ёзная.

Прыстава агарнула роспач. Ён пачаў прыпамінаць свае грахі і грашкі за ўсе гады службы: хабары, катаванні людзей, дзяльбу здабычы з канакрадамі і разбойнікамі, арышты невінаватых людзей і вызваленне злачынцаў-крымінальнікаў.

«Пэўна, нехта падаў на яго, прыстава, данос у губерню»,— думаў ён.

Местачкоўцы таксама былі ўстрывожаны. Можа, новы пагром рыхтуецца ў Даўгінаве?.. Кагал хацеў аб-

вясціць трохдзённы пост для ўсіх яўрэяў мястэчка і для грудных малютак...

Тады прыйшоў у кагал гаспадар заезнага дома, дзе жыў палкоўнік. Пасля яго з'явіўся туды і стараста мяшчанскай управы. Урэшце прыбег і вартаўнік магільніка. Кагал ад іх нічога пэўнага не даведаўся. Але пост не быў абвешчаны.

У такі напружаны час мы з бацькам апынуліся ў Даўгінаве. У бляхара Рувіна Лібермана мы спыніліся на дзень. Усе ў хаце гаварылі пра палкоўніка і баяліся яго не менш, чым прыстаў. Стары Рувін — худы, сямідзесяцігадовы дзед з рэдкай бародкай, сутулы, у кортавым халаце — сядзеў у кутку ды гаварыў сам з сабою.

— Каб хаця ўсё было добра... Чаго сюды прыехаў палкоўнік? Пры маёй памяці ў Даўгінаве ніякіх палкоўнікаў не бывала...

Рувін стагнаў глыбока і працягла. У гэты самы час мая цётка зірнула ў акно, імпэтна адскочыла назад і піскнула, як заяц:

— Да нас ідзе палкоўнік... А божа мой... Што яму ў нас трэба?

Мы ўсе шуганулі ў дзядзькаву камору. На сваім месцы застаўся адзін стары Рувін. Мы пачулі, як адчыніліся дзверы і як нехта ўвайшоў старэчым крокам, кашлянуў і старэчым голасам сказаў:

— Здраствуйце!

— Здрасце,— адказаў Рувін.

— Тут жыве Рувін Ліберман? — запытаўся басавы голас.

— Тут,— адказаў Рувін.— А што пану начальніку трэба?

— Цудоўна! Мне неабходна ведаць пра вас усё!.. Скажыце, будзьце ласкавы, Рувін Ліберман, як звалі вашага бацьку?

— Майго бацьку? Зараз скажу пану начальніку. Майго бацьку звалі Абрам.

— Так... Абрам. Цудоўна! А маці?

— Матку? Матку звалі Рахіль.

— Цудоўна! Дзе яны пахаваны?

— Пахаваны? На старым магільніку, ля самай агарожы. А што?

— Так! Цудоўна! Скажыце, будзьце ласкавы, Рувін Ліберман, у вас быў старшы брат?

— Старшы брат? Так, так! Быў, панок, быў. А як жа! Быў! Гершаль зваўся.

— Вельмі добра! — узрадаваўся палкоўнік.

Мы ў каморцы слухалі, навастрыўшы вушы. Я не вытрымаў і зірнуў у шчыліну дзвярэй. На ўслонку, побач з Рувінам, сядзеў старэнькі палкоўнік, у доўгім шынелі з бліскучымі гузікамі і залатымі пагонамі, з кійком у дрыжачых руках. Белыя як снег бровы, бакенбарды і вусы свяціліся на яго зморшчаным шараватым твары з гладка выгаленым падбародкам. Рукі ў яго так дрыжэлі, што кіёк, які ён не выпускаў з рук, адбіваў на падлозе лёгкую дроб.

Збянтэжаны Рувін узнімаўся і зноў садзіўся, зрываў з галавы ярмолку і зноў надзяваў.

Палкоўнік крыху памаўчаў. Выцер хустачкай успацелы лоб. Потым працягваў далей свой допыт:

— А скажыце, будзьце ласкавы, Рувін Ліберман, ваш брат памёр?

— Не ведаю, пане начальнік. Мне маці, светлы ёй рай, гаварыла, што яго маленькага ў салдаты забралі.

— Так... Так...— падтакваў палкоўнік.

— Схапілі, надзелі яму кайданы на рукі і ногі, кінулі ў воз і павезлі. Маці, светлы ёй рай, валасы на сабе рвала, гвалту крычала і бягом бегла за возам.

— Так... Так...

— Маці, светлы ёй рай, кідалася на зямлю, паднімалася, зноў бегла за возам ды ўсё лямантавала: «Гершалэ... Гершалэ... Гершалэ...»

— Так... Так... Яшчэ... Яшчэ...— сказаў палкоўнік і палажыў руку на плячо Рувіна.

— А фурман гнаў каня пугай з усіх сіл. Конь імчаўся так шпарка, аж Гершаль, які сядзеў на возе і плакаў, моцна ўдарыўся лбом аб свае жалезныя кайданы. Маці, светлы ёй рай, бачыла, як твар Гершалэ заліўся крывёй.

Палкоўнікківаў галавой, выцер хустачкай лоб, вочы і сказаў:

— Так... Яшчэ...

— Маці, светлы ёй рай, абамлела і паваліласе ў лужыну. Як прачнулася, дык ужо воза не відаць было. Гершалэ павезлі ў салдаты. Тады, пане начальнік, у бедных бацькоў лавілі малых хлопчыкаў і аддавалі ў салдаты.

— Скажыце, Рувін Ліберман, доўга маці-нябожчыца плакала па Гершалэ?

— Усё жыццё, дарагі панок... Як толькі ўспомніць, так і залiваецца слязьмі.

— Цудоўна... Даскапала... Паглядзі, Рувін, на мой лоб... Вось рубец! Гэта я тады моцна параніў лоб. На ўсё жыццё знак астаўся. Я — твой брат Гершаль. Урэшце знайшоў! Мілы... Родны... Гэта было семдзесят год таму назад. Цябе яшчэ на свеце не было. Маці звалі Рахіль, бацьку — Абрам. Маці-нябожчыца насіла ў свята чорную касынку з чырвонымі пчолкамі.

Бацька ў суботу пры абедзе спяваў:

Оса а-адэр лейсудо-осо
Беца-а-аафро дэйшаба-ато,
Веазмін-бо гашто...
Веазмін-бо гашто... [1]

Рувін не зводзіў вачэй з палкоўніка. Слухаў, як заварожаны.

— Родны... Рувін...

— Гершалэ... Братку мой...

Старыя кінуліся адзін аднаму на шыю і абодва захліпалі, як малыя дзеці.

Мы ўсе выскачылі з каморкі, ашаломленыя, здзіўленыя, усхваляваныя. Нам усім здавалася, што гэта сон. Палкоўнік пазнаёміўся з усімі намі. Цётка зняла з яго шынель. Бліснулі залатыя эпалеты, гузікі, медалі... Усё гэта было незвычайна і вельмі цікава.

Палкоўнік гладзіў пяшчотна запрацаваныя рукі роднага брата, яго аброслы зморшчаны твар і зазіраў яму глыбока ў вочы.

— Перад смерцю давялося пабачыцца,— гаварыў ён.— Мяне цяпер завуць Аляксандр Пятровіч Ліберау. Але ў душы я ранейшы Герш Абрамавіч Ліберман. Як быў хлопчыкам, білі мяне, пакуль не згадзіўся хрысціцца. Потым мяне аддалі ў школу. Я быў здольны хлапчук, добра вучыўся. Стаў ваенным і за многа год службы дайшоў да чына палкоўніка. Цяпер я ў адстаўцы. Жыву ў Вільні. Дзеці, унукі. І ўсё жыццё з сэрца цягнулася нітачка сюды, у Даўгінава. Знайшоўся браток. О, госпадзі...

І палкоўнік зноў кінуўся Рувіну на шыю. Абодва дзяды зноў захліпалі. Старэчыя слёзы ліліся з іх вачэй тоненькімі мутнымі струменьчыкамі.

---

[1] Старадаўняя суботняя застольная песня на стараяўрэйскай мове.

Мы ўсе былі вельмі ўсхваляваны. Цётка плакала ўголас — больш за старых.

Дапытлівым дзіцячым вокам я шукаў падабенства ў двух старых Ліберманаў. Падабенства было вялікае ў рысах твараў, у голасе, у постацях.

Раптам адчыніліся дзверы, і тры чалавекі: гаспадар заезнага дома, староста мяшчанскай управы і магільны вартаўнік неслі тры кошыкі, нечым цяжкім напакаваныя.

Яны папрасілі ў цёткі свежы абрус на стол і пачалі даставаць з кошыкаў бутэлькі з віном і разнастайныя закускі. Стары Рувін, дзядзька і цётка апрануліся ў святочнае, а палкоўнік адчуў сябе ў хаце гаспадаром. Рассадзіў нас усіх вакол стала і нешта шапнуў на вуха магільнаму вартаўніку. Той выйшаў і пазваў у хату местачковую капелю: цымбаліста, бандурыста і скрыпача. Яны чакалі на двары.

Музыканты зайгралі, як на вяселлі.

— Навошта было так напалохаць усё мястэчка? — запытаўся бляхар Рувін у брата.

Палкоўнік звярнуўся да старасты мяшчанскай управы:

— Растлумачце!

Староста растлумачыў, што ў Даўгінаве шмат Ліберманаў. Трэба было сакрэтна разведаць усіх Ліберманаў, капацца ў старых архівах, а то некалькі дзесяткаў Ліберманаў заблыталі б справу. Кожнаму хацелася б мець гаспадзіна палкоўніка за сваяка.

Палкоўнік перабраўся да Рувіна на кватэру і жыў тут цэлы тыдзень. Цётка ўступіла яму сваю каморку. Пра старога кантаніста пачалі распаўсюджвацца легенды па ўсіх навакольных мястэчках.

Станавы прыстаў цэлы тыдзень нікуды не паказваўся. Яму было сорамна за свой страх. Ён быў пакрыўджаны на старога палкоўніка: прыехаў да нейкага абадранца Рувіна на кугель...

## ЕШЫБОТ

У тую ж восень мяне аддалі ў даўгінаўскі ешыбот. Праз паўгода я з Даўгінава пераверуся ў мястэчка Ілью. Тры гады плаваў я ў мёртвым моры талмудычных навук. Талмуд даўно амярцвеў. Нам, падлеткам, было нудна чытаць тэксты, напісаныя дзве тысячы год таму назад на стараяўрэйскай і халдзейскай мовах.

Ешыбот змяшчаўся ў вялізнай сінагозе, дзе тры разы на дзень маліліся местачкоўцы. Тут жа знаходзілася да пяцідзесяці ешыботнікаў ва ўзросце ад 12 да 20 год. Кожны сядзеў перад спецыяльным «штэндарам» [1], на якім ляжаў фаліянт талмуда. Галава ешыбота («рош-гашыва») вызначаў кожны дзень новы раздзел тэксту для самастойнай чыткі. Па чацвяргах рош-гашыва правяраў, ці ешыботнікі добра ўсвоілі тэкст. Спыняліся над кожным абзацам. Адбываліся доўгія развагі, дыскусіі. Рош-гашыва задаваў закавырыстыя запытанні. Вывучаць талмуд мне прыходзілася самастойна паводле шматлікіх каментарыяў да галоўнага тэксту. Каментарыі ствараліся на працягу доўгіх стагоддзяў вучонымі талмудыстамі. Між сабою яны вялі спрэчкі, супярэчылі адны адным. Галоўны тэкст абрастаў каментарыямі, нібы густым лесам. Апрача таго, галоўны тэкст не меў знакаў прыпынку. Мова талмуда лаканічная і вельмі цяжкая. Усё разам узятае складала вялікія труднасці для ешыботнікаў. Апрача таго, каментатары талмуда па некалькі разоў на кожнай старонцы рабілі ссылкі на іншыя тамы талмуда.

Такім чынам ешыботнік, пры вывучэнні якога-небудзь раздзела, павінен быў перагортваць кожны дзень пяць або дзесяць тамоў.

Штудыраванне талмуда гвалтоўна аддаляла нас ад жыцця, труціла забабонамі і звярыным шавінізмам. Ад несуразнай «навукі» галава ходырам хадзіла.

Многія з ешыботнікаў, і я ў тым ліку, жылі ў сінагозе. Мы спалі на цвёрдых лавах, нібы пасажыры ў жорсткіх вагонах поезда. Пад лавамі стаялі нашы скрыначкі з маёмасцю. Мы вечна знаходзіліся пад наглядам старога «машгіяха» (інспектара). Яго звалі рэб Шмар'е. Гэта быў худы высокі яўрэй цыганскага тыпу, з вузкай чорнай барадой. Прыжмураныя, чорныя, як смоль, вочы заўсёды сыпалі маланкі. На кожнага ешыботніка ён глядзеў падазрона. Рэдка калі ўсміхаўся. Адно шчасце, што ён не кожны дзень бываў у сінагозе. Ён рабіў на ешыботнікаў перыядычныя налёты. Ён, напрыклад, мог з'явіцца ў любую хвіліну дня і ночы, а не паказваўся па некалькі дзён падрад. Час ад часу ён рабіў вобыскі па нашых скрынках. Нібы царскі жандарм, перакідваў, перамацваў кожны шматок, кожную анучку з маёмасці юных талму-

---

[1] **Штэндар — нагадвае па выгляду пюпітр для нот, толькі больш масіўны і са скрынкай.**

дыстаў. Ешыботнікі дрыжэлі ад страху. Гаспадар нашых душ пільнаваў нас ад бязбожнай літаратуры. Свецкая кніга нават на стараяўрэйскай мове лічылася крамолай.

У аднаго пятнаццацігадовага студэнта боскіх навук рэб Шмар'е знайшоў пры вобыску граматыку рускай мовы. Ешыботніку за гэта наладзілі ў сінагозе суд у прысутнасці рабіна і прадстаўнікоў кагала. Хлапцу прысудзілі «малкес» (бізуны). Яго адлупцаваў сам рэб Шмар'е ля дзвярэй сінагогі раменнай дзягай, пасля чаго выгнаў з ешыбота.

Дзікі рэлігійны фанатызм з'ядаў нашы лепшыя гады — дзіцячыя і юнацкія.

Мы, ешыботнікі, па яўрэйскаму выражэнню, «елі дні».

«Есці дні» — значыла мець сем апекуноў, якія кармілі ешыботніка па аднаму дню на тыдзень. Я таксама меў сем гаспадароў. Я іх называў не па імені, а па тых днях, у якія я прыходзіў да іх харчавацца: Нядзеля, Панядзелак, Аўторак — аж да Суботы.

Я заўсёды адчуваў сваю залежнасць ад кожнага з іх. Гэта адчуванне было вельмі прыкрае, прыніжаючае чалавечую годнасць, гонар і дастойнасць. Пры сустрэчы з Суботай, Аўторкам ці Пятніцай я заўсёды нізка кланяўся, гаварыў «дзень добры». Мне ўсё здавалася, што мой дзень у вобразе чалавека зараз вылае мяне «дармаедам». Бывалі і такія выпадкі. Здаралася, што гаспадыня — жонка Нядзелі ці Панядзелка загадвала мне выносіць на двор памыі, прыносіць са студні вядро вады ці пакалыхаць дзіцё.

Любой рабоце ў хаце свайго карміцеля я быў заўсёды рад. Хоць чым-небудзь адплаціць за абед... Між іншым, у якога-небудзь краўца ці шаўца я заўсёды адчуваў сябе лепш, чымся ў багатага гандляра. Бедны чалавек заўсёды прымаў ешыботніка, як госця, і з усяго сэрца частаваў самым лепшым, што было ў яго хаце. Багаты местачковец карміў у большасці на кухні, як жабрака, рэшткамі са свайго стала.

Армія дармаедаў у 50—60 ешыботнікаў была для невялікага мястэчка нямалай абузай. Кармілі ешыботнікаў у большасці толькі абедам. Кожнаму ешыботніку прыходзілася выкручвацца, як хто можа, каб даставаць сабе абаранак з яблыкам на снеданне і вячэру. Многія галадалі, а некаторыя ўмудраліся мець па дзесяць і больш дзён на тыдзень, гэта значыць, мець па некалькі пятніц на адзін тыдзень.

Хлапчукі местачковых жыхароў адносіліся да нас, ешыботнікаў, з пагардай. Часам нават кулачныя бойкі наладжвалі супроць нас. Гэта адбывалася галоўным чынам улетку ля рэчкі, куды мы хадзілі купацца.

Калі ешыботнікаў пабівалі да крыві, ніхто за нас не заступаўся. Затое, калі хто-небудзь з ешыботнікаў расквасіць нос местачкоўцу, тады яго бацькі прыходзілі ў сінагогу і скардзіліся рош-гашыве. Ад яго даведваўся рэб Шмар'е, які за гэта заўсёды ўсыпаў «малкес».

## ЦУДОЎНЫ РАЗЬБЯР

Раз на тыдзень, у ноч з чацвярга на пятніцу, мы, ешыботнікі, не спалі. Мы павінны былі паўтараць усе раздзелы талмуда, якія праходзілі за тыдзень. Гэта называлася «мішмер».

Першую палову ночы мы аддавалі гэтай справе, а другую палову запаўнялі рознымі гульнямі. Часта гулялі ў вайну. Пераможаныя павінны былі «плаціць дань» — частаваць пераможцаў яблыкамі, абаранкамі і цукеркамі.

Былі ў нас двое, якія заўсёды прадстаўлялі цыгана з мядзведзем. Цыган вымазваўся ў сажу, пад паліто на спіне падвязваў падушачку і рабіўся гарбатым. Мядзведзя граў хлапчук, які хадзіў на чацвярэньках, апрануты ў вывернуты шэрсцю наверх кажух. Мядзведзь танцаваў, а цыган спяваў жартаўлівыя песні. Кажух нам даваў сінагагальны шамес (служка) рэб Эля, які заўсёды прысутнічаў на нашых гульнях. Ён з намі сябраваў, ведаў усе нашы сакрэты і ніколі не даносіў аб нашых свавольніцтвах інспектару рэбэ Шмар'ю. Рэб Эля толькі глядзеў, каб мы не ламалі штэндараў.

Ён быў вельмі добры чалавек, ненавідзеў сінагагальнага габая (старасту), які прымушаў яго, рэбэ Элю, быць парабкам у рабіна і ў сябе. Рэб Эля праклінаў габая страшнымі праклёнамі, ды не толькі габая, а ўсіх местачковых багачоў, што за розныя паслугі выкідвалі яму, як жабраку, скарынкі хлеба.

Свае праклёны ён шаптаў вечна і да таго прывык гаварыць сам з сабою, што нават у сне рухаў губамі, нібы жвачку жаваў. Хадзіў ён абадраны, голае цела відаць было. Чорныя валасы на галаве і барадзе былі збіты ў лямец. Ён іх ніколі не расчосваў. Пальцы рук у яго былі адмарожаныя, скручаныя, з адпаўшымі суставамі, дзеля

чаго шамеса называлі «рэб Эля з гусінымі лапкамі». У яго было дванаццаць дачок. Карміла іх яго жонка-баншчыца, якая ў вольныя ад лазні дні прадавала ешыботнікам пражаны боб і абаранкі. Старэйшыя дочкі служылі нянькамі ў крамнікаў.

Часам уночы рэб Эля нам апавядаў казкі.

— Вы бачыце арлоў і львоў на святым каўчэгу? — запытаўся ён аднаго разу.

Мы таропім вочы ў адзін пункт. У цэнтры сінагогі на ўсходняй старане, дзе моляцца местачковыя багачы, стаіць пазалочаны каўчэг са світкамі торы. Каўчэг аздоблены мастацкай разьбой з дрэва. Два львы і два арлы. Навакол — фантастычныя ўзоры з кветак і траў. Здаецца, што львы зараз рынуцца з месца і пачнуць біць хвастамі аб падлогу. Здаецца, што арлы з распасцёртымі крыллямі зараз узнімуцца пад высокі суфіт. Уночы, калі сінагога асвятляецца скупа адзіночнымі свечкамі, звяры і птушкі выглядаюць зусім жывымі.

— Дык вось,— сказаў рэб Эля,— гэтая самая сінагога пабудавана пяцьдзесят, а мо сто год таму назад. Аднаго разу прыйшоў у кагал незнаёмы чалавек — высокі, прыгожы, з сівой барадой, з вачыма, бы зоркі, у простым ільняным халаце, з сандаліямі на нагах.

— Я разьбяр! — заявіў ён.— Хачу зрабіць каўчэг. Аб цане не буду з вамі гаварыць, аб ядзе таксама. Няхай толькі хлеб і ваду прыносяць да дзвярэй. Адно буду прасіць пачэсны кагал, каб ніхто ка мне не прыходзіў глядзець, пакуль не скончу работы.

— Добра! — згадзіліся братчыкі з кагала.— Няхай будзе так. Працуйце! Прымаем вашы ўмовы. Толькі памятайце, за працу шмат грошай вы ў нас не дастанеце, бо нашы местачкоўцы не Ротшыльды і не графы Патоцкія.

Разьбяр працуе сабе дзень, два, тры. Ён нікуды не ходзіць. Яго ніхто не бачыць. Кожны дзень жанчына прыносіць яму жбан вады і акраец хлеба, ставіць ля дзвярэй ды ўходзіць. Як ні цікавяцца кагальныя братчыкі паглядзець работу, але прапала — умовіліся не глядзець. Яны здалёк бачылі, што і ўночы светла ў новай сінагозе. Разьбяр працаваў круглыя суткі.

Затое габай, гад і злюдзюга, як усе габаі па свеце, каб яго імя спёрлася з памяці добрых людзей, не стрымаў слова. Аднаго разу ўночы ён пракраўся на жаночую галёрку сінагогі і давай глядзець праз маленькае акен-

ца. Бачыць ён: разьбяр сядзіць на падлозе перад свечкай, трымае на каленях тоўсты фаліянт і ціхенька чытае і ціхенька спявае, і пры гэтым, як маятнік, ківаецца. А працы яшчэ і знаку няма. Нават не пачынаў.

Хацеў пракляты габай стукнуць кулаком аб сцяну ды вылаяць на чым свет стаіць разьбяра. У гэты час заспявалі першыя пеўні, і ўсё ператварылася.

Замест падлогі зелянеў прыгожы стэп. Буялі стройныя пальмы, вінаграднікі, прыгожыя кветкі, апельсінавыя і лаўровыя дрэвы. Замест каменнага суфіта сінела паўночнае зорачнае неба. Над дрэвамі і раслінамі свяціўся яркі поўны месяц.

Пракляты габай анямеў ад дзіва.

У самым цэнтры красаваўся новы драўляны каўчэг. Разьбяр да яго падышоў, паглядзеў, памацаў, зноў адышоў. Глядзеў з правага боку, з левага і строга сказаў:

— Старадаўнія ткачыхі ўсходу і захаду. Загадваю вам з'явіцца сюды!

Адразу прыйшлі жанчыны ў доўгіх вопратках, з затуленымі празрыстым шоўкам тварамі. На руках блішчэлі залатыя бранзалеты з дарагімі каменнямі. Праз празрысты шоўк свяціліся іх вочы — чорныя, сінія, зялёныя.

Пракляты габай таропіў у іх свае бельмы.

І зноў сказаў разьбяр:

— Старадаўнія ткачыхі ўсходу і захаду! Загадваю вам зрабіць з гэтых кветак і раслін прыгожыя ўзоры для святога каўчэга.

І паслухмяныя ткачыхі пачалі працаваць: нарвалі кветак, траў, пальмавых галін, залатых апельсінаў і давай плясці ўзоры, як тыя пастушкі, што плятуць вянкі на полі з нашых каласоў, траў і васількоў. Пры гэтым старадаўнія ткачыхі спявалі песні на незразумелай мове. Яны хутка скончылі работу і давай абвешваць жывымі гірляндамі кветак, апельсінаў і вінаграду сцены і дзверы каўчэга.

Разьбяр махнуў рукой.

Ткачыхі зніклі. Разьбяр любаваўся на работу. Падыходзіў да каўчэга, адыходзіў, мацаў рукамі і задаволена цмокаў губамі.

Потым ён зірнуў на неба і сказаў:

— Мне яшчэ патрэбны для каўчэга два львы і два арлы! Самыя прыгожыя цары звяроў і птушак, загадваю вам з'явіцца сюды!

З-пад неба прыляцелі два арлы. Прыбеглі ў адзін міг два львы. Арлы ўзмахвалі крылламі. Львы білі аб зямлю хвастамі. Іх вочы і грывы былі залацістыя і велічныя.

Пракляты габай таропіў у іх свае бельмы, малаціў ад страху зубамі.

Разьбяр махнуў рукой.

У арлоў задрыжэлі крыллі. У львоў ад страху ўзняліся залацістыя грывы. Львы і арлы загаварылі голасам чалавечым:

— О, чалавек, о, цар зямлі... Злітуйся над намі. Дай нам вольна жыць у стэпе. Не хочам адзеравянець на векі вечныя... Мы хочам жыць... Мы хочам назад у свае гнёзды, у свае логвы, да сваіх серабрыстых ручаёў. Мы хочам у свае пахучыя лясы... Мы хочам волі...

З вачэй львоў і арлоў цяклі слёзы. Звяры і птушкі дрыжэлі ад страху і прыпадалі да ног разьбяра. Але ён быў непадатлівы і строгі:

— Загадваю вам!

Разьбяр махнуў рукой.

Два арлы ўзляцелі над каўчэгам. Два львы сталі дуба па абодвух баках каўчэга. Пярэднімі лапамі яны ўпёрліся ў сцены яго, хвастамі ўпляліся ў жывыя гірлянды кветак і застылі.

Разьбяр яшчэ раз махнуў рукой.

Расліны, кветкі, апельсіны і вінаград, львы і арлы адзеравянелі. З суфіта новага будынка знікла неба, з падлогі знік квітнеючы стэп.

Прапяялі другія пеўні.

Новы будынак быў асвечаны адной свечкай. Разьбяр узяў у рукі кавалак вострага шкла і давай шліфаваць і тачыць драўляныя расліны, драўляных звяроў і птушак. Потым ён узяў пэндзаль, гліняную міску з фарбай і пакрываў іх лёгкім золатам.

Пракляты габай таропіў у разьбяра свае бельмы.

Разьбяр нават не зірнуў на яго. Робячы сваю работу, ён сказаў:

— Затое, пракляты габай, што ты мяне не паслухаў і прыйшоў сюды глядзець, зараз жа аслепні!

І габай (каб яго імя сцёрлася з памяці людзей!) тут жа аслеп.

Ён ужо не бачыў цудоўнага разьбяра.

— Калі толькі каму-небудзь раскажаш аб тым, што

бачыў, з табою станецца, як з гэтымі арламі і львамі. З табою будзе нават горш. Ідзі!

Аслепшы габай пац-мац рукамі аб сцяну і ледзь выбраўся на двор. Пабрыў па дварэ і зноў — пац-мац рукамі і дабраўся да хаты рабіна. Зайшоўшы к рабіну, ён, шэльма і гад, расказаў рабіну ўсё. Рабін павёў габая дамоў, палажыў яго на шоўкавую пярыну і загадаў спаць, а сам склікаў зборышча кагальных братчыкаў. Расказаў ім аб гэтым дзіўным здарэнні, і на ўсходзе сонца яны пайшлі грамадой у новую сінагогу.

Разьбяра яны ўжо не знайшлі.

Новы каўчэг ззяў золатам, ззяў хараством. Віноград, апельсіны, кветкі, лаўровыя вянкі, пальмавыя галіны здзівілі прыгожасцю. Здавалася, што яны яшчэ пахнуць садам, стэпам. Львы і арлы былі, як жывыя. Аж страшна было дакранацца да іх пальцамі.

Прапялі трэція пеўні.

Знік пракляты габай з шоўкавай пярыны.

Габаіха шукала яго пад ложкам, па ўсіх каморах багатай хаты, на дварэ, на вуліцах — габая не стала.

Слухаючы казку шамеса рэбэ Элі, мы ўсе мімаволі з новай цікавасцю паглядалі на каўчэг, які заўсёды красаваўся перад намі. Разьба была сапраўды дасканалая. Рухлівыя светацені нашых свечак плылі хвалямі па цудоўнай рабоце. Здавалася, што львы і арлы зараз ажывуць.

Шамес заўсёды заканчваў гэтую казку такімі словамі:

— А ведаеце, хто быў гэты разьбяр? — прарок Ілья!

Аднаго разу пасля такой бяссоннай ночы мы пад раніцу паляглі апранутыя спаць на падлозе жаночай галёркі сінагогі. Мы толькі што заснулі, аж раптам усхапіліся ад дзікага крыку:

— Уставайце, дзеці Ізраіля, ягняты святыя! Да вас з'явіўся я — прарок Ілья! Уста-вай-це!

Мы ўскочылі на ногі. Перад намі стаяў мястэчковы вар'ят Моўша. Ён дзіка лупіў на нас вочы і загадаў:

— Распранайцеся, а то я вас зарэжу!

Ён стрыг паветра вялікімі кравецкімі ножніцамі.

— Распранайцеся... а то...

Мы былі так змучаны бяссонніцай, аглушаны і напалоханы яго дзікім крыкам, што і не думалі бараніцца. Паслухаліся. Вар'ят схапіў нашу вопратку і пабег уніз па лесвіцы. Без кашуль мы падышлі да акон і ўзня-

лі крык. За вар'ятам пагналіся людзі. Ён кінуў нашу вопратку і ўцёк.

З таго разу мы перад сном запіралі дзверы сінагогі на ўсе засовы, каб да нас больш не прыходзіў няпрошаны прарок Ілья.

## МАЕ ЗАРАБОТКІ

З самага пачатку я прывучаўся ў ешыбоце да самастойнага жыцця. Мыў сабе бялізну кожную пятніцу ў лазні і развешваў на гары сінагогі. Таксама навучыўся латаць падраныя штаны. Мой гарнітур даўно парваўся. Выпадковыя заработкі мелі ў ешыбоце ўсе юныя талмудысты: чытка псалтыра пры нябожчыках і спяванне малітваў пры нованароджаных. Ці пры нараджэнні, ці пры смерці чалавек чалавеку заўсёды даваў хлеб.

Мяне карміў мой ножык.

Я меў патаемную майстэрню ў шуфлядзе майго штэндара, і пад заслонай скураных фаліянтаў з залатым цісненнем мой ножык тварыў цуды. Я вырэзваў з дрэва пеналы, скрыначкі, пакрываў іх лакам, пасля чаго наводзіў прыгажосць разьбой. З мяккіх чорных брускоў вырэзваў пячаткі. З аркушаў паперы рабіў маленькія кніжачкі ў прыгожых пераплётах і чырвона-сінім алоўкам размалёўваў іх звяркамі і дрэўцамі. Я прадаваў маленькія альбомчыкі свайго вырабу. Альбомчыкі цаніліся сярод местачковых дзяцей не менш высока, чымся ножыкі і пісталеты ў вясковых пастушкоў. Цэны хісталіся ад двух да пяці капеек за штуку.

Ад строгага інспектара рэбэ Шмар'я мяне ахоўвалі ўсе юныя талмудысты. І я ні разу не папаўся ў яго лапы.

Старэйшыя таварышы — 16—17-гадовыя юнакі звярнулі пільную ўвагу на мае вырабы: скуплівалі ў мяне «тавар» за грошыкі і прадавалі ў пяць разоў даражэй. Яны стварылі «рынак». Закіпела жыццё. Каля сінагогі сярод густых зарасляў палыну была наша біржа. З'явіліся бабулькі з кошыкамі. Прадавалі нам яблыкі, арэхі, абаранкі, боб, гарохавыя бліны, жоўтыя і круглыя, нібы ясны месяц.

Аднак бывалі моманты застою ў «гандлі». Ножык мой адпачываў, бо рынак быў перапоўнены і ніхто больш не купляў. Мне прыходзілася галадаць. Вытатаваў мяне ад голаду адзін выпадак. Седзячы раз увечары на ганку сіна-

гогі і марачы аб кавалку хлеба, я заўважыў, як адна нізенькая бабулька гоніцца за гарэзнай казой, гоніцца ды не можа дагнаць.

Я дапамог загнаць казу ў сенцы маленькай бабульчынай хаткі, што знаходзілася на тым баку вуліцы, насупраць сінагогі.

Бабуля не ведала, чым мяне ўзнагародзіць за дапамогу. Я сказаў, што мне ніякая ўзнагарода не патрэбна. Бабуля запрасіла мяне ў хату і пачаставала коржыкамі.

## ЛІСТАПІСЕЦ

З таго часу пачалося наша знаёмства з бабулькай Бейляй.

Яна была адзінокая. Яе дочкі і сыны жылі ў Амерыцы. Прысылалі ёй акуратна грошы, і яна спакойна дажывала свой век у маленькай хатцы. Тут жа ў хатцы жыла з ёю дойная каза. Старэйшы ўнук бабулі ў Амерыцы быў аднаго ўзросту са мною і аднаго імені. Гэта яе вельмі чуліла. Яна часта даставала са старога камода пачку лістоў, фотаздымкаў усіх яе дзяцей ды ўнукаў. Я чытаў і перачытваў уголас лісты, а яна, непісьменная, слухала з вялікай асалодай.

Яна запрашала мяне прыходзіць да яе па вечарах. Я ахвотна выконваў яе просьбу. Бабуля частавала мяне коржыкамі і арэхамі ў мёдзе. Час ад часу паіла мяне цыкорыяй з казіным малаком. Добрая бабулька была набожная. Часта прасіла мяне чытаць раздзелы са святой кнігі ў перакладзе на жывую яўрэйскую мову. Такая кніга называецца «тайч-хумеш». Яна друкавалася выключна для жанчын. Я чытаў, а старая Бейля слухала ды шаптала за мной слова ў слова.

Пасля кожнай чыткі на стале з'яўляліся пачастункі...

Я перабраўся да старой на кватэру. Яна за мною глядзела, як родная. Часта пад яе дыктоўку я пісаў у Амерыку лісты. Пры пісанні я ўжываў усё красамоўства бібліі. Старая раструбіла аба мне ў дзесяць труб па мястэчку.

Ка мне пачалі прыходзіць «амерыканкі» з просьбай пісаць іх мужам у Амерыку. Прыходзілі і нявесты пісаць лісты жаніхам. У мяне пачалася вялікая перапіска.

Для апісвання гора замужніх, якія чакалі грошай ад мужоў, я ўжываў стыль псалмоў. Для любоўных пісем ад нявест я пазычаў радкі з «Песні-Песень». Пакрысе ў мяне

выпрацавалася свая ўласная мова. За пісьмы плацілі. Снеданнямі і вячэрамі карміла старая Бейля. У мяне пачала збірацца капейка да капейкі. Праз якога паўгода я за свой першы літаратурны ганарар купіў сабе боты. Яшчэ праз паўгода я набыў нямала кніжак яўрэйскіх і рускіх.

Маімі кліентамі былі ў большасці бедныя непісьменныя жанчыны і нявесты. Перада мною разгортваліся жудасныя малюнкі жыцця местачковай галечы. Горам і слязьмі былі перапоўнены іх сэрцы. Пакуль не прывыклі да мяне, некаторыя з іх сароміліся дыктаваць хлапчуку тое, што набалела ў іх на душы. Ад сораму яны бляднелі, чырванелі, засланялі далонямі вочы, нібы перад запаленымі шабасовымі свечкамі; адварочваліся ад мяне і гаварылі прыдушанымі галасамі. А як прывыклі, без аніякага сцяснення дыктавалі мне такія словы, ад якіх мяне часам страх прабіраў. Такім чынам яны пакрысе пратоптвалі для мяне сцежкі ў самыя нетры народнай нядолі.

У іх разнастайных галасах і выразах твару гучэлі і адлюстроўваліся злосць, гнеў, крыўда, літасць, смутак, жальба, падзякаванне і праклёны. Мабыць, яны ўяўлялі сабе, што перад імі не хлапчук, а іхнія «амерыканты» — мужы і жаніхі. Часам такія пісьмы-споведзі хвалявалі мяне да таго, што я па начах спаць не мог. Гаротныя жанчыны ўзвальвалі на мае слабыя хлапчукоўскія плечы свае цяжкія жорны несупыннай пакуты. Я, пішучы пісьмы пад іх дыктоўку, знаходзіўся пад гіпнозам іхняй бяды. Я натхняўся іхнімі пачуццямі. Нібы падатлівая глеба, упітваў у сябе чужыя жыцці, гарэў шчырым гневам, сумаваў вялікім сумам і радаваўся маленькімі радасцямі сваіх кліентак.

Пішучы пад іх дыктоўку, я на ляту адшліфоўваў чужыя фразы, надаючы ім блеск красамоўства. Словы ўжо рабіліся маімі. Часам я ўдаваўся ў рыторыку, а часам ярка падкрэсліваў сваім пяром трагедыі жыцця-быцця гэтых жанчын.

Бывала, прыбяжыць да мяне засопшыся цётка з радаснай навіною:

— Памагло!

— Што памагло?

— Тваё пісьмо...

— Умею пісаць?

— О-го-го! Каб так мае дзеці ўмелі! Дзякую, сынок... У адказ на пісьмо, напісанае табою, мой Шмуэл-Меер прыслаў дзесяць даляраў і пісьмо. Вось яно! Чытай!

Паглядваючы на яе пасвятлеўшы твар, мне станавілася лягчэй на сэрцы. Жанчына тарапіла ў мяне вочы і раптам усхоплівалася:

— Я тады дала табе толькі адну капейку... Вось табе яшчэ тры! Не тры, а яшчэ дзве капейкі...

А то прыйдзе чорная, як зямля, бабуля ды крыўдзіцца і лямантуе ў вялікай роспачы:

— Ой, і напісаў ты!

Я з неспакоем пытаюся:

— А што?

— Ужо мінула два месяцы, а мой яшчэ не адказаў на пісьмо. Відаць, што ты, сынок, няўдала напісаў...

— Гэта няпраўда, я напісаў удала,— апраўдваўся я.— У вашага сына, мабыць, такое дубовае сэрца, што нічым яго не прасвідруеш.

— Напішы, будзь ласкаў, другое пісьмо.

— Добра.

— Цяпер я табе нічога плаціць не буду. Я ж тады заплаціла без аніякай карысці...

— Добра.

Калі на пісьмо, напісанае мною, не адказвалі, вінаватым аставаўся я. Я сам бываў упэўнены ў сваёй вінаватасці. Я ж павінен быў надаваць пісьму такую сілу, каб мастацкія словы чаравалі адрасата, каб яны ўбіваліся ў яго сэрца, як вострыя цвікі. Я ўпадобіўся адвакату, якому кліенты дапаручаюць свае кроўныя інтарэсы на судзе. А калі справа правальвалася, вінаватым у вачах кліентуры бывае толькі адвакат. Я павінен быў сваім мастацкім словам у пісьмах так уздзейнічаць на сумленне мужоў і сыноў-амерыкантаў, каб усе патрабаванні і просьбы жанок і матак адразу выконваліся.

Так вымагала ад мяне мая кліентура. За гэта і плацілі капейку ці дзве за пісьмо.

Часам звярталіся да мяне і пісьменныя. З майго чарнавіка яны перапісвалі пісьмы сваёй рукой. Такім чынам я своеасабліва і рана пачаў разумець значэнне мастацкага слова.

І кожны мой слоўны твор, накіраваны да аднаго канкрэтнага чалавека, адразу браўся на пробны камень жывога сэрца: ну, ці зазвініць мая пісаніна? Ці выкліча яна патрэбны водгаласак?

Ка мне прыходзілі пісаць пісьмы многія, але ярчэй за іншых асталіся ў маёй памяці дзве — змучаная непасільнай працай і нястачамі Голда з вечным выразам гневу ў

вачах і стройпая, чарнавокая, прыгожая Рахіль. Я часта пісаў ад імя Голды мужу і ад імя Рахілі жаніху.

Вось адно з маіх пісем ад імя Голды:

«Шаноўнаму мужу майму, знатнаму і слаўнаму Шмуэл-Мееру. Няхай доўга свеціцца зорка яго жыцця!

Па-першае, паведамляю цябе, што я, адданая жонка твая Голда, і нашы дзеткі — Гітка, Мотл, Ёська, Зорахка і Цыпачка — дзякуй святому імені, жывы і здаровы. Дай бог чуць ад цябе не горшыя навіны.

Па-другое, я дзіўлюся твайму доўгаму маўчанню. Маўчыш як рыба. Ці я табе не жонка? Ці мае дзеці не твае дзеці? Ці акіян змыў з тваёй памяці родную сямейку? Ужо бадай год, як ад цябе ні пісьма, ні грошай. А дзеці не маўчаць. «Дзе наш тата?» — пытаюцца яны. Маленькая Цыпачка замест «тата» кажа «цяця» і ручкамі пры гэтым паветра ловіць. Галасок у яе, нібы ў птушкі. Сам разумееш, што дзеці не лялькі, а жывыя істоты. Вочы ў іх пільныя. Шмат чаго бачаць, шмат чаго просяць. Дай ім бульбы, мяса, селядца, крупніку, малака. Дай ім чаравічак, гарнітурчыкаў, суконачак, кашулек, шапачак, хустачак. Хоць ты для іх крамку адкрывай! Ім шмат чаго трэба — нават дактароў і фельчароў, хоць яны і не царскія дзеці.

Ад голаду і холаду яны вечна хварэюць. То жываток баліць у Гіткі. То Ёська босую нагу цвіком наскрозь праб'е. А ў Цыпачкі коклюш. Вечна яна робіць адно — кашляе ды кашляе. А Мотл кашляе і без коклюша. А ў Зорахкі і дагэтуль крывыя ножкі. Гады яго ідуць наперад, а ён сіднем сядзіць на адным месцы ўжо зараз пяць год. За Моталэ трэба заплаціць рэбэ пяць рублёў. Я вырвала б з свайго рота пяць зубоў і аддала б рэбэ, але за мае пяць зубоў у краме не дадуць і атруты для мышэй. Вось такая, як бачыш, мая гаспадарка. Б'юся як рыба аб лёд, а жыццё маё — палын, а не мёд.

Дзеці нашы маюць бацьку, а гадуюцца, як безбацькоўцы. Местачкоўцам і паскардзіцца нельга — вочы выдзеруць, заклююць! Пра мяне яны кажуць так:

— Голда жыве, як графіня-манархіня. Голдзе бедаваць тое самае, што багатай Лібе-Лэі жабраваць. Жартачкі, муж Голды — былы балагула Шмуэл-Меер — у Амерыцы золата збірае ды брыльянтамі прыпраўляе. А яна, Голда, абаранкі з лазовага кошыка прадае ды яшчэ на сваю долю скардзіцца.

Вось так местачкоўцы пра нас гавораць і ядуць мяне без хлеба. А вохці мне, вох! Яны ж не бачаць, што ў маім

гаршку на камарыным шмальцы ліха варыцца, бядою і слязою соліцца.

Шмуэл-Меер, ты чуеш ці не? Скажы хоць раз, што мне рабіць? Праз акіян да цябе рукой не дастану. Плачу майго не пачуеш і слёз маіх не пабачыш. Сядзіш сабе ў амерыканскім шынку з капялюшыкам на галаве, з залатым гадзінначкам у кішэні — акурат магнат — ды і п'еш амерыканскую гарэлку кілішак за кілішкам. Ты ж зрабіўся, як чужы. О, гора маё! О, ліха маё! Слава таму мужу, які не вядзе кампаніі з лайдакамі, у шынках не бывае ды злых шляхоў не ведае, не знае. Слава таму мужу, які з пустымі людзьмі не сябруе ды з хітрунамі не хітруе.

Але гэта не пра цябе, Шмуэл-Меер, сказана, бо ты сумленне згубіў у Амерыцы. Жаласць і літасць да роднай сям'і ты ўтапіў у лужы, як сляпых шчанят. Ты гарэлку п'еш, а я смалу п'ю. Адумайся, разбойнік без нажа, гіцаль без вяроўкі... Злітуйся, люты чалавек... Выбачай, Шмуэл-Меерка, за такія словы. Не я гавару — гора маё гаворыць. Не я гневаюся — нядоля мая гневаецца. Каб ты хоць разок зірнуў на схудалых дзяцей, на іх тонкія, бы саломінкі, ручкі і ножкі,— тваё акамянелае сэрца стала б добрым, як золата, і мяккім, як воск...

А дзеці твае добрыя, вымуштраваныя. Перад тым як выходзіць з хаты, я заўсёды лічу абаранкі. Прыходжу — зноў лічу. Усе цэлыя — адзін у адзін! Дзеці не чапаюць. Зорахка любіць сядзець ля самага кошыка ды нюхаць абаранкі. А рукой ніколі не зачэпіць — ховай божа! Вочы ў яго блішчаць. Слінкі ён пускае. Увесь ён дрыжыць. Ручкі цягнуцца да кошыка. Ён шэпча: «абаранкі... абаранкі...», а рукам волі не дае. Сэрца ў мяне крывёю заплывае, а я не даю дзецям абаранкаў. Гэта ж кожны абаранак — грош! А ты, Шмуэл-Меер, там кошыкі з абаранкамі прапіваеш. Ведаю! Добрыя людзі мне пра цябе напісалі.

Я напалохала дзяцей такімі словамі: калі хто з бедных есць абаранкі, той глухне і слепне.

— Каму ж можна есці абаранкі? — цікавіцца Зорахка.

— Свінням! — кажу.

— Чаму ж багатыя ядуць? — не сунімаецца Зорахка.

— Бо яны свінні!

Зорахка вельмі разумны хлопчык. Ён смяецца. Тварык яго сур'ёзненькі і старэнечкі, як у дзядка...

У кожную раніцу нясу абаранкі ў самы багаты дом — да Лібэ-Лэі Грынгауз, гаспадыні шкляной гуты. Я на свае вочы бачыла, як яна ў кожную раніцу крышыць абаранкі

ў малако і корміць на каленях двух рабенькіх цюцек. Каб я так бачыла дзяцей нашых здаровымі, шчаслівымі і радаснымі.

Заработак ад продажу абаранкаў дае мне толькі жыжку да крупніка, і я мыю бялізну ў багатых людзей. Калі я палашчу чужую бялізну на рэчцы, дык плачу ў тры ручаі як каля рэк Вавілона пад вербамі.

Парай, Шмуэл-Меер, што мне з дзецьмі рабіць? Што будзе лепш — ці кінуць дзяцей у рэчку, ці іх галоўкі аб камень разбіць? Але я, Голда, не такая матка, як ты, Шмуэл-Меерка, татка. Апошнюю кроў сваю пралью для родных куранятак. І ваўчыха, і мядзведзіха, і каршуніха сваіх дзяцей любяць, кормяць і бояць, апранаюць і абуваюць. І я не хачу гэтым хваліцца.

А ты, Шмуэл-Меерка, горш звярынай пароды... Я і дзеткі цалуем цябе. Твая на гэтым і на тым свеце Голда Памеранец».

Калі я прачытаў Голдзе гэтае пісьмо, прадыктаванае ёю і адшліфаванае мною, Голда ашчаперыла маю галаву рукамі і пачала лямантаваць немым голасам без слоў. Потым яна вызваліла маю галаву і сказала:

— Ведаеш, сынку? Ты крыху перасаліў мой крупнік. Але няхай сабе. Пашлем Шмуэл-Мееру гэтае пісьмо. Вось табе канверт. Пішы адрас. У гэтым пісьме мая нядоля красуецца, як кепскі партрэт у добрай раме.

Я выцер далонню валасы на галаве, бо яны сталі вільготнымі ад Голдзіных слёз, нібы ад расы. Потым напісаў на канверце адрас.

А вось пісьмо ад Рахілі свайму каханаму Барысу:

«Мой любы, мой дарагі, мой залаты Барыс. Няхай полымя жыцця твайго свеціцца на векі вечныя!

Калі я чытаю твае пісьмы, мне здаецца, што бачу твой мілы твар і чую твой мілы голас. Твае мядовыя пісьмы я чытаю і перачытваю мо сто, а мо тысячу разоў. Ты мне паведамляеш, што яшчэ не зарабіў на шыфскарту, а мне бадай кожную ноч сніцца адзін і той самы сон. Нібы ты мне прыслаў шыфскарту, а я ўжо плыву на караблі такім прыгожым, як размаляваны дом Лібе-Лэі — мадам Грынгауз. Навокал карабля сінія хвалі. Над караблём трубы, дым і неба. А на караблі чужыя людзі. Я даплыла да Амерыкі, а ты не сустрэў мяне на беразе. І я хаджу па вуліцах Нью-Йорка і шукаю цябе. Туды і сюды ездзяць і ходзяць пехатой людзі, апранутыя ў дзівосную вопратку, і гавораць на

дзівоснай мове. Я загубілася ў людскім моры, нібы гарошынка, і клічу-заву цябе:

— Дзе ты, брат майго сэрца? Дзе ты, залатая пячаць маіх думак? Дзе ты, карона майго жыцця? Прыйдзі да мяне з сонечных гор і далін. Прыйдзі да мяне з расою раніцы, з сонцам поўдня, з ценем вечара. Прыйдзі... Прыйдзі...

Прачынаюся. Падушка вільготная ад слёз. Схадзіла я да старой татаркі на карты паваражыць, дык яна мне нагаварыла дзевяць вазоў слоў пра казённы дом, пра дальнюю дарогу і пра брунета з пяшчотным сэрцам.

Што табе яшчэ пісаць?

Ад цямна да цямна працую ў дамскага краўца Шолама. Пад гуд кравецкай машыны я думаю і думаю, як скласці песню пра галубку і галубка — песню пра сваё ўласнае жыццё, песню пра наша каханне. Вось яе змест:

Галубок на адным беразе мора. Галубка — на другім. Яны імкуцца адно да аднаго. Яны ў палёце. А мора падкідвае раз'юшаныя хвалі ў самае неба. Бура гоніць галубкоў у супроцьлеглыя бакі. Крыллі іхнія не могуць змагацца з лютай непагодай. Так праходзяць дні, месяцы, годы. Галубок з галубкай сустрэцца не могуць. І яны, кожны на сваім беразе, паглядаюць удаль засмучонымі вачыма — адзінокія ў горы і бядзе.

Пад гук кравецкай машыны я думаю над прыгожымі словамі для такой песні. Галаву ламаю над рыфмамі. А пакуль што яшчэ нічога не прыдумала. Аднаго разу я задумалася над гэтай песняй і не агледзелася, як іголка прабіла мне палец. Кроў ад пальца заліла белае шоўкавае плацце, што я шыла для Лібе-Лэі Грынгауз. Я ледзь апрытомнела ад болю і анучкай завязала палец. Мой гаспадар Шолам пацягнуў мяне за чорныя косы. Я ад злосці штурханула яго локцем у грудзі так моцна, што ён адкінуўся ад мяне, як насычаная п'яўка. Ён грукнуўся патыліцай у сцяну. Тры работніцы — мае падругі — стрэльнулі такім гучным смехам, ажно шыбы зазвінелі.

— Вон адгэтуль! — крыкнуў на мяне Шолам.

— Аддайце мне сем залатовак за тыдзень працы, тады пайду!

— Ты ж, гадаўка, сапсула мне белы шоўк,— зноў крыкнуў Шолам.— Не дам табе ні капейкі!

— Мала я гаравала на вас, рэбэ Шолам? — сказала я.— Вы з'елі маю працу, маё здароўе, мае годы не на залатоўкі, а на дзесяткі і сотні рублёў! Аддайце мае сем залатовак!

Шолам кінуўся да мяне з кулакамі. За мяне заступіліся работніцы. На развітанне я сказала яму:

— Няхай мае сем залатовак будуць табе, Шолам, і мадам Грынгауз на саваны. А гэты шоўк чорт не возьме: памыць, папрасаваць, і знаку не будзе!

Назаўтра я пайшла да швачкі Сімы. Там гэткае ж шчасце, як у Шолама.

Што табе яшчэ пісаць?

Я ўсё думаю пра цябе, мілы Барыс. Я вечна сумую. Цяпер у нас вясна. За рэчкай зелянеюць бярозкі. Цвітуць сады. Так пахне, што можна ахмялець. А салавей так соладка спявае, што можна заслухацца. Дзе б я ні стаяла, дзе б я ні сядзела, куды б я ні хадзіла — я ўвесь час пра цябе думаю, родны мой, любы мой... Я часта плачу.

— Чаго плачаш? — пытаюцца ў мяне.

— Толькі што хрэну нацёрла.

— Вечна хрэн трэш. Пудамі яго трэш, ці што?

Я маўчу.

— Ты хворая?

Я зноў маўчу. Сорамна сказаць, што маё сэрца баліць ад кахання. Яны ж мяне засмяюць. Панская хвароба,— скажуць. Паглядзела я на сябе ў люстэрка, і страх мяне ўзяў — бледная, худая, запаўшыя вочы. Затое як прыеду да цябе ў Амерыку, зноў макам-цветам закрасую.

Што табе яшчэ пісаць?

Калі ўжо дачакаюся шчаслівай хвіліны? Ці, можа, маё шчасце на дне мора рыбкай плыве? Ці, можа, яно арлом у сыр-бор паляцела?

Дзякую, мілы Барыс, за твае частыя пісьмы. Гэта пакуль што адзіная ўцеха ў маім няўцешным жыцці! Цалую цябе тысячы разоў. Пішы! Пішы! Пішы!

*Твая Рахіль».*

Рахіль строга рэдагавала свае пісьмы, пісаныя маёй рукой. Прымушала мяне парапісваць іх па два, па тры разы. Ёй чамусьці не падабаліся мае выдумкі і маё вычурнае красамоўства. Яна муштравала мяне да таго часу, пакуль я не налаўчыўся пісаць адно, а ёй чытаць зусім другое. Бо мая пісаніна вельмі падабалася яе быламу жаніху. Я кажу «быламу», бо пасля таго як я напісаў Барысу, што Рахіль вельмі памізарнела, ён знайшоў у Амерыцы другую Рахіль і ажаніўся з ёю, як ён пісаў у апошніх пісьмах... Я хацеў выклікаць жаласць у сэрцы Барыса, а выйшла наадварот...

Я ўсё гэта ўтойваў ад непісьменнай Рахілі. Я чытаў ёй словы аб вялікім да яе каханні Барыса, прыдуманыя мною тут жа. Аднаго разу я нават ледзь не засыпаўся. Рахіль здзівілася:

— Ты ж глядзіш не ў ліст, а ў акно! Як гэта чытаеш?

— У мяне вочы такія вялікія, што магу глядзець у акно і бачыць, што ў лісце напісана,— сказаў я.

Мне страшна было гаварыць Рахілі праўду. Яна, чулая і кволая, магла б пакончыць жыццё самагубствам. Я баяўся, каб Барыс зусім не кінуў пісаць Рахілі. Седзячы ў сінагозе над талмудам, я прыдумаў новае пісьмо Барысу, якое напісаў змененым почыркам на стараяўрэйскай мове:

«Майму сыну Дайв-Беру, што вымысліў сабе не яўрэйскае імя «Барыс». Жыві ў божым блаславенні і шчасці, і няхай цвіце жыццё тваё, нібы вінаградная лаза каля срэбранай божай крыніцы, амінь!

Я, ільскі рабін, Іакаў бен Мордухая, бяру пяро ў рукі і пішу табе, сын мой. Што ты ўчыніў з Рахіллю? Ты, настаўнік стараяўрэйскай мовы, задумаў уцячы ў Амерыку ад воінскай павіннасці, забраў у круглай сіраты Рахілі грошы на дарогу — грошы, якія яна крывавым потам зарабляла сабе на пасаг, абяцаў ёй, што і яе забярэш у Амерыку, паехаў з мястэчка жаніхом Рахілі, а цяпер знайшоў сабе другую. Гэта брыдка, гэта злоўчынак, гэта вялікі грэх перад богам. Загадваю табе, я, духоўны рабін, зараз жа развяжыся з амерыканскай нявестай, вышлі Рахілі на дарогу яе ж уласныя грошы, ажаніцеся там па закону Маісея і Ізраіля ды жывіце, множцеся і пладзіцеся, як увесь наш народ. А калі, мой сын, не паслухаешся мяне, я пракляну сямісвечнік твайго жыцця і твой род да дзесятага пакалення.

Мой суд зямны зацвердзіцца судам нябесным, амінь!

Так кажа рабін мястэчка Ільі на рацэ Слязанцы Іакаў бен Мордухая».

Пры гэтым я зрабіў невялічкую прыпіску:

«Паколькі ўся гэтая справа знаходзіцца ў вялікім сакрэце і каб не апаганіць чэснага імені сіраты Рахілі, даю табе чужы адрас».

Я напісаў свой адрас, падрабіў рабінскую пячатку, паставіў на пісьме і паслаў Барысу.

Адказ ад Барыса я атрымаў роўна праз месяц. Вось што ён напісаў:

«Святому каўчэгу мудрасці, пышнаму вянку роз з квітнеючага сада нашай торы, вядомаму на ўсім свеце златаусту, рабіну мястэчка Ільі Іакаву бен Мордухая, няхай славіцца яго дабрачыннасць ва ўсіх шатрах і кушчах Ізраіля.

Мяне дзівіць, вялікі рабін, што Вы лезеце не ў свае справы. Гэта добра, што вы хочаце стаць міратворцам, як старадаўні Аарон. Але ж я вас ведаю: за тры рублі вы падпісваеце разводы між мужамі і жонкамі, не задумваючыся. Шануючы Вас, я хаваю свой гнеў за Вашыя страшункі, якіх я не баюся. Рахіль мне сама пісала, што яна стала брыдкай і хворай, таму я знайшоў другую нявесту, таксама Рахіль. Грошы Рахілі я адашлю. Прашу Вашага святога благаславення. Пры гэтым пісьме прыкладаю тры далары».

Чытаючы пісьмо Барыса, у мяне дрыжэлі рукі і ногі. Я вінаваты ў няшчасці Рахілі. Яе пагубіла маё красамоўства. Я ў пісьмах маляваў яе хворай, худой і бледнай ад кахання. Я хацеў гэтым выклікаць літасць у сэрцы Барыса, а выйшла, як з паламанага дышла...

Грошы, як вуголлі, пяклі мне рукі. Пакуль што я схаваў іх у сваёй скрынцы на самым дне і напісаў Барысу новае пісьмо:

«Мой духоўны сын! Усе Рахілі на свеце аднолькавыя. Відаць, ільская Рахіль не суджаная твая. Таму благаслаўляю цябе на шлюб з амерыканскай Рахіллю. Адну просьбу маю да цябе, Дайв-Бер, пішы нашай Рахілі лагодныя пісьмы яшчэ каля года, пакуль я не ўгавару яе выйсці замуж за другога. Тады адашлеш ёй доўг. За далары дзякую. Раздам бедным».

Я ўяўляў сябе, як пагладзіў бы мяне па галоўцы за такія фокусы ільскі рабін Іакаў бен Мордухая. Раней, калі я яшчэ начаваў у сінагозе, ён кожную пятніцу клікаў мяне да сябе дамоў і загадваў знімаць пыл з яго «святых» кніг. Пры гэтым ён са мной жартаваў кожны раз на адзін лад: павядзе ўказальным пальцам па маім носе зверху ўніз, пасля зачэпіцца пальцамі за мой нос знізу ўверх і задзярэ маю галаву ўгару да таго раптоўна і балюча, ажно іскры сыпаліся з вачэй. Пры гэтым ён гаварыў: «Уніз лёгка, угару цяжка».

Каб рабін даведаўся аб маім фокусе, ён забраў бы сабе тры далары і зрабіўся б маім лепшым прыяцелем...

Справа з Рахіль скончылася шчасліва і раней, чым я думаў. Яна перастала ка мне прыходзіць. Перапіска з Барысам спынілася. Рахіль выйшла замуж за маладога прыгожага каваля Шымана і жыла шчасліва.

Я аб гэтым напісаў Барысу зноў ад імя рабіна і загадаў яму выслаць зараз жа Рахілі яе грошы, што яна дала яму на дарогу ў Амерыку.

Барыс выканаў мой загад, бо я змайстраваў такое пісьмо ад імя рабіна, якім рабін Іакаў бен Мордухая мог бы гардзіцца.

Аднак на маім сумленні яшчэ ляжаў адзін камень: тры далары... Яны ж не мае, не мне прысланыя, а рабіну. Яны ж і рабіну не належаць, бо ён у гэтай справе богу душой не вінаваты. Яны ж і Рахілі не належаць. Рахілі Барыс адаслаў доўг. Адасляць тры далары назад Барысу? Глупства! Ён іх рабіну прыслаў у падарунак. Гэта значыць мне... А яны мне вельмі прыгадзяцца — гарнітур... боты... Я ж хаджу, як абадраная ліпка. Так і зраблю — у першую чаргу боты. Але... прыкра. Што рабіць? Што рабіць?

Я сядзеў у сінагозе над талмудам і думаў-думаў. Я глядзеў праз акно на сінагагальны двор, дзе буяў палын, і думаў-думаў.

У маёй разгарачанай галаве грукаталі-стукаталі малаткі:

— Тры далары. Тры далары... Тры далары...

І я дадумаўся.

## ШЧАСЦЕ І НЯШЧАСЦЕ РЭБЭ ЭЛІ

Так. Я дадумаўся. Мне стала лёгка-лёгка. Я знайшоў цёплае гняздо для пакалечанай ластаўкі. Я знайшоў месца для трох далараў. Я напісаў пісьмо і палажыў у кішэнь шамеса сінагогі — «рэбэ Элю з гусінымі лапкамі». Ён у той час падмятаў бярозавым венікам сінагогу.

Талмуд у галаву мне не лез. Я ўвесь час сачыў за Элем. Вось ён кончыў працу, накашляўся ад пылу, узнятага з падлогі, і пачаў церабіцца. На гэта ён быў вялікі майстар. На яго твары разлівалася незвычайная асалода. Адмарожанымі пальцамі ён церабіў галаву. Далонню старанна цёр патыліцу, бараду, пейсы. Прыхіляўся да вострага вугла стала і з натхненнем гэбляваў спіну. Касцістымі лакцямі шпарка і рытмічна перабіраў свае ўласныя рэбры, як

музыкант струны балалайкі. Пры гэтым ён задумліва і радасна ўсміхаўся. Нібы нешта вельмі смачнае еў і прыслухоўваўся да смаку.

На гэты раз я з нецярплівасцю прагледзеў усю драматычную дзею яго цераблення. Церабіць локцямі бакі заўсёды было яго апошнім нумарам. Вось ён і цяпер пачаў локцямі наступаць на свае бакі, пачаў наступаць і пачуў небывалыя гукі. У яго кішэні зашастала папера. Ён здзіўлена сунуў руку ў кішэнь і выцягнуў адтуль белы канверт. Падышоў да акна, прачытаў адрас — яму! Ён з дзівам распячатаў канверт, выняў пісьмо і ўткнуўся ў яго носам:

«Мы з табою цёзкі. Ты — Эля шамес. Я — Ілья прарок. Я ўвесь час сачыў за тваім праведным жыццём, за пакутамі тваёй беднай сям'і. Ты — самы лепшы Эля з усіх Эляў на свеце. Я цяпер знаходжуся ў Амерыцы і прыглядаюся да людзей, якія носяць маё імя. Табе — найлепшаму Элю — шлю тры далары. Такую суму буду табе прысылаць кожны тыдзень на шабас. Гэтыя грошы знойдзеш у сінім канверце ў каўчэгу пад торамі. У кожную пятніцу пасля ранішняй малітвы знойдзеш на гэтым самым месцы такую ж суму».

Эля скомкаў пісьмо, палажыў у кішэнь і прамармытаў:

— Нейкі шалахвост з мяне жартуе. Каб яго паганае імя сцёрлася з памяці добрых людзей! Не трэба мне такіх пісем з святога каўчэга! Не пайду... Не пайду. Не пайду...

«Прыйдзецца забраць назад з каўчэга гэтыя тры далары,— падумаў я.— Эля ўпарты чалавек. Сказаў, што не пойдзе, дык не пойдзе. Забяру назад грошы». Я цяпер цвёрда рашыў забраць іх сабе, бо яны ж мне да зарэзу патрэбны.

Але ўжо было позна.

Цікавасць Элі ўзяла верх. Ён, крадучыся, каб ніхто не заўважыў, падышоў да каўчэга, дастаў адтуль сіні канверт. Пры гэтым замармытаў:

— Шалахвосты! І святы каўчэг не шануюць!

Ён з сумам паківаў галавой, зацмокаў губамі і падышоў да акна. Асцярожна распячатаў канверт і дастаў адтуль асігнацыю ў тры далары. Ён правяраў яе на свет доўгі час.

— З амерыканскімі даларамі Эля быў знаёмы. Яму не раз іх паказваў яго пляменнік, бацька якога жыў у Амерыцы і час ад часу прысылаў грошы.

Упэўніўшыся, што гэта сапраўдныя тры далары, Эля задрыжэў з ног да галавы. Схаваў за пазуху грошы і пачаў біць сябе кулакамі ў грудзі. Потым ён зашаптаў:

— Ілья-прарок... Ілья-прарок... Ілья-прарок...

Збянтэжаны Эля ўсхліпнуў ад радаснага хвалявання, зноў падышоў да каўчэга, расчыніў дзверцы, усунуў туды галаву і доўга маліўся. У яго вачах свяцілася вялікае, як мора, шчасце. Нібы на крыллях, Эля паімчаўся з сінагогі. Крыллі, праўда, былі не арлінымя, бо ён зваліўся ўніз з высокага каменнага ганка. Хутка падняўся і, трымаючыся абедзвюма рукамі за пазуху, пабег дамоў з усіх сіл. Людзі на яго агляддаліся. Ён не зварочваў увагі.

Назаўтра Эля прыйшоў у сінагогу ў новай шапцы. Сам ён, відаць, памыўся ў лазні. Валасы яго былі гладка расчосаныя, барада і пейсы ў парадку. Словам, зусім не ранейшы, а нованароджаны Эля... Аднак я на яго ілбе заўважыў хмарку незадаволенасці. Чалавек быў нечым пакрыўджаны.

Я здзівіўся. У чым справа?

Прычына яго незадаволення выявілася зараз жа. Эля падышоў да каўчэга, на гэты раз не зусім асцярожна. Ён быў узбуджаны. Расчыніў дзверцы і пачаў гаварыць гучным шэптам. Я асцярожна падышоў да каўчэга. Чуў слова ў слова:

— Дзякую, святы прарок, за тры далары! Але мая жонка сказала, што ты мог бы даць больш. У нас вялікая сям'я і вялікая нястача. Прашу цябе, святы прарок, павер маёй шчырасці і ахвяруй мне па трыццаць долараў на тыдзень. Ты ж такі добры. Я, святы прарок, ва ўсіх малітвах успамінаю цябе з пашанай і любоўю. Я ўпэўнены, што выканаеш маю маленькую просьбу. Не скупіся ў сваёй дабрачыннасці. Амінь! Амінь! Амінь!

Эля выйшаў з сінагогі, а я ўвайшоў у злосць.

Мала таго што я па дурноце сваёй выкінуў яму гэтыя тры далары, у яго яшчэ нахабнасць і прагнасць з'явілася. Ён яшчэ крыўдзіцца! Дай яму па трыццаць долараў на тыдзень. Захацеў адразу панам зрабіцца! Ды яшчэ верыць шчыра, што гэта раскашэліўся Ілья-прарок. Ну, пачакай жа, рэб Эля! Я цябе ачалавечу! Пакажу табе, што Ілья-прарок не такі цямця-лямця, як я. Буду змагацца за гонар старадаўняга прарока...

На другі тыдзень я зноў палажыў у каўчэг пісьмо на адрас Элі. Ён быў надзвычайна акуратны. У назначаны час падышоў да каўчэга, нібы да сваёй уласнай шафы,

і дастаў адтуль пісьмо. Ён адразу палажыў канверт за пазуху са словамі «дзякуй, дарагі прарок Ілья!» і шчаслівы і спакойны выйшаў з сінагогі, як банкір з банка.

Я, канешне, зразумеў, у чым справа. Эля быў упэўнены, што ў канверце ляжаць трыццаць даляраў. Ён нават паважна выцер нос новай хустачкай, як гэта робіць самы багаты крамнік у мястэчку, рэб Носан.

Ой, хутка, рэбэ Эля, пераняў ты манеры багача! Ах, як грошы псуюць чалавека! Эля нават узгардзіўся. Калі раней ён быў з усімі ешыботнікамі за панібрата, дык у працягу аднаго тыдня ні з кім з нас ужо гаварыць не захацеў. Некаторыя з ешыботнікаў нават заўважалі:

— Эля пачаў глядзець на нас зверху ўніз...

І я рашыў:

«Я скалечыў Элю — я вылечу яго. Уся яго душа цяпер у маіх руках, як злоўлены верабей...»

І я таксама крыху ўзгардзіўся сваёй сілай над сінагагальным шамесам. Але тады я яшчэ не ўцяміў, што той самы кій, які біў Элю адным канцом, біў другім канцом і па маёй лабаціне. Я хадзіў па сінагозе галагуцкім пеўнем і ўжо радаваўся, што падкінуў Элю гэтыя тры даляры. Затое цяпер вымуштрую чалавека. Такая справа даражэй за тысячу даляраў. Магчыма, што гэтым я хацеў заглушыць смутак па страчаных трох далярах. Я добра не памятаю. У той час яназіраў толькі за іншымі, а не за самім сабой.

Дома Эля чытаў:

«Ты, Эля, зрабіўся адразу прагным на вялікія грошы. Гэта твой першы грэх. Ты, Эля, узгардзіўся. Гэта твой другі грэх. Вось за што я не выканаў свайго абяцання. Назначаю табе на цэлы тыдзень пост удзень і малітвы ўночы. Калі ўсё гэта будзе выканана не так сабе для віду, а шчыра, тады дам табе новую ўзнагароду. Так кажа прарок Ілья».

Увесь тыдзень пасля гэтага ліста Эля не выходзіў з сінагогі. Пасціўся ўдзень і маліўся ўночы. Апусціўся, высах. Кожны дзень прыходзіла ў сінагогу яго жонка і са слязамі ў вачах ўпрашвала яго:

— Хадзем, Эля, есці...

Эля моўчкі адпіхваў яе ад сябе локцем. Эля хадзіў увесь гэты тыдзень, як цень. Ешыботнікі глядзелі на яго і дзівіліся. Часта хто-небудзь з іх да яго звяртаўся:

— Рэбэ Эля, што з вамі?

— Рэбэ Эля, вы нездаровы?

— Рэбэ Эля, вы вельмі схудалі.

Эля маўчаў, і на яго твары відаць былі вялікія пакуты і вялікія надзеі.

Роўна праз тыдзень Эля дастаў з каўчэга мой новы канверт. Дома ён чытаў вось што:

«Эля, ты вялікі дурань! Не вер у забабоны. Скажы «дзякуй» за першыя тры далары і больш не чакай. Няма прарока Ільі і няма бога. Усё гэта хлусня. Амінь! Калі-небудзь я табе раскажу ўсё».

Эля некалькі тыдняў не прыходзіў у сінагогу. Ён захварэў на нервовую гарачку і доўгі час у сваім брэдзе нешта расказваў пра Ілью-прарока. А як вярнуўся ў сінагогу, дык паглядаў на ўсіх недаверліва.

Тым часам я займаўся далей пісаннем лістоў у Амерыку. У хаце старой Бейлі я ажыў. Нада мною не вісеў вечны страх перад інспектарам рэбэ Шмар'я. Я мог чытаць на прыватнай кватэры хоць цэлымі начамі. Творы Пушкіна і Лермантава, Гогаля і Някрасава выцеснілі схаластычны талмуд з яго мёртвай філасофіяй, з яго нуднымі разважаннямі аб дабры і зле, з яго дробнымі ўрыўкамі разнастайных старадаўніх навук, з прыстасоўваннем вавілонскага быту і мудрасці да ўмоў жыцця зусім іншай зямлі ды іншых людзей.

Я пачаў пісаць вершыкі на стараяўрэйскай мове. Пісаў удзень у сінагозе, засланяючыся фаліянтамі талмуда. Уночы я чытаў кнігі. Так цягнулася больш года.

## МІРЫЯМ

Лісты ад нявест да жаніхоў у Амерыку і чытка лістоў ад жаніхоў з Амерыкі накіравалі мяне пісаць вершы на тэму кахання. Кожны дзень — новы верш. Пры стале ў хатцы, калі старая Бейля ўжо спала, я ўпісваў гэтыя вершыкі начыста ў прыгожую запісную кніжачку, якую купіў у краме. Кніжачку я назваў «Мірыям». Яна была ўся запоўнена гімнамі неіснуючай дзяўчынцы Мірыям. Дзяўчынка майго ўзросту, пятнаццаці год, жыла толькі ў маёй фантазіі. Часта Мірыям мяняла свой выгляд. То яна была з валасамі чорнымі, як ноч, то — залацістымі, як сонца. Вочы яе былі то спелымі вішнямі, то васількамі. Голас яе гучэў, як арфа. Смех — журчанне ручайка. Дыханне — шэпты кветак і каласоў пад ветрыкам. Яе песні — спевы

салоўкі. Усе радасці і смуткі свайго сэрца я прысвячаў цудоўнай мары — Мірыям... Яна была добрая і мудрая. Яна засланяла ад маіх вачэй мудрацоў талмуда.

Аднаго разу ў жнівеньскі дзень, калі праз каляровыя шклы ў сінагогу прабіваліся сонечныя праменні і ператварылі сінагогу ў фантастычнае падзямелле часоў старадаўняга Егіпта, калі ажылі драўляныя львы і арлы на каўчэгу, я чытаў пад сумны спеў юных талмудыстаў гімны сваёй Мірыям. Кніжачка з вершамі ляжала ў мяне на тоўстым фаліянце. Я чытаў з захапленнем уголас:

— Мірыям... Мірыям...

Перад тваімі вачыма пятнаццаць разоў цвіла чаромха і зелянела рунь.

Я пацалую залацістую пасму тваіх валасоў і ад асалоды памру ля ног тваіх.

Не! Не памру. Дазволь мне жыць і піць асалоду з тваіх галубіных вачэй. Хачу гуляць з табою, як з роднай сястрой.

Мірыям... Мірыям...

Ты мне бліжэй за бацьку і матку. Ты мне даражэй за жыццё. Ты — маё неба. Ты — мая зямля. Ты — маё шчасце. Ты звіла навекі гняздо ў маім сэрцы.

Мірыям... Мірыям...

Над полем стаіць белы, як малако, туман. Ля рэчкі пасуцца цяляты. Пастушок грае на жалейцы, а я сяджу на каменні ды спяваю песню. І кожнае слова маёй песні — любоў да цябе. І кожнае слова маёй песні — хвала красе тваёй.

Мірыям... Мірыям...

Я забуду малітвы вечнаму небу.

Дазволь раніцой і ўвечары вымаўляць тваё песеннае імя... Я гляджу на зоркі і думаю, што гэта твае вочы. Я слухаю песні салоўкі і думаю, што гэта твой голас. Я гляджу на макаў цвет і думаю, што гэта твае губкі.

Мірыям... Мірыям...

Раптам нада мною замітусіўся цень. Я ўстрапянуўся.

Ля майго штэндара стаяў высокі, грозны, чорнабароды аскет — інспектар рэбэ Шмар'е...

Рукі і ногі ў мяне амярцвелі. Мне зрабілася холадна і горача.

Рэбэ Шмар'е ўзяў з маіх рук кніжачку пад назваю «Мірыям». Чытаць было лёгка, бо я для большай прыгажосці пісаў друкаванымі літарамі. Ён углыбіўся ў кніжку. Я, нібы загіпнатызаваны, глядзеў на яго і не мог кра-

нуцца з месца. Ён чытаў доўга. Навокал майго штэндара сабраўся ўвесь юны народ, усе мае таварышы.

Скончыўшы чытаць «Мірыям», рэбэ Шмар'е закусіў бараду, пранізаў мяне наскрозь двума вострымі кінжаламі чорных вачэй і загаварыў не да мяне, а да маіх таварышаў:

— Сыны Ізраіля... ірвіце на сабе вопратку. Абсыпайце галовы попелам у знак жалобы. Гэты пасадзецкі шэйгец здрадзіў яўрэйству. Напісаў кніжачку пад назваю «Мірыям». Ні разу імя бога не ўспамінае ў кніжцы. Яго кніжка — сорам і спакуса. Яго кніжка — усхваленне мацеры нячысцікаў — Ліліт. Утапілася ў смале пякельніцы душа маладая... Яна прапала, прапала для святой торы, для бацькоў. Пагасла іскра з полымя Адэная...

Аскет рэб Шмар'е не біў мяне. У яго вачах стаялі слёзы — кракадзілавы слёзы.

Маю кніжачку спалілі на каменнай падлозе ў пярэднім пакоі сінагогі...

Рэб Шмар'е так напалохаў юных талмудыстаў, што яны ад мяне адступіліся.

— Ухадзі з гэтага святога мура,— сказаў рэб Шмар'е са строга ўзнятай рукой.— Ухадзі! Гаспадарам тваіх дзён я скажу, каб яны цябе больш не кармілі. Ухадзі з гэтага мястэчка, бо калі я цябе ўбачу на вуліцы, не мінаваць «малкес».

Я выйшаў з сінагогі ў апошні раз. Старой Бейлі сказаў, што выбіраюся пехатой у Пасадзец. Я ўзяў з сабой толькі кніжкі. Бейля дала мне на дарогу кавалак хлеба.

Бывайце назаўсёды, таноім і амайроім — прафесары і дактары талмуда! Вашы старадаўнія рыцары, Гілель і Шамай, Попай і Гуна, памёрлі ў маім сэрцы. Нібы туман, растаялі пад сонцам жыцця паветраныя замкі Іерусаліма і Вавілона.

Адно імя ўвасабляе маю новую мару — Мірыям...

Хацеў пабачыць Элю, расказаць яму праўду аб трох даларах і папрасіць прабачэння, але не ўдалося сустрэцца з ім. Я рашыў напісаць яму аб гэтым пісьмо дома і пераслаць поштай.

Іду лясной дарогай. Пахне смалою, багуном і грыбамі. Спяваюць жаўранкі. Можа, гэта грае на лютні мая Мірыям? Здалёк плывуць да мяне гукі жніўных песень. Спявае некалькі жанчын. Палоняць мяне жыватворныя сілы зямлі — яе радасці і смуткі. Можа, гэта сумуе і радуецца Мірыям?

Навіны пасадзецкія мне вядомы. Памёрла мая бабуля. Памёрлі стагоднія дзяды Юстын і Мірон. Мае таварышы па хедэру памагаюць працаваць бацькам. Дзеці карчмара гандлююць. Пані Чапкоўская судзіцца з вёскай за луг. Мае таварышы-пастушкі праходзяць свой парабкоўскі талмуд. Нудна паўзе жыццё. Стагоддзямі яно стаіць на месцы.

Іду дамоў і думаю: «Такая ў хаце цесната, што мне прыйдзецца спаць на падлозе».

Я набліжаюся да родных мясцін.

Як мяне сустрэне бацька? Ведаю. Ён запытаецца:

— Што з цябе будзе?

Пасля гэтага пакутліва на мяне зірне і паведаміць:

— У мяне ж і без цябе шэсць чалавек дзяцей. Было восем, дык пару бог забраў. З табою было б якраз дзевяць... Табе ўжо пятнаццаць год. Сам павінен разумець.

Ён змоўкне на хвіліну, зірне на мяне, як утапаючы на човен, і дадасць шэптам:

— Такія сыны, як ты, ужо дапамагаюць бацькам... Ведаеш. Я ж вечна гарую аб адным, каб хаця хлеб быў у хаце.

Так. Мае дзіцячыя гады скончыліся.

Трэба працаваць і вучыцца!

Гэта было ў 1902 годзе.

# КАМЕНТАРЫІ

Проза З. Бядулі савецкага часу цікавая як пошукамі ідэйна-змястоўнага кірунку, так і характарам стылёва-жанравага развіцця. Актыўнасць і напружанасць творчага пачуцця пісьменніка выявілася і ў жанры аповесці, які вызначаецца разнастайнасцю і багаццем ідэйна-мастацкіх асаблівасцей і форм.

Аповесць «Салавей», напісаная ў другой палове 20-х гадоў, звернута сваім зместам да часоў прыгоннага права і пабудавана пераважна на легендарнай, нават казачнай падзейнай аснове, хоць аб'ектыўны гістарычны час у ёй таксама прысутнічае. Існаванне прыгонных тэатраў па Беларусі пры дварах буйных магнатаў, што вызначыла тэматычную арыентацыю твора,— бясспрэчны гістарычны факт. Аднак развіццё сюжэта не мае дакладнай гістарычнай сацыяльна-побытавай канкрэтнасці і вырашаецца ў асноўным у духу ўмоўна-рамантычнай літаратуры, што дазваляла пісьменніку шырока выкарыстоўваць традыцыйныя фальклорныя матывы. Канфлікт твора з яго рэзкім супрацьпастаўленнем дзвюх варожых сіл — панства і працоўнага народа, а таксама прыём рэзкага вылучэння аблічча галоўнага героя Сымона з сялянскага асяроддзя, маюць рамантычную прыроду. Унутрана-псіхалагічным матывіроўкам паводзін герояў таксама ўласцівы выразны рамантычны характар: дзеянне, учынак, жэст герояў пераважна раптоўныя, нечаканыя, падкрэслена эмацыянальна-валявыя.

Хоць тэматычна аповесць звернута ў мінулае, але яе ідэйны змест быў адпаведны грамадскаму настрою 20-х гадоў, у якім вызначальным быў рэвалюцыйны светапогляд. Тэма барацьбы з прыгнятальнікамі працоўнага народа гучала вельмі актуальна. Надзённае значэнне мела і праблема мастацтва, яго цеснай сувязі з часам і народнымі інтарэсамі. Другая палова 20-х гадоў была адказным перыядам у развіцці эстэтычных уяўленняў маладой савецкай літаратуры. Сцвярджэнне ідэі свабоды выяўлення мастацкага таленту, творчай сілы народных вытокаў мастацтва, недапушчальнасці грубага свавольства і дыктата ў адносінах да задач мастацтва злівалася з актыўнымі імкненнямі эстэтычнай

думкі таго часу абгрунтаваць прынцыпы праўдзівасці мастацтва і яго высокага служэння інтарэсам народа.

Аповесць «Салавей» стала хрэстаматыйным творам беларускай літаратуры.

Праблемна да аповесці «Салавей» блізка прымыкае аповесць **«Тры пальцы»**, у якой таксама разгорнуты канфлікт паміж беззаганным сумленнем народнага музыкі і панскім асяроддзем ва ўмовах рэчаіснасці буржуазнай Польшчы. Ёсць шмат агульнага ў метадзе мастацкага адлюстравання гэтых твораў. У цэнтры аповесці таксама народны мастак унутрана рамантычнага складу, хоць і не такі ўзвышаны па сваім духоўным абліччы, як Сымон у «Салаўі». Тамаш трохі гультаяваты і як музыкант невысокага палёту, ён нават не ўмее іграць кракавяк, аднак ён — сумленны, з развітым, нават максімалісцкім пачуццём чалавечага гонару. У аповесці, на жаль, ёсць спрошчаныя сацыяльна-побытавыя сітуацыі і характарыстыкі, што зніжае мастацкі ўзровень твора.

Аповесць **«Таварыш Мінкін»** прысвечана важным грамадскім праблемам савецкай рэчаіснасці — вылучэнню з народнага асяроддзя актыўных і сумленных сіл, здатных узяць на сябе арганізацыйнае і маральнае кіраўніцтва грамадскімі справамі. Саламон Мінкін, былы пекар, а пасля фінінспектар, з'яўляецца прадстаўніком той масы вылучэнцаў, якая пры савецкай уладзе ішла на кіруючыя пасады, каб унесці ў стыль жыцця ўстаноў дух сумленнасці, адданасці і непрымірымасці да бюракратызму. Стварэнне вобраза Мінкіна, класава чулага, прынцыповага, няўступлівага перад націскам мяшчанства, маральна прывабнага чалавека, было непасрэдна звязана з агульным эстэтычным працэсам пошукаў і сцвярджэння станоўчага героя ў беларускай савецкай прозе канца 20-х і пачатку 30-х гадоў.

Аповесць **«У дрымучых лясах»** з'яўляецца аўтабіяграфічнай. У ёй адлюстравана дзяцінства пісьменніка на шырокім фоне местачковага жыцця пачатку XX ст., паказана развіццё народнай свядомасці ў сувязі з важнейшымі грамадскімі падзеямі таго часу — асабліва рэвалюцыяй 1905 года, якая адчувалася і ў глыбокай правінцыі.

Успаміны, звязаныя з дзяцінствам, не з'яўляюцца галоўным аб'ектам аўтарскага адлюстравання. Яны хутчэй складаюць падзейную канву, выток сітуацыйнага малюнка. Галоўнае для пісьменніка — перадаць сацыяльна-побытавае аблічча часу, тыповыя асаблівасці жыццёвай біяграфіі свайго пакалення. У аповесці шмат каларытных апісанняў побыту мястэчка Пасадзец — радзімы З. Бядулі. Вучоба будучага пісьменніка ў школе — хедэры і ешыбоце — таксама знайшло сваё адлюстраванне ў творы. Дзед, бабуля, маці і бацька, суседзі і многія знаёмыя, жыхары Пасад-

ца складаюць агульны вобраз народнай масы, імкненні і настроі якой увабраў у свой унутраны свет будучы пісьменнік, што яму спатрэбілася на складаных дарогах жыцця. У творы перакананьна паказана дружба працоўных людзей — яўрэяў і беларусаў. Глыбока і ярка раскрываецца дзіцячая псіхалогія.

Аповесці З. Бядулі складаюць цікавую старонку беларускай савецкай прозы.

*В. А. Каваленка*

## САЛАВЕЙ (с. 5)

Упершыню — Узвышша, 1927, № 1—4.

Друкуецца па кн.: Творы, т. 3. Мінск, ДВБ, 1934.

Уваходзіла ў кн.: Салавей. Аповесці. Мінск, БДВ, 1928. У 1929 годзе выйшла скарочанае выданне аповесці («Салавей», Мінск, БДВ, 1929). Трэцяе асобнае выданне ў грунтоўна перапрацаваным выглядзе было надрукавана ў 1932 годзе («Салавей», Мінск, БДВ, 1932). Пасля гэтага аповесць была дапрацавана аўтарам і ўключана ў кн.: Творы, т. 3. Мінск, ДВБ, 1934.

### Варыянты Узвышша

С. 6

8 *Пасля:* гоман // я ляжу на ложку.

8 *Пасля:* Нядзеля. // У рэдакцыю не пайду. Можна пазней паспаць.

9 *Замест:* На вуліцы рух. // Але жыццё на вуліцы кіпіць.

14 *Пасля:* Канстанцыя. // Як я іх велічаю.

28 *Замест:* правілы ~ ведаю. // лекцыі «гжэчнасці» яна са мною праходзіла.

С. 7

1 *Пасля:* успрымаць // такія далікатныя

5 *Пасля:* пашанай // вельмі высокага чалавека к дэмасу і кліча «до покою», каб

10 *Замест:* Разнастайны ~ акна. // Вось паміж разнастайнага стукату ног каля майго акна раздаецца

20 *Пасля:* кватэры. // цэлая галерэя. Усе яны

29 *Замест:* дрындушкі. // частушкі.

30 *Замест:* выраблядь: // нібы для быстрых «па» балерыны.

42 *Пасля:* нагамі? // Я спачатку вельмі здзіўлены. Потым успомніў

С. 8

[4] *Пасля:* кій // яна мае выгляд ведзьмы.
[5–6] *Замест:* Сківіцы ~ пергамін. // Падбародак высунуўся наперад вострым клінам.
[7] *Замест:* Ад гэтага ~ заўсёды // Жарэ, як галодны воўк. Або як жвачная жывёла. Ад такой пражорлівасці ў яе цёнгля
[8–9] Заўсёды ~ нястраўнасць. // Ад нястраўнасці ён вечна яе непакоіць.
[10] *Пасля:* скардзіцца. // пры гэтым паглядаючы на абразцы.

С. 9

[6] *Пасля:* сонцам. // Публіка прынядзелена.
[7] *Пасля:* вачах. // Было лёгка і весела на душы ад таго, што хоць на адзін дзянёк вырваўся на прастор.
[10–11] *Замест:* якія ~ адным // Між якіх я раптам апынуўся.
[16] *Пасля:* чырвонаармейцы. // якія ў лёгкіх шаломах выглядалі, як рыцары даўно мінулых часоў.
[18] *Пасля:* дзяўчаты. // здалёку, з адзінокіх сялянскіх сяліб.
[18] *Пасля:* угару // нібы радыёстанцыі.
[19] *Пасля:* студняў. // Дзесьці

С. 10

[37] *Пасля:* сляды. //

— Эт, сынку,— артачыўся дзед,— вось я раней пры панах быў добра адзет, сядзеў у цяпле, а цяпер што?

— Ты, дык, можа, добра жыў, як панскі служака, як яго лёкай, але гэта было нявольніцкае жыццё.

— Ды я прывык...

— То-то, што прывык. А сяляне прывыкнуць не маглі. На сэрцы ў іх увесь час кіпела злосць.

[43] *Пасля:* мне // з нейкай асаблівай уважлівасцю і пашкадаваннем.

С. 12

[26] *Пасля:* паншчыны. // Галоўным чынам, адна з іх урэзалася ў маёй памяці.

Бясспрэчна, ён мне даў толькі просты і кароткі пераказ падзеі, якая адбылася мо сто пяцьдзесят, мо дзвесці год таму назад; стары даў мне сюжэт, які выклікаў у маім выабражэнні цэлы рой думак, вобразаў і малюнкаў.

[29] *Замест:* жвавы // жывы
[29] *Пасля:* Сымонка // Сымонка, сын Тодара — фурмана пана Вашамірскага.
[33] *Пасля:* яго ж. //, пранікаючы туды праз гукі і колеры.
[36] *Замест:* цікавым ~ хлопчыка // аб'ектам назіраннаў Сымонкі.
[41–42] *Замест:* шэсць гадоў // чатыры гады.

С. 13.

[5] *Замест*: мужыцкай навукі. // сялянскай навукі пад панскім прыгонам.

[18] *Пасля:* варот. // Але самым галоўным ён штукаваўся ў падрабленні спевак птушак:
[21] *Замест*: У дадатак // Да гукаў кожнай жывой істоты.
[41–43] *Замест*: Сымонка ~ многа. // Інстынкт мастацкай творчасці ў Сымона ішоў сваім уласным самабытным шляхам. Тое самае і сама цяга да пэўнай галіны мастацтва.

Вялікае, надзвычайнае ўражанне зрабіла па Сымона, калі ён яшчэ малым хлопчыкам сядзеў вясковым вечарам на прызбе хаты для чэлядзі панскай і прыслухоўваўся да трэляў салаўя, якія звінелі з блізкага парку.

С. 14.
[10] *Замест*: Такое ~ дзівіла. // Гэта яго вельмі здзівіла тое багацце, якое нямногія заўважаюць.
[15] *Перад*: Сымонка // Накіраваўшы ўсю моц выбражэння ў адзін бок, атуліўшы сваю дзівацкую імкненасць да гукаў сонцам фантазіі
[37] *Пасля*: бярэ. //, жудасна робіцца.
[38] *Пасля*: фурман. // Яго, Сымонкі, бацька —

С. 15.
[37] Так ~ Сымонкі.— адсутнічае.

С. 16.
[8–9] Бабы ~ сонца.— адсутнічае.
[15–17] *Замест:* Туліцца ~ сцяблоў. //, туляцца ў пяшчоце галоўка да галоўкі, калі жняя захоплівае цэлы пук закарузлай, патрэсканай, мазалістай рукой.
[19–20] *Замест:* Грозна крычыць. //, і нешта крычыць голасам камандора.
[39] Павага ~ цівуну! — адсутнічае.
[42–43] Вырваліся ~ язык.— адсутнічае.

С. 17.
[21–22] — Старая ~ гнуць» — адсутнічае.
[24] *Пасля*: крывёй. // ад злосці.
[25] *Пасля*: заблішчэлі // строга.
[38] Строгі ~ цівун. адсутнічае.
[41] *Пасля:* варону. // Пасля чаго загадалі жаць.
[42] — Жаць ~ цівун.— адсутнічае.

С. 18.
[1–10] *Замест*: Лаянкі ~ крыві. // Сярод гэтых мужыкоў быў і малады Сымон.

Ён паглядаў у адзін бок, дзе пад сонечнай спякотай жала маладая русакосая дзяўчына — яго любая Зоська.

Калі-нікалі з-пад белай хусткі дзяўчыны мільгаў у яго бок твар, сыпалі іскры вочы.

Гэты куток поля Сымону здаваўся цяпер прывабнейшым усіх куткоў зямлі. Зоську ён любіў даўно. Ужо ад самай вясны, з таго часу, калі раз напалохаў яе вечарам, завыўшы ваўком за вуглом яе хаты.

Пасля гэтага жарту ён часта хадзіў да яе ў госці, і яе старая маці спагадна на яго паглядала, як на будучага зяця.

Цяпер пад моцным пачуццём кахання гэта дзікая сцэна з варонай скарэй чым у іншых вытахлася з яго галавы. Ён думаў толькі аб Зосьцы.

[27] *Замест*: сінім // чорным.

[30] *Пасля:* фурманак. // Зоська як бы непарокам прысунулася бліжэй да Сымона. Ён улаўчыўся шапнуць ёй, што вечарам прыйдзе

[34–35] *Замест:* Хтосьці ~ хмарамі. // гікаючы пры гэтым злосна, як дурэннік пастух.

[42] *Пасля*: ўсіх // адзінокая.

С. 19.

[1–4] За ~ папрабуе! — адсутнічае.

[7–11] Варона ~ Зоська.— адсутнічае.

[14] *Пасля*: тырчыць. // Толькі цяпер абмалявалася ў яго думках уся гідасць панскага найміта, уся жудасць здзекаў над прыгоннымі, якіх ён бачыў штодня і нібы не заўважаў, бо вельмі прывык да гэтага.

[14–15] Ён ~ Зоські.— адсутнічае.

[illegible] *Замест*: Нястрыманая // Вялікая.

[26–38] *Замест*: у хаце ~ Сымон. // ў хаце як ні ў чым не бывала і выкідваў розныя жарты: клікаў кур, якіх зусім не было ў хаце, вабіў іх, як добрая гаспадыня: — Цып-цып-цып-цып.

Кудахтаў квола грудным голасам маткі-квактухі.— Кудах-кудах-кудах-кудах. Куд-куд-куд-куд. Гэта нібы курыца ідзе па яго кліч. Потым лавіў пісклят — куранятак і перадразніваў піск то спалоханы, то прыдушаны, як бы пішчаць ужо ў яго руцэ. Гэта рабілася з такім мастацтвам, так ярка і жыва, што Зося і яе матка покатам клаліся ад смеху.

С. 21.

[30] *Пасля:* гаворыць...» // Зоська непрыкметна дакранулася да яго рукі і гэтым супакоіла яго. Словы старой памаглі.

С. 22.

[11] *Пасля:* скварадзе. // Сымон забыўся на тое, што цэлы дзень нічога не еў, перастаў адчуваць казытанне ў носе смачнага паху яечні. Яго калолі тыя ласкавыя словы старой, якімі яна звярталася да Макара. Кожны яго глыток яна аздабляла, прыпраўляла ласкавымі прыбаўткамі.

[15] *Пасля*: ядзе. //, забыўшыся нібы аб усім на свеце.

[22] *Пасля:* Сымон. // Гэта слова ён нават не шаптаў, а толькі думаў.

